гэтай нянавісьці, з мэтай хоць бы змаганьня з ёй. Прычын нацыянальных розней ня раз трэба дашукавацца ня толькі ў палітычных і эканамічных прычынах, але і ў этналогіі і этнаграфіі. «Этнаграфія і этналогія, — кажа Шпрынгер, — яўляюцца неўнікнёнымі спамагаючымі навукамі для нацыянальнага палітыка. Яны выяўляюць і выясьняюць прычыны развіцьця і ўпадку нацый і даюць гэткім спосабам рукавадзячыя наказы палітыкам, якія кіруюцца дапамагчы развіцьцю нацый».

Этнаграфія і этналогія даюць багаты матэрыял дзеля суджэньня аб тым, як неабаснавана расавая нянавісьць, як несправядліў і няправен гнёт адной нацыі над другой, як фальшыва даволі пашыранае перакананьне, што ёсьць народы «вышэйшыя» і «ніжэйшыя», «лепшыя» і «горшыя», «выбраныя» і «барбарскія». Бо большае або меньшае культурнае развіцьцё народаў варункуецца ходам яго гістарычнага жыцьця і геаграфічнага палажэньня. Народы, спрамогшыеся на незалежнае дзяржаўнае жыцьцё, зазвычай маюць спрамогу і да культурнага развіцьця, і з утратай незалежнасьці кожны народ трапляе пад уплыў пераможны і памалу загубляе сваю індывідуальнасьць, а разам з ёй і сваю індывідуальную культуру.

Пакідаючы ў старане этнаграфічныя і этналагічныя прадпасылкі, нельга не згадзіцца з прафесарам Градоўскім, «што нацыянальнае пытаньне — перш за ўсё — гэта пытаньне аб варунках культурнага развіцьця народа (разумеючы пад словам «культурнае» і духовае, і палітычнае, і эканамічнае). Кожная народнасьць — гэта зборная асоба, розная ад другіх асобнасьцямі свайго характару, сваіх матэрыяльных і ўмысловых здольнасьцей, а дзеля гэтага маючая права на незалежнае жыцьцё і развіцьцё. Разнароднасьць нацыянальных асобнасьцей — гэта фундаментальны варунак здаровага ходу агульналюдскай цывілізацыі». У імя агульналюдской цывілізацыі «ўсе народы прызваны да працы і жыцьця. Кожная народнасьць павінна даць чалавецтву тое, што захавана ў сілах яе духова-матэрыяльнай натуры. Народная творчасьць — гэта найвышэйшая мэта, паказаная народу самой прыродай, мэта, без каторай ня можа быць дасьцігнута дасканальнасьць чалавечага роду». Але побач з гэтым, — заўважае той жа Градоўскі, — права народнасьці на індывідуальнае разьвіцьцё, на сваю гісторыю, «аставалася б мёртвай літарай, калі б зрэалізаваньне яго не абеспячалася б кардынальным варункам — палітычнай незалежнасьцю народа».

Значыць, тэарэтычная пастаноўка нацыянальнага пытаньня зводзіцца да таго, што няма на сьвеце народаў «горшых» і «лепшых», а што за гэтым ідзе, — няма апраўданьня ніякаму гнёту дужэйшых народаў над слабейшымі, што кожная нацыянальная індывідуальнасьць тэарэтычна мае права на культурнае — у шырокім гэтага слова значэньні — раз-

…у канцы, правільнае, здаровае развіцьцё нацыі павінна быць …ана палітычнай яе незалежнасьцю.

## НАШЫ ЦЭННАСЬЦІ

…ь даволі ходкі афарызм, каторы кажа: «Народ жыве датуль, па… …ве яго мова: без народнай мовы няма народа». Гэты афарызм, …ога іншых афарызмаў, у кароткай і меткай форме выказвае, якая …айглаўнейшая прымета народнасьці, ці, як па-загранічнаму на… …ь цяпер — нацыянальнасьці. Аднак жа афарызм гэты не абмінае … цэннасьцей, каторыя разам твораць народнасьць — нацыю з … этнічнай групы. Даўней, блізка да XIX сталецьця, не было саў… …ыянальнага пытаньня. Нацыянальнасьць злучалі з гасударствен… …і царквой, як гэта цяпер яшчэ робяць цёмныя людзі. Развіцьцё …альнага пытаньня прыпадае на XIX сталецьце, а навучная разра… …го на канец XIX сталецьця і нашы часы. У апрацаваньні гэтага …ага самім жыцьцём, у меру развіцьця дэмакратызму, пытаньня … заслугу палажылі такія вучоныя, як Спенсер, Тэйлар, Каўцкі, …а апошнімі часамі Вернер Зомбарт і іншыя перваразрадныя на… … еўрапейскія сілы. І вось паводле найнавейшай навукі нацыя… … цэннасьці бываюць дваякія: матэрыяльныя і маральныя. Матэ… …ыя цэннасьці — гэта гасударственнасьць, войска, выпаўніцель… …аны і іншыя прыналежнасьці гасударственнай уласьці. Матэры… … нацыянальныя цэннасьці могуць мець толькі гасударственныя … недаступны нацыям негасударственным. Але жыцьцё паказвае …о нацыі, не маючыя сваёй гасударственнасьці, могуць трымацца …ысячалецьці і процістаяць найдужэйшаму нават дэнацыяналізу… …плыву другіх, суседніх, сільнейшых з кожнага боку нацый. Такія …ытрымліваюць пастаронні націск, пераносяць цэла даўгалетні …іраючыся на *маральныя* нацыянальныя цэннасьці. Маральныя …альныя цэннасьці ў свой чарод бываюць дваякія: *інстытуцыйныя* …*ыя*. Інстытуцыйныя цэннасьці складаюцца з сумы маральных ін… …ій і арганізацыйных форм, каторыя распадаюцца на чатыры вя… …дзелы: мову (якая абымае і літаратуру — словы і славеснасьць), … пачуцьцё нацыянальнай годнасьці і абычаяў. Ідэальныя цэн… …— гэта гісторыя, традыцыі, ідэалы. Налічнасьць усіх гэтых цэн… … творыць моцную нацыю, нават без матэрыяльных цэннасьцей …кыць і развівацца ў чужой нацыянальнай гасударственнасьці без …альнага для сябе ўшчэрбу пры варунку, што гасударственная чу… …анізацыя ня будзе кiравацца да дэнацыяналізацыі паднявольнай

нальныя цэннасьці і якія маем шансы называцца нацыяй.

Найперш *матэрыяльныя* цэннасьці. Іх у нас няма, але навука кажа, што без іх нацыя можа жыць і развівацца. Знача, цэннасьць да жыцьця нацыі не канечна патрэбная.

Маральныя цэннасьці. *Інстытуцыйныя:*

І. Мова; мову мы маем, мова наша жыве, гэта адна з цэннасьцей, без каторай нацыя ня можа жыць. Мы яе маем.

II. Пачуцьцё нацыянальнай еднасьці творыцца праз мову; пачуцьцё такое сярод шырокіх мас беларускіх, нават найцямнейшых, ёсьць.

III. Абычаі; пад абычаямі разумеецца ўклад жыцьця, грамадзянскія формы і інш. Гэта таксама мы маем.

IV. Царква; царквы нацыянальнай мы не маем, але і царква хоць патрэбна для паўнаты нацыянальных цэннасьцей, аднача без яе можа нацыя жыць. Прыклады маем на нацыях, каторыя нацыянальнай царквы не маюць. Нацыянальная царква — гэта важнейшая справа для гасударственнасьці, чым для нацыянальнасьці.

З пералічанага вышэй відаць, што мы, беларусы, з чатырох інстытуцыйных нацыянальных цэннасьцей маем тры найважнейшыя і недахват нам апошняй — царквы.

Далей — як жа ў нас справа стаіць з *ідэальнымі* цэннасьцямі?

I. Гісторыя; ці маем сваю гісторыю? Маем, была нават беларуская гасударственнасьць.

II. Нацыянальныя традыцыі. Маем, хоць... слабыя, ня дзеля таго, што іх не было, але дзеля таго, што яны не захаваліся праз утрату нашай буржуазіі і мяшчанства.

III. Ідэалы; ёсьць: агульналюдскія — дэмакратычныя і нацыянальныя, без каторых, разумецца, не было б гутаркі аб адраджэньні нашым як нацыі.

З гэтага ізноў перагляду відаць, што мы маем гісторыю, слабыя традыцыі і, так сказаць, зародышы ідэалаў. Зародышы таму, што мы агульналюдскія ідэалы куём не ў сваёй нацыянальнай кузьні, а пераймаем іх ужо пераробленымі, пережванымі, падсоленымі і падпечанымі гісторыяй, традыцыямі і кірункамі мысьлі нашых старакультурных суседзяў. Такія ідэалы, нават найшырэйшыя, найбольш людскія (гуманітарныя), не маюць, аднача, прыцягаючай сілы.

І выходзіць, што мы маем цела (народ з інстытуцыйнымі цэннасьцямі), але гэтае цела каб ажывіць, патрэбен жывы дух, патрэбны ідэалы, раўнацэнныя ўсясьветным, прапушчаныя праз нашу нацыянальную прызму. Каб заваяваць месца ў агульналюдскай культуры, павінны ня толькі браць з агульналюдскай скарбніцы, але і класьці ў яе раўнацэнныя.

нрасьцей кажучы: калі мы хочам жыць і быць нацыяй, народам, нны стварыць сваю літаратуру, навуку, сваё штукарста. Вось зарунак бытаваньня нас, беларусоў, як нацыі.

## ШТО СПРЫЯЕ РАЗРОСТУ І ЎПАДКУ НАРОДАЎ І ДЗЯРЖАЎ

рыя — гэта вялікі магільнік і калыбка дзяржаў і народаў. Ня старавoтнай, але і ў навейшае гісторыі мы можам бачыць многа даў, як малыя, саўсім нязначныя князьствы выраcталі ў аграмад-ржавы і, наадварот, вялікія і сільныя дзяржавы малелі, разсыпа-ўрэшце саўсім зыходзілі з гістарычнай арэны. Разважаючы над дзяржаў і народаў, само сабой вынікае пытаньне: якія прычыны ць іх разросту і што спрычыняецца да іх упадку? Чаму, прыкла-ленькая Літва ў свой час разраслася ў аграмадную дзяржаву, ме-й сягалі Балтыцкага і Чорнага мора ўдоўжкі; Тыльзіту і Каломны сквой ўшыркі. Чаму некалькі сот гадоў праістнаваўшы, яна ўтра-цьцёвыя сокі, пачала занепадаць і, урэшце, перастала існаваць жава? Скуль чэрпала буйныя жыцьцёвыя сокі Маскоўскае заху-нязьства, што з бегам часу сталася Расійскай імпэрыяй, якая шостую часьць зямельнай сушы? Гэтаксама чамусьці маленькая вырастае ў нямецкую Імпэрыю.

араветнай гісторыі падобных прыкладаў можна налічыць шмат Егіпет, Пэрсія, Рым, Юдэя і мн. другіх.

лядаючы гісторыі народаў, найперш кідаецца ў вочы тое, што ы ўтвараюць толькі народы з ярка выражанымі індывідуальнымі або ярка акрэсьленымі імкненьнямі. Не было ў гісторыі прыпад-утварыў трывалую дзяржаву народ, каторы па сваей істоце зьяў-нечым пераходным, неакрэсьленым, у каторага няма выразных якія адрожніваюць яго ад другіх, падобных яму народаў. Ярка за-ная індывідуальнасьць народу — гэта першы і найважнейшы ва-патрэбны да яго існаваньня і разросту. Гэта індывідуальнасьць можа выражацца ў яго асобнай расе, рэлігіі, мове, гістарычных ях, урэшце, у яго народным імені. Народы, каторыя не аблада-ключна для сябе, ніводнай з павыжшых рысаў і не маюць ў сабе ціі вытварыць якую колечы з іх, не маюць перад гісторыяй апраў-на сваё існаваньне. Рана-позна яны прымушаны зыйсьці з гіс-ай арэны, уступаючы мейсца другім, якія абладаюць ярчэйшымі ьцямі.

рэньне трывалай дзяржавы і яе разрост варункуецца іншымі

лучна ей прыналежная гістарычная місія, якую яна выконуе ў часе. Выканаўшы сваю гістарычную місію, дзяржава, калі не стаўляе сабе іншай гістарычнай місіі, пачынае памалу занепадаць і зыходзіць з гістарычнай арэны. Гэтак было з в.кн. Літоўскім. Яго гістарычная місія, каторая высунула гэту дзяржаву на гістарычную відаўню, была ў змаганьні з татарскай навалай. На гэтым змаганьні Літоўская дзяржава расла і крэпла, але калі татарская моц была зломлена, то ў Літвы не аказалася ў запасе новага пасланніцтва, якое бы пабуджала да чыну яе грамадзян, і яна, не маючы да правядзеньня ў гісторыі сваей уласнай мэты, ні палітычнай, ні рэлігійнай, павінна была падпасьць пад чужыя палітычныя і рэлігійныя ўплывы і зыйсьці з балон гісторыі.

Маскоўскае княсьства разраслося дзякуючы таму, што яно ўзяло на сябе выключнае прадстаўніцтва грэцкага абрадку на ўсходняй славяншчыне і пропаганду грэцкага праваслаўя паміж фінскімі, татарскімі і другімі народамі эўропэйскага ўсходу і Сібіры. «Руская» вера была галоўнай спружынай, якая паслужыла да ўтварэньня Расійскай імпэрыі. Акамеўшае ў служэньні маскоўскаму абсолютызму праваслаўе ў XIX ст. пачало ўжо трацiць сваю сілу, і, разам з ім, Расійская дзяржава пад канец гэтага стагодзьдзя яўна стала кланіцца да ўпадку. Вайна і рэвалюцыя крэпка скалынулі гмах Расійскай дзяржавы, але комунізм уліў у яе замiраўшыя жылы новыя імкненьні. Ці гэты лек акажацца скутэчным, нам сягоньня трудна судзіць.

Але якое ж мейсца ў гісторыі празначана нам, Крывічом? А найперш, ці маецца ў нас апраўданьне на індывідуальнае істнаваньне ў гісторыі?

Перш чым даць адповедзь на гэтыя пытаньні, мы павінны выясьніць, якія маюцца ў нас індывідуальныя рысы, на аснове каторых можна наш народ лічыць асобным гістарычным індывідуумам.

Справы нашы на першы погляд выяўляюцца не найлепей.

Мы не маем, падобна жыдом, сваей асобнай рэлігіі, якая бы нас аддзяляла ад другіх блізкіх і далёкіх нам народаў. Больш таго, акром рэлігійнай залежнасьці ад цэнтраў іх у нас істнуе падзел народу на праваслаўных і каталікоў. За гэтым падзелам ідуць да нас культурныя і палітычныя ўплывы, якія вяжуць нас з прадстаўніцай грэцкага праваслаўя Масквой і прадстаўніцай рымскага каталіцтва Варшавай. Рэлігійнай індывідуальнасьці ў нас няма, а яшчэ горшае — няма волі знайсьці сабе рэлігійную індывідуальнасьць. Няма нават такога шуканьня, якое бачым мы ў бліжэйшых нашых пабратымаў — Украінцаў, каторыя на нашых вачах твораць уласную націянальную царкву, пераносячы грэцкае праваслаўе на свой націянальны грунт. Насаджаньне чужымі рукамі і ў чу-

эрасах сярод нашых грамадзян уніяцтва носіць чыста спэкуля-
характар і ня можа сыграць для нас ролі націянальнай.
на лепей стаіць справа з мовай. Наша мова паміж усходна-сла-
і — расійскай, польскай, украінскай — абладае сваімі асобнымі
і характарам. Праўда, гэтыя рысы значна зацерты доўгалетнімі
мі ня столькі ўплывамі на нас, сколькі запазычкамі ў нас. Але
акі наша мова з яе блізка тысячалетняй гісторыяй, багатай і мала
аванай этнографіяй зьяўляецца аднэй з галоўнейшых астой на-
ціянальнай індывідуальнасьці. Заданьнем нашай маладой навукі
жай пісьменнасьці ёсьць праца над ачысткай гэтай мовы і паг-
ьнем яе індывідуальных рысаў. На жаль пры цяперашнім падня-
м палажэньні нашага народу і яго падзеле справа гэта ня лёгкая.
ольш што ў нас саміх яшчэ замала волі да шуканьня і знахо-
я сваей індывідуальнасьці ў родным слове. А тымчасам ад гэтай
лком залежыць будучына нашай мовы: калі мы будзем перапаў-
вой слоўнік словамі, запазычанымі ад суседзяў, мы ўтрацім з ча-
ват тыя індывідуальныя рысы, якімі цяпер абладаем, і, наадварот,
і будзем унікаць суседзкіх слоў і зваротаў, а галоўнае, слоў пера-
аваных з суседніх моў і заступаць іх па магчымасьці яркімі, сваімі
мі словамі, узятымі з вусн народу або са старой пісьменнасьці, то
га будзе па нашай старане; мы ня толькі абаронім, але і паглыбім
уальнасьць сваей мовы.
ак галоўнай астояй нашай індывідуальнасьці і крыніцай нашага
чнага прызваньня ёсьць нашы гістарычныя традыцыі. Адноў-
нашых гістарычных традыцій у націянальнай сьвядомасьці
нам адразу ярка выражаную індывідуальнасьць сярод народаў,
ас акружаюць. Крывічанскае племя разпадаецца на тры галіны:
*кую* (якая калісь ўхадзіла ў склад в. кн. Літоўскага), Ноўгародзка-
*кую і Северскую.* Галоўныя традыцыі ўсіх трох гэтых галін Крыві-
іх народапраўства, якое выражалася даўней у вечавым укладзе, і
ралізація, якая вынікае з пашаны да асобы. Нашы гістарычныя
ціі ня маюць нічога супольнага ні з маскоўскім азіяцкім абсолю-
, ні з польскім анархістычным шляхэцтвам. Мы павінны навя-
ноў парваную ніць нашых гістарычных традыцій і на іх будаваць
гістарычныя заданьні.
ікае значэньне ў гісторыі і ў жыцьці народаў мае іх націянальнае
я народу або яго зьлівае і зьмешывае з другімі, або яго адзьдзяляе
гіх. У шуканьні сваей індывідуальнасьці мы павінны мець волю
ца на тым з паміж нашых гістарычных імён, каторые найбольш
і праўдна акрэсьляе нас як народ. Дзеля гэтага ня можа нас зда-
імя Беларусы. «Беларусы» — гэта пераходная ступень, часьць цэ-

ад Ноўгарадцах, Пскоўцах і Северанах. Адзіна імя Крывічы абымае усе галіны нашага племя, і яно даволі выразіста адцяняе нашу індывідуальнасьць у гістарычнай мінуўшчыне. Дзеля гэтага, не выракаючыся іншых гістарычных і провінціяльных нашых імён, мы павінны крэпка трымацца імені Крывічы як адзінага імені, якое прыналежыць вылучна толькі нашаму народу.

Урэшце, раз народ мае даволі індывідуальных рысаў, каб гісторыя апраўдала яго істнаваньне, то народ гэты мае права так жа на сваю дзяржаўнасьць. Але істнаваньне дзяржавы толькі тады апраўдуецца гісторыяй, калі гэта дзяржава выконуе якое-колечы гістарычнае пасланьніцтва.

Якое ж нашае пасланьніцтва, каторае мы павінны выканаць перад чалавецтвам?

Пачнем ад найбліжэйшых нашых заданьняў. Найперш, на нашай павіннасьці ляжыць аб'яднаць, разарваныя ў мінуўшым, часьці нашага народу ў адно цэлае. Гэта датыча ня толькі сьвежа крывавячай раны, дакананай расійска-польскай угодай у Рызе, але так жа зьвязаньня ў адно цэлае ўсяго балтыцкага славянства, усіх трох галін крывічанскага племя. Наша, заходная галіна Крывічоў павінна ўзяць на сябе гэтае вялікае гістарычнае пасланніцтва ў стасунку да сваіх пабратымаў — паўночнай і северскай галінаў. Акром гэтага ўнутранага пасланніцтва, на нас ляжыць яшчэ пасланніцтва агульналюдзкае: Крывічанская славяншчына ў цэлым павінна даць чалавецтву новыя культурныя цэннасьці. Даўно было заўважана ўжо расійскімі вучонымі, што на ўсім абшары Расійскай імпэрыі толькі ў Ноўгародзка-Пскоўскім і Беларускім краю істнуе саўсім асобнае, саўсім самаістае і індывідуальнае будаўніцтва. Але важней за індывідуальнае будаўніцтва ёсьць індывідуальны уклад жыцьця, індывідуальная псыхіка ў падходзе да соціяльнага будаўніцтва, абапертая на індывідуалізме.

Нашае заданьне ў гісторыі — дэцэнтралізм і народапраўства, якія дадуць новыя цэннасьці, нясучы вызваленьне чалавецтву, якое задыхаецца ў путах стадна-цэнтралістычнага абсолютызму так сама ў дэмократычных, як у монархістычных і соціялістычных сучасных нам дзяржавах.

Мы павінны знайсьці саміх сябе ў кожнай дзедзіне духовай і матэр'яльнай творчасьці, у соціяльным укладзе, у рэлігіі і мастацтве. І на гэты шуканьні прабіў ужо вялікі час.

Гора тым, хто перад аблічам вялікага гістарычнага моманту, які ідзе ўжо, стане з пустымі рукамі або — ні зімны, ні гарачы.

*1926*

**ан ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ**
**1934)**

орык, этнограф, эканаміст, культурны і грамадскі дзеяч, адзін з засна-
аў беларускай нацыянальнай гістарыяграфіі. Нарадзіўся ў г. Рэчыца на
чыне. Скончыў Кіеўскі універсітэт (1894). Доктар гістарычных навук
З 80-х гг. XIX ст. пачаў даследаваць гістарычнае мінулае Беларусі. Браў
беларускім нацыянальна-вызваленчым руху. Пасля абвяшчэння ў сакаві-
г. Беларускай Народнай Рэспублікі садзейнічаў яе прызнанню еўрапей-
зяржавамі. З гэтай мэтаю падрыхтаваў папулярную навукова-інфарма-
брашуру «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі» (1919), выдадзеную як на
кай, так і ў перакладзе на асноўныя еўрапейскія мовы. З 1925 г. праца-
еларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску. Быў абраны правадзейным
Інстытута беларускай культуры, старшынёй яго гісторыка-археаграфіч-
ісіі. У сувязі з абвінавачаннямі ў «контррэвалюцыйным» нацыяналізме і
ю рэпрэсій выехаў у Расію. Працаваў у Маскве. Аўтар шэрагу манагра-
следаванняў па гісторыі, эканоміцы і культуры Беларусі («Нарыс гісто-
ывіцкай і Дрыгавіцкай зямель...» (1891); «Народная гаспадарка Беларусі,
914 гг.» (1926); «Гісторыя Беларусі» (1926) і інш.).

## АСНОВЫ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

*(Фрагмент)*

даўнейшыя часы гісторыі Беларусі адзначаны панаваньнем дэ-
ычных ідэй у грамадскім і гаспадарскім ладзе. Найвышэйшая
ь прыналежыць вечу, або народнаму сходу, каторы ў Вітэбску і
ку выбіраў князёў, а ў Смаленску і Тураве бяз згоды яго ўласьць
ла перахадзіць ад аднаго князя да другога. Разьдзелу на станы ня
панавала роўнасьць. Гэткі лад дзяржаўся да пачатку XVI сталець-
лі, перакінуўшыся з Літвы і Польшчы, разьдзел на станы зрабіў
перамены ў старабытных дэмакратычных парадках. Аднак ко-
трох станаў, на якія быў падзелены беларускі народ, захаваў
і даўнейшае ўласьці народу. Пакуль сяляне былі вольныя, яны

торая давала гэтаму стану права вельмі шырокага ўчасьця ў справах гаспадарства, пачынаючы ад выбару вялікага князя і канчаючы справамі вайны і міра і правадаўства. Констытуцыю баранілі асобныя прывілеі, выпаўняць каторыя вялікія князі запрысягаліся. Шляхоцкі стан, як ваенна-служэбны, дабіўся найбольш у разьвіцьці парлямэнцкага ўстройства. Сперша ён складаўся з двох слаёў: панства-арыстакратаў і неарыстакратаў. Нерадавітыя элементы дабіліся поўнай роўнасьці з радавітымі, абдоранымі прывілеямі. Але шляхоцкага стану ў Беларусі нельга зусім раўнаваць да шляхты ў Заходняй Эўропе. Шляхта ў Літве і Беларусі, — і асабліва ў Беларусі, была вельмі чысьленая і сваёй заможнасьцю пераважна ня рожнілася ад сялян. Гэта — тыя ж адвечныя земляробы, дробныя земляўласьнікі, якіх бралі на ваенную службу: яны сваімі ўласнымі рукамі выраблялі зямлю, маючы яе часта зусім мала. На іх долю выпадала найцяжэйшая служба ў гасударстве, і вось за гэту службу іх абдорывалі прывілеямі, і яны ў сваіх правох зьліліся з нячысьленым радавітым, часьцю тытулованым панствам, паходзіўшым ад старых княжых родаў.

Панаваўшый у Літоўска-Беларускім гаспадарстве дзяржаўны лад — гэта лад *рэспубліканскі* з выбарным дажывотна прэзыдэнтам, каторы називаўся вялікім князем. Так у новай форме адрадзілася традыцыя народнае ўласьці старой Русі. Гістарычныя рэспубліканскія традыцыі нашага народу не на жарт палохалі царскае правіцельства: у межах быўшай Расейскай імперыі ня было другой старонкі, да каторай царскі ўрад адносіўся бы гэтак жа сурова, як да Беларусі. Зьнішчыўшы польска-беларускія школы, расейскі ўрад ня даў нам ніводнай вышэйшай школы, нават духоўнай акадэміі, ды блізка зусім не адкрываў гімназій, а да існуючых адносіўся так, што за Аляксандра III чысло школ і вучняў у іх нават паменшала, раўнуючы да ранейшых часаў. Урадовая палітыка вельмі шмат памагала апалячываньню краю, бо ўсе, хто думаў аб палітычным вызваленьні, далучаліся да палякоў, з каторымі спадзяваліся разам дайсьці спаўненьня сваіх ідэалаў. Не прызнаваючы беларусаў местовых і вясковых, урад пазбаўляў нас сваёй інтэлігенцыі. За чыноўнікаў назначалі ў нас вялікарусаў, нязнаёмых з нашым жыцьцем і часта мала здатных да працы. Быў нават выданы прыказ, каб беларусаў не назначалі за біскупаў. Нястача вышэйшых школ, немагчымасьць для беларусаў неяк устроіцца ў адным з адміністрацыйных пунктаў краю зрабілі тое, што беларуская інтэлігэнцыя пакідала сваю Бацькаўшчыну і вандравала на чужыну. У местох Беларусі яна не магла ўмацавацца йшчэ і затым, што, выходзячы з народу, ня здолела ўвайсьці ў таргова-прамысловае жыцьцё, — дый тое, праўду кажучы, было ў нас слаба разьвіта. Ведама, нястача тутэйшай інтэлігенцыі ў свой чарод была аднэй з прычын застою ў таргоўлі і прамышленасьці.

ючыся з беларускай культурай і яе прадстаўнікамі, расейскія
— інстынктыўна, ці мо і сьвядома — разумелі самабытнае зна-
гэтай культуры і баяліся яе.
аўды, з культурнага пагляду беларускі народ можа з гордасьцю
аць аб сваей мінуўшчыне. Пачынаючы ад XII сталецьця, бела-
нацыянальнасьць уславілася і ў навуках, і ў літэратуры. Імёны
сьменнікаў і культурных дзеячоў, як Кірыла Тураўскі, Абраам
скі, Клімант Смаляціч, Еўфрасінія Полацкая, уславілі цэлую
тарарускай прасьветы і пісьменства. У часах літоўска-беларускай
ы мы бачым высокае разьвіцьцё ў беларусаў літэратуры і права.
кая мова была вельмі пашырана. Ад канца XIV сталецьця нават
Жмудзі большая частка жыхароў ужывала дома старабеларускай
ў судох і адміністрацыйных установах беларускі язык быў аба-
як урадовы. Ня толькі практыка, але і закон прызнаваў дзяр-
ць і абавязковасьць беларускага языка. Толькі дэкрэтам 1697 г.
мніла польская мова.
ларускай мове зьявіліся найстарэйшыя і з навуковага пагляду
уложаныя зборнікі беларускіх законаў, раўнуючы да другіх па-
ў рускага права: Літоўскія Статуты ў трох выданьнях — 1529,
588 гг. Гэта — плод працы выдатных юрыстаў, вельмі ўдачна
ны асновы старога нацыянальнага права з законамі навейшага
йства. Такім чынам, статутовае права — гэта ў значнай меры на-
цыянальнае права. І гэта тым больш цікаўна, што пазьнейшыя
і статутаў пераглядаліся камісіей, зложанай з беларускіх юрыс-
ходзіўшых навукі ў заходня-эўропэйскіх унівэрсытэтах. Наагул,
цё навукі права ў Беларусі было надта высокае, што відаць ня
старых дакумэнтаў і правадаўчых актаў, але і з знамянітых пры-
ў адвакацкіх прамоў на судзе. Дык дзіва няма, што ў пачатку
палавіны XVI сталецьця мы ўжо бачым у Вільні першы юрыдыч-
ультэт, на каторым беларуска-літоўскае і нямецкае права выкла-
арускія вучоныя-юрысты.
гіх галінах літэратуры беларуская культура выявіла сябе гэтакса-
. Па беларуску выйшаў у сьвет першы ў Расеі друкаваны перак-
сьвятога пісьма — слаўная праца першага беларускага народні-
ара мэдыцыны «з слаўнага места Полацка», Францішка Скары-
цаваўшага над сваім выданьнем у Празе і ў Вільні ў самым па-
VI сталецьця. Беларуская ж літэратура мае першага панславіста
Васіля Цяпінскага, земляка Скарыны, пераклумачыўшага на бе-
о мову евангельле ў сярэдзіне XVI ст. Нават толькі тая друкава-
саная беларуская літэратура, якая да нас дайшла ў кнігах багас-
іх, рэлігійна-палемічных творах, аповесьцях, летапісах, грама-
нш., дае доказ шырокага разьвіцьця беларускага языка. Друка-

рай і з цьвердай сьвядомасьцю нацыянальнай дзяржаўнасьці. Аднак гэтакая рэлігійна-нацыянальная пазыцыя станавіла і вялікую небяспеку ў часах рэлігійнай барацьбы, абхапіўшай усю Заходнюю Эўропу.

Першы ўдар беларускай нацыянальнай справе зрабіла пратэстанцтва, прыйшоўшае ў Беларусь у форме кальвінізму і соцыніянства. З пагляду на культурную работу, пратэстанцтва не пярэчыла ўстаноўленай традыцыі і, працуючы дзеля рэлігіі, прыкладала руку да адкрываньня школ, падняцьця прасьветы і нават пашырэньня літэратуры, бо многа пратэстантаў-беларусаў карысталася роднай беларускай мовай для шырэньня новай веры. Дый у праваслаўнай цэркві ў Беларусі было шмат такога, што зьбліжала яе да пратэстанцтва: удзел сьвецкіх людзей у царкоўным жыцьці, саборнасьць царкоўнага ўстройства. Але пратэстанцтва прынесла з сабой ідэі інтэрнацыяналізму і разьбівала крэпкую спайку насяленьня з старой верай.

Калі пратэстанцтва пачало губляць сваю вагу і пачалася рэлігійная рэакцыя (паварот назад), адзначыўшаяся ў Беларусі такой шырокай працай езуітаў, якой ня ведалі іншыя старонкі, — тады пратэстанты з быўшых праваслаўных пачалі шыбка пераходзіць на каталіцтва. А як да езуітаў належалі пераважна палякі, дык справа пашырэньня каталіцтва скора абярнулася ў апалячываньне беларусаў. Асабліва пачала польшчыцца шляхта. Дзеля тэй-жа мэты — акаталічываньня і апалячываньня беларусаў — быў перакінут мост між праваслаўнай цэрквай і каталіцтвам у форме Берасьцейскай царкоўнай уніі ў 1596 гаду, праведзенай супроць волі народу жменяй біскупаў, адрокшыхся праваславія і падзержаных усёй сілай уласьці караля Жыгімонта III. Насталі цяжкія часы рэлігійнай і нацыянальнай барацьбы.

А ўсе ж беларускі народ ператрываў гэту барацьбу, у значнай меры месты і ўсё сялянства асталіся вернымі сваёй нацыянальнасьці, нават і прыняўшы унію, ня гледзячы на прымусовы спосаб правядзеньня яе. Праваслаўныя брацтвы далі стойкі прыклад абароны сваёй нацыянальнасьці. Яны адбаранілі Беларускую культуру, пісьменства, прасьвету і цераз эпоху ўціску ўважліва данясьлі нацыянальныя традыцыі і пачуцьцё нацыянальнай самабытнасьці да пачатку XIX ст., калі рэлігійная барацьба ўтраціла сваё значэньне.

У XIX сталецьці і да нашых дзён беларуская нацыянальная ідэя не замірала ні на адзін мамэнт. Праўда, сперша польская, а пасьля расейская культура прыцягівала да сябе многа лепшых сыноў Беларусі. Польская культура ўзбагацілася гэткімі сынамі нашае Бацькаўшчыны, як Тадэуш Касьцюшка, Сыракомля, Крашэўскі і нават Адам Міцкевіч. Усё ж прыемна адзначыць, што тры апошнія прадстаўнікі польскай літэратуры з вялікай любасьцю да роднага краю і яго народу пісалі на родныя матывы, толькі карыстаючыся польскай мовай, падобна як

сын Украіны Гоголь карыстаўся расейскай. Яны, як і многа ін-
колі не адрываліся ад роднага краю і не разрывалі зьвязі з тым
кім гуртком, каторы часьцю ў польскай, часьцю ў роднай бела-
мове працаваў над адраджэньнем і паддзержкай беларускай на-
най ідэі. Даволі назваць такія імёны, як гісторыкаў Нарбута і
, праф. Ярошэвіча, Даніловіча, Кукольніка, імёны этнаграфаў,
бэлетрыстаў, як Ян Чэчот, Ян Баршчэўскі, Дунін-Марцінкевіч
іншых, каторыя стварылі слаўную эпоху нацыянальнага адра-
беларусаў ад 30-х да 60-х гадоў мінулага сталецьця.
ыццам замершая на чверць веку пасьля Мурав'ёўскай гаспадаркі
арускага адраджэньня пачала ізноў выяўляцца ўжо ў канцы 80-х
сперша, з прычыны цэнзурнага ўціску, вельмі нясьмела то ў
тацей і кніжак, даводзіўшых самабытнасьці беларускай этнагра-
торыі, пісаных Сапуновым, Стукалічам, Нікіфароўскім, Доўнар-
кім, Карскім і другімі, то хаваючыся ў нелегальных віленскіх і
арганізацыях. Але яна дайшла шыбкага і буйнага расцьвету ў са-
чатку рэвалюцыйнага руху. Зьявіліся гурткі, арганізацыі, журна-
ты. Паяўленьне «Нашай нівы», імёны Янкі Купалы і іншых па-
амадзкая і літэратурная праца братоў Луцкевічаў і доўгага сьцягу
працаўнікоў і арганізацый становяць цэлую эпоху ў гісторыі
ьця беларускай нацыянальнай сьвядомасьці. Увесь беларускі рух
га часу ажно да Усебеларускага зьезду ў Менску ў сьнежні 1917
а ўтварэньня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сьведчыць
ьнасьці да жыцьця беларускай нацыянальнасьці і аб крэпкай
е з дзяржаўнай незалежнасьцю.
этага агляду трэба было бы дадаць факты, якія выдзяляюць эт-
чны тып беларуса — самабытны і адменны ад другіх рускіх на-
цей, тып чыстага славяніна, а такжа факты, паказываючыя эка-
ю абасобленасьць Беларусі. Каб лішне не пашыраць нашай ка-
запіскі ў гэты бок, мы ў канцы лічым патрэбным яшчэ раз
адзначыць тыя вывады, якія лагічна вынікаюць з вышэйсказа-
арод, каторы праз колькі сот гадоў самага цяжкага гістарычнага
, нягледзячы на вострую нацыянальную барацьбу і на ўціск ура-
йдужэйшай на сьвеці дзяржавы, ня ўтраціў сваёй нацыянальнай
тнасьці, — народ, меўшый праз некалькі сталецьцяў сваю дзяр-
незалежнасьць, — народ, каторы мае вытворную вякамі культу-
ратуру, свае яркія асобеннасьці этнаграфіі і языка, — такі народ
япер усе правы на дзяржаўную незалежнасьць, і гэтае права з
льшай справядлівасьцю павінна быць паддзержана ў той мамэнт,
аскрасаюць і прызываюцца да новага жыцьця другія нацыяналь-
незалежны быт каторых ня быў ані гэткі доўгі, ані гэтак абасоб-

здольнасьць да жыцьця і жыцьцёвая сіла, будзе заўсёды барацца і бараніць свае правы, а значыць, можа нарушаць агульны спакой датуль, пакуль ня будуць здаволены яго нацыянальныя патрэбы, правы і дамаганьні забяспечаньня яго нацыянальнага быту.

*1919*

**ЕСІК**

**940)**

ог, мовазнавец, пісьменнік, публіцыст, культурны, грамадскі і палі-
еяч. Нарадзіўся ў в. Мікалаеўшчына Мінскага павета. Вучыўся ў Мала-
й настаўніцкай семінарыі (1898— 1899). Скончыў гарадское вучылішча
арад-Северскі на Чарнігаўшчыне (1902). Працаваў настаўнікам у Баб-
ельскагаспадарчай школе. З 1903 г. — настаўнік Грамячанскай школы
-Северскага павета. Двойчы арыштоўваўся царскімі ўладамі (1906,
ў асуджаны на пажыццёвую высылку ў Сібір. На пасяленні знаходзіўся
й губерні (ваколіцы Кірэнска, Бадайбо). Падтрымліваў сувязь з бела-
ультурна-нацыянальнымі асяродкамі ў Вільні і Пецярбургу. Карэспан-
эдакцыяй газеты «Наша ніва». З Сібіры вярнуўся пасля лютага 1917 г.
удзел у беларускім нацыянальна-адраджэнскім руху. Уваходзіў у шэраг
х грамадскіх і палітычных партый і арганізацый. Адзін з лідэраў Бела-
цыялістычнай грамады (БСГ), сябра Беларускага нацыянальнага камі-
ктар яго газеты «Вольная Беларусь» (1917— 1918). Адзін з лідэраў Вя-
аруской рады. Дэлегат Усебеларускага з'езда (снежань 1917 г.). Удзель-
рацы Народнага сакратарыята Беларусі (1918). Адзін з ініцыятараў аб-
і Беларускай Народнай Рэспублікі. Пасля расколу БСГ узначаліў
ую сацыял-дэмакратычную партыю. Старшыня Рады БНР (чэрвень
Прымаў удзел у рэдагаванні і выданні беларускіх газет незалежніцкай
ыі «Звон» і «Беларусь» (1919— 1920). У перыяд нямецкай акупацыі і
савецкай вайны адначасова з палітыкай займаўся навуковай, педагагіч-
аратурна-публіцыстычнай дзейнасцю. Выкладчык беларускай мовы на
еларусазнаўства. Распрацоўваў граматыку беларускай мовы. У 1921—
ла педагагічнай і навуковай рабоце. З 1922 г. — правамоцны сябра Ін-
еларускай культуры. У пачатку лістапада 1922 г. арыштаваны, але па
ву аднаго з лідэраў беларускіх нацыянал-камуністаў, тагачаснага нар-
еты БССР У.М.Ігнатоўскага быў вызвалены. Удзельнік Акадэмічнай
цыі па рэформе правапісу і азбукі (лістапад 1926 г.). У 1928 г. абраны
ным сябрам Беларускай акадэміі навук, акадэмік. Старшыня Тэрміна-
камісіі. Аўтар «Практычнай граматыкі беларускай мовы», падручнікаў
ускай мове. У ліпені 1930 г. арыштаваны савецкімі ўладамі па справе
ай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі», пазбаўлены звання акадэ-

Беларусь у пазьнейшыя часы дзяржаўнай незалежнасьці насіла най-
меньне Вялікага Княжства Літоўскага, Рускага, Жмудзкага й інш., аб
карацей — Вялікае Княжаства Літоўскае. Істнуючая гістарычная навук
яшчэ ня выясьніла пытаньня, чаму Беларуская дзяржава звалася тагд
*Літоўскаю.* Што яна была Рускаю й Жмудзкаю — гэта зразумела: б
яна складалася з беларусаў, а гэтак сама й украінцаў, каторыя звалі сяб
рускімі, і жмудзінаў, каторых цяпер у кніжнай мове завуць літоўцам
Але чаму яна звалася Літоўскаю, то на гэтае пытаньне гісторыя не да
нам пэўнага адказу.

Сталася так, што пад Літвою разумеюць землі, заселеныя жмудзінамі
або даўнейшую Жамойць. Але само слова Літва й дагэтуль даволі цём
нае й па свайму гістарычнаму значэньню аніяк ня можа азначыць цяпе
рашніх літоўцаў, каторых сумежныя беларусіны дражняць клаўсям
(клэўсь-і). Слова Літва было ўжо цёмнае й незразумелае ў часы далёка
прошласьці. Нашы продкі, прыкладам, ужо ў 15 і 16-м сталецьцях утва
ралі цэлыя легэнды, каб вытлумачыць сабе, адкуль ўзялося слова Літва
Беларускія летапісі вось як тлумачаць сабе ўтварэньне гэтага слова*.

«Сталася ест ваплашчэньне Сына Божага ад Духа Сьвятога з блага
славеннае дзявіцы чыстае Марэі ад пачатку сатварэньня сьвету лета пя
цітысячнага пяцьсотнага дваццаць шостага. Аднаго часу панства Рым
скае было пад цэсарам Аўгустам, каторы жа ня толка аднаму Рыму, ін
й усяму сьвету панаваў. Яка ж вышэй пісана, іж часу цэсарства Аўгус
тава сын Божы ваплаціўся, а часу Тывірэя, цэсара ўтарога па Аўгусьце
на крэсьце волную муку прыняў для збавеньня й адкупеньня роду чала
вечаскага...

Па сьмерці Тывірэя цэсара быў цэсарам Гайос, а па Гайосе — Клаў
дзей, е па Клаўдзеі царстваваў сын яго Нэрон. Каторы жа Нэрон бы
пан акрутны а неўставічны, іж уласную матку сваю й фактара сваяго на
вышшага Сэноку баз кождае прычыны ку сьмерці прыправіў і колка ра
казаў места Рымскае запаліваць. А ні для чаго іншага, толка для таго, і
бы ся таму дзіваваў, а пацеху меў. А княжатам і паном Рымскім, шляхц
й усяму паспольству крыўды й уціскі вялікія чыніў. Для чаго ж усяк
падданы яго для вялікага акруценства й неўставічнасьці яго ня быў ніх
то пэван а ні баспечан ня толка йменяй албо скарбаў, але й здароў
сваяго. А так многія, апускаючы йменьні й скарбы свае, уцякаліся д
размаітых земль, насьлядуючы справядлівага ўпакою.

Гдзе ж адно княжа Рымскае, іменем Палемон, каторы жа цару Нэро
ну быў крэўны, забраўся з жаною й дзецьмі сваімі й з падданымі

---

*Сьпісак Рачынскага «Полн. Собр. русск. лет.» 1907 СПб

ваімі. З каторым жа княжацем пяцьсот шляхты так жа з жонамі ьмі й з многімі сіламі. І ўзяўшы з сабою аднаго астранома, ка- знаў па зьвездах, і пашлі ў караблёх морам па заходу солнца, сабе знайці на зямлі месца слушнае, гдзе бы ся маглі пасяліці а з пакоем. А з тымі — шляхты чатыры ражаі навышныя імёны: Кітаўрус—Даўспрунг, а з Калюмнаў—Прэшпар, а з Русі — а з Рож — Эктар. А так оныя людзі немалы час па мору ха- рышлі Межаземскага мора й дашлі да ракі да Шумы. І тою ра- маю ў мора акіян і морам акіянам дашлі да ракі усьця, гдзе Нё- цываець у мора акіян. І патом пашлі ракою Нёмнам уверх, оліж Малое, каторае называецца мора Малое, каторае называецца мо- авае. А для тое прычыны тое мора Нёмнавае называецца, іж у Нёман упадываець дванаццацьма усьці, а кождае завецца асоб- нем. Межы каторымі ж усьці адно завецца Гільля. І пашлі тым уверх. І дашлі цэлага Нёмна, гдзе ўжэ он сам увесь у вадном чэць. І верх Нёмна дашлі да ракі Дубісы. Яка ж ушэдшы ў тую бісу, й нашлі над нею горы высокія, й раўніны вялікія, й дубро- ошныя, й размаітых абфітасьцяй напоўнена ў зьверах рознага го ест напервей: тураў, зуброў, ласей, аленяй, сарн, рысяй, ку- ц, белак, гарнастаяў і йных размаітых ражаяў. І тэж у рэках вя- фітасьць рыб непаспалітых, іж нятолка тыя рыбы, каторыя ся ў іх плодзяць, але множаство рыб размаітых а дзіўных прыходзяць — за тою прычынаю, іж недалёка ўсьце Нёмнавае, гдзе Нёман упадаваець. Над каторымі ж рэкамі, над Дубосаю й над Нёмнам раю, там ся пасялілі й пачалі размножывацiся. І онае мяшкань- е тым рэкамі вельмі ся ім падабала. І назвалі тую землю Жа-

ь Палемон урадзіў трох сыноў: старшы — Борк, а другі — Ку- рэці — Спэра. Старшы жа сын Борк учыніў горад на рацэ Юры. на імя таго княжаці паспол з ракою імя рацэ Юра, а княжаці і назваў тот замак Юрбарк. А сярэдні сын Кунас прышоў на акі Нявяжы, гдзе ана ўпадываець у Нёман. І тут учыніў горад і го іменем сваім — Кунасаў горад**. А трэці сын Спэра пашоў пушчу ка ўсходу слонца. І перашэдшы раку Нявяжу й раку й трэцюю раку Шырвінту, знашоў озера лукамі й размаітым і украшана; гдзе ж, зьлюбіўшы, й над тым озерам пасяліўся. І ра іменем сваім назваў — Спэра. І панаваў многія лета, і быў аскаў падданым сваім. І патом умер баз плоду. І падданыя яго, і яго й подле рымскага абычаю, учынілі сабе балвана. І назвалі ра на памець яго.

й мяшкалі бяз пана.

Па малых жа часех умрэць брат яго, каторы мяшкаў на Юрбарку, н маючы дзяцей; і брат яго Кунас озьмець і тую часьць брата сваяго Бор ка й горад Юрбарк, і ў той часці будзець панаваці. І онае княжа Куна меў двух сыноў — аднаго Кернуса, а другога Гінбунта. І пануючы яму зямлі Жамойцкай, пачаўся множыці, й расшыраці, й выходзіці на рак Вельлю ў землю Завельскую. І перашодшы раку Сьвятую вышэй, і на шоў места вельмі хароша. І спадабалася яму тое месца вельмі. Тагды о там пасяліў сына сваяго Кернуса. І назвалася тое месца па Кернусе — Кернава. А патом Кунус умрэ. І па нем пачнець сын яго Кернус пана ваці па ўсёй зямлі Завельскай па граніцу Латыгольскую й па Завельсі Браслаўль, оліж па раку Дзьвіну. А брат яго Гінбунт на Юрбарку, й н Кунасаве, й на ўсёй зямлі Жамойцкай. А ў тот час, гдзе Кернус панава на Завельскай старане, людзі яго тыя, што за Вельляю аселі, ігрывалі н трубах Дубасных. І празваў тот Кернус бераг сваім языком уласным, п латыні, — *Літус*, гдзе ся людзі яго множаць; а трубы, што на іх йгра юць — туба. І даў імя тым людзям сваім языком па-латыні: заўважыў шы бераг з трубою — *літусба*. І простыя людзі няўмелі зваці па-латын і пачалі зваці *Літвою*. І ад таго часу пачалі зваці панства Літоўскае множыціся ад Жамойці. І князь вялікі Кернус панаваў на Літве, а княз Гінбунт — на Жамойці»...*

Гэтак апавядаюць беларускія кронікі, або летапісі. Само сабой разу меецца, тлумачэньне летапісца нікога здаволіць ня можа. Тут адно толь кі ясна, што нашыя летапісі выводзяць род сваіх князёў з Рыму, дово дзячы гэтым, быццам яны былі ня тутэйшага, *простага*, а *панскага* рымскага роду. А што важней за ўсё, дык гэта тое, што Літва Жмудзь — дзьве рэчы зусім розныя, і, апіраючыся на летапісныя вестк ні ў якім разе ня можна зваць цяперашніх жмудзінаў літоўцамі. Гісто рыя сьведчыць, што літоўцамі зваліся людзі, што жылі каля цяперашня Вільні й «множыліся ад Жамойці» (Жмудзі) — гэта значыць, папаўнялі ся перасяленцамі з Жмудзі, каторая ляжала, як кажа летапісь, над рэч камі — Дубісаю, Нёмнам і над Юраю, недалёка ад усьця Нёмнавага. сама Вільня належыць да самых даўнейшых славянскіх сяліб. Вучаны кажуць, што першымі будаўнікамі гэтага гораду былі славяны з плем Валоты (вількі, люцічы, люцікі-лютка, Літва?), аб каторых у 2-м век ўпамінае Птолёмей. Племя гэтае займала землі цяперашняй Віленшчы ны й часткаю сумежнай Меншчыны. Васкрасенская летапісь захавал вестку, што каля 1128 г., калі Мсьціслаў Вялікі напаў на землі Крыві чоў, дык ваколічнае насяленьне места Вільні выбрала сабе за княз

* Выпіска зроблена з «Полн. собр. русск. летоп.» т. 17. Западн.-русск. летопись. Список гр. Рачин ского.

ава Рагвалодавіча — славяніна з роду князёў Полацкіх. Гэтая ля нас вельмі важная. Яна паможа нам разам з іншымі данымі га зьместу разабрацца ў тэй гістарычнай блутаніне, каторая Літву за Жмудзь і наадварот, ды хоць троху разьвее гістарычны творапы імпэрыялістычнымі тэндэнцыямі палякоў.

зразумела, што ні Польшчы, ні царскай Расіі, прэтэндаваўшым рускія землі й лічыўшым беларускі народ за сваю народнасьць, а было капацца ў беларускай гісторыі. Не чапай, кажуць, ліха, сьпіць. Спачатку, напэўна, рабілася гэта сьвядома ды наўмысь- імпэрыялістычным хмелем блуталі гістарычныя факты. Потым, цца, пераблутаныя весткі прымаліся за праўду, бо ўсім жа хаце- б Беларусі ня было, а каб быў «северо-западный край», або schodnie». І пахаваць беларускую гісторыю было вельмі лёгка: од, страціўшы сваю інтэлігэнцыю, нацыянальна спаў, а тэрмін адказваў накінуць усю гэтую «няпрыемную гісторыю» на Жму- больш што некаторые сьвятлейшыя жмудзіны самі ахвотна на- сябе літоўцамі ды лічаць гісторыю даўнейшой Беларуска-Літоў- ржавы *сваёю* гісторыяй. Мала гэтага, цяперашнія літоўцы (жму- пэўнілі навет усю Эўропу, што гэты іх маленькі жмудзкі народ колісь магутнай і слаўнай Літоўска-Рускай дзяржавай. Цяпе- жмудзіны прыкрываюцца гістарычнай ілюзіяй, і ўсе вераць ім. сам, гэта гістарычны туман, літоўская ілюзія становіць цяжкае нае непаразуменьне. Цяжкае яно як для цяперашніх літоўцаў, беларусінаў. Літоўцам балюча будзе растацца з ім, а беларусі- меньш будзе цяжка разьвеяць яго. Але разьвеяцца павінен, бо нуць, а факты застаюцца...

цяперашнія жмудзіны называюць сябе *літоўцамі*, то гэта справа але калі яны прэтэндуюць на даўнейшую літоўска-рускую гіс- калі яны выступаюць з чужым скарбам, каб выкарыстаць яго цяперашняга часу, то тут ужо справа іншага гатунку. Гэта карыстаньне дабром таго народу, каторы ня мог бараніць сваё ці.

дзь, як народ, ня мела ніякага значэньня ў гісторыі Літоўска- княжаства, як Латвія або Эстонія, каторыя гэтаксама ўваходзілі гэтага княжаства. Жмудзь была маўчліваю невялічкаю провін- тоўска-Русскай дзяржавы й навет не заўсёды да яе належала. дары гэтай дзяржавы былі славянскага роду, патомкі полацкіх Рагвалодавічаў. Усе яны насілі падвойныя найменьні: адно на- у гутарцы славянскага пляменьня люцічаў (пазьнейшых літоў- другое хрысьціянскае. Першае найменьне, народнае, для вуха няга беларусіна зычыць крошку незнаёма, — мабыць гаворка ых люцічаў-літоўцаў крыху розьнілася ад гаворкі беларускіх

Мы сказалі, што даўнейшая Жмудзь, а цяперашняя Літва, не заўсёды навет належала да Літоўска-Беларускай дзяржавы. Аб гэтым сьведчаць гістарычныя факты. Князь Міндоўг, сапраўдны тварэц вялікай Літвы, дабравольна аддаў быў Жмудзь (цяперашнюю этнаграфічную Літву) на вечныя часы Крыжаком. Ці ж бы мог гэта зрабіць кроўны літовец-жму дзін з сваёю бацькаўшчынай? Мала гэтага, падарунак Міндоўга пад цьвердзілі яго насьледнікі, або наступнікі. Ягайла гэтаксама дабравольн адступіў Жмудзь крыжаком, а Вітаўт, гэты багатыр Беларуска-Літоўска дзяржавы, насаўсім аддаў немцам гэтую зямлю. Ён быў навет шчадрэй шым за свайго стрэчнага брата, бо па сваёй сьмерці назначыў крыжако сваімі спадкаемцамі на Жмудзь. Ці ж маглі гэта зрабіць сапраўдны жмудзіны? Ці ж маглі яны дабравольна адрачыся ад свае бацькаўшчы ны?..

І толькі перамога над крыжакамі ў бітве пад Дуброўнай (Грунваль дам) у 1410 г. вярнула Жмудзь да Беларуска-Літоўскай дзяржавы.

Такім чынам, гісторыя сьведчыць, што цяперашнія літоўцы ня мо гуць пасылацца на гісторыю вялікага княжатва Беларуска-Літоўскага Літоўская Пагоня — гэта беларускі дзяржаўны гэрб. Яго ўжывалі ўс даўнейшыя беларускія ваяводзтвы. А які гэрб мела Жмудзкая зямля, — ну, хоць цяперашняя Ковеншчына, бязумоўна, літоўская (жмудзкая зямля, — то няхай цяперашнія літоўцы спытаюцца ў гісторыі. Яна ім скажа, што гэрб Ковеншчыны меў чорнага, на дыбачках стоячага, мя дзьведзя.

Яшчэ раз зазначаем, што ўся гэтая *літоўская* неразьбярыха вырасл на грунце гістарычнага непаразуменьня, каторае ў сваю чаргу выклікал імпэрыялізмам дзяржаўных нашых суседзяў. І калі цяперашнія літоўцы лічаць гісторыю Вялікага Княжаства Беларуска-Літоўскага (Літоўска Рускага) гісторыяй жмудзкага народу, то з гэтакім жа правам беларусін й украінцы могуць лічыць расійскую гісторыю сваёй гісторыяй, пры намсі з таго часу, як Беларусь і Украіна былі прылучаны да Маскоў шчыны. Але сказаць гэта мала хто адважыцца, хоць сьвет багаты на ад важных людзей. Вось, прыкладам, адзін украінскі граматыст І.Нячуй Лявіцкі лічыць беларускую мову ўкраінскай падмовай, гаворкай. У агульных увагах да слоўніку, зьмешчанаму ў сваёй граматыцы («Грама тыка ўкраіньскага языка. Этымологія». Кіеў, 1914 г.), ён піша:

«Вядомы вучоны Міклошыч у першы раз налічыў дзевяць незалеж ных славянскіх моў, а беларускую мову прызнаў *паднаречіем,* або гутар каю ўкраінскай мовы» (стр. 9), «у беларусаў мова гэтакая самая, як і н Украіне й у Галічыне, й слоўнік іх мовы й тры чвэрці песень украін скіх... У наш час гэта мова ўсё роўна як у немцаў *швабская* падмова. Гэ та (беларусіны) нашы швабы... Як ня было яшчэ ўкраінскіх слоўнікаў

вянскія вучоныя чыталі ўкраінскія кніжкі па старому беларуска-
ніку Насовіча, чаго ня можна зрабіць, каб чытаць украінскія
на слоўніку велікарускай мовы Даля. Нашы ўкраінскія сяляны
ць усю дарэшты беларускую размову (гутарку)», — кажа Н.Ля-

обры лад, дык подлуг гэтага трэба было б украінскую мову залі-
дмовай беларускай мовы. Прынамсі, гэтак падказуе здаровая лё-
каб розум расійскіх, польскіх і ўкраінскіх вучоных ня быў за-
ы імпэрыялізмам, то ў іх бы зусім натуральна й лёгічна паўстала
ьне: а калі на беларускую мову падобны ўсе мовы ўсходніх сла-
ці не справядлівей будзе сказаць, што беларуская мова ёсьць
оў усходніх славян, тым больш што да яе вельмі падобна й ста-
вянская мова, каторая, няма сумніву, была маткаю ўсіх славян-
ў. Але, гдзе запахне імпэрыялізмам, там лёгіцы няма месца. І
омасьцьц І.Нячуй-Лявіцкі, прыкладам, дадумаўся да таго, нібы
кі Статут напісаны прыгожаю народнаю ўкраінскаю моваю» (!)
«Укр. грамат.»). Гэта ўжо — Андрэй Кузьме родны Тодар, але
стаецца фактам і сьведчыць нам, што гэтакім жа спосабам ма-
жмудзкі народ адтрымаў неспадзявана такую вялікую спадшчыну,
рыя В. К. Літоўска-Рускага. А каму невядома, як расійскія гіс-
эксплёатуюць дзеле імпэрыялістычных мэт назву *рускі*? Як веда-
аўнейшыя часы рускімі называлі беларусінаў, а цяперашнія ра-
ядомы былі пад найменьнем маскоўцаў, маскавітаў, маскавіцян.
ьне рускіх маскоўцы прысвоілі сабе далёка пазьней. А тым ча-
таючы адзін з аснаўных законаў Літоўскага Статуту аб тым, што
емскі маець *па-руску* літарамі й словы *рускімі* ўсе лісты й нозвы
а ня іншым языком і словы», — расійскія гісторыкі кажуць:
ачыце: *па-руску*, гэта значыць — па-расійску, па-вялікаруску.
тут беларушчына?!» І гэтак наўмысьле блуталіся гістарычныя
тэрміны, назвы ды полуг гэтага пісалі гісторыю. Гэтак утварыла-
оўская неразьбярыха.
скія й польскія гісторыкі, дзякуючы сваім імпэрыялістычным
ыям, ня вытлумачылі сабе значэньня слова *Літва* й верацъ
ай ілюзіі, што ўвесь гістарычны скарб б. В. К. Літоўска-Рускага
скага) належыць цяперашнім Жмудзінам. Але правільнае асьвят-
гістарычных фактаў сьведчыць нам пра тое, што Літва — гэта
лавянскае племя, увайшоўшае ў склад цяперашняга беларускага
Літва, Лютва, Люцічы — іменьні славянскага племя, і назва гэ-
ачае народ люты й страшны для ворагаў, але адважны й храбры
х. Ніжэй мы ўгледзім, што ўсё гэта адпавядае гістарычным па-
калі нашы продкі — беларусіны ў прошлых сталецьцях звалі ся-
намі, то яны ведалі, што казалі. Яны ведалі, што ў склад бела-

скія старажытнасьці» ды піша, што паміж народамі славянскага пле-
меньня, найслаўнейшае зрабілі сабе ў гісторыі імя, — ці то дзякуючы
сваёй лічэбнасьці ды храбрасьці, ці то праз сваю вытрываласьць пры
даўнейшых парадках і звычаях, — гэта так званыя *валоты*, валеці, віль-
кі, або ваўкі ды *люцічы*. Племя славян, каторае жыло паміж Эльбаю
Дняпром, Бярэзінай і Заходняй Дзьвіной, пасунутае кале нараджэньня
Хрыста markers рознымі прычынамі з месца, спынілася на цяперашняй Літве
Беларусі, на Віленшчыне. Адна частка Віленшчыны звалася тагды Віль-
коміна, або зямля Вількаў, гдзе горад Вількамір, *Вількастан*, сяліба Віль-
каў. Ня можна з пэўнасьцю азначыць, як доўга яны тут жылі. Але, пра-
быўшы на месцы вякоў два, сталі яны пасувацца да Бальтыцкага мора
й апанавалі пруская пабярэжжы, а з часам морам і сушаю перайшлі да
усьця Одры, занялі вастравы й краіны, ляжачыя на захад, ды ў тым жа,
як здаецца, часе дабраліся да Батавіі й Брытаніі. Гэта яны з сваімі са-
юзьнікамі, паміж 150 і 170 гг. па нараджэньні Хрыста, адабраўшы ў Го-
таў, Вандаляў і іншых нямецкіх пляменьняў бальтыцкае пабярэжжа, са-
мі там моцна ўселіся. Тут іх не застаюць яшчэ старэйшыя гісторыкі, як
Мэля, Страбон, Плініус, Тацыт, але Птолёмей іх ужо там застае й апі-
суе. Ня пойдзем іх тропам па розных краінах цяперашніх дзяржаў і з
мора Эўропы. Успомнім толькі, што гэта іх было тое княжаства й той
князь, каторыя ў Васкрасенскай летапісі (ч. 1, 48, а Ptb 1793) завуцца
князь Вількам (воўкам), а народ Вількамі (ваўкамі). Гэта яны сваёй ста-
ліцай й рэчкам свае найменьні пакінулі — Вільня, Вільля**. Ад іх немцы
сталіцу Вільню — Вільдай звалі, а Бальтыцкае мора — Вільдамор пра-
звалі.

Племя *люцічы, люцікі* — зваліся гэтак ад славянскай прыметы *люты*,
што ў хвалебным разуменьні азначала — *сьмелы, храбры, адважны,
слаўны*, а для ворага і пакорных — *жорсткі, драпежны, люты*. Істную-
чая казка пра ваўкалакаў, або пра людзей, што ваўкамі робяцца, утва-
рылася мабыць таму, што суседзі празвалі Вількаў, або Ваўкоў людаеда-
мі за іх жорсткасць на вайне. Навет у неславянскіх краёх, гдзе толькі
былі Вількі, істнуе вымысел пра ваўкалакаў. Па цэлай славяншчыне за-
хавалася шмат памятак і пагаданак пра іх ня толькі ў гісторыі, але і
вуснах народу.

У мове *рускіх* славян Вількі, Вэлеты зваліся — ваўкі, волаты, а во-
лат — азначае: асілак, вялікан, страшыдла. У розных мясцох Беларусі
ёсьць Волатава поле, Волатава магіла, Валатоўская слабада, рэчка Вала-
цея, Волатава гарадзішка. У беларусінаў у ваколіцах Полацку й Вітаб-

---

* Польскі пераклад гэтай кнігі П.Дальмана й Г.Банкоўскага.

** Вільля, цяпер Віленка, у даўнейшых дакументах, асабліва лавінскіх, Велька. Замена літары і на
павялічвае довад, што гэтае найменьне ад Велетаў дашло.

гілы, або магільныя капцы, завуцца — валатоўкі, волаткі, на Ба-
чыне было староства Вяляцікае, можа некалі Валецкае, а гэ-
Вілейка, рака Вільля, выраз у народнай песьні «паедзем дамоўкі
алатоўкі» — бязумоўна трэба аднесьці да Валетаў, Волатаў.
ва адзначыць, што рэчка Вільля па-літоўску (па-жмудску) завец-
а, Нэрыс, Няра. З гэтага відаць, што жмудзіны (цяперашнія лі-
у сябе гэтую рэчку звалі Нэрай, а валеты, вількі — Вільляй. Што
ы *Вількі*, то тут цікава вось што. І цяпер яшчэ на Беларусі (Мі-
чына Менскага павету) захаваліся дзіцячыя гульні, у каторых
*оўк* перадаецца мякка, як *вільк*. Прыкладам, істнуе гульня ў гусі
, у каторай пастухі гэтак клічуць гусі: «Геньці, геньці, ідзьце да-
- Чаго? — Бо вількі за горою». Тут мы ня можам думаць, што
лёнізмы навейшага часу. Трэба ведаць, што ў склад цяперашняга
кага народу ўвайшлі ня толькі пляменьні ўсходніх славян. Племя
ы было ляцкае, галіна заходніх славян, а тым часам яно было
аснаўных пляменьняў, што ўтварылі адзіны беларускі народ. Гэ-
лумачыцца, што беларуская мова захавала шмат такіх слоў, като-
прывыклі чуць у вуснах заходніх славян — чэхаў і палякаў. Ад-
можна сказаць, што пляменьні Люцічаў і Вількаў па мове займалі
не месца паміж усходнімі й заходнімі славянамі. Тут варта зьвяр-
вагу на такія назовы, як даліна Сьвентарэю Сьвянцяны.
гул, шмат ёсьць месц на Беларусі, прыпамінаючых Люцікаў (Літ-
лькаў, асабліва ад слова *вількі* — ваўкі. Прыкладам, Вільня, Вя-
Вільля, Вількамір, Вількішкі, Вілкамушы, Воўчая, Ваўчыца, Ваў-
Ваўкалакі, Ваўкалата, Ваўкавыск, Воўчын, Ваўчкевічы і г.д. Іс-
ія цяпер на Беларусі прозьвішчы ўтварыліся поўна ад даўнейшых
этай зямлі: Вільчак, Вільчкоўскі, Вільчынскі, Вількоўскі, Вільке-
отавецкі, Вільканец і гэт. падоб. — Люткевіч, Лютаехаўскі або
Ваўчок, Ваўчацкі, Валодка, Валодзька,Валадковіч, Ваўкоўскі,
цкі, Ваўковіч, Ваўканоўскі і г.д.
я выпіска з гістарычных выведаў чэскага гісторыка Шафарыка
для нас з двух бакоў: першае, яна кідае сьвет на слова *Літва*,
чы нам, што Літвою звалася адно з славянскіх пляменьняў,
х на зямлі цяперашняй Віленшчыны й Меншчыны; другое, пры-
пад увагу, што на цяперашняй Віленшчыне сядзела некалі сла-
е племя Вількі, ваўкі, з сталіцаю ў Вільні, можна вытлумачыць
значэньне таго сну, што сьніўся вялікаму князю Гідыміну. Вось
он у перадачы нашай кронікі Быхаўца.
каторага часу паехаў князь вялікі Гідымін са стольца свайго Кер-
ловы за пяць міль за раку Вельлю. І найдзе гору ў пушчы красну,
амі й раўнінамі аблеглую. І спадабалося яму вельмі. І он там па-
, і залажы горад, і назаве імя яму Трокі, гдзе былі Старыя Трокі.

каторую звалі Крывая, а цяпер Лысая, стаіць воўк жалезны вялік, а ў нем равець, калі бы сто ваўкоў выла, і ачуціўся ад сну сваяго і рачэць варажбіту сваяму, іменем Лязьдзейку, каторы быў знайдзен у арловем гнязьдзе. І быў той Лязьдзейка ў князя Гідыміна варажбітом і найвышшым панам паганскім. Відзіх дзей сон дзіўны, і спаведаў яму ўсё, што ся яму ва сьне відзіла. І тот Лязьдзейка варажбіт рачэ яму: «Княжа вялікі! Воўк жалезны знамянуець горад сталечны тут будзець, а што ў сяго ўнутры равець, то слава яго будзець слынуці на ўвесь сьвет». І князь вялікі Гідымін на заўтрые ж, не ад'яжджаючы, паслаў па людзі й залажыў горад — адзін на Швінтарозе, імя тым гарадом Вільня. І збудаваўшы гарады, перанёс столец свой з Трокаў на Вільню».

Можна дагадацца, якога гэта «жалезнага воўка» сьніў Гідымін. Яму трэба было адабраць у Вількаў іх сталіцу Вільню, а ўжо пазьней народ прыбраў гэтыя падзеі ў легенду. А магло быць і так, што Гідымін наўмысьле перад паходам на Вількаў распусьціў праз варажбітоў чуткі, каб падаць вайне папулярнасьці. Тут цікава яшчэ й тое, што перад тым, як пайсці вайною на Вількаў, Гідымін пабудаваў найперад крэпасьць, горад Трокі, як базу для будучай вайны, ды назваў тую крэпасьць Трокамі ад беларускага слова *трокнуцца* — дагадацца, раптам успомніць. А можа — *Тропы*? Ад слова *троп* — сьлед, трапінка, сьцежка, трапіць.

Але пойдзем далей ды паслухаем яшчэ, што кажа гісторыя пра даўнейшую Літву. Вось вывед К.Скірмунт «Nad Niemnem i Bałtykiem: w zaraniu dziejów». Ня трэба й казаць, што аўтар меў на увазе цяперашніх літоўцаў і хацеў давесьці, што жмудзіны — гэта літоўцы. Але ня важна, чаго хацеў аўтар. Важна тое, што кажуць яго выведы або пра што сьведчаць тыя ведамасьці, якія падае аўтар. А ведамасьці яго гавораць вось што:

Наезды Скандынаваў, або варагаў, на бальтыцкае пабярэжжа хаваюцца ў змроку найдаўнейшых часоў. Продкі Скандынаваў — готы ў глыбокай старажытнасьці ведалі ўжо усьце Нёмна. Там утворана была скандынаўская правінцыя Русыя (Нарбут, т. 1, 309) калыска многіх марскіх багатыроў-норманаў, пра каторых сьпяваюць паўночныя сагі (песьні). Норманы, або скандынавы, ці варагі прыходзілі сюды як вайсковая разбойніцкая арганізацыя, которым падабаўся тытул марскіх разбойнікаў. «Мы, з Божой ласкі, архіпіраты востравоў гэбрыдзкіх», — пісаў адзін з скандынаўскіх здабыўцаў гэтых астравоў. Як разбойнікі яны наводзілі страх на спакойных людзей. У хрысьціянскіх царквах Зап. Эўропы маліліся тагды: «Ад лютасьці норманаў збаў нас, Божа!»

## ...др ЦЬВІКЕВІЧ
...1937)

...рык, філосаф, палітычны і культурны дзеяч. Скончыў Пецярбургскі ...тэт (1912). Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў Беларускай народнай ... ў Маскве (1917). Міністр замежных спраў Беларускай Народнай Рэс... З 1923 г. прэм'ер-міністр БНР на эміграцыі ў Празе. Пасля Берлінскай ...най канферэнцыі беларускіх прадстаўнікоў прыехаў у Савецкую Бела...25). Працаваў у Народным камісарыяце фінансаў, сакратаром Інстытута ...кай культуры, а пазней — у Інстытуце гісторыі Беларускай акадэміі на...9). Даследаваў праблемы станаўлення і развіцця дзяржаўнасці і самасвя... беларускага народа, фарміравання культурнай і грамадска-палітычнай ... Беларусі. Аўтар цэлага шэрагу навуковых прац («Беларусь: Палітычны ... (1919); «Адраджэньне Беларусі і Польшча» (1921); «Западно-руссизм»: ... па гісторыі грамадскай думкі на Беларусі ў XIX і пач. XX ст.», (1929) і ... сувязі са справаю «Саюза вызвалення Беларусі» арыштаваны і сасланы ...1930). Другі раз арыштаваны ў 1937 г. У Мінску асуджаны да вышэйшай ...карання. Расстраляны.

## АДРАДЖЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ І ПОЛЬШЧА
*(Фрагмент)*

...веі апошніх гадоў — усесьветная вайна і вялікая расейская рэва... — зьніштожылі тую сілу, каторая стала над Польшчай і над Бе...ю і каторая ўстанаўляла па свайму жаданьню адносіны паміж гэ...ох народаў.

...улі муры расейскай турмы, і Польшча і Беларусь ізноў сустрэлі... з другам безпасярэдна, як некалькі вякоў таму назад.

...сь, ня гледзючы на тое, што гэтые два народы пражылі сумесна ...эй страхой не адно сталецьце, што ў іх мінулым былі супольные ...ы, — аказалося, што яны надта далёкі друг другу, што спаткалі... амаль што незнаёмымі.

...алося, што Польшча ня ведае сучаснай Беларусі.

...ь час, пакуль Беларусь мысьлілася як частка Польшчы, яна лі...

Цэннай самой па сабе, суб’ектам праваадносін і адзінкай палітычна роўнай Беларусь за гэты час ніколі не лічылася.

Як і старая Расея, Польшча да гэтага часу не лічыла беларусаў палітычным народам, здольным ставіць сабе свае мэты, якія павінны былі б служыць яго ўласным інтарэсам.

Мы ня склонны дабачаць у гэтым *што-небудзь* такое, што парочыло б Польшчу ў вачах беларускага народу. Прычынай гэткага нэгліжаваньня беларускай нацыянальнасьці і яе дзяржаўнай здольнасьці служыло адзіна тое, што сам беларускі народ не дайшоў яшчэ пэўнай ступені самасьвядомасьці і арганізаванасьці, якая звычайна дае права на прызнаньне з боку суседзяў.

Мы зьвертаем увагу на гэта толькі таму, каб паказаць, што Польшча аказалася непадгатаванай дзеля вырашэньня ўзьнікшай перад ей задачы.

Падгатавацца да гэтага было наагул трудна. Ніхто ў Польшчы ня мог думаць, каб беларускае адраджэньне, яшчэ дзесяць гадоў таму назад змагаўшаеся з расейскім урадам за права друкаваць лемэнтары на беларускай мове, пранікло ў тоўшчу народу, раскалыхало масы і пасунуло іх на творчасьць самаістнай дзяржаўнасьці.

Ніхто ня чакаў, каб беларускае пытаньне вырасло з рамак «заходнарасейскага пытаньня» ў явішча эўропейскага значэньня і было выкінуто на торжышча міжнарадовай палітыкі. Гэта з аднаго боку.

З другога боку, у самай Польшчы ніхто сур’ёзна не рахаваў, каб іх напоўзадушаная бацькаўшчына вярнулася да жыцьця ў форме сувэрэннай дзяржавы і зрабілася адным з першых фактараў палітычнага жыцьця Усходняе Эўропы.

У варунках старога парадку, калі гаварылі ўрады і маўчалі народы, пытаньне гэтае, здавалося простым; але пры першых спробах вырашаньня яго ў новых варунках, аказалося ня ў меру трудным і складаным.

Старая, дарэвалюцыйная Польшча магла мысьліць вырашаньне беларускае проблемы ці ў рамках расейска-польскіх адносін, калі яно скончылося бы угодай ураду Расеі з урадам Польшчы, ці ў рамках свайго дзяржаўнага самаазначэньня пасьля вайны, пры дапамозе вялікіх дзяржаў — незалежна, Антанты ці Цэнтральнага Саюзу. Спорныя тэрыторыі і населяючые іх народы, як пры першым так і пры другім выпадку, засталіся б у старым сваім значэньню, г.зн. разглядаліся бы як об’екты дзяржаўных плянаваньняў.

Справа вымагала бы толькі патрэбнай дыплёматычнай зручнасьці, вядомай зговорчывасьці. Разам с тым, пытаньне засталося бы ясным, абмежаным строгімі варункамі фактычных магчымасьцяў, і, урэшці, па-

...ыло б вырашыцца згодна жаданьням высокага арэопагу дзяржаў-...кцаў.

...ерака пытаньне беларуска-польскіх адносін пастаўлена зусім у ...роўню.

...ст Расеі — старой, абноўленай ці зусім «новай» — Польшча мае ...бою бушуючае мора комуністычнай рэвалюцыі, жадаючай зама-...формы «дзяржавы-комуны», з якой, вядома, ніякіе згаворы не-...ы і якая не пакіне змагацца за зьдзейсненьне ўсесьветнай рэва-... Замест цьвёрда ўстаноўленых загадаў усемагутнага арэопагу — ... неакрэсьленнасьць, выкліканая як немагчымасьцю пры сучас-...ставінах вырашыць у поўным аб'ёме «ўсходную проблему», так і ...насьцю інтарэсаў саміх суседзяў.

...дгатаванай Польшчы прыходзіцца вырашаць гэту проблему сам-... народамі, якіе на месцы праваліўшайся імпэрыі заявілі волю да ...ўнага існаваньня. Гэткая сітуацыя аказалася шмат адпаведнай-...ым купля-прадажа ў зацішках дыплёматычных габінэтаў.

...оды аказаліся не так ідэальна сарганізаванымі і не так уступчы-...к іх старыя ўрады. Разам з гэтым іх нібыто відавочная фізычная ...ць параджала вялікіе апэтыты і магчымасьці, шырыла для Поль-...літычные гарызонты, надзіла здзейсненьням аграмадных, амаль ... ўсесьветнага значэньня плянаў.

... націскам шпаркіх палітычных падзей польская мысьль пачала ... шукаць патрэбные словы, апрацоўваць адпаведные новаму часу ...цыі. І першае, што сустрэнулося на шляху гэтых спроб, была Бе-... (...)

...джэньне Беларусі можна разумець з аднаго боку як эволюцый-...ьтурны процэс, які ў дацяперашні час быў гвалтоўнымі захадамі ...скай дзяржавы прыдушан і які цяпер, у варунках вольнай дэ-...ычнай дзяржаўнасьці, павінен развівацца нормальна і ў канеч-...зультаце прывесьці да самастойнай беларускай культуры. Процэс ... істоце сваей спакойны і знаходзіцца ў залежнасьці ў першую ...д ўзроста інтэлектуальных сіл краю, якіе нельга стварыць адпа-... распараджэньнем дзяржаўнай ўлады; ад палітыкі ён залежыць ...ькі, наскалька ў дзяржаве можа быць пастаўлена пытаньне: ці ...ці німа беларускай нацыональнасьці. Калі на гэтае пытаньне ...ва адказвае нэгаціўна, дык німа мовы аб гарантыях для яе раз-... а ёсьць простая забарона яе; калі ж на пытаньне гэтае адказва-...дна, дык у сучаснай эўропэйскай дзяржаве звычайна ўжо не ім-... да спыну культурнага ўзросту народу; можнасьць развіцьця ра-...да сама сабой, і ідзе гутарка аб як найлепшым забяспечаньні та-...росту.

г.д. — амаль поўнасьцю перадаюцца компэтэнцыі месцовых органаў урадаваньня: краёваму сойму як законадаўчаму абаронцу месцовых інтэрасаў і краёваму ўраду як органу выканаўчай месцовай палітыкі.

Сучасная Польшча лічыць сябе заходна-эўропэйскай дзяржавай і дзеля гэтага вызнае патрэбу вольнага развіцьця беларускай культуры.

Але галоўная прычына, зразумела, ляжыць ня ў тым, што Польшча лічыць беларускі народ за асобную нацыю. Як было зазначана вышэй, сярод польскага грамадзянства больш популярна пераконаньне, што беларусы — гэта этнографічна *teren przejściowy*, а беларусы-каталікі гэта амаль што звычайныя палякі.

Галоўнае аб'ясьненьне крыецца ў тым, што развіцьцё беларускай культуры ляжыць ў інтэрасе Польскай дзяржавы, і калі польская палітыка ідзе насустрэч дамаганьням беларусаў аб нацыянальнай школе, мове, звычаях і г.д. — дык гэтыя пляны можна лічыць даволі шчырымі. Трэба толькі даваць ім належнае аб'ясьненьне і не надта імі захапляцца.

Старая Расея не баялась Польшчы і дзеля таго не ганялась за тым, каб прывярнуць беларусаў да сябе і тымі ці іншымі ўступкамі абярнуць іх супроць Польшчы. Да таго ж, беларускі народ быў заўсёды этнографічна бліжэй да яе, нічым да Польшчы, і паддаваўся пэўнай асыміляцыі. З яго ня трэба было нават рабіць свайго саюзьніка супроць каталіцызму, як гэта мела месца ў грунтоўна рознай этнографічна Літве. І таму на Беларусі была палітыка не ўступак, але наймацнейшага гвалту.

Сучасная Польшча, па-першае, баіцца Расеі, баіцца магчымай «усходнай навалы» і, па другое, яна бачыць, што нацыянальна розную Беларусь не ў яе сілах перэтварыць ў нацыянальна польскі край. І таму яна ідзе шляхам уступак ў дзедзіне нацыянальнай культуры, зацікаўлена ў нацыянальным узросьце Беларусі і зьвертаньні яе фронтам супроць усходу. Польскай дзяржаўнай думцы ясна карысьць ад беларусаў як саюзьнікаў; ясна карысьць ад стварэньня паміж ей і Расеяй нацыянальна-асобнага беларускага барьеру, які хоць крыху мог бы бараніць яе ад «навалы са ўсходу» і прыняць на сябе адтуль першы ўдар.

Вызначаючы карысьць ад беларускага нацыянальнага адраджэньня і даючы яму пэўныя гарантыі, польская палітычная думка ставіць яго аднак у залежнасьць ад двох варункаў:

а) адраджэньне беларускай нацыі павінна абхапіць сабой увесь магчыма поўны этнографічна-беларускі абшар на ўсход, але павінна адмовіцца ад заходных яго частак. Горадзеншчына і Віленшчына, ня толькі ў каталіцкай сваей частцы, але наагул, павінны быць прызнаны за абшар польскі і тут цалком павінна запанаваць польская культура.

раджэньне беларускай нацыі павінна адбывацца ў межах польс-
ржаўнасьці, г.зн. у тэй ці іншай залежнасьці ад Польскай дзяр-

ч мяркаваньняў чыста палітычнага характару, аб якіх мы мелі
ьць успамянуць, гаворучы аб тэорыі «гістарычных граніц» у вы-
ню п. Галецкага, прыводзяцца яшчэ і іншые мяркаваньня. У
ы прынята думаць, што Беларусь культурна, духоўна больш
а да Польшчы, чым да ўсходу, што ў ей больш моцны культур-
дыцыі захаду, што яна больш «цягне» да Варшавы. Польская су-
ць у гэтым сенсе недалёка адыйшла ад точкі погляду месцовага
га патрыотызму 30—60 гг., і ў ей жыве пераконаньне, што дзя-
сувязі Беларусі з Польшчай у мінулым, сувязі, якой не магла
150-гадовае панаваньне Маскоўшчыны, і дзякуючы прысут-
на Беларусі польскай меншасьці, увасабляючай польскі «культур-
італ», — на Беларусі «пламянее польскі дух», нават да ўсходніх
ў Магілёўшчыны і Вітэбшчыны.

угога боку, пэўная частка палякаў лічыць, што беларускае адра-
е цесна зьвязана з Польшчай і што, ласьне, дзякуючы апошней,
кі рух набываў увесь час сілы для змаганьня з расейскім царыз-
ольшча ў гэтым сенсе лічыць сябе ня толькі саюзьнікам адраджа-
Беларусі, але нават яе апекункай. «Калі толькі беларусы не за-
стапіцца ў усерасійскім моры, дык яны павінны зразумець прак-
абавязковасьць аўтаномнай сувязі сваей з Польшчай», — кліча
ялкоўскі.

на гэткі «практычны грунт» і становіцца ідэолёгія, лічучая пат-
абаперці адраджэньне Беларусі на Польшчу.

ьшча, сьведчыць яна, — дзяржава з адносна невялікім насялень-

нават не згадзіцца, што Польшча больш нацыянальна толерант-
Расея, і прызнаць, што здольнасьць польскай культуры датычна
оналізацыі Беларусі аднолькава са здольнасьцю Расеі, то ўсё ж
рыймаючы пад увагу лік насяленьня абедзьвех старон, напор дэ-
алізуючых сіл з боку Польшчы будзе заўсёды ў 4, а нават і ў 5
шы, чым з боку Расеі.

ыяйлівае развіцьцё беларускай культуры пад Польшчай забяспеч-
яшчэ тым, што працілегласьці беларускай і польскай культуры,
ючые з іх нацыянальнай адлегласьці, неўпараўнаньню вялікшые,
ультуры беларускай і расейскай. Беларус этнографічна бліжэй вя-
у, ён два апошніе сталецьця жыў з ім у аднэй дзяржаве, прывык
мова беларуса непараўнаньню бліжэй да мовы расейскай, чым да

мове. Ня гледзячы на сваю адсталасьць, Расея ўсё ж такі мае да распараджэньня нагэтулкі значны рэзэрвуар культурных сіл — учыцельства, чыноўніцтва і інш., — што адбіцца ад наплыва іх Беларусі заўсёды будзе трудна. Расея ўжо сотні гадоў валадзела Беларусьсю, расейская культура пранікла ў тоўшчу народа, ва ўсе галіны беларускага жыцьця, яна амаль што зусім дэнацыяналізавала беларускі горад і ў значнай меры дэнацыяналізавала беларускую вёску, — яе трэба будзе з аграмаднымі высілкамі выкарчоўваць, у той час калі польская культура павінна будзе нанова заваёўваць Беларусь.

Да таго ж, Польшча — дзяржава заходнай культуры і, як Беларусь у часе свайго росквіту ў мінулым, бярэ свой пачатак ад крыніц рымска-романскай цывілізацыі. Польшча, як і Беларусь, заўсёды стаяла тварам на захад, а не на ўсход, і толькі гвалтоўніцкая палітыка маскоўскага царызма прымусіла яе завязнуць у нятворчым візантызме і глядзець на поўазіяцкую Маскву як на другі Рым. Дзеля гэтага і сёніка, пасьля таго, як парвана сувязь Беларусі з Расеяй і Беларусь пачынае ўваскрашаць сваю мінулую славу, яна павінна зьвязаць свой лёс з Польшчай як бліжэйшай заходнай суседкай. Добра і тое, што адраджэньне беларускага народу адпавядае польскім інтарэсам, бо яно можа абаперціся ня толькі на плятонічные сымпатыі ці антыпатыі, якіе граюць у дзяржаўным жыцьці даволі зьняверную ролю і могуць зьнікнуць пад уплывам прыпадковых абставін, а на фактары сталые, ад сымпатый незалежные.

Апошнім і галоўным довадам на карысьць збліжэньня Беларусі з Польшчай зьяўляецца ссылка на констытуцыйнасьць польскага народу і яго дзяржавы. Расея — гэта старана без дзяржаўнага розуму ў эўропэйскім разуменьні, старана няўроўнаважаная, старана палітычных крайнасьцяў. Гэта — дзяржава ці «скованных рабов», калі на чале яе сядзіць цар, ці — дзяржава «рабов взбунтовавшыхся», калі ў ей пануець самая дзікая, нестрыманая анархія. Зьвязываць свой лёс з ей — гэта значыць рабіць скок у невядомасьць і падвадзіць Беларусь пад рызыку загінуць у грамадзянскай вайне ці зноў трапіць у старую «турму народаў».

Як бы там ні было, але ўсе проэкты дзяржаўнага аб'еднаньня Беларусі з Польшчай гарантуюць ей свабоднае развіцьцё культуры. Хоць гэта і програма-мінімум, але яна рэальна, вядзе да добрых мэт, урэшці, адпавядае ўдзельным суадносінам сіл абедзьвех старон. Правы, якіе прыпадаюць Беларусі згодна гэтых програм, можна ў рэспубліканскай Польшчы замацаваць у адпаведнай констытуцыі і быць пэўным на будучыну, што яны ня будуць зьменяны пад уплывам якіх-небудзь часовых, пераходзячых падзей.

орым з вышэйнаведзяных аргумэнтаў ня можна адмовіць у ьці, але агульна кажучы, у іх зашмат гістарычнага ідэалізму і, е, яны занадта вялікае значэньне прыдаюць пісанаму закону.

ачацца з тым, што старая беларуская культура шла з заходу і бырганічна зьвязана — нельга. Даволі ўспомніць хоць бы біогра- Францышкі Скарыны. Таксама нельга спрэчацца з тым, што частка польскага грамадзянства за часоў рэвалюцыйнай барацьвае вызваленьне ўплыла на беларускае адраджэньне і нават ў годы царызму ідэйна дапамагала беларускаму руху. Але гэтые адта мала, а мо і зусім нічога не гавораць на карысьць палітычеднаньня Беларусі з Польшчай. Гісторыя сьведчыць хутчэй на- што культурнаму беларускаму адраджэньню трэба ўнікаць палісувязі з Польскай дзяржавай.

## «ЗАПАДНО-РУССИЗМ»

*(Фрагмент)*

западно-руссизмом» мы разумеем тую плынь у гісторыі грамамкі на Беларусі, якая лічыла, што Беларусь не зьяўляецца красобнай нацыянальнай культурай і ня мае дзеля гэтага права на йнае культурнае і палітычнае разьвіцьцё, але што яна зьяўляецурна і дзяржаўна часткай Расіі і таму павінна быць разглядана з яе састаўных элемэнтаў. Прадстаўнікі гэтае плыні імкнуліся , што Беларусь як «Заходняя Расія» непадзельна зьвязана з цэ- «адзінай вялікай Расіяй» і што беларусы як адно з славянскіх няў органічна ўваходзяць у склад «единого русского народа».

рацягу XIX і пачатку XX веку «западно-руссизм» згуртаваў вакол чны лік прыхільнікаў, выпрацаваў сваю ўласную ідэолёгію і ў онсе процістаўляў сябе плыні нацыянальна-беларускай. За мінуён перажыў некалькі адценьняў і адмен, аднак заўсёды быў хаы паказанай ідэяй — служэньнем ідэалу адзінае Расіі і адпаведсыфікатарскімі тэндэнцыямі ў стасунку да Беларусі. У гэтым ожна з упэўненасьцю разважаць аб «западно-руссах» як аб пэўарычнай школе, кіраванай суцэльным сьветаглядам і акрэсьлетыкай.

кненьне на Беларусі «западно-русской» плыні трэба аднесьці алёка, да тых часоў, калі побач з дзяржаўным узростам Расіі ў ых колах насельніцтва Беларусі, у першую чаргу сярод правас- і вуніяцкага духавенства, пачала ўзмацняцца думка, што Бела- гачасная «Літва») ёсьць «Заходняя Русь» і што ў барацьбе з

радавай. Вуніяцкія папы пасьля гэтага сабору павінны былі, на мане ксяндзоў, галіць бароды, насіць сутаны замест рас, прыняць кнігі рымскага друку, зьняць у сваіх царквох іконастасы, завесьці арганы, званочкі і г.д. Сярод вуніятаў пачалася з таго часу глухая барацьба: адны жадалі застацца «пры старыне», пры сваіх ранейшых звычаях і рытуалах, другія лічылі для сябе абавязковымі пастановы Замойскага сабору. Най больш упартымі ў барацьбе былі тыя групы, якія ў старых звычаях і абрадах угледзелі сувязь з уласнай гісторыяй, а нават нацыянальнасьцяй. Гэткімі былі старавуніяцкія прыходы ў Галіччыне, якія бачылі ў новым павароце спраў пагрозу вуніі з боку каталіцызму і захопніцкія пляны Польшчы[1].

Падобная старавуніяцкая партыі, праціўная Замойскім наватарствам, была і на Беларусі. Як вядома, вунія тут была старой мясцовай «мужыцкай верай» і мела здаўна вельмі адданых прыхільнікаў. Пры канцы XVIII веку, бачачы, як занепадае вунія пад націскам Рыму, правадыры яе на Беларусі ўсімі сіламі імкнуліся захаваць «старыну», прычым шчыра жадалі зьдзейсьніць «прымірэньне» паміж каталіцтвам і праваслаўем. Аднак чым менш спробы іх удаваліся і чым больш упэўняліся яны ў намерах Рыму ліквідаваць вунію, тым больш схіліліся яны на бок Масквы ў надзеі, што пры яе падтрымцы здолеюць зьберагчы чыстату вуніяцкае рэлігіі. Масква заўсёды ахвотна ішла насустрач падобным надзеям і рабіла вуніятам усялякія падтрымкі, асабліва калі знаходзіла ў гэтай падтрымцы магчымасьць чым-небудзь шахаваць Польшчу. Пацёмкін, адзін з бліжэйшых супрацоўнікаў Кацярыны II, вёў у гэтым сэнсе шырокую палітычную гульню, выкарыстоўваючы для яе вядомага беларускага вуніяцкага дзеяча Лісоўскага і імкнучыся праз яго зьвязаць вуніяцкае пытаньне з пашырэньнем у Польшчы расійскіх уплываў[2]. Самая Кацярына II нічога ня мела супроць гэтае гульні, бо ў пытаньні аб далучэньні Беларусі да Расійскае імпэрыі і ў пытаньні яе русыфікацыі мела даволі выразныя пляны. Нягледзячы на афіцыяльныя загады аб захаваньні ўсіх асаблівасьцяй Беларусі пасьля падзелу Польшчы ў 1772 г., яна ў патаемных наказах сваім прадстаўнікам тут выказвала ня раз жаданьне, каб між Беларусьсю і Расіяй зьнікла грань «инородия» і каб гэтыя дрэўнія абшары рускія зрабіліся рускімі не адным толькі імем, але «душою і сэрцам»[3].

Расійская палітыка здаўна вельмі падазрона ставілася да «захаду» і змагалася супроць заходняга «лацінства». У 1727 г. смаленскі арх. Філафей пісаў у Сынод, што «смаленская шляхта пасылае сваіх дзяцей вучыцца ў лацінскія школы за літоўскі рубеж»[4]. Сынод адразу паведаміў аб гэтым Вярхоўны Тайны Савет, і 16 лютага 1728 г. быў напісаны «высочайший указ» Сыноду, каб «смаленскае шляхты дзяцей за рубеж у Польшчу для навук і ні для чаго ніяк ня пушчаць і абвясьціць гэтай

што калі яна сваіх дзяцей лацінскай і іншым мовам вучыць жа-
вучыла іх у расійскіх школах, паколькі гэткіх школ у Маскве і
малы лік»[5].
рына II вельмі цьвёрда праводзіла гэтую думку. Яе палажэньне
ных и малых народных училищах», якія былі заведзены ў По-
Магілёўскай губэрнях у 1789 г. «для народу, а не для шляхты»,
сканалым дапаўненьнем да распаўсюджаньня на Беларусі расій-
онаў, да будаўніцтва тут праваслаўных цэркваў і інш. У 1791 г.
расійскія школы» былі адкрыты ў павятовых гарадох Магілёў-
амесьніцтва — Воршы, Капысі, Мсьціслаўлі, Чэрыкаве і Чаву-
1794 г. адкрыта чатырохклясавая школа ў павятовым тады гора-
ацкага намесьніцтва — Віцебску. Тыя прамовы, якія былі ска-
д час адчыненьня школы ў Магілёве вядомым Георгіем Каніс-
лі аднэй з праяў «цягі» праваслаўных і часткі вуніятаў у
— на Маскву[6].
ньне аб тым, наколькі далёка ішлі ў гэтым сэнсе пляны Каця-
, у навуцы дакладна ня высьветлена. Ёсьць думка, што справа
ацыі далучаных тэрыторый, у тым ліку і Беларусі, здавалася ёй
туманнае будучыні і што да зьдзейсьненьня яе яна не прысту-
е з гэтым згадзіцца цяжка — ужо адзін факт аснаваньня на Бе-
амянёных вышэй «народных» школ сьведчыць пра адваротнае.
жа сучасна сьведчыць і вядомае «насаждение» на Беларусі расій-
мляўласнасьці шляхам раздачы канфіскаваных польскіх маёнткаў
нінскім фаварытам. Праўда, далучэньне Беларусі да Расіі адбы-
ы Кацярыне II мэханічна ў сувязі з падзеламі Польшчы, галоў-
нам дзеля дзяржаўных, а не нацыянальных меркаваньняў, аднак
думаць, што ёй было ўсё роўна, у якім характары знаходзяцца
ыя провінцыі да Расійскае дзяржавы. Напрыклад, гр. Безбарод-
бліжэйшы супрацоўнік, ведаў, што «сяляне ў Літве і ў нас адзін
равы ў суседзтве маюць» і што для таго, каб яны «абруселі і да
ьня прывыклі», трэба пасылаць туды для вярхоўнага кіраўніцтва
сопётов і тому подобное», а людзей паважных, ад дзейнасьці якіх
ло бы взаимное уважение»[7]. Сама Кацярына раней Безбародкі
ла аб гэткім абрусеньні. У перапісцы з Грымам[8] яна заўсёды
ьлівае, што далучэньнем Беларусі да Расіі яна не захапіла нівод-
залка польскае зямлі. «Гэтага дурня Гэрцбэрга[9] варта пабіць, —
на Грыму, — ён столькі ж ведае гісторыю, як мой папугай. Ён
азаць, што Расія ніколі ня мела права заўладаць Полацкам», тым
, які яшчэ Уладзімерам I даны быў на ўдзел свайму старшаму
яславу, старшыні роду князёў полацкіх. Літву ён аддаў другому
айму, Сьвятаславу, які ня меў патомства. У 1386 г. пяты сын
а, Ягельлён, або Якаў, прыняўшы лацінскую веру і жаніўшыся
зе, каралеве польскай, зрабіўся каралём польскім. Ён і аб'яднаў
Польшчай. Гэтага ня ведае дурны і няпісьменны міністр. Гэты

ёй «лекцыі» прускаму ўраду. «Пры падзелах Польшчы, — піша яна другім месцы таму ж Грыму, — я не атрымала ніводнага вяршка польс кае зямлі, а ўзяла тое, што самі палякі называюць Чырвонаю Русьсю... Што датычыць Літвы, дык яна ніколі ня была Польшчай... Палякі пра дажныя, сапсаваныя, лёгкамысныя, дэспотычныя; яны ссуць кроў з сва іх падданых і плацяць ім за гэта вельмі мала — вось вам жывы партрэ палякаў, якія нават ня ведаюць, што ў мяне няма ніводнага вяршка польскай зямлі, і прапануюць мне польскую карону»[11].

Сваю палітыку «распалячваньня» Беларусі Кацярына II праводзіла ў рэлігійным абсягу. У сувязі з сэкулярызацыяй у 1795 г. лішніх базыль янскіх манастыроў і скарыстаньнем іх фундушаў на арганізацыю епар хіяльных сэмінарый на Беларусі яна пісала таму ж Грыму: «Вуніяты рымскае духавенства скардзяцца, што іх прасьледуюць. Справа ў тым што рымскае духавенства ўвяло вунію ў Літву для таго, каб завабліваць праваслаўных. Тымчасам у мінулым годзе (1795) шмат вуніяцкіх прыхо даў вярнулася да нашае праваслаўнае царквы. Зразумела, вуніяты пад няслі тады лямант, бо іх духавенства апынулася бяз паствы»[12].

Разам з тым у сваіх адносінах да далучаных правінцый Кацярына II была заўсёды вельмі асьцярожнай. Так, напрыклад, у сакрэтнейшым на казе кн. Вяземскаму яна яшчэ ў 1764 г. пісала аб заходніх правінцыях што «парушаць прывілеі іх усе адразу вельмі няпрыстойна было б, аднак і называць іх чужаземнымі і абыходзіцца з імі на гэткай аснове ёсьць больш, чым памылка, а можна сказаць з пэўнасьцю, што глупства... Іх трэба лягчэйшым спосабам прывесьці да таго, каб яны абруселі і перас талі глядзець, як ваўкі ў лесе»[13].

Як бы там ні было, але рэальна прыступіць да русыфікацыі Беларусі Кацярына II у поўнай меры ня здолела: ёй перашкодзіла ў гэтым сьмерць. Ня здолела яна, між іншым, арганізаваць «малыя народныя школы» на тых беларускіх абшарах, што адышлі да Расіі пасьля другога і трэцяга падзелу Польшчы ў 1793 і 1795 гг. Тым ня менш патрэбны кірунак у стасунку да Беларусі ёй быў даны, і ўся «западно-русская» традыцыя беспасрэдна з ёю зьвязана. «Расія заўсёды ведала Заходнюю Расію, — зазначае з гэтае прычыны выдатнейшы прадстаўнік «западно-руссизма» М.Каяловіч, — і расійская ўлада і літаратура ніколі не забывалі аб сваіх правах на Западную Расію і заўсёды напаміналі аб гэтым Польшчы»[14].

Эпоха цараваньня Паўла I была часам ліквідацыі мерапрыемстваў, задуманых Кацярынай II. Хоць у 1799 г. і былі адчынены дзьве «малыя» расійскія школы ў Веліжы і Невелі, але разам з тым была закрыта школа ў Копысі, а Полацкае «галоўнае» вучылішча было рэформавана ў «малое». Зацікаўленасьць расійскае палітыкі да Беларусі ўсё больш спадала, і ўся справа асьветы зноў апынулася ў руках мясцовых духоўных

— піараў, базыльян і інш. Была, як ведама, адноўлена на Бела- «Літоўскага Статуту».

час Аляксандра I пачаўся ўжо адваротны працэс — узмоцненай цыі Беларусі. Галоўную ролю ў гэтай справе адыгрываў заснава- тудзеня 1803 году Віленскі унівэрсітэт на чале з куратарам акру- Ад.Чартарыскім. Гэта быў цікавейшы час у гістарычным жыць- русі, калі іменна ў сувязі з узростам культурных уплываў Поль- тым жа самым Віленскім унівэрсытэце сярод тагачаснай профэ- беларускага пахаджэньня зарадзілася думка аб самастойнай е краіны і аб магчымасьці яе адраджэньня, незалежнага ад ы і Расіі. У гэты час асабліва яскрава ўспыхнулі сярод мясцовага нства традыцыі былога княства Літоўскага — традыцыі, якія, ніколі не перарываліся ў Вільні з самога акту Люблінскай вуніі ператрывалі ўсе падзелы Польшчы і захаваліся да паловы XIX веку. ў рэдкіх выпадках тагачаснае беларускае грамадзтва ў сваёй ба- з Польшчай абапіралася на Расію, а калі і абапіралася, дык не не з жаданьнем замяніць Польшчу на Расію, а каб пры дапамозе й адбіцца ад надзвычайна моцных, эканамічных, культурных і ных уплываў польскіх і абараніць свае ўласныя, «літоўскія», ін- У першую чвэрць XIX в. мы яшчэ ня можам гаварыць аб «за- руссизме» ў дакладным разуменьні гэтага слова.

адно-руссизм» упяршыню рэльефна зазначыўся і набыў сваю у ў эпоху царaваньня Мікалая I, пры міністры Увараве, калі, па Пакроўскага, «Расія трымалася як консэрв у гермэтычна закупо- аробцы». Пад час змаганьня мікалаеўскага рэжыму з «духам рэ- і», пад час «эўропофобіі», якая тлумачылася «боязнью перад эў- кім капіталам, эўропэйскай буржуазіяй і буржуазна-дэмакратыч- эямі», у гэты час пачаў вырастаць і «западно-руссизм» як адна з тага змаганьня ў заходніх провінцыях імпэрыі. Галоўным прад- ом яе ў гэты час быў Іосіф Сямашка, украінец па паходжаньні, ец Віленскага унівэрсітэту і выдатнейшы правадыр аб'яднаньня праваслаўем.

Сямашкі ў разьвіцьці «западно-руссизма» выключна важная. жна лічыць сапраўдным «бацькам» гэтае школы, і толькі той то сам ён не зьяўляецца беларусам, не дае нам магчымасьці за- асьледваньнем яго дзейнасьці[15].

ча вуніяцкага пытаньня, якое дало найбольшы імпульс для разь- «западно-русской» ідэолёгіі, гэтаму разьвіцьцю дало мацнейшы к першае польскае паўстаньне 1831 г. і зьвязаныя з ім падзеі. орыентацыі беларускіх вуніятаў «на Маскву» мы зазначылі заці- сьць, калі можна гэтак сказаць, больш «дыплёматычнага» харак- даньне абаперціся на Расію дзеля ўзмацаваньня веры сваіх дзя- роць ваяўнічага каталіцызму і толькі *пры гэтым* (г.зн. пры вуніі,

папоўцы, служылы люд, мяшчане па гарадох — усе яны былі *эканоміч-на* зацікаўлены ў пасьпяховым правядзеньні барацьбы. Забарона польскае мовы і асьветы, забарона палякам паступаць на дзяржаўную службу і займаць лепшыя пасады, конфіскацыя маёнткаў польскіх памешчыкаў і іншыя мерапрыемствы, што мелі сваёй мэтай паслабіць сілу польскіх уплываў на Беларусі, адкрывалі найлепшыя пэрспэктывы перад усімі гэтымі мясцовымі людзьмі. Ходам справы яны павінны былі займаць месца выцісканага польскага элемэнту, а дзеля таго што права на падобнае заняцьце давала расійская ўлада і яе палітыка, давала, агулам кажучы, «праваслаўная царская Масква», дык тут то і вытыркала экономічная сутнасьць «западно-русской» ідэолёгіі.

Чым больш завастралася барацьба расійскага царызму з «пальшчызнай» у заходніх губэрнях, тым больш грунту было для ўзмацаваньня «западно-русской» плыні. Аднак дзеля таго, што сутна-дваранская палітыка Мікалая I не пашла далёка ў зьнішчэньні польскага памешчыка на Беларусі дый з прычыны клясавай салідарнасьці з ім гэтым шляхам пайсьці не магла, «западно-руссизм» не разьвінуўся тады ў належным выглядзе. Носьбітамі і прадстаўнікамі яго былі занадта «дробныя людзі» і ніколі буйныя магнаты, нават ня проста дваране, памешчыкі; таму яны і не маглі атрымаць сабе прызнаньня ў Расіі Мікалая I. Адно толькі грунт для «западно-руссизма», як мы казалі, стварыўся вельмі спагадны. Разгром арганізаванай польскай фізычнай сілы ў выглядзе польскіх войскаў, закрыцьцё Віленскага унівэрсітэту, ліквідацыя вуніі ў 1839 г., спыненьне «Літоўскага Статуту» ў 1840 г. і замена яго агульнарасійскімі законамі, урэшце, працяглая дзейнасьць сакрэтнага «Западного Комитета», якому была пастаўлена мэта «прыраўнаць заходнія губэрні, ад Польшчы далучаныя, ва ўсіх адносінах да ўнутраных вялікарасійскіх губэрняў», — усё гэта расчысьціла шлях перад «западно-руссизмом». У запісках і проектах, якія пасыпаліся тады ў «Западный Комитет» ад губарнатараў з беларускіх і ўкраінскіх губэрань, а таксама ад розных «спачуваццеляў» справы, ясна ўжо гаворыцца, што Беларусь разам з Літвой зьяўляецца «дрэўняй Славяніяй», якая «однородна» з Вялікарасіяй па мове і веры, і што гэтае «адзінства мовы і законаў родзіць адзінства пачуцьця і паняцьцяў, без якіх няма трываласьці ў існаваньні народным»[16].

Большасць першых «западно-руссов» выхавалася ласьне ў гэтую эпоху, калі ўпяршыню быў выкінуты знамяніты ўвараўскі лёзунг аб «православии, самодержавии и русской народности» і калі па загаду Мікалая I было закрэсьлена нават самае імя Беларусі[17].

Урэшце, апошнім этапам разьвіцьця «западно-русской» школы былі 60-я і 70-я гады мінулага веку, другое польскае паўстаньне і гвалтоўная палітыка М.Муравьёва. У гэтыя гады «западно-руссизм» набыў сваё

імя і падвёў пад сваю палітычную праграму нібыта навуковы
ант. Далейшае разьвіцьцё яго пад час рэакцыі Аляксандра III і
II пайшло ўжо бяз значных перапынкаў і дакацілася да сучас-
хі — імпэрыялістычнае вайны і рэволюцыі.
рацягу гэтай доўгай гісторыі «западно-руссизм» вырас у вагром-
палітычную сілу, якая затрымлівала разьвіцьцё беларускага куль-
адраджэньня і якая гэтак цяжка падбівала разьвіцьцё беларускай
нчай ідэі нават на нашых вачох. У пэўным разуменьні яна
я антытэзай сілам полёнізуючым, якія ішлі на Беларусь з захаду
намагаліся тэорыяй і практыкай давесьці, што Беларусь ёсьць
Польшчы і што беларуская народная культура ёсьць сваяадмен-
ьская культура. «Западно-руссизм» ласьне і змагаўся супроць гэ-
дэнцыі, але ў інтарэсах не Беларусі, а «Вялікае Расіі». У гэтым
ультурная гісторыя Беларусі ў XIX—XX стст. і была выражэнь-
емнае барацьбы русыфікацыйных і полёнізуючых начал за геге-
ў Беларусі.
ледваньне прыроды і гісторыі «западно-руссизма» зьяўляецца, на
гляд, амаль такім жа абавязковым, як і дасьледваньне разьвіцьця
беларускага руху. Ён складае адмоўны бок агульнага працэсу гіс-
ультуры на Беларусі, творыць адзін з яе элемэнтаў і ў гэтым сэн-
нам шмат чаго да разуменьня беларускага мінулага.
гэтым мусім зазначыць, што для мэт нашага дасьледваньня пе-
ае значэньне мецьме агляд ня ўсіх дзеячоў «западно-русской»
і і ня ўсіх русыфікацыйных уплываў. Нас будуць цікавіць пера-
толькі тыя зьявы, якія выходзілі і нараджаліся ў самой Беларусі,
ма толькі тыя іх прадстаўнікі, якія былі этнографічна ці, як ка-
тэрыторыяльна», беларусамі. Бо толькі апіраючыся на іх, можна
за зьместам грамадзкіх рухаў на Беларусі ў мінулыя гады, за
ьцём яе грамадзкай мысьлі і разам з тым, толькі дасьледуючы іх
ёгію, можна рабіць плённыя вывады і абагуленьні ў стасунку да
нае гісторыі нашае краіны наогул.

---

Likowski «Dzieje kościoła unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX w. w.», 1906. ч. II, st. 38 і далей.

овіч называе палітыку Пацёмкіна «дурачеством», але гэта ня зусім справядліва: гл. «К предсто- 50-летию воссоединения западно-русских униятов», асоб. адб., стар. 26, тут жа літаратура аб цёмнай справе.

Моск. О-ва истории и древностей. 1866, кн. 1, смесь.

[10] Сборник. Русск. Истор. О-ва, т. XXIII. N 238, стар. 620.

[11] Ibid., N 248.

[12] Сборник. Русск. Истор. О-ва, т. XIII, N 247.

[13] Ibid., т. VII, стар. 348.

[14] М.Коялович «Лекции по истории Западной России», 1864, стар. 20—21.

[15] Ва ўмацаваньні «западно-русского» разуменьня Беларусі выдатнейшае значэньне мелі тры вядомыя «запіскі» Іосіфа Сямашкі: першая — ад 5 лістапада 1827 г. на імя міністра асьветы Шышкова, дзе вылажаны социяльныя, эканамічныя і палітычныя патрэбы аб'яднаньня вуніі з праваслаўем; другая — ад 30 верасьня 1830 г. Мікалаю I і трэцяя — ад 26 лютага 1859 г. Аляксандру II аб патрэбах і формах змаганьня з полёнізмам у Беларусі. Гэтымі запіскамі І.Сямашкі цалкам быў падрыхтаваны грунт для «западно-русской» школы з сярэдзіны мінулага веку, ад якога часу мы і пачынаем свае нарысы.

[16] «Чтения», 1866, кн. I, стар. 103 — «О необходимости уничтожения отдельных прав в губерниях от Польши присоединенных».

[17] Гл. «Городские поселения в Российской империи», т. II, СПб., 1863; 18 ліпеня 1840 г. пры выпадку, калі яму трэба было падпісаць указ, у якім паміналіся губэрні Беларускія, Мікалай I, закрэсьліўшы назву «Беларускія», загадаў перапісаць указ з найменьнем кожнай губэрні — Віцебскай і Магілёўскай — паасобку; пры гэтым надпісаў уласнай рукой рэзолюцыю: «правила сего держаться и впредь, никогда иначе не прописывая, как поименно губернии». Цікава, аднак, што ў справаводзтве Сэнату назва «белорусские губернии» захавалася, нягледзячы на загад Мікалая I і пазьнейшыя забароны, на працягу ўсяго стагодзьдзя да 1893 г. (гл. загад Сэнату мін. унутр. спраў ад 12 чэрвеня 1893 г. аб выкупных актах у губэрнях «северо-западных и белорусских»; С.Рубинштейн «Хронологический указатель указов и правительственных распоряжений по губерниям Западной России» за 240 лет — с 1652 по 1892 год», СПб, 1894, стар. 849).

КАНЧЭЎСКІ

1923)

соф, асветнік, паэт і публіцыст. Адзін з тэарэтыкаў беларускай нацыя- ідэі. Скончыў Віленскае рэальнае вучылішча (1913). Вучыўся ў Пецяр- тэхналагічным інстытуце, на гісторыка-філалагічным факультэце Мас- а універсітэта (1913—1916). Са студэнцкай аўдыторыі забраны на вай- службу (1916). Пасля афіцэрскага вучылішча ў чыне прапаршчыка вая- Румынскім фронце (1916). З 1919 г. у Вільні. Браў удзел у беларускім на-асветным і грамадскім жыцці. Прыхільна ставіўся да ўкраінскага на- ьнага руху. Працаваў служачым у віленскім Саюзе беларускіх каапера- ў вучнёўскі гурток па геаграфіі ў Віленскай беларускай гімназіі. Сябра кага навуковага таварыства ў Вільні. Выступаў з артыкуламі, філасофскі- вершамі і перакладамі ў беларускім перыядычным друку (газетах «Бела- едамасьці», «Наша думка», «Наш сьцяг» і інш.). Перспектыву высокага нага, эканамічнага і палітычнага развіцця беларускага народа звязваў з ай дзяржаўнай незалежнасці Беларусі.

## АДВЕЧНЫМ ШЛЯХАМ

**Дасьледзіны беларускага сьветагляду**

Час, калі трэба журыцца
Душою на сьвежых магілах
Пуста пранёсшыхся днёў.

*М.Багдановіч*

*чаецца У.І.)*

ь, як граніца паміж Усходам і Захадам. — Грунтоўная адзнака беларус- оры — духовае ваганьне паміж Усходам і Захадам. — Тыповыя адзнакі Усходу і Захаду. — Мэсыянізм Усходу і Захаду.

ны часы — часы агульнай заблутанасьці, часы паўстаньня пра- к быццам ідэалаў і іх канечнага зьніканьня праз недаўгі час... Тое, ней здавалася чыстым і сьветлым, штодзённа аплятаецца жыць-

даць беларусам права на законнае сярод іншых народаў існаваньне. У невыразнасьці беларускай культуры хочуць бачыць духовую сьмерць народу, яго няздольнасьць вызначыць свой уласны ідэал. Фармальна мы павінны згадзіцца, што ў нас неакрэсьлена культура, што ў нас смутны гістарычныя шляхі, але ў гэтым ня можна бачыць духовай беднасьці нашага народу, яго няздольнасьці ўласным крокамісьці да вытварэньня ўласных формаў жыцьця, — не, жыцьцёвыя акалічнасьці даводзяць аб іншым, што нават меней здольныя, меней сільныя народы вытварылі культурна-вызначанае жыцьцё. Калі беларускі народ не стварыў выразнай культуры, дык гэта дзеля таго, што ў гістарычнай спадчыне яго была вялікая трагэдыя народнага духу, якую перажыць выпала толькі двум-тром эўрапейскім народам: Беларусь ад X веку і да гэтай пары фактычна зьяўляецца полем змаганьня двох кірункаў эўрапейскай, пэўне — арыйскай, культуры — заходняга і ўсходняга. Граніца абодвых уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краёх.

Дзесяцёхвяковае ваганьне сьведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяны, не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго, ні да другога кірунку. Мы не зрабіліся народам Усходу, але не прынялі й культуры Зах. Эўропы. За ўвесь час нас пачалі зваць цёмнымі.

Толькі па форме мы лічыліся каталікамі або праваслаўнымі, грамадзянамі Масквы і Расеі або Польшчы. Напавер, мы былі благімі сынамі і цэрквы і касьцёлу, і «ojczyzny» і «отечества». Толькі найбольш дрэнныя, духова-распусныя элемэнты нашага народу, як даўней — шляхта, а ў апошнія часы — частка страціўшай сувязь з народам інтэлігэнцыі, уцяклі ад беларускага карэньня, пакідаючы народ на свой уласны лёс. І народ застаўся жыць сам па сабе: духовым жыцьцём — з ідэаламі і пераконаньнямі паганскай веры, гаспадарчым — з прадвечнымі прыладамі земляробства: сахой, драўлянай бараной, цэпам і жорнамі, у тым «вечным бары», аб каторым так жудасна пяе наш беларускі паэт.

Але, адмовіўшыся ад карысьці выразнай культуры ў яе поўнасьці, народ схаваў незалежнасьць свайго духу. І вось зараз, калі набліжаецца вялікі крызыс датыхчасовых ідэалаў, калі ўся «культура» знаходзіцца ў небясьпецы і гатова разваліцца ў руіны, беларускі народ — як быццам зьнімаюць з яго векавыя ланцугі — прабуджаецца да жыцьця, да шуканьня новых ідэалаў, да стварэньня новых падставаў чалавечага жыцьця.

Гэта праўда, што мы мала маем, гэта праўда, што мы шукалі па чужых дарогах і, не знайшоўшы, або здрадзілі бацькаўшчыну і шлі да чужынцаў, або вагаліся паміж варожымі кірункамі. Але зараз прыходзяць часы, калі багач зрабіўся бедаком і пойдзе на вялікі шлях шукаць з намі,

...мі, новага багацьця, новага чалавечага ідэалу. А з глыбіні вякоў ...на нас Скарына, такі ж вагаўшыйся і шукаючы, і, жадаючы нас,

...зімнымі хвалямі Дзьвіны я быў візантыйцам — Юрым, а ў Кра...уды мяне пацягнула за эўрапейскай ведай, — лацінікам Фран... А дапраўды, я ня быў ні Юрым, ні Францішкам, а быў воль...езалежным духам, якога вы шукаеце, духам агульначалавечым ...ў беларускай скуры. Шукайце ж!»

...ньне паміж Захадам і Усходам і шчырая непрыхільнасьць ні да ...ні да другога зьяўляецца асноўнаю адзнакаю гісторыі беларускага ... Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў ...каталік, ці праваслаўны, і пэўна, што і той і другі разам, адбівае ...ьявішча беларускага духу ў індывідуальнасьці, у душы нашага ...а інтэлігэнта. Гэтую рысу беларуская народная інтэлігэнцыя за... да нашае пары, але, як бачым, на тое ёсьць гістарычныя пры...

...веку славяншчына прымае хрэст, а разам шмат чаго як спадчыну ...дарсьцьвеннага, эканамічнага і духовага ўстрою Візантыцка-Рым...пэрыі. Заходнія славяны бяруць лацінскі ўзор, усходнія — візан... Беларусь апыняецца паміж варожымі кірункамі. Аб'ектыўны стан ...ымагае прыняцьця новае культуры, але гэтая культура ня тво...арганічна, а накідаецца неперапрацованая народным духам. Ус...і заходнія славяны прымаюць эўрапэйскую культуру з яе фар...га боку. Беларусь з гэтага часу пачынае вагацца. Як тая Рагнеда, ...ў палон кн. Валадзімірам, Беларусь павінна хрысьціць сваіх дзя... прымусам на ўсходні ўзор, але выхоўвае іх на старым капыл па..., у нялюбасьці да ўсходняга хрысьціянства. Крывавая барацьба ...кіеўскімі і полацкімі (беларускімі) князямі вызначае той час бе...й гісторыі і адбіваецца нават у «Слове аб палку Ігараве», дзе пя... вялікай бойцы на Нямізе, ля Менску. Гэты ж літаратурны па...адбівае і другую рысу тагачасных беларусаў: зрабіўшыся хрысьці...нны не запомнілі аб сваіх старых пераконаньнях. Князь Усяслаў ...к — добры хрысьціянін, ён слухае ўтрэню ў Полацку, але абяр...сівым ваўком і бяжыць да кіеўскай Сафіі на абедню.

...хільнасьць да старой паганскай веры зрабіла тое, што ў XIII в. ...сь злучаецца з «паганскай» яшчэ Літвой. Мусібыць, Зьніч літоў...нязя гарэў ярчэй, чымся крыжы кіеўскага князя і польскага ка...

...и Гэдыміна, калі кругом пачалося зьбіраньне славянскіх земляў: ...дзе — Калітой, на захадзе — Лакеткам, а асабліва часы Альгерда

Вітаўта, яго прыхільнасьць да польскага шляхоцтва, яго нявызначаныя адносіны да беларускіх князёў і народу зрабілі тое, што Беларусь траціць гаспадарсьцьвенную незалежнасьць, а разам і магчымасьць выказаць свой культурны твар.

Паміралі паганскія багі, а новых так і не прызнаў беларускі народ. Прыйшла Рэфармацыя, кінуліся беларусы шукаць новае слова, але і новае слова іх не задаволіла. Толькі старыя муры па вёсках і мястэчках сьведчаць, што ў самае сэрца Беларусі прыйшло кальвінскае казаньне, але не затрымалася, памёрла. За ім прыйшло каталіцтва. І вось, прыпадкова, дзеля чыста тэрытарыяльнай стычнасьці то з усходняй, то з заходняй культурай беларусы падзяляюцца на дзьве часткі, але застаюцца варожымі і непрыхільнымі да абедзьвюх.

З гэтага часу ваганьне народнага розуму і сумленьня не перапыняецца. Гэтаму ваганьню пачынае адпавядаць і блутаньне па нашым краі дзяржаўнай граніцы. То далёка на ўсход заходзіць яна, і ў тых паветах, дзе цяпер запомнілі аб польскім панаваньні, захаваліся гарматы і гэрбы «Gospodara Korola jego miłości sławnaj pamiaci Zykgimonta» і Уладыслава, і іншых, то, наадварот, у глыбіні Літвы вырастае магільны курган «ваяводы рускага цара» — глыбока ў нашай старонцы гаспадарылі тады казацкія шаблі.

Так плылі вякі... Зноў, на нашай памяці, п'юць ваду з Дняпра польскія коні, а праз колькі тыдняў над Бугам і Віслай гараць нялічаныя дымныя агні ворагаў і чуваць маркотную валгарскую песьню.

Да нашага часу беларускі народ ня ставіць апору ні ўсходняй ні заходняй хвалі і яны вольна перакочваюцца над яго галавой. Страціўшы ў сабе вольнага паганца, што маліўся пню, зьліваўся духам з вялікімі сіламі зямлі, пяяў прыгожыя песьні, сустракаючы вясьнянкамі Вясну або хаваючы Купалу, што мог вольна адпавядаць і вольнаму дыханьню ветру і руху свае душы, — страціўшы ўсё гэта, беларус ня ўбачыў нічога прынаднага і ў новым складзе жыцьця. Уплывы Захаду і Усходу ў перакручаных, спэцыфічна славянскіх, часам карыкатурных выразах, круцілі і гвалцілі душу беларуса, толькі прымушаючы яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытварыць нешта сваё, роднае, блізкае, арганічнае. Шмат вякоў беларусы вялі змаганьне з чужынскімі варожымі ўплывамі за сваю душу, і, здаецца, прыбліжаюцца часы, што будзе яна вольнай. Жыцьцё ставіць мяжу старажытным ідэалам і кліча беларускі народ, зьняважаны і забіты,ісьці нароўні з іншымі на будоўлю новага агульначалавечага ідэалу.

У гэты час хай будзе нашым правадыром і сьветачам старажытны Скарына, «доктар лекарскіх навук з слаўнага места Полацку», што хацеў лячыць беларускі народ праменьнямі духовай асьветы. Ён на сабе адчуў

ужацкіх культур і не прызнаў іх сваімі ў сваім сэрцы. Першы ад наў, што толькі праз разьвіцьцё асабістага і народнага духу дойы да ўсечалавечага ідэалу і на мужыцкую простую мову пераклаў ігу — тады адзіны праменьчык усечалавечнасьці.

и цягнецца карагод, што шукалі свайго ўласнага духу, вагаліся, ўваліся і гінулі.

найшоў свае праўды вялікі Адам і загінуў на чужыне з болем у блуталіся рамантыкі, у глыбіні сэрца хаваючы нуду і скаргу. Нааленьне павінна стаць апошняй чарадой пад пахмурным пажагм Скарыны: «І на Усходзе і на Захадзе — шукайце!»

ія вякі беларусы стаялі на раздарожжы: адзін шлях кіраваўся на другі на Усход; так нашыя сьцежкі, пачынаючыся разам, расхоў розныя, праціўныя бакі.

ўда, вызначанасьць абодвух культурных тыпаў пад уплывам часу сапсавалася: усходняе жыцьцё прымае заходняэўрапейскія адзнадварот; цяпер трудна казаць аб розьніцы, якая істнавала паміж змам і лацінствам, але, у кожным разе, і да гэтай пары моцна оцца культурныя асобнасьці абодвух тыпаў.

уховым выглядзе ўсходніх славянаў казалі шмат. Найболей вы- адзнакаю іх характару зьяўляецца нахіласьць да ўсяго скрайнага, ага, ясна падкрэсьленага. Усходні славянін ня любіць нічога пага, вечна шукае нейкай агульнай, адналітай формы, якой і пасьваё жыцьцё. Выкаваная на візантыцкіх узорах, так вырасла мас- гаспадарсьцьвеннасьць, якой былі пасьвечаны ўсе другія бакі нага жыцьця краю. Прыхільнасьць да выразнай аб'яднаўчае фораканчальнага і безумоўнага правядзеньня яе ў жыцьцё вызначыдэі адзінай палітычнай улады. «Уся ўлада цару» — гэты покліч зкі па свайму палітычнаму зьместу да лёзунгу сучасных усходніх лістаў: «Уся ўлада Саветам», і ў абодвых выпадках паказвае, што — не затрымліваецца пасярэдзіне, што кожную форму трэба праў найбольшай чыстаце.

Коль любить — так без рассудку,
Коль ругнуть — так сгоряча,
Коль рубнуть — так уж сплеча... —

характарызуе сябе вялікарос. Калі ён незадаволены істнуючым, абхоплівае зуда перавярнуць усё дагары нагамі. Такой рысай лася ўся чыннасьць Пятра, гэта ж бачым і ў сучаснасьці. Абхаё жыцьцё разам, зьмяніць і вялікае і малае, пранікнуць далейшыя ыцьця аднэю прызнанай формай, адмятаючы без ніякага жалю адобнае, — ідэя Усходу ўва ўсіх яго палітычных, сацыяльных і

камі і ворагамі, але потым, супакоіўшыся, варожыя кірункі мірна ...
юць разам і находзяць кампраміс, згоду, — змаганьне на Усходзе ідзе да
той пары, пакуль ня згіне апошні адкрыты вораг. Там кампрамісу няма
уступкі ня робіцца ні аднэй драбніцы. Дзеля гэтага на Усходзе адвеку
садзяць у турмы і зьневажаюць чалавека не за дзеі, а за тое, што ён го
ліць або ня голіць бараду або ня так, як трэба, носіць вопратку. Ус
драбніцы, усе абставіны жыцьця вымагаюць акрэсьленьня, вызнача
насьці. Ува ўсіх павінен быць адзін выгляд, адны пераконаньні, адзі
погляд на жыцьцё. Гэтым тлумачыцца дзіцячая самапэўнасьць расейскі
камуністых, яны ўсё жыцьцё пераробяць на адзін капыл. Чуваць, шт
яны лічаць неабходным стварыць сваю ўласную рэлігію, каб і ў гэта
галіне жыцьцё мела аднолькавы выгляд.

Такія жыцьцёвыя адносіны зусім незразумелы для Захаду; ягона
культура, наадварот, уся вырасла на барацьбе з скрайнімі кірункам
якія захацелі абхапіць жыцьцё цалкам. У Зах. Эўропе ня вытрымал
спробы ідэя адзінай рэлігіі: каталіцтва не апанавала ўсіх краёў, а нара
дзіла шмат пратэстанскіх вучэньняў, што далёка разыйшліся як ад сваі
го карэньня, так і паміж сабой. Не зрэалізавалася ідэя «Сьвяшчэнна
імпэрыі», хоць у працягу сярэдніх вякоў гэтае пытаньне стаяла на чарз
Імпэрыя рассыпалася на 5—6 неспадобных адзін да аднаго гаспадарсы
венных арганізмаў, разлучаных географічна і таксама разлучана пайшо
шых у сваім культурным жыцьці.

Такі лёс кожнай шырокай ідэі, якая хоча абхапіць усё жыцьцё: яе
Зах. Эўропе затруць, скароцяць, абцягнуць тысячамі кампрамісаў. Яш
прыклад: эўрапейскі сацыялізм. Другі Інтэрнацыянал, разбураны жыц
цём, цяпер шукае службовае пасады ў канцэлярыі капіталізму. Наагул
палітычным жыцьці ў праціўнасьць Усходу, дзе ня можа загінуць пры
цып канцэнтрацыі ўлады ў адных руках, або ў цара, або ў клясу, на З
хадзе ўся ўлада падзелена паміж уладаючымі клясамі, але ніхто ня м
поўнасьці ўлады і не зусім адапхнуты ад яе. Сіла эканамічная такса
падзелена, і ўласнасьці ў народным багацьці зусім не пазбаўлен на
пралетарыят, што зусім немагчыма для забітага, матарыяльна бедна
ўсходняга пралетарыяту. Акцыі расейскіх шахтаў, а ў часе вайны і г
падарсьцьвенных пазычак, купілялі францускія пралетары: кухаркі,
каёўкі, швайцары, звозчыкі; вось чаму цяпер пасьля нацыяналізацыі
сейскіх шахтаў і скасаваньня даўгоў яны адчуваюць сябе пакрыўджан
мі гаспадарамі расейскага дабра. Ангельскі работнік, можа ня ведаю
аб тым, карыстаў з эксплёатацыі індуса-земляроба, кафра-быдлаво
карыстаў прыбыткамі імпэрыялістычнага вырабу і гандлю, каб пал
шыць свой дабрабыт: мець кватэру ў 3-4 пакоі, электрычнасьць, газа
печ, піяніна, мяккія мэблі. Так само жыцьцё працівілася разьвіцц

...сьцяў, ставячы ім апор. Нават такая ўмеркаваная ідэя, як Ліга ...ў, радзіўшыся ў Амэрыцы, на эўрапейскім грунце пацярпела ка...у, дзеля таго, што здавалася залішне радыкальнай.

...а адзначыць, як цікавае зьявішча заходняга жыцьця, што разьбі...ска прыхільнікаў нейкай ідэі не складае свайго аружжа, а, прай...бойку, пачынае істнаваць як звычайны агульнаграмадзкі фактар. ...што па катастрофе каталіцтва яно істнуе і карыстаецца ў нейкай ...грамадзянства пашанай і падтрыманьнем. Наагул, варожыя кірун...аюць паразуменьня, ідуць на згоду, абяцаюцца падтрымліваць ...днаго.

...ага выплывае нейкі распыл жыцьця, істнаваньне шмат асобных, ...не зьвязаных часьцінак. Мір, як асобы, так і грамадзянства, не ...ы нейкім аб'яднаньнем. Усё рассыпана, усё падзелена, варожа ...нае жыве разам, згаджаецца, не пратэстуе. Да часу, пакуль няма ...й перавагі, аснова заходняэўрапейскіх адносін — кампраміс.

...беларусы, вагаліся паміж двума культурнымі тыпамі, ня ведаю...якога прылучыцца. Нам падабалася ўсходняя прастата, шчы...адпаведнасьць выгляду нутранай сутнасьці, якія вызначаюць ча...Усходу. Калі ён добры да каго, дык можа палажыць за яго сваю ...алі ён кажа, што любіць, дык ня зробіць ніякае прыкарсьці. Ста...ы прыклад — кіеўскі князь Сьвятаслаў: ён ніколі не ўжываў хіт...здрады. Ідучы на ворагаў, папераджаў іх: «Іду на вы».

...грунтоўная рыса Усходу нам вельмі падабалася, але прыкмецілі, ...авесьці яе цалкам у жыцьцё — немагчыма. Мы прыкмецілі, што, ...маны карыснай, можа быць, і ёсьць яшчэ мана сьвятая. Ня толь...я карысьці і з прычыны нізкіх пабуджэньняў нельга называць ...орагаў — ворагамі, а з прычыны грунтоўнай невыразнасьці ..., калі часта самыя простыя рэчы трудна назваць іх уласнымі ...мі. Прыклады на кожным кроку даводзяць нам аб гэтым. Не аб ...рэчы можна пэўна сказаць, ці любіш яе, ці не, ці добрая яна, ...ая. Вялікі абшар жыцьця застаецца невыразным, цёмным, і толь...ікай тугой гэта шэрае можна назваць белым або чорным.

...што Захад уцяміў гэтую праўду, нам вельмі спадабалася і было ...прынадна. Заходняе цьвярозае пачуцьцё здавалася нам зусім ад...ым да сапраўдных абставін жыцьця. З гэтага пачуцьця выплывае ...эўрапейская цярпімасьць да розных кірункаў людзкой думкі і яе ..., з гэтага вынікае і тое вельмі прыемнае асабістае захаваньне за...эўрапейца, якое сваёй далікатнасьцю так адзначае яго ад прос...рубога Усходу.

...вось, нам вельмі падабалася і цягнула шчырасьць і вызнача...

гаў ад нас прыняцьця свайго, усходняга выгляду, які, па усходняму ра-
зуменьню, быў абавязковым. «Славянские ручьи сольются в русском
море» — вось як падгрунтоўвалася абавязковасьць абмаскаліцца. З гэта-
га вынікае гвалт і ўціск нашай індывідуальнасьці, з гэтага гвалтоўна
жаданьне адняць наш твар. Яны ня ўцямілі, што разам з беларушчына
мы трацім і лепшую частку чалавечнасьці.

Нашага вызваленьня, нашага ратунку ад прымусу Усходу мы чака
ад Захаду. Ён ішоў да нас з прыемнай усьмешкай на рожавых вуснах,
мы гістарычна пазнаёміліся з гэтым ласкавым выглядам. Праўда, на
шым бліжэйшым Захадам былі славяне, палякі, і заходнія ўплывы пры
нялі ў іх спэцыфічна-славянскія выразы, але ўсё ж гэта быў Заха
Прынцып ня толькі не лічыць шэрае чорным, але сьцерагчыся і бела
назваць белым быў прыняты і нашымі суседзямі. І глыбокія народны
гістарычныя дасьледзіны навучылі нас, што калі заходні чалавек робі
вам прыемнасьць, дык гэта ня знача, што з яго боку ня будзе прыкрас
ці. Яго пацалунак сьведчыць ня толькі аб прыхільнасьці, але і аб магчы
масьці здрады. Такія ўжо глыбокія народныя дасьледзіны.

Гэтая рыса Захаду моцна адчувалася ў яго адносінах да нас. Ён пры
нёс нам найлепшыя ідэі: гуманістычныя, лібэральныя, дэмакратычны
але разам з пекнымі ловамі заўсёды зьмяшчаліся гвалт духоўны і экан
мічны, эксплёатацыя, уціск, зьнявага. Пекныя словы і благія дзеі ня
дзіўна і незразумела для нас ужываліся ў заходнім жыцьці.

Усход гвалціў нас у імя шырокіх заданьняў: у імя зьліцьця ўсіх сл
вянаў, у імя аб'яднаньня пралетарыяту ўсяго сьвету. І гэта ня толь
адзнака маскалёў, а ўсяго Усходу наогул, бо нават адзін харвацкі паэ
той кажа, што харваты абновяць сьвет, пойдуць на чале паўстаньня пр
ці «гнілога Захаду» і створаць вялікі ўсясьветны культурны сінтэз. А З
хад не такі, Захад такой абмылкі ня зробіць: ён ведае няздольнасьць, н
магчымасьць рэалізацыі такіх ідэй. Але практычна адносіны да нас У
ходу і Захаду розьняцца толькі ў драбніцах: не па сутнасьці, а толькі
колькасьці, велічыні. Усход адразу захоплівае шмат, Захад — па сва
далікатнасьці — меней. Ніводзін эўрапэйскі імпэрыялізм не параўнае
ца ў сваіх замерах і плянах з маскоўскім Інтэрнацыяналам, таксама
Варшава ніколі ня квапілася на Маскву або Прагу, тады як Масква з
сім шчыра ў сваім славянафільсьцьве хоча валодаць і Прагай, і Варш
вай, і Белградам, і Сафіяй.

Затое Захад — вялікі чалавек на малыя справы, і яго здольнасі
моцна адбіваюцца на беларускай шыі. Польшча ня верыць у сваё сл
вянскае прызваньне, яе мэсыянізм — усходняга капыла, яго творца
беларус па крыві — Міцкевіч. Але для сапраўднага паляка яго мары
так, пекныя словы, а арганічна зразумелай і прыемнай польскаму сэр

я «idea jagiełłońska», вельмі далёкая ад міцкевічаўскага мэсыяніз-
кі штучна ім прыаздобленая. Тут справа не ідзе аб усім сьвеце,
славянах, не — Польшча хоча быць «od morza do morza».
ь ідзе гвалт над нашымі душамі, бо мы прыпадкова апыніліся
паміж абодвымі морамі. Тут Захад ідзе з усёй жорсткасьцю
гвалт, прымус, зьдзек, вырываньне душы беларуса ідзе разам з
рыбутамі прыемнага заходняга твару.

ўгія вякі гнёту і зьдзеку над нашай душой мы ўцямілі, што якую
лком не накінь чалавеку, ён застанецца незадаволеным, бо заў-
захоча перш-наперш быць самім сабой, чалавекам, а не зама-
м каталіком або праваслаўным, выгаленым на адзін капыл ра-
ці паляком, прававерным буржуём ці камуністым. У гэтыя цес-
эрныя рамкі не ўсадзіць вялікай душы чалавека. Векавое дась-
не кажа нам, што вольнага разьвіцьця нашага духу не запаўняе
дняя, ні ўсходняя культура, бо яны абяртаюцца ў формах гвал-
людаежнага мэсыянізму і розьніца між імі толькі ў назовах, лё-
а іх аціскаючыя ланцугі аднолькавы для нашага духу.
а шукаць на другіх шляхох...
запэўніць нашаму народу вольную творчасьць ува ўсіх галінах
, трэба стварыць і адпаведныя, свае, беларускія формы жыцьця.
зусім ясна, але ў сьветлым імкненьні духовага адраджэньня ха-
і вялікая небясьпека: каб як замест чужацкіх мэсыянізмаў не
ць свайго, уласнага, каб як знойдзеныя формы новага беларуска-
ьця не зрабіліся для нас саміх вялікай турмой і зьдзекам. Бо на
дзе чужацкіх мэсыянізмаў мы бачылі, як страшэнна сьціскае
атрымаўшая неакрэсьленую ўладу форма. З нашага высокага
індывідуальнага і народнага адраджэньня ня створым жа гвалту
і для іншых, ні для саміх сябе: не павінна быць беларускага мэ-
у. І ў вялікім і малым, і для сваіх і чужых ён — прымус, зьдзек
ць. Уласным коштам — мільёнамі сьмерцяў, хваробы, нуды слу-
ы чужацкім мэсыянізмам. Не на гэтай падставе збудуем нашу бу-
.
а шукаць на другіх шляхох.
а пазнаць, дзеля чаго сучаснае жыцьцё нашых суседзяў прыняло
ціскаючыя, гвалтаўнічыя, бяздушныя формы.

## II

**ьне формаў і змаганьне з імі — гістарычны зьмест Эўрапейскага жыцьц-
Жывучасьць сацыяльнай формы. — Духовае мяшчанства. — Патрэба
зьменнай, ліючайся формы.**

Рымскае, а яшчэ раней Грэцкае гаспадарства згінулі з прычыны д
ховай распусты, дэмаралізацыі. Апошняя ж была вынікам канфлікту п
між асобай і хаўрусам, гаспадарствам. Хаўрус не адпавядаў жаданьня
асобы сваімі захопліваючымі імкненьнямі, барацьба асобы проціў уціс
хаўрусу здэмаралізавала і асобу і хаўрус, і яны загінулі. У змаганьні п
між сабой гарадоў, гарадзкіх партыяў і жадаючых безумоўнай волі ад
нак развалілася эльлінскае гаспадарства. Рымская імпэрыя, наадвар
задавіла, згвалціла асобу, пашыраючы рабства, душачы грамадзянск
пачуцьцё, творачы саладкаваты шавінізм: «dulce et docorum est pro pat
mori». Так згінуў і Рым, выpадзіўшыся ў вялікі хаўрус незадаволены
узбаламучаных рабоў. Ні антычная думка, ні антычнае рэлігійнае п
чуцьцё справы зносін асобы і хаўрусу ня вырашылі, як ня выраш
пытаньня аб адносінах вечнага і сьмертнага, канечнага і безканечна
Гэтыя пытаньні разам з выпрацаванымі формамі жыцьця перайшлі
сучасных народаў.

Барбарская няўмеласьць спраўляцца з усёю грамадаю і рознас
жыцьцёвых праяваў выклікае прыхільнасьць да заўсёднай выразна
вызначанай формы. У такой форме барбары пачулі патрэбу ў той ч
калі іх сацыяльнае жыцьцё пашырылася і ўзмацавалася. Для індыві
альнасьці ня трэба формы. Дух жыве пачуцьцём, яму ня трэба сым
ляў: «Дух дышыць, гдзе хоча». Толькі ў зносінах з падобнымі да сябе
сьветам надворным робіцца патрэбнай вызначанасьць — форма. Зак
уласнага сумленьня замяняецца агульнаабавязковай маральлю, фарма
ным, абычаёвым правам, з якога разьвіваюцца ўсе іншыя формы пра
вога жыцьця. Калі барбары сутыкнуліся з выпрацаванай эльлінск
культурай, дык адразу на іх сацыяльнай творчасьці моцна адбіліся 
тычныя ўплывы, але, на жаль, толькі з выгляднага боку. Спачатку б
ныя барбары зусім ня ведаюць духоўнай спадчыны старажытнасьц
толькі паволі з ёю знаёмяцца. І гэта няведаньне старога духу станов
сапраўдную нядолю новай Эўропы. Тое, што толькі цяпер пазнаў суча
ны філёзаф Бэргсон, казаў 25 вякоў назад Гэракліт Цёмны: «Усё 
шыцца, усё цячэ, нельга два разы плёхнуцца ў тую самую раку», а пр
хільнасьць да заўсёднай зьдзеравянеўшай, зьмярцьвелай формы,
нязьменных рэчаў і ідэяў высьмяяў у сваіх камэдыях Арыстафан.

І вось эўрапэец стараецца зьдзейсніць сваю прыхільнасьць да цьв
дых формаў; Усход рыпаецца ўзяць візантыцкую спадчыну, як вала
рогі, і ў аднальковасьць формы ўцісьнуць усё жыцьцё, нягледзячы на 
што такі спосаб прыгнятае, губіць усё жывое; Захад карыстае багацы
рымскае культуры і ў сваім жаданьні ўсё ўсталяваць, вызначыць, с
радкаваць хоча зафіксаваць вечную зьменнасьць і цякучасьць жыц
аб якіх казаў Гэракліт, у вялікім ліку нежывых; затое цьвёрдых, пры

апэйскаму пачуцьцю формах. Сярэднія вякі праходзяць пад зна-
аноўленай формы, дагмату, падпарадкаваньня аўтарытэтам.
кам Адраджэньня пачынаецца пратэст: у рэлігіі проціў дагмату і
у філёзофіі і мастацтве — проці дазволенага і ўстаноўленага, у
ы — проці суровых формаў людзкога прыгону. Апошнія настроі
оцца ў цэлы рад паўстаньняў па ўсёй Эўропе, пачынаючы ад паў-
ў Англіі 1381 г. і канчаючы Сялянскай вайною 1525 г. Зьяўля-
чэньне аб самацэннасьці чалавека, яўляецца новы сьвяты —
шак з Асізіі, каторы кажа ў праціўнасьць афіцыяльным перака-
м, што сутнасьць чалавека і яго імкненьня ня грэшны і паскуд-
обры і сьветлы, што ня трэба ланцугоў пакуты, што жыцьцё па-
ыць радасным і прыгожым.

джэнскі пратэст ня зьдзейсніўся да канца дзеля сапсаванасьці
ца. Яму ізноў захацелася цьвёрдай формы, ён не пазнаў яшчэ,
кная гэткая форма — ланцуг для жыцьця. Зноў ён зьвяртаецца
ычнай формы і будуе на яе падставе ложнаклясычныя мастацтва,
і мараль да новага пратэсту — Француской рэвалюцыі, ня ўця-
таго, што старое аджыло, спарахнела, што нельга жывога ўкла-
труну аджыўшага. На вогнішчах, запаленых рукой Кальвіна, гіне
уючы дух пратэстанцкіх рэлігіяў; яны, паўсталыя з абурэньня
ежывой літары, хаваюцца ў плашч дагмату і формы. Зноў усё як
замірае да новага спалоху.

д спазьніўся блізка на два вякі. І ў Маскве вынікае пратэст проці
бчай формы і разьліваецца Смутным часам, рэлігійным раско-
вінаўскім паўстаньнем. Там справа не даходзіць ні да якіх выні-
пратэст не вылупляецца далей анархічных выпадаў. Заместа шу-
іншых формаў Усход, з усёю сваёю скрайнасьцю, адмаўляецца
ясна, што жыцьцё, якое ня можа ні моманту абыйсьціся бяз
перамагае.

а, гэтае зацьверджаньне гучыць крыху абстрактна, але зусім зра-
што амаль уся жыцьцёвая нядоля мае сваёй падставай неадпа-
ць жыцьцёвага зьместу тым формам, у якія ён уложаны. Усе ня-
, як індывідуальныя, так і сацыяльныя, залежаць якраз ад таго,
рмы жыцьця заместа таго каб служыць чалавеку, маюць сілу ва-
ім, сьціскаючы і затрымліваючы яго духовыя імкненьні.

мы жыцьця нам не накідаюцца, мы самі творым іх, мы самі, у
трэбы, надзявалі нашы ланцугі, але тады яны былі неабходнымі:
і сям'ю, гаспадарства, суд, касьцёл, партыю; гэта стварылі мы
мат чаго ўжо сьціскае, душыць нашу вольнасьць, але створаныя
маюць сілу вялікай жыцьцёвасьці. Заместа таго каб служыць ча-

Форма — вынік чалавечай творчасьці, а чалавек творыць заўсёды ка
хаючы, ён любіць дзіця свае творчасьці, жадае яму вечнага істнаваньн
у гэтым — першая падстава жыцьцёвасьці і сілы формы. Маральны з
кон, абычаёвае права, у творчасьці якога прымае чын амаль што ўвес
народ, заўсёды мае адзнаку боскасьці. Творацца легэнды і казкі, ш
Бог сходзіў на зямлю і даў людзям гэты закон. Першы людзкі маральн
кодэкс — Дзесяць запаведзяў — прыйшоў з маланкаю і грамніцамі
самаго Бога, каторы ў хмарах сходзіў на гару Сінай. Так, адзнакаю бо
кага натхненьня народ надзяляе кожную абычаёвую форму. У гэтым
сіла, магчымасьць валадаць людцамі, гвалтаваць іх, калі форма нав
страціць свой сэнс і запатрабуецца новае.

Другая падстава жыцьцёвасьці і сілы формы — карысьць. Калі чал
веку або грамадзе істнуючая форма здаецца карыснай, тады заўсёды э
істычныя мэты аздабляюцца істнуючай формай. Так, формай касьцё
карысталася духавенства. Ідэя хрысьціянскай любасьці прыкрывала
мыя дрэнныя карысныя замеры: «Хто дарыць цэркві — таму вечн
спасеньне, хто адніме ад другога і дасьць цэркві — таксама спасень
душы, а хто адніме ад цэрквы, таму — праклёнства і вечныя мукі». Т
духавенства ўсходняе і заходняе карысталася прыхільнасьцю народу
хрысьціянства, каб павялічваць свой маёнтак. У свой час ідэя гаспада
ства зрабілася канечнай, неабходнай; яе зрэалізавалі ў пэўных форма
Цяпер жа невялікія кучкі буржуазіі, шляхэцтва ці палітычных бадзя
напінаюць горла ад каханьня да бацькаўшчыны. Справа ў тым, ш
форма сучаснага гаспадарства з яго паліцыяй, прымусам і турмамі
пэўняе ўдачу іх цёмных справаў, і пратэст проціў вяльможнага машэ
ства раўняецца да здрады бацькаўшчыны і бяз літасьці караецца. У
рывах сацыяльнага натхненьня родзяцца палітычныя партыі, а п
колькі гадоў, бачыш, жменька здольных хлапцоў круціць чалавечыя
ловы, а разам не запамінае і аб сваёй кішэні.

Чым слабей разьвіта духовасьць чалавека, тым большую вагу набі
форма: звычай, дагмат, дактрына, незразумелы лёзунг. Добра ведама
ла абычаёвага права ў сялянскіх масах, фанатычная рэлігійнасьць у цё
ных малаасьвечаных народаў, іх прыхільнасьць да патаемных рэлігійн
формулаў у незразумелай мове. На нашых вачох вырастала дзіўная с
палітычных лёзунгаў, таксама незразумелых, а часам і пазбаўлен
зьместу, характару як самага рэакцыйнага, так і ультрарадыкальна
якія маса сустрачала дружнымі воплескамі.

Чым душа цямней, тым панаваньне формулы непадзельней. На ка
чатак форма перакручваецца ў старажытнага малоха, у вогненнае жа
ло каторага маткі кідалі сваіх дзяцей. Сколькі малохаў захавалася да
шага часу! Сколькі ім прынесена незразумелых, непатрэбных ахв

ная прыхільнасьць масы, спрытная агітацыя — і зноў вантроба
жрэ лепшыя, сьветлыя, маладыя сілы чалавецтва, пэўныя ў
то яны гінуць за лепшыя ідэі чалавецтва, што яны прыносяць
ццё на аўтар агульнасьветавай праўды.

даньне формы над жыцьцём накладае на яго сваю пячатку: забі-
патрэба нерухомасьці і спакою. Заўсёднасьць і цьвёрдасьць ро-
ушы прыемнай і неабходнай, як патрэба хадзіць па цьвёрдай
не па вульканічным грунце.

сь большасьць эўрапейскага грамадзянства набывае ідэялёгію,
ожна назваць духовым мяшчанствам. Яно ня лічыцца са зьмен-
вечнай цякучасьцю жыцьця: вечная патрэба зьмяняцца, шукаць
— надта марудная і клапатлівая праца. Адсюль выплывае пры-
ьць да markup рознага роду аўтарытэтаў, пашана да пісаных законаў і
туцыяў, зацьверджаньне дактрын, устаноўленай маралі, пава-
сваіх і чужых «цьвёрдых» перакананьняў, здольнасьці чалавека
іць ім сваё жыцьцё, нягледзячы на тое, ці адпавядаюць яны яго
аму перакананьню, ці не: усё гэта ня робіць клопату ў кожным
думаць, як трэба рабіць, і зьвяртацца да ўласнага сумленьня.

тура духовага мяшчанства выгадавала дзьве сапраўдныя сілы:
дысцыпліну. Мода моцна трымае жыцьцё ў сваёй уладзе: яе дык-
пачынаецца ад выгляду вопраткі і канчаецца на перакананьнях
а. Мода прымушае яго падпарадкавацца яе ўказам, угрунтаваў-
самым сэрцы чалавека. Ён пачынае саромецца свае вопраткі па-
га сэзону, баіцца паказацца адсталым у сваіх перакананьнях: рэ-
, палітычных, філёзофскіх. Мода стварае псыхоз на кіданьне ў
анства, вяртаньне на старую веру, прымушаючы кожны раз ча-
заставацца артадоксам. Мода прымушае быць сацыялістым, ці
ым, гледзячы па настрою масы. Працівіцца модзе — небясьпеч-
эта можна страціць галаву. Толькі адзінкі, вышэйшыя за масы,
оцца ў часы рэвалюцыяў і наогул масавага псыхозу заставацца
ой. Ці ж можна было рызыкаваць пры трэцяй Імпэрыі быць ка-
м, а пры камуне — прыхільнікам імпэрыі?

не дапамагае мода, на сцэну выплывае дысцыпліна. Апошняя
бараніць выпрацаваныя ідэалы, берагчы існуючыя падставы
. Дысцыпліна, вельмі паважаная праз грамадзянства, гэта здоль-
пераламаць сябе і маўчаць, прымаючы тое, проці чаго дух пра-
з чым сумленьне не згаджаецца. Дысцыпліна пранікае ўсе куткі
; яна бывае: рэлігійная, грамадзянская, партыйная, маральная,
ая. У кожным разе, забараняе чалавеку рабіць па яго ўласнаму
ню, а толькі па выпрацаванай форме. Гэта — ланцугі, каторымі

Як толькі ідэя хаваецца ў драўлянасьць формы, няма ратунку, ян... трухлявее, зьнікае. Паглядзеце, што зрабілася з хрысьціянствам і яго к... рункамі, калі яно прыняло форму цэркв. Дух яго зьнік, яго няма ў су... часных мураваных сьвятынях. Дух нацыянальны заўсёды мацнейшы ... чысьцейшы ў народаў прыгнечаных. Разам з пачаткам рэалізацыі ўла... най гаспадарсцьвеннасьці, з яе ўціскам, нацыянальны дух прыніжаец... або і зусім гіне (прыклад Расеі і Польшчы).

Здавалася, што сацыялістычны, рэвалюцыйны рух вольны ад духова... га мяшчанства. Жыцьцё даводзіць, што не, што самая рэвалюцыйна... ідэя, зрэалізаваная формулай, памірае ў сваёй сутнасьці, траціць сва... жыцьцёвасьць. Прыхільнасьць да пісаных праграмаў, зацьверджаны... дактрын і лёзунгаў так моцна нават у рэвалюцыянэраў, што яны зар... жа накідаюць жыцьцю свае формулы і замест таго каб яго разьвіва... мардуюць яго, зачараваныя гукам знаёмых лёзунгаў, ня бачачы, што... труне формул калісь сьвятыя ідэі змарнелі, сплясьнелі, што час пра... шоў і вымагае новай творчасьці.

Духовае мяшчанства было заўсёды, дзе захоўваліся сьвятыя традыц... сьвятыя асобы, рэчы і ідэі, прымусовае здаваленьне істнуючым, быцца... «усё добра, лепей ня трэба», — а ўсё гэта было адвеку. У нашы часы т... кі духовы сьветагляд зрабіўся блізка што агульным. Вольная творчась... уцякла ў навуковыя кабінэты і студыі, а жыцьцё цалкам аддана ў пра... форм для самых формаў. Запраўды, што робяць нашы парлямэнты, ур... ды, суды, цэрквы, партыі, як не ўганяюць жыцьцё ў труну формаў? ... якім чынам ідзе сама праца? Характэрным зьявішчам Эўропы зьяўляе... ца канцэлярыя. Праца яе сьціснута статутамі, інструкцыямі, палажэн... нямі, і гэтай жа самай стравай яна трактуе тых, хто да канцэляр... зьвернецца. Уціснуць жыцьцё ў формулу — вось яе заданьне. І з гэты... спраўляецца вельмі шчыра. Трэба прызнаць, што ня толькі ўрады ўж... ваюць канцэлярыю; яе дух прабіваецца туды, дзе павінна была б пра... ваць творчая сіла: у перадавыя партыі, прафэсыянальныя саюзы, каап... ратывы. Дух зьмярцьвеласьці вісіць над усёй грамадзянскай працай.

Час пераканацца, што няма формаў унівэрсальных, формаў, ахоп... ваючых усё жыцьцё і яму адпаведных. Не затрымалася чалавечае су... леньне ні на аднэй форме, цудоўны цяг імкне яго далей, вышэй. Уп... ўсе формы, якія хацелі панаваць над чалавекам, бо ня можна з чыст... сумленьнем пасьвячаць ім сваю душу. Ляжаць разьбітыя і растрэскан... каля ног чалавека малох рэлігіі, гаспадарства, пісанай маралі і яшчэ... яшчэ.

Ня мёртвыя формы, а сам чалавек — гаспадар свайго жыцьця. ... творыць усе формы жыцьця, яны залежны ад чалавека, а не чалавек ...

таваецца пад мёртвай уладай струхлеўшых формаў: рэлігіі, маралі, , агульных зданьняў. Час зразумець, што жыцьцё кіруець форма-наадварот, што сам чалавек, яго вялікая, родная сонечным ко-ла, яе натуральныя імкненьні да сьвятла, харараства, праўды — жыцьця, што ў праўдзівым незалежным жыцьці няма месца ні , ні ахвярам.

а памятаць, што жыцьцё цячэ, што душа чалавека не стаіць, што павінен укладаць сваё жыцьцё так, як яно разьвіваецца і ліецца. ь, гэта незразумела і нячутна. Гэтае права гвалцяць і над ім зь-цца ад часоў, калі палалі жывыя вогнішчы Нэрона і сьв. інквізі-нашых часоў кулямёту і гумовай палкі.

одвух культурах Эўропы над жыцьцём зьдзекуецца форма: у ад-маналіт, у другой — рассыпаная ў крышталы. Бальзамаваць жа не жывых, а толькі трупы. Прырода нам даводзіць, што еднасьць і сутнасьці — неабходная ўмова жыцьця. Форма павінна быць, жывое ня можа абыйсьціся. Толькі бесканечнае, вечнае ня мае У форме — сутнасьць матар'яльнага жыцьця. А яно ліецца, як мяняецца, як косы сонца ў каплях расы. Чалавечая душа — та-капелька, іграючая кветкамі косаў. Трэба ж не сьціскаць, не ха-утлярамі гэтай гульні, трэба даць поўную магчымасьць зіхацець ым багацьцем фарбаў. У гэтым сэнс жыцьця і яго хараство.

ытарнаваньні формаў жыцьця да гэтай зьменнасьці, ліючасьці, у ні формаў жыцьця элястычных, цякучых, зьменных — зьмест ны, зьмест індывідуальнага і сацыяльнага ідэалу.

## III

ць, як жыцьцёвая падстава. — Творчасьць, як касьмічная сіла. — Су-алітычная чыннасьць не запэўняе сацыяльнай творчасьці. — Незалеж-кненьне. — «Усё існуючае — разумна...» — «Усё існуючае — нера-зумна...» — «Усё існуючае — творча».

ашай пары мэтай выхаваньня было навучыць жыцьцю, гэта зна-чалавеку гатовыя шаблёны, як кіравацца ў тых ці іншых выпад-хаваньне імкнула, каб выпрацаваць у чалавеку пашану да прыз-праўд, каб імі кіравалася чалавечае сумленьне. Існавала і існуе аньне, што ёсьць нейкі філёзофскі камень, які памагае па ўсіх і сьцежках.

сь што выпрацавалі такія зданьні: таннае самаздаваленьне, духо-чанства, стаячае балота, адсутнасьць творчасьці. Праўда, труд-кную часіну тварыць, чым ужываць гатовае, лягчэй здаваляцца джаным прыкладам, чым шукаць адпаведнейшага, але хараство і е жыцьця якраз залежаць ад таго, ці прытарнаваны да яго, ці ад-

лавек здаволіць сваё прыроднае імкненьне быць тварцом. Цяпер жыц
цё поўна нядолі, бо мы ня ўмеем быць тварцамі. Мы робім з нашаг
жыцьця нямілую ні сабе, ні каму іншаму турму, і нерухомы, нятворч
дух пануе ў нашай панурай штодзённасьці. Нятворчыя рабы, мы лёгк
схіляемся прад кожным ідалам-формай. Толькі невялічкая частка лю
дзей хочуць быць сапраўднымі творцамі, ды заказаны ім творчыя шлях
ў абшары грамадзянскай і асабістай штодзённасьці, і ўся іх творча
энэргія кіруецца ў вольныя даліны мастацтва і навукі.

Сапраўды, што такое мастацтва? Гэта, перша-наперш, тварэньн
чыстай формы, безканечнае, невычарпанае тварэньне. Чым вышэй мас
тацтва, тым ясьней у ім самастойнае шуканьне і стварэньне формы
Зьмест усё болей адрываецца ад жыцьця, абасабляецца. Літаратура пера
ходзіць у музыку, малярства, у скульптуру; і ў музыцы гук пачына
жыць самастойным жыцьцём: нас цікавіць гармонія гукаў у тэй форм
якую яны прымаюць у музычным творы. У скульптуры асобную знач
насьць мае цела, маса, каторая пад рукой мастака пачынае жыць улас
най гармоніяй, якой няма ў сапраўдным жыцьці. Праўда, такой гармон
паміж зьместам і формай у жыцьці няма, і мастацтва нам дае толь
прыклад таго творчага жыцьця, якое павінны тварыць і людзі.

Што мы далей бачым у мастацтве. Ці яно калі-небудзь здаволена,
мастак калі-небудзь схінае галаву перад споўненым творам, ці паклан
ецца ён створанай форме? — Не!..

Твор скончаны, душа выявілася... і далей, далей безупынна, без ста
ку. Для мастака няма такога самаздаваленьня. Калі душа выявілася ў а
ным абразе, яна ўжо перарастае яго, шукае ў глыбіні свае сонечнае і
тоты яшчэ глыбейшага, яшчэ адпаведнейшага сваёй нутранай праўдз
Дзеля гэтага мастацтва ня мае свайго канону, ня мае зацьверджан
шляхоў, абразкоў. Калі мастацтва ўступае на гэты шлях, яно гіне: т
было з усімі прыкладамі мастацкага акадэмізму. Апошні, як прызнаны
азначаных шляхоў мастацтва і нейкіх абавязковых абразкоў, душы
вольны творчы дух і, ня творачы нічога новага, нарэшце гіне ва ўла
ным соку.

Вось як рашае пытаньне аб цякучасьці жывой чалавечай душы і пр
тарнаваньні да яе формы вышэйшая чалавечая парода, найболей су
ленная парода творцаў: безустаннай творчасьцю, адсутнасьцю самазд
валеньня, вечным шуканьнем, вечным імкненьнем далей, у глыбін
жыцьця.

Вось і мы ў нашым штодзённым жыцьці павінны стаць такімі тва
цамі. Зьдзейсьнілі адну форму жыцьця, а ўжо ў глыбіні душы хаваец
новае, яшчэ смутнае і невыразнае, а ўжо нездаваленьне, што дрэнна
тое й гэтае. Не глушэце такога нездаваленьня і сапраўды ня «ўсё істн

...разумна», верце голасу вашага сумленьня, жаданьню зьмяніць ...быць жыцьцё. Разумней паляпшаць паступова, кожны дзень, слу...голасу сумленьня, чым у гаротныя часы рэвалюцыяў ня быць у ...рымліваць голасу помсты і крыўды.

...ня будзе для чалавека нічога нерухомага, сьвятога: ні дактрын, ...ых усё жыцьцё ў труну выразнай формы, ні зацьверджанай мара...ожны дзень і гадзіну, на кожнае ўздыханьне. Хай ня будзе строгіх ...ываў, падстава якіх незразумела і далёка пачуцьцю. Хай ня будзе ...каў у футлярах». Бо ўсё гэта затрымлівае жыцьцё, пазбаўляе яго ...ьці. Хай гучыць у сэрцы кожнага старое, як сьвет, і, як ён, праў...

...рушыцца, усё цячэ, нельга два разы плёхнуцца ў адну раку».

...а чалавечая, што прыходзіць у сьвет падзівіцца з яго харaства, ...ыходзіць адзін раз у сьвет, ні да каго не падобная і адзіная на ...ляху і назаўсёды выходзіць з матар'яльнага жыцьця, такая душа ...ая павінна чуць сваё права жыць і тварыць, як кажа яе сумлень...то іншы ня створыць душы, не заменіць ніводнага дня, ніводнай ... яе самастойнага, самацэннага жыцьця. Чалавечая душа, што ...а ў сьвет адбіць радасьць ігры жыцьцёвых косаў, напаіцца іх ... і ласкай, павінна разьвярнуць усю моц свае творчасьці, каб ... ў творчым тэмпе сусьветнага дыханьня, сусьветнай гармоніі, ...насьць якой адчувалі зорныя душы піфагарэйцаў, каб потым у ...вым стамленьні схіліцца ўзноў на ўлоньне вялікай Маткі-Матэ...аткі-Невыразнасьці, Маткі-Непачатасьці, поўнай сілы і моцы, ... смутку і нераджонага жыцьця.

...ка Марыя — падстава ўсяго існуючага. У ёй зьліты ўсе сілы: ва... і кахаючыя, творчыя і руйнуючыя, але сама яна — невыраз... незразумеласьць, толькі магчымасьць тварыць, а не самая твор... Яна — аснова жыцьця... Як старавечны бог Ксенафана — ка...зі, дзе зьмешаны вада і зямля, паветра і агонь — у невыразнась...ькі ў магчымасьці і жаданьні радзіцца, стварыцца. Поўна яна ... поўна галасоў няясных, быццам шапаценьне нераспушчанага ...лепету нерадзіўшыхся дзяцей і зьвяркоў: быццам сокі жыцьця ...ь, шукаючы сьвету, чакаючы свайго нараджэньня.

... адхіляецца прадвечны туман, быццам хмары нараджаюцца, ... тоненькія цуркі цягнуцца ўвыш, угару... родзіцца першы нагад ...ьцё, падзяляецца сьвет і невыразнасьць зьмроку... але яшчэ няма ...жыцьця, няма творчасьці. А калі зазіхаціць першая маланка, шы...ліскучай істужкай злучаючы высокія, быццам пазбаўленыя цяж... хмары і цёмнае, чорнае, невыразнае ўлоньне Маці-Матэры, за...

Купала, жыватворны дух, жыватворная форма... Вось адвечная гармонія паміж невыразнасьцю-матэрыяй, істотай усяго жывога, з творчым духам, каторы дае ўсяму жывому форму.

І мы з лана Маткі-Матэрыі з вечным творчым духам агнявога Купалы прыходзім у сьвет, каб тварыць формы, каб з мацярынскай невыразнасьці стварыць нешта «па свайму образу і падобію», па образу нашай праменнай душы. Хай жа тое, што мы творым, ня робіцца нашымі багамі, бо мы яго творым, а не яно нас.

Калі асобная адзінка можа знайсьці свой індывідуальны ратунак у мастацкай або навуковай творчасьці, дык у сфэры сацыяльнай справа стаіць ня так проста. Сацыяльная творчасьць затрымліваецца і робіцца блізка што немагчымай з дзьвёх прычын: першае, што некаторымі сацыяльнымі формамі карыстаюцца валадаючыя клясы і штучна затрымліваюць іх разьвіцьцё, а другое, што ўмовы сацыяльнай творчасьці вымагаюць болей спрыяючых абставін, чымся для творчасьці індывідуальнай. Нельга зразумець такой магчымасьці, каб учарайшы раб зрабіўся незалежным гаспадаром свайго жыцьця, каб учарайшыя падмятальшчыкі вуліц апынуліся вольнымі мастакамі. Дужа цяжка выхаваць у кожнай адзінцы імкненьне да агульнай творчасьці, зразуменьне неабходнасьці ісьці наперад, а не здаваляцца істнуючым.

Дзеля гэтага да нашых часоў сацыяльная творчасьць мас ідзе не безупынна, а скокамі. Творчасьць мас павінна перамагчы інэрцыю зацікаўленых клясаў, а заўсёды толькі праз пераварот і рэвалюцыю масы ідуць да сацыяльнай творчасьці. Такі шлях — ненармальны, негармонічны і неэкономны ў страце чалавечай сілы. Масы павінны мець сталую магчымасьць творчасьці, але ў сучаснасьці такой магчымасьці нельга дасягнуць. Блізкая мінуўшчына вучыць нас, што адных рэвалюцыяў шчэ далёка не даволі. Запэўніць творчасьць сацыяльную можа толькі творчая адзінка, маса творчых асоб. Творчасьць мас грунтуецца на творчасьці адзінак. Прыклад Расеі кажа нам, што рэвалюцыя без індывідуальнае творчасьці — толькі вялікая смута без канца і прасьвету.

Выходзіць нейкі зачарованы круг: для сацыяльнай творчасьці павінна быць творчая адзінка, але ўзгадаваньне гэтай адзінкі ў значнай частцы залежыць ад развіцьця сацыяльнай творчасьці.

На жаль, усё тое, што цяпер робіцца ў грамадзянскім жыцьці, якое мае свой найбольш інтэнсыўны выраз у палітычнай працы, вельмі далёка ад дасягненьня сацыяльнай творчасьці, ад узгадаваньня творчай адзінкі. Сучаснае грамадзянства, разьбітае на клясы, хоча зьдзейсьніць свой сацыяльны ідэал палітычным шляхам, г.зн. захапіўшы ў свае рукі ўладу або маючы на яе значны ўплыў. Грунтуючыся на нейкай клясе,

...партыя мусіць правадзіць думкі, карысныя для гэтае клясы.
...і заўсёды кажа аб «рэальнай палітыцы», аб тым, што ў палітыцы
...энтымэнтаў, кажа аб канечнасьці «заднаважаньня» інтарэсаў па іх
...днай грамадзянскай вазе. Гэта знача, што справа заўсёды канча-
...ым, што чыя «вага» большая, у каго матар'яльная сіла вялікшая,
...м і круціць. Праўда, кожная партыя мае харошую праграму, якая
...ецца словамі аб дабры ўсяго народу, дзе спамінаецца аб лепшых
...ных ідэалах, але аб істоце харошых слоў трэба разважаць па дзеле.
...рыклад, Беларусі прыйшлося практычна пазнаёміцца з рознымі
...нымі ўплывамі. Што ж можна сказаць аб партыях дэмакратыч-
...ерш-наперш, неадпаведнасьць харошых слоў і дзела, у каторай
...ецца клясавая прагавітасьць і ўсё душачае, гвалцянае, сьціскаю-
...ваіх ланцугох, духовае мяшчанства, аб якім казалі вышэй. Напа-
...лі выяўляюцца вынікі «рэальнай палітыкі», дык з-пад штандару з
...імі словамі «вольныя з вольнымі, роўныя з роўнымі» выглядзе
...ты твар шляхціца. І гэта зразумела, бо пры палітыцы рэальнай і
...атычнай, якая ня хоча лавіць жураўлёў у небе, заўсёды ідзе аб
...х клясавых інтарэсах, аб скарыстаньні абавязковага, прымусовага
...эчаў у гаспадарстве. Тут нельга думаць аб магчымасьці сацыяль-
...орчасьці.

...дольнасьць сацыяльнай працы ў палітычнай форме датычыцца
...ртыяў, стаячых на клясавым грунце. Карысна-клясавая адзнака
...арызуе ня толькі буржуазна-дэмакратычныя партыі, але й сацыя-
...ныя. Прызнаць палітычную няздольнасьць сацыялізму тым горай,
... апошніх часоў сацыялізм быў адзінаю касулькаю, адзінай на-
...а магчымасьць лепшай будучыны. Сацыялістычныя мучанікі сва-
...вёй, сваім бязрадасным, ахвярным жыцьцём без сьвятла і асабіс-
...насьця рабілі, здавалася, фундамэнт сонечнай будучыны. Пачат-
...ацыялізм Р.Оўэна, Ш.Фур'е, Сен-Сімона, які звалі утапічным,
...уховыя сувязі з усімі лепшымі барцамі за чалавецтва — першымі
...іянамі, гуманістамі... На іх штандарах стаяла: шчасьце ўсіх,
...е адзінкі. Так, яшчэ Пілін Фор у ноч перад лютавым паўстань-
...рыскага пралетарыяту (1848), ня ведаючы аб дактрыне Маркса,
...ях да сацыялізму ідзе праз захапленьне палітычнай улады сацы-
...ным пралетарыятам, але чуючы моцна сваю сувязь з тым Пер-
...што апавясьціў уваскрасеньне праменнай чалавечай душы над
... і сьмерцю жыцьця, пісаў так: «Божа, даруй нам тое, што мы ня
... ісьці па Твайму шляху мучаніцтва, а станем заўтра на крывавую
...бу».

...мат паўстаўшых сталі сапраўднымі мучанікамі. На крывавым

яу», высунулася «навучная» ідэя захапленьня палітычнага апарату, каб сілком вясьці масы ў сацыялістычны рай. Натхнёнасьць сацыялізму зьнікла, зьмянілася пустой, буржуазнага характару, крыважорнай дактрынаю: Маркс спусьціў сацыялізм з «утапічнага неба» ўроўнь звычайнай дэмакратычнай партыі, якая марыць аб захапленьні ўлады, зьмяніўшы сьвятую справу чалавечага вызваленьня на дасягненьне клясавай перамогі. Праўда, трэба ўзяць пад увагу, што тут ідзе аб клясе прыгнечанай, абрабаванай; але кожны, хто ведае сучасныя адосіны, павінен прызнаць, што з учарайшага раба выходзіць найлепшы рабаўладца. Знача, справа ня ў тым, хто будзе каваць кайданы, а хто будзе насіць іх, справа ў тым, каб зусім спыніць няволю. Марксістыя адкажуць, што ў ідэале захапленьня ўлады і дыктатуры ёсьць адсутнасьць прыгнечаных, бо ўладаром павінны быць усе прыгнечаныя, усе працуючыя. Напавер выходзіць ня так. Як толькі выяўляецца элемэнт улады, яна заўсёды застанецца ў руках невялікай групы: такая ўжо істота ўлады. Марксізм лічыць магчымым даць уладу толькі пралетарыяту, ну, а сялянства павінна цярпець яго хоць і «працоўную» дыктатуру. Знача, ужо рабы і ўладары ёсьць; і прыклад камуністычнага досьледу Расеі сьведчыць, што працоўныя ўладары могуць быць вельмі жорсткі і несправядлівы да сваіх працуючых рабоў.

Сур'ёзна казаць аб розніцы паміж сацыялізмам і камунізмам, ведама, ня можна, бо ў іх адзін слуп — марксізм і дактрына захапленьня ўлады. Тое, што робяць маскоўскія камуністыя, у належачых абставінах паўтарылі б і варшаўскія сацыялістыя. Розьніца толькі ў тым, што сацыялістыя — болей практычныя рэалістыя, а камуністыя — рамантыкі не бездзіцячай самапэўнасьці. Але як адзін, так і другі кірунак жадае зьдзейсьніць дыктатуру пралетарыяту, абмінаючы другія безумоўна працоўныя клясы, бо аб апошніх марксізм заўсёды кажа з вялікім тактычным рэвэрансам.

Ёсьць яшчэ грамадзкія кірункі, якія завуць сябе сацыялістымі, але з марксізмам супольнага маюць або мала, або варожа да яго настроены. Гэта тыя, што прызналі спадчыну «утапічнага» сацыялізму: на Захадзе — хрысьціянскія сацыялістыя, на Усходзе — народнікі (палітычны іх выраз — эс-эры). Беларускія рэвалюцыйныя сацыялістыя (быўшыя с.-р.), маючыя свае карані ў народніцтве, моцна адхіліліся ў бок марксізму. Што гэта — наплывовае ці істотнае — таксама будучына. Гэтыя кірункі сацыялізму, болей чулыя да справы агульначалавечага адраджэньня, верацъ у неабходнасьць творчай чалавечай адзінкі, меней апіраюцца на клясавы грунт, але практычна, як кожная сэкта, былі ахоплены духовым мяшчанствам, застылі у пакланеньні дактрынам і аўтарытэтам і меней дасягнулі, чымся іх спрытныя калегі. Але трэба прызнаць

ты немарксісцкі сацыялізм мае жывыя карані ў грунце жыцьця і
ьвеў толькі з-за свайго сэктанцтва, вузкасьці, духовага мяшчан-
аторае пашкодзіла яму выйсьці на шырокі шлях.
ня здолелі актыўныя палітычныя партыі разьвязаць справу воль-
орчай асобы і сацыяльнай творчасьці, бо ў ідэале кожнай быў
прымус, дыктатура, як для іншых, так і на саміх сябе. Сучасныя
на-клясавыя групы і ўрады, што апіраюцца на такія групы, скон-
оўным банкруцтвам. Сваімі сіламі, не грунтуючыся на ўсёй гра-
скай працоўнай масе, а толькі баючыся і асьцерагаючыся яе, яны
целі зьдзейсьніць тых лёзунгаў, якія так шчодра абяцалі сваім на-
Усе дэмакратычныя вольнасьці здратованы дэмакратычнымі ўра-
ацыялістычны ідэал зусім далёкі ад зьдзейсьненьня ўрадамі, якія
сябе сацыялістычнымі. Ніхто з сучасных сьвядомых грамадзян,
не атрымлівае значнай урадавай падмогі, шчыра ня пойдзе бара-
фіцыяльных перакананьняў, ніхто ня пойдзе паміраць за гукі дэ-
ычнай марсэльезы ці сацыялістычнага інтэрнацыяналу. Так тыя,
чыналі шумлівай палітычнай бутафорыяй, вывярнулі шубу шэр-
верх. Іх сучасная гінучая сіла апіраецца пакуль на народнай цем-
несьвядомасьці, на прыхільнасьці да гучных, незразумелых фор-
клінаньняў.

ошнія гады беларусы практычна пазнаёміліся амаль што з усімі
мі палітычнай думкі, і, хто б да нас ні прыходзіў, ніхто не папы-
і працоўны, сялянскі народ, ці таго ён хоча; ніхто не зацікавіўся,
ён надумаў пабудаваць сваё жыцьцё. Нават магчымасьці голасна
ць, ці тарнуецца тое, што нам прапануюць няпрошаныя госьці,
о дано беларускаму народу. Лёзунгі захацелі жыць і даводзілі
ыцьцёвасьць сілай пагрозы расстрэлу, катаваньнем гумовай пал-
дзекам над кожнай праявай сьвядомых адносін да свайго зьместу.
засьценкі Усходу і Захаду могуць пасьведчыць, колькі чалавечых
рынясла Беларусь за самае маленькае імкненьне быць сама са-
удна ў такіх абставінах казаць аб сацыяльнай творчасьці, калі да
ыходзілі з гатовымі формуламі і прымушалі супакоіцца на такім
ставым ложы. Казаць аб сацыяльнай творчасьці ў нашым стано-
гэта казаць непрыстойныя анэкдоты ў доме мерцьвяка.
ыцьцё цячэ. Можна з пэўнасьцю сьвердзіць, што ўжо ўсё тое, з
ыйшлі да народу нечаканыя апякуны, усё гэта ўжо спарахнела і
ягожа да жывога. Бо галоўнай умовы грамадзянскага жыцьця —
асьці тварыць — мы ня маем.
жытае і тыя акалічнасьці, якія мы наглядаем навакол сябе, ка-
ам, што запэўніць магчымасьць грамадзянскай творчасьці мы мо-

першыя часы сваё незначанасьці мела свой праўдзівы, шчыры харак-тар, за што той пэрыяд (ураду А.Луцкевіча) і можна назваць «утапіч-ным», рамантычным. Калі ж справа незалежнасьці скіравалася на прак-тычны шлях сучаснай палітычнай працы, яна апынулася ў шпонах па-літычнага прымусу, палітычна-клясавай зацікаўленасьці, і ад сучаснай палітыкі мала чаго можа чакаць народ, быццам ён выкарыстае яе для свае народнае творчасьці.

Як жа стаіць справа ў жыцьці? Першы беларускі Урад, што стаяў на грунце прынцыповай незалежнасьці, не дасягнуў ніякіх практычных вы-нікаў. Першымі спробамі «рэальнай» палітыкі былі спробы яго наступ-нікаў. Так, знамянітая Найвышэйшая Рада, або Дырэкторыя хацела зга-варыцца з шляхоцкім урадам Пілсудскага, і, пэўна, стоячы на грунце незалежнасьці, Дырэкторыя была фактычна блізка да здаваленьня куль-турна-нацыянальнай аўтаноміяй, аб чым сьведчыць прамова ў польскім Сойме прэм'ера Скульскага. Гэты кірунак, як мала жыцьцёвы, практыч-на адкінуты.

У ліпні 20 г. група фэдэралістычна настроенай беларускай інтэлігэн-цыі прызнала «беларускі савецкі ўрад», Савецкую Беларусь за магчы-масьць легальнай працы. І гэтая спроба рассыпалася, не пакінуўшы на-ват ніякіх сьлядоў.

Цяпер найболей рэальным шляхам здаецца ўмова с.-р.-аўскага ўрада з ліцьвінамі. Але і тут толькі сьляпы ня ўбачыць, што палітыка міністэр-ства па беларускіх справах у Ліцьве сьведчыць аб тым, што ліцьвіны ма-юць уласныя зданьні, непадобныя да зданьняў саміх беларусаў.

На гэтых кароткіх увагах хацелася затрымацца, каб паказаць, што ў сучасных умовах так далёка нам яшчэ да запэўненьня грамадзянскай творчасьці шляхам аднэй палітычнай працы. Ясна, што пад чужацкім панаваньнем мы, як і іншыя здаровыя народы, ахвяраваны на паўстань-не або на дэгэнэрацыю. Але і сучасная палітычная дзейнасьць у кірунку незалежнасьці, падгрунтованая на захапленьні ўлады палітычна-кляса-вымі органамі, мала можа здаволіць сумленнага чалавека. Яна не дасяг-не ўсё роўна забесьпячэньня грамадзкае самадзейнасьці і можа выклі-каць новую роспач і нездаваленьне.

Нашы пракрокі-песьняры, мусіць, марылі аб сапраўдна вольным жыцьці ў сваіх несьмяротных абразох:

І будзе ўнукаў панаваньне
Там, дзе сягоньня плача дзед.

*(Я.Купала)*

Аб праўдзівай незалежнасьці, вольнасьці духу:

Прыйдзе к нам воля сьвятая, чаканая.

*(А.Гарун)*

...этыя пранікаючыя словы ня могуць адносіцца да куртатай палі... незалежнасьці пад ласкай сымпатычных суседзяў ці нават аб не...асьці гаспадарсцьвеннай з абавязковай дыктатурай якой-небудзь ...ай клясы. Бо для нас, грамадзян-беларусаў, усё роўна, хто пало...а наш стол свой капыт у лякерках, ці свой шляхціц-пан, ці са...тычны таварыш, ці запанеўшы мужык, — ня ў гэтым знойдзе ...раз «воля сьвятая, чаканая»... Не аб гэтым летуцелі вешчуны.

...сь, калі чалавек, даволі малады сэрцам, каб мець надзею, што з ... можна зрабіць нешта цікавае і каштоўнае, затрымаецца думкай ...асным жыцьцём, дык спачатку яму пачне здавацца, што выхаду ...што сьветлае і праменнае — толькі мана, а напавер усё апыняец...ам і гразьзю. Запраўды, гдзе ж той сьветагляд актыўных людзей, ... кахаючых працоўны народ, для якіх яго доля — іх доля, дзе ж ...ветагляд, каб ён здаволіў сумленнага чалавека?

...істнуючыя нагляды на жыцьцё можна груба і прыблізна падзя... два станы: адны кажуць — «усё істнуючае разумна», другія ж — ...на. Хай выбачыць нам Гэгэль, што мы яго формулу скарыстаем ...сэнсе, як яе ўжывае грамадзянства, а ня ў точна такім, які ўла...не вялікі філёзаф.

...хільнікі таго, што «ўсё істнуючае — разумна», не становяць ...ебудзь выразнай групы, тут мы знойдзем думкі і кірункі, належа... розных чалавечых груп. Найболей выразны прадстаўнік гэтага ... — афіцыяльнае хрысьціянства, як яго тлумачыць духавенства. ...бліжняга і ня рыпайся, бо нічога ня зробіш...Ніводзін волас не ...з тваe галавы па тваёй волі... Калі бачыш несправядлівасьць, гэта ..., так павінна быць... Паважай начальнікаў, ня лай багатых, бо ...не паможа...» Быццам так запавядаў Той, быццам такі гнілы спа...авядаў Той, хто казаў: «ня мір прынес Я вам, а меч». Быццам ...аў паважаць безумоўна старэйшых, хто, блішчучы вачыма, мятаў ...ромы і самую крыўдную лаянку: «Ліцамеры, зьмеі, параджэньня ...ы... вар'яты і сьляпыя... хай упадзе на вас уся кроў праведная, ...ы пралілі... вось застаўляецца дом ваш пуст...» і гразіў ім вечным ... скрыгатаньнем зубоў і праклёнам, як на няплодную смакоўніцу. ...маісеявым сядалішчы селі кніжнікі і фарысеі», гэта ж літаральна ...ца да сучасных прапаведнікаў афіцыяльнага хрысьціянства, като...ыліся аб тым, што «і Айцом нікога не завеце, бо адзін у вас Ай...небе, і настаўнікамі не завецеся, бо адзін настаўнік — Хрыстос». ...ыя айцы і настаўнікі высмакталі з пальца тое, чаму вучаць народ.

гляднай набожнасьці.

А вось з другога канца вучэньне аб разумнасьці істнуючага. «Ус
факты грамадзкага жыцьця знаходзяцца ў залежнасьці ад «гістарычна
неабходнасьці». Тое, што ёсьць, мае сваю гістарычную падставу — та
кая істота погляду на жыцьцё як рэформа-сацыялістаў, якіх камуністы
завуць сацыяль-здрайцамі, так і кожнага, хто хацеў нешта стварыць
жыцьця і спасаваў перад ім. Мы бачылі праменнасьць пахаджэньня са
мога сацыялізму, а рэфармістыя кажуць: «Вось гэтыя зьявішчы жыць
ця — гістарычны, неабходны, знача, і сацыялісты нават іх павінен пры
няць». Бараніць бацькаўшчыну трэба, — знача, трэба войска. Трэб
войска — патрэбны вайсковыя крэдыты. Вайна вымагае тайны, знача
гэтыя крэдыты не падлягаюць народнаму кантролю. Так рэфармісты ад
маўляюцца патроху ад усіх жаданьняў сацыялізму, трацячы сэнс свайг
істнаваньня.

Вынік з гэтага той, што разам з разумным пачынае істнаваць і нера
зумнае, і калі жыцьцё прынята цалкам, дык трэба прымаць усе яго бак
І вось, калі вы сустракаеце чалавека, які згаджаецца з асновай істнук
чага (проці дэталяў ён можа рабіць апазыцыю), дык робіцца ясным, шт
творчае і жывое ў ім памерла, што ён здольны толькі на маленькае, шт
яму не дасягнуць агульнага і вечнага.

Ёсьць другі тып сьветагляду: «Усё істнуючае — неразумна». Тады н
хапаючая папярэдняму тыпу актуальнасьць у грунтоўным перабудаван
ні жыцьця кідаецца ў другую скрайнасьць. «Так далей жыць нельга» -
любімы выраз Бакуніна, і бакунізм зьяўляецца найболей ясным прыкл
дам гэтага ультраактыўнага сьветагляду.

...мы стары сьвет зруйнуем
Да аснаваньня... А затым
Мы наш, мы новы сьвет збудуем.
Хто быў нічым, той будзе ўсім.

Так пяюць сучасныя актывістыя — прыхільнікі III Інтэрнацыянал
Іх досьлед зроблены. Ад старой Расеі не засталося і каменя на каме
Грунт жыцьця стаў новым, але чаму ж у дэталях жыцьцё так прыкра п
добна да старога? Чаму трудавая павіннасьць падобна да паншчыны, с
часныя адміністратары да старых гараднічых, чаму адкрыта кажуць: «
абманеш — не паедзеш», чаму ў працоўнай рэспубліцы ніхто літараль
ня мае магчымасьці жыць з уласнай працы, а павінен шукаць непрацо
нага заробку: у спэкуляцыі, хабарніцтве і іншым, што забаронена зак
намі? Чаму гэта дэталі жыцьця так зьдзекуюцца з яго, калі зьменена
мая аснова? Ёсьць і ў сучасных камуністых свайго гатунку рэфарміст
і хрысьціянскія маралістыя, якія кажуць, што наогул усё добра, а п

каюць толькі «маленькие недостатки механизма», што вінавата на асновы, а гэтыя самыя дэталі: тут маем ужо справу з вечнай духовага мяшчанства.

ва ж, пэўне, толькі ў тым, што на зьмененым грунце жыцьця не хапае творчай здольнасьці, каб вытварыць адносна да новага ўсе дэталі. Не хапае творчай энэргіі, і мімаволі драбніцы вярта- старога, абяртаючы жыцьцё ў дрэнную карыкатуру на новае ві- арым мяху або труп, убраны ў балёвую вопратку.

га страшнага выгляду спужаліся найбольш сумленныя камуніс- сьля актыўнага выступленьня нямецкай камуністычнай партыі ў сёл. г., творчасьць якое вызначылася ў сотнях сьмерцяў, узрывах, ні дарог і інш., іх быўшы правадыр — Леві адхіліўся ад іх, па- голасна меркаваць:

арышы, што вы робіце?.. Вы, што кажаце аб долі і волі работні- му кідаеце іх на сьмерць, голад і нядолю?» Так кліча і кожны прыхільнік працоўных масаў. Сама Кляра Цэткін зрабіла прапа- аб зьмене партыйнай тактыкі, якая больш падобна да бакунізму, камунізму...

ва погляды на жыцьцё, як «ўсё істнуючае разумна», так і праціў- оць у сабе частку праўды. Першыя кажуць аб магчымасьці зьме- ага і патрэбы працаваць над дэталямі. Тут ёсьць рацыя, бо чала- інен тварыць жыцьцё цалкам і ў вялікім і ў малым. А патрэба вялікае вечнае, што здаецца немагчымым першаму сьветагляду, кнена другім кірункам. Чалавек павінен тварыць вялікае, ён чуе, — сын Божы, што ён частка Бога, што ён павінен тварыць волю айго.

абодва кірункі зьліваюцца ў адзін: «усё істнуючае творча», гэта вымагае творчасьці, працы, а што істнуючага няма ні разумнага, зумнага. Пакуль яно істнуе, як бы стаіць, патуль яно неразумна ае творчасьці; цераз творчасьць яно імкне да разумнага, але па дзейсьненьні зараз жа робіцца неразумным, г.зн. вымагае новае ьці. У жывым няма ні разумнага, ні неразумнага, гэта катэгорыі га. Жыцьцё вечна імкне, ліецца, цячэ. Вечны творчы працэс ад нага да разумнага і ніколішняе недасягненьне да апошняга — ота жыцьцёвага працэсу.

## IV

ныя шуканьні непрымусовых форм сацыяльнага аб'яднаньня. — Су- я каапэрацыя, як узор непрымусовага злучэньня. — Адвечны шлях.

й сучасная палітычна-грамадзянская дзейнасьць — банкрут, ня-

выхаваюць творчага чалавека. Будучына іх — духовая сьмерць.

Неабходна стварэньне новых сацыяльных аб'яднаньняў, у якіх гарма нізавалася б магчымасьць існаваньня вольнай незалежнай адзінкі ас бы і плоднай сацыяльнай паступовай працы, незатрыманай прагавіты эгаізмам адзінкі. Незалежная творчая адзінка ў творчым, няўзьдзер жным адзіначным эгаізмам хаўрусе — ідэал будучыны. Ён быў частка зьдзейсьнены ў прошласьці, у малой долі ёсьць і цяпер.

Самыя пачатковыя людзкія грамадкі былі пабудованы на падста прымусу. І пачаткавы радавы камунізм, і сямейныя калектывы, на як распалася радавая камуна, былі пабудаваны на абавязковай прыналеж насьці кожнага сябра да свайго роду або сям'і. У ўнутраных адносін панавала старое абычаёвае права ды воля старшага як безумоўная ўлад Трудна было шукаючай адзінцы здаволіцца такімі абставінамі. Яна рв лася на волю, але там чакалі яе дзікія зьвяры, голад, небясьпечнась у грамадзе — прымус, неадпаведныя жаданьням праца, зьдзек дужэ шых над слабымі. І вось яднаюцца грамадкі нездавольненых і адходзя ад роднага карэньня. Прадгістарычныя часы і ранейшая гісторыя слав наў ведае бязь ліку гэткія грамадкі-аб'яднаньня, каторыя шукаюць н вага жыцьця, новае долі. Беларускія сябрыны, паўночнаславянскія ват гі, чарнагорскія ўдружэньні, чэскія задругі то на лёгкіх чаўнох на рэк і морах, то сухім шляхам ідуць на новыя месцы, займаюцца промысл мі, творачы сабе жыцьцё, якое ім здаецца лепшым. Калі сябру што падабаецца, ён вольны пакінуць сябрыну, адыйсьці; калі ўсе нездавол ны, сябрына распадаецца — і сябры ідуць шукаць лепшай долі. Так крокам ідзе славянская калёнізацыя, пакуль цяжкая рука земскай ула не накладае ярмо на новыя калёніі і не аплятае іх прымусам гаспада сьцьвеннасьці.

Да позьняга веку затрымалася адна такая грамада, якая давала ма чымасьць дыхаць інщым паветрам украінскім і беларускім сялянам. Г та — Запарожская сеча. Адсутнасьць прымусу да сваіх сяброў была лоўнаю яе адзнакаю, прыходзіў, хто хацеў, і адыходзіў, калі яму падаб лася. Сеча з аружжам у руках бараніла чалавечае права на волю і не лежнасьць, але ніколі не была разбойным гняздом гультаёў і зладзе як яе хочуць выставіць шляхоцкія гісторыкі. Запарожцы жылі праца займаліся гандлем, езьдзілі чумакаваць за сольлю ў Крым, займалі рыбным і зьверавым промыслам, некаторыя нават працавалі на ралы сваіх хутарох. Але пацяг да вольнага, беспрымусовага існаваньня г іх зноў і з правага і з левага берагу Дняпра ў незаўсёды сытую і доб ўбраную Сечу, каб тут даць волю сваім індывідуальным жаданьня хоць і былі яны вельмі простыя і здаваляліся гульнёй, добрым тавары твам і першабытным спортам.

...ер існаваньне такіх рыцарстваў-брацтваў немагчыма (а шкада!), ...мусовая партыйна-клясавая гаспадарсцьвеннасьць на ўсё павінна ...ць свой штэмпэль. Дык праявы зьяднаньня вольных адзінак у ...мусовыя грамады ўсё ж такі ёсьць у тых кірунках жыцьця, гдзе іх ...іць нельга.

...асная каапэрацыя, якая працуе толькі ў эканамічным кірунку, ...цца адным з узораў непрымусовага аб'яднаньня. Некаторым та...верджаньне можа здацца сьмешным, калі глянуць на сучасную, ...лей краёвую каапэрацыю, якая ўся ўпэцкалася ў селядцовым со...даецца, болей пасьвяціла свае сілы нячыстай спэкуляцыі, чымся ...арэньня вольнай адзінкі ў вольным хаўрусе. Але напавер выхо...што каапэрацыя — адзінае грамадзянскае зьявішча, якое непры... аб'еднавае сяброў і не дэкляруе прымусу для іншых.

...ба адзначыць, што ў каапэрацыі, нягледзячы на яе сур'ёзныя ...ёвыя заданьні і вагу, няма нічога падобнага да палітычнай пляц... Каапэрацыя ня мае азначанага ідэалу, які мог бы зрабіцца Ма...каапэрацыйнага руху, вымагаючы чалавечых ахвяр. Рух каапэра...руецца выняткава жыцьцёвымі заданьнямі, і ніякай папярэдняй ...ьці ў ім няма. Былі спробы ў гэтым кірунку, каб стварыць каапэ...ны ідэал, як скончыліся яны няўдачаю. Перад існуючымі ідэала...уржуазным і сацыялістычным — каапэрацыя ў сваёй цэласьці га...е схіляе. Рух сацыялістычнай каапэрацыі, дзе яна падпарадкоўва...арксісцкаму ідэалу, толькі вынятак, які яшчэ больш падчырквае ...е правіла.

...пэрацыя ня кажа: «Я маю гатовую праўду: прыходзь і бяры», яна ...кажа: «Твары» — «творачы — руйнуем». У каапэрацыі няма га...шаблёнаў, штампаў на кожны выпадак жыцьця; калі такія штам...ўляюцца, жыцьцё іх выкідае вельмі лёгка, без рэвалюцыяў, за ...

...аім аб'яднаньні асоб каапэрацыя на застаецца абавязковай: калі ... дарозе, ідзі разам, а не — ідзі, куды хочаш. Жыцьцё так вяліка ... незразумела, што ня можа быць штампаваных, для ўсіх абавяз... шляхоў.

...эрацыя ня мае гатовых рэцэптаў паляпшэньня жыцьця. Маючы ... эканамічныя заданьні, яна ведае, што сваймі каапэратывамі не ...іць усяго гандлю і вытвару. Калі ёсьць незразумелыя тэатэрыкі ...ь Жыд), што кажуць, быццам каапэрацыя захопіць усю эканамічн...раву ў свае рукі, дык сапраўдная каапэрацыя адказвае яму: «Дур...пец, ці можна жыцьцю прадмаўляць гатовыя шляхі».

...пэўна, што праўдзівы жыцьцёвы кірунак той, якім ідзе каапэра...

Гэта цяпер здаецца дзіўным і немагчымым, але жыцьцё кіруецца н
гэты шлях. Мы надта здэмаралізованы прымусам, што ня можам адра
стаць вольнымі, нават марыць аб гэтым. Але галоўнае жаданьне чалав
ка — гэта жаданьне быць вольным, быць тварцом свайго жыцьця.

Тыя перашкоды, што здаюцца нязломнымі, упадуць разам з прым
сам. Такія забабоны, як прыватная ўласнасьць, якая становіць камен
датыканьня буржуазных і сацыялістычных вучэньняў, яны згінуць як т
ман перад сонцам, калі згіне прымус, калі запануе вольная творчая ас
ба. Прымусам не абараніць прыватнай уласнасьці і ня зьнішчыць я
Добры прыклад зноў Расея. Тамака зьнішчана ня толькі ўласнасьць н
нерухомасьць, а амаль і самая нерухомасьць, затое ўласнасьць на рух
мыя рэчы яшчэ павялічылася. Ні ў аднэй старонцы жыцьцё чалавека н
раўняецца некалькім фунтам хлеба, а ў Расеі гэта факт.

Адсутнасьць прымусу павінна пранікнуць увесь грамадзкі быт: пал
тычны, эканамічны, маральны бакі жыцьця, бо толькі з гэтай умова
знойдзе свой выраз творчасьць як асобы, так і сацыяльнага цэлага.
гэтым — наша надзея, у гэтым нагад на прадсьвет і запраўдны жыцьц
вы кірунак.

Не адразу ўсяго дасягнуць. Не адразу выхаваць творчую адзінку. Бу
дучына належыць да творчай асобы, але яшчэ доўгія гады «мёртвыя бу
дуць хаваць сваіх мерцьвякоў». І нечалавечы ўціск, і неміласэрныя рэва
люцыі, і паўстаньні павінна яшчэ перанесьці чалавецтва. Тое, што іс
тнуе цяпер: прымусовае гаспадарства, урады, цьвёрды закон, турма, ка
ра, ёсьць вынік чалавечай, грамадзянскай нятворчасьці. Гэта ўсё згін
не пад прымусам, ня будзе зруйнована сілай, а будзе зруйнована далей
шай чалавечай творчасьцю. Бо калі сілай зьнішчыць істнуючы парада
дык нятворчасьць сучаснай чалавечай масы створыць сабе назаўтр
яшчэ горшыя кайданы, турмы і мукі. Такі досьлед усіх рэвалюцыянера
старавечнасьці і сучаснасьці.

Тыя погляды, якія тут выяўлены, шмат каму здадуцца анархізмам. А
гэтага шыльду, як ад кожнае іншае вызначаючае формы, трэба адмовіц
ца, бо ён мае ўжо свой перакручаны жыцьцёвы зьмест, і заместа развал
лепей прывесьці для зьясьненьня такую расейскую частушку:

Анархистик утащил
Полушубок теткин,
Ах, тому ль его учил
Господин Кропоткин!..

Гэтыя эскізы мелі на мэце не правядзеньне якіх-небудзь групавы
поглядаў, а выяўленьне тае істоты жыцьця, якая істнавала ад самага па

…алавецтва і рабіла спробы зрэалізавацца ў розных кірунках: эль-… культуры, хрысьціянсцьве, гуманізьме, у дэмакратычным і са-…ычным рухах, паміж іншым і ў анархізьме, пакуль усе гэтыя рухі …ерцьвіла застылая форма. На шляху чалавечай творчасьці вырас-…рашкода ў постаці хочучай валадаць формы. І форма захапляла …, дыктавала свае ўмовы. А чалавечая душа рвалася з яе кайданоў, …спарадкаваць жыцьцё так, як казала ўласнае сумленьне, хацела … сваімі ўласнымі імкненьнямі, чула, што гэта непатрэбна «зьвя-…ярма цяжкія і незнасімыя і ўскладаць на плечы людзям». І ўця-… гвалцячага жыцьця, шукала свайго ратунку.

… вызваленьне, яшчэ на зары чалавецтва, загучэлі чароўныя, веч-…тожыя, вечна жывыя словы Бога аднаўленьня, Бога ўваскрасень-…

…ыходзьце да Мяне ўсе струджаныя і пакрыўджаныя — і Я супа-…с. Бярэце ярмо Маё на сябе і навучэцеся ад Мяне; бо Я — … і сьмірны сэрцам, і знойдзеце спакой душам вашым. Бо ярмо …бра, і цяжар мой лёгкі».

…у глыбіні вякоў знайшло свой выраз імкненьне здаровай чалаве-…ы ісьці ўласным шляхам да боскае творчасьці, скінуўшы ланцугі …акуты. І цяпер, прабуджаныя да творчасьці народныя масы, чую-…бе прысутнасьць творчай Міравой душы, з усёй рашучасьцю ка-… Творачы — зруйнуем».

**Уладзімір САМОЙЛА**
(1878—1941?)

Філосаф, асветнік, культуролаг, літаратурны крытык, публіцыст, культурн і грамадскі дзеяч. Адзін з тэарэтыкаў беларускай нацыянальнай ідэі. Сконч Мінскую класічную гімназію (1898). Вучыўся ва універсітэтах Масквы і Пецяр бурга. Прымаў удзел у беларускім грамадскім і культурным жыцці. Высока цан паэтычны талент Янкі Купалы, спрыяў яго літаратурнаму дэбюту на старонка газеты «Северо-Западный край» (1905). Быў адным з арганізатараў кніжнага та варыства «Мінчук» (1906). З 1908 г. супрацоўнічаў з мінскімі і віленскімі перы ядычнымі выданнямі. У гады Першай сусветнай вайны кіраўнік царскай хіміч най лабараторыі ў Мінску. З 1911 да першай паловы 1917 г. — сябра кадэцка партыі, прадстаўнік яе інтарэсаў у Мінскай гарадской думе. З 1918 г. жыў Вільні. Працаваў настаўнікам грэчаскай і лацінскай моў у гімназіі Ф.Велера Супрацоўнічаў з польскімі і расійскімі эміграцкімі газетамі. Уваходзіў у бела рускія культурныя і грамадскія арганізацыі. Сябра Беларускага нацыянальнаг камітэта, Таварыства беларускай школы і Беларускага выдавецкага таварыства У 1923—1939 гг. адзін з вядучых заходнебеларускіх крытыкаў і публіцыста Падтрымліваў знаёмства і сяброўскія адносіны з польскім пісьменнікам і публі цыстам Ю.Мацкевічам, з прафесарам М.Здзехоўскім. Карыстаўся аўтарытэта сярод грамадска-палітычных і культурных дзеячаў беларускага нацыянальна вызваленчага руху. З прыходам у Вільню савецкіх войск арыштаваны (8 кастры чніка 1939 г.). Паводле меркаванняў польскага гісторыка А.Бергман напрыкан цы чэрвеня 1941 г. у часе эвакуацыі палітычных вязняў з турмы ў Вілейцы рас страляны савецкімі ўладамі.

## «ГЭТЫМ ПЕРАМОЖАШ!..»

### Нарысы крытычнага оптымізму

1

Дабро і зло — што б ні казалі крайнія оптымісты і крайнія пэсыміс ты як трэба зраўнаважаны ў нашым сьвеце...

— У гэтым найлепшым спасярод сьветаў, — дадаюць оптымісты...

— Спасярод найгоршых... — гавораць пэсімісты.

— У найлепшым спаміж усіх магчымых, — скажам мы, — ужо дзел аднаго таго, што ён — адзіны дадзены, што толькі ён — спаміж усі

…мых — мае самую важную для дасьпелага дзеяльнага чалавека, … саму няпрыемную для юнага лятуценьніка ўласьцівасьць: рэаль… істотнасьць...

…ькі ў дадзеным нам рэальным сьвеце мы можам дзеяць...

…на сьвеце — акурат гэтулькі, каб сьвет з вечнае «мысьлі Божае» …вацца рэальнасьцяй у часе і прасторы.

…на сьвеце — акурат гэтулькі, каб ён мог і павінен быў-бы даска…, а не застыг і не загніваўся ў сваім непарушным сьвятым супа… гатовая ўжо «абсалютная дасканаласьць»...

…на сьвеце — акурат гэтулькі, каб ня даць лятуценьнікам заляту… каб канечна напамінаць ім аб запраўднасьці, каб абярнуць ляту…ка ў дзеяча па дасканаленьні недасканалага сьвету...

…ую прыблізна разьвязку філязофскае праблемы сусьветнага зла і … у мамэнт пераходу нямецкага сьвету з філязафуючае юнасьці ў …асьць кантаўска-крытычнае мысьлі — нямецкі мысьліцель, зь…ы славянін, Лейбніц.

…ткае пастаноўкі справы ясна, што толькі жывою дзейнасьцяй у …аналым, поўным зла, сьвеце, толькі актыўным змаганьнем са … імя і дзеля ідэальнага дасканаленьня сьвету разьвязуецца філя…я праблема «апраўданьня сусьветнага зла», — толькі на гэтым …еццa крытычна і самы оптымізм.

…ь якую разьвязку праблемы дае згерманізаваны славянін Любе…йбніц.

…лі можна і трэба рашуча паўставаць проці няволеньня славяніна …і, дык такая карысная для пасыўнага славянства «германізацыя» … духа нічога, апрач дабра, даць ня можа...

…я «актывізацыя» духа, гэтая, «оптымізацыя» душы асабліва пат… нашаму вякамі прывучанаму да рабства беларускаму народу ў ча…о Адраджэньня.

…ыя радкі і прадстаўляюць першую, слабую спробу ў гэтым кірун…

2

…пачатку (значыць, яшчэ да стварэньня з гэтага пачатку нашага сь…ыло Слова (значыць, Розум), і Слова гэтае імкнулася да Бога, і …этае Слова сталося Богам».

… кажа асабліва любая славянству Эвангелія паводле Яна.

…е гатовае, але блага зразумелае Слова і падхапілі бюракраты…зеньнікі і тупа-трусьлівыя маралісты і падзялілі ўсенькі сьвет на …сенькія кусочкі, разграфілі ўсенькае жыцьцё на клетачкі дабра і

тыўным хрысьціянінам», павінен сам, сваёй уласнай істотай, перажы...
раней ці пазьней нейкі нязвычны мамэнт, нейкі выбух, быццам ад а...
ню, прыткнутага да самае душы, да гэтае выбуховае мешаніны, што п...
раховываецца ў ёй, — перажыць запраўдную духоўную рэвалюцыю...
Быццам полымя агарне разам усю душу і водблескам ад яго асьвеці...
ўсенькі сьвет... І зробімся мы — як багі, запраўды спазнаўшыя дабро...
зло, а ня гэныя «словы», ня гэныя «кусочкі», на якія іх пабілі... І пера...
плавіцца ў жывую волю жыцьця, у жывую актыўнасьць тое, што был...
гэткім «непарушным і нязьменным», уся гэная мэханічная мешані...
дабра і зла...

Так ад прыткнутага серчыка — у рэакцыі гарэньня — ператвараецц...
ў хімічнае недзялімае, у з у с і м н о в а е ц е л а, дробная мешані...
мэталю і серкі...

Толькі пасьля такое пламеннае навальніцы, што як быццам пра...
мчыцца праз усю яго істоту, чалавек пачуе, што яго душа, яго дух, я...
«Я» ёсьць нешта адзінае, самастойнае, суцэльнае, непадзельнае... Пач...
і усьвядоміць сабе, што і тое другое, вялікае «Я» — душа яго родна...
народу, у якое ўваходзіць, як жывая неаддзялімая складовая частка, яг...
ная ўласная душа, ёсьць таксама жывая, адзіная і непадзельная, хоц...
неаддзялімая ад людзкасьці, істнасьць... Зразумее і пачуе, што і ўсеньк...
вялізарнае «Я» Бога-Сусьвету прадстаўляе сабою таксама адзіную арг...
нічную суцэльнасьць...

Такі выбух пламеннага рэлігійна-філязофскага самаўсьведамлень...
сто гадоў таму назад, пад уплывам паэзіі Гётэ, крытычнае мысьлі на...
вялікшага філёзафа-маралісьта новых часоў — Канта, «дасьледу Вялік...
Францускае рэвалюцыі і многалетняе акупацыі Напалеонам бацька...
шчыны, перажыў просты нямецкі селянін, Ян Фіхтэ, каторы, дзякуюч...
бязспынай працы мысьлі, стаўся ня толькі вялікім нацыянальным філ...
зафам, але, што яшчэ важней, вялікім вучыцелем нямецкага народ...
тварцом у ім тае актуальнае формы нямецкага народнага духу, што ж...
ве дагэтуль, што каваў і — мы ведаем — будзе каваць да канца с...
сваю долю...

Гэты просты сын вясковага ткача заражаюча-творчаю сілай свай...
духа ня толькі навучыў нямецкі народ, як унутранымі духовымі сіла...
вызваліцца ад падзяліўшага, паняволіўшага і прынізіўшага ягоную ст...
ронку францускага заваявальніка, ня толькі даў жывыя, самыя пэўн...
метады дзеля аб'яднаньня пабітае на дзесяткі кускоў свае бацькаўшч...
ны, але і першы — нягледзячы на тое прыніжэньне, якое перажывала...
той час Нямеччына, — здолеў даць такую моц, энэргію і гартоўнась...
нямецкаму нацыянальнаму духу, збудзіць у ім такі оптымізм, марал...
абаснаваць для яго такую веру ў самога сябе, у сваё высокае назначэн...

ьвеце, у сваё выключнае палажэньне пасярод народаў Зямлі, што «перасаліў» у гэтым: ад гэтага пад'ёму ў краіну Абсалютнага Ду- емцаў ажно закружылася галава, а неразумныя выпаўніцелі фіх- ідэі заваяваньня сьвету сілаю духа, замяніўшы гэтую ідэю духам вераю ў вагонь, волава і зялеза, давялі Нямеччыну на нашых ва- краху...

прыкладзе Фіхтэ мы бачым усю сілу духовага ўплыву на народ, ховага сяменьня...

ы ў гэту сілу Духа ня здольны разьбіць тыя навукі вульгарызава- атэрыялізму, якія зьяўляюцца пануючымі ў нашы часы: гэтыя на- юць свой абмяжованы прастор, дзе яны зьяўляюцца праўдай, і не юць нашае праўды. Абодва мэтады вызваленьня: матэрыяльны і — ня толькі не пярэчаць сабе ўзаемна, але неабходна дапаўня- дзін аднаго. Узгадаваць і ўмацаваць гэту веру і сілу бязьмежна ючага ў сваей моцы народнага духа, для якога ня істнуюць ніякія ходы і рубяжы, паказаць найлепшыя мэтады і спосабы дзеля гэт- аральна апраўданага росту — вось галоўная, найважнейшая зада- тых, што бяруць на сябе адказную роль быць правадырамі і ву- зімі народу, што хочуць забясьпечыць яму трывалую будучыну...

ей мы пабачым ролю і значэньне гэтага дзеяльнага оптымізму, аб ы гаварылі, як для паадзінокіх людзей, так і для цэлага народу. о і цяпер, на прыкладзе Фіхтэ і Нямеччыны, мы можам дагле- якую вялізарную сілу мае гэты пэўны сябе і апраўданы маральна дзеяльнай энэргіяй оптымізм.

тым жа прыкладзе Нямеччыны мы бачым і тое, да чаго можа да- церазьмерны, маральна не апраўданы, самаздаволены «опты- калі ён, як гэта бывае ў «гэтым найлепшым спасярод сьветаў», не раўнаважыцца адпаведнай дозай крытычнага «пэсымізму»...

ы ізноў падыходзім да таго, што зло ня толькі ня страшна, але неабходна на сьвеце, і то ня толькі дзеля магчымасьці бязьмеж- сканаленьня сьвету, але і дзеля раўнавагі як кожнае асобнае ча- душы, так і цэлых людзкіх грамадзянстваў...

## 3

кі крытычны оптымізм павінен разьвіць у сабе кожын беларус і арод беларускі ў цэлым, калі хоча астацца пераможцам у бараць- ваё істнаваньне, за сваю нацыянальную індывідуальнасьць, бо гэ- ацьба павінна адбывацца ў такіх нябывала цяжкіх, такіх выключ- гнятаючых натуральны оптымізм абставінах, якія гістарычная до- не стварала йшчэ для ніводнага народу...

ЕСЬЦЬ НІЧЫМ НЕАБАСНАВАНЫ ОПТЫМІЗМ...

Але для народу, які забыўся ўжо аб часох, калі быў пераможцам у жыцьцёвай барацьбе, для народу, які ад прывычкі да рабства, ад сталага прыніжэньня, ад раскладаючага ўплыву пераможцаў расьцярушыў у значнай меры сваю жывую энэргію, жывую бязгрэшнасьць сваіх інстынктаў, аслабіў упругую сілу свайго жыцьцёвага «тону» ды пазбаўлены жыватворнае благадаці рэлігійна-радаснага ўняцьця сьвету, жыцьцярадаснага самаўстанаўленьня свайго «Я», як асабістага, так і нацыянальнага, для народу, як народ беларускі, пазбаўленага неабходнае для духова-біялягічнае раўнавагі, для ўдачы ў жыцьцёвай барацьбе дозы жыцьцёвага оптымізму, — для такога народу, думаем мы, неабходны, калі можна гэтак сказаць, лекцыі сьвядомага, крытычнага оптымізму.

Гэтыя лекцыі оптымізму, крытычна абаснаванага ўласную маральнай актыўнасьцяй народу, спраўджаныя на вяршынях навукова-філязофскай мысьлі і на дасьледах другіх народаў, калі будуць прыложаны да тых канкрэтных абставінаў, у якія пастаўлен беларускі народ у яго жыцьцёвай барацьбе, ня толькі выясьняць скэптыкам — няверучым пэсімістам, якіх многа сярод нас, ролю і значэньне гэтае найвялікшае цэннасьці для ўсяго жывога ў прыродзе, ня толькі выясьняць умовы, прычыны і магчымасьці захаваньня, узвышэньня і ўпадку гэтае цэннасьці, але і (адважымся думаць на аснове прыкладаў другіх народаў) памогуць уваскрасіць і адрадзіць у беларуса вякамі тушаную ў ім, але вечна тлеючую ў кожным жывым стварэньні іскру жыцьцярадаснага оптымізму, без якога нямашака ні магчымасьці, ні сэнсу ані жыць, ані перамагаць у жыцьцёвай барацьбе...

Гэты жыцьцёвы оптымізм, як павінна навучаць і кожная праўдзівая Царква, прадстаўляе найглыбейшую біялягічную аснову рэлігіі, без якое ня можа жыць ніводзін народ. І толькі што на нашых вачах была спаралізавана і разбурана расейская цэрква, якая забылася аб гэтай запраўднай аснове кожнае рэлігіі...

І калі беларускаму народу гэты жыцьцёвы оптымізм ня дадзены, так сказаць, зьнізу — у дзіцячыя гады яго — беднай і паняволенай Маткай Зямліцай, дык няхай ён, бы прамень сонейка, прыдзе зьверху, няхай жыватворная благадаць гэтага запраўднага Духа Божага агністымі языкамі зыйдзе на галовы беларускага народу, няхай разьдзьмухае тлеючую ў нашых душах іскру ў незгараючую купіну аграваючага, асьвятляючага, перамагаючага акружаючы сьвет, творачага у ім нашае ўласнае, беларускае шчасьце духовага агня, які і ёсьць запраўды жывучы ў чалавеку Бог.

Толькі гэты запраўдны Бог жывое актыўнасьці і творчага оптымізму, толькі гэтая праўдзівая рэлігія сьвятла і радасьці захаваюць беларусу яго асабістае і нацыянальнае «Я» ад тае хаотызацыі, ад таго расьцярушаньн

...аду, якія гатуюць для яго як навакол, так і ў самай душы яго, ... ворагі...

... — гэта пачуцьцё сілы; пачуцьцё сілы — аснова ўсякага жыцьця. ...ка Фіхтэ. У гэтым маім «Я» зьмяшчаецца для мяне ўсенькі сьвет. ...штожце маё беларускае «Я», пазбаўце мяне ўсялякага «пачуцьця ...усялякага жыцьця — і вы зьніштожыце і ўвесь мой беларускі і ...мой агульны сусьвет.

...аадворот: зьніштожце мой беларускі сьвет, што акружае маё ... і гэтым самым вы зьніштожыце маё «Я», пазбавіце мяне самае ...ы ўсялякае сілы, усялякага жыцьця... Усё гэта добра ведае сваім ...ктам жываеда, завостраным яшчэ сьвядомай нацыянальнай ідэа... распрацаваным у цэлую праграму дэнацыяналізацыі, значыць, ...ажэньня, асьвячоным рэлігійна-ізуверскай санкцыяй «вышэйшае ...ры», той наш вораг, што тут ні на мамэнт не задрэмле...

... гэта павінен добра разумець і прысвоіць сабе беларускі народ, ...ены тутака ў палажэньне ахвяры гэнага жываеда...

... гэта сваячасна зразумее, хто ў свой час асьцеражэцца гэтага жы...аралізатара, каршуна-хаотызатара, той жыць будзе...

... спосабы дзеля самаабароны ёсьць, што гэтыя спосабы — пэў...язводныя — існуюць, за гэта ручаецца ўся гісторыя народаў, уся ...я выяўленьня Бога ў людзкасьці.

...ня здрадзіць!

...ькі трэба ўмець знайсьці гэтага праўдзівага Бога Волі, які дае веч...ыцьцё, і, знайшоўшы, служыць Яму з усей рэлігійнай энэргіяй ... веры і дзел божых...

4

...и называе чалавек усё тое, што шкодзе ягонаму жыцьцю, з чым ...цьцёвая энэргія ня можа справіцца.

... чалавечая энэргія мае здольнасьць расьці ў сваей сколькасьці і ...цца ў сваей якасьці, прытарноўваючыся да пастаўленых задач. ...ыцца, тое самае зло, якое было гібельным для слабай і няздоль...равіцца з ім энэргіі, лёгка можа быць пераможана гэнаю энэргі... яна ўзмацуецца і паразумнееець.

...ыцца, справа ня гэтулькі ў разьмерах таго ці іншага зла, колькі ...знаньні яго прыроды і ў павялічэньні кіраванае проці яго разум...ргіі чалавека. Пытаньне разьвязуецца, так сказаць, матэматычна. ...ы, на пагляд, такі просты вывад даўся, аднак, людзкасьці — ля... запужанай — вельмі цяжка.

...амага апошняга часу сусьветнае зло — у тым ці другім, вонка-

І вось праблема барацьбы са злом, з чартом, вельмі доўга разьвязы
валася зваротам аб ратунак да Бога, малітваю, мэтадамі сьляпое веры
рэлігійнаю пасыўнасьцяй.

Цяперака, як сказана, задача разьвязываецца мэтадамі прасьветлена
навукай, разумнае волі, энэргіі — матэматычна-актыўна.

Толькі адносна нядаўна, у пачатку 17 сталецьця, гэты новы просты
пэўны прынцып барацьбы са злом быў пакладзены англійскім філёза
фам Бэконам у аснову ўсяго навукова-філязофскага сьветапагляду нова
Эўропы, і, пачынаючы ад гэнага часу, пасьледавальнае прылажэнн
сказанага прынцыпу да жыцьця даваяло да нябывалага йшчэ ў гісторы
разьвіцьця тэхнікі, заваяваўшае і прымусіўшае служыць чалавеку самы
варожыя, самыя пагібельныя датуль сілы прыроды...

У выніку падчыненьня чалавеку гэнага вонкавага «чарта» ў прырод
жыцьцё і праца людзей сталіся шмат лягчэйшымі, выгаднейшымі. Выз
валіўшыся ад рабскае залежнасьці, ад працы дзеля падтрыманьня жыц
ця, чалавек пачаў свабадней працаваць дзеля паляпшэньня і прыхар
шаньня свайго істнаваньня.

У выніку ж гэтага палягчэла і змаганьне з тымі разнароднымі відам
ўнутранага «чарта», што так страшэнна пужаў прымітыўна-рэлігійна
выабражэньне вечна атручаванага ядамі сьмяротнае зьнямогі ад непа
сільнае працы сярэднявечнага чалавека, напалову раздаўленага непамер
ным цяжарам пабудаванага на ім фэадальна-гатыцкага «сабору»...

І гэнага ўнутранага «чарта» хворасьцей духа і цела стала ўсё лягчэй
лягчэй перамагаць тэй «сістэмай норм», што пакладзена сучаснай рэл
гійна-філязофскай думкай у аснову ўсіх практычных дысцыплін, які
маюць на мэце фізычнае, эканамічнае і духовае здароўе чалавека.

У аснову ж гэтае самае «сыстэмы норм», гэтага асноўнага «кодэксу
законаў і правілаў нармальнае чалавечае сьвядомасьці і паступаньн
пакладзен зусім нядаўна выкрыты і точна сформуляваны філязофска
крытыкай найвышэйшы закон для чалавека — прынцып «духовае а
тыўнасьці», які нармуецца унівэрсальным для ўсіх разнародных прява
гэтае актыўнасьці «прынцыпам эканоміі сілы».

Можна ўстанавіць як агульны закон для ўсяго жывога сьвету, шт
ўсюды ў барацьбе перамагаюць формы вышэйшае духовае актыўнасьц
Пры роўнасьці ж апошняе перамагае ў канкурэнцыі тая форма, у кат
рай гэтая актыўнасьць больш пасьледавальна падлягае закону эканомі

З гэтых двух законаў жывое прыроды няма і ня можа быць выклю
чэньняў!

Так на нашых вачах, пасярод эканамічнага і палітычнага хаосу, пак
нутага нам у спадчыну вайной і рэвалюцыяй, якія йшчэ далёка не з
кончылі свайго цыклю, родзіцца сярод бур і навальніц тая новая «рэл

снага і праведнага (значыць, маральна-эканамічнага) дзеяньня», сто гадоў таму назад, сярод падобнае ж разрухі, прарочыў Фіх-

лькі той будзе спасён, хто, працуючы, усьцяж імкнецца ўпярод»... оць анялы ў «Фаўсьце» Гётэ, што раней за Фіхтэ прадбачыў па- тую ідэю, якой пазньей ужо філёзаф даў точную формулу.

як яшчэ аб гэтым новым разуменьні Эвангеліі паводле Яна ў насьці новае людзкасьці гаварыў больш за сто гадоў таму назад Гётэ ў відзеньні Фаўста:

дух мне памагае: я разам здабываю здольнасьць бачаньня і ба-

ачатку было ня Слова, а Дзеяньне!»...

як мы сказалі, сучасны філязофскі аналіз выкрыў, што істотай вага Слова-Лёгаса, Разумнае Сьвядомасьці, Розуму Божага ў ча- ёсьць «чыстая дзеяльнасьць», чыстая Духовая Актыўнасьць. тым, хто верыць у гэтага праўдзівага Бога, толькі гэтым «новым янам» прыналежыць будучына, толькі яны ўнасьледуюць жыцьае...

цца гэтаму Богу, упадабляючыся Яму сваей жывой маральнай асьцяй, мы і клічам беларуса.

5

олькі мы праз сказаныя вышэй «паўторныя нарадзіны» — гэтае нае «аб'яўленьне» ў навальніцах і бурах духовае рэвалюцыі — м з мёртвага тупіка адарвана-контэмпляцыйнага маралізму ў жы- т творчае актыўнасьці, мы, нягледзячы на ўсё нашае жаданьне, лепшым мікраскопам у гэтым разам па-гэраклітаўску паімчаўўва мне і навакол мяне жыцьцёвым патоку ня знойдзем нівод- тых кусочкаў абсалютнага дабра і «хімічна-чыстага» зла, на якія ьвет маралісты. Перад намі — ў нас самых і па-за намі — зусім цела».

е новае цела і ёсьць жывое жыцьцё».

ь худа безъ добра» — кажа ўцяміўшая гэта народная мудрасьць усаў.

ma tego złego, coby na dobre nie wyszło» — паўтарае гэта йшчэ ле- гі народ.

гэта выяўленьні таго пачатнага оптымізму, які, як мы сказалі, жыве ў народзе.

аўды, у жывым жыцьці ўсё плыве, усё жыве, усё зьмяняецца, і о сягоньня ў маіх вачах мела ўсе адзнакі зла, заўтра робіцца ачы-

шага жыцьця проста процілежныя адказы.

Усход кажа, што ўсе гэтыяператварэньні жыцьця, якое жывым пато... кам працякае скрозь нашу выабражальную асобу, пранізываючы яе то... аспэкце зла, то ў аспэкце дабра, усе яны — Вытвар Прыпадку Лёсу, Бо... га... Ці то «замясьціцяляў» іх на зямлі ў пастаці тае або другое вонкава... ўлады, што над намі стаіць. Але яны не залежаць ад чалавека.

Захад навучае, што сам чалавек ня толькі можа ведаць напярод і тва... рыць сам для сябе прыпадак, ня толькі носіць свой уласны лёс у свае... сьвядомай волі, ня толькі сам зьяўляецца поўным сваім «начальствам... але і што, сьцісла рэлігійна выпаўняючы сваей воляй той закон, які д... дзен яму Богам, зьліваючы гэтак сваю маральную волю з воляй Божа... чалавек і па праву, і па сваей сьвядомасьці стаецца сам як быццам сва... уласным Богам...

Вось гэтак іменна, кажучы каротка, і разьвязывае праблему прыпа... ку, лёсу, Бога нямецкая філязофія, пачынаючы ад Фіхтэ і канчаюч... Марксам...

Веданьне законаў вонкавае і ўнутранае прыроды і мая нічым непер... можная маральная духовая актыўнасьць зусім вызваляюць мяне і м... сьвет ад сьляпога прыпадку, і для мяне «зусім зьніштажаецца Лёс», ... кажа Фіхтэ.

Сам Бог, аб якім мы можам ведаць ясна і точна адно толькі яго м... ральныя наказы, загаданыя чалавеку праз голас яго ўласнага сумлень... ведаць закон любві і абавязку, сам Бог ператвараецца ў «Сыстэ... Норм», у «Кодэкс» гэтых Законаў; Хрыстос абяртаецца ў любоў, у са... раньне «Запаведзей Блажэнства», у Нагорную Пропаведзь. Выпаўняюч... іх — гэты абавязак і гэтыя нормы блажэнства, я і жыву запраўдным р... лігійным жыцьцём — працую ў Богу...

Гэта і ёсьць даслоўна і выключна тое, што даў і чаго вымагаў ад ч... лавека Хрыстос. Гэта і значыць «пакланяцца Богу ў Духу і Праўдзе»...

Гэта «новае хрысьціянства» з такою ягонаю сьмеласьцю, з такою м... ральнаю паважанасьцю, уласьцівай нямецкаму генію разам з самы... крайнімі, гэтак палохаючымі славяніна вывадамі сваімі, бязумоўна вар... таго, каб з ім пазнаёміліся беларусы.

У папярэднім выкладзе нашым мы ад сябе дадалі адно слова: любо...

Нямецкае філязофскае хрысьціянства мала гаворыць аб гэт... зьмесьце маральнага закону, яно гаворыць толькі аб форме яго, аб б... зумоўным абавязку бязспыннае духовае актыўнасьці. Але якраз гэ... фармальны абавязак адносна да самога сябе, абавязак бязспыннае ду... вае актыўнасьці — найлепшая школа для славяніна, які, захопліваюч... ся часта любоўю да бліжніх, мае гэткую склоннасьць забывацца аб стр... гай і маральна-вымагаючай любві да сябе самога...

на Беларусь знаходзіцца якраз на мяжы паміж Захадам і Усходам;
ня бліжэй да Захаду. І яна павінна ведаць заходнія мэтады ба-
з злом, бо толькі імі пераможа тое зло, якое пагражае ёй з блі-
га да яе польскага Захаду.
ж патрэбна перш за ўсё дзеля таго, каб я, выпаўняючы загады
точна вядомае мне Вышэйшае Нормы, сам стаўся сваім Праві-
ем, зусім выкінуў з свайго духовага жыцьця, з свайго сусьвету
ак і лёс, такія магутныя на Усходзе?!.
ш за ўсё ўва мне павінна быць гэтае маё «Я». Перш за ўсё пат-
каб мая асоба з тае выабражальнае, нястойкае формы, што гэтак
чна-слаба воляй, так маральна-бязсільна ў барацьбе на Усхо-
сталася для мяне найпершай і найбольш бязспорнай рэальнась-
сьвеце. І мы ведаем, што іменна гэтым першым крокам у Духу і
на Захадзе той выхад з «Усходу Сярэднявечча», які пачынае са-
вую гісторыю запраўднага Захаду.
шае, што, збудзіўшыся, учыніла новая ў сьвеце людзей сіла —
шая крытычна мысьлячая форма духовае актыўнасьці чалавека,
ленная ў францускім філёзафе і матэматыку Дэкарце, было аддань-
сумліў усяго на сьвеце і ўстанаўленьне таго, што адзінае зьяўля-
салютна бязспорным майго мысьлячага, хоць і ўва ўсім сумлява-
«Я».
мляваюся ўва ўсім, — значыць адно, у чым я не магу сумлявац-
гэта маё «Я».
умаю — значыць я істную», — гэтак кажа знамянітая формула
а. І для кожнага з нас першы крок дзеля прынцыповае магчы-
бароцца са злом дарогай ператвараньня ў дабро працякаючае мі-
і скрозь нас жывое, часта варожае нам многаабразнасьці сьве-
эта ўстанаўленьне і ўмацаваньне свайго духовага «Я», сваей ма-
актыўнай асабістасьці.
е маё «Я» прадстаўляе самую істоту майго жыцьця.
форме гэтае «Я» ёсьць абсалютная адзінасьць, якая недаступным
ню актам усьведамленьня злучае ў сабе, як у цэнтры, усю пра-
ую многаабразнасьць сьвету.
ьместу гэтае «Я» ёсьць жывая, актыўна творачая сама сябе з гэ-
вету «монада» сусьветнае Разумнае Волі — значыць, Божства.
к навучае і запраўднае Хрысьціянства.
е жывое «Я», якое ўва ўсенькім жывым сьвеце зьяўляецца на-
кам інстынктаў, забясьпечываючых вечнае захаваньне і прадоў-
жыцьця, у чалавека, як сказана вышэй, узвышаецца да сьвядо-
да духоўнасьці, да самаўсьведамленьня і ўсьведамленьня Бога.
сь першы інстынкт, які дайшоў у чалавека да сьвядомасьці, кажа

аомыльнага распазнаваньня дабра і зла, друга і ворага, — зруйнуй
жывы апарат яго пачатае актыўнасьці, яго так званую «апэрцэпцыю
якая ёсьць самай істотай яго жыцьця, яго асабістасьці.

Гэткім расьцярушаньнем і расчыненьнем яго «Я» вы руйнуеце я
жыцьцё, зьніштажаеце яго асабістасьць...

Аб гэных біялягічных ядах, аб гэных «расчынцах індывідуальнай і н
цыянальнай асабістасьці» мы будзем далей гаварыць падробна. Цяп
скажам толькі тое, што найстрашнейшым спаміж іх, страшнейшым...
правакацыю, зьяўляецца алькаголь... Тая самая, на жаль, так мілая б
ларускаму сэрцу, ад простага селяніна да... беларускага пасла ў польск
сойме, на пагляд, зусім ня страшная, гарэлка... І нездарма гэты на
страшнейшы духоўна-клетачны яд, гэты запраўдны «чорт» беларуска
сьвету абабраў такую мілую, прыемную форму... Нездарма ўся Заходн
Беларусь напоўнена, наліта да краёў гэтым вырабам.... «вышэйшае кул
туры», гэтым, як быццам творачым так патрэбны беларусу оптыміз
«узьвесяляючым ядам», гэтым гістарычным бічом славянства...

## 6

Вось, значыцца, бязспынная творчая актыўнасьць, якая чынна зм
гаецца з злом, пертвараючы яго ў дабро, магчыма толькі пастольк
паскольку ўва мне істнуе стойкае, духова-адзінае, сьвядомае сябе, кір
ванае законам абавязку маё «Я».

І тагды, калі мы самі ўзмацуем у сабе гэтае нашае «Я», перад ім а
крыецца магчымасьць ня толькі плыць па цячэньню гэнага жыцьцёва
патоку, што нясець нас мо да пагібелі, ня толькі распазнаваць, што да
ро і што зло, але і плыць проці цячэньня, сваею ўласнаю сілаю ісьці н
сустрэчу злу, пертвараючы яго ў дабро сілаю сваей божскай творча
актыўнасьці.

Іменна пертварэньне зла ў дабро і становіць запраўдную мэту ўся
жывога, запраўднае прызваньне і найвышэйшае назначэньне чалавека

Тады ўсё варожае нашаму жыцьцю, што акружае нас на сьвеце, у
тое зло, якое зьмяшчаецца ў нас самых, зьявіцца для нашае маральн
працоўнае, божска-творчае волі як быццам сыр'ём, якое мы прызван
Богам пертвараць у тое, што можна у шырокім рэлігійна-гаспадарчы
значэньні назваць дабром, пертвараць ніжэйшыя формы жыцьця ў в
шэйшыя. Гэта ж і ёсьць высокае, вечнае, клічучае і ніколі нявычарпан
заданьне чалавека.

Тая сіла ў чалавеку, што, ніколі ня зьнікаючы, голасам самога Бога
нас падбівае нас усьцяж займацца гэтым пертварэньнем зла ў дабро
ёсьць разумная энэргія.

 разумная працоўная энэргія і ёсьць тое, што збліжае нас з Бо-
рцом; яна зьяўляецца запраўдным божскім зачаткам у чалавеку.
гіі абразова выражаюць гэта так, што сам Бог няўстанна змага-
сусьвеце з чартом і канчальна пераможа яго толькі пры канцы
Дзеля гэтага кожная наша ўдача і перамога на гэтай дарозе, ко-
айменшы нават, раўнуючы да гэнае вечнасьці барацьбы, крок,
акі об'ектыўна прыбліжаючы нас да тае апошняе перамогі, мае
кі «маральнае» але і спраўдзі рэлігійнае, як кажуць, «онтолёгіч-
чэньне і, як такі, дае нам, быццам самая шчырая малітва, такжа
тыўную радасьць...
 спраўдзі рэлігійная радасьць зьяўляецца як быццам бясплат-
даткам да таго практычнага выніку, што дае кожная разумная
эткаму веручаму працаўніку ў абшырнай майстроўні Божае пры-

 радасьць, быццам ад малітвы, паказуе на тое, што мы гэтак
ы выпаўняем закон і задачу нашага жыцьця, разьвіваем у сабе
е запраўднае божскае істнасьці, якая збліжае нас з Богам.
епшае азначэньне і выясьненьне істоты радасьці даў слаўны фі-
кыд Барух Сьпіноза, што разам з Бэконам, Дэкартам, Джордано
 другімі апосталамі новае Эвангэліі жыў на рубяжы новых часоў,
а, ня столькі сьветапагляд каторага, сколькі яго сьветаадчувань-
 ў аснову рэлігійнае, філязофскае і палітычнае сьвядомасьці но-
авека. Сьпіноза кажа, што пачуцьцё радасьці ёсьць суб'ектыўнае
ё ў нашай сьвядомасьці об'ектыўнага факту росту і расшырэньня
душы, разьвіцьця ў нас нашае запраўднае істотнасьці — часткі
 Божства.
za rośnie», — вельмі пекна выражаюцца палякі.
ыцца, наадварот, наш сум ёсьць адбіцьцё ў нашай сьвядомасьці
нага працэсу: абядненьня душы, скажэньня ў ёй запраўднага аб-
жага...
арма і старыя мудрыя ўсходнія багасловы лічылі «панурасьць»
з сямёх сьмяротных грахоў, што напэўна губяць душы...
 бачым, што ўсё гэта зусім зыходзіцца з тым, што аб духовай ак-
ці кажам мы.
ыцца, тутака мы маем дзела з запраўды універсальнай цэннась-
тольнай для ўсіх часоў і народаў.
начэньня Сьпінозы мы бачым і тое, што толькі тая радасьць зап-
праўдана, якая зьяўляецца адбіцьцём об'ектыўнага факту росту
душы, значыць, росту дабра — Бога ў Сусьвеце.
тага выцякае і той кардынальны для ўсяго нашага разважаньня
ны вывад, што, нягледзячы на ўсе няпрыхільныя абставіны ў ак-

ўсей нямецкай «практычнай (значыць, маральнай) філязофіяй».

Гэта — тое, што ад жыдоўскага духа трэба ўзяць сабе на неад'ёмн... ўласнасьць і беларускаму сьвету, каб ён, радуючыся сваім быцьцём, ... леў у жыцьцёвай барацьбе.

Удумайцеся ў гэты цудоўны кругаварот актыўнага оптымізму Сьпін... зы—Фіхтэ: душа радуецца затым, што яна расьце ў Богу-Прыродзе; ... ноў жа, ператвараючы сьвядомым высілкам сьвет і сябе ў вышэйш... формы актыўнасьці, у дабро, яна спараджае радасьць... Для гэтага пр... цэсу радаснага росту душы і ператвараньня ў дабро ў сусьвеце няма ... бяжоў! Адно памагае другому: радасьць — творчасьці і духоваму рос... і наадварот.

Усё гэта вынікае з тае асноўнае ідэі Сьпінозы, якая лягла ў асно... нашае сьвядомасьці: што наша любоў да Бога, нашае дзеяльнае ... кненьне да Яго ёсьць нішто іншае, як любоў і імкненьне Бога да сам... сябе, бо наша душа і Бог — гэта адна і тая ж самая Істота Сусьвету...

Кожнаму беларусу трэба крэпка сабе ўсвоіць гэта і крэпка верыц... гэтага вечна творчага Бога, што жыве ў нас! Верыць і ведаць, што ... гэтай, рэлігійна прызванай тварыць сьвет актыўнай энэргіі чалавека ... ма і ня можа быць ніякіх перашкод і забаронаў у сусьвеце!

Гэтая энэргія, быццам чарадзействам, перамагаючы перашкоды, ... жа прыймаць самыя неспадзейныя формы, самыя нябывалыя дагэт... трансфармацыі. Гляньце, як гэтая многаабразная энэргія нічым непе... можнае жыцьцёвае актыўнасьці прабіваецца нават скрозь тыя пераш... ды, што ёй так часта стаўляе прыпадак ці прырода: сьляпы ад ураджэ... ня навучаецца чытаць дотыкам; глухі разумее мову па руху вуснаў; ня... размаўляе знакамі — пры помачы пальцаў...

І ўсё гэта дзеля таго, каб забясьпечыць пабеду ў сусьвеце таму, ... запраўды служыць гэтаму праўдзіваму Богу.

Гэтая пачатная адзіная энэргія Духа ў чалавеку даўно ўжо быц... упаўшая з неба зорка разсыпалася на вечна паланеючыя ў чалавеч... духу рознакалёрнымі агнямі «другарадныя зоры», кажучы філязофс... языком, «дыфэрэнцыравалася на функцыі разумнае сьвядомасьці», ... навуковае мышленьне, на этычнае будаваньне і ўзгадаваньне грамад... ства людзей, на мастацкую творчасьць, на гаспадарчую рэарганіза... сьвету, на рэлігійнае завяршэньне сусьветнае Сьвятыні... І ўсе гэтыя ... асобныя функцыі служаць у чалавека дзеля аднае мэты: каб вызва... яго дух, перамагчы ў сусьвеце зло, ператварыць яго ў дабро...

Вось тыя непераможныя для ворага дарогі і мэтады... І ўсе яны ... вінны быць ужываны паасобку і разам.

І той вораг, каторы будзе змагацца з Беларускім народам супраці... тых мэтадаў Божых на зямлі, той сам будзе пабіты Богам. Для яго,...

ларусі, як для ворага самога Бога Жывога, няма і ня можа быць аньня!..

скажа нам, што, калі мы, беларусы, у саюзе з гэтым Богам пой-оці тых нашых ворагаў, што йдуць проці гэтага Бога, дык мы бу-раможаны?!.

7

утным будзіцелем, пабудзіцелем і саюзьнікам падупаўшага або нага ў народзе пачатна-біалягічнага оптымізму зьяўляецца нацы-ае пачуцьцё і нацыянальная ідэя.

гэта зразумела. І адзін, і другая, так сказаць,ператвараюць па-«натуральны» оптымізм у вышэйшую больш свядомую і трыва-олей духовую форму яго. Яны твораць і ўскармліваюць «нацыя-оптымізм» народу. Кожнае малое чалавечае «я», пачуваючы сябе о вялікага «Я» — нацыянальнага, набывае і больш «пачуцьця сі-гэтага ўзрастае і пашыраецца само сабой гэнае маё малое «Я», , як мы ведаем, паводле Фіхтэ, і ёсьць маё «пачуцьцё сілы», са-ынцып майго жыцьця»...

а, што нацыянальнае пачуцьцё дае асобнаму чалавеку шырэйшы ып жыцьця», дужэйшае «пачуцьцё сілы», узбагачывае ягоную ду-

мы ведаем, што, паводле Сьпінозы, побач з гэтым об'ектыўным сілы маей душы, побач з узбагачаньнем яе, неабходна адбываец-апорцыянальнае нарастаньне ўва мне радасьці.

я радасьць, гэты нацыянальна абаснаваны оптымізм чалавека трывалы і больш стойкі, чым оптымізм натуральны, бо знахо-ля сябе новыя, раней невядомыя, больш стойкія падставы нацы-ай лучнасьці, у ўсенародным жыцьці.

м спосабам, ужо самым фактам нацыянальнага самапачуваньня, усьведамленьня кожным асобным «Я» сваей арганічнай адзі-з вялікім нацыянальным «Я», крытычна-трывала ўзвышаецца ёвы оптымізм у загнаным, пануранным дагэтуль народзе.

наму ясна, што гэны рост народнага оптымізму запраўды прак-абаснаваны, бо точна адпавядае росту рэальнае сілы народу, нага ў моцны, нацыянальна спаяны арганізм.

спаяны сувязяй нацыянальнага пачуцьця народ прадстаўляе ў ёвай барацьбе непараўнана вялікшую сілу, чым народ, які зьяўля-аводле выражэньня біалёгаў, толькі «калёніяй» аднаго тыпу, «этнаграфічнай масай» — нечым кшталтам лесу, які можна сся-ва за дрэвам, лесу, у якім кожнаму асобнаму дрэву не баліць, калі

мэты ўсю дарогу для нашае энэргіі, што звычайна пачынае працава
як быццам упоцемках, кіруючыся болей ці меней «няясным пачу
цём», «цёмным», ды заўсёды правільным інстынктам жыцьця.

Пакуль энэргія чалавека ці народу яшчэ ў сфэры «пачуцьця», несь
домага інстынкту дзеець як быццам упоцемках, яна, пры ўсей сваей, т
сказаць, «тэхнічнай неабмыльнасьці» прыроднага інстынкту лёгка мо
быць абаламучана, пакіравана на фальшывую дарогу, нават на даро
самагубства...

З жыцьця кузулек мы ведаем, як часта іх несьвядомыя інстынкты,
неасьветленая сьвятлом разумнае сьвядомасьці энэргія, нават неабмыл
на правільна выпаўняючы закладзеную ў іх прыродай «праграму» дзе
насьці тае ці іншае сыстэмы органаў, вядуць кукульку ці засуджаюць
потым на пагібель...

Каб не рабіць больш зложных дасьледаў, даволі прыпомніць вядом
ўсім, асабліва яркі для нас, прыклад, як у начы лятуць на агонь матыл
кі, гінучы як ахвяры ашукаўшага іх «фальшывага сонца»...

Гэтаксама і чалавека, і цэлыя грамадзянствы можа загубіць пастаўл
ная перад імі — упоцемках несьвядомага інстынкту — фальшывая ідэ
якая паказуе фальшывую дарогу і разыходзіцца з запраўднай мэтай за
ладзеных у іх прыроду інстынктаў.

Асноўным зьместам нацыянальнае ідэі ў такіх паняволеных і падз
леных народаў, як народ Беларускі, зьяўляецца ВОЛЯ.

Калі самы мэтад духовае актыўнасьці, які творыць бязвыключна ў
матэрыяльныя цэннасьці ў сусьвеце, даючы мне ў дадатку пачуцьцё р
лігійнае радасьці супрацоўніцтва з самым Богам-Тварцом, прынцыпо
магчымы толькі ў залежнасьці ад маей свабоды; калі, як мы пабачы
далей, асноўным сэнсам агульналюдзкае гісторыі зьяўляецца «самавы
валеньне Сусьветнага Духа, што жыве ў людзкасьці», дык ня можа бы
ніякага сумліву ў тым, што ідэя нацыянальнага вызваленьня, ідэя нез
лежнасьці народу, стварэньня ім для сябе і з сябе свайго ўласнага га
падарства — гэтая ідэя правільная, справядлівая.

Гэтая ідэя, значыцца, ня можа быць у супярэчнасьці ані з заложаны
у прыроду чалавека інстынктам, ані з маральным законам, каторы,
далей пабачым, ёсьць сама воля, ані з гістарычным прызваньнем нар
ду, ані з агульнай задачай, інтарэсамі і рэлігійным назначэньнем ус
людзкасьці.

Вольная, незалежная, непадзельная Беларусь — гэтая ідэя, гэтая ід
альная мэта павінна крэпка ўкараніцца ў сьвядомасьці кожнага белару
і павінна ўсьцерагчы яго ад усіх «фальшывых сонцаў», якімі яго вора
удаўшы прыяцеляў, заманіваюць і баламуцяць яго «цёмныя інстынкты
яго «няясныя пачуцьці». Пытаньне можа быць толькі аб тым, якімі д

найбліжэй і найпэўней дайсьці да гэтае мэты поўнага ўнутранага
вага вызваленьня Беларускага народу.
аб гэтым і вядзецца наша гутарка.
ост беларускае народнае сілы і народнае радасьці — гэты залог
а народнага вызваленьня — магчымы, як і ў кожнага другога на-
олькі ў арганічна аб'яднаным нацыянальным «Я», дык ясна, што
задача збудзіўшагася са сну народу — гэта выкарыстаньне ўсіх
і ўсіх спосабаў, якія вядуць да такога нацыянальнага аб'яднань-

дворот: дзеля тае ж прычыны, наагул, найлепшым і унівэрсаль-
этадам паняволеньня і зьніштажэньня таго ці іншага народу
цца мэтад падзелу.
ная акупацыя краю, як гэта беларусы ня раз ужо добра спазналі
заўсёды і пачынаецца з забароны фізічнага руху, нават пераходу
вёскі ў другую, з захопленьня акупантамі ўсіх прыладаў дзеля яз-
вядзеньня сыстэмы «пшэпустэк» і г.п.
лізацыя ўсялякага руху ў народным арганізьме — першы крок
кываеда дзеля пажраньня і спакойнага пертраўленьня ахвяры...
туль Беларускі народ ня вёў яшчэ актыўнае барацьбы з шкодні-
аёй актыўнай энэргіі, свайго беларускага «абраза культурна-лю-
Бога» мэтадамі аб'яднанага калектыву, сіламі і засобамі свайго
альнага «Я». Ён толькі з уласьцівай яму, задзіўляючай сілай асы-
глытаў у сваім жывым моры ўваходзіўшыя ў яго чужыя элемэн-
польскую шляхту, так і маскаля-старавера і другіх. Цяперака бе-
першы раз прымушаны хапіцца за гэты новы для іх спосаб ба-

ымізм Беларускага народу доўгі час быў спаралiжаваны якраз
то народ, быццам лес, быў пазбаўлены руху, быў пазбаўлены
асьці актыўна змагацца з асноўным злом свайго падзелу, сваей
падтрымліванай нярухомасьці і пасыўнасьці, што забівалі ў ім
цё сваей сілы і сьвядомасьць нацыянальнае адзінасьці.
ака, як мы ведаем, ратунак прыйшоў як быццам зьверху — з Ду-

шаю сілай, якая, яднаючы народ, узгадоўвае яго «пачуцьцё сілы»,
ь у ім неабходны дзеля далейшага росту, дзеля сьвядомае бараць-
ваё вызваленьне, жыцьцёвы оптымізм, зьяўляецца паэзія.
дарма і самае слова «паэзія» значыць па-грэцку «дзеяньне», твор-
г. ё. іменна тое самае божскае дзеяньне, тварэньне, якое выкры-
ым хрысьціянствам» у «Слове» эвангеліста Яна, тая самая «духо-
ыўнасьць», якую мы тутака прапаведуем.
мы ведаем з уласнага прыкладу Беларусі, што першым выяў-

І мы, калі б нават ня былі знаемы з новай беларускай паэзіяй, за
дзя неабмыльна маглі бы сказаць, што паўтараныя паводле народ
традыцыі (якая, на жаль, падтрымліваецца і сучаснымі абставінамі
роднага жыцьця) нязьменныя жальбы на «долю» і «няволю» залівают
тэй магутнай стыхіяй новага, паэтычнага, значыцца, духова-дзеяль
апраўданага нацыянальнага оптымізму, якім гэтая паэзія пранікнут
самай істоце свайго жыцьцёвага «тону».

Адзінокія, чуць тлеўшыя ў душах іскры разгарэліся першы раз у
лікі пажар ад гэтага жыватворнага полымя паэзіі... І гэта зразумела.

Паміма таго, што загаварыла маўчаўшае дагэтуль вялікае народ
«Я», якое пашырыла і ўзбагаціла асобныя душы, спавіўшы агнём па
паадзінокія «я» у вялізарную нацыянальную суцэльнасьць, ня ме
важна і тое, што, як кожнае асобнае «Я», так і вялікае «Я» народу, п
шы раз пачулі сябе, прайшоўшы «скрозь полымя паэзіі», ня толькі «
этамі вершаў», але і «паэтамі жыцьця», паэтамі ўласнае душы, адчул
сабе магчымасьць і волю стацца актыўнымі тварцамі свайго ўласнага
су, сваей «долі» і сваей «волі»...

Гэта новая радасьць, новы паэтычны оптымізм об'ектыўна і апр
дываецца тым, што тут, у паэзіі, знойдзены ўрэшце той новы правіль
мэтад духовае актыўнасьці, новая правільная дарога дзеля выхаду з р
ства ў прыроды і ў «пана», выхаду з таго «кола вечных паўтарэньняў»
«Адвечнае песьні» расьліннага, несьвядома-працоўнага жыцьця, з як
здавалася, ня было ніякага выхаду...

Гэтая новая, запраўды людзкая радасьць нарадзілася пачаткова з
го, што зьліцьцё ў паэзіі падзінокіх «я» ў вялікае нацыянальнае «Я»
роду скранула ўрэшце народ з мёртвага пункту, раскрыла «выхад з пр
роды ў гісторыю», інакш кажучы, адкрыла дарогу да духовага рос
разьвіцьця і, значыцца, да самавызваленьня, да спаўненьня народ
свайго божскага прызваньня ў сусьвеце.

Гэты новы, выкрыты ў паэзіі, мэтад ня толькі самаўсьведамлень
але і саматварэньня і ёсьць той найпраўдзівейшы, непераможны, але
перамагаючы мэтад духовае актыўнасьці, аб якім і йдзе ў нас гутарка

Мы бачым, наскольки об'ектыўна і маральна абаснаваным зьяўляец
той сьветлы оптымізм, каторы, як жывая благадаць запраўднага Б
Жыцьця, Сьвятла і Радасьці, сплывае ў душы Беларускага народу ад
паэзіі.

Але нацыянальная паэзія робіць толькі першы крок на дарозе да
роднага саматварэньня, даючы народу першы раз пачуць сябе сва
уласным творцам, яна дае чалавеку і народу толькі пачатак заўладань
акружаючым іх, іх уласным, па праву ім прыналежным, ды, на жаль,
хопленым другімі сьветам, правільна паказуючы мэтад заўладань

ўсё сваімі ўласнымі сіламі, мэтад бязьмежнага росту апошніх у
альнай адзінасьці і разьвіцьці.
і крок на гэтай дарозе робіць крытычнае самаўсьведамленьне на-

эзіі выяўляецца, заражае і будзіць прыспаныя душы душэўная
асьць народу; у новай задачы крытычнага маральнага самаазда-
ння народу выступае як магутны дзеяч духовая актыўнасьць
га.
од, які зрабіў хоць адзін крок на гэтай новай дарозе маральнага
рэньня, ужо ніякімі сіламі — ні ўплывамі, ні гвалтам — ня мо-
ь забіты, паняволены ці дэнацыяналізаваны. Як толькі ён стаўся
ласным сьвядомым духовым тварцом, дык ужо ніякая вонкавая
сьвеце ня здолее перарабіць яго на свой капыл, скажаючы ў ім
сны, індывідуальны абраз Божы.
дварот: ад гэтага іменна мамэнту чым цяжэйшымі робяцца здзекі
ы, тым мацнейшы адпор яны выклікаюць, тым шыбчэй расьце
альная сьвядомасьць. Гэта і знача, што ўся справа, уся барацьба
ла ў краіну Духа, дзе мэтады гвалту зусім бязьсільны...
— затым, што такі народ нават у рабстве стаецца ўжо вольным

этага мамэнту для яго канчаецца пэрыяд падчыненьня і дрэсі-
наступае час культуры і фармаваньня.
шы раз пачуўшы сябе вольным інструмэнтам Божскае волі, на-
уе нешта вышэйшае, чым «натуральны», чым збуджаны паэзіяй
альны оптымізм, нешта вышэйшае і мацнейшае за гэнае «адбі-
чуцьцё радасьці пашырэньня душы, ён пачуе ў сабе чалавечую
ць і пашану да сябе як да вольнага, сьвята выпаўняючага ма-
абавязак супрацоўніка самога Божства ў сьвеце.
дзеўшыся навакол сябе і заглянуўшы ў сябе, ён першы раз уба-
сю тую агіду, у якой ён жыве, і пасьля такога маральнага перара-
я пачне з усей энэргіяй перараджаць на новых асновах усё сваё
ае і вонкавае жыцьцё...
тынкт самапаважаньня — вагар маральнасьці». «Разьвіцьцё сама-
— першая ступень маральнага ўзгадаваньня». Чалавек, які па-
ану да сябе, стаецца, паводле вельмі пекнага выражэньня расей-
сьменьніка Гэрцэна, «непапраўна чалавекам». Ён будзе рабіць
я дзеля нейкіх староньніх мяркаваньняў, а толькі дзеля пашаны
а і паважаньня самога сябе.
олькі народ пачынае вытвараць з сябе такіх маральна перарадзіў-
дайшоўшых самапашаны дзеячоў, дык толькі тады пачынаецца і
духовае, праўдзіва маральнае фармаваньне яго. Той стан самапа-

лепшых яго прадстаўнікоў, якія самым сваім жыцьцем, а ня толькі с
імі прамовамі і пісаньнямі навучаюць народ... У жыцьці такога нар
пачынае тварыцца тое, без чаго няма і ня можа быць ні запраўдн
агульнанацыянальнага жыцьця, ні запраўднага духовага аб'яднаньня,
запраўдных народных дзеячоў, пачынае тварыцца публічнасьць нар
нага жыцьця, яго грамадзкасьць.

Поўная публічнасьць ёсьць той варунак, адкрытая грамадзкас
ёсьць тая асярэдзіна, якія і робяць магчымым уплыў маральнага пр
ладу правадыроў народных, а гэтым і пачынаецца самаўзгадаваньне
роду. Толькі тады, як у народзе пачалося гэтае грамадзкае самаўзга
ваньне ў атмасфэры поўнае публічнасьці, ён, народ, як Натан Мудр
вядомай драме нямецкага пісьменьніка Лесінга, здабыў права сказа
«Няхай нас чуе ўвесь сьвет!»

І такі народ можа быць пэўны, што ўвесь сьвет яго пачуе, няглед
чы на тыя паліцэйскія жывадзёрні, у якіх заглушаецца голас яго пр
стаўнікоў...

Наш народ у асобах сваіх найлепшых прадстаўнікоў ужо пачуў у са
гэту самапашану, і іх вустамі ён ня будзе паўтараць гадкія і надаеўш
«жаласьлівыя» словы аб тым, што «вось Пілсудскі абяцаў, казаў: роў
з роўнымі, вольны з вольнымі... а цяпер...».

Ён зразумеў усю пустату і дарэмнасьць гэтых слоў, і самапашана
пазволіць яму паўтараць іх...

Але дарога, што павінна давясьці да перамогі ўсяе сумы беларуск
нацыянальнага зла, да дасяжэньня нацыянальнага ідэалу, доўгая і ця
кая.

Удача на гэтай дарозе цалкам будзе залежаць ад таго, якімі мэтада
Беларускі народ будзе змагацца з акружаючым яго злом, творачы на
кол сябе свой нацыянальны сусьвет і гэтым самым падчыняючы са
тое, што прыналежыць яму па праву прыроды, па Божым і людзкім
конам, ды што, на жаль, яму, як і кожнаму паняволенаму народу, пр
ходзіцца заваёўваць нанова...

У новым, «надпрыродным» сьвеце, які на нашых вачах будуецца гр
мадзянствамі людзей, у іх канкурэнцыі няма і ня можа быць тае вечн
і «сьвятое ўласнасьці», на якой апіралася даўнейшае грамадзянства ст
рога ладу. І гэта адносіцца ня толькі да ўсіх відаў «капіталу», але,
жаль, і да ўсіх відаў «найсьвяцейшых» і «неад'емных» «правоў чалаве
і грамадзяніна». Кожную сваю ўласнасьць, кожнае сваё права прых
дзіцца як быццам штодня заваёўваць сабе нанова...

Тое ж трэба сказаць і аб так званых «правах народных». Права на н
родную зямлю, на сваю бацькаўшчыну, на сваю мову, культуру, на с
мавызначэньне, на вольнае развіцьцё, нацыянальнае аблічча і г. д.

...тыя правы цяпер ня толькі «бяруцца з бою», але і валаданьне імі ...к трэба падтрымліваць заўсёды напружанай энэргіяй, вечнай духо...ктыўнасьцяй, як быццам запраўды кожную часіну заваёўваць на...пасярод вечнае канкурэнцыі народаў.

...толькі народ, нават той, які мае так званую «сувэрэннасьць», па... адставаць, духова абленівацца, як толькі ён губляе сваю творчую, ...ўную актыўнасць, дык ураз жа пачынае губляць часткамі сьпярша ...чную, а пасьля і юрыдычную «ўласнасьць» нават на сваю ўласную ...аву... Яго тэрыторыя, яго «натуральныя багацьці» пераходзяць да ...шых канкурэнтаў, якія маюць вышэйшую духовую актыўнасьць і ...лі ў яго зямлю капітал сваей энэргіі. Народ пападае перш у эка...нае, а пасьля і ў палітычнае рабства ў народаў з вышэйшай актыў...ай... І гэтага закону ня спыніш, ня зьменіш ніякімі «пунктамі ...она», не затрымаеш нат «прызнанымі «de jure» граніцамі!..

...гэтай канкурэнцыі найстрашней тое, што, як гэта ні дзіўна і ні ...на, ані для чалавека, ані для цэлага народу не зьяўляюцца «сьвя... нязьменнай уласнасьцяй ані самі яны, ані іх уласная духовая — ...дуальная, нацыянальная — асабістасьць, але яе, як і кожную ін...ўласнасьць, ня будзем штодня заваёўваць нанова сваей уласнай ...й працай. І кожын з нас у кожную часіну можа папасьці ў такое ...ае рабства.

...дома, свая дзяржава — гэта вялізарная сіла, вялізарнае дабро для ...у. На жаль, і гэту ўласнасьць — гэту найвялікшую цэннасьць на...о — ня толькі трэ ўмець удзяржаць у сваіх руках, але яе ўдзяр...акраз і найцяжэй за ўсё на сьвеце.

...рад нашымі вачыма найболыш пераконываючы доказ таго, як мала ... толькі акту «ўваскрасеньня з мёртвых», як нястачны нават най...лівейшыя, казачныя вонкавыя варункі, як не ратуе палажэньня ...перагрэты містыцызмам і мэсіянізмам, але ня маючы маральнага ...ваньня, нацыянальны оптымізм тады, калі йшчэ трэба дабіцца, ...дараваная ці верненая дзякуючы гістарычнаму крызісу свая ўлас...зяржава сталася запраўды трывалым нацыянальна-палітычным ...н...

...у прыродзе наагул, так і ў «другой прыродзе» — у грамадзянстве ... — няма і ня можа быць ніякіх «купчых крэпасьцяў», ніякіх «да...ў», ніякае «статычнае раўнавагі»... Раўнавага ў іх заўсёды рухо...кінэтычная», як кажуць фізікі. Гэта значыць, што, пачынаючы ад ...сьцейшых целаў неарганічнае прыроды і канчаючы найвышэй... найболыш зложнымі сацыяльнымі арганізмамі, усюды йдзе ба... і канкурэнцыя жывых сіл, і кожнае дадзенае цела — гэта існую...лькі ў дадзены мамэнт іх рухомая раўнавага.

гістарычны факт, а есьць вечна творанае духовай актыўнасьцяй грама-дзкае зьявішча.

Адзін з найсьвятлейшых і найдасьціпнейшых геніяў Францыі Рэнан у вядомай сваей публічнай лекцыі на тэму «Што такое нацыя?» зусі справядліва кажа, што нельга знайсьці ніводнае сталае і істотнае адзна кі, каб даць азначэньне «нацыі». Як толькі народ уваходзіць у вышэ сказаны працэс разьвіцьця паводле закону канкурэнцыі, дык ураз ж ўсе геаграфічныя, расавыя, этнаграфічныя, дзяржаўныя адзнакі, выдзя ляўшыя яго датуль спаміж другіх народаў, стаюцца плыўкімі, зьменны мі... Народ стаецца тым, чым ён сам сябе штодзенна робіць. І Рэнан л чыць магчымым даць толькі гэткае фармальнае азначэньне нацыі: «На цыя — гэта штодзённы плебісцыт», — кажа Рэнан.

Прыналежнасьць да тае ці іншае нацыі, маё «вольнае» самавызна чэньне — гэта просты і нямінучы вынік сталых уплываў, якія маё «Я штодня прыймае ў сябе ад тае асярэдзіны, дзе я жыву, ад таго грама дзкага калектыву — таго вялікага «Я», да якога я прыналежу, зусім н абавязкова ад гаспадарства!... Газэта і кніга, абставіны жыцьця, вышын падаткаў, грашовыя знакі (марка!), абвяшчэньне таго ці іншага новаг закону, загад адміністрацыі, тэатральная навінка, дыпляматычная ўдач ці няўдача, трываласьць і бясьпечнасьць вонкавых граніц — уся многа абразнасьць штодзённага ўплыву на мяне паадзінокіх праяваў агульнаг жыцьця ў дадзеным колектыве і выклікае ўва мне «штодзённы плебіс цыт», штомінутнае маё «самавызначаньне», у выніку каторых у тысяча такіх жа адзінак, як я, і складаецца тое, што называюць цяпер «нацыя нальнасьцяй». А з гэтых адзінак фармуюцца сучасныя «нацыі».

Зьмяніце агульную сыстэму гэтых уплываў, замяніце адну іх «сымфо нію» другою — і ўся мая «нацыянальнасьць» дадзенага мамэнту пера церпіць сур'ёзную спробу...

Ясна, што і тут закон канкурэнцыі, адносная цэннасьць гэтых «сым фоній» і трываласьць гэтых «нацыянальных сыстэм», іх здольнась выклікаць у сваіх грамадзян «штодзённы плебісцыт» наагул на іх к рысьць іграюць шмат вялікую ролю, чымся геаграфічныя, пачатна-бі лягічныя, нават рэлігійныя адзнакі і розьніцы, што сьпярша вытвара тыя ці другія калектывы людзей — «нацыянальнасьці».

Беларускі сьвет, адраджаючыся дзеля гістарычнага жыцьця, таксам падпадае пад дзейнасьць гэтага неўмалімага закону «штодзённага пл бісцыту».

Дзеля таго каб стацца «нацыяй», значыць, тым, што французы наз ваюць «nation», каб стацца самастойным, грамадзка-арганізаваны дзяржаўна-незалежным народам, беларусы павінны самі тварыць сво сусьвет, сваю ўласную «сыстэму ўплываў», усьцяж тварыць сваю ня

...а канкуруючую з другімі — «дэнацыяналізуючымі» — уплывамі ...ыянальную сымфонію», свой «штодзённы плебісцыт», павінны самі ...ць беларускую «нацыю».

...ожна сказаць, што пры ўсім жаданьні і імкненьні раздавіць і раз... ...ць нацыянальнае саматварэньне беларускага сьвету, акружаючы яго ...кі сьвет з уласьцівым яму нацыянальным самаасьляпленьнем і ма... ...а-неабаснаваным оптымізмам, нягледзячы на ўсе вялізарныя плю... ...кія дае яму адносна высокая культура і апарат яго «ўласнага» гас... ...ства, наагул, на зьдзіў няўдачна, прост фатальна і самагубна ка... ...еcца гэтымі сваімі перавагамі, дасягаючы адваротных вынікаў...

...стача, далікатна кажучы, маральна-дзяржаўнага «самаагранічэнь... ...тутака імсьціцца за сябе, як ува ўсім другім...

...ы ня будзем тутака драбязова затрымлівацца над гэтым пытаньнем, ... поўным правам можам сказаць, карыстаючыся тэрміналёгіяй Рэ... ... што «штодзённы плебісцыт» сярод беларускага насяленьня нашае ...няе Беларусі адбываецца не на карысьць польскае нацыі...

...сь жа для беларускага «нацыяналіста», нягледзячы на ўвесь той ... які цяпер церпіць Беларускі народ у Польскай Рэспубліцы, няма ...е прычыны дзеля безнадзейнасьці: варункі тэй канкурэнцыі, што ...аміж бедным беларускім сьветам і «багатым» польскім за душу бе... ...кага селяніна, выраўніваюцца...

...льская ўлада ў фатальным асьляпленьні маніцца сама разьвя... — і то раз назаўсёды — справу «нацыянальнага плебісцыту» ў ... «сыстэму ўплываў» замяніўшы тут «сыстэмай прымусу»... «Удача» ...анага «віленскага плебісцыту» паддае і тут ей надзеі... Толькі ж ...бываецца, што, згодна з Рэнанам, аднаразовых плебісцытаў цяпер ... не бывае, што «нацыя» вызначаецца толькі ў «штодзённым пле... ...це»... А гэты апошні, як ужо сказана, з кожным днём лішніх гвал... ... кожным... «новым курсам» польскае маркі ўсё больш рашуча вы... ...ваецца проці польскага сьвету і за свой — беларускі...

...льская ўлада тут даўно ўжо сама сябе завяла ў тупік ці ў зачарова... ...ола, з якога і няздольна і ня хоча выйсьці; далейшая палітыка рэп... ... праўда, стрымлівае тварэньне і рост беларускага сьвету, але затое ...ольш рэзка той «штодзённы плебісцыт» беларускага насяленьня ...вываецца проці польскага сьвету, ізноў жа спыненьне ці аслаб... ...е палітыкі нацыянальнага уціску ўраз жа ўзмацуе і прысьпешыць ...амастойнага беларускага сьвету... Нягодны мэтад заўсёды, як па... ... і далей, заводзіць у падобнае «кола».

... гэта служыць за падставу дзеля «нэгатыўнага» оптымізму белару... ...жывым народам «сыстэмай гвалтаў» нічога нельга зрабіць...

... сам народ павінен быць жывым дзеля таго, каб далей расьці і

перавагу мэтаду маральна-працоўнае актыўнасьці, які мы тутака радзі
прысвоіць сабе Беларускаму народу.

Холад — найбольш бязспрэчнае зло спаміж усяго таго, што пагража
жыцьцю чалавека.

Каб не цярпець ад холаду, можна перш за ўсё і найпрасьцей за ўс
фізічна ўхіліць, «зьніштожыць» гэтае зло вонках: напаліць у печы і н
выходзіць з цёплае хаты, саграваючыся звонку.

Але можна сагрэцца і інакш: рухам, працай вытвараючы цяплыню
самым сабе. Можна выпрацаваць у сваім арганізьме сталую процідзей
насьць вонкаваму холаду, перамагчы гэтае зло, ня пускаючы яго ў сябе
прымусіўшы яго аставацца вонках і зрабіўшы яго нястрашным, можна
як кажуць, загартавацца, закаліцца ад холаду.

Можна, урэшце, угрэцца яшчэ прасьцей: выпіць гарэлкі...

Найбліжэйшы вынік усіх трох спосабаў змаганьня з злом холаду я
быццам той самы: холад пераможаны, і я ўгрэўся. Але разгледзім кожы
з гэтых спосабаў асобна.

Першы спосаб — спосаб фізічнага зьніштажэньня зла вонках мяне
на пагляд, самы радыкальны. Скажам яму нават модны камплімэнт: на
завем яго «рэвалюцыйным»!..

Аднак аказваецца, што спосаб гэты каштоўны, бо вымагае, каб зага
дзя быў прыгатаваны запас гаручага матэрыялу, запас загадзя змагазы
наванае ў паліве працы, і з гэтае прычыны ён даступны ня кожнам
асабліва цяпер, калі сажань дроў каштуе мільёны марак... Гэты спос
рэвалюцыйна-каштоўны ня толькі затым, што фізічна зьніштажае з
холаду, зужываючы пры гэтым эквівалентныя сколькасьці запасу гатов
га дабра і ня творачы нічога новага, але і затым, што родзіць у чалаве
прывычкі, якія могуць давясьці проста да рэвалюцыі.

Бо калі мой запас дроў скончыцца, дык гэты спосаб прымусіць дале
паліць усё, што можа гарэць: спачатку свае мэблі, чужыя дровы, чужу
а то і сваю хату...

Мы ведаем, што якраз гэтак пачынаюцца і гэтак працякаюць рэв
люцыі...

Спачатку чужую хату — мужыка ці работніка — руйнуе на «апа
той ці гэты, прызвычаіўшыся да дармавога цяпла «пан».

Пасьля... ролі мужыка і пана зьмяняюцца!

І чым больш руйнаваў хаты «пан», тым «дасканальшая», тым «гл
бейшая» выходзіць рэвалюцыя...

Ясна, што мы тут папалі ў кола ад'ёмных цэннасьцей, што ў гэты
коле немагчыма без маральных супярэчнасьцей устанавіць ніякіх пра
тычных норм, ніякіх правілаў паступаньня.

...ы спосаб нягодны, бо толькі часова ўхіляе вонкавае зло, зусім без ...ьці зьніштажаючы пры гэтым, калі будзем выключна, пераважна ...тацца ім, вялізарную сколькасьць дабра, не раўнаважную пастаў... мэце і атрыманым рэзультатам...

...гэты мэтад яшчэ больш небясьпечны затым, што, паміма вонка...эннасьцей, руйнуе ў чалавеку вялізарную сколькасьць таксама вя...рызапашаных унутраных цэннасьцей, духовага дабра, абніжаючы ...і тып чалавека, пераводзячы грамадзянства на некалькі вякоў...

...а згэтуль, што такім мэтадам, угрунтаваным на выніках чужое ..., змагацца з злом холаду ня толькі неэканамічна, але — la ... — і немагчыма.

...раз паводле такога мэтаду, у вядомым апавяданьні расейскага мас...Буніна, палілі печы мэблямі і самым домам у пакінутым панам ... — Байбакі...

...нна такім спосабам, паводле гэтага мастацкага «пралёгу», ужо ў ...у шасьцёх гадоў «байбакі» расейскае рэвалюцыі апаліваюць Мас...етраград і блізу ўсе другія месты Савецкае Рэвалюцыйнае Расеі...

...ы маем поўнае права сказаць, што край у канцы канцоў вельмі ...ыграе нават ад рэвалюцыі, калі апошняя, не перамяняўшы пана...х раней у краю мэтадаў барацьбы са злом, толькі замяняе адных ...коў» другімі, звычайна яшчэ горшымі...

...ім вось нягодным мэтадам Францыя хоча цяпер «фізічна зьніш...ь», рэвалюцыйна «выкараніць» з вонкавага сьвету тое «зло», што ...нна пагражае яе істанаваньню, ды з якім яна нармальнымі мэта...нздольна справіцца: «зло» Нямеччыны...

...гэтай блуднай дарозе Францыя дайшла ўжо да таго, што, каб ...цца», паліць у Рурскіх печах ня толькі чужое паліва, ня толькі ня... «хаты», але і свае — французскія... А разам з апошнімі, як гэта ...аюць ужо разумець нават самыя тупыя галовы, паліць нават і ...ія, нават і беларускія хаты, падпаліваючы апошнія палаючымі ...овым агнём нацыянальнага максымалізму галовамі польскіх палі... згараючай на нашых вачах паперай польскае валюты...

...аражаюча-благім прыкладам французскае ўлады гэтым нягодным, ...дным і шкодным мэтадам хоча і польская ўлада фізычна «зьні...ыць» «ў сябе, у Польшчы» беларусаў, «выкараніць з вонкавага ... тое «зло», з якім польскае грамадзянства бяссільна справіцца ...ьнымі мэтадамі ператвараньня яго ў дабро...

... мы ведаем, што гэты рэвалюцыйны мэтад, нехай ён нават за...ваецца перад самымі «студніцка-турэцкімі» крокамі, найбольш ...ны!

слова ненавісьці, сьвет, у якім ня ўмеюць і ня хочуць карыстацца новы
мі мэтадамі перамаганьня зла, ператвараючы яго ў дабро, кожын так
сьвет, як мы бачылі з нашага простага прыкладу і як мы ведаем з усяг
ходу гісторыі, раней ці пазьней засуджаны згінуць...

Няхай памятаюць і над Рурай, і над Вяльлёй, што гэтым іменна мэ
тадам і Вільгельм II маніўся заваяваць усенькі сьвет...

Але, як нам ведама і як навучаюць усе рэлігіі, нават і сам Бог «н
можа фізычна зьніштожыць» і зразу выкараніць у сьвеце зло, а мож
толькі перамагчы яго ў безканечнасьці — «у канцы сьвету», ператвара
ючы зло ўсімі сіламі сваіх супрацоўнікаў у сусьвеце ў дабро... І гожа ду
маць, што тое, на што ня дуж сам Бог, ня ўдасца і... пп. Пуанкар
Скульскаму або Студніцкаму...

Цяпер разгледзім, што нам дае другі мэтад барацьбы з злом холаду

Другі спосаб сагрэцца, апрача свайго безпасярэднага рэзультату, да
ець мне яшчэ два важныя плюсы, якія далёка пакідаюць за сабой бл
жэйшую мэту прылажэньня яго.

Першы плюс — у тым, што я, саграваючыся рухам, магу пры гэты
рабіць тую ці другую карысную работу, магу, паміма бліжэйшага пера
варэньня зла холаду ў дабро цяплыні, тварыць з сусьветнага «сыр'я» ты
ці другія цэннасьці на запас. Магу — на прыпадак вялікіх марозаў -
прызапасіць тых жа дроў, якімі пасьля здолею падзяліцца з бедны
прыдбаўшы ў ім сабе лішняга прыяцеля на сьвеце...

Ясна, што іменна гэтай і толькі гэтай дарогай нарастаюць цэннась
і ўзьвялічываецца дабро ў вонкавым, акружаючым мяне сьвеце, і я са
узьвялічываю багацьце і дасканаласьць гэтага сьвету.

Усё гэта ня можа не падтрымліваць ува мне маральна абаснавана
оптымізму, як кажуць, маральнага здаваленьня і найвышэйшае безк
рыснае радасьці, незалежна ад асабістага дабра ад гэтага для мяне.

Другі ж плюс яшчэ важней.

Гэты ўнутрана актыўны мэтад барацьбы з холадам, гартуючы мян
узвышае мой жыцьцёвы тып, робіць мяне дужэйшым, больш адпорны
для данага аспэкту сусьветнага зла, больш незалежным ад акружаюч
мяне, часта варожых, абставінаў, фізічна і духова вальнейшым наагул

Як добра кажа той самы Фіхтэ: «Вызваленьне Духа ў вадным напра
ку вызваляе і ўва ўсіх іншых».

Мая маральная актыўнасьць, мае перакананьні стаюцца ўва мне ў
больш і больш вольным і рашаючым фактарам майго паступаньня...

Мая духовая істота ўзрастае, а гэта, як мы ведаем, дае мне новую р
дасьць...

Гэты метад дае мне, апрача перамогі над холадам, непараўна
больш важнае. Ён творыць ува мне вышэйшую актыўнасьць, раўную

...йго таварыша-канкурэнта ў жыцьцёвай барацьбе, каторы, так ска-
...«рэвалюцыйна» сядзіць у цёплай хаце і шчасьліў толькі да таго ма-
..., пакуль у яго ёсьць гатовыя дровы: ратуючыся чужой энэргіяй ад
...о зла — холаду, ён пападае ў кіпці другога, яшчэ вялікшага, робіц-
...бом вонкавых абставінаў, цяплыні і камфорту, і ў канцы канцоў
...жаецца, як паразіт... І які б капітал ён ні сабраў, якую б «вечную»
... ні «забясьпечыў» сабе на зямлі, ён, як растаўсьцеўшы цераз меру,
...леўшы паразіт, заўсёды будзе ў канцы канцоў пераможаны тым,
...раз усё жыцьцё зьбіраў і зьберагаў у сабе запраўдны непераможны,
...ежна ўзрастаючы ў ім і ў яго патомстве — духовы капітал вышэй-
...рацоўнае актыўнасьці, вышэйшага чалавечага тыпу.

...ы добра ведаем з практыкі гісторыі і з відавочных навук сучас-
..., што запраўды, калі прыходзіць мамэнт памерацца сіламі гэтым
...ыпам чалавека адзін на адзін, хаця бы пры помачы ўсіх тых штуч-
...крэпасьцяў», якімі ў мірны час так добра бароняць сваю фізічную
...зую слабасьць людзі першага тыпу, дык вынік заўсёды і нязьменна
... той самы: тып «буржуазны», які носіць у сабе «фатум» рэвалюцыі,
...заецца пераможаным, якіх бы магутных «крэпасьцяў» у вонкавым
... ён ні настроіў... Усе гэныя «крэпасьці» разваліваюцца ад ад-
... духовае — «крэпасьці» ці самі сабой перадаюцца пераможцу...

... скажам яшчэ раз, няма і ня можа быць ніякіх выняткаў з найвы-
...ага закону, дадзенага Богам усяму сьвету: перамагаюць у ім фор-
...шэйшае духовае актыўнасьці.

...пер, калі мы гэтак жа спакойна і об'ектыўна разгледзім «трэці мэ-
...арацьбы з злом холаду — «мэтад алькагольны», дык убачым, што
...фізычна» зьніштажае зло холаду, толькі ня ў вонкавым сьвеце, а
...е самым, але «зьніштажае» яго таксама ілюзорна-выабражальна і
...ьмі кароткі час ды робячы ўва мне такія ж спусташэньні, як і
... мэтад, вонкава-рэвалюцыйны, навакол мяне. Дзеля гэтага з поў-
...равам можам назваць гэты алькагольны мэтад «зьніштажэньня
...б'ектыўна-рэвалюцыйным.

...ы карыстаньні ім зло об'ектыўна астаецца зусім незакранутым у
...ючым мяне сьвеце, і цераз некалькі мінут я буду цярпець ад яго
...больш... Патрэбна будзе йшчэ новая, згодна з вядомым фізыяля-
... законам, ужо павялічаная порцыя «барацьбы са злом»... І гэтак
...нца...

...о з гэтага павялічаньня «порцыяў» ясна, што зло не зьмяншаецца,
...стае нават ува мне ў меру «змаганьня» з ім алькагольна-рэвалю-
...м метадам.

...тым і заключаецца «благая бесканечнасьць» апошняга мэтаду ба-

най вагі мінусы. Ён ня толькі ашуківае мяне адносна да об'ектыўна ас
таўшагася цэлым зла, суб'ектыўна нішчучы ўва мне холад толькі ў мае
сьвядомасьці і пакідаючы пад уладай гэтага зла, прыкладам, маіх дзяце
або адмаражываючы мне самому ў п'яным упаеньні «перамогай» ма
ўласныя ногі, ня толькі ня робіць мяне больш адпорным на гэтае зл
але якраз наадварот: робіць мяне рабом, і то ня толькі гэтага аспэкт
зла, але і таго паганага спосабу, каторым я прабаваў змагацца з ім, тво
рыць ува мне новае зло.

Гэты спраўдзі «рэвалюцыйны» спосаб руйнуе ўвесь мой арганізм, а
ніжае мой духовы і жыцьцёвы тып, дый ня толькі ўва мне адным, але
ў закладзеных ува мне пакаленьнях, робіць мяне слабейшым і боль
бязрадным у барацьбе са злом наагул...

На вялікі жаль і ганьбу для Беларусі, гэты апошні, найгоршы, на
больш шкодны мэтад барацьбы з злом холаду якраз самы папулярны
нашай бацькаўшчыне...

Як гэта ні горка, але трэба прызнацца, што гэты алькагольны мэт
зьяўляецца запраўды «ўсеславянскім», часткова — «нацыянальна-ру
кім» мэтадам барацьбы са злом наагул...

З усімі многаабразнымі аспэктамі аблажыўшага народ з усіх бак
страхацьця сусьветнага Зла: рабствам, холадам, голадам, цемрай, няву
твам, падзелам, распыленьнем, зьнямогай, апатыяй і ленасьцяй — б
ларускі сусьвет дагэтуль «змагаецца» бадай выключна тым «трэцім» м
тадам...

Толькі гэтым мэтадам загнаны ў бязвыхадны тупік, зьнямогшы
нерацыянальнае працы, незнаёмы з найважнейшымі правіламі гігіе
духа беларускі народ штучна і са шкодай для сябе пабуджае ў сабе т
ледзьве тлеючы ў ім пачатны натуральны оптымізм, без каторага, як м
ўжо казалі, нямашака ні магчымасьці, ні сэнсу жыць...

Гэты «нацыянальны мэтад» прадстаўлены, мабыць, дзеля прынцы
«запраўднага народнага прадстаўніцтва», на жаль, ажно залішне бага
нават у Беларускім соймавым клюбе...

І нездарма ўвесь наш Край, гэты праўдзівы «лясны басэйн» для ўс
Сярэдняе Эўропы, сам церпіць ад нястачы паліва і мерзьне ад хола
але вывозіць свой лес заграніцу: за яго ён атрымлівае на замену д
гое — плыўкае паліва, што ператварае наш «лясны басэйн» у алькаго
ны...

У гэтым то алькагольным басэйне, у гэтым п'яным «моры зла» т
што прадстаўляюць у нас «вышэйшую культуру», і спадзяюцца напэў
расчыніць без астачы ўсё ненавіснае ім «беларускае зло».

Дый можна з пэўнасьцяй сказаць, што, калі абодва мэтады — в
кава-рэвалюцыйны ў руках забойцы-ворага і ўнутрана-рэвалюцыйн

...ольны ў руках самагубцы-беларуса — зьліюцца ў вадно, дык уся ...ма паноў Скульскага і Студніцкага будзе праведзена да канца: ад ...саў цераз паўвеку ў Заходняй Беларусі не астанецца і духу...
...этым прамаўляе гісторыя.

...каголь і «хрысьціянства» (ведама, лжывае, пасыўнае) — вось тое, ...самперш прывозілі ў краіны больш маладых народаў, болей сла... ...сталых расаў тыя «нашэльнікі культуры», якія, пад прыкрыцьцем ...сіянерскіх сутанаў, стаўлялі сабе беспасярэдняй задачай канчаль... ...айпэўнейшае зьніштажэньне гэтых народаў...

...ось у N 1 беларускага ковенскага «Крывіча» вядомы беларускі ...наймілейшы пан Душэўскі, ня толькі не сумуе з прычыны таго, ...ларускі народ п'ець сваю «нацыянальную» гарэлку, але пацяшае ...о сумуе, кажучы, што беларусы п'юць толькі гэтулькі, як і... па...

...ьля ўсяго, што мы вышэй гаварылі, можам толькі зьвярнуць па... ...му «правадыру Беларускага народу» ўвагу на тое, што «алькаголь... ...тымізм яго, так сказаць, някрытычнага тыпу і што ягоная адзінка ...ня, яго «норма цьвярозасьці» для беларуса выбрана ім, мякка вы... ...ыся, няўдачна...

...ўсе гэтыя пацяшаньні і самапацяшаньні трэба адказаць проста, і ...вінна быць зроблена тут, у першай спробе крытычнага аналізу ...ваў беларускага народнага Адраджэньня, пры аглядзе і выбары ...к правільных яго мэтадаў, трэба адказаць, што ніколі не дажджэц... ...арускі народ свайго Сьветлага — «прыадзетага ў Сонца» — Сь... ...васкрэсеньня з мёртвых, аб якім лятуцяць цяпер лепшыя сыны ...сі, калі ня выжане з свайго жыцьця гэнага блуднага мэтаду «ба... ...з злом» — мэтаду самаашуканства, самаруйнаваньня, самапра... ...ня, мэтаду, што творыць лжывы, нічым не абаснаваны, паталагіч... ...складаючы душу оптымізм, мэтаду, што заціраe ў сьвядомасьці ...прынцыпова важную граніцу паміж ворагам і другам, што рас... ...гэты асноўны зьмест найглыбейшага біялягічнага інстынкту са... ...ваньня і самаабароны, што раскрывае для ворага дзьверы духовае ...ае іншае, малое і вялікае, хаты беларуса, што атручывае дух на... ...марнуе яго энэргію, робячы Беларускі народ вечна малалетнім, ...прыганятым...

...ба проста сказаць, што, калі з вяршынаў беларускага Духа ад вяр... ...ларускае інтэлігенцыі ня прыйдзе ў беларускі сялянскі сьвет ...нрожаньне яго мэтадаў барацьбы з нясчысьлёнымі аспэктамі яго ...ага зла, дык ня ўбачыць ён свайго Адраджэньня як сваіх вушэй!...

...й беларускі правадыр, што дазваляе народу «піць гэтулькі-ж, ...п'юць палякі», і той «запраўдны правадыр Беларускага народу»...

Возьмем другі, яшчэ больш яркі прыклад.

Што можна сабе прадставіць больш страшнага, больш руйнуючага неперэможнага, чым зло ўзбуранае марское стыхіі?

Мы спакойныя жыхары кантынэнтальных раўнін, дзякуй Богу, нава і не прадстаўляем сабе гэтага зла.

А вось народы, што жывуць на астравах, як англійцы або японц дык тыя ня толькі ня пужаюцца гэтага страшнага зла, але якраз у зма ганьні з ім выпрацавалі ў сабе той вышэйшы тып жыцьцёвай энэрг які дае ім такую вялізарную перавагу ўва ўсіх галінах жыцьцёвае канк рэнцыі над тымі кантынэнтальнымі народамі, што нічога ня церпяць а гэтага аспэкту зла.

Можна далей сьмела сказаць, і гэта будзе зусім точнае, бяз ніякае н цяжкі, выражэньне факту, што якраз мора, якраз гэтае страхацьцё сус ветнага зла і даравала сваім пераможцам, народам-мараплавальніка той бязцэнны скарб, які яно ў сабе хавала і за які ва ўсенькім праця гісторыі йдзе паміж народамі барацьба не на жыцьцё, а на сьмерць, д равала ім уладу над сьветам...

І нам цяпер ясна, што гэтая ўлада над сьветам ёсьць просты вын тае паўнаты ўлады, якой тыя народы дабіліся над самімі сабою!..

І тут, як і ў першым прыкладзе, жыцьцёвая актыўнасьць адважна чалавека не спалохалася вялізарных, раўнуючы да яе самое, разьмер страшэннага зла, наадварот, сама, як кажуць немцы, «пайшла чорту н сустрэчу» і, пазнаўшы гэтае зло і ўзброіўшыся дзеля барацьбы з ім а паведным аружжам, перамогшы яго ўзвышэньнем свайго духовага тып перетварыла гэтае зло ў двайное, трайное дабро, у такое дабро, катор патэнцыяльна зьмяшчае ў сабе ўсю рэшту сусьветнага дабра!..

І мы ведаем, як гэта ні дзіўна з нашага кантынэнтальна-мірнаг «хатняга» пункту гледжаньня, што іменна за мора, за гэтае зло, як адзіную дарогу на зямлі да вытвараньня ў чалавеку і ў народах найв шэйшага тыпу актыўнасьці, якая вядзе да запаведнае мэты ўсіх вялік народаў — да панаваньня над сьветам, і адбываецца сусьветная канк рэнцыя народаў; узьнялася за яго і апошняя Вялікая вайна...

Калі цяпер мы кінем вокам на ўсе тры паказаныя вышэй мэтады б рацьбы і з гэтым злом ды прыраўнуем іх адзін да аднаго, дык сама с бой кідаецца ў вочы перавага актыўна-эвалюцыйнага мэтаду.

Актыўна-рэвалюцыйны мэтад, мэтад фізычнага зьніштажэньня зл тутака зусім няпрыгодны: мора ня зьнішчыш, а вядомы ўсім прыкла Ксэркса, што, узлаваўшыся, загадаў высьцябаць мора, ведама, для ўс нас сьмешны! Народ ці то чалавек, які палахліва ненавідзіць марску

..., можа вызваліцца ад яе толькі пасыўна — ня пускацца ў пада... мору, асуджаючы сябе на той ці другі род няволі ў валадароў мо... ...усьвету...

...шце, для трэцяга мэтаду, мэтаду алькагольна-бязкрытычнага оп... ...у, няўзброенага ведай і воляй, кожнае мора, паводле ўдалае на... ...прыказкі, будзе «па калена»... Толькі ж, ведама, выабражальна, ...тыўна зьнішчыўшы» ў сабе, у сваей п'янай галаве пераможнае ...о і поўнасьцю захаваўшаеся ў вонкавым сьвеце страшное зло, ...гэтага мэтаду тым лягчэй дасьць гэтаму злу магчымасьць зьнішто... ...яго самога...

...ак і толькі гэтак стаўляе пытаньне ня толькі добрая практычная ...фія, але і ўвесь поступ як вечнае прыроды, так і сучаснае культу... і самая эвалюцыя ў іх тыпу чалавека залежыць ад сусьветнага за... ...канкурэнцыі.

... ж і канкурэнцыя, з пункту гледжаньня старога пасыўнага мара... ...ёсьць найвялікшае ў сьвеце зло «зьвярынага эгоізму», які жыве ў ...ку. І гэтага «найстрашнейшага», «найпраўдзівейшага» «чарта» ў ...ку маралісты, гэныя найбольш перакананыя і пасьледавальныя ...оцыянеры, пробуюць перамагаць рэвалюцыйным мэтадам — мэ... фізычнага зьнішчэньня: «Эгоізм у чалавеку, у народзе трэба ...аніць», — кажуць яны, апіраючыся на няправільна тлумачаным ...е» Хрыста...

... зьнішчыць эгоізм, фізычнага нашэльніка нашага духовага «Я», ...ць атруціць ува мне пачатны оптымізм, зьнішчыць гэтае маё ...аё «пачуцьцё сілы» — самае ядро майго жыцьця. І на гэту спробу ...ывое «Я», як і жывое «Я» цэлага народу, раней ці пазьней адкажа, ...а духовы уціск, тым, што Фіхтэ называе «абсалютнай вайной», ...днай вайной» — «змаганьнем не на жыцьцё, а на сьмерць»... Гэ... ...тад затым і павінен быць названы «рэвалюцыйным», што ён но... самым сабе нямінучую будучую рэвалюцыю, у крыві якое народ ... насамперш вучыцелёў такое маралі... Ясна, што гэты найбольш ...ы спосаб не павялічывае ані скольмасьці дабра ў сусьвеце, ані ад... ...ючага яму запраўднага оптымізму.

...кагольны спосаб разьвязывае праблему эгоізму і канкурэнцыі з ...ка бязкрытычным оптымізмам, з якім разьвязывае і ўсе другія ...емы: на час п'яна-альтруістычнага трансу эгоізм і канкурэнцыя ...юцца як быццам растаяўшымі ў віне і запраўды выкінутымі, толь... з сусьвету, а з маей сьвядомасьці, дый толькі часова... Дэкрэтамі ...ольна-оптымістычнае вялікадушнасьці абвяшчаецца ўсяму сьвету, ...раўдным прыяцелям, так і заклятым ворагам, «брудэршафт»...

гтаварыць нельга, бо мае «Я» ад гэтага не расьце, душа мая, як і усё м
багацьце, не ўзрастае, мой чалавечы, жыцьцёвы тып зьніжаецца...

Няхай жа кожын беларус, разьменіваючы атрыманы з-за акіяну д
ляр на польскія маркі, добра зразумее і перачуець гэты, укрыты у тако
высокай валюце, вышэйшы тып — як быццам улітае і захаванае ў г
най, затым і вызываючай мімаволі пашану да сябе, друкаванай папер
не духова-працоўнае актыўнасьці англасакса, каторы заўсёды такім б
конаўска-марскім, крытычна-актыўным, цьвярозым мэтадам абаснав
нага оптымізму разьвязываў праблему барацьбы са злом...

Няхай беларус добра паймець і гэтую абязцэненую марку, як сам
яскравае і сумнае адбіцьцё пануючых у акружаючым яго сьвеце бязкр
тычных, блудна-рэвалюцыйных, алькагольна-оптымістычных мэтад
барацьбы са злом, і няхай, і тут знаходзячы некаторую аснову дзеля, т
сказаць, ад'ёмнага оптымізму, заўсёды і ўва ўсім паступае паводле мэт
даў англа-нямецкіх ды сьцеражэцца мэтадаў польска-францускіх, бач
чы з поўнай ачывістасьцяй, што першыя твораць даляр, другія — ма
кі...

Гэтак і ўва ўсім.

І калі беларусы самі навучацца і самі будуць тварыць свае «даляры
значыць, свае паўнаважныя цэннасьці ўва ўсіх галінах свайго нацы
нальнага жыцьця, дык няўжо ж тады «купіш» Беларусь за польскія ма
кі, як прапануюць гэтае Студніцкія?!.

## 10

Возьмем яшчэ агульнейшы прыклад.

Самае страшнае зло для чалавека, які найвышэйшую радасьць свай
запраўднага назначэньня знаходзіць у вольным самаразьвіцьці, у свабод
ным выпаўненьні закону фізычнай і духовай прыроды, — гэта нявол
рабства.

Якімі ж дарогамі і спосабамі даходзіць чалавек і цэлы народ да вол

Кожнаму ясна, якой вялізарнай вагі для чалавека і народу пытаны
мы тутака падымаем.

Каб ня выклікаць спрэчак, мы і тут, па магчымасьці, каротка разгл
дзім тыя ж мэтады барацьбы з гэтым злом, аб якіх ішла гутарка ў пап
рэдніх прыкладах. Мы каротка дамо выклад тых схэм вызваленьня
рабства ў тым ці іншым яго аспэкце, якія нам дадзены як нармальн
і правільныя мэтады вольнага і сьвядомага змаганьня за свабоду найв
лікшымі геніямі нашых часоў — кожным ў ягонай галіне. А пасьля п
кажам і тыя мэтады гвалту, з якіх народы ходам выпадкаў і як быцца

...ынукай з боку апошніх бывалі прымушаны карыстаць на працягу ...торыі дзеля свайго вызваленьня. І ацэнім вынікі адных і другіх...
...амянуты ўжо намі Бэкон аддаўся пазнаньню мэтадаў вызваленьня ...ка ад паняволеньня прыродай і даў мэтад падчыненьня чалавеку ...рыроды.
...ма Бэкона і вынікі карыстаньня з яе нам ужо вядомы. Паўторым ...кі славамі самога гэтага закладчыка сучаснае магутнае «Імпэрыі ...ка» ў заваяванай прыродзе.
...ur vincitur parendo», гэта значыць: «Прырода перамагаецца толькі ...мянасьцяй ей», — над прыродай можна панаваць, толькі ведаю...аўняючы яе загады, яе законы.
...м дасьціпным парадоксам Бэкон высказывае асноўны прынцып ...ьня гэтай «Тэхнічнай імпэрыяй» у прыродзе.
...ькі тады, калі мы пазналі «звычаі і прывычкі» гэтае, на першы ... капрыснае красуні — Прыроды, калі пазналі яе законы, на дзе...абразныя ўсюды і заўсёды, і ім падлягаем самі, толькі тады чала...бывае над ёй, як быццам на правох законнага мужа, уладу зага... ей імем Духа.
...к улада чалавека над прыродай ня ёсьць улада «абсалютнага ма... але абмяжована, так сказаць, «канстытуцыяй» самае прыроды, ...намі.
...ыцьць, толькі пазнаючы сьвет прыроды сіламі сваей духовай ак...ьці, усё ўзвышчаючай у тыпе, я ня толькі вызваляюся ад страху ...гнеўнымі капрысамі стыхіяў гэтае прыроды, ня толькі скідаю з ...няволеньне гэтымі капрысамі, але і сам раблюся панам прыроды ...матарам яе, прадаўжаючы ў ёй працу Бога-Тварца.
...кі Кант і яго найлепшы вучань, Фіхтэ, карысталіся тэй жа схэ...кона дзеля заваяваньня ўнутранае прыроды чалавека, дзеля пад...ьня яго жаноцка-капрыснае душы ягонаму суроваму мужчынска...у.
...ба пазнаць усю будоўлю нашага ўнутранага «Я», усю гэту вечна ...чуюся, сваявольную «рэспубліку» пачатных стыхіяў душы, дзе ўсе ...я, апрача... мяне самога, апрача майго істотнага «Я», перш чым ...іць у паход дзеля далейшага заваяваньня сьвету, трэба перадусім ...і да адзінасьці, падчыніць аднэй цэнтральнай уладзе, аднаму ...ыру, ператварыць у запраўдную, правільна арганізаваную армію ... дзеля гэтага, паводле правіла Бэкона, трэба таксама пазнаць за...наей унутранай прыроды, сілы, магчымасьці, межы і мэты чала... «Я»,
... і зроблена Кантам і Фіхтэ. У гэтым уся — важная тут для ...

най «рэспублікай» «натуральных склоннасьцей», наравістай «рапсоды прадстаўленьняў» і жаданьняў маей «эмпірычнай асобы» — дарогай у ведамленьня і вытварэньня ў сабе неперpaможнага для гэтага зла духо га «Я», «панадпрыроднага», пазнавальнага розумам характару.

Кант гаворыць, што воля і маральны закон — абсалютна тое сам з тэй толькі розьніцай, што наша воля абаснавана на беспасярэдна ным для мяне, жывучым ува мне маральным законе, а не наадворот.

Я вольны, бо ўва мне ёсьць закон абавязку.

«Я павінен, значыць я магу, значыць я — вольны!» — так кажа ўс віўшаяся формула Канта.

Калі беспасярэдні голас Бога ўва мне, голас найвышэйшага для мя закону майго сумленьня — кажа мне: ты павінен... і я слухаюся гэта голасу абавязку, нягледзячы ні на якія перашкоды ўва мне самым і во ках мяне, дык гэта і паказуе, што я вольны.

Мы бачым, што ў гэтай асноўнай формуле так жа мала супярэчнас ці, як і ў выдаваўшайся на першы пагляд парадоксам формуле Бэкон

І лёгка зразумець, у якой меры запраўды вольным, а значыць, і д жым зьяўляецца суцэльны, зьвязаны адзіным нацыянальным духам н род, калі ўсе ў ім, як адзін, скажуць: мы павінны, значыць, мы можам

Нямецкі народ, які ў свой час добра прысвоіў сабе гэту формулу а мяжованае маральлю абавязку волі, дадзеную яму яго вялікім вучыш лем, на дзеле паказаў сьвету, мо нават з лішкам (у якім ужо вінаваты Кант, а другія), да чаго ён здольны, калі стаўляе сабе і разьвязуе гэть мэтадам тую ці другую канкрэтную нацыянальную задачу...

Закон вольнага абавязку, маральная «аўтаномія волі», вось асноўн закон грамадзянства людзей, гэтай, паводле выражэньня другога нямец кага філёзафа, Шельлінга, «другой прыроды».

Кожнаму ясна, што бяз гэтага вольнага, сьвядомага выпаўненьня м іх абавязкаў адносна да самога сябе, да другіх, да таго ці іншага цэла нельга ня толькі будаваць дзяржаву ці тварыць болей-меней арганізава нае грамадзянства, але нельга залажыць нават найменшы гурток ці ха рус дзеля выпаўненьня якое хоч супольнае работы. Бяз гэтага закон абавязку нельга злажыць з асобных адзінак суцэльнага народу — нацы

Вось, значыцца, незалежна ад таго ці барацьба за вызваленьне вя дзецца сіламі адзінкі, ці супольнымі высілкамі таго або іншага колекты ву, першай і неабходнай умовай вонкавага заваяваньня волі зьяўляецц перш за ўсё заваяваньне ў самым сабе такое духовае волі, якая, паводл Канта, ёсьць тое ж, што і маральны закон, закон абавязку, аўтаномі маральнае волі, а паводле Фіхтэ, прынцыповая маральная актыўнасьц нашага «Я».

бачым, наскольки глыбокім і сур'ёзным зьяўляецца «крытычны
м» Канта і Фіхтэ, наскольки важна, няўхільна і агульна іх «ідэа-
ная» схэма самавызваленьня чалавека з няволі ў кожным аспэкце.
ль, таксама нямецкі філёзаф, адзін з найбольш уплывовых твор-
мецкага нацыянальна-дзяржаўнага духа, даў нам вялізарны абраз
зваленьня жывучага ў людзкасьці «Сусьветнага Духа» — Бога на
у ўсяе сусьветнае гісторыі высілкамі не паасобных людзей, а вя-
іх груп — «гістарычных народаў».
та гісторыі, паводле Гэгеля, і ёсьць нічым ня стрыманы, непера-
«поступ у разьвіцьці волі».
та гістарычнага разьвіцьця і ёсьць гэнае самавызваленьне, сама-
цьцё ўтаёнага ў сьвеце, вечна актыўнага божскага Духа, і сусьвет-
арычныя нацыі адна за аднэй стаюцца радзіцелькамі яго ва ўсё
вольных і дасканалых аспэктах.
ель дае нам агульную схэму таго, як у гісторыі людзкасьці запраў-
ываецца працэс упадку рабства, працэс запраўднага вызваленьня
ка і груп людзей з путаў няволі.
кажа, што той, хто паняволіў чалавека або цэлы народ, скажам
аму, той ці іншы пан, той і прымушае іх працаваць замест сябе
ест яго, пана, здабываць у прыроды для яго ж тыя ці другія цэн-

стаўляе паміж сабой і прыродай раба... І гэтак толькі раб стаіць
асярэдняй блізкасьці да прыроды, толькі раб можа выкрыць яе за-
яе тайны, закрываючы іх сабою ад пана...
ькі раб можа, паводле Бэкона, пазнаць і заўладаць сіламі прыро-
«любоўю». А згэтуль ясна, якую сілу сам проці сябе творыць
ейны, лянівы, расьпешчаны паразіт...
дпаведны мамэнт, правацыраваць каторы, перш чым ён насьпее,
ць толькі марнаваць недасьпелую яшчэ барацьбяную энэргію (а
ельмі добра ўмеюць рабіць цяпер розныя паны дзеля ўмацаваньня
панаваньня!), нявольнік робіць «бэконаўскі саюз» з паслухмянай
непераможнай для лянівага паразіта Прыродай і, даўно ўжо духова
ы ад свайго ўяўнага рабства, скідае з сваей дарогі — дарогі Сусь-
а Духа — непатрэбнага і шкоднага для яго пана...
ім саюзам работніка з навукай, з прыродай, такім «супружствам
Рэальнасьцяй», як прыгожа выразіўся Лясаль, пачынаецца і за-
ецца праўдзівая перамога рабачаяў...
мы ўжо ведаем, на сьвеце няма нічога дужэйшага за гэту вечна
ю пару! Няхай жа сьмела і радасна верыць у гэта малады беларус-
од!
было, так ёсьць і так будзе вечна!

Гэта значыць, што той Дух, каторы, паводле Гэгеля, дае пачатак у
сусьветнай эвалюцыі, паводле Маркса, зьяўляецца другарадным, выв
ным мамэнтам гаспадарчае эвалюцыі чыста матэрыяльнага сьвету.

І запраўды, ці ж трудна ў тым, што мы сказалі аб гэгелеўскай сх
самавызваленьня Духа і ўпадку рабства, пазнаць тую самую стройн
прадуманую да найменшых драбніц, абаснаваную навуковым пазна
нем гаспадарчага арганізму грамадзянства людзей, распрацаваную ў
луню праграму работніцкае клясы, завершаную элемэнтамі запраўды
лігійнае веры — тэорыю самавызваленьня паняволенае Капіталам П
цы, якую даў Маркс і якая на нашых вачах робіць такія небывалыя
ваяваньні ўсюдых на сьвеце?!

Замяніце толькі рэлігійна-філязофскі абраз вечна актыўнага Сусьв
нага Духа канкрэтным выяўленьнем Яго ў жывым нашэльніку гэ
божска-творчае, працоўнае актыўнасьці — самавызваляючымся сусь
там пралетарыяце — і вы ў істоце ня знойдзеце розьніцы ў гэтым пам
Гэгелем і Марксам.

Цяпер для кожнага ясна, што самае істотнае ядро марксаўскае сь
тэмы: асноўная схэма вызваленьня з рабства, пертварэньня гэтага зл
дабро тыя самыя і ў Маркса, і ў Гэгеля, у Фіхтэ, Канта, Бэкона...

Усё гэта той жа праўдзівы мэтад узвышэньня насамперш у самым с
бе усемі спосабамі навуковае веды, маральнае дысцыпліны, працоўн
энэргіі і практыкі, колектыўнае салідарнасьці, рэлігійнага энтузіязму
усё тэй жа духовае актыўнасьці, што прызвана перамагчы ўсялякае зл
пертварыць усенькае «сыр'ё» сусьветнага зла ў патрэбныя чалаве
цэннасьці і дабро.

І мы бачым, як важна знаць апрача Маркса таксама добра і яго п
пярэднікаў, і гэта ня толькі дзеля таго, каб ведаць, чым ён абязаны св
ім вучыцялём, але і дзеля таго, каб умець адрозьніваць і аддзяляць т
бязспрэчна цэннае, што ёсьць у сыстэме Маркса, адкідаючы бяз жал
як няправільныя і небясьпечныя, тыя скажэньні адзінага мэтаду марал
на абаснаванае духовае актыўнасьці, якія Маркс, захапліваючыся рэв
люцыйным мэтадам, часта дапускае.

Найлепш зьбівае гэныя скажэньні той «рэвалюцыйны камунізм», я
пануе цяпер на Усходзе, які з усяе сыстэмы Маркса прысвоіў сабе вы
лючна і якраз гэтыя скажэньні і зусім адкінуў адзіны цэнны асноўн
мэтад маральнае актыўнасьці, што адзін толькі і дае трывалыя заваг
ваньні ў сьвеце, адзін толькі і робіць чалавека і цэлыя народы вольным
ад усіх родаў і відаў паняволеньня...

Вось у найагульнейшым схэматычным выражэньні тыя нармальны
мэтады, якія заўсёды і ўсюды, ува ўсіх, нават найцяжэйшых абставінах

эньнях, можна радзіць чалавеку і народу, якіх апошнія і павінны
аацца, калі хочуць запраўды стацца вольнымі.
а тое найвышэйшае і самае цэннае, што заходні Дух даў як вынік
вае векавое эвалюцыі.
завяявана, імі дзержыцца воля на Захадзе.
ыя мэтады, хаця яны, так сказаць, пасярэднія, вядуць да мэты
асьцейшай і найбліжэйшай дарогай.

11

іншыя вучыцялі навучаюць народ, што ёсьць больш простыя і
шыбкія мэтады вызваленьня яго з рабства.
алёгі рэвалюцыі, староньнікі «рэвалюцыйнага» мэтаду беспасярэд-
ізычнага зьніштажэньня зла і тутака прапануюць проста «ухіліць»
вую прычыну рабства — таго «пана», які знаходзіцца вонках мяне,
зьвязанымі з ягоным «панаваньнем» установамі...
ы кажуць: «Ведама, мэтады духовае актыўнасьці, мэтады самаўзга-
ьня вельмі добрыя, толькі лішне павольныя... Пакуль сонца ўзый-
аса вочы выесьць!... Каб зразу зрабілася відна і цёпла, можна, за-
онца, запаліць вогнішча Рэвалюцыі, ды на ім і спаліць рабства».
ія павольныя мэтады, — кажуць яны, — да таго ж і лішне тэорэ-
я: на дзеле ў гісторыі заўсёды бывае інакш, прасьцей: стары, абапер-
рабстве лад зразу «зьмятаецца» Рэвалюцыяй, якая іменна фізычна
ць усё, што зьвязана з гэтым ладам, пачынаючы з самых паноў...».
пішуць гісторыю і праграму рэвалюцыі яе староньнікі.
ы зусім і ня кажам, што гэтак ня бывае, хоць, як пабачым далей,
ня зусім так.
рад усім мы і далей кажам, што так можа і ня быць і так не па-
быць.
колі ня трэба мяшаць два прынцыпова розныя парадкі зьявішч:
льны, прычынна-абаснаваны, неабходны і маральна павінны,
каваны мэтай, вольны.
азаць: так павінна быць, бо так бывае, гэта значыць зрабіць самую
о лягічную абмылку. Бывае і павіннае і непавіннае, і, як мы і ста-
даказаць раней, выбіраць з усяго, што бывае, толькі тое, што пат-
для майго духовага росту і разьвіцьця, ператвараючы тое, што бы-
а мне і навакол мяне, усё гэнае «сыр'ё» многаабразнага сьвету у
кты дабра, у тое, што павінна быць, — гэта і ёсьць справа іменна
а свабоднага, духова-актыўнага, маральна абаснаванага «Я».
казалі далей, што «беспасярэдні», «рэвалюцыйны» мэтад, мэтад,
творыць цэннасьцей, не ператварае зла ў дабро, а стараецца фі-

тажае самае крыніцы гэтага зла, якое караніцца ўва мне самым, ня к
жучы ўжо аб тым, што ён ня ўзвышае майго жыцьцёвага тыпу, маей д
ховай актыўнасьці, а, наадварот, як агульнае правіла, абніжае іх.

Ці трэба давадзіць, што якраз гэтак — точка ў точку — і бывала пр
ўсіх вядомых нам рэвалюцыях, і то ў тым вялікшай меры, чым менш д
ная рэвалюцыя была падгатавана знутра — нашымі творчымі мэтада
духовае актыўнасьці?...

З апошняга вынікае, што толькі гэная падгатоўка, толькі прысу
насьць гэнага «абаснаваньня» і «апраўданьня» рэвалюцыі, мера яе «дас
пеласьці» робяць яе адпавядаючай мэце...

Значыцца, чым больш падгатавана рэвалюцыя мэтадамі маральн
працоўнае актыўнасьці, якія паднялі мой духовы тып да вядомае ступе
запраўднае волі, тым больш трывалымі зьяўляюцца рэзультаты рэвал
цыі і яе заваяваньняў...

Інакш кажучы, чым менш у рэвалюцыі патрэбен уласьціва-«рэвал
цыйны» мэтад дзеля «фізычнага зьніштажэньня» рабства, тым больш г
тае зло ўжо пераможана, тым больш «удалася» самая рэвалюцыя...

Але кожнаму ясна, што якраз тады і найменш патрэбна самая рэв
люцыя...

І ў канцы канцоў найбольш адпавядаючай сваей мэце і найболь
«удачнай», найлепш дасягаючай пажаданых вынікаў рэвалюцыя быв
тады, калі ў ёй зусім ня ўжываецца... «рэвалюцыйны» мэтад, калі н
трэба і ня бывае... самае рэвалюцыі!

І гэта зусім не софізм, не лягічнае штукарства; гэта няміпуча вынік
з самога прынцыпу Рэвалюцыі, з таго «зачарованага кола» адʼёмн
цэннасьцей, у якое мы пры гэтым няўхільна пападаем.

Выхад як з лягічнага, так і з практычнага «зачарованага кола» д
выключна мэтад, што творыць дадатныя цэннасьці, ператтварае зло
дабро і не вымагае «фізычнага зьніштажэньня» апошняга.

Як бачым, самае паняцьце Рэвалюцыі ўнутрана супярэчнае, крые
самым сабе рэвалюцыю...

Нездарма рад аўтараў англічан, а сьледам за імі і слаўны Лясаль л
чаць запраўды рэвалюцыйнымі толькі «новыя прынцыпы», новыя мэт
ды ў навуцы і тэхніцы, новыя адкрыцьці і вынаходы, якія даюць чала
веку магчымасьць больш эканомна, з вялікшай карысьцяй зужыва
сваю працоўную энэргію, вызваляюць з рабства ў прыроды.

Гэтакай запраўднай рэвалюцыяй Лясаль лічыў, прыкладам, вынахо
прасьнічна-ткальнае машыны. Такой запраўднай сацыяльнай рэвалю
цыяй быў у свой час вынаход млына, што вызваліў з праўдзівага рабств

..., якая перад тым палавіну жыцьця аддавала на расьціраньне руч-
...корнамі зярнят на муку...
...ама, такое разуменьне рэвалюцыі зусім зьмяняе ўсю нашу тэрмі-
...о.
...ерака, калі паглядзімо, як адбываліся вядомыя нам рэвалюцыі,
...астанем поўнае пацьверджаньне таго, што мы кажам.
... будзем лішне затрымлівацца на гэтым. Адзначым толькі, што ні-
... рэвалюцыя не разьвязала чыста рэвалюцыйным мэтадам тыя за-
...якія сабе стаўляла.
...ь жа ўсе гісторыкі, якія рабілі навуковыя дасьледы аб рэвалюцы-
...казалі, што ўсе рэвалюцыі беспасярэдна давадзілі да нябывалага
...ваньня ўлады ўраду, да неабмяжованага дэспатызму аднае ці не-
...х асоб, вялі прост да ўзьвялічэньня рабства...
...домы знаўца Вялікае Францускае рэвалюцыі, Токвіль, у сваей кля-
...й працы «Рэвалюцыя і Стары Лад» кажа, што «Рэвалюцыя ў
...цыі стварыла ўладу, якое сьвет ня бачыў ад часоў упадку Рымскае
...ыі... Створаныя Рэвалюцыяй урады, праўда, больш хрупкія, але
... сто разоў больш магутныя, чым тыя, якія былі скінуты Рэвалю-
.... З Францускае рэвалюцыі выйшаў дэспат, якога Эўропа ня бачы-
...часоў Атыльлі, ды ягоны дэспатызм не абмяжовываўся Францыяй,
...уўся паняволіць увесь сьвет...
... гэта йшчэ ня ўсё.
...анцузы да рэвалюцыі былі ворагамі свайго рабства, а пасьля рэва-
... сталіся дабравольнымі рабамі Напалеона... Рэвалюцыя, скінуўшы
...снае «рабства каралю», давяла да дабравольнага «рабства імпэра-
...
...й жа Токвіль кажа, што ўсе ўстановы, якія быццам то разбурыла
...оцыя, запраўды былі ўжо даўно разбураны ў нетрах старога ладу.
... ўстановы былі разбураны бяз помачы рэвалюцыі і якраз тым но-
...трэцім станам» — мястовым, які аказаўся адзіным нашэльнікам
...йшае працоўнае духовае актыўнасьці і ўжо ў нетрах старога ладу
...ў сілу, багацьце, арганізаванасьць, новую ідэалёгію і... фактычнае
... на ўладу. Гэты новы нашэльнік вышэйшага тыпу эканамічна, ма-
...а і дзяржаўна абаснаванае вышэйшае актыўнасьці — сярэдні
...– перамог ужо папраўдзі, да і без рэвалюцыі. Ды ён і не хацеў тае
...оцыі, якая фактычна адбылася. І хаця рэвалюцыя, ім пачатая, іш-
...ей міма і супраць яго волі, аднак калі яна прайшла, дык аказала-
...о перамог і найбольш, калі ня выключна, выіграў якраз гэты са-
...эці стан...
...рэвалюцыю, як гэта і заўсёды бывае, вызвалі ня гэтыя творчыя,
...ўныя клясы, а тыя запраўдныя «рэвалюцыянеры», у руках каторых

«Яны (манархі) перамешываюць станы, раўняюць тытулы, на мес
арыстакратыі стаўляюць чыноўнікаў, на месца краінных вольнасьцей
адзінасьць дзяржаўных законаў, на месца рознароднае ўлады — ад
насьць цантральнае ўлады. Гэтай рэвалюцыйнай работай яны (манарх
займаюцца з неаслабнай энэргіяй, а сустракаючы на сваей дарозе п
рашкоды, часамі пазычаюць у рэвалюцыі і яе спосабы і прынцыпы. К
лі гэта патрэбна, дык яны (манархі!) ня спыняюцца перад тым, каб па
няць беднага проці багатага, чыноўніка проці шляхціца, сялян проці
паноў... Француская рэвалюцыя была для іх (манархаў!) адначасна і б
чом і... вучыцелем...»

Француская рэвалюцыя, выводзіць Токвіль, дала гэтым манархам Э
ропы роўнасьць усіх перад іх дэспатызмам, але... Але не дала свабоды

Не дала затым, што... ня мела сама.

А тыя ж французы кажуць, што найхарашэйшая дзяўчына ня мож
даць больш таго, што сама мае...

Ці трэба давадзіць, што рэвалюцыя — найкаштоўнейшы і самы н
эканомны з кожнага пагляду мэтад вызваленьня, нават калі б яна і вя
да мэты?

Рэвалюцыя адзначаецца так званай «інэрцыяй руху»: яна шыбка гу
ляе панаваньне над сабой і над сваей «воляй зьніштажэньня», зара п
ратвараецца ў сьляпую і глухую стыхію, што на сваей дарозе зьніштажа
нязвычайна многа гатовых цэннасьцей, якія маніцца справядліва падз
ліць, і ўсё гэта дзеля таго, каб у канцы дабіцца такіх сумліўных вын
каў — «волі і роўнасьці»... Аб «брацтве» найбольш красамоўна гавар
лі... пабудаваныя на плошчах гільятыны!

І нават з пагляду «эканамічнага матэрыялізму», які суму вольнасьці
грамадзянстве стаўляе, у канцы канцоў, у залежнасьць ад колькасы
яго матэрыяльных цэннасьцей, гэнае страшэннае самаабрабленьне, яко
робіць кожная рэвалюцыя, палючы цэлы дом, каб зьніштожыць засеў
шага ў шчыліне клапа, ня можа вясьці да вызваленьня грамадзянства.

Ці трэба казаць, што рэвалюцыя сама па сабе не ўзвышае, а, наадва
рот, абніжае ў старане ровень людзкага тыпу, абніжае ў масах і інтэлі
генцыі духовую актыўнасьць, чым і карыстаюцца адзінкі, мякка кажучы
з «неабаснаванай маральна» актыўнасьцяй, што ў часе рэвалюцыі захоп
ліваюць уладу?!...

Гэта, бадай, прызнаюць і самі ідэалёгі рэвалюцыі, якія кажуць, шт
пасьля рэвалюцыі заўсёды настае рэакцыя.

На гэтай рэакцыі, на гэтым узросьце народнае і грамадзкае бязьдзей
насьці і грунтуецца ўзмацаваньне ў старане дэспатызму.

тэй душы, што здатна адчуць праўду прасьцейшай дарогай; душы незапутанай у зманныя формы шкалярства. Народ наш створыць еднасьць рэлігіі Усходу і Захаду. Ён — або ніхто. Будзе яна выспаю натуральнаю яго духу рэлігійнага; духу, каторы ў глыбіні сваёй не зламаўся пад згаршэньнем, якое далі вышэйшыя станы; духу, каторы моцны быў у змаганьні з цараслаўем і польскаслаўем; духу, каторага мучаніцтва не апісаў яшчэ ніхто. Усё цяпер трэба будаваць нанова, тварыць «ex nihilo», бо і жывём жа ў часах, калі ашацаваны ўжо ўсе вартасьці, калі над старым сьветам (а мо і над старой цывілізацый) завісьлі бурныя «mane, thekel, fares»; калі, як у Апокаліпсе, здаецца, кажа Дух Божы: «Ecce omnia facio nora» («Вось усенька ствараю нанова»). Павіннасьць духовага будаўніцтва ляжыць на інтэлігэнцыі, не на інтэлігэнцыі ў значэньні буднім, але на інтэлігэнцыі творчай, сьведамай свайго вышэйшага названьня. Абавязак наш першы — вырваць душу народу з кіпцяў блуднага ўплыву чужакоў, каторыя выставілі душу народу на гандаль, каторыя забілі яго рэлігійную творчасьць, змусілі яго хавацца з сваім сьветаглядам прад насьмешлівым вокам культуртрэгэра з Усходу ці Захаду. Трэба стварыць на Беларусі атмосфэру рэлігійнай свабоды, ня выкідаваць справаў сумленьня за парог нашых праграмаў, бо, аддаўшы гэту справу ў цёмныя рукі, зробім памылку, каторай пасьледзтвы не паддаюцца папросту лічбе.

Асновай гэтых маіх разважаньняў было даказаць, што: 1) для разьвязаньня справы рэлігійнай на Беларусі трэба брацца чыстымі рукамі і інтэлігэнтнай воляй, бо нельга з ботамі лезьці ў тайніцы народнага духу, 2) Беларуская інтэлігэнцыя няхай не бярэць прыкладу ад некаторых суседзяў, што, недацаніўшы ўплыву рэлігіі на ўзгадаваньне душы народнай, скінулі яе да ролі нейкага дэвоцыйнага культу пустых формаў. Формы патрэбны, але яны небясьпечны. «Дух творыць, цела мала значыць». Рэлігія ўспамагае трудавітасьць нашага духу і такую рэлігію мы мусім меці, 3) з усіх рэлігійных формаў хрысьціянства ў Беларусі вытварыўся рэлігійны Уніянізм двух абрадаў — славянскага і лацінскага. Ад аднаго жывець у нас толькі мучаніцкая традыцыя, ад другога — лацінства, заквашанае сільна так званай «польскай верай». З двух варожых каламутаў заходняга псэўдорацыяналізму і ўсходняга бізантынізму паўстаць мае наш родны Беларускі Уніянізм.

*1921*

**Вячаслаў БАГДАНОВІЧ**
(1878—1941?)

Рэлігійны, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў Віцебскай губерні. Скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію. З 1907 г. у Віленскай духоўнай семінарыі. Дэлегат Вялікага царкоўнага сабору ў Маскве (1917). Прымаў удзел у снаванні царкоўна-рэлігійнай суполкі «Беларускае праваслаўнае аб'яднаньне». У 1922 г. быў абраны паслом у Сейм Польшчы. На правах сябра ўваходзіў у Беларускі пасольскі клуб і Беларускі нацыянальны камітэт. Праследаваўся польскімі свецкімі ўладамі. Быў арыштаваны і інтэрніраваны ў Бярозе Картузскай. У кастрычніку 1939 г., пасля заняцця Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй, арыштаваны савецкімі ўладамі. Прапаў без вестак.

## ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА НА БЕЛАРУСІ

Гістарычнае прошлае праваслаўнай царквы на Беларусі цесна зьвязана з палітычным палажэньнем Беларускага Народу. У часе поўнай незалежнасьці Беларусі полацкі біскуп называў сваім сынам вялікага князя полацкага, нават тады, калі гэты «сын» быў нехрысьціянскім, як гэта мы бачым у грамаце біскупа Якава да Рыжанаў, дзе ён сынам сваім тытулуе вялікага князя літоўскага і полацкага — Вітэня.

З утратай дзержаўнай самаістасьці Беларусі траціць сваё значэньне і кіраўнік беларускага хрысьціянства, траціць значэньне, урэшце, і сама царква. За вялікіх князёў полацкі праваслаўны біскуп быў адзінай галавой і прэдстаўніком усяго хрысьціянства на Беларусі. Пры Вітаўце гэтае галоўнае прэдстаўніцтва хрысьціянства ў дзержаве было перанесена на віленскага каталіцкага біскупа. Галава праваслаўнай царквы ўжо не ацец вялікага князя, а схізматык ды нават паганін, бо толькі ў XVI сталецьці Рым выясьніў, што «хрышчэньне па праваслаўнаму абраду важнае і што русіны не пагане».

Занепад павагі праваслаўнай царквы ішоў у пары з занепадам дзержаўным і нацыянальным Беларусі.

Ад Вітаўта (1430) і да пачатку XVII ст. Беларусь змагалася пад сьцягам праваслаўнай царквы за свае нацыянальныя правы. Змаганьне праваслаўя і каталіцтва ў Беларусі XV і XVI ст. было не выключна рэлігійнае, а нацыянальна рэлігійнае. Пэрыод ад 1430 і да 1619 году можна

назваць пэрыодам зблiжэньня царквы і народу. У гэтым пэрыодзе на тэрыторыі Беларусі важыліся фізычныя і культурныя сілы змагаючыхся на жыцьцё і сьмерць двох культур — усходнай і заходнай, і двох нацый — беларускай і польскай. Час зблiжэньня царквы з нацыяй даў разьцьвет беларускага рэнэсансу ў мастацтве і асабліва ў літэратуры, а такжа разьцьвет рэлігійна-нацыянальнай сьвядомасьці. Літэратура, закідаючы амярцьвелую царкоўнаславяншчыну, чэрпала з багатай крыніцы народнай мовы свой славар і формы, кіруючыся «да лепшага выразуменьня люду паспалітага».

Па чыей старане ў выніку барацьбы сталася бы перамога нельга было правідзець, каб аб'еднаньне царквы і нацыі трывала далей. На жаль, у самым зараньню благі лёс разьеднаў царкву з народам.

Першы ўдар быў нанесен са стараны сваіх жа, — з абозу, у разгары змаганьня падаўшагася назад, у рэакцыю. Такім рэакцыйным крокам былі пачынаньня і пазьнейшая дзейнасьць князя Канстантына Астрожскага, выдаўшага сваю знаменітую біблію замест у жывой, народнай мове, — у мове адумершай, стараславянскай. Біблія Астрожскага — гэта рэакцыя, паварот назад.

Другі, і рашучы, удар быў зададзен нашым, тагочасным найвыдатнейшым вучоным, Зызаніем Сматрыцкім, выданьнем яго граматыкі (Вільня, 1619).

Граматыка Сматрыцкага рашуча адкінула народную мову як неразпрацаваную — сьвядома і ўсецэла абаперлася на кніжнай, царкоўнай стараславяншчыне.

Нацыя, адрэзаная ад дзержаўнага кіраўніцтва, дабіла сябе, адрэзаючыся школай і навукай ад народных жывучых і гаючых крыніц. Мёртвай мовай можна было маліцца, можна было для яе ўкладаць граматыкі, але ня можна было разьвіваць літэратуры. І літэратура беларуская, закаваная ў мёртвыя формы, пачала хутка заміраць.

Царкоўнаславяншчына, ня маючы за сабой такіх культурных засабаў, як тагочасная лаціна, павінна была ўступіць мейсца апошняй.

Разбрат царквы з народнай беларускай мовай дорага абыйшоўся як беларускаму народу, так і самой праваслаўнай царкве. Літэратурная творчасьць спынілася; пачалі закрывацца, буйна было разьцьвіўшыя ў папярэднім пэрыодзе, беларускія друкарні.

У 1621 ґаду зачынілася насьледніца традыцый Ф.Скарыны Мамонічаўская друкарня ў Вільні.

Ад 1627 году віленская Сьв. Троіцкая друкарня, праславіўшаяся палемічнымі беларускімі друкамі, пачынае выдаваць кнігі па-польску.

За гэтымі друкарнямі пазакрываліся іншыя — адны раней, другія — пазьней. У другой палове семнадцатага і восемнадцатага сталецьцях з беларускіх друкарань ужо ня выйшла ніводнай сьвецкай кнігі. Уся друкарская праца агранічалася адзіна передрукам славянскіх літургічных кніг, выключна для царкоўнага ўжытку.

Умысловая праца замерла.

Блуднік, на які пайшла царква, давёў, урэшце, яе да лёгічнага абсурду: да поўнага адарваньня ад народу. З двох мала зразумелых моў — царкоўнаславянскай нежывой і польскай — чужой — яна спынілася на жывой пануючай, г.зн. польскай мове. Праглядаючы сьпісы кніг, выданых найбольш яра бароўшыміся за праваслаўную справу ў Літоўскай дзержаве праваслаўных манастырскіх друкарань, мы бачым, што пад канец XVI ст. гэтыя апошнія пачынаюць выдаваць цэлы шэраг праваслаўных, царкоўных і духоўных кніг па-польску.

Капітуляцыя перад ворагам, аднак, ані не памагла праваслаўнай царкве, наадварот, зьбітая з правільнага шляху, адлучаная ад народу, зьняважаная і прасьледаваная ворагам, яна штораз больш траціла грунт і значэньне.

Падзел Польшчы, далучэньне Беларусі да праваслаўнай Расіі ўратавала беларускае праваслаўе ад заняпаду. Расійская дзержаўнасьць не шкадавала ўсіх, маючыхся ў яе распараджэньні засабаў, каб адбудаваць быўшую славу і значэньне праваслаўя на Беларусі. Аднак, падпіраючы і шыручы царкву, Расія не адбудовывала яе на крэпкіх старых фундаментах, не апірала на народнай мове і правечных мейсцовых традыцыях, а наадварот, нішчучы з каранём старое, мейсцовае, векамі злажыўшаеся і зросшаеся з Беларускім Народам, насаджала праваслаўе па духу і характару чужое, вялікаруска-маскоўскае. Царква ў руках расійскага самадзержаўя была аружжам дэнацыяналізацыі і панаваньня над Беларускім Народам.

У гэтым апошнім тоўпіцца вялікая небясьпека для беларускага адраджэньня са стараны праваслаўя: яно — сталетняй служэбнай роляй у сыстэме расійскай дзержаўнасьці ды русыфікатарскай работай — адрэзана ад беларускіх каранёў і праз гэта ня моцнае і небясьпечнае з нацыянальнага боку. Мы сваімі вачамі бачылі, як у 1905 гаду дзесяткі тысяч цёмных, быўшых раней уніятамі, беларускіх селян, толькі дзеля сьляпой опозыцыйнасьці да «казённай» веры пераходзілі ў каталіцтва. У чым жа казённасьць праваслаўя? У мове чужой, наноснай, не народнай, у былой блізасьці духавенства са сьвецкай адміністрацыяй. Цяпер пад польскай акупацыяй, за гэтых некалькіх гадоў, перайшло другія дзесяткі, а можа і сотні тысяч беларусаў праваслаўных у каталіцтва.

Нашы каталіцкія прозэліты, па сваей цемнаце, тожсамячы рэлігію з нацыянальнасьцю, на другі ж дзень пасьля прыняцьця каталіцтва становяцца, як зазвычай усе прозэліты, самымі заўзятымі ворагамі ня толькі ранейшай сваей веры, але і сваей нацыянальнасьці, становяцца — палякамі. Яны гэтым затрымліваюць і муцяць адраджэнчы беларускі рух.

Кіруючыся нацыянальна-адраджэнчымі мэтамі, беларускі рух павінен вельмі ўважліва ставіцца да рэлігійнага пытаньня наагул, а да праваслаўя, як рэлігіі большасьці, — у асаблівасьці. Наш рэлігійны дуалізм

сам па сабе ёсьць вялікае зло, а тоя, што каталіцызм у нас польскі, а праваслаўе вялікаруска-маскоўскае, зьяўляецца ўжо прост нацыянальнай трагедзіяй, аб якую могуць разьбіцца многія нашыя пачынаньні і надзеі. Ад 1380 году, даты прыняцьця каталіцтва пануючай у нас дынастыяй, Беларусь сталася арэнай змаганьня двох рэлігій, двох хрысьціянскіх абрадаў, а народ беларускі стаўся аб'ектам гэтага змаганьня. Пачынаецца ўжо шостая сотня гадоў напружанай барадзьбы, і яна далёка ешчэ не закончана. Наадварот, можна з пэўнасьцю сказаць, што мы ізноў стаім на перададні новай, можа, самай рашучай, схваткі двох сьветавых рэлігій, і дзеля таго, што схватка гэта, як і ў гістарычнай мінуўшчыне, адбудзецца на нашай зямлі і за наш народ, нам, адраджэнцам, праступна было бы ня мець свайго, выразна акрэсьлянага погляду і ясна вырашанага адношэньня да кождай з ваюючых старон.

У гэтым нарысе мы робім спробу характэрызаваць праваслаўя і формуляваць наш да яго стасунак як да рэлігіі большасьці.

Вышэй мы зазначылі галоўныя чатыры фазы з гісторыі праваслаўя на Беларусі. Мы адмецілі, што галоўнай прычынай упадку праваслаўя на Беларусі ад XVII ст. было яго разьеднаньне з нацыянальнай стыхіяй, але мы не адмецілі аднэй рэчы, а менавіта, што ў істоце сваей праваслаўе ніколі не было ваража беларускай нацыянальнасьці. Яго адклон ад беларускай мовы дыктаваны быў тагочасным разуменьнем гістарычнага моманту найвыдатнейшымі барцамі за тую ж самую справу. Нават у часе найбольшай расійскай рэакцыі русыфікатарская дзейнасьць праваслаўя на Беларусі дыктавана была не спэцыяльнай варожасьцю царквы да Беларускага Народу, а расійскім імпэрыялізмам і характэрнай Маскве нетолерантнасьцю. Нацярпеўшыся ў папярэдні польскі пэрыод зьдзекаў і крыўд, праваслаўнае духавенства пайшло на служэньне братняй аднавернай Маскве *ідэйна*. Трэйцяя старана — Беларускі Народ іграў ролю адзіна об'екта, сам ён быў тады нагэтулькі задушан, што ня мог сказаць свайго ўласнага слова. Мейсцовае праваслаўнае духавенства само было даўно ўжо адарвана ад народу. У часе прылучэньня Беларусі да Расіі нашы праваслаўныя вярхі, бачучы векавечнага свайго ворага — Польшчу — разпластаным, ня мелі часу і змогі навязываць з народнай стыхіяй старых зьвязкоў: усё ж роўна Народ Беларускі памёр! Тыя, як ім здавалася, рэштკі ў ім жыцьця трэба выкарыстаць на аб'еднаньня з братняй праваслаўнай Масковіяй, каб і ён, народ, пасьля доўгіх мук і паняверкі, мог зажыць шчасьлівейшым жыцьцём. Пагляд, што й казаць, памылковы, недальназоркі. Але ізноў-такі віна тут былых пакаленьняў, а не самой царкоўнай арганізацыі як такой.

У цяперашні момант, пасьля сьветавой вайны, праваслаўная царква на Беларусі, асабліва тэй часьці Беларусі, што пад польскай акупацыяй, перажывае цяжкі крызыс. Пазбаўляная натужнай апекі колішняга расійскага ўраду, прасьледаваная і грабленая палякамі, атакаваная з усіх старон каталіцтвам, яна ня мае сіл і змогі бараніць сябе.

Праваслаўе беларускае разплачываецца цяпер за расійскі імпэрьялізм і памылковую палітыку апошняга. Аднак з гэтай яе часовай слабасьці праваслаўная беларуская царква можа выйсьці адроджанай і двакрот узмацаванай пры адным варунку, калі яна здоляе, праз усе наваленыя гісторыяй паміж ею і народнай беларускай масай завалы, падыйсьці ў сутыч да народу і долю сваю цесна зьвязаць з народнай доляй. Об'ектыўна кажучы, для нашага праваслаўнага духавенства, узгадаванага ў русыфікатарскай старой школе, заданьне ня лёгкае.

*Каб дасьцігнуць аб'еднаньня з народам і свайго ўласнага адраджэньня, праваслаўнаму духавенству трэба прайсьці праз горан беларускага адраджэньня.*

Пакуль што праваслаўная царква ў нас, паміж сваіх пастыраў, мае многа людзей, шчыра адданых сваей справе, але мала ёсьць людзей належна ацэняючых перажываны гістарычны момант і асабліва адраджэнчы момант у жыцьці Беларускага Народу і ролю яго ў разьвіцьці гістарычных падзей у будучыне.

Аднак, беручы пад увагу, што праваслаўе органічна зьвязана з Беларускім Народам, што ў істоце сваей ня варожа яму і, урэшце, што нацыянальны і рэлігійны вораг адзін і той жа, а найважнейшае, што праваслаўнае духавенства рэкрутуецца з тых жа народных беларускіх мас, справа зьбліжэньня беларускага адраджэнчага руху і беларускага праваслаўя ў будучым немінуча.

Адраджэньня беларускае, ставячы свае вымогі беларускай царкве нацыянальна-адраджэнчага характару, не павінна ісьці супроць немінучай канечнасьці, а наадварот, дзеля эканоміі сіл, павінна быць добрым праваднікам адраджэнчых ідэй у царкву.

*Праваслаўя на Беларусі павінна быць беларускім.*

Побач з беларусынізацыей праваслаўнай царквы паўстае пытаньне аб царкоўным кіраўніцтве. Украіна цяпер змагаецца за аўтокефальнасьць украінскай царквы, г.зн. за поўную яе незалежнасьць і самаістасьць. Трэба шчыра сказаць, што для нас гэта справа і гэта форма вырашэньня царкоўнага кіраўніцтва, пры цяперашнім падзеле Беларусі і гаспадараньню акупантаў, стварыла бы толькі новыя замешкі, без ніякіх рэальных карысьцей для справы. Дзеля гэтага нашы вымаганьня да Патрыярхату ўсяе Русі павінны агранічацца жаданьнем адбудаваньня даўней існаваўшай аўтаноміі Беларускай праваслаўнай царквы, якая бы абнімала ўсе этнографічна-беларускія землі, каб на абшары этнографічна беларускім чужая народу вялікаруска-маскоўская мова была поўнасьцю (акром літургіі) заступлена ў царкоўным ужытку мовай беларускай. Каб біскупскія катэдры былі абсаджаны ўраджэнцамі Беларусі, валадаючымі беларускай мовай, а такжа, каб было пастаўлена за абавязак беламу духавенству, дзеля зьбліжэньня яго з народам, знаньня і ўжываньня беларускай мовы ў царкоўным і штодзённым жыцьці.

А найважнейшым, пякучым і ня церпячым адвалокі вымаганьнем ад Патрыярхату ўсяе Русі ёсьць, каб беларускія землі, апынуўшыяся пад

польскай акупацыяй, былі незвалочна выдзелены ў асобную царкоўна-адміністратыўную адзінку і ў сваім вярхоўным упраўленьні падлегалі бы не Варшаўскаму экзарху, а Беларускаму мітрапаліту.

Навіна, уведзеная ў пачатку бягучага году саборам «польскіх праваслаўных біскупоў» у Варшаве, каб біскупы Віленскі, Горадзенскі, Наваградзкі, Берасьцейскі і Пінскі ў царкоўным упраўленьні залежалі ад Варшаўскага экзарха, павінна быць сьвяцейшым патрыярхам адменяна. Гэтага вымагае дабро самой праваслаўнай беларускай царквы і нацыянальныя інтарэсы Беларускага Народу.

*1922*

**Уладзіслаў ТАЛОЧКА**
(1887—1942)

Каталіцкі святар, гісторык, літаратурны крытык, публіцыст, рэлігійны, культурны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў Гродна. У 1909 г. скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю і быў высвечаны ў ксяндзы. Удзельнічаў у II Велеградскім унійным з'ездзе. Вывучаў філасофію і тэалогію ў Каталіцкім універсітэце ў Інсбруку (1910—1914). Пад час вучобы ў Аўстрыі пасябраваў з львоўскім грэка-каталіцкім мітрапалітам А.Шаптыцкім. Пасля вяртання ў Вільню служыў вікарыем у касцёле св. Яна. Напярэдадні і ў гады Першай сусветнай вайны супрацоўнічаў з беларускай каталіцкай газетай «Biełarus» і газетай «Homan», з ковенскім літаратурна-палітычным месячнікам «Draugija» («Сябрына») і сейніцкаю газетай для духавенства «Vadovas» («Праваднік»). Публікаваў матэрыялы на гістарычную праблематыку ў віленскім каталіцкім выданні «Dwutygodnik Diecezjalny». У пераважнай большасці падпісваўся псеўданімам Адам Саладух. Адзін з ініцыятараў і арганізатараў Беларускага таварыства дапамогі ахвярам вайны і сірацінца «Золак» для беларускіх дзяцей (1915—1918). Праводзіў актыўную беларусізацыю каталіцкага касцёла на Віленшчыне. Браў чынны ўдзел у арганізацыі беларускіх школ. Прадстаўляў інтарэсы беларусаў у Дзяржаўнай Радзе Літвы. Абраны сябрам Літоўскай Тарыбы. Дасканала ведаў літоўскую мову. Быў асабліва шанаваны ў асяроддзі віленскіх краёўцаў. Падтрымліваў сяброўскія адносіны з Т.Урублеўскім і Л.Абрамовічам. Супрацоўнічаў з рэдакцыяй часопіса «Przegląd Wileński». Праследаваўся польскім віленскім духавенствам. У снежні 1938 г. выселены ўладамі з Вільні як «дзяржаўна-недабрадзейная» асоба. Вярнуўся з выгнання пасля верасня 1939 г. Адзін з арганізатараў беларускага рэлігійнага і культурна-асветніцкага жыцця на Віленшчыне. Набажэнства адпраўляў у трох мовах — беларускай, літоўскай і польскай. Аўтар артыкулаў, рэцэнзій, філасофскіх эсэ, допісаў, апублікаваных на старонках беларускіх, літоўскіх, польскіх і ўкраінскіх выданняў, а таксама ў заходнееўрапейскім друку (італьянскім, нямецкім і інш.).

## U KOLEBKI MESJANIZMU BIAŁORUSKIEGO

Mesjanizm dziś może być już uważany za integralną cząstkę ideologji każdego narodu, mogącego wespół z innymi pracować nad postępem cywilizacji. Żaden z narodów nie chciałby być jedynie robotnikiem przy tem wielkiem dziele, wypełniając tylko cudze pomysły i plany, natomiast każdy

pragnie też włożyć doń cząstkę własnej duszy: swe odrębności, swe nadzieje, swe ideały... Tu zbiegają się zupełnie i interes ludzkości i narodu. Czasem narody zaprzeczają, jakoby posiadały własny mesjanizm, przy bliższem atoli poznaniu ich wszędzie znajdziemy choć kilka jego pierwiastków składowych. Praktyka najzupełniej potwierdza powyższe uwagi teoretyczne.

Świeżo wydane nr 2 — 3 *Sztomiesiacznika Biełaruskaho Studenctwa*, organu białoruskiej młodzieży akademickiej w Wilnie, przynosi znamienny artykuł S. Radzimicza (pseudonim) p.t. «Ab naszym mesjanizmie». Zagadnienie *dwóch dusz* w odrodzonem piśmiennictwie białoruskiem pierwszy poruszył najlepszy dziś prozaik białoruski Maksym Harecki w powieści «Dźwie duszy», wydanej w Wilnie (r. 1920). Jako przedmiot dyskusji, było ono bardzo często omawiane już od początku ruchu białoruskiego. Ostrość zagadnienia łatwo każdemu rzuca się w oczy. Naród, który dzieli się na dwa tak nierówne (1:3) odłamy wyznaniowe i, co za tem idzie, dwie sfery biegunowo przeciwnych wpływów kulturalnych, musiał, w osobie swych świadomych a inteligentnych przedstawicieli, rychło uprzytomnić całą doniosłość tego faktu, mającego olbrzymie dla przyszłości narodu znaczenie.

Ale nie samo istnienie jego chcemy tu podkreślić, bo o wiele ciekawsza ta różnica w jego ocenie, jaka dokonała się na naszych oczach. Do tego czasu utarło się w kołach białoruskich rozdwojenie narodu na mniejszość katolicką (pod wpływami łacińskiemi, resp. polskiemi) i znaczną większość prawosławną (pod wpływami bizantyjskiemi, resp. rosyjskiemi) uważać jeśli nie za nieszczęście dla bytu i rozwoju narodu, to w każdym razie za duży *minus*, za przeszkodę i groźbę dla niego. Jednych uprzytomnienie tego faktu, stworzonego przez same dzieje narodu, przekonało do Unji kościołów, któraby pożądaną jedność co rychlej zaprowadziła w narodzie białoruskim, drugich znowu taż okoliczność popychała do — bezwyznaniowości, byle udało się tylko jakiś most przerzucić nad przepaścią. Tak było dotychczas.

Obecnie p. S. Radzimicz daje zgoła inne oświecenie faktu dwóch dusz. Według niego był on nader szkodliwym, póki nie istniała wcale świadomość odrębności narodowej, a sprawa religji była wszystkiem, służąc jednocześnie za określenie narodowości. «Ale dziś, gdy ta świadomość staje się codzień większą, kiedy bodaj nie każdy dzień pomnaża liczbę nowych szermierzy za sprawę ojczystą, ta strona ujemna przeradza się na dobre. Tworzy się synteza wschodu z zachodem, dotychczas wprawdzie całkiem nieświadomie, ale się tworzy. Naród roztwierając oczy nie łączy się z żadną z dwóch stron, lecz staje się samym sobą».

Ten białoruski mesjanizm, wypływający z zupełnie realnych i racjonalnych przesłanek, o ile dosyć znajdzie szczerych wyznawców, może rokować piękne nadzieje na przyszłość

*1922*

## RUŚ PODKARPACKA A BIAŁORUŚ

Do najmniej znanych u nas zakątków Słowiańszczyzny należy Ruś Podkarpacka, do niedawna zwana ze starosłowiańska Ugorska, jako należąca do *Magyaroroszag u*, czyli Węgier (u latopisców *Ugry*). Prawie jednocześnie po wojnie Ruś Podkarpacka i Białoruś zrzuciły jarzmo długiej i niezwykle twardej niewoli. Jednak acz na Podkarpaciu i Białejrusi brzask wolności się zaczął, słońce jej jeszcze dla nich nie weszło i obydwa kraje muszą w ciągu dalszym nieść ciężki krzyż skrępowanego bytowania.

Rozważmy podobieństwa i różnice ich losów w wieku ubiegłym i dziś.

Rusini podkarpaccy i Białorusini ze wszystkich bodaj członków wielkiej rodziny słowiańskiej okazali się dotychczas najmniej odpornymi na prądy wynaradawiające i przez to najwięcej pokrzywdzonymi. W wiekach ubiegłych kler ruski na Podkarpaciu, łącznie z biskupami w Munkaczu stanowił czoło obrońców wiary gr.-katolickiej i narodowości ruskiej. Węgry widząc, że główną ostoją świadomości ludu podkarpackiego jest jego duchowieństwo, postanowili za wszelką cenę zmadjaryzować je razem z inteligencją świecką. Czynili to z myślą, że ciemny a pozbawiony swych przyrodzonych przewodników lud nie poradzi sobie bez nich i madjaryzacja pójdzie szybszem tempem. I cóż się stało? Oto na początku w. XX na Rusi Podkarpackiej, oprócz kilku zaledwie wyjątków, już nie było obrońców narodowości ruskiej, a zmadjaryzowany kler, w swej gorliwości prozelickiej, prześcigał niekiedy rodowitych Węgrów. Wiernym narodowości ruskiej został tylko chłop, ten zbiedzony, ciemny i pogardzany przez wszystkich *budös orosz* (cuchnący Rusin). Tak pod strzechą włościańską ocalał tu język ruski i to w postaci niezwykle czystej a nieskażonej.

Na Białorusi na początku w. XX, zastajemy cały, z niezwykle rzadkiemi wyjątkami, kler również w cudzym obozie: kler łaciński — w polskim, prawosławny — rosyjskim. Lud białoruski kleru narodowego tak jakby nie ma, mimo że znaki na niebie i ziemi wskazują zbliżanie się nowych czasów. Różnica między Rusią Podkarpacką a Białorusią tutaj była ta, że madjaryzacja kleru przeprowadzona została przez szkoły i seminarja celowo, systematycznie i z bezwzględnością iście węgierską, wtedy gdy na Białorusi polszczenie kleru odbywało się bez owej systematyczności, obcej na ogół polskiemu duchowi i charakterowi, i z dużą domieszką romantyzmu i idealizmu, co niewątpliwie stanowi okoliczność łagodzącą. Białoruskość, niby ptak gnany burzą a deszczem, schroniła się u nas pod strzechę zagrody chłopskiej, by tam przetrwać czas srogiej niepogody. Gdy synowie siermiężnego ludu białoruskiego, obierając stan duchowny, zrzucali zwykle dotychczasową skórę i przedzierzgali się w Polaków, jeśli to byli księża łacińscy, lub w Rosjan, jeśli mowa o popach, rdzeń masy ludowej pozostał, chociaż często bezwiednie, przy narodowości ojców. W ten sposób białoruski chłop, nierzadko nazywany *bydłem, chamem* i t. d., stał się jedynym bodaj nosicielem etnicznych pierwiastków białoruskich. Sama ciemnota ludu

białoruskiego, dzięki której częstokroć był bardzo niepodatnym na wszelką agitację słowem i piórem, wyszła mu w tym wypadku nawet na dobre. Kler, który stanowił istotnie przeważną część inteligencji białoruskiej, za wyjątkiem kilku świetlanych jednostek, dla narodu białoruskiego, jako takiego, nie zrobił nic, chociaż najlepiej znał jego stan i potrzeby i winien był przeto podnieść chłopa białoruskiego na wyższy stopień umysłowy, przez uświadomienie w nim przynależności narodowej. Nadto nierzadko trzymał się od ludu dosyć daleko, jakby obawiając się bliższej z nim styczności, bo od sprzałego kożucha i łapci nieraz dobrze cuchniało. Żyjąc z ludu, duchowni pasterze białoruscy do niczego, poza koniecznemi obowiązkami kościelnemi, względem niego się nie poczuwali, dbając często zbyt skrupulatnie o dopływ świadczeń pieniężnych i rzeczowych. Po odprawieniu liturgji, duszpasterz zaraz wracał na polski lub rosyjski Olimp, zostawiając nieuświadomiony narodowo lud u jego podnóża, gdzie wiódł on często mało godne człowieka życie wśród straszliwej ciemnoty, biedy i przekleństwa. Białorusini do niedawna zgoła nie mieli kleru narodowego, bo kapłani przekształcali się w panów, pnąc się niekiedy za arystokracją i szczycąc się nadmiernie swą nabytą kulturą. Takiem było wrażenie ogólne, którego zmienić nie mogły chwalebne, lecz nieliczne wyjątki. Na parafie białoruskie jechali niekiedy duchowni urodzeni na Podlasiu (księża) lub nad Wołgą (popi). Na Rusi Podkarpackiej i na Rusi Białej w równej mierze odczuwa się potrzeba powrotu duchowieństwa do ludu, z którego wyszło i który chce uważać je za swoje. I tu i tam częsta zmiana okupacyj zdezorjentowała dziś lud i zaostrzyła jeszcze bardziej potrzebę posiadania w swych kapłanach światłych przewodników. Niestety, tak na Podkarpaciu, jak i u nas duchowieństwo w swej większości sprawia wrażenie, jakby nie widziało tego, co się dzieje wokoło. Wciąż jeszcze nie można przebudzić się z tego słodkiego snu, do jakiego ukołysał je zewnętrzny blask wyższej kultury, ani też chce zrzucić z siebie okowy obcych wpływów, sądząc naiwnie, że masom ludowym uświadomienie narodowe jest niepotrzebne zgoła. Większa część kleru w obu tych krajach dotychczas nie zorjentowała się w wytworzonej wojną światową sytuacji, nie zrozumiała ducha doby spółczesnej, «nie przyoblekła się w nowego człowieka», ani trochę nie stała się narodową. Wspólnym rysem duchowieństwa na Podkarpaciu i Białorusi jest to, że dla oświaty w duchu narodowym (mowa nie o pracy politycznej, lecz czysto kulturalnej) nietylko nie objawia najmniejszego nawet zainteresowania, lecz wrogo się jej przeciwstawia. Natomiast tam madjaryzacja lub moskwiczenie, tu — polszczenie lub rusyfikacja zawsze znajdują tłum zwolenników, wtedy gdy zagon pracy nad obroną i rozwojem pierwiastków rusińskich lub białoruskich leży odłogiem, a oraczom ustawicznie rzucane są ciężkie kamienie pod nogi. Nie ulega wszakże wątpliwości, że zarówno Rusini podkarpaccy, jak nasi Białorusini, o ile będą dostatecznie wytrwałymi, doczekają się wreszcie dla siebie jaśniejszej przyszłości.

*1922*

## PROBLEM BIAŁORUSI ZACHODNIEJ

Obierając za przedmiot artykułu niniejszego temat powyższy, naszem zdaniem, niezwykle ważny i dotychczas nie poruszany, — starannie eliminujemy zeń kwestję państwowości. Równie dalecy chcemy tu być tak od jakichkolwiek rezygnacji, do których wcale nie czujemy się upoważnieni, jak też od wysuwania na plan pierwszy pretensyj, które nie zdają się mieć łączności zasadniczej z problemem Białorusi Zachodniej. Za rzecz całkiem zbędną uważaliśmy próbę wytyczenia doskonałej granicy między Białorusią Zachodnią a Wschodnią, jak również między Północną a Południową; zadanie powyższe ustępujemy geografom i etnografom.

Punktem wyjścia dla nas jest niezbity, bo oczywisty fakt, że Białoruś Zachodnia *istnieje*. Istnieje ona nie jako termin, fikcja i t. d., lecz jako pewien obszar ziemi i pewna ilość ludności go zamieszkującej. Mianem powyższem określamy obszar kraju, na którym mieszka lud używający mowy białoruskiej, jako swej przyrodzonej, i wyznający od wieków religję rzymsko-katolicką. Mamy na myśli powiaty, w całości lub częściowo: Augustowski, Sokólski, Grodzieński, Lidzki, Wołkowyski, Słonimski, Oszmiański, Wilejski, Nowogródzki, Dziśnieński, Brasławski, Białostocki, Bielski, Święciański, Trocki. Liczba rozsiadłej tu ludności białoruskiej stereotypowo szacowana bywa w przybliżeniu na 3 milj. osób, a więc prawie tyle, ile ma Litwa, więcej niż Łotwa i trzykroć tyle, co Estonja! Wobec tego zdawać by się mogło, że Białoruś Zachodnia ważyć coś będzie i *in spe* i jako znaczna część całości Białorusi od Augustowa po Smoleńsk. Tymczasem niespełna dwa lata nas dzielą od dwudziestolecia początków odrodzenia narodu białoruskiego (1905), Białoruś zaś Zachodnia nie przestaje wciąż być wielkością martwą, prawie bez znaczenia i wpływu w całokształcie problemu białoruskiego.

Gdzie szukać przyczyn tego? W rzeczach czy ludziach? Dlaczego ludzie nie przeciwstawiali się wręcz nienormalnemu stanowi rzeczy, jaki powoli się wytworzył na Białorusi Zachodniej!? Trudno wszystkich ich posądzać o krótkowidztwo lub nieświadomość, wprost karygodną w umyśle człowieka, mającego pretensje uchodzić za polityka realnego...

Gdybyż przynajmniej Białoruś Zachodnia w turnieju białoruskiej myśli politycznej świeciła tylko swą nieobecnością, nie mając odwagi, do wypowiedzenia tu swojego słowa!...

Byłoby to połową nieszczęścia...

Jest jednak nierównie gorzej, bo Białoruś Zachodnia na szlaku, którym kroczą myśl i akcja białoruska, najwyraźniej została zepchniętą, wzgardzoną, zdeptaną... Ślepy tego niewidziałby! Osobiście wcale nie chcemy posądzać o złą wolę względem Białorusi Zachodniej pionierów ruchu białoruskiego od r. 1905 naogół i rzeczników Białorusi Wschodniej (większej obszarem i ludnością, a odrębnej wyznaniem i duchem). W szczególności, owszem gotowiśmy raczej szukać winnych, o ile tacy mogą tu być, wśród tych, co ciałem i duchem pochodząc z Białorusi Zachodniej, nie umieli dotychczas

stać się konsekwentnymi rzecznikami jej potrzeb na forum spraw ogólnobiałoruskich i zmusić je do nierównie większego z nią się liczenia. Jeśli i były jakieś próby w tym kierunku, były one zjawiskiem nader rzadkiem i dlatego pozbawionem większego wpływu.

Stąd jest jasnem, że bynajmniej nie zamierzamy stawiać kogoś w stan oskarżenia. Tembardziej, że dla altruizmu w świecie zagadnień i rozwiązań politycznych zgoła niema miejsca, i nikt przecie nie mógł ani żądać, ani spodziewać się nawet, iż ktoś ze strony specjalnie się zajmie potrzebami duchowemi Białorusi Zachodniej i zrobi za nas to, cośmy, jako jej dzieci, sami zrobić powinniśmy byli! Cały tedy artykuł zwracamy przeto nie do wschodu, lecz do zachodu, *do siebie samych.*

Ale czy nie wyolbrzymiamy różnic między Białorusią Zachodnią a Wschodnią? Odpowiedzią niech będzie szereg faktów ogólnie znanych i nie dających się zaprzeczyć:

1. Białoruś Zachodnia jest rzymsko-katolicką i gorącem przywiązaniem do Kościoła dotąd nie dała się wyprzedzić ani Litwie, ani Polsce.

2. Białoruś Zachodnia, jako katolicka i sąsiadująca bezpośrednio z narodami Europy Środkowej, zawsze się orjentowała i orjentuje bardziej *na łaciński Zachód* niż na bizantyńsko-rosyjski Wschód.

3. Białoruś Zachodnia, będąc katolicką i o ile była unicką, stale się posługiwała w swem piśmiennictwie *alfabetem łacińskim*, do dziś w tem przywiązaniu nie osłabła ani trochę i uważa wszelką nawet dyskusję o zmianie swego alfabetu na inny, lub uszczupleniu praw jego za niewłaściwą.

4. Białoruś Zachodnia, jak ongiś w osobie swych synów czerpała oświatę i natchnienie do pracy na wszechnicach Europy Zachodniej (Padwa, Wenecja, Praga, Kraków), tak zamierza i dziś szukać ich tam, a nie w Moskwie, Kijowie lub chociażby mocno zruszczonym i czerwonym Mińsku.

5. Białoruś Zachodnia bardzo niechętnie widzi w białoruskiej mowie książkowej nowotwory rodem ze... Smoleńska, z czem, niestety, idzie w parze lekceważenie doskonałych źródłosłowów miejscowych.

To są większe a ważniejsze różnice.

Należy przytem zaznaczyć, że alfabet łaciński ma dziś wzięcie nawet w dalekiej Japonji, a niedawno sprawę wprowadzenia jego omawiano też w Sowdepji. Dlatego zgoła nie na czasie jest unifikacja alfabetu białoruskiego na wyłączną korzyść graždanki, a już groteskowo wyglądał projekt p. W. Łastowskiego stworzenia na podstawie źródeł paleograficznych własnego alfabetu.

Przeciwnicy wypowiedzianych wyżej poglądów niechybnie zechcą powołać się zaraz na Pragę, jako namacalny niby dowód tego, że nietylko od wpływów zachodnich nikt z nich nie stroni, lecz właśnie wśród nich ujawnia się duży pęd ku Zachodowi. Prawda, że skrajny rusofilizm Czechów i kokieterja (nie szczere sympatje!) ich względem prawosławia mogą dziś wabić do *zlatej Prahi* Białorusinów zachodnich, wyznawców prawosławia i ciążących ku Wschodowi, atoli muszą one również wzbudzać dobrze

uzasadnione obawy w Białorusinach zachodnich, którzy, będąc katolikami i orjentacji zachodniej, nie mogą być zwolennikami skrajnego rusofilizmu i tendencyj do utworzenia kościoła narodowego wśród Czechów. Praga dzisiejsza nie jest Pragą Skoryny. Bardziej świadomi a przezorni przedstawiciele Białorusi Zachodniej z pewnym więc niepokojem oczekują tego, co przywiezie z Pragi do kraju nasza młodzież katolicka, wrażliwa jak każda młodzież, a zmuszona przebyć nad Wełtawą szereg lat wśród wrogo dla Kościoła usposobionej czeskiej młodzieży akademickiej, wciąganej do grubej roboty sekciarskiej, bądź przez episkopa serbskiego Dositeja, bądź przez biskupa cerkwi narodowej Farskyego. Z jak niesłychaną lekkomyślnością wśród polityków i działaczy białoruskich w Wilnie traktowano prawie zawsze zagadnienia religijne Białorusi Zachodniej (na jej terenie przecie Wilno leży!) świadczy wśród innych fakt, że w r. 1918 katolik p. Wacław Łastowski wydał tu *Pieršyje malitwy i paznańnie chryścijanskaj prawasłaunaj wiery* (w dodatku drukiem łacińskim!!), a drugi katolik p. Janka Stankiewicz — *Abjaśnieńnie symwoła wiery, malitwau i zapawiedziau* (grażdanką)! Czasu okupacji niemieckiej, politycy białoruscy w Wilnie o mało co nie dali się wciągnąć na pomocników prawosławnych w ponownem zdobywaniu cerkwi, przerobionych z kościołów katolickich (Wizytki!). Stąd można wywnioskować, jak są na miejscu zastrzeżenia, które mieć może i powinna Białoruś Zachodnia co do ogólnego kierunku polityki białoruskiej, chronicznie u nas chorej na *moskowski nachił* i ciągle kokietującej prawosławje.

To, co dotychczas zostało zrobione w imię odrębnych potrzeb Białorusi Zachodniej, jest nie tylko małe, lecz też częstokroć słabe. Weźmy *Biełarusa*, *Krynicę*, kalendarze białoruskie..., nie mówiąc już o wydawanym z hojności niemieckiej *Homanie* i ultra-ugodowej *Jednaści* p. *Aleksiuka*. Zarzut niedoceniania doniosłości problemu Białorusi Zachodniej uczyniony być może nawet paru młodszym księżom Białorusinom, tym naturalnym strażnikom jej praw, bo i ich nieraz krewkość młodzieńcza ponosiła zbyt daleko, zasłaniając przed nimi będące w perspektywie niebezpieczeństwa.

Odnośnie do pięciu uwypuklonych wyżej różnic, postulaty Białorusi Zachodniej dają się ująć w tyluż punktach:

1. Rdzennie katolicki charakter Białorusi Zachodniej powinien zostać nietknięty, owszem świadomość katolicka ma być tu pogłębiona przez oświatę katolicką, wolną jednak od wszelkiego cienia fanatyzmu.

2. Zaniechane być winny wszelkie, chociażby najmniejsze próby, przeszczepienia na Białoruś Zachodnią orjentacji na prawosławno-rosyjski Wschód.

3. Pełne, a wyłączne panowanie na Białorusi Zachodniej przysługiwać ma oczywiście alfabetowi łacińskiemu, przyczem bardzo pożądaną jest znajomość grażdanki.

4. Niezbędną jest rzeczą dla rozwoju Białorusi Zachodniej utrzymanie ciągłości kulturalnej, nawiązanej w zaraniu jej dziejów z łacińskim Zachodem.

5. Leksykon Białorusi Zachodniej uzupełniany być winien doborem trafnych słów z poszczególnych odmian mowy jej ludu, a adaptacja wyrazów, kursujących w Białorusi Wschodniej, dopuszczalną jest chyba w wypadkach wyjątkowych.

Nic łatwiejszego, jak tą drogą ściągnąć na siebie i swoich zarzut odseparowywania się i rozbijania jedności. Nie trzeba jednak go lękać się, lecz i nieugięcie stać przy tem, czego od nas wymaga dobro Kościoła i ściślejszej naszej Ojczyzny — Białorusi Zachodniej. Nie zapominajmy, że jesteśmy odpowiedzialni za jej losy!

Zróżnicowanie wyjdzie ostatecznie na pożytek całej Białorusi, bo zmusza ono obie jej części, Zachodnią i Wschodnią, do maximum wysiłków, przytem wcale nie wyklucza możliwości syntezy w przyszłości.

Jednak w chwili obecnej na tę syntezę stanowczo zawcześnie!

*1923*

## WSCHÓD CZY ZACHÓD?

Niedawno pod zagłówkiem powyższym na szpaltach tygodnika «*Naszaje żyćcio*» jeden z wybitniejszych publicystów białoruskich w Wilnie, piszący dziś pod pseudonimem *Łaurynowicz,* zamieścił bardzo ciekawy artykuł, który powinien zwrócić na siebie uwagę dla ważności i aktualności poruszonego tam tematu. Krótkiem jest jego ujęcie w formie alternatywy: Wschód czy Zachód? Ale doniosłość jej dla naszego kraju wprost olbrzymia. Sam jednak autor artykułu omawianego najwidoczniej tego nie odczuwa, skoro na dwóch szpaltach, bardzo prosto a kategorycznie, rozstrzyga tak zawiłą kwestję: Wschód czy Zachód? — Na korzyść Wschodu.

Z nadmiernego atoli lakonizmu p. Łaurynowicza nie będziemy mu robili w danym wypadku zarzutu, przechodząc odrazu do oceny argumentów, właściwie jednego (bo tylko jeden tam się znalazł!).

Ponieważ Mińsk Białoruski wydał świeżo na koszt państwowy kilkanaście książek białoruskich, zawierających zbiorki pieśni, opowiadań, bajek plus jakąś powieść i parę podręczników, i stworzył podobno znaczną ilość szkół białoruskich, należy przy decyzji: *Wschód czy Zachód?* stanowczo się przychylić na stronę pierwszego. Jakżeż inaczej, jeśli obecny rząd polski, białoruskiego ruchu wydawniczego i szkolnego nie popiera?!... — Wschód! Tylko Wschód!

Polityka polska w stosunku do Białorusi jest istotnie od początku do dziś nieszczera, niemądra, krótkozwroczna, dla obu stron szkodliwa, a więc palcem nawet nikt nie poruszy dla jej obrony. Z drugiej strony Polska chociaż uważa siebie za reprezentantkę Zachodu, jest tylko jego cząstką. Mówiąc tedy o Zachodzie, należy myślą dalej wybiegać niż sięgają granice Polski, to jest zwracać oczy ku starym demokracjom romańskim, bogatej w

doświadczenie dziejowe rasie anglo-saskiej i niedościgłemu do niedawna w pracowitości i ładzie narodowi niemieckiemu. Wschód dotychczas nie wytrzymuje nawet najlżejszej krytyki w porównaniu z tym Zachodem!

Chcąc zniewolić do zmiany orjentacji zachodniej na wschodnią, należałoby więc poddać gruntownej rewizji całość dorobku cywilizacji zachodniej i wykazać, że właśnie Wschód więcej posiada pierwiastków twórczych i organizacyjnych oraz zdolności do ich realizowania w życiu niż Zachód. Gdy Zachód w tym kierunku dużo już dokonał, Wschód, mimo niewątpliwej oryginalności niektórych głoszonych przez się doktryn, dokonał albo bardzo mało, albo co gorsza zaznaczył się dotychczas *pracą niszczenia*, bądź w kierunku podważania pozytywnej ideologji (*nihilizm*), bądź w destrukcji społeczno-ekonomicznej (*bolszewizm*).

Zagadnienia tej doniosłości, co powyższe, nie można rozstrzygać jedynie na podstawie większej tylko ilości publikacyj białoruskich lub gęstszej sieci szkół na terenie Białorusi Wschodniej! Chociażby to były istne perły twórczości literackiej, rzeczy pierwszorzędnej wagi dla folkloru, doskonałe podręczniki i świetne szkoły, nie mogą one zaważyć decydująco na szalach, na których się określa waga gatunkowa ideologji. Tymczasem nie wiemy nawet, jaką jest wartość tego dorobku literackiego, co dają owe szkoły...

Można się cieszyć, że białoruska twórczość literacka na Białorusi Sowieckiej, mimo przeszkód, przekłada sobie drogę naprzód, a tameczna dziatwa ma możność uczęszczania do szkół narodowych, ale byłoby lekkomyślnością nie do darowania na tej podstawie nawoływać całą Białoruś do odwrócenia się od Zachodu, którego przecie nie można utożsamiać tylko z Polską lub Litwą. Tymczasem Wschód a Moskwa są i chyba zawsze będą synonimami, a orjentacja wschodnia — *maskowskoju dorohoju*.

Najzupełniej wystarczy, jeśli ten chwilowo pomyślny stan akcji wydawniczej i oświatowej w Białorusi Wschodniej przyjmiemy do wiadomości, nie wpadając w przesadę i nie wysuwając z przemijających konjunktur politycznych tak radykalnych wniosków, decydujących o podstawach i zasadniczym kierunku linji rozwojowej narodowego ruchu białoruskiego.

*1924*

**Янка СТАНКЕВІЧ**
(1891—1976)

Мовазнавец, гісторык, перакладчык, публіцыст, культурны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Арляняты Ашмянскага павета. Скончыў Ашмянскае гарадское вучылішча (1909). Адзін з арганізатараў беларускіх школ у Ашмянскім і Вілейскім паветах. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай духоўнай семінарыі. З 1914 г. працаваў у газеце «Наша ніва». З пачаткам Першай сусветнай вайны служыў у войску. Пасля вяртання ў Вільню прымаў актыўны ўдзел у беларускім культурна-асветным і грамадскім жыцці. На правах сябра ўваходзіў у Беларускую віленскую раду. Адзін з арганізатараў і стваральнікаў Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. У 1918 г. пэўны час знаходзіўся ў Мінску, удзельнічаў у пасяджэннях Рады БНР. Скончыў Віленскую беларускую гімназію (1921). Пазней вучыўся ў Карлавым універсітэце ў Празе, дзе паспяхова абараніў доктарскую дысертацыю і атрымаў навуковую ступень доктара славянскага мовазнаўства і гісторыі. З 1926 г. жыў у Вільні. Займаўся выкладчыцкай і навуковай дзейнасцю. Быў арыштаваны польскімі ўладамі (1939). У гады нямецкай акупацыі некаторы час жыў у Мінску, пазней — у Вільні, Варшаве і Празе. З 1944 г. — у эміграцыі. Спачатку знаходзіўся ў Нямеччыне, дзе ўваходзіў на правах сябра ў беларускія культурныя і грамадскія арганізацыі Рэгенсбурга і Мюнхена. Пазней пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Йорку. У эміграцыі займаўся навуковай і культурна-асветніцкай дзейнасцю. Супрацоўнічаў з беларускімі эмігранцкімі навуковымі і перыядычнымі выданнямі (часопісы «Запісы» і «Сяўбіт», газета «Бацькаўшчына»). Аўтар шматлікіх слоўнікаў беларускай мовы і падручнікаў. У сааўтарстве пераклаў на беларускую мову Біблію (1937; 1970).

## ДУМКІ І РАЗВАЖАНЬНІ

### Дзьве праўды

У паасобных людзей і цэлых грамадзкіх груп рожных народаў існуюць два праціўныя й няпрыязныя сабе перакананьні. Адны кажуць, што ў адносінах да чужое, нат варожае нацыі трэба кіравацца таею ж этыкаю, якая вымагаецца ў адносінах паміж людзьмі аднаей тэй жа нацыі. Другія даводзяць, што ў адносінах да няпрыязнае, непрыяцельскае сабе нацыі этыка ня можа забавязываць, што тут усялякія спосабы барацьбы добры.

У каго ж праўда і якімі спосабамі павінны мы карыстацца ў сваёй нацыянальнай працы й барацьбе за адраджэньне і вызваленьне свайго народу з-пад чужацкага ярма. Адказ на гэтае пытаньне знойдзем найлягчэй, калі заглянем у сваю душу. Што ж пасьля векавога сну й рабскага служэньня чужнікам зразіла першага сьвядомага Беларуса? Пасьля страшнага нацыянальнага ўпадку Беларусы страцілі нацыянальную ідэйнасьць (якая цяпер проста ў нас завецца сьвядомасьцю), жаданьне агульнага для ўсяго беларускага народу дабра. Страціўшы нацыянальную ідэйнасьць і маючы агульную, хоць вельмі ня ясную, расплыўчатую, часта толькі інстынктыўную, сьвядомасьць свае нацыянальнае асобнасьці, Беларусом не аставалася нічога іншага жадаць, як толькі свае асабістае карысьці. А дзеля таго, што кожны, думаючы толькі аб сабе, быў адзінокім і слабым, то дзеля гэтае асабістае карысьці мусілі пайсьці на службу да розных «паноў», гаспадароў палажэньня, прадаючы ім сваю энэргію, розум, чэсьць, сумленьне — ўсё. Не пярэчыць гэтаму тое, што гэткія прадажныя рабы адны «любілі» больш аднаго, а другія другога пана, бо й найгоршыя рабы розна адносяцца да розных паноў. А што служба Маскалём і Паляком запраўды ў нас была гэткім рабскім прадажніцтвам, больш ці менш прыкрываным рознымі «поглядамі», «пераконаньнямі», «узгадаваньнямі» й г.д., можа сьведчыць як найлепш той, здавалася б, надзвычайна дзіўны факт, што тыя, якія яшчэ некалькі год назад з пенаю баранілі расійскія патрэбы, цяпер пад польскай акупацыяй ахвотна пераходзяць да гэткае ж абароны польскіх нацыянальных інтарэсаў у Беларусі. Ці ж не найлепшай ілюстрацыяй зьяўляецца гэткі факт: залетась на адным грамадзкім сходзе ў Навагрудзкім павеце адзін зоолёгічны Беларус, абруселы інтэлігент, заявіў: «Мы, Беларусы, былі пад маскоўскаю ўладаю добрымі Маскалямі, цяпер можам быць добрымі Палякамі, калі палякі будуць да нас добра адносіцца (калі будуць іх рабіць польскімі ўраднікамі, афіцэрамі, паліцэйскімі й г.п.). Нам ўсё роўна».

Па меры таго, як у Беларусаў, загразшых у гэткае маральнае балота, праяўлялася пачуцьцё сумленьня, чэсьці, этыкі, пачуцьцё сваей людзкай годнасьці, яны рабіліся сьвядомымі (і д э й н ы м і) Беларусамі. У першым нашым нацыянальным гымне «А хто там ідзе» на пытаньне «А чаго ж, чаго захацелася ім (Беларусам)», — адказуецца «Людзьмі звацца». У другім, пазьнейшым нашым гымне, выказуецца вера наагул у людзей і адначасна вера ў сваіх беларускіх людзей: «Не пагаснуць зоркі ў небе, пакуль неба будзе, не загіне край наш родны, пакуль ж ы в у ц ь  л ю д з і. Б е л а р у с к а ю рукою, с ь в е т л а й  п р а ў д ы сіла, долю лепшую напіша Беларусі мілай. Зацьвіце наш край, як сонца, паміж ўсіх народаў». Заўсёды чэснасьць, сумленнасьць, этычнасьць, ідэалізм, павіннасьць працы дзеля свайго народу радзілі сьвядомых Беларусоў, наадварот, эгоізм і матэрыялізм удзержвалі несьвядомых паміж чужымі. Беларус, захоплены нат ідэяй, якой чужы нацыянальны дух, раней ці

пазьней прыходзіў да нацыянальнае сьвядомасьці, а матэрыялісты або этычна несьвядомы Беларус з часам астыгае або здраджае справу і пераходзіць да чужнікоў. Толькі этычнасьць, ідэалізм, пачуцьцё грамадзкае павіннасьці й жаданьне агульнага дабра могуць вытварыць і ўдзяржаць сьвядомасьць і салідарнасьць такога вялікага грамадзкага арганізму, якім ё Народ. Але гэтых варункаў не дастанем бяз веры ў людзей і пачуцьця насамперш сваёй людзкай годнасьці, што зьвязана з аднолькава этычнымі людзкімі адносінамі, як паміж людзьмі розных і нат непрыяцельскіх паміж сабою нацый. Гэта адна праўда, якой мы ніколі не павінны забывацца.

Але ё яшчэ другая праўда, ня менш важная за першую як для кождага паасобнага чалавека, так і для Вялікага Чалавека — Народу. Праўда гэтая, як закон прыроды, прынята ўсімі рэлігіямі сьвету і ўсімі цывільнымі правамі і выражаецца гэтак: калі на цябе хто нападае, хочучы забіць, ты, каб абараніцца ад сьмерці, маеш права (няма грэху й ня будзеш караны) яго забіць. Прырода, даўшы чалавеку інстынкт самазахаваньня, нат цьвярдзей кажа: твая павіннасьць ёсьць бараніцца ўсімі дадзенымі табе мною (даступнымі табе) спосабамі ад сьмерці і, калі інакш нельга, ты мусіш, павінен забіць нападаючага. Няма сумлеву, што той народ, які ўсімі даступнымі яму спосабамі ўціскае рукі народу, каб ня даць яму магчымасьці разьвівацца й жыць, той народ, які, пачынаючы ад акупацыі і далей, пры помачы школы, адміністрацыі, яўнае й патайнае паліцыі, жандармэрыі, усякіх гатункаў вялізарнага, прыведзенага ў край войска й сыстэматычнага грабаваньня патрэбных для існаваньня народу прадуктаў і г.п. і канчаючы сумысным давядзеньнем да сьмерці масаў варочаючыхся уцякачоў, колёнізацыяй, мусіць быць разгляданы як нападаючы з мэтаю забіць. Калі пануючы народ у асобе сваёй ўлады не прызнае нат быцьця ўцісканага ім другога народу або не дае яму нацыянальнае школы (расійцы й палякі ў адносінах да Беларусоў), такі народ ё нападаючым з мэтаю забіць. Або ці ж можа быць ярчэйшы прыклад нападаючага народу з мэтаю забіць, як заява прадстаўніка пануючага народу, што дзякуючы ўціску за якісь час уцісканы народ будзе зьнічтожаны (польскі міністр Скульскі заявіў: «За 50 г. ня будзе ніводнага Беларуса»). Бяда нападзенаму, які пры гэткай небясьпечнасьці выбіраў бы, калі, дзе й пачым выцяць нападаючага разбойніка, гора яму, бо ён быў бы забітым. Нападзены ў такім прыпадку мусіць сабраць усе свае сілы, усе свае думкі, усю ўвагу зьвярнуць на абарону, а выбіраць спосабы тут няма калі, усе спосабы добры, якімі можна бараніцца, і кожды спосаб тым лепшы, чым лепш і можна бараніцца. Бараніцца ўсімі магчымымі спосабамі ад сьмерці — гэта ё другая праўда, якая зьяўляецца аднačасна й абавязкам кождага чалавека й кождага Народу. Дзьве гэтыя праўды не пярэчаць адна аднэй, наадварот, другая выплывае з першае, бо людзкая годнасьць ня толькі дазваляе, але й вымагае, каб загрожаны сьмерцю бараніўся ўсімі даступнымі яму спосаба-

дзе, воля да жыцьця ў людзкім супольстве. Прыпадкі самагубства — змушаныя супольныя зьявы, але ніколі не самаахвотныя. Ня іначай і ў прыпадках асыміляцыі народаў. Толькі ў выніку жорсткага прымусу, гнёту і паняволеньня народы падлягаюць свае сьмерці — асымілююцца.

Кажуць: асыміляцыя народаў можа адбывацца ў выніку нападабленьня. Слабейшыя, маўляў, нападабляюць сільнейшых; меньш культурныя народы нападабляюць больш культурныя народы і ў гэткі спосаб, самаахвотна ўспрымаючы чужую культуру, паступенна асымілююцца.

Трэ мець на ўвазе, што нападабленьне можа быць самаахвотна-вольнае і прымусовае; у большасьці прыпадкаў нападабленьне бывае прымусовае.

Псыхічны тэрор, які ўжываецца дзяржаўна-пануючымі народамі ў адношаньні да недзяржаўных народаў, выклікае аднабокае нападабленьне як вынік аднабокага прыстасаваньня слабейшых недзяржаўных народаў да сільнейшых ад іх гнабіцеляў; пэўна ж, не без належнага адпору, але ўрэшце падлягаюць насільству. Гэта ёсьць прымусовае нападабленьне. Адбываецца прымусова-аднабокая асыміляцыя. У іншым прыпадку, у прыпадку вольнага нападабленьня як самаахвотнага прыстасаваньня, самаахвотна-вольнага ўспрыняцьця і ператварэньня найбольш дасканальных асаблівасьцяў і формаў культурнага жыцьця адных народаў ад іншых пры адсутнасьці ўсялякага прымусу — гэта ўжо будзе ўзаемнае нападабленьне як вынік узаемнага прыстасаваньня. Адбываецца ўзаемная асыміляцыя зьверху ўніз і зьнізу ўверх, у выніку чаго ствараецца новае супольства з новай формаю культуры.

Узаемная асыміляцыя народаў як вынік вольнага ўзаемнага прыстасаваньня і ўзаемнага нападабленьня можа адбывацца толькі ў абставінах поўнае волі, роўнасьці і маральнае раўнапраўнасьці народаў. Гэта ёсьць шлях узніку новага чалавецтва як арганізаванае суцэльнасьці вольных і дзяржаўна-самастойных народаў.

Чалавецтва як арганізаваная суцэльнасьць вольных людзей і народаў вымагае дзеля гэтага зьнішчаньня існуючага ладу зьдзірства і прымусу, вымагае зьнішчаньня існуючай няроўнасьці паміж людзьмі і народамі.

Гуманізм, такім чынам, ня ёсьць рамантычнае лятуценьне, гэта ёсьць лёгіка фактаў жывой рэчаістасьці.

Напружанае змаганьне прыгнечаных і паняволяных народаў за сваё вызваленьне, змаганьне, так характэрнае для апошняга стагодзьдзя, знайшло свае маральнае апраўданьне ва ўсеагульным прызнаньні права на вольнае самаазначаньне. Уцелаішчаньне гэтага права азначае стварэньне самастойнае дзяржавы. Гэткі ёсьць сэнс прызнаньня права народаў на вольнае самаазначаньне. У гэткі спосаб прынцыпова-тэорэтычна вырашаецца адно з найскладнейшых пытаньняў сучаснае эпохі: кожны народ мае быць вольны і дзяржаўна-самастойны!

Аднак тэорэтычнае вырашэньне пытаньня ёсьць толькі ўступ да яго практычнага вырашэньня. У жывой рэчаістасьці існуе шэраг абцяжнасьцяў, якія перашкаджаюць зьдзейсьняньню права народаў на вольнае самазначаньне. Да ліку гэтых абцяжнасьцяў належыць вялікадзяр-

жаўніцтва пануючых народаў. Гэта ёсьць найвялікшая перашкода на шляху разьвіцьця новага чалавецтва. Каб ухіліць гэну перашкоду, патрэбна змаганьне, патрэбна вострае і напружанае змаганьне з усімі перажыткамі вялікадзяржаўніцкага гвалту і прымусу.

Толькі той народ ёсьць годны волі, які ў змаганьні яе здабывае.

Сяньня ўся людзкасьць знаходзіцца ў працэсе вялікага перараджэньня. Адбываецца руйнацыя старых і будаўніцтва новых падвалін і формаў суспольнага жыцьця. Адраджаюцца і вызваляюцца ў цягу стагодзьдзяў прыгнечаныя і паняволяныя народы, на руінах свайго нявольніцтва ствараюць лад новага жыцьця. Арганізуюцца. Зьдзейсьняюць сваю нацыянальную самаарганізацыю. Адбываецца вялікае будаўніцтва новага чалавецтва: устанаўліваюцца новыя формы ўзаемаадносін паміж людзьмі і паміж народамі. Паміж людзьмі кожны чалавек перастае ўжо быць пасыўным аб'ектам чужой волі, становіцца актыўным і сябеведамым суб'ектам у сыстэме міжлюдзкіх узаемаадносін. Паміж народамі кожны народ наяўна ўжо выяўляе і ў рэчаістасьці зьдзейсьняе свае неадоймнае права на вольнае самазначаньне, будуе сваю самастойную дзяржаву як няўхільную форму свае нацыянальнае самаарганізацыі; вольныя і дзяржаўна-самастойныя народы ўваходзяць між сябе ў стыкі і ўзаемаадносіны як раўнапраўныя адзінкі.

Гляньма цяпер з сацыялёгічнага становішча на тыя падзеі, якія адбываюцца сяньня на Беларусі.

Беларускі народ, абернуты рускімі і польскімі гнабіцялямі ў аб'ект калёніяльнага нявольніцтва, у няпоўнае суспольства, паўстае да новага жыцьця: стварае свае культурныя, гаспадарчыя і палітычныя арганізацыі, якія ў сваей аснове зьяўляюцца эмбрыёнамі будучай усенароднай арганізацыі. Сяньня ўжо істнуе шэраг беларускіх гурткоў, групаў, грамад, розных супалак, аб'яднаньняў, таварыстваў, партый. І кожны беларускі гурток, кожная супалка, кожнае аб'яднаньне, культурнае ці гаспадарчае таварыства, палітычная партыя, паскольку яны ставяць сабе заданьнем уласнымі сіламі задаваляць усе духоўныя і матэр'яльныя патрэбнасьці беларускага народу — усё гэта ёсьць першапачатковыя формы тэй усенароднай арганізацыі — самастойнай народнай дзяржавы, якая плябейскія народы ператварае ў поўныя суспольствы, якая з прыгнечаных і паняволеных народаў творыць вольныя нацыі.

Дык вось на што патрэбна беларускаму народу свая народная дзяржава! Дык вось што азначае быць вольным і дзяржаўна-самастойным народам!

Беларускі народ патрабуе мець сваю дзяржаву як неабходную форму свае нацыянальнае самаарганізацыі. Патрабуе мець сваю вольную і незалежную дзяржаву як неабходную прыладу, каб, скінуўшы ярмо нявольніцтва, падняцца на вышэйшую ступень гістарычнага жыцьця: увайсьці як раўнапраўнаму сябру ў сыстэму міжнародных узаемаадносін і актыўны прыняць удзел у вялікім будаўніцтве новага чалавецтва!

Беларускі народ, імкнучыся да свае волі і дзяржаўнае самастойнасьці, змушаны абараняцца на два фронты: проці польскага і проці расійскага вялікадзяржаўніцтва. Гэта ёсьць вельмі цяжкое змаганьне. Ворагі ў шмат разоў сільнейшыя. Тым больш калі яны знаходзяць між сябе ўзаемнае разуменьне і паразуменьне. Мы бачымо, напрыклад, як сяньня паразумеваюцца між сябе польскія і расійскія вялікадзяржаўнікі, як спрытна знаходзяць супольныя інтарэсы, — абы толькі ўтрымаць істнуючае становішча іх гвалтоўнага панаваньня.

Ня можамо заплюшчываць вочы і на іншую бачынку справы: як польскія, так і рускія вялікадзяржаўнікі знаходзяць сабе прыхільнікаў у асяродзьдзі беларускага народу, пераважна сярод інтэлігенцыі. Сумная зьява, але гэта ёсьць факт, з якім нельга ня лічыцца. Мы бачымо, напрыклад, як у Заходняй Беларусі, таксама і ў БССР, знаходзяцца паасобныя адзінкі і групы, во нават і выдатныя калісьці беларускія дзеячы, якія так ужо зсабачыліся, што ня толькі паразумеваюцца, але і дазумеваюцца з гнабіцелямі. Гэта ёсьць так званае беларуска-польскае і беларуска-расійскае ўгодніцтва — угодніцтва на крыві і сьлёзах беларускага народу!

Пэўна ж, людзкія адзінкі, як і цэлыя групы, тым больш адарваныя ад рэальнага жыцьця інтэлігенцкія групы, могуць інагды памыляцца. Ды хто не памыляецца. Але сутнасьць трагедыі ў тым і палягае, што памылкі цягнуць за сабой адплату. Такі ўжо няўпросны закон людзкое долі.

Угодніцтва з народнымі гнабіцелямі ёсьць найвялікшая памылка, якую можа дапусьціць людзкая ўява. Гэта ўжо нават не памылка, а здрада. Памылкі робяцца з лёгкадумства і несьвядомасьці, з неправідловага разрахунку. А здрада — гэта ўжо наўмысная і ўсьвядомленая дзейнасьць, каб пашкодзіць справе.

Як бы там ня было, але ўгодніцтва з гнабіцелямі беларускага народу ёсьць праступленьне. Няхай памылка ці здрада — гэта ўсё роўна: калі прыносіць шкоду вызвальнай справе, то мае быць карана!

Калі адзінкі і паасобныя групы народа могуць рабіць і нават робяць непапраўдныя памылкі, у выніку чаго самі засуджваюць сябе на нямінучую загубу, то нельга сказаць гэта аб усім народзе. Народ хаця ж і можа інады памыляцца ў тым ці іншым канкрэтным выпадку бягучых падзеяў, але ніколі не памыляецца ў аснаўным і галоўным, што зьяўляецца падвалінай яго існаваньня. Сваім інстынктам ён адчувае небясьпеку, усьвядамляе пагрозу і ў адпаведны спосаб рэагуе. Інстынкт жыцьця, выпрабаваны ў цягу стагодзьдзяў, ніколі ня прывядзе да загубы. У гістарычнай перспектыве гэта ёсьць воля да жыцьця — крыніца мудрасьці народнай.

У паасобных адзінак і групаў, адарваных псыхічна ад гушчы народнай, часта здараецца, што аслабевае воля да жыцьця. Гэта наяўна выяўляецца ў паступоўваньні розных «угадоўцаў», якія патрабуюць сабе апекуна і няяк ня могуць абыйсьціся бяз пана. Ім патрэбны чужы ўплыў,

патрэбны чужы загад, каб маглі выканаць пэўную дзейнасьць. Гэта ёсьць нявольніцкая псыхалёгія тых, што шукаюць угодніцтва з панамі.

Зусім штось іншае бачымо ў народным асяродзьдзі. У народнай гушчы, у самадзейным каляктыве народных грамад ніколі не аслабевае воля да жыцьця. Наяўна аб гэтым сьведчыць, напрыклад, уся гістарычная мінуўшчына беларускага народу. Успомнім беларускую шляхту, магнатаў, духавенства, якія ў цягу стагодзьдзяў трымалі ў сваіх руках долю народа. Колькі было зроблена розных памылак, ганебнае здрады, аж прыкра нават і ўспамінаць усю нікчэмнасьць уладарна-кіруючых станаў беларускага народу. У сваім маральным шахрайстве яны аж так далёка зайшлі, што псыхічна адарваліся ад гушчы народнай, апынуліся ў нацыянальна-варожым стане, асыміляваліся, страцілі сваю беларускую нацыянальную асабістасьць. Аналёгічны працэс адбываецца сяньня і ў дзеякіх напластаваньнях беларускае інтэлігенцыі. Але народ жыве, беларускі народ культурна адраджаецца, адважна стварае сваю самастойную культуру, гаспадарку, палітыку, нават будуе сваю самастойную беларускую дзяржаву ад Ловаці аж да Мухаўца!

Якая дзіўная містэрыя ў век жалеза і бетону. На ўсім абшары беларускае зямлі лунае покліч: Няхай жыве вольная і незалежная Беларусь!

Жывем нібы ў казцы. Мімаволі ўспамінаюцца легендарныя героі беларускага народнага эпосу: векапомныя Волат, Асілак, якія за народную праўду адважна бралі ў руку меч і нішчылі пачварнага Базылішка, перамагалі злога смока.

Дзе сяньня беларускія народныя героі? Дзе нашы Волаты, Асілкі?

Адказ на гэта пытаньне хай дае само жыцьцё. Адно толькі можна заўважыць: перажываемо эпоху, калі зьяўляюцца народныя героі, імя ім сяньня — безназоўныя. Яны ёсьць там, дзе ў глыбядзі нетраў народных грамад, пад вонкавай скарлупой зданлівага супакою магутнай крыгаю бурліць жыцьцё. І з пэўнасьцю можна сказаць: усё, што ўзнырае на паверхню беларускага грамадзкага жыцьця, гэта ёсьць толькі слабенькі цень таго, што адбываецца ўзапраўднасьці.

Над шэрай цьмянасьцю стагодзьдзяў узыходзе золак новых дзён.

Імкненьне беларускага народу да пабудаваньня вольнае і незалежнае беларускае дзяржавы як жыцьцёвай формы нацыянальнае самарганізацыі — ёсьць няўхільная зьява, наяўна вынікае з паўнаты волі да жыцьця беларускага народу. Адбываецца ў згодзе з усеагульнай заканамернасьцю разьвіцьця ўсяго чалавецтва. Гэта ёсьць паступовая зьява: у сваім няўхільным поступе руйнуе струхнелыя традыцыі і штучна пабудаваныя канструкцыі ўяваў польскага і расійскага вялікадзяржаўніцтва на Беларусі. У гэтым палягае сутнасьць і вялікае гістарычнае значаньне абароннага змаганьня на два фронты, змаганьня проці Масквы і проці Варшавы, якія, нібы той прагавіты скнара, ніяк ня могуць адважыцца

зірнуць праўдзе ў вочы і адкрыта прызнацца, што настала ўжо пара апошняга разрахунку, прыдумляюць розныя каверзы, чапляюцца за найменьшыя драбніцы, абы толькі прыціснуць, абы неяк прадоўжыць сваё панаваньне. Але дарэмна іх намаганьне. Паскольку ў іх няма дагоды з вольным і нязалежным беларускім народам, то з пэўнасьцю можна прадбачыць, што ў перспектыве недалёкай будучыні іх чакае поўнае гістарычнае банкроцтва. І чым хутчэй гэта настане, тым ляпей: менш будзе паложана ахвяр на аўтар узаемнай варажнечы.

Ці мо польскія і расійскія вялікадзяржаўнікі спадзяюцца, што ім удасца неяк ашукаць гісторыю: спыніць надыходзячы ўзэйм беларускай народнай рэвалюцыі? Мо яны спадзяюцца дасягнуць гэтага ў спосаб падпісаньня гваранцыйнае дагоды аб іх узаемным ненападзеньні, калі ўздыміцца якая-небудзь завіруха? Во, бязумоўна, польска-расійскія вялікадзяржаўнікі імкнуцца гваранатаваць сябе на ўсякі прыпадак. Няхай, гэта іх справа; няхай падпісываюць між сябе хоць тысячу розных дагодаў. Але дарэмна хай ня спадзеюцца, што ў гэткі спосаб яны змогуць вырашыць беларускае пытаньне. Жорстка яны памыляюцца, калі яшчэ прадаўжаюць разглядаць беларускую справу ў плашчыне польска-расійскіх узаемаадносін. Жывем у такі час, калі справа дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі выходзе ўжо на міжнародны форум і на гэтай плашчыне набывае канкрэтных формаў свайго вырашэньня.

Ітак, надыходзе час вялікіх падзеяў. Кожны беларус, хто б ён ня быў па сваіх паглядах і пераконаньнях, павінен выканаць сваю павіннасьць — адважна стаць у шэрагі змагароў за волю і незалежнасьць Беларусі!

*1934*

## АДВЕЧНЫ ШЛЯХ — ГЭТА ЁСЬЦЬ ШЛЯХ СКАРЫНЫ

Ён быў сьветач, які гарэў і сьвяціў.
*Евангельле ад Яна, 5:35*

Перажываем эпоху, калі ў завірусе розных падзеяў, вялікіх і малых пераваротаў, сацыяльных і нацыянальных рэвалюцый, агульнай зблутанасьці і зьбянтэжанасьці людзі і народы, нібы страціўшы свой шлях падарожны, блукаюць па вузкіх сьцежках і дарожках, усім стала цесна, усе хочаць выйсьці на шырокі шлях праўды і волі.

Дзе ж той праўдзівы шлях?

Па якому шляху мае пайсьці наш беларускі народ, усе мы, беларусы, каб не заблудзіцца, каб не загінуць?

З глыбядзі стагодзьдзяў пазірае на нас Францішак Скарына. Ён таксама вагаўся, таксама сумаваў, мучыўся і цярпеў у сваіх сумнівах, нарэшце перамог, знайшоў той шлях праўдзівы.

Ігнат Канчэўскі, паводле мянушкі Абдзіраловіч, адзін з выдатнейшых прадстаўнікоў нашай народніцкай інтэлігенцыі, уяўляў сабе вобраз Скарыны як вольнага і незалежнага духа: «Над сьцюдзёнымі хвалямі Дзьвіны я быў візантыйцам — Юрам, у Кракаве, куды мяне пацягнула за еўрапейскай ведай, — лацiннікам Францішкам. А ўзапраўды я ня быў ні Юрам, ні Францішкам, быў вольным і незалежным духам, якога вы шукаеце, духам агульначалавечым, толькі ў беларускай вопратцы. Шукайце ж».[1]

Так, Францішак Скарына быў вольны і незалежны дух, агульналюдзкі дух, толькі ў беларускай вопратцы.

«Ваганьне паміж захадам і усходам, — кажа Канчэўскі, — і шчырая няпрыхільнасьць ні да аднаго, ні да другога зьяўляецца асноўнай адзнакай гісторыі беларускага народу. Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў такі, ці каталік, ці праваслаўны, і напэўна, што ён быў і той і другі разам, адбівае гэта зьявішча беларускага духу ў індывідуальнасьці, у душы нашага першага інтэлігента. Гэтую рысу беларускага беларуская народная інтэлігенцыя захавала і да нашай пары»[2].

Нам не залежыць на тым, да якіх метрыкаў быў запісаны Францішак Скарына, — да праваслаўных ці да каталіцкіх. Метрыкаваных каталікоў і праваслаўных сярод беларусаў і цяпер ёсьць многа. Нам ідзе аб тое, кім уважаў сябе Скарына.

Францішак Скарына казаў: мы — хрысьціяне; ён ніколі не казаў: мы — каталікі або мы — праваслаўныя. З усёй яскравасьцю гэта бачымо ў яго векапомных прадмовах да зробленага ім перакладу Бібліі на беларускую мову.

Што знача быць хрысьціянінам?

«Мы, хрысьціяне, — кажа Скарына, — ведаючы ўсе навукі мінуючыя, патрабуемо рэчы вечнае: збаўленьня душы. Чытайма неўстанна Сьвятое Евангельле, а чытаючы, наслядуйма прыклады нашага збаўцы Езуса Хрыстуса, і так з яго дапамогаю ўвойдземо ў жыцьцё вечнае».

Гэтым ёсьць даны адказ на пытаньне, што знача быць хрысьціянінам.

Быць хрысьціянінам — гэта не абавязкова быць каталіком або праваслаўным.

Каталіцтва і праваслаўе ёсьць толькі формы ўшанаваньня Езуса Хрыстуса. Гэта ёсьць абраднасьці рэлігійнага культу, канфесыі. А хрысьціянства — гэта рэлігія, адвечны шлях жыцьця.

Разважаньне аб сьмерці і пазнаньне самога сябе, — кажа Скарына, — гэта ёсьць найвышэйшая мудрасьць.

Каханьне дабра — гэта ёсьць найвышэйшая дасканаласьць.

Форма рэлігійнага культу як найвышэйшая дасканаласьць мае служыць дабру паспалітага люду.

Ці можамо гэта сказаць аб каталіцтве і праваслаўі на Беларусі?

Хіба каталіцтва і праваслаўе на Беларусі зьяўляецца найвышэйшай дасканаласьцю беларускага рэлігійнага культу?

Каталіцтва і праваслаўе на Беларусі як формы рэлігійнага культу ёсьць наносныя і зусім чужыя беларускаму народу.

Беларускі народ мае сваю народна-традыцыйную форму рэлігійнага культу. Наяўна гэта бачымо пры ўсіх народных урачыстасьцях.

Ідэал найвышэйшай дасканаласьці ў сьвядомасьці беларускага народу як ідэал чыстай красы, абсалютнага дабра і справядлівасьці ня ёсьць ідэалам праваслаўнай царквы на Беларусі, ня ёсьць таксама ідэалам і каталіцкага касьцёлу на Беларусі.

У гэтым корань супярэчнасьцяў і няўхільнае змаганьне беларускага народу як з праваслаўем, так і з каталіцтвам на Беларусі.

Беларускі народ заўзята абараняе ад касьцельна-царкоўнага напору сваю ўласную форму рэлігійнага культу, узіраецца на праваслаўную царкву і на каталіцкі касьцёл як на ўрадова-афіцыяльныя ўстановы, дзе трэба хрысьціць, вянчацца, праўляць хаўтуры. З усёй яскравасьцю мы гэта бачымо на вёсцы, дзе селянін, адбыўшы ўсе касьцельныя або царкоўныя павіннасьці, праўляе ў сваёй хаце ўрачыстасьць так, як гэта трэба: зусім па-свойму, па-нашаму, па-беларуску, як за дзядоў і прадзядоў было.

Наш селянін ідзе адвечным шляхам.

На гэты шлях — на шлях адвечнага жыцьця — павінна ўзыйсьці і наша народная інтэлігенцыя. Годзе блудзіць па чужых сьцежках-дарожках!

Францішак Скарына ачысьціў хрысьціянства ад касьцельна-царкоўнага навучаньня, даў свой выклад і тлумачэньне Сьвятога Пісьма. Гэта было ў эпоху, калі ўсе народы Еўропы прабуджаліся да новага жыцьця: ухілялі сярэднявечны касмапалітызм і ўзыходзілі на шлях будаўніцтва свае ўласнае народнае культуры; закладалі свае нацыянальныя веравызнаньні як найбольш дасканальныя формы свайго нацыянальнага рэлігійнага культу.

Ян Гус палажыў пачатак чэскага хрысьціянства, Лютар — нямецкага, Кальвін — швейцарскага, а Францішак Скарына палажыў пачатак беларускага хрысьціянства.

У іншых краёх, як у Польшчы, напрыклад, рымскае каталіцтва стала нацыянальным веравызнаньнем; візантыйскае праваслаўе асымілявалася ў Расіі і стала рускім нацыянальным веравызнаньнем.

Беларускае хрысьціянства, вядомае ў гісторыі пад агульнай назваю — Рэфармацыя, не ўтрымалася так доўга пад націскам чужых і варожых сіл, як чэскае гусіцтва, нямецкае лютаранства, швейцарскі кальвінізм; было зьнявечана ў разьюшанай навале касьцельна-царкоўнай рэакцыі.

Пад жорсткім націскам каталіцка-праваслаўнай рэакцыі зьнявечана была наша мінуўшчына, збэшчана мова, культура: беларускі народ заняпаў.

По ўсім абшары беларускае зямлі гудзеў хаўтурны звон.

Скарына ўжо ня жыў, забыты быў Скарына.

Беларуская інтэлігенцыя, адарваная ад родных карэньняў, пачала хістацца паміж Усходам і Захадам.

Тодар Дастаеўскі, родам зь Віцебшчыны, шукае агульначалавечы ідэал у праваслаўі, а ў рэчаістасьці стварае рускі мэсыянізм, аснову рускага вялікадзяржаўніцтва.

Адам Міцкевіч, родам з Наваградчыны, шукае агульначалавечы ідэал у каталіцтве, а ў рэчаістасьці стварае польскі мэсыянізм, аснову польскага вялікадзяржаўніцтва.

Людвік Сыракомля-Кандратовіч, родам з Меншчыны, сумна-тужліва ўзіраецца на родны край, плача яго ліра, сьпявае песьні-жальбы расчэплянай душы.

Гэтак жыла наша інтэлігенцыя, што выйшла з асяродзьдзя шляхты і мяшчанства, зблудзіла і загінула.

Пачалася пара адраджэньня.

З глыбядзі нетраў народных выходзе новая беларуская інтэлігенцыя.

І што ж мы бачымо?

Ізноў хістаньне прадаўжаецца: адны ідуць шляхам Дастаеўскага і робяць «общерусское дело», другія ідуць шляхам Міцкевіча і будуюць ойчызну, а іншыя ў бязьдзейнасьці сумуюць з расчэплянай душой.

Але ўзыходзіць золак новых дзён.

Адбываецца магутны ўздым беларускай народнай рэвалюцыі.

Сярод інтэлігенцыі назіраецца ўсеагульная зблутанасьць і поўная зьбянтэжанасьць.

У гэты час грыміць прарочы голас: «Хай будзе нашым правадыром і сьветачам Францішак Скарына!»

«Уплывы Захаду і Усходу, — кажа Канчэўскі, — у перакручаных ..., часамі карыкатурных выразах круцілі і гвалцілі душу беларуса, толькі прымушалі яго ўбачыць, што ў чужой скуры заўсёды дрэнна, што трэба вытвараць нешта сваё, роднае, блізкае, архаічнае. Шмат вякоў беларусы вялі змаганьне з чужацкімі варожымі ўплывамі за сваю душу..., прыбліжаюцца часы, што будзе яна вольнай»[3].

Браты беларусы!

Стварайце сваё роднае, блізкае, архаічнае, стварайце сваю ўласную беларускую нацыянальную форму рэлігійнага культу!

Хай нашым сьветачам і правадыром будзе Францішак Скарына!

Адвечны шлях жыцьця — гэта ёсьць шлях Скарыны!

*1935*

---

[1] Ігнат Канчэўскі. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду. Вільня, 1921, с. 6.

[2] Тамсама, с. 7.

[3] Тамсама, с. 11.

**Адам СТАНКЕВІЧ**
(1891— 1949)

Каталіцкі святар, гісторык, публіцыст, літаратуразнаўца, выдавец, асветнік, рэлігійны, культурны і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Арляняты Ашмянскага павета. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю (1914) і каталіцкую тэалагічную акадэмію ў Пецярбургу (1918). Супрацоўнічаў у беларускіх часопісах «Светач» і «Дзянніца». Адзін з ініцыятараў і стваральнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Праводзіў беларусізацыю каталіцкага касцёла. З 1919 г. жыў у Вільні. Выкладаў асновы рэлігіі ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 г. быў абраны паслом у польскі Сейм. Адна з ключавых постацяў у рэлігійным, культурным і палітычным жыцці Заходняй Беларусі. Старшыня Таварыства беларускай школы, кіраўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Прымаў непасрэдны ўдзел у заснаванні друкарні імя Ф.Скарыны ў Вільні. З 1939 г. узначаліў Беларускі цэнтр у Літве. Рэдагаваў і выдаваў газеты «Хрысьціянская думка» і «Krynica». У 1938 г. як «палітычна неблаганадзейны» быў выселены на 5 гадоў у Слонім. У Вільню вярнуўся пасля верасня 1939 г., дзе і знаходзіўся пад час нямецкай акупацыі. Аўтар некалькіх манаграфічных прац і даследаванняў. Сярод іх — «Родная мова ў сьвятынях» (1929), «Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня» (1935), «Беларускі хрысьціянскі рух» (1939). У 1944 г., з прыходам савецкіх войскаў, арыштаваны органамі бяспекі, другі раз — у красавіку 1949 г. Асуджаны савецкімі ўладамі на 25 гадоў пазбаўлення волі. Вывезены ў Сібір. Знаходзіўся ў канцэнтрацыйным лагеры ў Тайшэце (Іркуцкая вобл.). Загінуў.

## ЭТЫЧНЫЯ ПАДСТАВЫ НАЦЫЯНАЛЬНА-КУЛЬТУРНЫХ ПРАВОЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЬЦЯЎ

...Этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасьцяў тасую тут у агульналюдзкім разуменьні, каторыя звычайна выражаюцца ў тым, што быт лепшы ад нябыту, лепшы альтруізм як эгоізм, дабра належа трымацца, а зла стараніцца, лепшы поступ і культура кожнага народу, як яго застой, рэакцыя, нядоля й сьмерць.

Гаворачы агульна, этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасьцяў можна зсынтэзаваць у наступныя пункты.

1. Кожны народ, а знача й нацыянальныя меншасьці, мае прыроднае права аберагаць і разьвіваць свае нацыянальныя рознасьці і асаблівасьці як мову, рэлігію і цэлы нацыянальны свой быт, бо:

а) народы разам з сваім асобным нацыянальным характарам, а такжа з інстынктам сваім да разьвіцьця паўстаюць з самай прыроды, а дзеля гэтага маюць і прыроднае права свайго існаваньня;

б) асаблівыя нацыянальныя адзінкі кожнага народу, прадусім мова, зьяўляюцца прыродным дабром, як спадак мінуўшчыны, пазбаўленьне каторых руйнуе яго прыродную асобнасьць, нішчыць яго нацыянальную індывідуальнасьць, робячы гэтым самым яўную кожнаму народу крыўду.

І дзеля гэтага грамадзяне, што належаць да нацыянальных меншасьцяў, маюць права дамагацца ад дзяржавы, у каторай жывуць, каб яна гэнае дабро аберагала, як і ўсякае іншае дабро сваіх грамадзян агулам. Такім чынам, дзяржава павінна рупіцца, каб вобак мовы дзяржаўнай, даць магчымасьць сваім нацыянальным меншасьцям карыстацца іх прыроднай мовай у школе, судзе, урадзе, у публічным жыцьці агулам.

2. Нацыянальныя меншасьці з самай прыроды маюць роўныя грамадзянскія правы з пануючай нацыяй. Іх лічбовая меншасьць, ці мо культурная ўбогасьць, у нічым прыродным іх правоў не зьмяншае, бо яны, як і нацыя пануючая, зьяўляюцца часткай дзяржавы, спаўняючай усе абавязкі грамадзян. Знача, нацыянальныя меншасьці маюць роўныя правы на прадстаўніцтва парлямэнтарнае, на школу ў сваей роднай мове, на ўрадавыя пасады, на пропорцыянальнае да свайго ліку карыстаньне з дзяржаўнага скарбу для сваіх грамадзкіх і культурна-нацыянальных мэтаў.

3. З самай сваей прыроды імкнуцца да развою і культуры як людзкія адзінкі індывідуальныя, так і грамадзкія суспольнасьці, асабліва ж нацыянальныя. Развой жа належны гэтага прыроднага інстынкту кожнага народу, а так жа яго культурнае творства адбываюцца найлепш у яго роднай мове і агулам на падставах нацыянальна-прыродных, уносячы гэтак у агульналюдзкую культуру новыя вартасьці, новыя здабычы.

4. Этычна злой ёсьць справай усякі надмерны, нічым неаграніčаны эгоізм як людзкой паасобнай адзінкі, так і людзкой адзінкі зборнай: грамадзкай клясы, народу, дзяржавы. Непрызнаваньне ж якім-небудзь пануючым народам культурна-нацыянальных правоў нацыянальных меншасьцяў іменна паходзіць з гэнага неаграніčнага, немаральнага нацыянальнага эгоізму, які імкнецца да таго, каб коштам слабейшых ад сябе нацыянальных меншасьцяў узбагаціць сваю культуру і сваю эканоміку. Ведамай ёсьць рэчай, што пазбаўленыя якой дзяржавай нацыянальныя меншасьці сваіх нацыянальных правоў звычайна пад кожным узглядам крыўдзяцца і эксплёатуюцца.

5. Нацыянальныя меншасьці дзеля зьбераганьня сваіх нацыянальных асаблівасьцяў, тварэньня сваей уласнай нацыянальнай культуры, а такжа дзеля адміністраваньня сваіх грамадзянскіх спраў маюць права на аў-

таномію. Этычная падстава гэтага вынікае з мэты кожнай дзяржавы. Сутнасьць гэтай мэты ня ў тым, каб пануючы ў дзяржаве народ ці агулам дзяржава павялічвала да як найбольшай меры сваю сілу й магутнасьць, але ў тым, каб усім сваім грамадзянам, бяз разьніцы іх нацыянальнасьці і веры, дало дабрабыт і памыснасьць, а гэтым самым уцьвярдзіла і сваю сілу і магутнасьць.

6. Вялікім дабром этычным ёсьць супакой між народамі і дзяржавамі! А супакой гэты сяньня ў Эўропе ня можа быць трывалы, пакуль 40 мільёнаў нацыянальных меншасьцяў, сьведамых сваіх уласных заданьняў і асаблівасьцяў, часта пазбаўленых сваіх элемэнтарных магчымасьцяў культурнага свайго жыцьця, не здабудуць сваіх прыродных нацыянальна-культурных правоў.

7. Права на ўласную мову, рэлігію, культуру і аўтаномію кожнай нацыянальнай меншасьці вынікае ня толькі з этыкі агульналюдзкай прыроднай, але такжа й этыкі хрысьціянскай, каторая ў гэтай праве даскацальна выражаецца ў усталенай формуле: suum cuique, а якая фактычна ёсьць далейшым разьвіцьцём і глыбейшым уняцьцем тыхжа этычных падстаў права прыроднага.

Этычная падстава хрысьціянскай навукі апіраецца на прызваньні, паглыбляньні і ўцьвярджаньні людзкой асабовасьці як першараднага і адзінага асяродка паступу і людзкой культуры. Гэткія адносіны хрысьціянства да людзкой асабовасьці ня нішчуць у ей нічога прыроднага, а знача й яе нацыянальнай асаблівасьці і рознасьці, але гэта ўсё выпрабляюць, паляпшаюць, дасканаляць. Вось жа кожная нацыянальнасьць у сьвятле хрысьціянскай навукі ёсьць матарыялам не для нішчэньня яго, але для тварэньня з яго культуральных вартасьцяў. Дзеля гэтага кожная дзяржава, каторая цікуе на адменны характар сваіх нацыянальных меншасьцяў і замест рабіць ім даступным іх нацыянальны развой, нішча іх і прасьледуе, паступае немаральна.

Апрача гэтай прынцыповай хрысьціянскай этычнай падставы правоў нацыянальных меншасьцяў на іх жыцьцё і культурна-нацыянальны развой, у тэй жа хрысьціянскай навуцы знаходзім у гэтай справе нормы ўжо ня толькі характару прынцыповага, але такжа й практычнага. Вынікае гэта з загаду Хрыста навучаць усе народы (Мат. 28, 29), а такжа з факту Дараў сьв. Духа (Апост. Дзеяньні 2, 4—11), дадзеных Апосталам, каб яны мелі магчымасьць апавядаць Эвангельле ў розных мовах розным народам. Вось жа згодна з гэтым не ў клясычных мовах мелі Апосталы несьці народам хрысьціянскую навуку, але ў мовах родных кожнага народу.

8. Вынікам урэшце й практычным датасаваньнем гэных этычных падстаў прыродных і надпрыродных, а знача — такжа этычнай падставай, хоць ужо паходнай і другараднай, ёсьць права міжнароднае, ахраняючае права нацыянальных меншасьцяў на іх нацыянальную культуру і на аўтаномію ў іх пад гэтым узглядам дзейнасьці...

*1937*

## ХРЫСЬЦІЯНСТВА І БЕЛАРУСКІ НАРОД
*(Фрагмент)*

### Спроба беларускай рэлігійнай, нацыянальнай і культурнай сынтэзы

*Рэлігійная разрозненасьць Беларусаў. Тэорэтычныя магчымасьці Уніі стацца сынтэзай беларускай душы. Права кантрасту ў абадnаньні беларускай народнай душы. Фактычнае брацкае сужыцьцё Беларусаў праваслаўных і каталікоў без націску на афармленьне гэтага. Толеранцыя, супольныя хрысьціянскія вартасьці, апалітычнасьць. Кліч сьв. Аўгустына.*

Тут падыходзім да аканчальных высноваў аб адносінах між хрысьціянствам і беларускай нацыянальнасьцяй. Але ж хрысьціянства цяпер у Беларускім народзе не адзінае, а падзеленае на: праваслаўе і на лацінскае і ўсходняе (уніяцкае) каталіцтва. Вось жа над кожным з іх затрымаемся і пашукаем такіх адносінаў народу да гэтых хрысьціянскіх, так сабе блізкіх, вызнаньняў, каб гэныя адносіны тварылі беларускую нацыянальную і рэлігійную сынтэзу.

Пачнём ад уніі, якая ў сваей прынцыповай ідэі іменна і носіць гэну сынтэзу.

У рэлігійным жыцьці беларускага народу спатыкаем сапраўды дзіўнае і сумнае зьявішча: адзін і той самы народ верыць у аднаго і таго самага Хрыста Спаса свайго і ў яго навуку, але верыць і славіць яго неаднолькава, розным спосабам. Адзін і той самы народ беларускі ў жыцьці сваім рэлігійным раздвоены на праваслаўных і каталікоў, якія інакш завуць свае сьвятыні: адны кажуць царква, а другія — касьцёл, якія службу Божую маюць у розных мовах: адны ў стараславянскай, а другія ў лацінскай, якія слова Божага і звычайнай гутаркі іх духавенства слухаюць такжа ў розных і да таго ў чужых мовах: адны ў расейскай, а другія ў польскай, якія ўрэшце падзелены такжа часткова й верай: для адных, не вылічаючы ўсіх розніцаў, рымская Епіскапская сталіца — гэта з волі Хрыста Галава сусьветнага Хрысьціянства, гэта найвышэйшая ўлада сьв. Цэрквы ягонай, а для другіх усё гэта такога вялікага значэньня ня мае.

І вось жа, калі б у беларускім народзе падзел гэты быў толькі вонкавы, толькі ў самым абрадзе службы Божай, дык гэта было б яшчэ нічога. Але, як бачым, падзел гэны нашага народу ўнутраны, духовы — чужая мова па-за літургіяй у рэлігійным жыцьці народу і розныя некаторыя асновы веры ці яе догмы. А гэта ўжо сусім нядобра.

Праўда, мы да гэтага сапраўды сумнага й дужа для беларускага народу шкоднага зьявішча прывыклі і ўжо мала на яго зварочваем увагі, але гэта тым горш для нас, калі мы ўжо перастаём рэагаваць на падзел Цела Хрыстовага — Цэрквы-Касьцёла, а праз яго на падзел душы беларускай, на той пункт у гэтай душы, дзе спрадвякоў ропіцца — то больш раздражненая, то больш загоеная — цяжкая, грозная рана гэтага народу.

Але, на шчасьце, ніколі не бракавала беларусам сьветлых людзкіх адзінак, як сярод духавенства, так і людзей сьвецкіх, якія хварэлі душой

над гэтай хваробай свайго народу й якія думалі даўней і думаюць сяньня аб зла гэтага направе, аб брацкім злучэньні на беларускіх землях дзьвёх часьцін адзінай Хрыстовай Цэрквы ў вадну стройную, непадзельную цэласьць.

Сяньня на беларускіх землях ужо бадай усюды можна пачуць слова «унія». Слова гэтае, для многіх прыводзячае трывогу ў душу, многім узноў узбуджаючае ясны прамень надзеі на сьветлую будучыню справы Хрыстовай і народу, сяньня ўжо перадаецца з вуснаў беларускіх у вусны.

Унія, а па-лацінску — unio, як ведаем, знача адзінасьць, абаднаньне, злучэньне, брацкае рэлігійнае сужыцьцё Беларусаў праваслаўных і Беларусаў-каталікоў пад кіравецтвам Рымскага Першасьвяшчэнніка, пад кіравецтвам Пятровай Апостальскай сталіцы, як гэта было ў нас напачатку Хрысьціянства й як гэта павінна быць заўсёды з волі Хрыстовай.

Пасьля скасаваньня уніі ў 1839 г., першая паважная спроба аднаўленьня яе рабілася ў 1908—1909 г. Каля гэтай справы рупіўся тады мітрапаліт украінскай Галіччыны (тады пад Аўстрыяй) і піянэр беларускага сучаснага руху Іван Луцкевіч. У Барысаўскім пав. Менскай губ. быў двор (12 тысяч дзесяцін) графа Тышкевіча Дзядзілавічы. Двор гэты мітр. А.Шэптыцкі меў адкупіць, распарцэляваць і асадзіць там эмігрантаў Украінцаў-уніятаў з Галіччыны. З гэтых эмігрантаў паўстаў бы уніяцкі прыход, які быў бы асяродкам далейшай працы уніятаў у Беларусі. Ужо былі кандыдаты на уніяцкіх сьвяшчэннікаў лацінскія ксяндзы Беларусы — Язэп Зэльба і Вінцэсь Гарасімовіч (абодва ўжо адыйшлі з гэтага сьвету). Царскі ўрад аднак да гэтага не дапусьціў і з гэтых вялікіх і сапраўды цікавых плянаў ня выйшла тады нічога. («Przegl. Wileński» 25.VI.37, art. A. L. «Tempora mutantur»).

Уніяцкая, аднак, ідэя не замёрла й за якіх гадоў 10 пасьля гэтага ўзноў стала рэалізавацца.

Вось прыйшлі для Беларусі часы найнавейшыя. Наступіла вайна, расейская рэвалюцыя, бальшавізм, а за імі ўсьлед прыйшоў падзел Беларусі ў Рызе 20.III.1921 г. У тэй часьці Беларусі, каторая асталася пад бальшавікамі, дзе спрадвякоў найбольш сільна дзеілі ўплывы «маскоўскага Рыму», Хрысьціянства бадай сусім збурана. Цэрква ж праваслаўная, будучая ў разадананьні з Рымам, сама ў сабе падзелена на дробныя часткі, хоць бы маральна памагчы гэнай вялікай мучаніцы царкве расейскай бязсільна. Забірае голас за царкву-мучаніцу Папа Рымскі, хоць царква гэна й не прызнае яго сваей галавою.

У тэй частцы Беларусі, якая паводле гэнага ж Рыскага дагавору адышла да Польшчы, як на дзіва, узноў пачала аджываць унія, якая ўжо многім выглядала памёршай і аб якой ужо многія сусім забыліся. На ніве абаднаньня цэркваў-сёстраў у нашым краі паявілася многа апосталяў-місыянараў, а сярод якіх спатыкаем так жа й Беларусаў.

Ітак, пасьля сотні гадоў ад часу скасаваньня расейскім царом на нашых землях царкоўнай уніі, яна ўскрасае тут нанова. І дзіва! Ускрасае на нашых землях унія, як яна жыла й гінула, разам з ускрашэньнем-адраджэньнем беларускага народу.

І хто ж проціў яе? Як і даўней — найбольш Расейцы й Палякі, а найменш сьведамыя, пазбыўшыяся абрусеньня й апалячэньня, Беларусы, шчырыя барацьбіты за справу адраджэньня свайго народу. Яны інстынктоўна адчуваюць яе блізкасьць, яе духовае з сабой сваяцтва.

І слушна. Гісторыя і геаграфія даказалі таго, што праваслаўе на беларускіх землях — гэта прадусім вера расейская, даючая азнакі апошнім часам, як гэта было і за часоў царскіх у Расеі, стацца верай казённай, польскай. Узноў жа лацінскае каталіцтва на нашых землях, дзякуючы тым жа гістарычным і геаграфічным варункам, гэта прадусім вера польская. Вось жа наша вера, вера беларуская, як выглядае з нашай мінуўшчыны й як аб гэтым нядвузначна гавора наша сучаснасьць, ёсьць унія.

Унія — злучэньне цэрквы праваслаўнай з сусьветнай цэрквай рымскай, як гэта было ў нас на пачатку Хрысьціянства, магла б адрадзіць народ наш у жыцьці царкоўна-рэлігійным, а такжа ў жыцьці народным, бо праваслаўную царкву адарвала б ад маскоўшчыны і злучыла б яе з душой народу.

Адарваўшыся гэтак ад гэнага «расейскага Рыму», унія ў сваю чаргу, як гэтага многія слушна баяцца, у наш час ужо не пападала б і ў «Рым польскі» й польскія ўплывы, як гэта было ў уніі берасьцейскай, ужо не паўтарыліся б. На перашкодзе гэтаму стала б беларуская народная сьвядомасьць, якая ўжо не дапусьціла б, каб унія замест быць самастойнай рэлігійна-культурнай вартасьцяй, ды сталася ўзноў толькі пераходным мастом да польшчыны ці ў зьмененых палітычных варунках — да маскоўшчыны. На перашкодзе гэтаму сталі б такжа й варункі сучаснага праўна-грамадзскага палажэньня людзкой адзінкі агулам, калі ўжо ня можна, як гэта было даўней, народныя масы пераганяць і перапісваць бяз іх волі ў тую ці іншую веру.

Але, на жаль, гэта бадай выключна толькі тэорыя. Пачаткі уніі ў нас шмат у чым былі не такія, якімі яны быць павінны. Унія сярод Беларусаў нават у нядаўнай Польшчы ня мела свайго асобнага ўсходняга епіскапа Беларуса, а ўлада над уніятамі належала да епіскапаў лацінскіх (усе палякі!). Унію гэну праводзілі сярод Беларусаў часта сьвяшчэньнікі не Беларусы і не па-беларуску й не ў народным беларускім духу. Галоўную роль у праводжаньні уніі ў Беларускім народзе йгралі езуіты, пераважна палякі, да якіх праваслаўны народ ня мае даверу. Кіраўнічыя кругі унійнай справы ў нас сусім ня рупіліся аб беларускай унійнай літаратуры. Ня можна ж уважаць за «літаратуру» месячніка «Da Złučeńnia» (лацінкай!), якога дзеля яго прымітывізму й ўбогасьці саромеліся нават самі уніяты, кажучы, што гэта езуіты на сьмех яго выдаюць!.. Дзеля гэтага й

вынікі працы унійнай былі ў нас сусім нязначныя. Урэшце адыход ад Польшчы ў палове верасьня 1939 г. зямель Зах. Беларусі да Саветаў справу уніі перачыркнуў надоўга.

Праваслаўе також не стварыла дагэтуль беларускага праваслаўнага кірунку. У гэтым сэнсе яно слабейшым ёсьць ад уніі, у якой усё ж былі яўныя асяродкі беларускія. Тымчасам праваслаўе афіцыяльна ўпорыста трымаецца маскоўшчыны й нават рабіла спробы завядзеньня польшчыны. Вінаваты гэтаму палітычныя абставіны, герархічная будова Цэрквы й гістарычныя Цэрквы прывычкі. Аднак фактычна ў Праваслаўі, як сярод сьвецкіх, так і духавенства, ёсьць многа беларускай нацыянальнай сьведамасьці. Дзякуючы гэтаму й дзякуючы самай натуры Цэрквы як грамадзкаму творыву, аб чым вышэй мы казалі, Праваслаўе ўсё ж ёсьць дадатным дзейнікам адносна беларускай нацыянальнасьці.

Сярод Беларусаў праваслаўных і уніятаў значна выдзяляюцца Беларусы каталікі-лацiннікі. Яны стварылі цэлы кірунак беларускі каталіцкі й, можна сказаць, надаюць тон беларускаму рэлігійнаму й нацыянальнаму жыцьцю агулам, разьвіваючы ідэю аб беларускай сынтэзе, аб адзінстве рэлігійным і нацыянальным. Вось што пісаў яшчэ ў 1921 г. аб гэтых справах беларускі паэт, нацыянальны й рэлігійны ідэолёг, кс. К.Стаповіч (Казімер Сваяк †1926):

— Я хацеў бы, каб гэтых слоў некалькі праз «Крыніцу» дайшлі да ксяндзоў-беларусаў. Я прачытаў нядаўна ў тэй жа «Крыніцы», што нехта асьмеліўся публічна нашых духоўных прыраўняць да непраўдзівых прарокаў. Няхай жа гэтыя словы паслужаць яму адказам, а нам... чым хочыце. Сучасны момант у гісторыі Каталіцкага Касьцёла на Беларусі гатовіць, мабыць, найважнейшыя зьмены ў душы народу. Народ беларускі стаіць на парозе свайго адраджэньня на ўсіх палях культуры. Тварэньне розных форм адбываецца ў шыбкім тэмпе ў кожнай галіне жыцьця, так паасобнага, як і соцыяльнага. Рэлігія, як адна з найважнейшых галін культуры, ня можа астацца на задзе за агульным рухам. Гора таму ксяндзу-беларусу, каторы не адчуе псыхікі, якая ствараецца агульным правам народнай эволюцыі. Мы павінны асьцярожна, але становўча згадзіцца, што ў Беларусі форма адносін рэлігійных ужо зьмяняецца, і пайсьці сьмела на спатканьне новых патрэб. Тая сьмешная ўрадовасьць і палітыканства спольшчанай часьці духавенства нашага краю найлепшым служыць доказам, што гэты дух, так папулярны за часоў расейскіх, ужо загавеў на адсталасьць. Ксяндзы-палёнізатары кідаюцца цяпер як у малігне, бо чуюць, што грунт з-пад ног іх асуваецца. Ня будзем ім даказваць, хто мыліцца (час пакажа), трэба толькі пусьціць іх у палітыканстве аж да абсурду, вучачыся, як самым сьцерагчыся шовінізму й сэкцярства. Трэба нам выступаць як ксяндзом Касьцёла міжнароднага й міжпартыйнага, а ня спэцыяльна аднэй народнасьці або партыі. Такое становішча прымусіць нас для кожнай народнасьці тварыць жыцьцё рэлігійнае роднымі формамі, а не пазычанымі ад чужацкага панаваньня. Касьцёл

наш — інстытуцыя каталіцкая й затое ў ім можа зьмясьціцца кожны народ, хоць бы культурна слабы й загнаны. Наш абавязак, як ксяндзоў каталіцкіх, паднасіць духа народнага да зразуменьня тых праўд, якія даў нам Хрыстос. А чым больш народ апушчаны, тым болей павінен узяць ад нас сэрца і... працы. З обсэрвацыі сучаснага палажэньня ў нашым Краі кожны ксёндз беларус павінен:

1. Пільна спасьцерагаці — сачыць — працэс народнага дасьпяваньня беларусаў, каб не адстаць ад агульнага культурнага розьвітку душы народнай.

2. Старацца ўвясьці ў свае парафіі, есьлі не заўсёды, то пэрыёдычна ў большыя сьвяты, навуку па-беларуску, а такжа арганізаваць беларускі сьпеў рэлігійны на хоры.

3. Прычыняцца як мага да выдавецтва рэлігійнага, каб мець гатовы матар'ял у запатрэбаваньні на нашу творчасьць.

4. Быць у жыцьці народнікам і карыстацца мовай беларускай згодна з псыхікай нашага народу й паводле засады: «Не прымушай, але пракanай».

5. Працаваць у імя ідэі Каталіцызму, а не нацыяналізму, пад дэвізам: «З народам для Бога». К с ё н д з - б е л а р у с. («Крыніца», N 24, 1921).

Словам, сяньня, калі сьвяткуем 950-годзьдзе хросту Беларусі, Хрысьціянства ў беларускім народзе бачым не адзіным, як тады, але падзеленым на дзьве часьці: на Праваслаўе й Каталіцтва двух абрадаў — лацінскае й усходняе (унія). Вось жа маючы на ўвеце вялікую вартасьць Хрысьціянства агулам, самога ў сабе для душы чалавека, а такжа й для тварэньня й падтрыманьня беларускай нацыі, мусім шукаць такіх формаў сужыцьця гэтых часьцей Хрысьціянства, каб яно ня толькі не паглыбляла гэнага падзелу, але такжа каб між праваслаўнымі й каталікамі наступіла адзінства рэлігійнае, прынамсі да тых граніц, да якіх, у сучасных жывучы абставінах, здабыцца можна й трэба. Шуканьне прынамсі мінімальнага адзінства ў беларускім народзе — гэта наша гістарычнае заданьне. Гэныя спробы уніі й фактычнае яе ўцьвярджэньне ў сваім часе ў гісторыі — гэта быў іменна гэны праяў гістарычнай патрэбы душы нашага народу й натуральны праяў самай сутнасьці Хрысьціянства. І тыя сілы, якія так ці інакш гэнае наша нацыянальнае й рэлігійнае адзінства руйнавалі, гэта былі сілы варожыя й чужыя гэнай гістарычнай беларускай ідэі.

Калі Візанцыя была ў 1453 г. заваявана Туркамі, калі наступіла катастрофа й для вялікай візантыйскай культуры і для ўсходняй цэрквы, наступіла такжа катастрофа й для беларускай цэрквы. Гэтая цэрква (а такжа ўкраінская й расейская) завісла ў паветры. З рымскай заходняй культурай зьвязкі Беларусі аж да якога XVI ст. агулам былі дужа невялікія, у адасобленьні гэтым іменна й трымала нас візантыйская культура і дзяржава й залежная ад іх наша цэрква. Гэтым тлумачыцца адсталасьць наша культурная. Тады, калі ў Эўропе адбывалася барацьба папства з

цэзарствам, адбываліся крыжовыя паходы, адраджэньне, Рэфармацыя, якія гэтак важнае займаюць месца ў ідэйным і грамадзкім жыцьці Эўропы, Беларусі бадай сусім не даткнулі, а прынамсі надта нямнога. Затое нігдзе ня было такой заўзятай барацьбы за зьверхнія культурныя формы: за абрад, календар, азбуку, за словы, як іменна ў верных усходняй цэркви.

Вось жа ня дзіва, што на межах, дзе стыкаліся два тыпы хрысьціянскай культуры — усходні і заходні, усходні пастаянна траціў тэрыторыю й людзей, аднолькава ці ў царкоўнай, ці ў нацыянальнай дзялянцы жыцьця. Гэта даводзіла да масавага вынарадаўленьня вышэйшых слаёў грамадзянства й да цяжкога становішча загнанага й пакінутага сялянства й ня маючага ня толькі дзяржаўнай, але й ніякай абароны й падтрыманьня. У гэткіх абставінах жыцьця мусіла дайсьці да вытварэньня пасярэдняга культурнага тыпу. Асновай для гэтага была ідэя царкоўнай уніі: захаваць, зьберагчы сваю старадаўную культуру, яе форму і традыцыі й уліць у гэта ўсё жыцьцё й новыя жывыя сокі, якія плылі з захаду. Барацьба за гэтую пасярэднюю форму, за гэтую сынтэзу нашай культуры, як ведаем, была й ёсьць сяньня дужа вострая й заўзятая й агулам заўсёды вялася й вядзецца па сярэдняй лініі між Захадам і Усходам, дакладней кажучы, між Масквой і Варшавай.

Кантраст — гэта агульная сыстэма жыцьця, гэта агульнае права прыроды. Адзінка й грамадзянства, мужчынская й жаночая плоць, цела й душа, змыслы й розум, воля й сумленьне, дасярэдзінная і адсярэдзінная сіла, якая нармуе рух нашай зямлі, падобныя ж сілы ў будове кожнага атому, пазытыўная й нэгатыўная электрыка — і гэтак без канца й меры. Нават Хрыстова навука й яна сыстэма кантрастаў: гэты сьвет і гэны, жыцьцё й сьмерць, шчасьце й цярпеньне, чалавек і Бог і г. д. Знача, паняньце права кантрастаў — гэта ключ, які сапраўды надаецца для разьвязкі розных жыцьцёвых праблемаў.

Вось жа гэты ключ, гэтае паняцьце кантрастаў, павінен прыдацца й Беларускаму народу. Нацыянальная ідэя Беларускага народу выплывае, як ведаем, з палітычна-культурнай супярэчнасьці Заходу й Усходу, з кантрасту, які заходзіць між гэтымі дзьвюма суседнімі з намі сіламі, якіх падкладам зьяўляюцца рознасьці Праваслаўя й лацінскага Каталіцтва. Першае дзеіць у форме маскоўскай, а другое ў польскай. Вось жа як сутнасьць дзейнасьці права кантрасту ў прыродзе агулам у тым, што яно захоўвае раўнавагу, апіраецца як бы на восі, так і ў гэтай беларускай духовай праблеме, і тут мусіць вытварацца пасярэдні тып культуры, які, трымаючыся на сваей нацыянальнай восі, лучыў бы і асыміляваў бы элемэнты усходнія й заходнія, бо, калі б задалёка пахінуўся ўбок, на ўсход ці на захад, страціў бы раўнавагу й зьгінуў бы. У гэтым іменна й беларуская нацыянальная й культурная адсталасьць. Час гэта зразумець й прыступіць да направы. Прыгожым і вымоўным гэтага прыкладам — украінская уніяцкая цэрква. І ў нас зрэалізаваньне ідэі уніі рэлігійнай

вяло б да гэтага, але, як ужо мы сказалі, сяньня й, магчыма надоўга, гэта толькі тэорыя. Гэныя ідэалы — гэта *maxітит*, а нам трэба сяньня тварыць *тіпітит* нашай, узложанай на нас гісторыяй, нацыянальнай і рэлігійнай сынтэзы, адзінства рэлігійнага й нацыянальнага.

Словам, Беларускі народ, будучы раздвоены рэлігійна, духова, мусіць шукаць адзінства, мусіць шукаць сваей рэлігійнай і нацыянальнай сынтэзы. Фармальнае спалучэньне ў рэлігійнай уніі, як паказвае мінуўшчына й сучаснасьць, фактычна не спалучала, але яшчэ больш уводзіла ў народ закалот і разадналньне. Дзеля гэтага, ніколі ня спускаючы з памяці слоў Спаса: каб усе былі адно, у брацкай любові разважаючы гэтую праблему й молячыся за адзінства рэлігійнае ў Беларускім народзе, адзінства гэтае належа прадусім праводзіць у плошчы гарманійнага нацыянальнага й рэлігійнага сужыцьця Беларусаў-каталікоў і праваслаўных, афармленьне чаго адкладаючы да таго часу, калі яно сапраўды дасьпее.

Прадусім Беларусы павінны помніць, што Хрысьціянства — гэта дарагая пэрла, якой маем даражыць і трымацца. І не павінен нас адвярнуць ад яго і той факт, што яно ў нас ужо сяньня не адзінае, як было 950 гадоў таму, а падзеленае. Бо ж і цяпер часьці яго — гэта такжа пэрлы, й цаны сваей яно ня страціла, й падзел гэны — гэта маленькая толькі шчэрбінка.

Вось жа, рахуючыся з гэтай сапраўднасьцяй, Беларусы каталікі-лацінікі, Беларусы праваслаўныя й Беларусы грэка-каталікі, ці уніяты ў узаемных да сябе адносінах павінны трымацца *толеранцыйна*, з брацкай узаемнай спагаднасьцяй. Мо гэта лібэралізм, рэлігійная нядбайнасьць, незацікаўленьне сутнасьцяй Хрысьціянства? Не. Гэта сардэчная брацкая дбайлівасьць аб тое, каб наш рыгорызм вонкавы й суровыя ўзаемныя ў галіне рэлігійнай адносіны не дзялілі й не аддалялі нас узаемна яшчэ далей, гэта стараннасьць, каб мы па магчымасьці былі да сябе як найбліжэй і, нягледзячы на розьніцы, каб як найлепш узаемна зналіся. Мы павінны памятаць, што ўсе мы дзеці аднаго Айца нябеснага, браты Сына Божага дзеля яго ўчалавечаньня, дзеці аднаго Беларускага народу.

Далей мы ў нашых узаемных адносінах павінны больш зварачваць увагі *на тое, што нас луча ў хрысьціянстве, чым на тое, што нас дзеліць*. Мо гэта індыфэрэнтызм? Не. Гэта такжа шчырае хрысьціянскае імкненьне не разыходзіцца й не дзяліцца далей, гэта сардэчнае жаданьне ў любові Хрыстовай зьбліжацца да сябе, пазнавацца й гэтым аслабляць, выжываць і нішчыць існуючыя падзелы.

Урэшце, у жыцьці нашым хрысьціянскім павінны мы ўсе *выжываць чужы й хрысьціянству, й народу элемэнт палітычны*, стараючыся карыстацца сваей беларускай мовай. Мо гэта шовінізм, фашызм, тоталізм? Не. Гэта расчышчаньне дарогі хрысьціянству ў душу Беларускага народу, гэта скіроўваньне Беларускага народу на яго прыродныя пункты апоры, каб ён захаваў раўнавагу й марна ня зьгінуў. Шуканьне й тва-

рэньне беларускай нацыянальнай і рэлігійная сынтэзы — гэта наш беларускі абавязак, узложаны на нас гісторыяй і самым Богам.

Усякая палітыка ў жыцьці рэлігійным хрысьціянскім, бяз розьніцы — свая ці чужая, — гэта дзікі нараст на целе Хрыстовым, гэта рак, які разьядае й нішча ў народзе хрысьціянскае жыцьцё. І на гэта трэба зварачваць асаблівую ўвагу. Звычайна абедзьве староны, царква й дзяржава, дрэнна выходзяць, калі гэтая апошняя для сваіх палітычных мэтаў упрагае на свае ўслугі цэркву. Асабліва ж дрэнна на гэтым выходзе жыцьцё хрысьціянскае рэлігійнае, бо яно ў такіх выпадках звычайна гібее і заміраe.

У 1054 г. наступіў падзел Хрысьціянства прадусім з прычын палітычных: візантыйскія патрыярхі адарваліся ад рымскай Апостальскай сталіцы ня толькі дзеля розьніцы іншага разуменьня некаторых дагматаў хрысьціянскіх, але і дзеля падтрыманьня візантыйскіх імпэратараў проціў Рыму. Унія 1596 г. мела ў сабе палітычную заразу, якая яе ела ўсьцяж і ўрэшце заела на сьмерць у 1839 г. Паленьне беларускіх культурных здабыткаў у Вільні езуітамі як некаталіцкіх, і паленьне такіх жа беларускіх здабыткаў і кніжак Семашкам як неправаслаўных — гэта работа гэнай палітычнай заразы. А й сяньня той факт, што справа уніі не магла пад Польшчай у Беларусі стаць на належныя торы, тлумачыцца палітыкай.

Але канчаем. Праграмай дзеля тварэньня беларускай нацыянальнай і рэлігійнай сынтэзы, якая можа і павінна даць пазытыўныя вынікі, павінен нам служыць гэткі сказ вялікага мысьліцеля сьв. Аўгустына: «In dubiis — libertas, in necessariis — unitas, in omnibus — caritas», што знача па-беларуску: у сумнівах — свабода, у канечных справах — адзінства, ува ўсіх — любоў.

Гэтая праграма, калі яе будзем выконваць і праводзіць у жыцьцё, сапраўды дапаможа Беларускаму народу стварыць яго адзінства, яго рэлігійную й нацыянальную сынтэзу і ў апошнім выніку давядзе да таго духовага хрысьціянскага адзінства ў Беларусі, якое было 950 гадоў таму...

*1940*

**Вінцук ГАДЛЕЎСКІ**
(1888— 1942?)

**Каталіцкі святар, рэдактар і выдавец, публіцыст, рэлігійны, культурны і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў м. Поразава Свіслацкага раёна. Скончыў Віленскую каталіцкую духоўную семінарыю (1912) і каталіцкую духоўную акадэмію ў Пецярбургу (1916). Настойліва і паслядоўна праводзіў беларусізацыю каталіцкага касцёла. Адным з першых пачаў адпраўляць набажэнствы на беларускай мове. У 1917—1918 гг. актыўна ўдзельнічаў у беларускім незалежніцкім руху. Дэлегат І Усебеларускага з'езда (снежань 1917). Сябра Рады Беларускай Народнай Рэспублікі і камітэта Беларускага народнага прадстаўніцтва ў Мінску. Адзін з ініцыятараў і заснавальнікаў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. Рэдактар газеты «Кгуніса». У 1919—1920 гг. — выкладчык беларускай семінарыі ў Нясвіжы. Там жа выконваў абавязкі прэфекта польскай гімназіі. На пачатку 20-х г. пераехаў на Віленшчыну, дзе разгарнуў шырокую культурна-асветніцкую і рэлігійную дзейнасць. Тройчы арыштоўваўся польскімі ўладамі (1925, 1926, 1927). Два гады адседзеў у Макатоўскай турме ў Варшаве. З 1929 г. жыў у Вільні. Прымаў непасрэдны ўдзел у заходнебеларускім рэлігійным, культурным і палітычным жыцці. Пераклаў на беларускую мову «Новы Запавет» (1930). Ініцыятар стварэння Беларускага нацыянальнага фронту. Выдавец і рэдактар газеты «Беларускі фронт». У гады Другой сусветнай вайны займаўся палітычнай і грамадскай дзейнасцю. З 19 чэрвеня 1941 г. — сябра Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Берліне. Працаваў у беларускай рэдакцыі Берлінскага радыё. У верасні 1941 г. пераехаў у Мінск. Супрацоўніцтва з нямецкімі ўладамі разглядаў як магчымасць шырокай падрыхтоўкі і згуртавання беларускіх нацыянальнасвядомых сіл. Быў прызначаны галоўным школьным інспектарам пры генеральным Камісарыяце нямецкіх адміністрацыйных улад. Сябра галоўнай рады Беларускай народнай самапомачы. Арыштаваны ў Мінску нямецкай тайнай паліцыяй. Закатаваны.**

## СЛАВЯНСКАЯ ІДЭЯ НА «РОЙСТАХ»
***(Фрагмент)***

[...] Польская палітыка на працягу апошніх двух дзесяткаў гадоў зрабіла шмат памылак, а асабліва на Усходзе. Забяспечаная на Захадзе слабасьцю пасьляваеннай Нямеччыны і саюзам з Францыяй, польская палітыка завярнула ўсе свае сілы на Усход, каб там праводзіць т.зв. Ягелонскую ідэю. Мэта яе была такая: пашырыць і ўгрунтаваць польшчыну

на беларускіх і ўкраінскіх землях. Спосабамі да гэтай мэты мелі быць дзяржаўны апарат з адміністрацыяй, школамі і самаўрадам; уплыў польскай культуры, а такжа уплывы касьцёлу і царквы, якім некаторыя дзейнікі стараліся даць характар польскі. Пры такой лініі, паводле некаторых польскіх палітыкаў (як напр. б. прэм'ера Скульскага), за 50 гадоў беларусаў у Польшчы ня было б. Мы ня верым у тое, каб беларусы, якія існавалі болей 1000 гадоў і стварылі сваю багатую культуру, маглі за 50 гадоў адрачыся ад сваёй народнасьці і згінулі, але ясна, што маглі б пацярпець вялікія страты. Відаць, на гэтыя страты і рахавалі польскія палітыкі, не праймаючыся тады славянскай ідэяй. Якія ж рэзультаты? А такія, што беларускія ройсты, вычуўшы інстынктоўна такую палітыку некаторых польскіх кругоў, увайшлі ў зямлю, закапаліся ў сваіх нетрах і чакаюць перамены...

Калі гэтак рабіла польская палітыка, расейская пастулала зусім інакш. Яна напачатку дала сякую-такую культуральную аўтаномію беларусам, закладала бел. школы, друкавала бел. кніжкі і падручнікі, наладзіла бел. радыё, завяла воз беларускай дзяржаўнасьці — і ў рэзультаце прыцягнула беларусаў да сябе. Трэба прызнаць, што духовае змаганьне за беларускія масы Варшава праіграла на карысьць Масквы...

Чаму гэтак сталася?

Прычын многа. Першай і галоўнай прычынай была адсутнасьць гэтай жа самай славянскай ідэі, якую цяпер так выцягваюць з архіву і рэклямуюць польскія палітыкі. Наагул, польская палітыка ня мела шчасьця ў суседзкім жыцьці. На Усходзе зьнеахвоцілі да сябе беларусаў, украінцаў, а літоўцы да таго ўзьеліся, што трэба было аж ульціматуму і ваеннай пагрозы, каб навязаць з імі дыпламатычныя і іншыя зносіны; на Захадзе польская палітыка ў сярэдніх вякох не магла знайсьці супольнай ідэі і згоды з славянскімі плямёнамі: мучалася з оботрытамі і памаранамі, якія мучыліся з германцамі працію Польшчы — аж пакуль ня зьгінулі ў абоймах германства... На гэтую дзіўную праяву зьвярнуў увагу праф. Брукнэр у 1-м томе сваей капітальнай кнігі: «Гісторыя польскай культуры». Гэтую самую праяву бачым цяпер на Усходзе, дзе беларусы і ўкраінцы ідуць у абоймы Масквы!.. Мы ня вінуем тут нашага народу, бо ўжо здаўных цьвярдзім, што наш народ псіхычна непадгатаваны да змаганьня на два франты.

Змагаючыся тут з палянізацыяй, ён няздольны да змаганьня з камунізмам — і дзеля гэтага ар'ентуецца на Усход. Змагаючыся там з камунізмам, ён, магчыма, ар'ентуецца на Захад, думаючы, што тут шчасьце... І гэтак цягнецца ягонае жыцьцё!

На наш погляд, славянская ідэя, якую пачалі выяўляць польскія палітыкі, ня мае ў сучаснасьці пад сабою грунту. Яна магла б узрасьці толькі на грунце аднолькавых варункаў, у якіх апынуліся б усе славянскія народы, гэта значыць, на грунце агульнай волі або агульнай няволі. Калі б усе славянскія народы мелі незалежнасьць, так, як народ польс-

кі тады славянская ідэя была б магчымая на падставе роўнасьці. І гэта быў бы найлепшы выхад. Але ёсьць і другі выхад, найгоршы: усе славянскія народы, сьціснутыя ў клешчы нямецка-расейскага саюзу, мучацца дзеля абароны сваіх найвялікшых нацыянальных правоў. Тады іх мучыла б таксама роўнасьць, але роўнасьць няволі. Аб магчымасьцях гэтай «роўнасьці» мы пішам на іншым месцы. Значыць, галоўнай падставай для славянскай ідэі ёсьць такая ці іншая роўнасьць. Для беларускага народу ў сучасных варунках гэта «роўнасьць» можа быць абы-якая, бо «голеч разбою не баіцца», але для іншых народаў?

*1938*

## ШТО ТАКОЕ НАЦЫЯНАЛІЗМ?

*(Фрагмент)*

[...] І запраўды, прыглядаючыся ўважна да сучасных падзеяў, ня толькі ў Эўропе, але ў Азіі, Афрыцы, мы прыходзім да вываду, што галоўным мотарам гэтых падзеяў ёсьць нацыяналізм.

Дык што такое нацыяналізм?

Нацыяналізм — гэта кірунак чалавечай думкі, якая імкнецца да ажыцьцяўленьня мэтаў, карысных для нацыі — народу. Значыць, першай і галоўнай падставай нацыяналізму ёсьць існаваньне народу (нацыі), а другой, каб гэты народ меў свае мэты. Ясна, што свае мэты можа мець толькі сьведамы народ. Бяз гэтых двух падставаў, гэта значыць, без існаваньня нацыі й без наяўнасьці мэтаў у гэтай нацыі, нацыяналізм немагчымы.

Мэты ў кожнай нацыі могуць быць розныя, і, залежна ад мэтаў, можа быць розны нацыяналізм. Гэтак — на першым пляне можна паставіць абарону нацыі ад загубы, інакш кажучы, ад нацыянальнай сьмерці. Гэтакую мэту мае той народ, якому пагражае асыміляцыя з боку мацнейшых народаў. У гэткага народу бывае нацыяналізм абаронны.

Іншай мэтай можа быць развой народу ў кірунку палітычным, эканамічным і культурным. Што датычыць разьвіцьця ў палітычным кірунку, дык нацыя, пранятая духам нацыяналізму, ідзе да здабыцьця для сябе роўных правоў зь іншымі народамі, да закладзінаў сваёй дзяржаўнасьці й да адыграньня сваёй ролі ў сусьветных падзеях; у эканамічным кірунку — да стварэньня як найлепшых умовінаў эканамічнага жыцьця для свайго народу, а ў культурным — да разьвіцьця літаратуры, навукі, мастацтва й усяго, што зьвязана з асьветай і цывілізацыяй. Гэта ёсьць нацыяналізм творчы.

Але ёсьць яшчэ іншы нацыяналізм, які зьяўляецца тады, калі адзін народ хоча падпарадкаваць сабе іншы народ. Гэта можа адбывацца або пры дапамозе сваіх культурных уплываў, або пры дапамозе сілы. Культурнае аддзеяньне аднаго народу на іншыя народы адбываецца тады, калі культура гэнага народу, ягоная літаратура, навука й мастацтва на-

столькі вялікія, што не прыняць іх немагчыма, а панаваньне пры дапамозе сілы адбываецца тады, калі сільнейшы народ забірае пад сваю ўладу слабейшы й стараецца яму накінуць сваю мову, культуру, а разам з гэтым сваю нацыянальнасьць. Гэта ёсьць нацыяналізм імпэрыялістычны.

Гэтак адрозьніваем нацыяналізм абаронны, творчы й імпэрыялістычны.

У абаронным нацыяналізме знаходзім сьведамасьць нацыянальнай апрычонасьці і волю бараніць свой народ ад нацыянальнай сьмерці. Абаронны нацыяналізм выступае галоўна ў народаў падняволеных. Але абарону нацыі трудна было б правесьці без нацыянальнай творчасьці, а гэта дзеля той прычыны, што той народ, каторы толькі бароніцца, а нічога ня творыць, уканцы ня выдзяржыць і паддасца чужому народу. Можна сказаць з усёй упэўненасьцю, што народы, якія толькі бароняцца й не выказваюць творчасьці, зьнікнуць з вобліку зямлі як нацыі. Значыць, нацыя, баронячыся, павінна адначасна тварыць, разьвіваць свае нацыянальныя вартасьці, сваю мову, сваю літаратуру й мастацтва, ідучы разам з гэтым да здабыцьця для сябе палітычных правоў, роўных зь іншымі народамі. Нацыя, якая б адказалася або не імкнулася да поўных правоў зь іншымі народамі, ня ёсьць поўнавартаснай нацыяй і не заслугоўвае на імя нацыі.

Творчы нацыяналізм кожнай поўнавартаснай нацыі вядзе тую нацыю да стварэньня сваёй дзяржавы. Гэта мы бачылі ў народаў: польскага, чэскага, латыскага і іншых. Без сваёй дзяржавы нацыя ня мае свабоды, якая патрэбна да разьвіцьця і г.д. Усебакова разьвіваць свае нацыянальныя вартасьці нацыя зможа толькі ў сваёй дзяржаве. Дый дзяржавы па Вялікай вайне паўставалі найбольш на нацыянальнай, а не на якой іншай падставе, добра, мусіць, разумеючы, што нацыянальныя асаблівасьці (мова, нац. характар, звычаі) найболей лучаць і цымантуюць людзей.

Гісторыя нас вучыць, што дзяржавы, зложаныя зь некалькіх нацыянальнасьцяў, развальваліся, а ня было выпадку, каб разваліласся дзяржава, зложаная з адной сьведамай нацыі. Дык для дабра нацыі й дзяржавы трэба, каб гэтыя два паняцьці супадалі, творачы адно цэлае.

Для сутнасьці творчага нацыяналізму патрэбны: сьведамасьць сяброў данай нацыі аб сваім фізычным і псыхічным сваяцтве; воля падняцьця гэтай нацыі і зраўнаньня яе зь іншымі нацыямі; праца дзеля разьвіцьця нацыянальных вартасьцяў народу, яго мовы, літаратуры, навукі, мастацтва, а такжа падняцьця ягонага эканамічнага й палітычнага бытаваньня. Такога творчага нацыяналізму спыняць ніхто ня мае права, ані свой, ані чужы. Хто б спыняў, той грашыў-бы супраць свайго або супраць чужога народу. Калі мы шануем правы адзінкі, дык яшчэ болей павінны шанаваць правы народу.

З усяго, што мы сказалі, вывад такі, што нацыя без нацыяналізму існаваць ня можа; што кожная нацыя мае свой арыгінальны нацыяна-

лізм; што кожны, хто працуе для дабра нацыі або бароніць яе, ёсьць у такім ці іншым сэнсе нацыяналістым. Ды мы як запраўдныя нацыяналісты павінны кіравацца дабром сваёй нацыі.

*1939*

## НАРОД-НАЦЫЯ
*(Фрагмент)*

[...] Пытаньне, што такое нацыя, у сучаснасьці, калі вырашаюцца нацыянальныя праблемы і гаворыцца аб самавызначэньні народаў-нацыяў, мае сваё асаблівае значэньне. Да гэтага трэба яшчэ дадаць і тое, што само паняцьце «нацыі», ці «народу» ня мела дагэтуль сталай і сьціслай азначанай дэфініцыі. Адны ўважаюць за нацыю (народ) этнаграфічную масу, якая жыве на адной тэрыторыі й ужывае адной мовы; другія ўважаюць за нацыю такую людзкую супольнасьць, якая ёсьць злучана адной воляй і аднымі мэтамі; іншыя за нацыю (народ) уважаюць дзяржаву (прыкл., Ліга Народаў ня ёсьць лігай нацыяў, але лігай дзяржаваў). У беларускай мове словы «народ», «нацыя» ў апошнім часе розьняцца між сабой: пад словам «народ» разумеюць супольнасьць людзей, якіх між сабой ня вяжа азначаная ідэя ды азначаныя мэты, а пад словам «нацыя» разумеюць сувязь людзей сьведамых, якіх лучыць ідэя дабра ўсяго народу, або нацыі.

Дык што такое нацыя?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, мы разгледзім тыя элемэнты, зь якіх складаецца народ, або нацыя.

Першым элемэнтам ёсьць элемэнт фізычны. Кожны народ мае свой арыгінальны фізычны тып, якім ён розьніцца ад іншага народу. Даволі глянуць, напрыклад, на беларуса і на жыда, каб спасьцерагчы паміж імі вялікую розьніцу ў іх фізычным складзе, у іх вонкавым выглядзе. Гэтая розьніца пакажацца яшчэ большай пры параўнаньні людзей двух болей далёкіх расаў, напрыклад, белай і чорнай. Значыць, ужо ў самым чалавеку, у яго фізычным складзе ёсьць элемэнты, якія яго розьняць ад іншых людзей. Паміж людзьмі адной расы (напр., белай) мы гэтакіх вялікіх розьніцаў не спасьцерагаем, але і тут вучоныя антрапалёгі пры помачы мераньня галавы (чэрапа, твары, сківіцаў, носа і г.д.), канцавінаў, росту і іншых частак касьцяка даходзяць да пракананьня аб існаваньні некаторых розьніцаў між паасобнымі народамі. У даўнейшых часох адно паходжаньне мела аграмаднае значэньне, бо на падставе гэтага паходжаньня тварыўся род, які з падобнымі родамі вытварыў вязь плямённую, а пасьля народную. Так як даўней род, так цяпер народ складаецца пераважна зь людзей, маючых падобныя фізычныя прыметы, адно, так сказаць, паходжаньне, як гэта папросту кажуць, «адну кроў».

Другім элемэнтам нацыі ёсьць псыхічны (духовы) элемэнт. Да гэтага элемэнту належаць: мова, звычаі, абычаі, убёры, народная творчасьць

(песьні, танцы, мастацтва). Кажуць, што мова народу ёсьць вытварам фізычных і псыхічных асаблівасьцяў данага народу, а ягоны характар вытварам клімату. Усім ведама, што характар паўдзённых народаў іншы, чым характар паўночных.

Трэйцім элемэнтам ёсьць сьведамасьць і воля людзей, якія твораць нацыю. Тады, калі два першыя элемэнты (фізычны й псыхічны) твораць народ, дык трэйці элемэнт, злучаны з двума першымі, творыць нацыю ў поўным гэтага слова значэньні.

Да паняцьця нацыі мала аднаго фізычнага элемэнту, мала такжа і псыхічнага элемэнту, аднэй мовы або культуры; мала аднэй супольнай тэрыторыі ці гістарычнай мінуўшчыны, але трэба яшчэ аднэй сьведамасьці і аднэй волі. Сьведамасьць і воля на аснове фізычнага й псыхічнага элемэнтаў фармуюць адну нацыю. У такім выпадку гэтыя адзінкі разумеюць сваю супольнасьць зь іншымі, ім падобнымі, адзінкамі і хочуць жыць, працаваць, змагацца за лепшую долю. Пры гэтым яны хочуць рабіць пад сваім кіраўніцтвам пры супольнай мове, звычаях і нацыянальным характары гэтай супольнасьці — у сваёй дзяржаве.

З вышэй сказанага відаць, што нацыя — гэта ня толькі сужыцьцё людзей на аднэй тэрыторыі, злучаных аднэй мовай і сваёй культурай, але і супрацоўніцтва на карысьць цэласьці, да чаго патрэбная сьведамасьць і воля ўтрымоўваць і бараніць собскую супольнасьць — народ.

Каб нейкі народ мог быць названы нацыяй, не канешне трэба, каб увесь ён быў сьведамы. Хопіць, каб сьведамасьць у ім была пашырана. Ва ўсёй Эўропе мы ня знойдзем народу, які б выяўляў сьведамасьць і волю на сто працэнтаў. Вялікая частка народу звычайна ідзе за сваёй інтэлігенцыяй, якая лепш за народныя масы ведае карысьць народу як цэласьці, лепш разьбіраецца ў палітычных, гаспадарчых і грамадзкіх справах. Ясна, што для нацыі найкарысьней, калі сьведамай інтэлігенцыі й думаючых адзінак было як найболей, дзеля гэтага беларусы павінны імкнуцца, каб сьведамасьць і воля ахапілі як найбольшыя кругі народу. Пры сьведамасьці народ і нацыя — адно.

*1939*

## ПАТРЭБА НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

Да апошніх часоў у беларускай прэсе мала пісалася аб патрэбе беларускай нацыянальнай ідэі. Памінаючы ўжо розныя інтэрнацыянальныя кірункі, якія, пачынаючы ад Грамады, а канчаючы на «людовых» фронтах і акцыі КПЗБ, адкідалі патрэбу пашырэньня нацыянальнай думкі пасярод беларускага грамадзтва, трэба прызнаць, што і іншыя беларускія палітычныя кірункі, каторыя, хоць і называлі сябе нацыянальнымі, таксама мала працавалі над узгадаваньнем беларускага народу ў духу нацыянальным. Ня можна сказаць, што яны не хацелі гэтага ўзгадаваньня, не, яны хацелі і нават часта выяўлялі свае стараньні, каб прышчапіць

нашаму народу любоў да свае бацькаўшчыны й заклікалі да працы на беларускім нацыянальным грунце. Аднак, трэба сказаць праўду, іхнія заклікі былі часта голасам крычачых у пустыні ды не давалі пажаданага рэзультату. Прычын гэтага сумнага зьявішча трэба шукаць ня толькі ў пашыраньні ў беларускім народзе інтэрнацыянальных плыняў, але яшчэ ў той псыхічнай і палітычнай атмасфэры, якая стварылася каля гэтых «нацыянальных» кірункаў. Бліжэйшыя і далейшыя людзі ў іхняй працы ня бачылі чыстай беларускай акцыі, але бачылі зьмяшаную зь іншымі разнаякімі акцыямі, часта шкоднымі для беларускага народу. Ведама, што, працуючы ў такой псыхічнай і палітычнай атмасфэры, да вялікіх рэзультатаў дайсьці трудна было.

У цяперашніх часоў інтэрнацыянальныя кірункі, аб якіх мы ўспомнілі, афіцыяльна спынілі сваю дзейнасьць. Шторaз менш можна пачуць аб арыштах і працэсах. Але мыляўся б той, хто б лічыў, што цяпер не пашыраюцца ў беларускім народзе інтэрнацыянальныя ідэі. Яны пашыраюцца так, як даўней, толькі ўжо не ў такім маштабе і ня ў гэтакіх формах, як гэта было ў недалёкай мінуўшчыне. Цяпер КПЗБ падпарадкавана Кам. партыі Польшчы (КПП) ня толькі арганізацыйна, але і ідэялягічна так далёка, што робіць ураджаньне, што цяперашная КПЗБ ёсьць польскай партыяй, так як на той бок рыскай мяжы Кам. партыя Беларусь ёсьць расейскай партыяй... Гэтыя кірункі, лучна з даўнейшым расейскім лібэралізмам і заходняэўрапейскім дэмакратызмам, стараюцца зьнішчыць у беларускім народзе нацыянальную думку. У сваіх імкненьнях яны забываюцца, да чаго такое нішчэньне давяло вялікую Расею і малую Чэхію — і да чаго можа давесьці беларускі народ! Бо ўсе інтэрнацыянальныя плыні, як левыя, так і правыя, абязбройваюць народ, аслабляюць яго і прыводзяць да капітуляцыі.

З другога боку, праўдай ёсьць, што той народ, які хоча жыць і разьвівацца, мусіць абаперці сваё жыцьцё і разьвіцьцё на сваіх нацыянальных вартасьцях, на сваёй мове, на сваёй традыцыі (звычаях і абычаях) і на сваёй гісторыі. Толькі такі народ, які апіраецца на гэтых нацыянальных вартасьцях, можа ператварыць усе жыцьцёвыя буры ды не разьбіцца на часткі.

Якую вялікую вартасьць мае нацыянальная ідэя, можам зразумець тады, калі будзем разважаць жыцьцё народу, падзеленага на часткі. У такім выпадку, паміма граніцаў, нацыянальная ідэя лучыць падзелены народ у адно цэлае. Гэтакаму злучэньню нішто не стаіць на перашкодзе: ані граніцы, ані далечыня, ані нават час.

Нацыянальная ідэя лучыць усіх сяброў нацыі: і тых, што жывуць за граніцамі, і тых, што разьдзелены акіянамі, і тых, што разьдзелены часам. Нацыянальная ідэя лучыць паміж сабой тыя пакаленьні, якія ўжо адышлі, з тымі, якія маюць прыйсьці, а злучвом ёсьць жывучае пакаленьне... Сьведамы, ажыўлены нацыянальнай ідэяй беларус, скажам, у Амэрыцы, зьяўляецца часткай беларускага народу, таксама як і той, што

жыве на бацькаўшчыне. Таксама часткай беларускага народу зьяўляюцца пакаленьні цяперашнія, мінулыя й будучыя...

Чалавечая адзінка толькі празь цесную сувязь з жыцьцём свайго народу, зь ягонай мовай, зь яго культурай і традыцыяй можа разьвіваць свае творчыя магчымасьці. Жывучы й працуючы ў сваіх собскіх варунках, чалавечая адзінка найлепш й найкарысьней спаўняе свае заданьні. У іншых, чужых варунках чалавек ня можа гэтак выявіць сваіх здольнасьцяў. Гэта адносіцца перш за ўсё да паэтаў, якія найлепш і найбольш твораць у роднай мове і ў роднай стыхіі, якая выплывае зь іх натуры. Нашы некаторыя паэты, якія хоць і дзяржацца інтэрнацыянальных кірункаў, аднак патрапілі даць свайму народу дасканальныя творы, а гэта таму, што дзяржаліся сваёй нацыянальнай стыхіі. Магчыма, у чужой мове і ў чужых умовах яны не патрапілі б ані выявіць у той меры свайго таленту, ані абдарыць беларускага народу, а праз яго і ўсё чалавецтва сваімі творамі. Беларускі народ як жарало іхных сілаў, беларуская стыхія як натхненьне іхняга таленту, беларуская мова як спосаб выўленьня іхняга творства, — усё гэта прычынілася да выкананьня імі сваёй жыцьцёвай ролі.

Трэба яшчэ помніць заўсёды аб тым правіле, што сьведамасьць і творчасьць нацыі выяўляецца ў адзінках. У адзінках б'е сэрца й думае розум нацыі. Дзеля гэтага на ўсьведамленьне адзінак і на прабуджэньне іхнай творчасьці трэба зьвярнуць вялікую ўвагу.

Апрача гэтага, не забываймася і аб другім важным правіле, што без вырашэньня нацыянальнага пытаньня ня можа быць справядліва вырашана й нацыянальнае пытаньне беларускага народу.

Як бачым, нацыянальная ідэя ў жыцьці адзінак і ў жыцьці ўсяго народу мае вялікае значэньне. Чалавек, які ідзе на службу гэтай ідэі, становіцца ня толькі сьведамым грамадзянінам, але й тварцом новага жыцьця. Часта бывае так, што нацыянальная ідэя прабуджае да вялікіх чыноў тых людзей, якія ў іншых умовах вялі б бескарыснае жыцьцё. Пад уплывам нацыянальнай ідэі прабуджаецца ў іх ахвота да працы, да ахвярнасьці, а часам нават да геройства! Здаецца, што ніякая філязафічная ідэя ня можа прабудзіць у чалавеку столькі жыцьцёвых сілаў, колькі прабуджае добра зразумелая нацыянальная ідэя! Дзеля гэтага трэба гэтую ідэю пашыраць у народзе!..

*1939*

**Мікалай ШКЯЛЁНАК**
(1899— 1945)

Юрыст, гісторык, публіцыст, культурны і палітычны дзеяч. Нарадзіўся на Дзісеншчыне. Скончыў юрыдычны факультэт Віленскага універсітэта (1932). Пазней працаваў адвакатам у Вільні. Удзельнічаў у заходнебеларускім грамадскім руху. Адзін з заснавальнікаў студэнцкай карпарацыі «Скарынія» пры Віленскім універсітэце. З вясны 1934 г. сябра праўлення Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. З мая 1935 г. у складзе прэзідыума віленскага Беларускага нацыянальнага камітэта. Далучыўся да групоўкі ксяндза Вінцука Гадлеўскага (1936), быў сябрам рэдкалегіі яе органа — газеты «Беларускі фронт». У чэрвені 1940 г., напярэдадні акупацыі Літвы савецкімі войскамі, выехаў у Берлін. Арганізаваў Беларускі камітэт самапомачы ў Нямеччыне, быў яго першым старшынёй. Працаваў у штотыднёвіку «Раніца». З сакавіка 1942 г. — яго галоўны рэдактар. Увайшоў у склад Беларускага нацыянальнага цэнтра — арганізацыі, створанай прадстаўнікамі беларускай эміграцыі ў Германіі і Генеральнай губерні для каардынацыі нацыянальнай працы ў ваенны перыяд. З лютага 1943 г. знаходзіўся ў Мінску. Спачатку быў рэдактарам бюлетэня «Беларуская карэспандэнцыя», пазней — галоўны рэдактар «Беларускай газэты» (пачатак студзеня 1944). З сярэдзіны студзеня 1944 г. заняў пасаду першага намесніка прэзідэнта Беларускай Цэнтральнай Рады. Арганізатар і ўдзельнік II Усебеларускага кангрэса. Пасля эвакуацыі з Беларусі працаваў у структурах БЦР у Берліне. Аўтар некалькіх дзесяткаў артыкулаў, манаграфічных прац па гісторыі і культуры Беларусі. Асноўныя з іх: «У трохсотыя ўгодкі сьмерці Вялікага канцлера Льва Сапегі» (1933); «Падзел гісторыі Беларусі на перыяды» (1938); «Беларусь—Літва—Крывія» (1941); «Тэрыторыя і дагістарычныя насельнікі Беларусі» (1942). Паводле звестак аўтараў зборніка «За дзяржаўную незалежнасьць Беларусі» (Лондан, 1960) у 1945 г. М.Шкялёнак быў арыштаваны савецкімі ўладамі і расстраляны.

## АБ «ТУТЭЙШЫХ»

Тэрмін ґэты добра ведамы беларускаму грамадзянству. І ня толькі беларускаму. Нашыя суседзі, палякі і расейцы, такжа часта яго ўжываюць. Слова «тутэйшыя» мае азначаць тых жыхароў-беларусаў нашага краю, якія не патрапяць адказаць, да якой нацыянальнасьці сябе залічаюць. Калі гэтакіх жыхароў пытаюцца, хто яны — палякі, расейцы, літоўцы, — даецца адказ: «мы не палякі, не расейцы і не літоўцы, мы «тутэйшыя». Той, хто пачуе гэткі адказ, праймаецца грэблівасьцю або літасьцю да людзей, якія гэтак дзіўна азначаюць сваю нацыянальнасьць. Таму тэрмін гэты прыймаецца як доказ адсутнасьці нацыянальнага пачуцьця ў «тутэйшых» і вельмі нізкай ступені іхняга культурнага разь-

віцьця. «Тутэйшых» гатовы зраўняць нават з якімісь дзікімі плямёнамі, каб гэтаму не перашкаджала адносна высокая ступень іхняе матэр'яльнае культуры, з гледзішча якой «тутэйшыя» ня розьняцца ад тых, што ўмеюць назваць сваю нацыянальнасьць. Лічучы «тутэйшых» у сэнсі нацыянальным безкалёрнай масай, бальшыня тых, што з імі зтыкаліся, выказвае думку, што толькі шляхам пашыраньня асьветы з «тутэйшых» можна будзе зрабіць сьведамую нацыянальную масу. І наадварот, кажуць, быццам чалавек, атрымаўшы нейкую асьвету, не ўспамінаючы ўжо аб сярэдняй і вышшай, ніколі ня будзе называць сябе нацыянальна «тутэйшы». Нейкая асаблівая грэблівасьць лучыцца з гэтым словам, грэблівасьць, якой ня чуецца, прыкладам, адносна тых аўтахтонаў нашага краю, каторыя сваю нацыянальнасьць азначаюць, скажам, паводле веры.

Бязумоўна, асьвета можа вельмі прычыніцца да нацыянальнага асьведамленьня «тутэйшых». Але ня кожная асьвета... Расейцы і палякі пашыралі і шыраць, прыкладам, між «тутэйшымі» сваю асьвету і падсоўваюць ім свае нацыянальныя пашпарты, аднак «тутэйшыя» астаюцца «тутэйшымі». Можа, толькі адзінкі з іх «самаазначыліся» нацыянальна і зрабіліся палякамі або расейцамі. Але маса асталася тая самая, чужая для расейцаў і палякоў. Каб выясьніць нашую думку, што ня кажная асьвета можа нацыянальна асьведаміць «тутэйшых», трэба спыніцца над сутнасьцю самога паняцьця «тутэйшасьці», бо яно зусім ня ёсьць такое простае, як гэта на першы пагляд магло б здавацца.

Наўперад трэба сказаць, што «тутэйшыя» спатыкаюцца ня толькі сярод сялянскай або мяшчанскай масы, але і сярод інтэлігенцыі, і, як ня дзіўна, часта з вышэйшай адукацыяй! Афіцыяльная дэкларацыя сваёй нацыянальнасьці, скажам, як польскай, часта яшчэ нічога не даказвае! Я нядаўна спаткаў старога унівэрсытэцкага калегу, з якім разгаварыўся на тэму нацыянальнасьці нашага краю. З гутаркі, між іншым, выясьнілася, што гэтая асоба, асыстэнт унівэрсытэту, з дактаратам, маючая 45 гадоў жыцьця і зьлягка пасівеўшыя валасы, увесь час блыталася ў вызначэньні свае нацыянальнасьці. На пытаньне, чым гэта тлумачыцца, асыстэнт і доктар выясьніў так: «Я аўтаматычна дэкляраваўся паляком, дзе было трэба, а ў душы лічыў сябе заўсёды «тутэйшым». Пазьней я задумаўся над тым, які нацыянальны зьмест трэба ўлажываць у паняцьце «тутэйшы» і прышоў да вываду, што найбліжэйшым да яго ёсьць не паляк або расеец, а толькі беларус. Таму ў вапошніх часох я назваў сябе беларусам, з чаго меў вялікія прыкрасьці». Думаю, шмат хто з беларусаў спатыкаўся з гэткімі праявамі «тутэйшасьці» сярод лічучых сябе палякамі або расейцамі. Моцныя сьляды гэтай «тутэйшасьці» можна было заўважыць у «Przeglądzie Wileńskim» ды і ва ўсіх «краёўцаў». А ці ж уся творчасьць А.Міцкевіча ня сьведчыць аб «тутэйшасьці» яго душы? Наагул, як правіла, можна сказаць, што шмат у каго з тутэйшых аўтахтонаў, нягледзячы на атрыманую асьвету і пададзеную чужую нацыянальнасьць, дзесьці на дне душы блытаецца «камплекс тутэйшасьці», які пры аказіі дае аб сабе знаць.

Дык калі сярод інтэлігэнцыі можна спаткаць «тутэйшых», няма дзіва, калі яны ў значна большай колькасьці спатыкаюцца ў вёсцы або гара-

дзе. А ўжо сам факт існаваньня «тутэйшае» інтэлігэнцыі пакказвае, што да гэтага зьявішча ня можна падхадзіць лёгкадумна.

Наступна, калі сялянская або гарадзкая маса падчырквае сваю «тутэйшасьць», ня можна казаць, што з гледзішча нацыянальнае сьведамасьці яна зьяўляецца зусім безкалёрнай. «Тутэйшая» маса цалкам сьведама адгараджвае сябе ад нацыянальнасьці расейскай, польскай або якойсь іншай. Ужо гэты нэгатыўны бок у вызначэньні сваёй нацыянальнасьці мае вялікае значэньне. Але слова «тутэйшы» мае і пазытыўны зьмест. Яно не тасуецца масай да кажнага, хто прыплёўся ў край і тут жыве. Яно азначае толькі такога жыхара, які зьяўляецца ў поўным сэнсі слова аўтахтонам краю, які зросься з краем і зьяўляецца яго гаспадаром. Ці можна казаць, што даўнейшыя назовы беларускіх плямёнаў як крывічы, дрыгавічы, радзімічы і г.д. маюць глыбейшы сэнс ад слова «тутэйшы»? Або, скажам, назовы польскіх ці ўкраінскіх плямёнаў? Назоў «тутэйшы» ў палякаў або расейцаў выклікае да сябе таму грэблівае адношаньне, што «тутэйшыя» ня хочуць прызнавацца да польскасьці або расейскасьці. Дзеля гэтых прычын «тутэйшыя», з гледзішча нацыянальнае сьведамасьці, стаяць бязспрэчна вышэй ад тых беларусаў, каторыя сваю нацыянальнасьць азначаюць паводле веры. Гістарычна гэты тэрмін такжа зьяўляецца зразумелым. Ведама, што беларусы да канца XVII ст. жылі сваім гаспадарственным жыцьцём і нацыянальна былі цалком сьведамымі, падчыркваючы сваю розьніцу з палякамі і расейцамі. Калі ж беларусы згубілі сваё гаспадарства і амаль дзьве сотні гадоў знаходзіліся ў духовай і фізычнай няволі (утрата сваёй інтэлігэнцыі і прыгон), яны забыліся аб сваёй нацыянальнасьці, аднак шматвяковае самастойнае жыцьцё, відавочна, пакінула свае сьляды ў форме пачуцьця сваей нацыянальнай апрычонасьці ад суседзяў. Маса ня ведала свайго нацыянальнага назову, сваей мінуўшчыны, але дасканальна ведала, што яна не зьяўляецца ані польскай, ані расейскай ці якойсь іншай. Таму і паўстаў назоў «тутэйшы» на азначэньне адвечных гаспадароў тутэйшай зямлі. А калі разросься беларускі нацыянальны рух і масы «тутэйшых» знайшлі ў ім адбіцьцё сваей нацыянальнае індывідуальнасьці, тлумачэньне сваёй мінуўшчыны, сваіх патрэб, яны шырокім рэчышчам улілісяў гэты рух і зьмянілі свой назоў «тутэйшы» на «беларус», «беларускі».

З гэтых разважаньняў бачым, што «тутэйшасьць» зусім не зьяўляецца аж настолькі ўжо паняцьцем прымітыўным, як думаюць некаторыя. Спатыкаюцца «тутэйшыя» і сярод інтэлігэнцыі, а самы гэты назоў з гледзішча азначэньня нацыянальнасьці зусім ня ёсьць такім ужо беззьмястоўным. Ён добра аддае нацыянальную апрычонасьць «тутэйшых» з боку нэгатыўнага («не паляк, не расеец, ні хто іншы») ды мае даволі глыбокі пазытыўны сэнс (адвечны жыхар гэтага краю, яго гаспадар).

Па гэтых увагах вернемся цяпер да пытаньня, шляхам пашырэньня якой асьветы «тутэйшыя» могуць быць нацыянальна асьвядомлены? Адразу для нас робіцца ясным, што ані асьвета польская, ані расейская ня могуць быць асьведамляючым нацыянальна дзейнікам, бо само паняцьце «тутэйшасьці» паўстала як проціўстаўленьне да польшчыны або расейшчыны! «Тутэйшасьць» зусім ня ёсьць tabula rasa, на якой першы-

лепшы можа без перашкод напісаць сваю нацыянальнасьць. Гэта паняцьце азначыла дакладна тое рэчышча, якім мае цячы нацыянальнае асьведамленьне, а нават азначыла яго сутнасьць. «Тутэйшыя» могуць зрачыся свайго назову толькі на карысьць тае нацыянальнасьці, у якой знойдуць сябе. Гэткай нацыянальнасьцю для іх ёсьць нацыянальнасьць беларуская. Усе сьвядомыя беларусы гэта тыя ж «тутэйшыя», толькі асьвечаныя, г.зн., ведаючыя мінуўшчыну і сучаснасьць, патрэбы і мэты «тутэйшых». Калі ўсе «тутэйшыя» асьвядомяцца ў гэтым сэнсі, яны аўтаматычна будуць лічыць сябе беларусамі. І наадварот, пакуль «тутэйшыя» ня будуць ведаць, хто такія беларусы, яны будуць праціўставіцца нават ім! І гэткае іхняе становішча будзе зусім правільным. Бо калі б «тутэйшыя», ня ведаючы, хто такія беларусы, беларушчыліся, тады яны маглі б лёгка палянізавацца або русыфікавацца, а гэткае зьявішча было б надта небясьпечным для беларускага руху. Значыцца, толькі асьвета беларуская можа нясьці «тутэйшым» нацыянальнае сьведамленьне. Польшчына або расейшчына ня могуць іх асьведаміць, г.ё. адкрыць ім, хто яны. Чужая асьвета можа толькі спалянізаваць або зрусыфікаваць адзінкі, так як можа спалянізаваць ці зрусыфікаваць беларуса, літоўца, немца і інш. Правільнасьць гэтай спасьцярогі пацьвярджае і рэчаістасьць. У той час, калі з разьвіцьцём беларускага нацыянальнага руху мільёны тутэйшых назвалі сябе беларусамі, толькі адзінкі іх спалянізаваліся або зрусыфікаваліся.

Дык ня кажная асьвета можа прычыніцца да нацыянальнага асьведамленьня «тутэйшых», а толькі асьвета беларуская. І таму мыляюцца тыя чужыя «культуртрэгеры», якія, лічучы «тутэйшых» у сэнсі нацыянальным нулём, намагаюцца шырыць між імі сваю культуру ды яшчэ выводзяць з «нацыянальнай прымітыўнасьці» тутэйшых свой «маральны» абавязак да пашыраньня гэтай чужой культуры! Гэткая «асьветная» акцыя чужых культуртрэгэраў ёсьць супярэчнай з сутнасьцю самога паняцьця «тутэйшасьці» і зьяўляецца толькі грубым ламаньнем ды нішчэньнем душы «тутэйшага».

Напасьледак скажам некалькі слоў аб тым, як павінна беларускае грамадзянства аднасіцца да «тутэйшых». За прыкладам чужынцаў часта і сярод беларусаў можна заўважыць грэблівы і лёгкадумны пагляд на гэта пытаньне. Падобнае становішча ёсьць недапушчальным з боку беларускага. Трэба ведаць, што «тутэйшасьць» згуляла нязвычайна вялікую ролю ў жыцьці беларускага народу, бо яна абараніла беларускую нацыянальнасьць ад зьнішчэньня ў найгразьнейшым пэрыёдзе яе існаваньня. Дзякуючы «тутэйшасьці» беларускі народ пратрываў гэты час у сваёй гісторыі і дачакаўся адраджэньня, пры якім зьнішчэньне беларускай нацыі ёсьць ўжо немагчымым. Вялікая шкода, што мы так мала ведаем аб «тутэйшасьці» і не маем ніякіх прац на гэту тэму, а ўжо вялікім грэхам з боку беларускага было б успомненае лёгкадумнае адношаньне да гэтага дзейніка, так дасканальна консэрваваўшага беларускую нацыю. За «тутэйшых» беларусы абсалютна ня маюць чаго стыдацца і павінны сьмела аб іх гаварыць, а нават гардзіцца, бо праяў гэты ёсьць доказам

жывучасьці беларускага народу і яго прыроджанага розуму. Дык гістарычна рэч бяручы, ацэнка «тутэйшасьці» беларусамі павінна быць толькі пазытыўная.

А як трэба аднесьціся да «тутэйшых» у сучаснасьці, калі побач з імі разьвіваецца сьведамы беларускі рух? Ці магчыма таляраваць гэты праяў тады, калі ўжо беларускі рух можа пахваліцца вялікімі здабыткамі, калі «тутэйшасьць» як бы замінае разьвіцьцю беларускага руху? У прынцыпе на гэта пытаньне трэба адказаць, што беларусы павінны імкнуцца да «ліквідацыі» тутэйшасьці. Аднак, у залежнасьці ад абставінаў, тактыка тут павінна быць розная. Там, дзе сярод «тутэйшых» ёсьць досыць беларускіх сілаў і магчымасьцяў, там трэба весьці беларускую асьведамляючую акцыю «поўнай парай». У тых жа «тутэйшых» асяродках, дзе беларусы, з прычын, ад волі іхняй незалежных, ня могуць весьці асьведамляючай акцыі, дзе не даходзіць ніякае беларускае друкаванае слова, там тактыка беларуская павінна быць іншай. Там неабходна падтрымоўваць «тутэйшасьць», проціўставіць яе чужым нацыянальным уплывам. У гэткіх асяродках «тутэйшасьць» і ў сучаснасьці павінна згуляць тую ж ролю консэрватара беларускай нацыі, якую згуляла ў гісторыі. «Тутэйшасьць» трэба падтрымоўваць там датуль, пакуль ня зьявяцца магчымасьці беларускай працы ў гэтых асяродках.

Урэшце там, дзе ані беларускай асьведамляючай акцыі, ані «тутэйшых» няма, а людзі, гаворачыя па-беларуску або сапсутай беларускай мовай, азначаюць сваю нацыянальнасьць паводле веры, там трэба імкнуцца да стварэньня «тутэйшага» руху. Найбольш гэткіх асяродкаў ёсьць у нашых гарадох. Паўстаньне «тутэйшага» руху ў гэткіх мясцох дасьць мацнейшыя фундамэнты да беларускай асьведамляючай працы, чымся безпасрэдная беларуская акцыя.

З усяго гэтага вынікае, што наагул беларускі рух павінен уключыць у свае рамы і рух «тутэйшы» ды заапякавацца апошнім. Гэта магутны саюзьнік, якога ніяк лёгкаважыць ня можна. Таму неабходна, каб нашае грамадзянства больш зацікавілася гэтай справай, каб у нас зьявіліся навуковыя працы аб «тутэйшых». Квэстыя ўзаемаадносінаў між беларусамі і «тутэйшымі», інакш квэстыя тактычнага падыходу беларусаў да «тутэйшых», патрабуе такжа абдуманьня, бо неразважная тактыка можа больш пашкодзіць, як прынесьці карысьці. Дзякуючы гэтай неразважнай тактыцы, маем часта гэткія прыкрыя выпадкі, што ў ваднэй вёсцы ёсьць беларусы і «тутэйшыя» і ніяк дагаварыцца ня могуць. «Тутэйшыя» лічаць беларусаў партыяй, як прыкладам ППС, камуністаў і г.д. А ўсё дзякуючы няўмеламу падыходу мясцовых беларусаў. У гэтую беларускую «партыю» «тутэйшыя» ня хочуць уступаць! Калі на «тутэйшасьць» бел. грамадзянства зьверне большую ўвагу, тады выясьняцца і найлепшыя шляхі, каторыя прывядуць да поўнага ўліцьця «тутэйшага руху» ў беларускі.

*1939*

**Усевалад ВЕРАС**

Прапанаваны тэкст быў выдадзены ратапрынтным спосабам у форме невялікай брашуры без указання месца і года выдання. Гэта адпавядала патрабаванням нелегальнай публіцыстыкі, у сувязі з чым і прозвішча аўтара можна лічыць псеўданімам. Усё ж загадкавасць выдання, прынамсі часткова, расшыфраваць можна. Аўтар згадвае пра перамогу Германіі над Францыяй (чэрвень 1940) і спадзяецца на разгром СССР, а гэта значыць, што брашура выйшла ў другой палове 1940 ці ў першай палове 1941 г. Верагодна, была яна выдадзена ў Берліне, на што паказвае якасць паперы, аналагічная ратапрынтным выданням Берлінскага аддзела Беларускага камітэта самапомачы.

«Як створым нашую сілу» — гэта тыповы для нямецкага нацыянал-сацыялізму і італьянскага фашызму пераказ асноў філасофіі грамадскага станаўлення, асноўным арыенцірам якой былі ўласныя сілы, а не спадзяванні на знешнюю падтрымку. На фоне адвечнай арыентацыі на ўсход і на захад такія канцэпцыі слаба ўсведамляліся беларускім грамадствам, для якога фашызм асацыіруецца амаль выключна з жудасцямі нямецкай акупацыі.

Хто быў аўтарам тэксту — пытанне менш істотнае. Мог ім быць Фабіян Акінчыц ці іншы тэарэтык руху беларускіх нацыянал-сацыялістаў. Усё ж узнікае пытанне: чаму ў такім выпадку трэба было канспіраваць публікацыю? Адказ просты. З восені 1939 да 22 чэрвеня 1941 г. Германія пазбягала ўсяго, што магло б пашкодзіць яе адносінам з Савецкім Саюзам.

## ЯК СТВОРЫМ НАШУЮ СІЛУ

Беларускі Народ, выходзячы з цёмры свайго двухвяковага сну, апынуўся раптоўна ў віры няспадзяваных і новых для яго зусем падзеяў. Схопляны магутным цёкам гісторыі, непрыгатаваны яшчэ да новых умовінаў, амаль што бязрадна пачаў глядзець на ўзрост новых, ніколі ня бачаных ідэяў. Жудаснаю і чужою выдалася яму гэтая перамена даўных, дэцыдуючых у жыцці вартасьцяў, ня раз, можа, думаў затармазаваць свой ход, затрымацца ў знаемым прошлым, але там яшчэ большаю жудою палохала неабмінаямая судзьба народаў бяз волі поступу за ўсялякую цану наўперад, народаў, зьвяўшых на лаўравых вянках сваіх нязьдзейсьняных ідэяў, гістарычная сьмерць і няшчаднае вычыркнянне з залатой табліцы будучыні.

Беларускі Народ гэтага не хацеў, ён рашуча кінуўся у вір падзеяў і слабою яшчэ пасьля летаргу рукою пачаў здабываць сабе ў цяку адно з перадавых месцаў. Але перамена вартасьцяў, перамена ідэяў змусіла яго датарнавацца да сябе. Ён убачыў, што сіла мерыцца цяперака ў іншых адзінках, што змаганьня сусьветныя імкнуцца да іншых мэтаў, чым перад стагодзьдзямі, калі Беларусь дэцыдавала ў выбары кірунку імкненьняў.

На чало выйшлі волатныя кагорты маладых народаў і ламаюць сталёвымі ўдарамі краты вастрогаў сваіх бацькоў. На плошчу гісторыі выходзяць магутныя сьцягі прапаведнікаў новых ідэяў, і перад імі корыцца плеяда старых багоў — камплекс знішчаны векам і доўгім безкарысным жыцьцем праў быту. Творыцца маладая Эўропа маладых народаў, здаровае жыцьцё будучыні на развалінах мінуўшчыны, спавітае кужалям безкарыснасьці, вырасшай з сокаў жывучых у прыгоне народаў. Гэта бунт маладой сілы супроць безпачуцьцевага ўвяду сьвету, а галоўна Эўропы.

У чым жа ляжыць гэтая сіла? Скуль бярэцца магутнасьць народаў-змагароў, народаў-пераможцаў?

Ці дэцыдуе тутака лікавітасьць народу? Возьмям, прыкладам, Кітайцаў — найбольшы на сьвеце народ, 400 міл. жыхароў, а валіцца, гіне памалу пад ударамі болей як у дзесяць разоў меншага Японскага народу. Альбо Гіндусы — мала меншыя за Кітайцаў, а мучаюцца пад ангельскім прыгонам столькі ўжо гадоў і ня могуць здабыцца на самастойнае жыцьцё.

А з другога боку паставім малесянькі народ Фінаў — 4 разы меншы за беларускі, а здолеў 3 месяцы рэзультатна барацца з агромістымі, але бязсільнымі Саветамі і ў рэчаістасьці ня быў пераможаны.

Чаму гэта так дзеіцца? Бо сіла народу ляжыць не ў яго ліку, а ў зьвертасьці ў задзіночаньні ідэяў, у руплівасьці і ў роўнасьці усех. Кітайцаў шмат, але яны бяз ніякае ініцыятывы, бяз собскае волі — імі кіруе жменька людзёў болей сьведамых, але ня могуць яны ў разленівеўшы, бязідэйны народ уліць столькі сілы, каб даць адпор руплівым, злучаным у імкненьні да аднае мэты Японцам.

Гэтаксама сварлівыя Гіндусы таму цярпяць прыгон, што ня могуць паміж сабою пагадзіцца ў рэлігійных справах, а па другое, на перашкодзе да аднадумства стаяць вялізарныя розьніцы матар'яльныя — большая частка народу цярпіць голад і нават вопраткі ня мае тады, калі некалькі дзясяткаў «раджаў» мае да свае дыспазыкі мільёны грошай, тысячы службы і па некалькі прабагатых палацаў і, замест рупіцца аб свой народ, жывуць у згодзе з ангельцамі.

Зноў жа Фіны — гэта народ, каторы называюць ваўкамі: ён вырас у барацьбе з прыродаю і з сільнейшымі суседзямі, спакойны, стойны, злучаны ў імкненьні да аднае мэты — дабра свае дзяржавы. Ён чуе ў сабе сілу, бо ведае, што ў патрэбе ўсе стануць у шчыльных радах і скарэй згі-

нуць, чымся адступяцца шаг узад. І даказалі ў барацьбе з Саветамі, што гэта праўда.

Значыцца, лікавітасьць народу ня гуляе тутака ролі, дык, можа, сілу творыць абшар народам ці яго дзяржавай займаны? І ўзноў жа не. Гэныя самыя Кітайцы гэта ж насупроць Японцаў, як кот пры мышы, а нічога зрабіць ня могуць. А возьмям Палякоў — як жа яны хваліліся сваею дзяржаваю, як шырака сунулі лапы па новыя яшчэ землі, і што ж — ў тры тыдні і сьледу з іх не засталося. Бо Палякі ўсысалі ў сябе чужыя землі, як павук разселіся на паняволяных народах ды яшчэ і паміж сабою сварыліся, хапіла толькі піхнуць, каб гэты штучны ўтвор разсыпаўся.

А вялікая Румунія, а грамадныя Саветы, ці ж гэта ня тое самае, і яны жывуць толькі да мамэнту, пакуль хто не піхне альбо самыя паняволяныя народы карэньняў не падкапаюць.

А узноў жа гэдакая Японія не баіцца, што яе хто-небудзь разаб'е, падзеліць, бо там жыве адзін толькі народ; народ не падзеляны ніякімі розьніцамі, ці то клясавымі, ці то грамадзкімі. Там няма ваюючых гостра з сабою партыяў, а наадварот, усе лучацца ў адну вялікую партыю, працуючую для дабра свайго народу.

Заўсёды на меншай плошчы лягчэй зарганізаваць дзяржаўнае жыцьцё, бо блізка ад кармуючага цэнтру да найменшых гранічных пастоў, і гэдакую дзяржаву лягчэй і бараніць, і гаспадарыць у ёй.

Можа, у гэдакім выпадку крыніцай сілы зьяўляецца багацьце народу? Можа, колькасьць дабытых мільёнаў тон вугля, жалеза, медзі, можа, запас золата ў падзямельных банкавых схоўках падтрымоўвае гэтую сілу?

Але прыкладам возьмям Францыю. Яна ж са сваімі калёніямі тварыла адзін з найбагацейшых краёў сьвету і, хаця стаяла побач з багацейшай яшчэ Англіяй, мусіла пакарыцца перад шмат бяднейшай, бо аграбленай з калёніяў Нямеччынай. Наадварот, гэтае надмернае багацьце зьніштожыла францускі народ, бо ў цяжкім мамэнце, калі ўсё трэба было аддаць, нават жыцьцё сваё ў абароне бацькаўшчыны, ён ня змог адарвацца ад гэтых сваіх багацтваў і пайсьці на фронт, баяўся, што іх страціць, а не разумеў, што, баронячы дзяржаву, бараніў бы разам і сваю маёмасьць.

Дык вось разгледзелі мы тры дзейнікі, каторыя пазорна маглі б тварыць сілу народаў, а пайменна: лікавітасьць народу, абшар ім займаны і багацтва. У рэзультаце ўбачылі, што ня ў іх вялічыні зьмяшчаецца гэтая сіла. Дык дзе ж яе шукаць? Дзе зьмяшчаецца гэтая бязупынная творчая энэргія, гэтая нязломная воля перамогі?

Калі глянуць на народы, каторыя, бязумоўна, гэтакаю сілаю цяпераka дыспануюць — на маладую Нямеччыну і Італію, дык адказ знойдзям толькі адзін — у народзе. Толькі воля і дзейнасць народу можа даць гэтую бязсупярэчную магутнасьць, але павінен народ адказываць шмат якім умовінам.

Культура, навука, багацьце народаў творыцца працай адзінак. Гэтаксама і сіла. Толькі на ўвеце трэба мець адно: каб кожная адзінка перад собскім дабром паставіла заўсёды ў найболей крытычным выпадку дабро сваяе нацыі і сваяе дзяржавы. Трэба, каб грамадзкая этыка адзінкі стаяла гэтак высака, каб гатовая была да найбольшых ахвяр дзеля дабра грамады — нацыі.

Але мала яшчэ самае ахвярнасьці адзінак. Каб яна дала вонкавы, відавочны эфэкт, мусіць быць злучаная з мільёнамі гэтакіх ахвярнасьцяў — мусіць тварыць ахвярную грамаду, ахвярны цэлы народ, мусіць быць выпрацаваная ідэя працы і канцэнтрацыі яе і ўсех творчых сілаў для агульнага дабра.

І тутака ўжо ня можна сказаць, што я за добрае лічу гэтае, хоць ты лічыш тое зусім што іншае — тутака зразуменьне дабра мусіць быць у ўсех аднолькавае; ня могуць тварыцца розныя групы і гурткі, каторыя сабе абапал супярэчылі б, бо гэта было бы нязьмерна шкоднае. Возьмям рэч чыста матэматычна: калі да сілы, скіраванай у адзін бок, далучым сілу з адваротным напрамкам, то іх ход альбо затармазуецца альбо зусем спыніцца. Гэта так, як да возу прыпрэгчы з кожнага боку аднаго каня і пагнаць разам — перацягне сільнейшы, але з якою натугаю сілаў.

Дык вось жа трэба сабе ясна сказаць, што *ўсё тое добрае, што добрае для сілы і разьвіцьця маяго народу, усё тое благое, што гэтую сілу і разьвіцьцё аслабляе альбо ніштожыць.*

Вось мы разгледзелі адную складавую сілы народу: цэлая нацыя творыць адну вялікую грамаду, каторае дабро ставіцца перад дабром адзінкі. Ня могуць існаваць ніякія партыі і старонніцтва, бо яны сваркамі паміж сабою аслабляюць сілу народу.

Далей, калі, прыкладам, у гаспадарцы знойдзецца такі сын, каторы не захоча ні сеяць, ні гараць, то частка поля ляжыць папарам, бо не хапае рук яе абрабіць, і тагды сям'я альбо прымусіць дармаеда працаваць, альбо яго вон з гаспадаркі выганіць, бо ён ня толькі выкарыстоўвае працу другіх, але і дэмаралізуе акружаньне. Гэтаксама і ў народзе — ніводзін чалавек ня можа жыць безкарысна для грамады, і ніхто ня можа карыстаць дарэмна са здабытых грамадою добраў.

Мернікам вартасьці для агулу кожнай адзінкі мусіць стацца яе праца, бо толькі той стаіць на высокім ураўні этычным і заслугоўвае на апеку цэлага народу, хто трудом свайго жыцьця здабудзе сабе супакойны быт і пашану сярод другіх. Гэдак ня можа быць ў народзе групы людзей, каторыя карысталіся б працай другіх. Згінула Масква цароў, бо жыла з нялюдзкага прыгону сялян і работнікаў; завалілася Польшча, бо ўтрымлівала коштам загнобленых Беларусоў, Украінцаў, Немцаў свору ўрадавую і паліцыйную; прападзе з паверху зямлі бальшавіцкая, здэмаралізаваная Масква, бо крывавым потам і сьлязамі горкімі сучасных нявольнікаў, у нялюдзкі спосаб ніштожаных народаў — Беларусоў, Украінцаў, Фінаў і

шмат, шмат іншых корміць сваіх новых цароў — камісараў, жыдоўскіх агітатараў і катаў.

Гэта другая складавая сілы — кожная адзінка мусіць бязумоўна сумленна працаваць, праца чалавека павінна сьведчыць аб яго вартасьці. Але ня толькі самая малынальная праца ставіцца як прынцып жыцьця і сілы народу, павінна паўстаць індывідуальная і грамадзкая воля працы, бо воля заўсёды родзіць чын, дзейнасьць, а дзейнасьць — гэта зарука існаваньня народу.

Трэцяю, творачаю сілу народу складавою ёсьць індывідуальная і грамадзкая сьведамасьць. Кожная адзінка мусіць быць сьведамая мэты сваіх імкненьняў і мэтад здабываньня дабра для нацыі і пакаленьняў. Мусіць знаць падрабязна сваю ролю ў агромістай машыне грамадзянскага жыцьця і мусіць ведаць, якую вартасьць прадстаўляе яна сабою, сваёю працаю для грамады, а гэдаксама, чаго ў якіх выпадках можа грамада ад яе патрабаваць.

Значыцца, адзінка мусіць мець поўную веду сваіх пачынаньняў грамадзкіх і веду каардынацыі, тарнаваньня іх да дзейнасьці ўсех. Зразумела, што ўсё гэта будзе грамада самая пры помачы адносных дзейнікаў накіроўваць, але тым ня меняй павінна існаваць і сьведамасьць адзінкі, каб ня было ніякіх зудыраў і незразуменьняў. Толькі сьведамая мэтай ў працы адзінка можа карысна і рэзультатна працаваць.

А да гэтага заўсёды ў кожнай грамадзе мусіць побач сьведамасьці адзінкі існаваць сьведамасьць грамадзкая, каторая дапаўняе сьведамасьць індывідуальную і творыць з ёю адну суцэльнасьць. Гэдаксама і ў народзе.

Народная сьведамасьць — гэта пачуцьцё сілы; народ сьведамы чуецца сільным, і наадварот, народ запраўды сільны мае сьведамасьць свае вартасьці. Сьведамасьць народу вырабляецца і ўтрымоўваецца пры пазнаваньні свае мінуўшчыны, свае культуры, свае ролі сярод іншых народаў, сваіх маральных вартасьцяў і сваіх імкненьняў ў будучыні пры разбудоўваньню свайго дабрабыту.

Народ, каторы мае гэдакую веду, можа крытычна зраўняць сваю вартасьць з вартасьцямі бліжэйшых і дальшых сусядоў і стойка стануць на адпаведнай сабе ступені, з каторае ўжо ніколі не адступіцца. Гэта будзе сіла — сіла гарла ў сваём гнязьдзе.

Але як мурашкі ў хвіліну небязьпекі ў першай чарзе рупяцца аб сваім патомстве і ратуюць наўперад яечка і куконы, ня думаючы аб сабе, гэдаксама і кожны разумны народ найболей рупіцца аб апецы і выхаваньні наступнага пакаленьня. Моладзь творыць заўсёды авангарду і перадоўжэньня ўсіх ідэяў, імкненьняў і прац, а гэдаксама перадоўжэньня сілы. Таму, што калі б кожнае пакаленьне не стаяла на вышэйшым ураўнічым за папярэдняе, то ня было бы зусім інтэлектуальнага і цывілізацыйнага поступу; дык заўсёды стараньня сільных народаў ідуць

у кірунку пашырэньня і разбудовы сваіх ідэяў і сьветагляду ў душах моладзі. Гэдак творыцца разрост сілы.

Вось жа трэба старацца стварыць моладзі гэдакія ўмовіны фізычнага і культурнага разьвіцьця, а пры гэтым так добра зарганізаваць цэлую сыстэму асьветную народу, каб быць пэўным, што выхаваецца ў 100 процэнтах вартасных спадкаемцаў свае сілы. Зарганізаваная, здаровая і сьведамая сваіх заданьняў моладзь — гэта зарука сілы народу ў будучыні.

Разгледзілі мы чатыры галоўныя мамэнты, якія, злучаныя з сабою і ўведзяныя ў жыцьцё, створаць бязумоўна сільны і здаровы народ, народ будучыні. Перад гэтымі чатырма дзейнікамі заўсёды склоняцца і ўступяць шмат большыя народы, шмат большыя краі і шмат багацейшыя дзяржавы. А калі не ўступяць, то гэнымі дзейнікамі абаружаны народ заўсёды пакорыць сабе і змусіць скланіцца ўсе другія.

Найлепшым прыкладам могуць быць Нямеччына і Італія. Гэта народы, каторыя пасьля свайго заняпаду адрадзіліся, стварылі новы быт, абапёрты на вышсказаных прынцыпах, а пайменна: адна адзіная партыя, зложаная з цэлага народу, стаўляючая дабро нацыі перад усім; грамадзкая ідэя і воля ахвярнае працы для дабра народу; народная сьведамасьць свае сілы і сваіх імкненьняў; сьведамая, у сваёй юнасьці ўжо магутная моладзь.

Маючы ў запасе гэдакія народныя ідэалы, гэныя народы з цьвёрдаю пэўнасьцю няўхільна ідуць да аканчальнае перамогі, каб стварыць жыцьцё будучыні на новых правах, а на першы плян стаўляюць дабро свайго народу.

І ня толькі яны, бо ўжо на гэных самых ідэалах творыцца сіла і ў другіх народаў: Гішпаніі, Фінляндыі, Грэцыі, апошнім часам ў Нарвэгіі, ну і ў народзе, каторы нам найбліжэйшы, бо мае супольныя імкненьні да барацьбы супроць супольнага ворага, — Украінцы.

Добра, як жа мы маем да гэных падзеяў аднесьціся, калі хочам выбіцца на перадавыя месцы ў цяку гісторыі?

Адказ ёсьць толькі адзін: тварыць сілу. Мусім на разгледжаных прынцыпах збудаваць належную нам магутнасьць. Трэба нам стварыць у нетрах свайго народу зразуменьне гэтых дзейнікаў і стварыць іх жа, каб магчы сваёю зарганізаванасьцю і воляй здабыць належны сабе пасад між іншымі народамі.

Трэба, каб кожны Беларус здабыўся на ахвярнасьць дзеля супольных мэтаў, каб свае думкі, свае імкненьні злучыў з думкамі і імкненьнямі другіх, каб нават уступіў у некаторых мамэнтах, калі другі не дасца пераканаць і ўступіць, а калі гэта для дабра справы будзе патрэбнае. Каб усе злучылі працу сваю ў адным — барацьбе за лепшую долю Беларускага Народу, а корам працы аддалі ў рукі пакліканых да гэтага людзей.

Ня можа быць у нас разломаў. Адна, моцная, шчыльна зьвертая грамада — гэта зарука сілы.

Працы мы не баімося: мы вырасьлі ў гэткіх умовінах, дзе толькі цяжкая праца магла нам даць магчымасьць жыцьця. Выкарыстоўваныя з аднаго боку Польшчай, з другога царскаю ці бальшавіцкаю Масквою, прывыклі мы працаваць шмат, шмат болей, чым нам трэба было, прывыклі галадаць пасьля цяжкай працы, бо апошняе альбо на падаткі аддалі, бо трэба было Гдыню будаваць, альбо забралі ад нас таварышы камісары, каб іх дзеткі — Міцькі ці Срулькі — мелі ў Маскве што есьці, а што нашыя з голаду пухнуць, дык гэта не бяда.

Але мусім мы гэную пасьвяціць толькі для сябе, толькі для сваіх мэтаў, аддаць свае сілы і свой труд толькі свайму народу; надыйшла хвіліна, калі ўсе супольна м у с і м   б у д а в а ц ь   с в а ю   с і л у. І тутака ня можа быць адзінак, каторыя стануць сабе збоку і будуць ўглядацца, як другія працуюць, не, усе мусяць працаваць хаця бы на найніжшых становішчах, бо пасьля ўсе будуць рэзультатамі гэнае працы карыстацца. Часта трэба нават зракціся сваіх собскіх амбіцыяў, бо толькі праца і змаганьне пакажуць бязсумніўна, якую вартасьць каторая адзінка мае, і яна адпаведна разьдзеліць усем месцы. А заўсёды той чалавек балей вартасны, каторы сваім дзеяньням вартасьці сваёй дакажа.

І з працы ахвярнай усех створыцца аграпатэнцыял сілы народу, з каторым пачнуць лічыцца ўсе.

Далей, мусім падыймаць сваю народную сьведамасьць, мусім пашыраць веданьне свае культуры і гэтым самым падымаць культуру адзінак і народу. Беларус павінен ведаць, якія мэты ставіць сабе цэлы народ, якія імкненьні ён мае і чаму гэдакія, а ня іншыя. Кожны Беларус, а гэтым самым і цэлы народ, мусіць умець адрожніваць добрае ад благога ў нацыянальным зразуменьні, ведаць, да чаго мусіць імкнуцца, а што павінен абмінаць. Ня можна пазволіць думкам блукацца ў цёмры няпэўнасьці, а паддаць ім зразу здэцыдаваны цёк. Зноў жа сваю культуру, гісторыю і адносіны да другіх народаў трэба знаць дзеля здабыцьця пэўнасьці палітычнай — сьведамасьці грамадзкіх і палітычных імкненьняў. Народ мусіць быць супольнікам у жыцьці палітычным дзяржавы, а каб да гэтага дасьпеў, мусіць быць адказна сьведамы.

І ўрэшце, агромістую ўвагу мусім зьвярнуць на выхаваньне моладзі. Мусім выхоўваць сваіх спадкаемцаў ад наймалодшых гадоў аж да апошніх дзён студыяў акадэмічных. Гэтае выхоўваньне мусіць быць зарганізаванае — павінна стварыцца адна агульная арганізацыя маладога руху, каторая накіроўвала бы думкі і пачуцьці моладзі ў найлепшых напрамках і ў першую чаргу дэфіньявала бы ёй патрэбы і мэтоды працы для дабра народу. Сьцягі адпаведна прыгатаванай і зарганізаванай моладзі прадаўжалі б нашыя ідэі і нашую працу ў вольнай, самастойнай дзяржаве і арганізавалі б жыцьцё вольнага народу. Яны луналі бы нашую сілу на вонкі. М о л а д з ь   —   г э т а   с і л а   н а ш а й   б у д у ч ы н і.

Апрача гэтага, трэба асьвету ўжо ад сяньняшняга дня гэдак паставіць, каб уравень культуры будучых пакаленьняў быў заўсёды вышшы ад сяньняшняга.

Каб да ўсіх гэтых мэтаў дайсьці, трэба дыспанаваць сілаю. Гэтую сілу за ўсялякую цану мусім супольнымі сіламі здабыць, а да гэтага трэба мець наступныя дадзеныя:

1. кожная адзінка мусіць перад сваім собскім дабром паставіць дабро народу;
2. ахвярнасьць для народу мусіць быць дэвізаю кожнага Беларуса;
3. ніхто ня можа астацца за навесам працы для народу;
4. кожная адзінка мусіць быць сьведамая сваіх і агульных заданьняў;
5. пазнаць родную культуру і падняць культуру духовую і матэрыяльную адзінкі;
6. зарганізаваць, выхаваць і вывучыць моладзь;
7. злучыць сваю волю ў адзін магутны ідэал — ідэал барацьбы за будучыню цэлага народу;
8. бяз огляду на ўмовіны і насьледкі рэалізаваць этапы гэтае барацьбы аж да перамогі і здабыцьця найвышэйшага дабра — самастойнае дзяржаўнасьці.

*[1940 — першая палова 1941]*

## Уладзіслаў КАЗЛОЎСКІ
(1896—1943)

Паэт, публіцыст, перакладчык, палітычны, грамадскі і культурны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Залессе на Беласточчыне. Вучыўся ў Віленскай каталіцкай семінарыі (1916—1919). Тады ж далучыўся да беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху. Пры Цэнтральнай беларускай радзе Віленшчыны і Гродзеншчыны закончыў настаўніцкія курсы. Прымаў удзел у арганізацыі беларускіх школ у Сакольскім павеце. З 1919 г. у беларускіх палітычных і культурна-асветных арганізацыях. Уваходзіў у кіраўніцтва Беларускай сялянскай партыі, працаваў інструктарам мінскага Беларускага нацыянальнага камітэта, арганізоўваў культурна-нацыянальнае і кааператыўнае жыццё ў Ігуменскім павеце на Міншчыне. Вясною 1920 г. адкамандзіраваны Беларускай вайсковай камісіяй у Варшаўскую школу падхарунжых. З 1921 г., пасля расфарміравання Беларускай вайсковай камісіі і арганізаваных ёю беларускіх вайсковых фарміраванняў, служыў у польскім войску. У 1930 г., па звальненні ў запас, пераехаў у Вільню. У віленскі перыяд актыўна займаўся грамадска-палітычнай, культурнай і літаратурнай дзейнасцю. Асаблівую ўвагу звяртаў на спорт і фізічнае выхаванне беларускай моладзі. З гэтай мэтаю арганізаваў гімнастычнае таварыства «Гайсак», шырока выступаў у беларускім перыядычным друку з артыкуламі, прысвечанымі фізічнаму развіццю моладзі. Сакратар Беларускага нацыянальнага камітэта і Цэнтральнага ўрада Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Адзін са стваральнікаў і кіраўнікоў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі. У 1933—1937 гг. — выдавец і рэдактар яе друкаванага органа — часопіса «Новы шлях». З 1941 г. у Мінску. Супрацоўнічаў з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Рэдактар «Беларускай газэты» (1942—1943). На правах сябра ўваходзіў у склад кіраўніцтва Беларускай народнай самапомачы. Забіты партызанамі ў Мінску.

### НАЦЫЯНАЛЬНАСЬЦЬ І РЭЛІГІЯ

Кожны чалавек належыць да тае ці іншае нацыі, да тае ці іншае расы. Падзел людзтва на расы і нацыі зьяўляецца вынікам кліматычных і грамадзка-палітычных розьніцаў у паасобных частках зямное кулі.

Нацыя — справа прыродная, нацыя пэўнага чалавека вызначаецца яшчэ ў улоньні маткі, з крыві ягоных бацькоў. Калі хто, прыкладам, нарадзіўся з бацькоў-беларусаў, дык як бы ён ні гадаваўся, як бы ні быў ашукваны, а усё-ткі па крыві ён беларус. Праўда, праз узгадаваньне

змалку дзён можна ашукаць чалавека, угаварыць яму, што ён ёсьць іншай нацыі. Але дарослы чалавек павінен пазнаць нацыі сваіх бацькоў і ня быць вырадкам свайго народу.

Рэлігія — гэта справа ня крыві ці расы, а гэта справа нашай думкі, нашага філёзофічнага сьветапогляду.

Так як кожны сьветапогляд пад уплывам розных навук можа мяняцца, таксама можа чалавек і зьмяніць свае рэлігійныя пераконаньні, як кажуць, зьмяніць рэлігію. Зьмена рэлігіі ня робіць ніякага ўплыву на паходжаньне чалавека, на ягоную нацыянальнасьць. Калі паляк прыйме праваслаўную веру, ён далей застаецца паляком. Калі рускі прыйме каталіцкую веру, ён застаецца рускім, калі жыд ахрысьціцца, ён усё роўна застаецца жыдом, ён зьмяніў толькі сваю веру, а ад гэтага ня можа зьмяніцца ягоная жыдоўская душа, ягоная асаблівая расовая розьніца. Ну, разумеецца, і кожны беларус, якой бы ён ні быў веры — ці каталіцкай, ці праваслаўнай, ці якой іншай, — усё роўна ён застанецца беларусам, бо ў ягоных жылах цячэ беларуская кроў.

Кожны разумны чалавек ведае, да якой ён належыць нацыі, і шануе сваю родную мову. Ня робяць гэтага людзі, якія не шануюць саміх сябе, якія пад уплывам агітацыі загубілі цьвярозую думку.

Як ня брыдка, але трэба прызнацца, што такія зьявы здараюцца і ў нас, ды ня толькі на правінцыі, але і ў самым Менску. Некаторыя, можна сказаць, яшчэ цёмныя людзі мяшаюць нацыю з рэлігіяй. Прыкладам, беларус-каталік часта сябе называе палякам, толькі дзеля таго, што ёсьць каталікам, а беларус-праваслаўны называе сябе рускім толькі таму, што ёсьць праваслаўным.

Такія людзі вельмі мыляюцца і выяўляюць сваю някультурнасьць і сваю цемру.

Каталікамі ёсьць французы, немцы, палякі і шмат іншых народаў, таксама як і праваслаўнымі ёсьць ня толькі расейцы, але і сэрбы, баўгары, румынцы і іншыя. Ніколі ня прыдзе ў галаву каму-небудзь з гэтых народаў памяшаць сваю рэлігію з нацыяй. Усе яны ведаюць, хто яны, і моляцца ў сваёй роднай мове.

Чаму так сталася, што шмат беларусаў паблытала рэлігію з нацыяй і моляцца ў чужой мове?

Гэтая зьява ёсьць вынікам варожых дзейнікаў, якія аддаўна дзеюць на нашых землях на душы нашага народу. Дзейнікамі гэтымі была супроцьбеларуская палітыка Польшчы і Расеі.

Расея выкарыстоўвала праваслаўную веру для русыфікацыі беларусаў, а Польшча — каталіцкую веру для полёнізацыі.

Пасьля вуніі нашага краю з Польшчай польскія біскупы пасылалі на Беларусь сваіх ксяндзоў для распаўсюджаньня каталіцкай веры. Каб гэтыя польскія ксяндзы мелі на ўвазе толькі дабро рэлігіі, дык яны павінны б былі наперад навучыцца беларускай мове і тады ў гэтай мове пашыраць на Беларусі свой каталіцкі сьветапогляд. Але іхнай мэтай было

адначасна з каталіцтвам пашыраць палітычныя імкненьні Польшчы. Яны хацелі апалячыць усіх беларусаў. Дзеля гэтага каталіцкую веру яны называлі польскай верай і вучылі беларусаў у польскай мове малітваў, называючы мову беларускую мовай простай. Гэткім чынам, на Беларусі каталіцкая вера ня была сапраўды каталіцкая, міжнародная, як павінна было быць нармальна. У нас яна была палітычнай верай Польшчы, была дзейнікам полёнізацыі беларускага народу.

Усё вышэй сказанае пра каталіцкую веру трэба аднесьці і да веры праваслаўнай, якая была на паслугах расейскай палітыкі, была верай маскоўскага імпэрыялізму.

Вось дзеля гэтай прычыны і маем мы аж да сёньняшняга дня тое, што ў касьцеле сядзіць польскі ксёндз, а ў царкве — расейскі сьвяшчэньнік. Яны і цяпер яшчэ хочуць весьці сваю даўную палітыку.

Але гэта ўжо ім ня ўдасца. Ужо абудзіўся даўно беларускі народ, ужо ня дасьць весьці сябе за нос чужынцам. Калі каму з беларусаў патрэбны ксёндз, дык ён мусіць быць толькі беларус. Калі другому зноў патрэбны праваслаўны сьвяшчэньнік, гэты апошні мусіць быць таксама толькі беларусам.

З царквы мусіць быць выгнана расейшчына, а з касьцёла — польшчына.

Тым жа цёмным беларусам, якія яшчэ і цяпер не пазбыліся палітычна-рэлігійнай чмуты і называюць сябе рускімі толькі дзеля таго, што зьяўляюцца праваслаўнымі, або польскімі дзеля таго, што зьяўляюцца каталікамі, пара апамятаццца і не асьмешваць сябе.

*1941*

## СТАРЫЯ ПРЫВЫЧКІ

Расейскія царскія чыноўнікі, дарма што былі пераважна рэлігійна індыфэрэнтнымі ці нават нігілістамі, паддаваліся ў некаторых рэчах цалкам пад уплыў маскоўскага праваслаўнага духавенства, якое пад поглядам культуры й сьветапагляду стаяла на даволі нізкай ступені. Усе гэтыя чыноўнікі разам із расейскім духавенствам уважалі, што добрым расейцам можа быць толькі праваслаўны. Гэта самае яны прытарноўвалі да беларусаў і ўкраінцаў, якіх залічалі да «общерусского» народу.

Думаючы гэткімі прымітыўнымі катэгорыямі, яны чыстакроўных беларусаў, якія вызнавалі каталіцкую веру, залічалі да палякаў, і толькі тады, калі гэткі «паляк» прыймаў праваслаўе, — ён раптам рабіўся ў вачох гэтых чыноўнікаў расейцам, ці «тоже белорусом».

Гэтак царкоўнае крапіла, паводле «розуму» царскіх тупіцаў, цудоўна ўплывала на біялёгічную зьмену чалавека, пераробляючы яго з «палякаў» у «расейцы».

Спадкаемцы царызму — бальшавікі шмат чаго пераянялі ад яго ў спадчыне. Насамперш яны бралі тое, што памагала ім далей праводзіць маскоўскую «общерусскую» палітыку.

Пагляд, што каталік ёсьць паляк, бальшавікамі ня быў разьвеяны, ды й больш таго, яны рабілі высновы з гэтага. Прыкладам, увесь Койданаўскі раён у Меншчыне, выкарыстоўваючы польска-касьцельную чмуту тамтэйшых беларусаў-каталікоў, зрабілі польскім, заводзячы там у адміністрацыі польскую мову.

Праўда, некаторыя атуманеныя польскім касьцёлам сяляне-беларусы праз сваю цемнату самі называлі (і цяпер яшчэ часам называюць) сябе «палякамі», разумеючы пад гэтым словам каталіцкасьць. Але кажны сумленны чалавек павінен растлумачыць такім адзінкам, у чым іхная памылка.

Гэтыя рэчы ўжо належаць да мінуўшчыны і, здавалася б, ня трэ было б пра гэта гаварыць. Але рэч у тым, што й цяпер у некаторых беларусаў і нават у нашай сталіцы псыхічны стан вельмі блізкі да стану былых царскіх боўдзілаў. І тут некаторыя маюць нахіл глядзець на беларуса-каталіка з пэўным недаверам. Іхныя ісьціна праваслаўныя сымпатыі хацелі б у каталіку бачыць паляка. «Як жа, ён скончыў ксяндзоўскую гімназію ў Друі — значыцца, пэўны паляк», — характарызуе сьведамага беларуса каталіка такі ўзгадаваны ў «общерусском православном» духу «тоже белорус».

Вось тут і вылазіць шыла з мяшка. Які-небудзь стары царскі афіцэр «добрага» старога ўзгадаваньня, думаючы даўнейшымі катэгорыямі, аніяк ня можа шчэ пазбыцца гэнага царкоўна-царскага туману. А якраз жа тая ўспомненая Друйская гімназія была ў руках ксяндза Абрантовіча, ведамага беларускага дзеяча, які быў кіраўнікам каталіцкага ордэну г. зв. «марыянаў». Усе гэтыя Друйскія «марыяны» польскімі адміністрацыйнымі ўладамі былі ў свой час за беларускую працу мусам выселеныя ў цэнтральную Польшчу бяз права звароту на бацькаўшчыну. З гэнай Друйскай гімназіі выйшла вельмі многа сялянскіх сыноў і дачок — патрыётаў свае Бацькаўшчыны-Беларусі. Паводле такога «общерусского», усе мы «палякі», бо «каталікі», ды яшчэ гадунцы каталіцкае гімназіі.

Але гэта толькі адзін дробны прыклад із прыватнае гаворкі з адным із сяньняшніх курсантаў афіцэрскіх курсаў. Агулам кажучы, добра было б ня пытацца ў сьведамага беларуса, якой ён рэлігіі, бо гэта ягоная вылучна прыватная сямейная справа, але таму што ўсё ж такі старэйшае беларускае грамадзянства было ўзгадаванае ў дзьвёх рэлігіях, праваслаўнай і каталіцкай, дык цікава разгледзіць тую псыхалагічную эвалюцыю, якую перажываў кажны сьведамы беларус ў залежнасьці ад свайго рэлігійнага ўзгадаваньня змалку.

Як ведама, даўней беларускіх школаў ня было. У беларускасьці ўсьведамляліся лепшыя адзінкі, якія, дзякуючы сваёй прыроджанай інтэлігенцыі, патраплялі самадзейна й крытычна думаць і рабіць адпаведныя выснавы.

Сын нясьведамага беларускага селяніна-каталіка быў яшчэ перад адданьнем у расейскую школу вучаны сваімі хатнімі чытаць і пісаць папольску, што ўважалася за абавязак рэлігійнае маткі, якая рупілася, каб ейнае дзіця магло маліцца з кніжак да набажэнства, што былі толькі ў польскай мове. Гэткую польскую навуку ахвоча даваў ксёндз, арганісты або іхнае абкружэньне, і яно разам із польскай кніжкай і чытаньнем усочвала ў душу дзіцяці польскі дух.

Шмат бяскрытычнай беларуска-каталіцкай моладзі пад уплывам такога ўзгадаваньня рабілася польскімі патрыётамі. Больш самадзейна-думаючая частка беларускай моладзі бачыла недарэчнасьці гэткай эвалюцыі і пры першым стыку зь беларускім рухам сэрцам і душою захаплялася ім. Уся ксяндзоўская польская патрыятычная агітацыя, уся духовая пачуцьцёвасьць да польшчыны ўпала на беларускую глебу і зацьвіла прыгожаю беларускаю краскай. Усё, што ён чуў пра няшчасную Польшчу, пра ейныя мукі, душа беларуса-каталіка пасьля ягонага нацыянальнага ўсьведамленьня ў беларушчыне накіроўвалася да Беларусі. Такі сьведамы беларус-каталік пачынаў любіць і любіў сваю Беларусь так, як немец Нямеччыну, як паляк Польшчу і г. д. Ён ня меў больш ніякага сантымэнту да Польшчы, а наадварот, палякі зьнялюбелі яму за іхную ману праз касьцёл. Таксама нічога супольнага ня меў ён із Расеяй. Ён рабіўся стопрацэнтавым беларусам-незалежнікам-нацыяналістым.

Разгледзім цяпер псыхічную эвалюцыю нацыянальнага ўсьведамленьня беларуса-праваслаўнага з царскіх часоў.

Насамперш, беларускае праваслаўнае дзіця не атрымвала ніякага нацыянальна-патрыятычнага ўзгадаваньня. Праўда, яму казалі пра «веру, цара і ацечаства», але гэтае «отечество» нацыянальна ня было выразна выяўленае, бо агулам у царскай Расеі ў школах нацыянальнага духу ў цяперашнім разуменьні не давалі. Там вучылі любіць вялікі геаграфічны абшар Расеі — адну шостую часьціну сьвету, якая мае ў сабе Беларусь, Малую Русь, Вялікую Русь і «прочыя». Усё гэта было нешта падобнае, як у бальшавікоў, якія хацелі тварыць патрыятызм нейкага неазначанага «савецкага народу».

Зь нястачы нацыянальнага патрыятызму царскія ўзгадавальнікі клалі націск на сваё праваслаўе. Яно было паказьнікам расейскасьці. Расейская палітыка ня цьвердзіла, што беларусаў няма, наадварот, падчырквала, што беларусы ёсьць і што яны толькі зьяўляюцца складоваю часткаю вялікага расейскага праваслаўнага народу.

Пяражыўшы ўсё вышэйсказанае, трэба сьцьвердзіць, што ў даўнейшага праваслаўнага сьведамага беларуса ня было так вялікай цьвёрдай псыхічнай асновы для нацыяналізму, як гэта было ў сьведамага беларуса-каталіка.

Канчаючы, трэба сказаць, што для беларускага нацыяналістага рэлігійнае пытаньне не павінна існаваць.

Беларусы — адна душа. Дабро свае нацыі — рэлігія гэтай душы.

*1942*

**Вацлаў ІВАНОЎСКІ**
(1880—1943)

Інжынер-тэхнолаг, выдавец, культурны, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся на Віленшчыне. Скончыў тэхналагічны інстытут у Пецярбургу, дзе ў далейшым займаўся навуковай і выкладчыцкай дзейнасцю (1904—1913). Доктар тэхналагічных навук (1909). З 1902 г. у беларускім нацыянальна-адраджэнскім руху. Заснавальнік Беларускай рэвалюцыйнай партыі (1902). У 1903 г. узначальваў Пецярбургскую культурна-асветную суполку «Круг беларускай народнай прасьветы і культуры». Уваходзіў у кіраўнічыя органы Беларускай сацыялістычнай грамады (1904—1905). Арганізатар і кіраўнік першага беларускага выдавецтва «Загляне сонца і ў наша аконца». Сталы карэспандэнт першых беларускіх легальных газет «Наша доля» і «Наша ніва». З 1913 г. кніжна-выдавецкую дзейнасць прадоўжыў у Вільні. Кіраўнік Беларускага выдавецкага таварыства, адзін з арганізатараў-заснавальнікаў беларускай кнігарні В.Ластоўскага. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. уключыўся ў актыўную палітычную дзейнасць. Удзельнік Усебеларускага з’езда (снежань 1917). Ва ўрадзе А.Луцкевіча быў абраны на пасаду міністра асветы Беларускай Народнай Рэспублікі. У справе ажыццяўлення ідэі беларускай дзяржаўнасці спачатку арыентаваўся на бальшавікоў і іх праграму па нацыянальнаму пытанню. Некалькі месяцаў бальшавіцкага панавання ў Мінску, а пазней арышт у маі 1919 г. і некалькі тыдняў турэмнага зняволення ў Смаленску канчаткова пераканалі В.Іваноўскага ў памылковасці ранейшых поглядаў і стаўкі на кааліцыю з бальшавікамі. З прыходам польскіх войскаў займаўся справамі арганізацыі беларускіх школ на Міншчыне. У лютым—сакавіку 1920 г. удзельнічаў у беларуска-польскіх перамовах. Выступаў за стварэнне федэрацыі Польшчы і Беларусі як альтэрнатывы падзелу Беларусі. Пасля Рыжскага мірнага пагаднення паміж Польшчай і бальшавіцкай Расіяй адышоў ад палітыкі. Займаўся навуковай і выкладчыцкай дзейнасцю ў Варшаўскім політэхнічным інстытуце (1922—1939). З восені 1939 г. — у Віленскім універсітэце. У час Другой сусветнай вайны працаваў у беларускіх культурна-асветных і палітычных арганізацыях і ўстановах. Кіраваў Беларускім нацыянальным камітэтам. Супрацоўнічаў з нямецкімі адміністрацыйнымі ўладамі. З 1943 г. выконваў абавязкі бургамістра Мінска. Намеснік старшыні Беларускага навуковага таварыства і старшыня Беларускай рады даверу. Падтрымліваў кантакты з прадстаўнікамі Арміі Краёвай. Забіты ў Мінску.

## СПОЛЬШЧАНЫЯ І ЗМАСКОЎШЧАНЫЯ

Прыглядаючыся да мінуўшчыны нашага краю, ведамы беларускі патрыёт і гісторык Ігнатоўскі адзначаў як няшчасьце Беларусі частыя войны, што пераліваліся цераз наш край. Ён гаварыў, што сярэдня кожныя 17 год на зямлі беларускай ваявалі.

Большасьць гэтых войнаў — гэта войны між Маскоўшчынай і Польшчай. Войны, якія пераважна вяліся на нашай зямлі, у якіх перадусім цярпелі нашыя людзі, наш край.

Успомнім хаця б войны між Маскоўшчынай і Польшчай, што давялі да зьністажэньня польскай Рэчы Паспалітай. Два першыя разборы Польшча плаціла нашай зямлёй і нашымі людзьмі.

На нашых жа абшарах пераважна прабягала польска-расейская вайна — працяг сусьветнае вайны. І па гэтай вайне суседзі — Польшча й Маскоўшчына дзялілі між сабою жывое цела Беларусі.

І так яно ўжо ўвайшло ў звычай між Маскоўшчынай і Польшчай, што сваркі між сабоюканчалі дзяліцьбай нашае бацькаўшчыны, уважаючы яе за сваю собскасьць.

Імкнучыся да завалоданьня як найбольшай масткай Беларусі, і Маскоўшчына і Польшча думалі і ня толькі аб завалоданьні зямлёю, але й людзьмі — мала што людзьмі — душою гэтых людзей. І Польшча і Маскоўшчына імкнуцца зрабіць з беларуса паляка, другая — маскаля.

Гэтае змаганьне за зьністажэньне душы беларуса вядзецца стагодзьдзямі з аднаго й другога боку.

І не згадаеш, каторы з нашых суседзяў — вораг горшы й падлейшы.

Маскоўцы, пачынаючы ад Кацярыны, першым чынам вывозілі гаспадарсьцьвенныя архівы — сьведкі незалежнасьці і культуры. Гэта ж рабілі й бальшавікі.

І маскоўцы і палякі стараліся нават зьністожыць і само імя беларуса, рупліва ўнікаючы яго, ствараючы нат новыя словы й назовы, абы толькі ўхіліцца ад слова «Беларусь». То ж і стварылі новыя словы «Крэсы всходне» і «рэгіяналізм», нямала іншых слоў, абы толькі не зачапіць за слова «беларус» і «беларускі».

Маскоўцы толькі й думалі, як бы з беларусаў зрабіць сапраўдных маскоўцаў. Ня лепшымі былі й палякі, дбаючы толькі аб тое, каб беларускі народ утрымаць у форме мяккага бязвольнага цеста, з якога можна лёгка ясьневельможнаму старосьце выпячы такога паляка, які быў яму на гэты час патрэбны.

Беларусы ніколі не забудуцца й ня выбачаць ані маскоўцам, ані палякам таго, што ўсё грамадзянства, ці то маскоўскае, ці то польскае, падтрымлівала гэтыя разбойніцкія дзеяньні ўрадаў і адміністрацыі.

Так, у Маскоўшчыне і духавенства, і лібэральныя земствы, і соцыялісты — усе аднолькава выступалі, калі падымалася пытаньне аб незалежнасьці Беларусі.

Ня йначай было і ў Польшчы. І там згодна выступалі проці беларушчыны і ксёндз, і пан, і лібэральныя прафэсіянальныя інтэлігэнты, і дзеячы соймікаў.

І цікава было, што ці маскоўцы з усходу, ці палякі з заходу, выступаючы варожа й нішчуча проці беларушчыны, — як бы стыдаючыся — трубілі на ўвесь сьвет аб сваёй свабодалюбівасьці, аб роўнасьці, мала ня брацтве, што пануе ў іхных краёх. Усе мы пазналі, з аднаго боку, савецкую канстытуцыю, што суліла ўсялякія свабоды, а з другога боку, савецкую сапраўдную палітыку, што пакідала грамадзяніну толькі свабоду думкі й сьмерці. Помнім і польскую хлусьню аб свабодзе, аб сужыцьці вольных з вольнымі, роўных з роўнымі, а побач з тым бязьлітаснае глумленьне беларусаў і беларушчыны.

Помнім і маскоўскае НКВД і польскую Картускую Бярозу і ведаем: абое рабое.

І маскоўшчына і польшчына, змагаючыся з беларушчынай і душачы яе, пільна выкарыстоўвалі ўсякага здрадніка нашае справы. Ведаем, як у Савецкай Беларусі на ўсякага пісьменьніка, што займаўся слаўленьнем Сталіна із Саветамі, сыпалі нагароды і ордэнамі, і грашыма, і самаходамі, і ўсім. А хто, саветчыны нават ня крытыкуючы, маўчаў аб Сталіну і сталінятах — той пападаў у Сярэднюю Азію, у слаўны цяпер Казахстан, жонка яго, дзеці яго — у мясцовасьці ня гэтак далёкія. Ня йначай было і ў Польшчы. Помнім мы, як пан інспэктар, пан прафэсар, ксёндз пробашч сквапна памаўляў гімназістых, клерыкаў, студэнтаў-беларусаў перапісавацца ў палякі, сулячы і стыпэндыі, і пратэкцыі, і ўсялякае іншае дабро.

Нашто гэта было патрэбна, чаму на здраднікаў зьяўляецца шмат ахвочых купцоў? А таму, што няма вярнейшага лёкая, халопа, паліцыянта, ката на ўласных братоў, як здраднік роднае справы.

Ведалі аб тым яшчэ туркі, набіраючы верныя палкі янычараў з сэрбаў ды іншых славянаў, што здрадзілі родную справу й веру, а прынялі турэцкую веру. Той жа старой дарогай ішлі і маскалі, і палякі, купляючы за грошы сумленьне й душу здрадніка.

Цяпер, калі пад аховай пераможнага войска Нямеччыны закладваем падваліны новага беларускага гаспадарства, калі з намі і «з-за вугла» і проста — змагаюцца вораг з усходу і вораг з заходу, — больш за ўсё мы асьцерагаемся здраднікаў.

І помнячы, што дабрахвотнае змаскоўшчаньне ці спольшчаньне найчасьцей было проста здрадаю за грошы, мы маем падставы ставіцца з падазрэньнем да кожнага беларуса, што ўжывае ня роднае мовы.

У цяперашнюю часіну, калі за сьпіной нямецкага войска і палякі, і бальшавікі, а пры іх і жыды згодна арганізуюць дывэрсію проці нямецкага войска і беларускай гаспадарсьцьвеннае працы, маем падставу мала ня ў кожным «шляхтуне» і «кацапуне» бачыць прыяцеля й супрацоўніка дывэрсантаў, а ворага Нямеччыны й беларускае гаспадарсьцьвеннасьці.

Вось дзеля таго цяперашнім часам, калі закладаюцца падваліны беларускае адміністрацыі, знаёмасьць з беларускаю моваю слушна мусіць уважацца за адзін з найважнейшых спробнікаў на лёяльнасьць ці нелёяльнасьць дадзенага чалавека да Нямеччыны й беларускай справы.

1941

**Фабіян АКІНЧЫЦ**
**(1886—1943)**

Юрыст, публіцыст, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Акінчыцы на Міншчыне. Вучыўся на юрыдычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, які скончыў у 1913 г. Сябра партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (1906—1917). З 1923 г. у Заходняй Беларусі. Браў актыўны ўдзел у беларускім палітычным і культурным жыцці. Уваходзіў у кіруючыя органы Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы (1926—1927). Арыштаваны польскімі ўладамі (1927). Засуджаны на 8 гадоў зняволення. Вызвалены ў 1930 г. датэрмінова паводле распараджэння прэзідэнта Польшчы. Адзін з арганізатараў і стваральнікаў Беларускай нацыянал-сацыялістычнай партыі (1933). Выдаваў разам з У.Казлоўскім партыйны часопіс «Новы шлях». З ліпеня 1939 г. — у Берліне. Кіраўнік Беларускага бюро прапаганды пры Міністэрстве прапаганды Германіі. На пачатку 1940 г. — старшыня Беларускага камітэта ў Варшаве. Загадчык школы прапагандыстаў пад Берлінам (пачатак 1941). Забіты партызанамі ў Мінску.

## УВАГІ НА ЧАСЕ
*(Фрагмент)*

[...] Мы, беларусы, не павінны глядзець на гэтую вайну з гледзішча вылучна беларускіх інтарэсаў. Гэтага для нас як народу, прасякнутага эўрапейскаю культураю, станоўча замала. Мы павінны ўсьведаміць сабе, што вайна вядзецца ў імя будучыні ўсяго культурнага сьвету. Ад таго, якая сіла возьме верх, будзе залежаць лёс усіх народаў. Гэта зусім зразумела, і таму мы ня можам абмежаваць фальшывай у грунце рэчы формулаю: «Пачакаем і паглядзімо, якая сіла будзе карысьнейшаю для беларускае справы». Гэткі погляд — нічога іншага як правінцыяльны прымітывізм або звычайнае скурніцтва.

У гэтым валатоўскім змаганьні, якога сьвет яшчэ ня бачыў, беларускае грамадзянства ня мае права залезьці ў нэйтральную шалупіну. Мы павінны адчуваць пульс агульнаэўрапэйскага жыцьця, павінны разумець сэнс разгорнутых падзеяў. А зразумеўшы, наш абавязак — узяць у іх дзейны ўдзел, памагаючы чым мага тым, хто б'ецца за агульнае дабро ў тым сэньсе, як яго разумеюць культурныя народы.

Няма няпэўнасьці, што сярод беларусаў, як і сярод кажнага іншага народу, ёсьць яшчэ сымпатыкі Масквы, але сымпатыі гэтыя павінны

зьмяншацца ў сувязі зь відавочным правалам усяе савецкае сыстэмы, якая ня вытрымала гістарычнага экзамэну.

Зразумела, калі б сярод беларусаў і засталася частка непапраўных, іхны лёс можна разглядаць як згары засуджаны, таксама як згары засуджаны ён і для ўсіх савецкіх бальшавікоў наагул.

Апрача ўсяго іншага, вайна вядзецца за перабудову Эўропы на новых гаспадарскіх і палітычных асновах. Якая б гэтая Эўропа ні была ў блізэйшай будучыні, нам, беларусам, шкадаваць перадваеннай Эўропы не даводзіцца. Нічога ў ёй мы ня мелі і мець не маглі. Жылі ў барбарскіх савецкіх абставінах, скаціліся ў прорву, зь якое сваймі собскімі сіламі ні пры якіх абставінах выбрацца ня здолелі б. Гэта цяпер павінна быць ясным і зразумелым. Ня трэба пераацэньваць сваіх собскіх сілаў, бо нават народы, мацнейшыя за нас, пад савецкай уладай апынуліся ў такім самым стане, як і беларусы.

Каб ня гэтая вайна й не перамога нямецкай арміі, нацыянальная сьмерць была б няўхільнай і нямінучай.

І вось цяпер, калі затрымацца над гэтым і зразумець увесь жахлівы сэнс таго, што чакала наш народ, дык толькі сьмешнымі зробяцца гэныя пэсымістычныя прагнозы нашых дамарослых палітыкаў і бальшавіцкіх недабіткаў, што да стану беларусаў у гэнай новай Эўропе.

Насамперш, яшчэ рана разглядаць будучыню гэтай Эўропы ўва ўсіх дэталях, бо йшчэ ня скончылася вайна. А па-другое, ужо цяпер для нас, беларусаў, гэтая таямнічая заслона крыху расхінулася.

У сваім краі, дзе ніколі мы ня мелі ніякіх магчымасьцяў да нацыянальнае, ня толькі паводле духу й зьместу, але й паводле формы, працы — цяпер мы гэтую магчымасьць маем. А гэта ў сучасны мамэнт плюс вельмі паважны. Пачынаецца адбудова беларускае грамадзкасьці ад самых асноваў. Нямецкая ўлада, якая заваявала гэты край і зьнішчыла бальшавікоў, прызнала за беларусамі права на тварэньне нацыянальнае культуры й на іх арыентуецца. Гэта ўсё дае нам вялізарныя магчымасьці да працы ў розных кірунках, толькі трэба ўмець гэтыя магчымасьці выкарыстаць.

Зразумела, што падобным станам рэчаў ня зусім могуць быць задаволеныя апрача бальшавікоў і «іншыя» кандыдаты на міністраў і на прэзыдэнтаў, якія хацелі б, каб нехта заваяваў для іх край і паклікаў на міністраў. Гэтага йшчэ, здаецца, нідзе не заўважалася.

Было б вялікім няшчасьцем для беларусаў, калі б у гэткую часіну, калі край разбураны й выбіты з нармальнае каляіны жыцьця, да ўлады над ім дарвалася нейкая кумпанія людзей, якія нічога за сабой ня маюць, апрача хваравітых амбіцыяў і прагі да ўлады.

Улада, каб быць запраўднаю народнай уладаю, мусіць зьявіцца ў выніку грамадзкага пераўзгадаваньня нашага народу пад вызначальным уплывам яснае цьвёрдае ідэялёгіі, якая адпавядала б вымогам сучаснага жыцьця ў вагульнаэўрапэйскім маштабе. А на гэта трэба час.

Нельга пераскочыць ні праз адну стадыю разьвіцьця. Калі ж праз падобны этап проста перасігнуць і не прарабіць таго, што канечна трэба прарабіць, дык нашыя дамарослыя міністры з кругаглядам парахвіяльна-

га папа ці нават валаснога пісара найвышэй ператварылі б Беларусь у нейкую Мэксыку ці Парагвай, а гэта было б фактычна рэгрэсам. Падобны стан рэчаў скампрамітаваў бы самую ідэю дзяржаўнага беларускага будаўніцтва ўваччу народных масаў.

Нічога на сьвеце ня робіцца раптоўна і з наскоку. На тое, каб Нямеччына набыла сучасны свой выгляд, Адольфу Гітлеру й ягонай партыі давялося прарабіць шматгадовую палітычна-ўзгадавальную працу, у выніку якое ўвесь народ прызнаў рацыю за тымі ідэямі, якія калісь прызнаваліся толькі жменькаю людзей.

Але рэч ня ў гэтым. Мы павінны лічыцца з сучасным станам рэчаў і выкарыстаць яго на ўзмацненьне элемэнтарных асноваў нацыянальнага беларускага жыцця, без чаго немагчыма падыйсьці да зьдзейсьненьня сваіх далейшых нацыянальных імкненьняў. А выкарыстаць яго зусім магчыма, тым больш, што самыя пераможцы й будаўнікі Новай Эўропы беларусаў як нацыю ня выкідаюць із сваіх абрахункаў, а наадварот, паважна зь імі лічацца і арыентуюцца на Беларусь.

Што з ўсяго гэтага выплывае для кажнага, хто запраўды імкнецца да нацыянальнага адраджэньня і ўзмацненьня?

Насамперш трэба закончыць вайну і канчальна зьнішчыць бальшавікоў. Дзеля гэтае мэты зусім даволі тых ваенных сілаў дзяржаўных народаў, якія пад кіраўніцтвам Нямеччыны абвесьцілі Камінтэрну крыжовы паход. 25 лістапада 1941 г. гэтыя сілы фармальна павялічыліся праз далучэньне да восі Бэрлін— Рым— Токіо цэлага шэрагу дзяржаваў, а самы антыкамінтэрнаўскі пакт быў працягнены йшчэ на 5 год. Гэтых сілаў і гэтага часу зусім даволі, каб выкараніць бальшавізм з цэлага сьвету.

Із таго, што мы з тае ці іншае прычыны йшчэ ня маем беларускай узброенай сілы, якая б змагалася на фронце, яшчэ ня значыць, што ў гэтай вайне мы павінны заняць становішча «нэйтральнага наглядальніка». Нэйтральнасьці ў гэтым, запраўды плянэтарным, змаганьні месца няма.

Той, хто супроць бальшавіцкае камуны, можа знайсьці разнаякія магчымасьці, каб дапамагчы фронту. Трэба праводзіць ачышчэньне краю ад бальшавікоў і розных іхных агентаў, выкрываць падрыўныя мэтады іхнае працы. Але гэтага ўсяго мала. Мы мусім зыйсьці із свайго парахвіяльнага гледзішча. Мы павінны дзейна памагаць у змаганьні супроць бальшавікоў рознымі спосабамі, хаця б тымі, якія нам даступныя, прыкладам, арганізаваць апеку над раненымі й хворымі, а насамперш арганізаваць добры тыл для арміі, даць хлеб. Упарадкаваньне тылоў, разьмешчаных беспасярэдня за фронтам, мае такое самае значэньне, як і ўзброенае змаганьне. Трэба толькі зразумець паважнасьць перажываныя часіны, а зразумеўшы яе, нічога не застаецца да выбару, як усе высілкі скіраваць на фронт змаганьня з сусьветным ворагам, на той фронт, дзе разьвязваюцца лёсы не аднае беларускае ці ўкраінскае справы, але лёсы цэлага сьвету й цэлае сучаснае цывілізацыі. [...]

*1943*

**Антон АДАМОВІЧ**
(1909—1998)

Літаратуразнавец, гісторык, саветолаг, грамадскі і культурны дзеяч. Вучыўся ў Беларускім педагагічным тэхнікуме і Беларускім дзяржаўным універсітэце ў Мінску. Арыштаваны савецкімі ўладамі па справе неіснаваўшай падпольнай арганізацыі «Саюз вызвалення Беларусі» (1930). З 1931 г. знаходзіўся ў высылцы ў Расіі. У 1938 г., пасля вызвалення, вярнуўся ў Мінск, дзе закончыў універсітэт. У гады Другой сусветнай вайны прымаў ўдзел у беларускім грамадска-палітычным і культурным жыцці ў Мінску (1941—1942). Сябра Галоўнай рады Беларускай народнай самапомачы і прэзідыума Беларускага навуковага таварыства, рэферэнт па справах прапаганды і прэсы пры Генеральным камісарыяце Беларусі. Уваходзіў у рэдакцыйны камітэт «Менскай газэты» («Беларускай газэты»). З 1943 г. — у Берліне, працаваў у газеце «Раніца». Пасля вайны жыў у Заходняй Германіі. Рэдактар шэрагу беларускіх эміграцкіх выданняў («Ведамкі», «Бацькаўшчына», «Сакавік», «Конадні»). Браў удзел у арганізацыі і дзейнасці Інстытута па вывучэнню СССР у Мюнхене. Кіраўнік беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода». У 1960 г. пераехаў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Адзін з дзеячаў беларускага навуковага, культурнага і грамадскага жыцця ў эміграцыі. Аўтар шэрагу ўступных артыкулаў-прадмоваў да эміграцкіх выданняў твораў М.Багдановіча, А.Гаруна, У.Жылкі, Л.Калюгі, А.Мрыя, Н.Арсенневай, А.Салаўя. З манаграфічных даследаванняў высокім навуковым узроўнем і глыбінёй аналізу вызначаецца праца «Супраціўленне саветызацыі ў беларускай літаратуры» (1956).

## АРЫЕНТАЦТВА — ХВАРОБА БЕЛАРУСКАЯ

«Беларус усходняй арыентацыі», «беларус заходняй арыентацыі» або яшчэ дакладней — «расейскай, польскай арыентацыі», гэткія азначэньні й навет самаазначэньні бадай ад сама ад пачатку і аж дагэтуль маюць як найшырэйшы зварот у нашым беларускім руху. Апрача ўспомненых дзьвюх асноўных «арыентацыяў», трапляюцца калі-нікалі выявы й драбнейшых ды далейшых, слабей прадстаўленых, бароненых і ўматываваных, на меншыя, менш значныя й трывалыя, часам яшчэ з такога самага стану ўфармаваньня і ўсталяваньня ня выкрышталізаваныя прыцягальныя цэнтры скіраваных, зь меншай і слабейшай традыцыйнасьцю сымпатыяў, як, прыкладам, «літоўская», навет украінская і аж, здаецца, ці не лацьвійская «арыентацыі». Усё гэта, разам узятае, стварае даволі

сумны абраз, які із здаровага, цьвярозага нацыянальнага гледзішча можна характарызаваць толькі як заражанасць нашага грамадзянства пэўнай хваробаю, якую найпрасьцей будзе назваць «арыентацтвам».

Здавалася б, што такая вызначальная для беларускага руху падзея, як акт 25 сакавіка 1918 году, што дагэтуль і асабліва цяпер усімі й аднагодна вызнаецца за прынцыповую аснову гэтага руху, мусіла б, калі ня зусім спаралізаваць, дык, ува ўсякім разе, адсунуць далёка на задні плян, сагнаць з узьверху гэтае прыкрае нацыянальна-грамадзкае нядужаньне. Аднак калі прыгледзецца бліжэй навет да тых абставінаў, у якіх паўставаў акт 25 сакавіка і да самога яго ў аўтэнтычным сфармуляваньні, дык даводзіцца пераканацца, што і такі бясспрэчна вялікі й навет сьвяты для ўсіх нас чын не пазбаўлены быў ад налётаў, хоць часам і прыхаванага, але таго самага «арыентацтва». Ужо гэта адно, памінаючы бясспрэчна вызначальны тут факт неўжыцьцёўленьня сакавіковага ідэалу, не магло ня жывіць паганую хваробу...

### Вялікі факт і маленькія факцікі

Агульна ведама, у якіх цяжкіх муках, закончаных цэланочнымі дванаццацёхгадзіннымі дэбатамі з 24 на 25 сакавіка 1918 г., нараджаўся вялікі акт. Магчыма, што з часам навочныя сьветкі і ўдзельнікі ў сваіх успамінах раскрыюць перад намі поўны й канкрэтны абраз таго двубою, які давялося вытрымаць тады энтузіястым-нацыяналістым супроць багата й моцна прадстаўленай апазыцыі, што складалася, пэўна ж, не з адных толькі чужынцаў і яўных ворагаў беларушчыны, а ў ладнай меры, калі не ў васноўнай, і зь беларусаў-«арыентацкіх». Ды навет і тое, што мы ўжо ведаем, і самы тэкст акту, г.зв. Трэйцяя Устаўная грамата БНР, даюць даволі асноваў для меркаваньня, што прыняцьце гістарычнае пастановы было дасягненае цаною пэўных умоўнасьцяў і кампрамісаў, якія знайшлі сваё замаскаванае, але досыць празрыстае адлюстраваньне ў паасобных фармулёўках.

Неадпаведным запраўднасьці было б думаць, быццам акт 25 сакавіка зусім вольны ад найпашыранейшай і тады, і цяпер «усходняй», расейскай, «арыентацыі». Пры бліжэйшым разглядзе яго можна сьцьвердзіць усяго толькі частковую ягоную антырасейскасьць. Насамперш, із самых абставінаў падзеі бясспрэчна, што аб расейска-бальшавіцкай «арыентацыі» тут ня можа быць і гаворкі. Антыбальшавіцкі характар акту 25 сакавіка, хоць навет і ніяк не зафіксаваны ў тэксьце Трэйцяе Устаўнае граматы, не падлягае ніякай няпэўнасьці. Наадварот, з поўнай рацыяй можна сьцьвярджаць, што антыбальшавіцкая імкнёнасьць, жаданьне парваць якраз із бальшавіцкай Расеяй і проціставіцца ёй было адным із галоўных фактараў, што выклікалі яго да жыцьця ў тых абставінах. Таксама не падлягае ніякай няпэўнасьці й скіраванасьць акту 25 сакавіка супроць царскай Расеі. Гэтая скіраванасьць таксама зусім зразумелая з абставінаў таго часу беспасярэдня пасьля рэвалюцыі, якая кагадзе раз-

валіла была гэную царскую Расею, што ў такіх абставінах, пэўна ж, не магла абуджаць да сябе ніякіх, прынамся, уголас выказваных, сымпатыяў. Нарэшце, гэтая скіраванасьць знайшла сабе ўжо й дакумэнтальнае замацаваньне ў словах Трэйцяе Устаўнае граматы: «Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны й незалежны край».

Аднак гэтая адзіная ў Трэйцяй Устаўнай грамаце фармулёўка, скіраваная супроць расейскіх цароў, не гаворыць ні супроць расейскіх цароў, не гаворыць ні аб расейскіх «дэмакратах», ні навет аб тых бальшавікох, якія ўсе нідзе ні словам не абмовіліся аб тым, каб адрачыся падтрымваць гэнае «апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці на нашым вольным і незалежным краі» і ў часе свайго знаходжаньня ля ўлады якраз ужо апошнімі ўсьцяж як мага стараліся ня выпушчаць яго з рук. Мала таго, гэтая фармулёўка магла б зусім здаволіць ня толькі прыхільнікаў іншай, не манархістычнай, але расейскай «арыентацыі», а навет і адэптаў усіх інакш настроеных кірункаў, насамперш «арыентацыі» польскай. На самой рэчы, Устаўная грамата гаворыць толькі аб «апошнім ярме дзяржаўнай залежнасьці» ад расейскага царскага самаўладзтва і нічога не ўспамінае пра гістарычна «перадапошнюю» ў такім выпадку польскую няволю, накінутую сваім часам на Беларусь пад прыклепам і ў форме шэрагу паступова ўсе больш цесных «вуніяў».

Нарэшце, беспасярэдня наступныя за прыведзенымі словы Трэйцяе Устаўнае граматы адчыняюць як найшырэйшы прастор для надзеяў на будучыню ўсім магчымым «арыентацыям»: «Самі народы Беларусі ў васобе свайго Устаноўчага сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных зьвязях Беларусі». Надзвычай характэрная тут ужо сама пачаткавая «дэмакратычная» фармулёўка — «самі народы Беларусі» — заміж адзінаапраўданае зь незалежніцка-нацыяналістычнага гледзішча, асабліва ў падобным урачыстым выпадку, спасылкі й апоры на беларускі народ, як на бязумоўнага й неабмежаванага гаспадара й распарадчыка на сваёй собскай зямлі. Можна з поўнай верыгоднасьцю думаць, што гэтая мясьціна акту 25 сакавіка была абумоўленая становішчам тае моцнай апазыцыі з боку прадстаўнікоў некаторых «народаў Беларусі», насамперш расейцаў і жыдоў, факт якое засьветчаюць удзельнікі падзеі. Але ня менш мусіла яна быць да сэрца й розным беларусам — «арыентацкім» і «фэдэралістым»...

### «Фэдэралістыя» й нацыяналістыя

Што гэта было так — маем зусім сьвежае сьветчаньне аднаго з удзельнікаў 25 сакавіка, К.Езавітава, які ў сваіх успамінах пра ведамага дзеяча БНР Пётру Крэчэўскага (гл. артыкул «Пётра Антонавіч Крэчэўскі і значаньне ягонае працы» ў беластоцкай газэце «Новая Дарога» ад 28 траўня 1944 г., нумар 23) падае: «У красавіку 1918 году П.Крэчэўскі,

разам з Язэпам Варонкай, Васілём Захаркай, Іванам Серадой, Яўхімам Бялевічам і аўтарам гэтых радкоў выйшаў з складу Беларускае сацыялістычнае грамады і ўвайшоў у склад цэнтральнага праўленьня новапаўстаўшае **тады партыі Беларускіх сацыялістаў-фэдэралістаў, якая ставіла сабе мэтай праз стварэньне незалежных нацыянальных дзяржаў для кажнага, навет самага малога народу ў Эўропе, які мае сваю тэрыторыю, дайсьці да стварэньня Злучаных Штатаў Эўропы»**.

Як бачым, не прамінула яшчэ й месяцу ад 25 сакавіка 1918 г., казаў той, «не прапяяў і тры разы певень», як цэлая група ўдзельнікаў сакавіковага акту навет арганізацыйна афармляе тэзу аб дакляраванай актам незалежнасьці Беларусі як аб пераходнай толькі ступені да нейкага, быццам бы вышэйшага, фэдэралістычнага ідэалу. На жаль, мы ня маем цяпер пад рукамі ані патрэбных матар'ялаў, ані бліжэйшае магчымасьці адшукаць іх, каб праверыць адпаведнасьць запраўднасьці сьцьверджаньня пра «Злучаныя Штаты Эўропы» як пра жаданую «беларускімі сацыялістымі-фэдэралістымі» форму гэтага ідэалу. У памяці роіцца, аднак, што сваім часам гэты «ідэал» фармуляваўся як бы куды прасьцей — як старая «панславістычная» ідэя «ўсеславянскае фэдэрацыі» (пэўна ж, пад няўхільным зьверхніцтвам «старэйшага брата»), а то й зусім — асабліва моднай тады фэдэрацыі «народаў Расеі», пабудаванай толькі на крышку іншых, «дэмакратычных» прынцыпах, чымся нядаўна паўсталая тымчасам бальшавіцкая РСФСР (Расейская Сацыялістычная Фэдэрацыйная Савецкая Рэспубліка), якая, дарэчы кажучы, разглядалася самымі бальшавікамі як толькі падваліна для будучае эўрапейскае, а там — і сусьветнае савецкае фэдэрацыі.

Ува ўсякім разе, што некаторыя з былых «беларускіх сацыялістых-фэдэралістых» і цяпер яшчэ ня вольныя ад такіх, чыста ўжо «арыентацкіх» у існасьці, сымпатыяў, можна бачыць зь некаторых ускосных выказваньняў таго самага аўтара ў вадным із таксама нядаўных ягоных артыкулаў, дзе знаходзім такое, шчырага дзіву годнае, сьцьверджаньне: **«Беларусы, пасьля падзелу Польшчы і стварэньня Кацярынай II Беларускага Намесьніцтва, адчувалі сябе ў Імпэрыі, як у новай фэдэрацыі, якая вызнае і іхныя правы»** (гл. віленскую газэту «Biełaruski Hołas» ад 11 лютага 1944 г., N 6(102) — «100-годзьдзе паэмы «Тарас на Парнасе», К.Езавітаў). Трэба быць запраўды фанатычным адэптам ідэі «фэдэралізму» і ня менш шчырым прыхільнікам тае, аж зь вялікай літары, «Імпэрыі», каб, будучы адначасна беларускім дзеячом (sic!), аж сяньня цьвердзіць пра Пятроўска-кацярынскую Расею як пра нейкую «фэдэрацыю», што быццам і за беларусамі «вызнавала іхныя правы» (хіба што — «правы» на нацыянальную сьмерць і сацыяльнае гібеньне...). Кажнаму проста сьведамаму беларусу, навет не нацыяналістаму, сяньня аж надта ясна, што розьніца між «расейскай фэдэрацыйнай савецкай рэспублікай» і нейкай фантастычнай «фэдэрацыйнай царскай імпэры-

яй» аніяк ня можа быць для нас прынцыповай, а з гледзішча гістарычнага — служыць довадам хоць якой-небудзь лепшасьці «Імпэрыі».

Што ж да ўспомненага вышэй Пётры Крэчэўскага, дык нам на свае вочы даводзілася нек чытаць нейдзе ў друку і ягонае выказваньне, у якім незалежніцтва акту 25 сакавіка таксама зусім выразна разглядалася як пэўная пераходная ступень да ўстанаўленьня «будучых дзяржаўных зьвязяў Беларусі» у дусе такое самае «фэдэрацыі», ужо быццам бы «як роўнага з роўным і вольнага з вольным» — на гэтай аблыжна-зманлівай і ўшчэнт скампрамітаванай гісторыяй аснове ўсялякіх гатункаў «вуніяў» (на жаль, ізноў жа ня маем магчымасьці ані праверыць, ані зацытаваць яго дакумэнтальна). Такім парадкам, як бачым, навет некаторыя ўдзельнікі 25 сакавіка трактавалі (а то й цяпер трактуюць) сэнс гэтае гістарычнае падзеі зусім у тым самым разрэзе, у якім ставілі й ставяць бальшавікі свае «прынцыпы» савецкае «незалежнасьці», «фэдэрацыі» ці «нацыянальнага самавызначэньня аж да адлучэньня» — праз размежаваньне, «адлучэньне», «незалежнасьць», навет «нацыяналізм» да яшчэ цясьнейшага й трывалейшага злучэньня (у бальшавікоў — дык і проста зьліцьця), да інтэрнацыяналізму.

Зусім зразумела, што шчырыя беларусы-нацыяналістыя, запраўдныя ініцыятары й найгарчэйшыя ды найпаступовейшыя змагары за акт 25 сакавіка ня могуць несьці на сабе віны за шырокую «дэмакратычную» шматабяцальнасьць і гумовую элястычнасьць некаторых мясьцінаў гістарычнае Трэйцяе Устаўнае граматы БНР, што пакінула такія зручныя пролазкі для ўсялякіх «фэдэралізмаў» і арыентацтва. Усё гэта — даніна абставінам, магчымасьцям і часу, і гэтак і мусіць разглядацца сяньня, ні каліва не зьмяншаючы нашае ўдзячнасьці й захапленьня да гэтых змагароў, што, будучы ў вадзінкавай меншыні, патрапілі проста з горла ў чужой ці «асьцярожнай» бальшыні выдзерці вялікі Акт, усяе велічы якога ня могуць зацяніць няўхільныя «радзімыя плямы». Наадварот, гэтыя пачуцьці да іх павінны яшчэ больш узмацніцца ўшанаваньнем каштоўнае якасьці рэальных палітыкаў у нашых сакавікоўцах і спачуваньнем да іхнага такога мусавага палажэньня ў тым часе — ісьці на сустулкі і чужым, і чужацкім духам пранятым сваім... Аднак, тым ня менш, застаецца фактам, што дзякуючы вышэй адзначаным сваім асаблівасьцям, Трэйцяя Устаўная грамата й пагэтуль можа служыць як бы за пэўнае маральнае апраўданьне і для ўсіх сьведамых і нясьведамых носьбітаў «арыентацтва»...

## Дыягназ Хваробы

Якое ж фактычнае апраўданьне мае гэтая нязводная хвароба нашага грамадзянства, якія ейныя вызначальныя прычыны?

Кажны сьведамы беларус-нацыяналісты з большага добра ўяўляе сабе іхны агульны характар. Псыхалёгічнае карэньне «арыентацтва», якраз у прыстасаваньні да пары падрыхтаваньня й абвешчаньня акту 25 сакаві-

ка, найкарацей было азначанае ў вадным з артыкулаў, прысьвечаных гэтаму Акту: «Няволя, а векавая пагатоў, стварае сталую прывычку да сябе, прывычку, зь якою ня гэтак лёгка расстацца адразу» (гл. «Векапомны акт», К.Каліновец — «Беларуская газэта», N 19—20 ад 29.3.1942 г.). Гэтая абумоўленасьць арыентацтва спадчынаю векавое няволі беларускага народу, перажыткамі ўзгадаванай ёю нявольніцкае псыхікі ў пэўных пластох гэтага народу застаецца бясспрэчнай і да сяньня. Яна й становіць той асноўны псыхалёгічны грунт, на які абапіраюцца ўсе ворагі Беларусі, імкнучыся сваёй дзейнасьцю як мага выклікаць, жывіць і падтрымліваць скіраваныя ў іхны бок паасобныя «арыентацыі». Гэткая ворагавая дзейнасьць і становіць сабой асноўную вызначальную прычыну арыентацтва, як выяўленьне варожага Беларусі інтрыгацтва. І запраўды, заўсёды нітачка кажнай «арыентацыі», незалежна да таго, ці ведаюць аб гэтым і ці ўсьведамляюць гэта ейныя носьбіты, нязьменна вядзе да інтрыгі таго ці іншага ворагавага боку. Надзвычай характэрна пры гэтым, што кажны ворагаў бок заўсёды імкнецца выкрыць ўсе тое, што процістаіць ягонай «арыентацыі», як інтрыгу процілежнага боку ці бакоў, ня спыняючыся часта й перад тым, каб старацца прадставіць такой «інтрыгай» і ўвесь самагодны беларускі рух. Гэтак, на пачаткавай пары беларускага адраджэньня расейцы заўсёды імнуліся «давесьці», быццам бы яно — толькі «польская інтрыга». Сьледам тым палякі, пачынаючы ад часоў нямецкае ўлады на Беларусі ў 1915—1918 гг. і пазьней, усяляк намагаліся пераканаць сьвет і людзей, што беларушчына — толькі «расейская» (пазьней — «бальшавіцкая») «інтрыга». Зразумела, што пры гэтым ворагавая прапаганда, асабліва сукрытая, ня скупілася ані на салодкія абяцанкі сваім прыхільнікам, ані на запалохваньні неслухам.

Асноўны аргумэнт, зь якім, ці атрымваючы яго з рук гэтае ворагавае прапаганды, ці здабываючы зь нетраў свае нявольніцкае псыхікі, выступаюць усе «арыентацкія», становіць быццам бы немагчымасьць зусім самастойнага існаваньня Беларусі. Зьнішчальнай крытыцы гэтага «аргумэнту» шмат прысьвечана як у беларускай публіцыстыцы, так і ў навуцы, каб была патрэба ў дадзеным артыкуле спыняцца на гэтым і паўтараць асноўныя палажэньні, зь якіх выходзіць гэтая крытыка. Можна было б толькі пажадаць, каб некаторыя працы гэтага роду, і лепш навет пазытыўнага, некрытычнага характару, як, скажам, ведамыя «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі» праф. М.Доўнар-Запольскага і асабліва фундамэнтальныя дасьледаваньні вучонага-эканаміста Г.Гарэцкага аб народным прыбытку Беларусі, якія даўно разыйшліся і сталіся бібліяграфічнымі рэдкасьцямі, знайшлі б сабе нейкія магчымасьці перавыданьня і пашырэньня і нашым часам. Трэба таксама пашкадаваць, што не пабачылі і не пабачаць ужо сьвету грунтоўныя дасьледваньні беларускіх эканамістых, якія, на аснове аналізу бюджэтаў БССР, пераканальна давodзілі, што навет куртатая Савецкая Беларусь, пачынаючы яшчэ ад таго часу, калі яна зусім ліпела шасьцёхпаветавай, і на ўсім працягу свайго

існаваньня ня толькі была зусім самавыстарчальнай, але яшчэ і давала ладны прыбытак Маскве, якая, хаваючы гэты факт ад грамадзкасьці, невялічкую частачку гэтак ж прыбытку «шчодрай рукой» варочала назад пад выглядам быццам бы «датацыі», «братняе дапамогі» ад «цэнтру» невыстарчальнай, беднай, адсталай ускраіне». Аўтары гэтых працаў разам зь імі бясьследна зьніклі ў нетрах усепажыральнага НКВД...

Існасьць «арыентацтва», ведама, палягае на тым, што, выходзячы з свайго асноўнага «аргумэнту», «арыентацкія» імкнуцца далей угрунтаваць адзіную, быццам бы, магчымасьць існаваньня Беларусі толькі ў больш ці менш цеснай лучнасьці з адным зь ейных суседзяў, якія ужо задэманстравалі сваё самастойнае быцьцё і ў новай пары гісторыі (усе суседзі Беларусі, апрача Украіны), часам пры гэтым валодаючы і самой Беларусяй (Расея, Польшча) або маюць быццам бы большыя, як Беларусь, магчымасьці для ўжыцьцяўленьня і ўтрыманьня свае самастойнасьці (Украіна). Таму і небясьпечнасьць таго ці іншага «арыентацкага» кірунку мусіць вымярацца не красамоўнасьцю ці энэргічнасьцю «аргумэнтацыі» як тае асноўнае, агульнае, адмоўнае, так і гэтае дадатнае, на карысьць ягонага прыцягальнага цэнтру, а насамперш небясьпечнасьцю сілы, якая стаіць за гэтым цэнтрам. Із гэтага гледзішча трэба старанна ўзважыць і расцаніць кажную наяўную і дзейную сяньня сярод нашага грамадзянства «арыентацыю».

## Дробныя прышчыкі

Дзеля яснасьці разгляду зручней пачаць яго ад драбнейшых, другарадных «арыентацыяў». Тым больш што і гаварыць аб іх сяньня шмат не давядзецца, бо некаторыя з гэтых кірункаў і ня сяньня, а заўсёды належалі і будуць належаць хутчэй да царства кур'ёзаў. Так, прыкладам, выходзячы з рэальных дачыненьняў вялічыняў, можна было б спадзявацца мець хіба «беларускую арыентацыю» сярод «ліцьвіноў», а ніяк ня «літоўскую» у беларусаў... Адпаведна з гэтым, такая «літоўская арыентацыя» ніколі ня мела і цяпер ня мае больш-менш паважанага пашырэньня ў нашым грамадзянсьцьве. Сіла, якая стаіць за ёй, сяньня яшчэ непараўнальна меншая, чымся за часы існаваньня г.зв. «Літоўскай Рэспублікі». З другога боку, гэтая сіла пры ўсёй сваёй дробнасьці і навет запосьлівасьці ў дачыненьні да беларусаў, што адпудзіла ці ладна расхаладзіла навет найбольшых сваіх прыхільнікаў. Бяручы на будучыню, уся небясьпека гэтае сілы, пры максімальна спрыяльных ёй абставінах, магла б выявіцца найвышэй у вадарваньні ёй ад Беларусі пэўнага кавалку тэрыторыі, але ні ў якім разе не ў вапанаваньні цэлым краем. Пры гэтым, удача такой апэрацыі магла б мець месца толькі пры ўмове палітычнай ці ваеннай слабасьці Беларусі й толькі трываньнем гэтае слабасьці вымералася б ейная трываласьць. Узважыўшы ўсё гэта, можна высноваць, што небясьпека «літоўскай арыентацыі» з нацыянальнага гледзішча найбольш ушчувальная для нацыянальнага гонару ейных носьбітаў, частка-

ва — для суцэльнасьці нашага краю й народу, але ніяк не для ўсяе справы існаваньня Беларусі.

Зь «літоўскай арыентацыяй», пэўна ж, нічога супольнага ня мае пытаньне аднаўленьня гістарычнае Літвы, у якой сучасная г.зв. «Літва» вышэй за палажэньне «Жмудзкага стараства» ня ўздымалася, а паводля свае ўдзельнае вагі і не магла б ніколі ўзьняцца. Ня зьвязанае з «арыентацтвам», гэтае пытаньне й ня можа станавіць тут прадмету нашага разгляду.

Крыху своеасабліва стаіць справа з «украінскай арыентацыяй». Дасюль яўна вырашаныя ейныя прыхільнікі налічваліся рэдкімі адзінкамі. Гэта й зусім зразумела. Такая самая безьдзяржаўная, таксама й тымі самымі паняволеная Украіна, занятая сваім собскім вызвольным змаганьнем (ізноў жа — супроць тых самых ворагаў), не магла стацца за прыцягальны цэнтар для «арыентацыі» сярод беларусаў, як ня мела магчымасьці, ані пільнае патрэбы сама інсьпіраваць такую «арыентацыю» шляхам інтрыгаў. Гэтак, аднак, ані ня значыць, што й на будучыню нашае грамадзянства зусім застрахаванае ад «украінскай арыентацыі», як ад небясьпечнага з нацыянальнага гледзішча кірунку. Якраз наадварот. Пры магчымай зьмене абставінаў у будучыні Украіна магла б стацца ня толькі прыцягальным цэнтрам для нашых «арыентацкіх», але і паважнаю небясьпекай для Беларусі. У такім выпадку «ўкраінская арыентацыя» адразу вышла б, із гледзішча свае небясьпечнасьці для нас, на адно зь першых месцаў. Матар'яльныя й людзкія рэсурсы Украіны пры нашай моцнай блізіні з украінцамі, а таксама пры фактах наяўнасьці і сярод гэтых нашых суседзяў (дарма, што яны знаходзяцца ў такім самым, як і мы, стане) захопніцкіх імкненьняў ня толькі ў дачыненьні да частак (Палесьсе, Чарнігаўшчына), а і да цэлае Беларусі, да беларускае культуры (спробы прысваеньня спадчыны й Кірылы Тураўскага, і Клімента Смалеціча, а навет — і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага, ягоных летапісаў, «Літоўскага статуту» і г.д.), навет «тэорыя» аб беларускай мове як аб «дыялекце» ўкраінскае — усё гэта дае поўныя асновы для таго меркаваньня. Таму магчымасьць гэткае небясьпекі ў будучыні павінна знайсьці да сябе належную ўвагу ўжо й сяньня.

Гаворачы пра «ўкраінскую арыентацыю», нельга, пэўна ж, зьвязваць зь ею пытаньня аб беларуска-ўкраінскім кантакце й супрацоўніцтве, якое суправаджае беларускі рух ад самых ягоных пачаткаў і абумаўляецца тэй агульнасьцю ў палажэньні й становішчы абодвух народаў, пра якую вышэй успаміналася. Бязумоўна, што ўва ўсякім разе, пакуль будзе трываць гэткае палажэньне, такое становішча, супрацоўніцтва зьяўляецца і пажаданым і карысным, і якраз можа быць выкарыстанае для папярэджаньня ці паслабленьня тае магчымае небясьпекі з украінскага боку ў будучыні.

Такім парадкам, «арыентацыі» на менш моцных суседзяў (пра зусім нявыяўленую бадай «лацьвійскую арыентацыю» можна было б сказаць

тое самае, што сказана вышэй пра «літоўскую») не становяць, прынамся, на сягоньняшні дзень, паважнае нацыянальна-грамадзкае небясьпекі.

## Галоўная небясьпека

Галоўная небяспека прыпадае, бязумоўна, на асноўныя «арыентацыі» — расейскую і польскую, прычым абедзьве яны, як із фактычнага, гэтак і з тактычнага гледзішча мусяць быць прызнаныя за чыста роўнавартасныя. «Абое рабое» — гэтую прыказку даводзіцца ўспамінаць кажны раз, калі гавораць аб двух найбольшых нашых суседзях-ворагах дый яшчэ спрабуюць часам вывесьці нейкую розьніцу на карысьць таго ці іншага зь іх.

Запраўды, ад першага погляду «расейская арыентацыя» можа здацца небясьпечнейшай. Непамерна большыя колькасныя магчымасьці ціску на баку Расеі (як матар'яльныя, гэтак і людзкія), даўжэйшая (а для бальшыні тэрыторыі — і сьвяжэйшая) традыцыя расейскае нявол і, тагаму яшчэ большая цяжкасьць для прасякнутых нявольніцкай псыхікай душаў расстацца зь ёю, сяньняшняя тоесамасьць Расеі й расейшчыны з бальшавізмам, «адзінавернае» Расеі праваслаўная бальшыня беларускага народу, большая блізіня беларускае мовы да расейскай, як да польскай і шмат іншых, драбнейшых, акалічнасьцяў, — усё гэта, бясспрэчна, дае пераканальны абраз перадумоваў для большае небясьпечнасьці расейскай «арыентацыі». Аднак калі разабраць яго паводля асобных частак, дык лёгка прыйсьці да выснаву, што бадай кажнай зь іх на польскім баку можа процістаяць ня менш паважная вялічыня. Так, да колькаснае перавагі з расейскага боку зусім можа дараўнавацца, сказаць бы, якасны мамэнт у палякоў — большая (у працэнтавым дачыненьні) інтэлігентнасьць, большая нацыяналістычнасьць і скансалідаванасьць гэтай інтэлігенцыі, асабліва ў дзеяньні навонкі ў крытычныя мамэнты нацыі, бліскучае і традыцыйнае майстроўства «езуіцкае» палітыкі як у руках інтэлігенцыі, так і, асабліва, нацыяналістычна-фанатычных ксяндзоў зь вялікім уплывам на масы і ўменьнем хутка здабываць яе ды шмат чаго драбнейшага. Што да працяжнасьці і сьвежасьці традыцыі, дык і тут палажэньне выраўноўваецца дзеяньнем розных іншых акалічнасьцяў: для жыхарства Заходняе Беларусі адлучаная ўжо цяжкімі часамі вайны й папярэдняга перад імі крывавага бальшавіцкага «воссоединения» пара былое Польшчы часам пачынае набываць павабнасьць ледзь не «залатое пары», а для жыхароў Беларусі Усходняй яшчэ вайстрэйшыя й цяжэйшыя перажываньні і вайны, і бальшавізму пры бліжэйшай недазнанасьці на сабе польскага панаваньня ды прасяканьні тае ідэялізацыі яго з Захаду таксама могуць прычыніцца да разгляданьня Польшчы прынамся як «меншага зла». Тоесамасьць расейшчыны з бальшавізмам ці не перакрываецца яшчэ сяньняшняй двубаковай зьвязанасьцю ідэі Польшчы, як і з тым самым бальшавізмам, так і з ангельска-амэрыканскімі сіламі.

Навет праваслаўная «адзінавернасьць» із Масквою моцна парушаецца наяўнасьцю далёка немалалічнай катэгорыі ўзгадаваных былой Польшчаю «праваслаўных палякоў», якія часта сяньня даюць цікавы тып носьбіта «польскай» арыентацыі — тып, казаў той, «сьведамага заходніка», «заходняе арыентацыі» якога бывае даходзіць аж да арыентацыі на ўзнаўленьне, а то й вечнасьць ганебнае памяці Рыскае мяжы... Нарэшце, і ў галіне мовы цяжка вызначыць (асабліва «на вока» і не для моваведа), бо калі фанэтычны й структурны бок як бы й паказвае нам большую зроднасьць да расейскага, дык лексыка, слоўнік часам можа стварыць якраз наадварот. Усе гэтыя меркаваньні пераканальна сьцьвярджаюць, што навет асновы для небясьпечнасьці ў расейскай і польскай «арыентацыяў» на сяньня бадай зусім роўныя, і таму навет якое-небудзь аддаваньне перавагі аднэй зь іх ужо можна кваліфікаваць як першую выяву гэтае ж «арыентацыі».

У тэй самай роўніцы трэба разглядаць і спробу некаторых дыфэрэнцыяваць пытаньне аб небясьпечнасьці асноўных «арыентацыяў» паводля тэрытарыяльнага прынцыпу, прычым цікава спатыкаюцца два простапраціленжныя погляды: тымчасам, як адны ўважаюць «польскую арыентацыю» за галоўную небяспеку для Заходняй Беларусі, а для Усходняй — расейскую, другія выказваюцца якраз наадварот. Варта толькі прадумаць яшчэ раз усю пасьлядоўнасьць вышэй пададзеных разважаньняў, каб і бяз новых довадаў зрабілася яснай уся бязгрунтоўнасьць і таксама магчымая «арыентацкасьць» абодвух поглядаў.

І толькі ў вадным можна канстатаваць бясспрэчную розьніцу між абедзьвума асноўнымі «арыентацыямі» — у сяньняшнім іхным выяўленьні. Тымчасам як «польская арыентацыя», як і ўся польская работа на нашых землях, сяньня мае форму вылучна глыбокае падводнае плыні, стараючыся ніяк ня выбівацца на ўзьверх, не прабівацца ў публічныя выказваньні, асабліва ў друк — «арыентацыя» расейская калі-нікалі аказваецца яшчэ і публічна, хоць і ў больш-менш прыхаваных, а часта, можа, і паўсьведамых для самога носьбіта формах. Ізноў жа, параўнальнае меркаваньне зусім лёгка прывядзе нас да таго самага выснаву аб роўнай небяспечнасьці абодвух тыпаў выяўленьня. Зусім зразумелая і ўся абумоўленасьць гэтае розьніцы сучаснымі абставінамі. Але застаецца фактам, што ўхапіць і выкрыць перад грамадзянствам «расейскую арыентацыю», ці — глыбей і шырэй бяручы — расейскую інтрыгу, — сяньня куды лягчэй, як «арыентацыю» і інтрыгу польскую.

У гэтым сэньсе хіба толькі можна было б гаварыць аб большай небясьпечнасьці «польскай арыентацыі» ў сучасным мамэнце, аднак матываваць гэтым паслабленьне пільнасьці да выяваў «арыентацыі» расейскай ніяк нельга. Наадварот, абавязак кажнага сьведамага й шчырага беларуса, беларуса-нацыяналістага, асабліва ў сяньняшнім бурным і пераходным вялікім гістарычным часе — публічна выкрываць канкрэтныя

выявы ўсялякага роду й характару «арыентацыяў» — ад глыбака-сукрытых да настырлівых, проста бязвочлівых і нахабных.

**«Любі дальнага...»**

Мы ня хочам, каб выкладзеныя намі тут разважаньні зразумелі няправільна ў сэньсе становішча поўнага, казаў той, «ізаляцыянізму», поўнага адорваньня ад цэлага сьвету, адмаўленьня ад усялякай арыентацыі наагул. Зусім не. Мы толькі супраць «арыентацтва» як нацыянальна-грамадзкае хваробы, а ня супраць здаровай, разумнай арыентацыі, абапертай на непахіснутым пачуцьці нацыянальнага гонару й на глыбокім разуменьні як нашых нацыянальных інтарэсаў, так і тэндэнцыяў агульнага гістарычнага разьвіцьця.

**У вадрознасьць ад «арыентацтва», такая запраўдная нацыянальная арыентацыя ў нашых абставінах ня можа быць сьціраваная хоць на якога зь безпасярэдніх суседзяў Беларусі, найбліжэйшых ёй з расавага ці моўнага гледзішча і на гэтым груньце больш ці менш заражаных рознымі прэтэнзіямі захопніцкага характару да яе**. Эвангельскі загад — «любі бліжняга» — у гэтым дачыненьні яўна недарэчны, супраць яго тут сьветчыць усё гістарычнае дазнаньне нашае мінуўшчыны, і далейшае і бліжэйшае. **Адзіна правільным тут магло б быць хіба адваротнае палажэньне ніцшэўскага Заратустры: «Ня любі бліжняга, а любі дальнага». Якраз такім «дальным» і ў прасторавым, і ў расавым, і ў моўным сэньсе і таму — пазбаўленым якіх-небудзь захопніцкіх прэтэнзіяў — павінен быць той, на каго можа бясьпечна арыентавацца наш нацыянальны курс**.

Мала таго, **прыцягальны цэнтар нашае нацыянальнае арыентацыі павінен быць і гістарычна-прагрэсыўным і гістарычна-пэрспэктыўным**, чаго якраз нельга сказаць аб мацнейшых із суседзяў кумірах «арыентацтва». І нарэшце, ягоная значнасьць, а таксама й межы абсягу самае арыентацыі **не павінны быць зьняважлівымі для пачуцьця нацыянальнае самагоднасьці ці небясьпечнымі для нацыянальнае самабытнасьці й самастойнасьці**.

Месца, у якім толькі й можа ляжаць гэты прыцягальны цэнтар, гісторыя паказвала нам ужо няраз і зусім нядвузначна. На гэтае ж месца скіраваны й цяпер ейны паказальны палец. Гэта — захад, эўрапейскі захад, Эўропа й Захад у культурна-гістарычным, ідэйна-філёзофскім і псыхалёгічным разуменьні гэтых паняцьцяў. Такім парадкам, агульна бяручы, нашая нацыянальная арыентацыя павінна быць насамперш эўрапейскай у запраўдным сэньсе слова.

Але адразу ж і асабліва энэргічна трэба падчыркнуць гэтую засьцярогу: у запраўдным сэньсе слова. Бо толькі за глыбокае й прыкрае непаразуменьне можна ўважаць тое, што «польскую арыентацыю» некаторыя часам называюць «заходняй». Больш як на палажэньне геаграфічнага заходу ў дачыненьні да Беларусі Польшча ў нашых вачох і ў вачох цэлага

сьвету пратэндаваць ня можа. Яна ніколі ў сваёй гісторыі ня была нічым іншым, як толькі пуставейнай падсуседкай запраўднага Захаду, пераняўшы ад яго толькі адну вонкавасьць і абярнуўшы ў поўную процілежнасьць усю ягоную нутраную існасьць: канструкцыйны дух — у дух раскладу, дэструкцыі, цывілізацыю — у дэмаралізацыю, простую й чэсную праўдзівасьць — у крывадушную й каведную хлусьлівасьць, ветлівасьць дачыненьняў — у лісьлівае падступства, рыцарскую мужнасьць — у пустое хвалькоўства й забіяцтва, вольную ініцыятыву — у поўны самавол, працавітасьць — у паразытарнасьць, дасканаленьне людзкога дабрабыту — у вышчыгульненьне кволячае й млявячае раскошы, творчае гарэньне — у прасмальваньне жыцьця.

З гэткім «Захадам» нам і сяньня не па дарозе.

Носьбітам і абаронцам запраўднага Захаду, Эўропы, а значыцца і прыцягальным цэнтрам нашай арыентацыі, тым нашым «любым дальным» на сяньня, як ведама, зусім натуральна зьяўляецца Нямеччына, якая ў папярэдняй гісторыі даволі задэманстравала сябе носьбітам культуры й цывілізацыі ды прыяцелям нацыянальнае Беларусі, найкрасамоўнейшае можа сьветчаньне чаго той самы акт 25 сакавіка, бесьперашкодна абвешчаны пры нямецкай уладзе на тэрыторыі Беларусі. Нямеччына, якая й цяпер задэкляравала сваю незацікаўленасьць у захопніцтве Беларусі й асыміляцыі ці вынішчэньні беларускага народу. Нямеччына, якая вызваліла Беларусь ад абодвух ейных найстрашнейшых ворагаў, перамагла й прыгняла канчальна аднаго зь іх і наважна змагаецца з другім дзеля такое ж канчальнае перамогі. Нямеччына, якая й сяньня, у часе свайго жыцьцёвага наважальнага й разьвязальнага, цяжкога змаганьня ахоўвае й памагае будаваць нацыянальную Беларусь і беларускую культуру. Нямеччына — маладая, гістарычна-нязужытая дзяржава, поўная навагі збудаваць новы, справядлівы парадак у Эўропе.

І гэткім парадкам у канчальным выніку наш запраўдны нацыянальны кірунак, нашая эўрапейская, заходняя арыентацыя на сяньня зусім ясна і адназначна вызначалася як арыентацыя нямецкая.

## Або на кані, або пад канём

Некаторым, асабліва ў цяперашнім мамэньце, можа здавацца, што заходняя арыентацыя для Беларусі не канечна павінна быць нямецкаю, а магла б быць, скажам, ангельскаю ці, дакладней, ангельска-амэрыканскаю. На першы пагляд гэта як быццам бы не супярэчыла б таму, што кагадзе гаварылася аб «бліжнім» і «дальным»...

Мы ня будзем тут лішне даводзіць, што Ангельшчына ўжо даволі зарэкамэндавала сябе здрадніцай, а ў злуцы з Амэрыкай — і зьлейшым ворагам Эўропы й эўрапэйскага Захаду. Падыйдзем да гэтага толькі з нашага вузка-нацыянальнага, беларускага гледзішча. Ня выклікае ніякай няпэўнасьці поўная й бязумоўная выдача Беларусі бальшавікам у выпадку перамогі траістага хаўрусьніцкага блёку — гэта неаднаразова

засьветчана ў аўтарытэтнейшых заявах, выступленьнях і дакумэнтах. Але навет у выпадку разрыву англа-амэрыканцаў з бальшавікамі й «трэйцяе вайны» зь імі, на што ўскладаюцца некаторымі такія вялікія й, пэўна, дарэмныя надзеі — доля Беларусі была б разьвязаная ня лепш. Аднаўленьне передваеннае Польшчы мінімум у ейных межах 1939 г. сталася б тады зусім зразумелым і нармальным фактам і такім парадкам, што найменш Заходняя Беларусь апынілася б ізноў пад Польшчаю. Навет цяпер у ангельскай грамадзкай думцы й друку вельмі моцныя галасы за аднаўленьне Польшчы 1939 г. супроць вымаганьняў бальшавікоў і афіцыйна прыдакляраванае ім «лініі Керзона». У прынцыпе ж неаднаразовыя заявы самога Чэрчыля, што Ангельшчына ніколі не адрачэцца ад аднаўленьня Польшчы як тае мэты, дзеля якое яна як быццам бы насамперш і пачала вайну — ува ўсякім разе гавораць даволі. І зусім ня вылучаная магчымасьць, што ў тым, пешчаным надзеямі наіўных выпадку «трэйцяе вайны» Польшча на ўзнагароду за ўсе свае «цярпеньні» магла б атрымаць ня толькі Заходнюю, а й цэлую Беларусь... Такім парадкам, на правер «ангельская арыентацыя» сяньня пакуль усяго прыводзіць да тае ж Расеі ці Польшчы, абарочваецца тымі ж расейскімі ці польскімі «арыентацыямі».

Той, хто прадумае ўсё гэта зусім аб'ектыўна й да канца, павінен няміноча прыйсьці толькі да аднаго выснаву, **што нямецкая арыентацыя ў сяньняшнім мамэньце — адзіна магчымая для нас, што гэта ўжо ня толькі нацыянальны інтарэс, але й мус**. Сяньня для нацыянальнае Беларусі шлях толькі адзін: толькі разам зь нямецкім народам, як із братам, словамі паэты, «роўным ходам к роўным зыскам, роўным стратам». І разам — да канчальнага й супольнага «або на кані, або пад канём»...

Або на кані перамогі й волі, для нас — нашае «старадаўнай крывіцкай Пагоні», або пад канём — ізноў патаптанымі, а то й здрузгатанымі ў кроў...

Гэта трэба асабліва памятаць сяньняшнімі днямі, калі ўжо, як кажуць, «на варштаце» ўсе жахі, якімі так доўга пужалася: і «інвазія», і «другі фронт»...

Памятаць і прысьпешаным курсам лячыцца ад «арыентацтва» — хваробы беларускае, ачуньваць ад усіх наіўных і згубных ілюзіяў...

*1944*

**Часлаў СІПОВІЧ**
(1914— 1981)

Каталіцкі святар, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Дзедзіна на Браслаўшчыне. Свой шлях на ніве беларускага душпастырства пачынаў у Друі. Скончыў Віленскую духоўную акадэмію. Пазней вучобу працягваў у Варшаве і Рыме. З 1940 г. — святар. Вучыўся ў Папскім грэгарыянскім універсітэце (Рым, 1942). Пасля яго заканчэння прыняты ў Пантыфікальны інстытут вывучэння Усходу. Доктар тэалогіі (1946). З 1947 г. рэлігійнай і грамадскай дзейнасцю займаўся ў Вялікабрытаніі. Прымаў актыўны ўдзел у беларускіх культурна-асветных і рэлігійных арганізацыях. Займаўся навуковай і асветніцкай дзейнасцю. Рэктар Беларускай каталіцкай місіі. Адзін з ініцыятараў і заснавальнікаў Англа-Беларускага культурнага таварыства. Супрацоўнік беларускага рэлігійнага часопіса «Божым шляхам». З 1960 г. — біскуп. У 1963— 1969 гг. адзін з вышэйшых духоўных кіраўнікоў Ордэна айцоў марыянаў у Рыме. Ініцыятар адкрыцця ў 1971 г. Беларускага музея і бібліятэкі ў Лондане. Аўтар прац рэлігійнага і культуралагічнага характару.

## АСНОВЫ БЕЛАРУСКАГА ПАТРЫЯТЫЗМУ

Калі зьвернем ўвагу на слова «Бацькаўшчына», дык хутка спасьцеражом шырыню яго зьместу і багацьце значэньня.

Яно зьмяшчае перадусім географічную краіну, апранутую ў лясы, рэкі, вазёры, палі і лугі. Яно прыводзіць на памяць той клімат, у якім расьцьвітае краса прыроды, сьпякоты і марозы.

Далей бацькаўшчына — гэта людзі, гэта іх сем'і, злучаныя ў адзіны народ. У слове «бацькаўшчына» таіцца, як зачараваная, вякамі здабываная і глыбока перажываная культура народу, яго звычаі, абычаі. Быць можа, нечая бацькаўшчына ёсьць слаўная з небадзёрных гораў, з прыродных багацьцяў, але праўдзівае велічы бацькаўшчыны, што паўстае з натугі людзей, ніштo не заступіць. Славу бацькаўшчыны твораць тыя, што змаглі падняцца вышэй шэрага натоўпу ў маральным і грамадзкім жыцьці, у навуцы і мастацтве.

Адгэтуль бачна, што на паняцьце бацькаўшчыны складаецца часткова тое, што ад людзей не залежыць, але такжа, і то ў першую чаргу, тое, што ў данай краіне стварылі людзі працай сваіх рук, розуму і волі.

Бяз сумніву Беларусь заслугоўвае, каб справядліва магла называцца нашай слаўнай бацькаўшчынай.

Яе геаграфічна-этнаграфічныя межы выдзяляюцца выразна ўжо ад XII стагодзьдзя. Яе гісторыя — сёньня, на жаль, аднымі забытая, іншымі сьведама забываная — гэта сьцяг стагодзьдзяў. Калі нашы суседзі расейцы мусілі насіць татарскае ярмо, а іх князі і ўладыкі рабапакорна выкупліваць ярлыкі, у нас тады ўжо пачынала красаваць сваяродная асьвета, пачынала разьвівацца наша пісьменства. Нам трэба помніць, што беларуская мова і правадаўства ўстаткаваліся й пашырыліся куды раней, чымся ў нашых суседзяў.

XVI стагодзьдзе прынялося ў нас называць залатым, бо тады паўсталі найвялікшыя памяткі нашае культуры, як Біблія Францішка Скарыны на беларускай мове, як Статут В. Княства Літоўскага й інш. Гэта сьведчыць, што наша мова тады ўжо была ня толькі мовай народных гушчаў, але такжа і вучоных і дыпляматаў. Гэта быў час, калі — як прыгожа кажа Купала — беларус «роднаму слову ўмеў кніжны даць ход».

А што ж казаць аб харастве нашае старонкі?! Даволі раз у жыцьці праехаць па сініх водах Нарачы, Нёмана або Дзьвіны, даволі заглянуць у палескую глуш, хоць адзін раз нырнуць у лясы Белавежы або паслухаць сасновага гоману нашых бароў, каб паўтарыць за паэтам:

О, край родны, край прыгожы,
Мілы кут маіх дзядоў,
Што мілей у сьвеце Божым
Гэтых сьветлых берагоў...

Любоў да Бацькаўшчыны.

Апрача ўспомненага вершу Якуба Коласа ў нашай адраджэнскай літаратуры знайходзім шмат прыгожых твораў аб Бацькаўшчыне і аб любові да яе.

Там знайходзяцца пранікнутыя пачуцьцём творы Канстанцыі Буйло, глыбокія зьместам і прарочыя творы Янкі Купалы, Андрэя Зязюлі, сакавітыя й ядраныя вершы М.Танка, Н.Арсеньнявай і г.д., і г.д.

Колькі ў творах нашых паэтаў чуласьці, колькі красы і гармоніі! Усё гэта складалі яны на аўтар Маці-Беларусі; складалі яе дзеці ў парыве любові да яе або ў хвілінах тугі па ёй.

Аднак у вершах нашых паэтаў між шматлікімі матывамі любові да бацькаўшчыны, якія ў іх сустракаем, якія можа даць красуня-прырода або туга ці ўспамін па днёх маладосьці, пражытых пад роднай страхой, мала сустракаем тых глыбейшых матываў любові да Бацькаўшчыны.

Вось жа тут хочам зьвярнуць увагу на гэтыя матывы.

Адзін з найвялікшых багасловаў, Тамаш Аквінскі, у сваёй працы «Сума Багасловії», там, дзе разважае над пашанай і адносінамі да другіх, піша: «Трэба згадзіцца, што не ў аднолькавы спосаб чалавек застаецца даўжніком іншых, гэта залежыць ад велічы й значэньня таго, ад каго мы

атрымоўваем пэўныя дабрадзействы. Заўсёды аднак Бог займае першае мейсца, бо Ён найвялікшы дабрадзей, Ён крыніца нашага быцьця і яго кіраўнік. На другім мейсцы пасьля Бога крыніцай нашага быцьця і яго кіраўнікамі зьяўляюцца бацькі і бацькаўшчына, цераз якіх мы прыйшлі на сьвет і якія нас узгадавалі. Дзеля таго паколькі сутнасьцяй рэлігіі зьяўляецца аддаваньне чэсьці Богу, патолькі сутнасьцяй адданасьці і паважаньня нашых туземных дабрадзеяў зьяўляецца пашана і чэсьць бацькоў і Бацькаўшчыны. Пад словам «бацькі» разумеем такжа ўсіх родных і сваякоў, бо таму ж яны нам і родныя, што маюць пачатак ад тых самых бацькоў. Паняцьце Бацькаўшчыны абыймае такжа ўсіх грамадзян і ўсіх яе прыхільнікаў...»

Паводле Тамаша Аквінскага мы ўсе зьяўляемся даўжнікамі Бога, бацькоў і бацькаўшчыны, і то з падобных прычынаў, толькі не ў аднолькавай меры. Даўжнікамі Бога, бо ад Яго маемо быцьцё, ад Яго залежым нягледзячы на тое, ці мы гэта прызнаём, ці не. Ён адзін толькі слушна можа быць называны Тварцом, бо Ён зь нічога творыць ўсё існуючае.

Даўжнікамі бацькоў — бо яны такжа спрычыніліся да нашага заіснаваньня, да нашага ўпарадкаванага жыцьця. Але такжа мы зьяўляемся даўжнікамі Бацькаўшчыны, каторая бярэ на сябе вялізарную частку як нашага існаваньня, так і ўзгадаваньня.

Богу мы сплачваемся, паважаючы Яго надусё, аддаючы Яму чэсьць, і то чэсьць, якую нікому іншаму, апрача Богу, ня маем права аддаваць — чэсьць Божую, cultus latriae.

Бацьком і Бацькаўшчыне мы сплачваемся, паважаючы іх, любячы іх, але чэсьцю і любоўю, сказаў бы другараднай, каб адрозьніць ад той чэсьці першараднай, якую аддаём толькі самому Богу.

Вось стройная гіерархія: Бог, Бацькі, Бацькаўшчына, ад іх жыцьцё, ад іх наш пачатак-існаваньне, ад іх наша ўзгадаваньне, ад іх такжа й наша веліч. Для іх жа дзеля таго чэсьць, паважаньне, любоў. З гэтых трох зьвеньняў ня толькі адно другому не перашкаджае, але адно другое падтрымоўвае, адно другое ўмацоўвае. Выкінуўшы Бога, мы мусілі б стварыць самі нейкага ідала, каб выясьніць адкуль сьвет і быцьцё на сьвеце.

Тут вырынае пытаньне: ці можна любіць належна Бацькаўшчыну, ня верачы ў Бога?

Можна, але ня зусім. Ёсьць розныя ступені і адмены любові. Любоў бяз Бога спадзе вельмі нізка, яна абмяжуецца выключна да кустоў, палёў, водаў ды лясоў, часам ўспомніць аб мінуўшчыне, але ўсё гэта будзе больш зьвярынае, чым людзкое. У чалавека на першым мейсцы вымогі розуму й волі, каб іх задаволіць, трэба сягнуць да апошніх, глыбейшых прычын. Выкідаючы Бога, адкідаем першапачаткавую прычыну, найважнейшую прычыну любові да прадмету, які любім. Любоў Бацькаў-

шчыны бяз Бога выглядала б наступна: Зьвяртаецца маці да свайго сына з пытаньнем: «Пятрусь, любіш ты маму?

— Люблю.

— А за што ты мяне любіш?

— Бо ў мамы прыгожыя валасы...»

Божа, люблю Цябе за магутны акт стварэньня, за мэту — вечнае шчасьце, якое Ты мне прызначыў і да якога імкнуўся, за тое, што мне прызначыў добрых бацькоў-беларусаў!..

Тата і Мама, люблю я Вас, бо вы былі паслушнай прыладай Усемагутнага, захоўваючы Яго права, адчынілі мне сьвет, узгадавалі чалавекам!..

Беларусь, мая айчына, люблю цябе, бо ты згодна з воляй Усемагутнага вякамі карміла маіх прадзедаў і сьцеражэш іх славу і косьці, ты не забылася аб Богу, Ты чароўнай красой мяне паіла і ўзгадоўвала сваімі сокамі, пакуль чужацкае насільле ня вырвала мяне з тваіх абыймаў!..

Вось асновы беларускага патрыятызму: Бог, Бацькі, Бацькаўшчына.

### Адхіленьні ад праўдзівай любові да Бацькаўшчыны

Такі ці іншы край Бог розна прызначае народам. Калісь у часе Старога Запавету сам Бог паказваў шляхі й спосаб заняцьця абшараў для выбранага жыдоўскага народу, але гэта было таму, каб стварыць адпаведныя вонкавыя абставіны, спрыяючыя для выкананьня пасланства Збаўцы сьвету, Бога-Чалавека.

Звычайна аднак Бог вызначае людзям на бацькаўшчыну той край, дзе яны нараджаюцца і ўзгадоўваюцца або дзе справядліва зжыліся, заняўшы вольныя ці малалюдныя прасторы.

Цаніць і любіць сваю бацькаўшчыну — гэта разумна адносіцца да прыродных дараў, даных нам Богам.

Здараюцца аднак розныя адхіленьні ад сапраўднай любові бацькаўшчыны. Вось галаўнейшыя зь іх.

Першы адхіл — гэта вузкі нацыяналізм, або шавінізм, які лічыць свой край, свой народ за першы ў сьвеце і найдасканальшы, сваю гісторыю за найслаўнейшую, сваю мову за найпрыгажэйшую, ня лічачыся зусім з праўдаю і сапраўднасьцю. Дзеля таго шавініст не шануе іншыя народы, ні іх мовы, ні культуры. Гэткае становішча зьяўляецца праступным супроць свайго народу, бо прыпісвае свайму народу якасьці божыя, Які адзіны ёсьць поўнасьцю дасканалы. Шавініст крыўдзіць іншыя народы, бо часта беспадстаўна паніжае іхнюю мову й культуру, ды перашкаджае разумна карыстацца асягненьнямі іншых культураў і цывілізацыяў.

Наступным адхілам ёсьць касмапалітызм і камуністычны інтэрнацыяналізм. Касмапалітамі бываюць найчасьцей багачы і арыстакраты, для каторых абыякава дзе жыць, абы толькі мець удоваль грошаў і выгоды

жыцьця. Космапалітамі зьяўляюцца также жыды й цыганы. Але і між жыдоў сёньня стае, штораз мацнейшым, сыёністычны напрамак, які мае на мэце давясьці зноў усіх жыдоў да іхняе даўнае бацькаўшчыны — Палестыны.

Камуністычны інтэрнацыяналізм, пакідаючы пакуль што кожнаму народу слова «бацькаўшчына», фармальна замяняе яго ідэалам-утопіяй — раем пралетарыяў, — які меў бы наступіць некалі ў будучыні. Аднак на прыкладзе тых народаў, што іх камунізм здолеў паняволіць, бачым, як той рай выглядаў бы.

Калі б мы прыраўнялі камуністычны інтэрнацыяналізм з хрысьціянскім унівэрсалізмам, дык хутка пераканаемся аб вялізарнай розьніцы між імі. Паколькі камуністычны сьветапагляд ня лічыцца з натуральнымі патрэбамі народаў і ў ахвяру сваім мроям складае істотныя элемэнты любові да бацькаўшчыны, дык хрысьціянскі унівэрсалізм працягвае руку да здаровых нацыянальных імкненьняў усіх народаў, багаслаўляе іх і асьвячае, ён толькі стараецца ўтрымаць іх у рамках хрысьціянскай маралі і ўсялюдзкага сужыцьця.

Трэцім адхілам вельмі нізкім і брыдкім у адносінах да бацькаўшчыны ёсьць вырачэньне яе, або рэнэгацтва.

Бываюць часам абставіны, што чалавек у імя дабра той жа самай бацькаўшчыны ёсьць змушаны прамаўчаць сапраўднае імя свае народнасьці ці бацькаўшчыны, але гэта толькі ў вынятковых абставінах. Аднак доўгае замоўчваньне свайго народнага імені і свае бацькаўшчыны, асабліва калі яе крыўдзяць і калі трэба выступіць у абарону яе правоў, сьведчыла б ня толькі аб малавартаснасьці таго, хто так паступаў бы, але было б для яго ганьбаю.

Калі мы сёньня набіраем моцы і пачуваем сілу ў словах «Бацькаўшчына-Беларусь», гэта перадусім дзеля гэраізму й крыві нашых братоў, якія сьведама пралілі яе за Бацькаўшчыну, як доказ свае вялікае і шчырае любові да яе.

*1947*

**Леў ГАРОШКА**
(1911—1977)

Каталіцкі святар, гісторык, культуролаг, пісьменнік, рэлігійны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Трашчычы на Навагрудчыне. Скончыў беларускую гімназію ў Навагрудку (1931). Вучыўся ва Украінскай духоўнай акадэміі ў Львове (1931—1936). У 1937 г. рукапаложаны ў святары. Праводзіў богаслужэнні на беларускай мове ў Пінскай дыяцэзіі. Праследаваўся польскімі свецкімі і царкоўнымі ўладамі. Пасля верасня 1939 г. працаваў настаўнікам у Баранавічах. Удзельнічаў у працы II Усебеларускага кангрэса (1944). З чэрвеня 1944 г. знаходзіўся ў эміграцыі. Адзін з арганізатараў беларускага душпастырства ў Нямеччыне (1945). Рэктар Беларускай каталіцкай місіі ў Францыі (1946) і ў Вялікабрытаніі (1960). У 1961 г. — дырэктар школы імя св. Кірылы Тураўскага ў Лондане. Кіраваў беларускай рэдакцыяй радыё Ватыкана (1970—1977). У 1947—1957 гг. — рэдактар і выдавец часопіса «Божым шляхам». З 1965 г. — архімандрыт. Адзін з актыўных дзеячаў беларускага рэлігійнага і культурна-асветніцкага жыцця ў эміграцыі. Аўтар нарысаў, мастацкіх абразкоў рэлігійна-гістарычнай, бытавой і маральна-этычнай тэматыкі. Склаў грэка-лацінска-царкоўнаславянска-беларускі слоўнік (20 тыс. слоў). Адстойваў ідэю ўзаемадзеяння рэлігіі, культуры і навукі як умовы для ўсебаковага развіцця чалавека і грамадства.

## ШТО ДАЛО БЕЛАРУСІ ХРЫСЬЦІЯНСТВА?

Памінаючы гістарычнае пытаньне: калі і як зьявілася хрысьціянства на Беларусі, тут хочам зьвярнуць увагу толькі на тое, што дало хрысьціянства беларускаму народу.

Для яснасьці самае тэмы прыпомнім толькі факт, што хрысьціянства зьявілася на Беларусі зусім пэўна ў канцы дзесятага стагодзьдзя, значыць больш як на паўвеку перад падзелам Царквоў. Вось жа хрысьціянства прыйшло на Беларусь у сваёй непадзельнай форме, як Праваслаўна-Каталіцкая Царква; у гэтай форме яно трапіла на ўраджайную глебу беларускае душы і ўжо ў XII в. прынесла прыгожыя кветкі: вялікіх беларускіх сьвятых, а тым самым і на грамадзкае жыцьцё яно мусіла мець паважны ўплыў.

Можна шмат гаварыць аб тым, якія багацьці прынесла нашаму народу хрысьціянства, але для яснасьці самае справы лепш будзе абмежавац-

ца да кароткага пералічэньня гэтага багацьця, а што да самае ацэны, дык няхай кожны чытач зробіць гэта сам.

1. Найважнейшы скарб, які прынесла з сабою хрысьціянства на Беларусь, ёсьць аб'яўленае слова Божае, гэта ёсьць эвангельская навука і ўсе скарбы сьв. Пісаньня і сьв. Традыцыі, а разам з гэтым хрысьціянская мараль і хрысьціянская філязофія — якія пачалі паволі пранікаць у сьветагляд беларуса і ў ягонае практычнае жыцьцё.

2. Разам з хрысьціянствам прыйшла асьвета. Закладаюцца першыя школы для ўзгадаваньня кадраў духавенства, а разам з тым і агулам для шырэньня асьветы. Зьяўляюцца кнігі, перапішчыкі кнігаў, а ўсьлед за імі і арыгінальныя беларускія пісьменьнікі, перш духоўныя, а потым і сьвецкія.

3. Арганізуючы парахвіі, хрысьціянства дае штуршок для арганізацыйнага жыцьця. Каля царквы арганізуюцца брацтвы ды іншыя ўстановы.

4. Кананічнае царкоўнае права, якое йдзе да нас і з Візантыі, і з Нямеччыны, мае вялікі ўплыў на кодыфікацыю беларускага права, якое знайшло свой прыгожы выяў у Літоўскім статуце.

5. Няма сумніву, што мастацтва існавала на Беларусі і да хрысьціянства, але з прыходам хрысьціянства яно атрымала новую невычарпальную крыніцу для разьвіцьця і ўзбагачаньня свае тэматыкі. Ітак: малярства атрымала новую галіну свайго разьвіцьця — іконаграфію, орнамэнтыку рэлігійнага зьместу, мініяцюры, фрэскавае мастацтва і мазаіку, музыка ўзбагацілася рэлігійнымі мэлёдыямі на візантыйскіх і рымскіх асновах, разьвіваецца ювэлірнае мастацтва.

6. Будаўніцтва даўней на Беларусі было пераважна дзеравяннае, хрысьціянства прычыняецца да паўстаньня і разьвіцьця мураванага будаўніцтва. Беларускія дойліды ня толькі бяруць прыклад з візантыйскіх сьвятыняў, але і самі вытвараюць беларускі будаўнічы стыль, як аб гэтым сьведчаць слаўная царква сьв. Спаса каля Полацку і Каложская царква ў Горадні.

7. Важней як матэрыяльнае будаўніцтва ёсьць будаўніцтва духовае, хрысьціянства дало Беларусі вялікіх сьвятых. Да сёньняшняга дня іх нарахоўваецца ў нас толькі 25 чалавек з розных пластоў грамадзянства: князёў, ваякаў, сялянаў, манахаў, манахіняў і сьвятароў, — але трэба сабе шчыра сказаць, што гэта толькі частка тых сьветлых постацяў, перад якімі нават варожыя для Беларусі ўлады мусілі схіліць свае галавы. Нам самым варта пазнаць лепш сваіх сьвятых і папулярызаваць іхны культ.

8. Хрысьціянства адчыніла для Беларусі дзьверы да скарбаў культуры Захаду і Усходу. Ведама, што народ, які замыкаецца ў сабе і заўсёды варыцца ў сваім сосе, хутка даходзіць да ўпадку. Для духовага разьвіцьця неабходна вымена думак, бо думка запладняе думку, і хрысьціянства дало неабмежаваныя магчымасьці ў гэтым кірунку.

9. Маючы адну літургічную мову, хрысьціянства тым самым спрыяла вытварэньню аднае літаратурнае мовы і прычынялася да аб'еднаньня беларускіх пляменьняў у адзін народ.

10. Тая палеміка і барацьба, якая была запачаткавана ў канцы XVI в. і разгарэлася ў XVII в. у зьвязку з каталіцтвам усходняга абраду на Беларусі, некаторымі гісторыкамі ацэньваецца толькі як адмоўнае зьявішча. Вось жа трэба сабе ўсьведаміць, што ў сапраўднасьці тагачасныя рэлігійныя спрэчкі прычыніліся да пабуджэньня і паглыбленьня беларускае нацыянальнае сьведамасьці, да ўзбагачэньня пісьменства. Дзеля гэтага пад час скасаваньня уніі ўсякія спрэчкі былі як найбольш жарстока забаронены.

11. Бясспрэчна, што каталіцтва з сваею здысцыплінаванасьцю ўносіць вельмі карысны дзейнік у беларускую псыхіку.

12. Трэба выразна разрозьніць палітыку ерархаў-чужынцоў у часе паняволеньня Беларусі ад дзейнасьці Каталіцкае Царквы як такое. Не зважаючы на ніякі чужацкі ўплыў, ніжэйшае каталіцкае духавенства даўней было амаль выключна беларускае і падтрымоўвала беларускую нацыянальную сьведамасьць. Уніяцкае беларускае духавенства ўвесь час карысталася ў казаньнях і катэхізацыі беларускаю моваю і толькі пасьля скасаваньня ўніі забаронена гаварыць казаньні па-беларуску ў 1840 г. Рыма-каталіцкае духавенства на Беларусі паколькі было беларускага паходжаньня, шмат дзейнічала для ўмацаваньня беларускае нацыянальнае сьведамасьці, прыкладам гэтага можа быць школа а. Магнушэўскага ў Крошыне, з якое выйшаў першы беларускі сялянскі паэт Паўлюк Бахрым. Калі мала ёсьць падобных постацяў, дык трэба не забывацца, што найбольш стойкія барацьбіты гінулі ў далёкай чужыне на засланьні, напр., а. Язэп Анчэўскі памёр аж у Суздалі (1877 г.), прасядзеўшы аж 32 гады ў строгім запярці і толькі адзін Бог ведае, колькі падобных мучанікаў аддало жыцьцё за Божую і народную справу.

13. Пачаткі беларускага адраджэнскага руху зьявіліся ў каталіцкім асяродзьдзі: Каліноўскі, Баршчэўскі, Чачот, Дунін-Марцінкевіч, праф. Эпімах-Шыпіла і бацька беларускага адраджэньня Фр.Багушэвіч — ўсё гэта дзеячы, узгадаваныя Каталіцкаю Царквою, не ўспамінаючы ўжо каталіцкага духавенства, якое актыўна ўдзельнічала ў гэтым руху. Паясьніць гэты факт можна тым, што Каталіцкая Царква прышчэплівае сваім вернікам глыбокі ідэалізм і ахвярнасьць.

14. Каталіцтва на Беларусі ўплывала такжа і на Праваслаўе, якое на нашай бацькаўшчыне шмат у чым розьніцца ад расейскага Праваслаўя. Акрамя абрадовых розьніцаў, яно на Беларусі ня мае ані цэзаропапізму, ані крайняе пасыўнасьці.

15. Калі ў новых і навейшых часох Усход перастаў быць культурным цэнтрам, а такім цэнтрам стаўся Захад, дзе як-ніяк каталіцызм ёсьць адною з найбольш жывучых рэлігіяў, дык лучнасьць з гэтым Захадам да-

памагала і дапамагае беларускаму народу заняць сваё мейсца ў сям'і перадавых культурных народаў.

16. Насупраць усім варожым перашкодам кадры сьведамага беларускага каталіцкага духавенства ўзрасталі штораз больш. Калі на пачатку XX стаг. вялі беларускую рэлігійную адраджэнскую працу толькі адзінкі, як: кс. кс. Лісоўскі, Будзька, Астрамовіч, дык ужо ў часе Першае сусьветнае вайны іхныя рады папоўніліся дзесяткамі маладых актыўных беларускіх духоўных, якія былі на такім высокім духовым і культурным узроўні, што нават у часе наступу польскага нацыяналізму на беларускі каталіцызм Апостальскі Пасад даручае адну з місіяў для эміграцыі ў Кітаі беларускім сьвятаром.

17. Ужо ў часе Першае сусьветнае вайны беларускі каталіцкі рух быў натолькі ўзмогся, што з ім мусілі паважна рахавацца нават вышэйшыя ерархі-небеларусы. У 1917 г. 24—25 траўня адбыўся Першы зьезд беларускага каталіцкага духавенства ў Менску, які сфармуляваў беларускія дамаганьні адносна ўвядзеньня беларускае мовы ў касьцельнае жыцьцё, і гэтыя дамаганьні тагачасны віленскі біск. Ропп афіцыяльна зацьвердзіў, загадваючы асобным цыркулярам падуладным сабе духоўным карыстацца беларускаю моваю ў казаньнях і навучаньні рэлігіі ў парахвіях з беларускім насельніцтвам.

Потым польскі ўрад пастараўся абсадзіць віленскую мітраполію такім беларусаненавісьнікам, як міт. Ялбжыкоўскі, які ў 1925 г. скасаваў цыркуляры біск. Роппа. Аднак раз кіненае зерне хоць і было моцна прыглушана польскаю ўладаю, не паддалося поўнаму зьнішчэньню.

18. Не ад рэчы будзе ўспомніць, што беларуская рэлігійная літаратура ад часу адраджэньня заўдзячвае сваё існаваньне амаль выключна дзейнасьці беларускага каталіцкага духавенства. Ад 1926 г. у Вільні існавала Беларускае каталіцкае выдавецтва, ягоныя выданьні станавілі амаль 80 проц. усяе беларускае тагачаснае рэлігійнае літаратуры. Падобнае зьявішча можна бачыць і на эміграцыі: да гэтага часу паказалася на эміграцыі 12 назоваў беларускіх рэлігійных часапісаў, але толькі 71 экзэмпл. З іх 47 каталіцкіх (66,5 проц.), 20 праваслаўных (27 проц.) і 4 сэктанцкіх (5,5 проц.).

19. Аб тым, як сапраўды каталіцызм шырока адчыняе дзьверы для беларускага народа ў міжнародным жыцьці, могуць сьведчыць сучасныя эміграцыйныя адносіны. Не зважаючы на сваю невялікую колькасьць, беларусы-каталікі зьяўляюцца раўнапраўнымі сябрамі ўва ўсіх міжнародных каталіцкіх пачынаньнях і арганізацыях. Беларускія каталіцкія місіі ў Парыжу і Лёндане нснованы тады, калі яшчэ ўрадам гэтых дзяржаваў трэба было шмат даказваць аб існаваньні беларускае нацыі. Ватыканская радыёстанцыя першая ўключыла беларускія перадачы ў сваю праграму.

20. Не беспадстаўна і ня дзеля нейкіх часовых меркаваньняў, але зусім згодна з сваім гістарычным і культурным шляхам самыя ж беларусы залічаюць сябе да народаў Захаду.

Гэтае кароткае і сухое пералічэньне фактаў ня мае на мэце некаму накінуцца. Наадварот, сучасны каталіцызм нават і ў сваёй місійнай працы моцна падчырквае пашану свабоднае волі кожнага чалавека, бо яна дана чалавеку самым Богам. Мэтаю гэтага артыкулу ёсьць даць вернікам магчымасьць пазнаць, дзеля чаго сучасны бальшавізм востра выступае супраць хрысьціянства агулам і асабліва супраць каталіцызму. Як бачым з вышэй пералічаных фактаў, каталіцызм вельмі ўспамагае і ўзмацняе нацыянальны рух нават і паняволеных народаў, бальшавізм жа наадварот прыгноблівае ўсякі праяў нацыянальнае сьведамасьці так у агульнаграмадзкім, як і ў рэлігійным жыцьці. Наступ на Каталіцкую Царкву цяпер вядзецца з усіх бакоў і ў абліччы гэтае небясьпекі нашым сьвятым абавязкам ёсьць стаць на абарону Каталіцкае Царквы, бо ў залежнасьці ад таго, якібудзе канец сучасных варожых нападаў на каталіцызм, залежыць і будучыня беларускага народу.

*1951*

## ПАД ЗНАКАМ «РУСКАЕ І ПОЛЬСКАЕ ВЕРЫ»

*(Фрагменты)*

### Актуальнасьць тэмы

Між шматлікімі балючымі пытаньнямі беларускага рэлігійнага жыцьця бадай што найбольш балючым было і, на жаль, сёньня яшчэ ня зусім перастала быць надужыцьцё рэлігіі акупацыйнымі ўладамі ў мэтах іхняе палітыкі вынарадаўленьня. Гэтае пытаньне ўжо ня раз закраналася ў кнігах і часапісах так беларускіх, як і іншамоўных, але, на жаль, вельмі агульна і звычайна толькі часткава.

Калі б надужыцьцё рэлігіі ўжо належала да мінулага і калі б сёньня маглі спакойна зажываць глыбокія раны Беларускае Царквы і беларускага рэлігійнага жыцьця, спрычыненыя калішнімі надужыцьцямі, дык можна было б абходзіць маўчаньнем гэтае далікатнае пытаньне, згодна з агульным звычаем, што зямлёю зарыта, хай будзе забыта, — на жаль, так ня ёсьць. Яшчэ і сёньня ня спыняюцца атакі і падступныя плянаваньні супраць беларусаў у імя ці то «польскае», ці «рускае» вераў, і вынікі гэтых атакаў час да часу даюць аб сабе знаць у розных непаразуменьнях у рэлігійным і грамадзкім жыцьці. Таму маўчаць аб тых нягодных плянаваньнях супраць аднае з найважнейшых галінаў беларускага духовага жыцьця аніяк нельга і то з трох прычынаў: 1. Хто ведае, ці не за вяковыя надужываньні рэлігіі Бог дапусьціў на нашых і на суседніх землях так цяжкае рэлігійнае прасьледаваньне, якім ёсьць бальшавіцкае прасьледаваньне? 2. Усякае надужыцьцё рэлігіі ў нерэлігійных мэтах спрычыняе страшэнную шкоду самой рэлігіі, таму неабходна гэтаму

зьявішчу супрацьставіцца як найбольш рашуча, але перш трэба яго дакладна пазнаць. 3. Прасякнутае палітыканствам духавенства акупуючых Беларусь народаў прывыкла да бязглуздых прэтэнзіяў адносна беларусаў і ўважае гэта за нармальнае зьявішча, а ўсякі праяў беларускага рэлігійнага жыцьця стараецца кляйміць даносамі як «палітыканства». Даходзіць да таго, што нават калі беларус да Бога зьвернецца ў роднай і Богам данай мове, дык гэта называюць нейкай страшнай «палітыкай».

Звычайна ўсякія надужыцьці дзеюцца прыхавана пад нейкімі «шляхотнымі матывамі». Дык першым крокам у супрацьдзеяньні ім ёсьць вынясеньне іх на дзённае сьвятло. Аднак у эміграцыйных умовах даволі цяжка выясьняць гісторыю Царквы на Беларусі, ня маючы доступу да архіваў на бацькаўшчыне. У сілу гэтага факту прыдзецца абмежавацца толькі да тых дакумантаў і фактаў, якія ўжо апублікованы, але астаюцца мала ведамымі ў шырэйшых кругах. [...]

Чужацкая прапаганда мела выразную сыстэму ў супрацьбеларускай дзейнасьці. Каб вынарадавіць беларусаў, перш-наперш неабходна іх адчужыць ад усяго роднага, каб «ня нашай наша краіна нам сталась», і за гэта, каб прысабечыць тую краіну, «ужо лет сотні Масква і Варшава торг груганові вядуць між сабой». Іхняя дзейнасьць не аставалася бяз вынікаў. Не дарма Янка Купала перад вайною адзываўся з горыччу ў сэрцы:

Скора сын бацьку, а бацька сыночка
Не распазнаюць адзін аднаго;
Дзеці чужацкія корміць ўжо дочка,
Маці працуе на злыдня свайго.

І гэта якраз было вынікам вяковае прапаганды «рускае» і «польскае» вераў; было б злочынам з нашага боку, каб атакі на душу беларускага народу пакінуць неадбітымі.

### «Руская вера»

Калісь, у шэрую мінуўшчыну, было звычайным зьявішчам, што кожны народ меў адно веравызнаньне, і таму ня раз атоесамлівала веравызнаньне з народнасьцю. Здараліся выпадкі, што народы трацілі сваю незалежнасьць, але ў паняволеньні далей трымаліся свайго веравызнаньня, і яно для іх станавілася азнакаю апрычонасьці. Тады зьмена веравызнаньня раўнялася зьмене нацыянальнасьці. Хрысьціянства ўнесла паважную зьмену ў рэлігійна-нацыянальныя адносіны, бо яно прызначана для ўсіх людзей і ўсіх народаў. Пасылаючы апосталаў, Хрыстос паслаў ім Сьвятога Духа і дар гаварыць на розных мовах[1]. Гэтым Бог выразна выказаў, што хрысьціянства ня мае на мэце зьнішчыць нацыянальную апрычонасьць ніводнага народу.

На жаль, няма на сьвеце такіх сьвятасьцяў, якіх ба людзі не надужывалі. Так ня раз здаралася і з хрысьціянствам: валадары некаторых

хрысьціянскіх краінаў выкарыстоўвалі рэлігію да зусім нерэлігійных мэтаў.

Калі ў Эўропе ад XVI ст. зьявілася магутная нацыянальная плынь, дык амаль ўва ўсіх краінах патварыліся нацыянальныя Цэрквы. Тады ў Маскоўскім княстве нацыянальнаю Царквою сталася Праваслаўная Царква з асабліваю азнакаю моцнае перавагі нацыяналізму над рэлігійнасьцю. Тады расейская Царква значна ўзрасла, але слушна кажа расейскі гісторык: «Нацыянальнае ўзьвялічэньне рускае Царквы было дзелам больш палітычным, чым духовым»[2]. Ад таго часу Царква ў Расеі «паставіла сябе на службу дзяржаве, перастала быць «сумленьнем» дзяржавы, каб ператварыцца ў апору і амаль інструмант Маскоўскага імпэрыялізму»[3].

Шмат хто забываецца або і зусім ня ведае, што Маскоўскае княства распачало свой імпэрыялістычны паход на Захад пад прыкрыцьцём рэлігійных матываў. Першаю ахвяраю таго паходу сталася «единовѣрная Бѣлоруссія» нібы якраз таму, што была адзінавернаю з Маскоўшчынаю. Тады маскоўскія цары абвяшчалі войны, ламалі мірныя дагаворы, прымалі да сябе з Вялікага Княства Літоўскага апалых магнатаў і рабілі ўсякія подступы ў імя «абароны праваслаўнае веры на Белай Русі».

Да якое ступені маскоўскія цары выкарыстоўвалі праваслаўную рэлігію, каб мяшацца ў нутраныя справы Беларускае дзяржавы, можа сьведчыць карэспандэнцыя князёўны Алены, жонкі вял. кн. Аляксандра, з яе родным бацькам, маскоўскім царом Іванам III. Вось вынятак з ліста Алены, пісанага ў 1503 г. Успомніўшы на пачатку, што трымаецца моцна праваслаўнае веры і ходзіць у цэрквы, яна кажа: «Мой кароль, яго маці, браты... і ўся зямля — усе спадзяваліся, што са мною ў Літву прыйдзе ўсё добрае, вечны мір, любоў кроўная, дружба, помач на паганства; а цяпер бачаць, што са мною толькі ліха да іх прыйшло: вайна, войска, узяцьце і спаленьне гарадоў і валасьцёў, разьліцьцё крыві хрысьціянскае; жоны ўдовамі, дзеці сіратамі, палон, крык, плач, галошаньне на ўзрыд! Такое спачуваньне і любоў твая ка мне! Па ўсім сьвеце паганства радуецца, а хрысьціянскія валадары ня могуць надзівіцца і цяжка жалуюцца: ад веку, кажуць, ня чувана, каб бацька сваім дзецям бяду прычыняў. Калі валадар, татуля мой, Бог табе не палажыў мяне, сваю дачку, жалаваць, дык зачым мяне з зямлі свае выпусьціў і за такога ж (як сам) брата свайго выдаў? Тады і людзі дзеля мяне ня гінулі б і кроў хрысьціянская ня лілася б. Лепш бы мне пад тваімі нагамі ў тваёй зямлі памерці, чым такую славу аб сабе чуць; усе адно толькі і гавораць: дзеля таго ён аддаў сваю дачку ў Літву, каб тым лепш землю і людзей выглядзець...»[4]

І што адказаў цар на той ліст дочкі, пісаны горкімі сьлязамі і крывёю? Апраўдваўся толькі рэлігійнымі меркаваньнямі: «Гэтая справа, дачка, сталася не праз цябе... я спадзяваўся, што як ты прыйдзеш к яму

[вял. кн. Аляксандру], дык з табою ўсёй Русі, грэчаскаму закону будзе ўмацаваньне»[5].

Амаль праз усё XVI стаг., адно з найбольш крывавых стагодзьдзяў на Беларусі, калі Маскоўскае Княства разрасталася на Захад, праваслаўная вера ў вуснах цароў апраўдвала ўсякія іх мерапрыемствы супраць Беларусі.

Падобна і пасяганьні адносна іншых краінаў у Маскве прыкрывалі царкоўнымі матывамі. Напрыклад, Земскі сабор у Маскве, які 1 красавіка 1653 г. пастанавіў прыеднаць Украіну да Маскоўшчыны, апраўдваў сваю пастанову передусім тым, што цар прыймае украінскія гарады і землі «пад сваю дзяржаўную высокую руку дзеля праваслаўнае хрысьціянскае веры і сьвятых божых цэркваў, таму што паны-рада і ўся Рэч Паспалітая на праваслаўную веру і на сьвятыя божыя цэрквы паўсталі і хочуць іх вынішчыць»[6].

Уласьціва нельга было б выказваць ніякага дакору расейскай Праваслаўнай Царкве за тое, што дбала пра сваю нацыянальную справу, бо ж гэткім ёсьць абавязак кожнага рэлігійнага дзеяча як грамадзяніна свае дзяржавы, але справа ў тым, што ад XVI ст. у расейскай Царкве нацыянальны элемэнт ня толькі пераважае над рэлігійным, але нават стаецца якоюсьці «догмаю веры». Калі ў 1708 г. украінскі гэтман Іван Мазэпа, пакінуўшы расейскага цара Пятра, перайшоў на бок швэдаў, дык за гэта па загаду цара расейскія ерархі ўрачыста выклялі (анатэмізавалі) Мазэпу дня 12 лістапада 1708 г. як нейкага страшнага гэрэтыка, і гэтае пракляцьце не скасавана да сёньня. І да сёньня палітычныя правіны расейская Царква выклінае як гэрэзіі, ідучы старым шляхам палітыканства. Зусім на ўзор выкляцьця Мазэпы савецкі праваслаўны Сабор у Маскве 8.IX.1943 г. прыняў між іншым такую пастанову: «Усякі, што вінаваты ў здрадзе ў агульнацаркоўнай справе і перайшоў на бок фашызму, як праціўнік Господняга крыжа, мае лічыцца адлучаным, а япіскап або клірык пазбаўленым сана»[7].

У гісторыі ведама нямала выпадкаў, калі хрысьціянскія народы заваёўвалі няхрысьціянскія народы, каб там шырыць хрысьціянства, а Расея рабіла наадварот: яна выкарыстоўвала праваслаўнае хрысьціянства, каб заваёўваць адзінаверныя праваслаўныя народы і вынішчаць там самабытную культуру, а потым на руінах шырыць русыфікацыю, як гэта сталася на Беларусі і Украіне.

Акцыя русыфікацыі Беларусі распачалася адразу пасьля таго, як Беларусь трапіла пад уладу Расеі падчас разбораў Рэчы Паспалітае. Галоўную ролю ў гэтай акцыі было даручана выканаць Праваслаўнай Царкве. Першы Менскі праваслаўны япіскап Віктар Садкоўскі, сабраўшы ў Слуцку мяйсцовае беларускае праваслаўнае духавенства, абрушыўся на іх беларускую мову, дамагаючыся, каб яны гаварылі толькі па-расейску, пагражаючы пры тым: «Я вас скарэню, зьнішчу, штоб і языка не было вашего проклятого літовского і вас саміх; я вас у зсылкі порозсылаю аль-

бо ў салдаты поотдаю, а своіх з закордону [гэта значыць з Расеі] понавожу»[8].

Пагроза Садкоўскага ня была пустою: царыца Кацярына II хутка пасьля першага падзелу Рэчы Паспалітае пасылала на занятыя абшары праваслаўнае духавенства з глыбіны Расеі і з Смаленшчыны, але таму, што яны і ўмыслова і духова стаялі шмат ніжэй за мяйсцовае беларускае духавенства, а такжа дзеля прывязаньня да Каталіцкае Царквы усх. абраду, дык вернікі іх байкатавалі. Для дакладнага азнаямленьня з гэтым станам рэчаў наступнік Кацярыны II Паўло I дэлегаваў Менскага губэрнатара З.Корнеева, і той, аб'ехаўшы сваю губэрныю, пісаў цару 6 ліпеня 1797 г.: «...Прысланыя з Смаленскае епархіі [сьвятары] ня здольныя да выконваньня свае годнасьці і да ўтрымоўваньня добрых адносінаў з людзьмі... яны сталіся ненавіснымі ў народзе»[9]. А калішняя і сучасная расейская прапаганда расьпісваецца, што яна несла на Беларусь культуру.

Як характэрная азнака самабытнасьці беларускага народу ў рэлігійным жыцьці быў каталіцызм усходняга славянскага абраду (вунія), гэта была непераможная перашкода для русыфікацыі, і вось на гэтую перашкоду расейцы накіравалі свой наймацнейшы наступ. Дакладней аб гэтым будзе гутарка на іншым мейсцы, але тут трэба сьцьвердзіць іншы прыкры факт: Расейскі націск насільнага скасаваньня вуніі, для правядзеньня пасьля русыфікацыі, выклікаў у народзе зусім адваротнае зьявішча — узмоцненую хвалю палянізацыі. Каб ня трапіць да расейскіх бацюшкаў, у шматлікіх вуніяцкіх парахвіях пачаўся рух пераходу ў лацінскі абрад з маніфэстацыйным прыйманьнем польскасьці, каб быць як найбольш непадобнымі ў нічым да расейцаў. Падобнае зьявішча паўтарылася на Беларусі ў 1945 г., калі беларусы-каталікі запісваліся палякамі, каб выехаць у Польшчу на «адзысканыя землі», а ў Нямеччыне ў лягерах ДП такжа тварылася нешта падобнае, каб ня трапіць «на родіну».

Праўда, на пачатку XIX ст. вунія ў радох свае ерархіі мела нямала палякаў і спалянізаваных беларусаў, але вясковае духавенства было пераважна беларускім і карысталася беларускаю моваю ў штодзённым жыцьці і ў казаньнях. Талеруючы польскую мову ў Каталіцкай Царкве, з беларускаю моваю расейцы ніяк не маглі зьмірыцца, таму і ўплянованы рашучы наступ супраць каталіцызму ўсходняга абраду (вуніі) праведзены з усёю брутальнасьцю, якою азначаўся тагачасны царскі рэжым.

Пасьля скасаваньня вуніі ў 1839 г. русыфікацыйны наступ праз Праваслаўную Царкву ўзмацняўся з дня на дзень. У 1840 г. было забаронена гаварыць казаньні па-беларуску — і япіскапы пачалі вымагаць ад падуладнага духавенства, каб яны нават у прыватным жыцьці карысталіся толькі расейскаю моваю. Менскі яп. Міхаіл Галубовіч (1848—63) дакараў сваіх сьвятароў і асабліва іхных жонак за тое, што гавораць моваю народу, а не па-расейску і налягаў, каб хутчэй навучыліся расейскае мовы і давалі ў гэтым «прыклад сваім парахвіянам»[10].

Адносна сіламоц пераведзеных з каталіцызму ўсходняга абраду на праваслаўе было выдана спэцыяльнае законадаўства, якое сурова забараняла паварот у каталіцызм. Першая такая забарона была выдана яшчэ 22.IV.1794 г., а потым 10.IX.1830 г. яна была адноўлена і ўзмоцнена[11] ды ўвайшла ў карны кодэкс Расейскае імпэрыі параграф 187. Гэтую забарону паўтаралі пры розных нагодах высокія царскія ўрадоўцы і нават цары асабіста. Напрыклад, цар Аляксандр II, адведваючы Вільню 13(25) чэрвеня 1867 г., выклікаўшы спаміж прадстаўнікоў беларускіх сялян тых, якіх ня так даўно перацягнена з каталіцызму на праваслаўе, казаў ім: «Я вельмі рад, што вас бачу праваслаўнымі. Я ўпэўнены, што вы перайшлі да старое веры свайго краю з перакананьня і шчыра. Аднак, раз стаўшыся праваслаўнымі, ведайце, што я не дазволю і не дапушчу, каб вы вярнуліся да каталіцызму. Чуеце? Я паўтараю, што радуюся, бачучы вас праваслаўнымі»[12]. Сапраўды, «шчырая» гутарка да тых, што перайшлі «з перакананьня і шчыра».

Калі на Беларусі зьявіўся Мураўёў з неабмежаванымі правамі, дык для русыфікацыі Беларусі створана ў Вільні «Камісія для русыфікацыі Заходняга краю». У тую Камісію пісаў куратар Карнілаў 3.VIII.1866 г.: «Калі хочаце, каб «рускі» народ з заходніх правінцыяў меў цягу да ўсходу, распаўсюджвайце праваслаўе»[13]. Такая думка была ня толькі Карнілава, але агулам усіх панасыланых на Беларусь царскіх чыноўнікаў, дык ня дзіва, што на Праваслаўную Царкву ўскладалася штораз больш заданьняў у русыфікацыйнай працы. Калі обэр-пракурорам Сьвяцейшага Сыноду стаўся Пабеданосцаў (1880—1905), дык насільная русыфікацыя праз Праваслаўную Царкву даходзіла да нячуваных разьмераў. Расейскі гісторык Зарнов кажа, што Пабеданосцаў прыклад да гвалтоўнае русыфікацыі ўзяў з нямецкае ідэі дэнацыяналізацыі славянаў. Але адкуль бы ён ня ўзяў прыкладу, у тых вобласьцях Расейскае імпэрыі, дзе насельніцтва ня было праваслаўным, Праваслаўная Царква сталася «сымбалем русыфікацыі і крыніцаю прасьледаваньня языка і веры мяйсцовага насельніцтва»[14].

Перш было ўспомнена, што русыфікацыю заўсёды папераджала руйнацкая праца. Адным з галоўных пунктаў руйнацкае дзейнасьці было вынішчэньне беларускае Каталіцкае Царквы ўсходняга абраду, а ў далейшым руйнацкая дзейнасьць абымала ўсе галіны беларускага культурнага жыцьця. У даным выпадку нас перадусім цікавіць тая дзейнасьць, якая праводзілася праз расейскую Праваслаўную Царкву і ў імя «рускае веры». Выкарыстоўваючы барацьбу супраць каталіцызму ўсх. абраду (вуніі), расейцы і іх прыслужнікі з асаблівым жарам накінуліся на беларускую старасьвеччыну. **Старыя беларускія кнігі** забіраліся з усіх парахвіяў і паліліся. Праўда, прыклады паленьня кнігаў на Беларусі здараліся ўжо ў XVI ст., але тады нішчыліся пратэстанцкія выданьні, якія пераважна былі польскімі, дык і шкода ад гэтага для беларускае культуры была ўсяго патолькі балючая, паколькі гэты прэтэкст надужываўся для ні-

шчэньня беларускіх кнігаў. Затое ў XIX ст. вынішчаліся толькі беларускія кнігі так літургічныя-вуніяцкія, як і іншыя, якраз таму, што яны былі беларускія, бо яны былі сьведкамі беларускае самабытнасьці.[...]

Яшчэ адным важным дзейнікам русыфікацыі на Беларусі былі школы. Расейскі ўрад агулам не дазваляў адкрываньня беларускіх школаў, а калі дзе якая адчынялася прыватна, як гэта зрабіў у Крошыне кс. Магнушэўскі, дык расейскія ўлады, як толькі нешта падобнае выяўлялі, зараз жа закрывалі. Да таго агулам на Беларусі школьніцтва разьвівалася вельмі паволі. Аднак Праваслаўная Царква мела паважны ўплыў на пашырэньне школьніцтва ад 1884 г. На агульны лік 4000 пачаткавых школаў, якія былі на Беларусі ў 1914 г., амаль палавіна была царкоўна-прыхадзскімі, але ўсе яны былі выключна расейскімі, а па духу моцна русыфікатарскімі. Гэтакімі ж былі і Духоўныя сэмінарыі (у Менску, Віцебску і Вільні).

Беларускае праваслаўнае прэсы да 1905 г. агулам не магло быць дзеля агульнае забароны беларускага друку, але і пасьля скасаваньня гэтае забароны яна не зьяўлялася аж да 1925 г. дзеля моцнае русыфікатарскае плыні ў радох духавенства і асабліва ў ерархаў.

Агулам прыходзіцца сьцьвердзіць, што ўва ўсіх русыфікатарскіх мерапрыемствах расейскага ўраду Праваслаўная Царква ня толькі што нічога не рабіла ў абароне беларусаў і іншых сваіх адзінаверных нерасейскіх вернікаў, але, наадварот, праводзіла ўсе русыфікатарскія мерапрыемствы як сваю найгалаўнейшую місію. [...]

У сваёй сутнасьці хрысьціянства павінна ўносіць дух узаемнага зразуменьня і злагоджаньня суседзкіх непаразуменьняў, а ў расейцаў яно сталася прыладаю паняволеньня і вынарадаўленьня. Расейскія імпэрыялісты ў расах з сваёю прапагандаю «рускае веры» пярэчаць самым асновам хрысціянства, прызначанага Богам для ўсіх народаў. У грунце рэчы найбольшымі прапагандыстамі «рускае веры» былі і ёсьць безрэлігійныя шавіністычна настроеныя людзі, у якіх мейсца рэлігіі заняў крайны нацыяналізм, дзеля гэтага супраць усіх іхных пасяганьняў, прыкрытых вопраткаю «рускае веры», павінны выступаць супольным фронтам беларусы і каталікі, і праваслаўныя, бо гэта ёсьць выступленьне супраць супольнага ворага і то тым першага, што замаскаванага. І на ўсе пасяганьні гэтага супольнага ворага, прыкрытага вэлюмам праваслаўя, мы павінны сказаць з усею рашучасьцю: даволі надужываньня рэлігіі для драпежных імпэрыялістычных мэтаў.

### «Польская вера»
### Каталіцызм на Беларусі ў XIV—XVIII ст.

Каталіцызм лацінскага абраду пачаў пашырацца на Беларусі ў канцы XIV ст. Першымі лацінскімі сьвятарамі ў нас былі палякі, але даволі хутка беларускіх сьвятароў ужо было больш, чым палякаў, і Каталіцкая Царква пачала прымаць беларускі характар. Літургічнаю моваю была ла-

ціна, як і ўсюды ў Каталіцкай Царкве, але па-за тым на Беларусі і нават у Летуве духавенства карысталася тагачаснаю ўрадаваю беларускаю моваю, як аб гэтым сьведчыць справаздача сакратара вял. кн. Аляксандра і адначасна віленскага пралата Эразма Вітэлі ў Рыме дня 31.III.1501 г., дзе гаворыцца, што летувісы: «захоўваюць уласную мову. Аднак таму, што беларусы засяляюць сярэдзіну княства і іхняя гаворка ёсьць прыгажэйшаю і лягчэйшаю, дык усе яе ўжываюць агульна»[15].

Сёньня чамусьці мала хто ўспамінае, што ў XV ст. на Беларусі было нямала рэлігійнае каталіцкае літаратуры для вернікаў лацінскага абраду ў тагачаснай беларускай мове, да таго некаторыя творы былі напісаны царкоўнаславянскімі літарамі. Колькі такіх твораў успамінае В.Ластоўскі[16].

Першае біскупства лацінскага абраду для Беларусі было створана ў Вільні ў 1388 г., і першым біскупам быў паляк, але ўжо яго наступнікам быў беларус Якаў Пліхта. У далейшым на Віленскім пасадзе чаргаваліся палякі, беларусы, літоўцы, але ад палавіны XV ст. — выключна грамадзяне Вялікага Княства. Калі ў 1591 г. кароль Жыгімонт Ваза назначыў Віленскім біскупам паляка Бэрнарда Мацеёўскага, дык канцлер Леў Сапега катэгарычна адмовіўся паставіць пячатку Вял. Кн. у грамаце нованазначанага біскупа, бо паводля Літоўскага статуту чужынцом забаранялася займаць урадавыя пасады ў Вялікім Княстве. Хоць Мацеёўскі быў адным з лепшых біскупаў і потым стаўся нават кардыналам, аднак мусіў ўпакарыцца перад канцлерам і пасьля сямігадовае валакіты ў 1598 г. кароль мусіў адклікаць яго назначэньне ў Вільню[17]. Зрэштаю самыя палякі вуснамі Я.Шчэнснага-Губарта сьцьвярджалі, што ў XVI ст. «Русь веры рымскае была ня горшаю за Русь веры грэцкае».

Фатальную ролю ў палажэньні беларускае Каталіцкае Царквы адыграў пратэстантызм з сваімі шматлікімі сэктамі. Ён прыйшоў на Беларусь праз Польшчу ў польскай форме. Гэта была другая палавіна XVI ст. — час упадку і Праваслаўнае і Каталіцкае Цэркваў. Пратэстанты, галоўным чынам кальвіністы, хутка ахапілі большую частку беларускае шляхты і магнатаў[18], прышчэпліваючы ім адначасна з новаю вераю сувязь з польскасьцю. Найбольшы ведамы на Беларусі прапагатар кальвінізму, Сымон Будны, быў палякам з Мазоўша. Ён выдаў толькі пару твораў па-беларуску і потым перайшоў у сваёй прапагандзе на польскую мову[19]. Пратэстанцкае школьніцтва на Беларусі было выключна польскае. Агулам палянізацыйную ралю пратэстантызму гісторыкі ведалі, але разглядалі пабежна, толькі нядаўна на аснове дакумантальнага матэрыялу шырэй асьвятліў гэтую дзейнасьць праф. С.Кот, даказваючы, што пратэстантызм на нашых землях быў магутным дзейнікам палянізацыі[20].

На змаганьне з пратэстантызмам у 1569 г. Віленскі біскуп паклікаў з Польшчы езуітаў. Яны спачатку вучыліся беларускае мовы, але карысталіся ёю мала калі, а звычайна, ідучы сьледам за пратэстантамі, ужывалі

толькі польскае мовы. Горш таго, нават Праваслаўная Царква ў канцы XVII ст. пачала выдаваць частку свае палемічнае літаратуры па-польску.

Пратэстантызм за пару дзесяткаў гадоў быў зьнішчаны, а ягоныя прыхільнікі знайшліся пераважна ў лоне Каталіцкае Царквы лацінскага абраду, уносячы туды моцную палянізацыйную плынь.

Вернікамі Каталіцкае Царквы лацінскага абраду былі пераважна шляхта, магнаты і толькі часткава мяшчане; у Праваслаўнай Царкве аставаліся сяляне і мяшчане — гэткім чынам рэлігійная розьніца спалучалася з нацыянальнаю розьніцаю, моцна разьмяжоўваючы іх і стаўляючы каталіцызм ва ўпрывіліяванае становішча, у якім знайходзілася шляхта, якая з гордасьцю заяўляла: Bóg stworzył chłopa dla popa, a plebana dla pana.

Рэлігійная вунія хоць і выклікала шмат палемікі, але нацыянальнага разьмежаваньня ў рэлігійных адносінах не зьмяніла, бо і далей шляхта аставалася ў лацінскім абрадзе і ганарылася тым, што мае «плебана», а сялянства аставалася ў славянскім абрадзе каля сваіх «попаў», як з пагардаю палякі называлі каталіцкае духавенства славянскага абраду, падобна як і праваслаўных духоўных.

## Пад уладаю Расейскае Імпэрыі

Падзел Рэчы Паспалітае і прылучэньне Беларусі да Расеі яшчэ больш узмоцніла палянізацыю ў лоне Каталіцкае Царквы на Беларусі, бо ў змаганьні за сваю незалежнасьць польскае духавенства ўзлажыла асабліва важную ролю на Каталіцкую Царкву ўва ўсіх акупацыйных зонах. У тым часе канчаткова дайшло да таго, што вельмі трапна выказаў польскі журналіст Зьдзіслаў Дэмбіцкі ў 1944 г. у сваім артыкуле аб «Польскай народнай веры», што «ня Польшча сталася каталіцкаю, але каталіцызм стаўся польскім». Яшчэ больш, як у самай Польшчы, такі нацыяналістычны дух укараняла польскае духавенства на Беларусі[21]. Так стварылася «польская вера», якая цьвярдзіла, што «кожны паляк — каталік, а кожны каталік — паляк».

Нацыяналістычны настрой польскага духавенства на няпольскіх абшарах прымаў такія дзівосныя формы, што на яго зьвернена ўвагу нават у Зах. Эўропе. У 1908 г. на гэтую тэму была разгарнулася жывая дыскусія. Запачаткаваў яе а. Пальміеры, даказваючы, што польскае духавенства ў сваёй дзейнасьці кіруецца перадусім палітычнымі намерамі, уважаючы «каталіцызм за прыладу палянізацыі»[22]. На такі закід палякі зарэагавалі вельмі жыва. У газэтах, часапісах і брашурах зьявіліся адказы[23], на якія ў сваю чаргу адказаў а. Пальміеры[24]. Хоць дыскусія да ніякіх канкрэтных вынікаў не давяла і нават ня выявіла да канца закраненага пытаньня, але прынамся хоць часткава паказала ўсяму сьвету палітыканства польскага духавенства на няпольскіх абшарах.

Праўда, паняволеньне Польшчы давала польскаму духавенству шмат апраўдваючых аргумэнтаў іхняе якраз такое, а ня іншае рэлігійнае палі-

тыкі, бо ж для іх Каталіцкая Царква была найбольш магутным бастыёнам у змаганьні за незалежнасьць, у якім маглі спалучацца ўсе і партыйныя і беспартыйныя дзеячы, незалежна ад сваіх супярэчных поглядаў. Але вяршком недарэчнасьці ў паводзінах польскіх сьвятароў было тое, што, змагаючыся за сваю незалежнасьць, яны стараліся здушыць усе праявы беларускага вызвольнага руху, яны нават і думкі не дапускалі, каб на Беларусі зьвяртацца да беларускіх вернікаў па-беларуску[25]. Нічога дзіўнага, што такая крывадушнасьць, якая Каталіцкую Царкву хацела мець за абаронцу перад дэнацыяналізацыяй польскага народу і адначасна тую ж Царкву выкарыстоўвала на Беларусі для дэнацыяналізацыі беларусаў, мусіла выклікаць з боку беларусаў зусім апраўданую няпрыхільнасьць да польскіх сьвятароў.

Каб ня мець лішніх перашкодаў у сваёй палянізацыйнай дзейнасьці на Беларусі, польскае духавенства старалася ўсімі спосабамі перашкодзіць даплыву хоць крыху сьведамае беларускае моладзі ў духоўныя сэмінарыі. Аднак, не зважаючы на розныя перашкоды, рады беларускага каталіцкага духавенства лацінскага абраду перад 1917 г. хоць паволі, але ўсё ж узрасталі, бо беларускі адраджэнскі рух пранікаў і ў духоўныя ўстановы і там шырыў ўсьведамленьне між спалянізаваных беларусаў. Нават у такой установе, як Віленская каталіцкая духоўная сэмінарыя, у 1911 г. рэктар афіцыяльна прызнаў існаваньне беларускага гуртка і дазволіў яму мець беларускую бібліятэчку[26]. У Каталіцкай духоўнай акадэміі ў Пецярбурзе гэткі ж гурток паўстаў у 1912 г., а ў 1914 г. налічваў 70 сябраў і меў вялікую беларускую бібліятэку ды разьвіваў жывую дзейнасьць дзякуючы паважнай падтрымцы праф. Браніслава Эпімаха-Шыпілы[27].

Выкарыстоўваючы некаторыя магчымасьці талеранцыйнага ўказу з 1905 г., беларускае каталіцкае жыцьцё пачало разьвівацца штораз больш, паўстала Беларускае выдавецтва, зьявіліся беларускія каталіцкія кнігі, часапісы і газэта.

## У агні рэвалюцыі

Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г., не зважаючы на сваю руйнацкую дзейнасьць, ня спыніла адразу разьвіцьця беларускага каталіцкага руху. Наадварот, на кароткі час ён быў яшчэ ўзмоцніўся. Віленскі біскуп Я.Э. дэ Ропп вярнуўся з выгнаньня і быў назначаны Магілёўскім мітрапалітам. Бульля аб яго намінацыі была прачытана пад час інтранізацыі ў Пецярбурзе такжа і па-беларуску — гэта было вымоўнае наваўвядзеньне. У сваім першым пастырскім лісьце да духавенства мітрапаліт гаварыў аб патрэбе ўжываньня беларускае мовы ў сьвятынях, і сам, хоць быў ужо ў пажылых гадох, пачаў вучыць беларускую мову. Да гэтага часу, не зважаючы на дазвол папы Льва XIII з 8.V.1897 г. Нр. 37522 для Магілёўскага мітрапаліта ўжываць беларускую мову ў тых мяйсцовасьцях, дзе народ карыстаецца беларускаю моваю (udi dialectus albarussica a

populo adhibetur)[28], яе ў казаньнях амаль ня ўжывалі або ўжывалі толькі «пад страхам свайго бліжэйшага начальства»[29]. Цяпер жа Я.Э. дэ Ропп афіцыяльна дазваляе беларускія казаньні і катэхізацыю, а нават заахвочвае да гэтага духавенства. Лік парахвіяў з беларускімі казаньнямі пачаў узрастаць з дня на дзень.

У тым жа 1917 г. была адноўлена Менская дыяцэзія, і ў 1918 г. у Менску адчынена Каталіцкая духоўная сэмінарыя з а. Фабіянам Абрантовічам на чале. Не зважаючы на бальшавіцкі тэрор, беларуская прэса пісала ў 1919 г. аб Менскай сэмінарыі: «Дужа цікавы і шматзначны праяў у жыцьці Беларускага народу — гэта клерыкі-Беларусы. У тутэйшай Каталіцкай сэмінарыі ўсіх 29 клерыкаў; з гэтых 25 асоб беларусаў. Знана творацца цэлыя кадры, цэлыя палкі беларускага маладога духавенства, якое цэлай моцай выступае ў абароне свайго пакрыўджанага народу»[30]. Тады ж а. Абрантовіч стараўся заснаваць у Менску Беларускую каталіцкую акадэмію, але ня змог гэтага стараньня давесьці да канца пад націскам далейшых падзеяў.

Пад кіраўніцтвам беларускага каталіцкага духавенства пачала шырока разгортваць сваю дзейнасьць Беларуская хрысьціянская дэмакратычная злучнасьць, закладаючы беларускія школы, прытулкі і каапэратывы. Для ўзмацненьня сваіх радоў і для актывізацыі беларускага рэлігійнага жыцьця беларускае каталіцкае духавенства мела свае зьезды 1917 г. у Менску, 1918 г. у Баранавічах і 1921 г. у Вільні. Рады беларускага каталіцкага духавенства хутка збольшаліся. На жаль, гэта трывала вельмі коратка.

Рыскім мірным дагаворам у 1921 г. Беларусь была падзелена між Савецкім Саюзам і Польшчаю. Ад таго часу прасьледаваньне рэлігіі агулам і каталіцызму ў асаблівасьці ў Савецкім Саюзе прыняло вельмі вострую форму. Дакладней аб гэтым пісалася ў артыкуле «Старонкі з крыжовае дарогі Каталіцкае Царквы на Беларусі». Цяпер жа прыглянемся да тых падзеяў, якія адбываліся ў Заходняй Беларусі.

## Пад польскаю акупацыяй

На першы пагляд магло б здавацца, што ў Заходняй Беларусі пад польскай акупацыяй беларускае каталіцкае жыцьцё павінна было квітнець, але ў сапраўднасьці і тут каталіцызм як такі прасьледаваўся з няменшаю зацятасьцю, хоць ня так трывала, як у Савецкім Саюзе, а дазваляўся каталіцызм толькі ў адной форме «польскае веры».

Пакуль у Вільні быў біскупам Я.Э. Юры Матулевіч (1918—1925), а ў Пінску Я.Э.Жыгімонт Лазінскі (1919—1925 як біскуп Менскі, а ў 1925—1933 як біскуп Пінскі), дык супрацьбеларускія выступы польскага духавенства мелі пераважна прыватны характар. Праўда, гэтых выступаў было шмат і да таго яны часта йшлі ў пары з падобнымі выступамі польскіх урадовых прадстаўнікоў, але афіцыяльна яны ўсё ж маглі расцэньвацца як шавіністычныя выступы адзінак на іхнюю асабістую ад-

казнасьць. Характэрна, аднак, тое, што польская грамадзкая апінія такія выступы падтрымоўвала. Нават у 1917 г., калі беларуская прэса паведаміла, што ў Вільні паўстаў «Арганізацыйны Камітэт дзеля сазыву Беларускае канфэрэнцыі ў Вільні» і што ў яго склад увайшлі ксяндзы-беларусы Ул.Талочко і Янка Семашкевіч, дык паляк кс. Вітаўт Шылкевіч прыслаў кс. Талочку ліст з пагрозаю, што ён ня міне «заслужанае кары». На гэта кс. Талочко даў належны адказ і раіў «вылечыцца ад нацыяналістычнага чаду». Відавочна адказ трапіў у самае чулае мейсца польскага шавінізму, бо выклікаў шмат гоману і быў часткова апублікаваны ў «Gazecie Warszawskiej»[31].

Бязумоўна, што шавіністычна настроеныя адзінкі, якія займалі высокія адказныя становішчы, выкарыстоўвалі афіцыяльна гэтыя становішчы, каб нішчыць беларускае каталіцкае жыцьцё. Калі ў 1918 г. віленскія беларусы запраектавалі выданьне беларускага каталіцкага часапісу «Сейбіт», дык пралат кс. Ян Ганусэвіч ад імя Віленскае біскупскае курыі 23.IX.1918 г. лістам Нр. 1440 афіцыяльна забараніў кс. Ул.Талочку супрацоўнічаць у тым часапісе[32].

Падобныя выступленьні польскіх нацыяналістаў супраць беларускага каталіцкага жыцьця можна лічыць толькі дробнымі выпадкамі. Уласьцівы наступ распачаўся ад таго часу, як польская ўлада пачала замацоўвацца на беларускіх землях. Ад тады супрацьбеларускі наступ на мяйсцох суправаджаецца самаю бессаромнаю кампаніяю ачорніваньня і нават даносамі ў Рым. Гэткі данос быў высланы ў 1921 г., у ім абвінавачвалася Я.Э.Матулевіча за тое, што не забараняе выданьня ў Вільні беларускае каталіцкае газэты «Krynica», бо яна, маўляў, «супярэчыць з каталіцкай этыкай... недапушчальным спосабам крытыкуе касьцельныя ўлады... узбуджае нянавісьць да польскага народу і дзяржавы... узбуджае клясавы антаганізм... і выразна сымпатызуе бальшавіком»[33]. Так ачорнівалася газэта, якая будзіла нацыянальную сьведамасьць між беларусаў-каталікоў і садзейнічала ажыўленьню каталіцкага жыцьця.

Наагул найбольш востры наступ на беларускае каталіцкае жыцьцё йшоў з Віленскае капітулы, дзе ад даўна знайходзіліся такія канонікі, якія нават адмаўляліся даваць разграшэньне тым пакутнікам, якія спавядаліся па-беларуску. Больш таго, некаторыя з іх карысталіся ў дачыненьні да беларусаў самым непераборлівым тэрорам. Напрыклад, канонік кс. Станіслаў Мацеевіч, візытуючы беларускую сярэднюю школу ў Барунах, пагражаў вучням: «Кулька ў лоб кожнаму, хто будзе чытаць беларускія кніжкі»[34]. Аб гэтым «духоўным» адзін з левых часапісаў пісаў у форме пародыі акафісту: «Радуйся ксяндзоў Мацеевічаў прамоўкі, з беларусаў у палякаў перахварбоўкі, вераю сьвятой ганебныя гандлёўкі — радуйся!»[35].

Найбольш вострыя атакі былі скіраваны супраць актыўнейшага беларускага сьвятарства, каб, стэрарызаваўшы іх, тым лягчэй узьдзейнічаць агулам на беларускае сьвятарства. Дня 26.VI.1921 г. у Барунах арышта-

вана кс. Міхайла Пятроўскага і пасаджана ў Лукіскую турму, а ў 1922 г. быў наложаны хатні арышт на кс. Казімера Стэповіча.

Бараніцца супраць наступу духоўнае і сьвецкае польскае ўлады было вельмі цяжка. Дзейны супраціў магла б зрабіць адпаведная беларуская духоўная ўлада, але яе ня было. Дзеля гэтага з ініцыятывы Беларускае хрысьціянскае дэмакратычнае злучнасьці быў паданы ў 1921 г. Апостальскаму нунцыю мэмарыял ад усіх беларускіх грамадзкіх установаў у Вільні з дамаганьнем біскупа-суфрагана, беларускае мовы ў Духоўнай сэмінарыі і інш. Зразумела, што палякі зрабілі ўсё, што было ў іх сілах, каб нічога з дамаганьняў беларусы не атрымалі, але на некаторы час былі спыніліся скандальныя супрацьбеларускія выступы польскіх духоўных уладаў. Да таго пачалася падрыхтоўка перагавораў у справе канкардату між Польшчаю і Ватыканам. Самыя перагаворы трывалі нядоўга і вяліся так, каб ані беларусы, ані украінцы ня мелі на іх ніякага ўплыву.

Польскі ўрад, выкарыстоўваючы сваю рэкляму «перадмуру хрысьціянства» і «абаронцы каталіцызму», здолеў лёгка вытаргаваць ад Апостальскага пасаду паважныя ўступкі адносна мовы казаньняў, катэхізацыі і інш. з некарысьцю для няпольскага насельніцтва[36]. Канкардат быў падпісаны 10.2.1925 г. Ня дзіва, што польскія асягненьні выклікалі незадаволеньне ў беларускіх, украінскіх і летувіскіх кругох. Калі Варшаўскі сойм рыхтаваўся да прыняцьця канкардату 23 красавіка, дык кс. Адам Станкевіч, які тады быў паслом, выехаў з Варшавы, каб ня ўдзельнічаць на тым паседжаньні сойму. Хтосьці аб гэтым данёс нунцыю Я.Э.Ляўраму, які выклікаў да сябе кс. Станкевіча і рабіў яму за гэта дакоры, але ў адказ пачуў яшчэ больш дакораў за папушчэньне ў крыўду беларускага рэлігійнага жыцьця[37]. У сваю чаргу прэм'ер ураду БНР В.Ластоўскі выслаў мэмарандум-пратэст у Ватыкан[38]. На жаль, урад БНР ня меў ніколі дыплёматычных зносінаў з Ватыканам і абаснаваная аргумэнтацыя мэмарандуму асталася без адказу. Наагул, польскія дыплёматычныя асягненьні ня былі з роду тых, якія маглі паглыбіць рэлігійнае жыцьцё на Беларусі.

Згодна з Канкардатам, Віленская каталіцкая дыяцэзія была паднесеная да годнасьці мітраполіі, але перад тым пад націскам полькіх інтрыгаў і няспынных атакаў мусіў зрачыся Віленскага пасаду Я.Э. Юры Матулевіч, і мітрапалітам быў назначаны Я.Э. Ян Цепляк, але ён хутка памёр, не абняўшы пасаду, і 24.VI.1926 г. Віленскім мітрапалітам быў назначаны Я.Э. Ромуальд Ялбжыкоўскі.

Дзейнасьць міт. Ялбжыкоўскага азначалася вострым наступам супраць усяго беларускага ў рэлігійным жыцьці. У адказ на гэта прадстаўнікі Беларускае хрысціянскае дэмакратыі перадалі 12.XI.1926 г. мітрапаліту мэмарыял з дамаганьнямі: 1. неадкладна ўвесьці ў Віленскую кат. дух. сэм. выклады беларускае мовы, гісторыі і літаратуры; 2. прыдзяленьня беларусам-каталіком аднаго з віленскіх касьцёлаў; 3. дапушчэньня ўжываньня беларускае мовы нароўні з польскаю і лацінскаю ў адно-

сінах з духоўнаю ўладаю; 4. распараджэньня, каб у парахвіях з беларускім насельніцтвам казаньні і дадатковыя багаслужэньні адбываліся пабеларуску; 5. каб беларускіх сьвятароў прызначвана ня ў польскія, а ў беларускія парахвіі. Міт. Ялбжыкоўскі адказаў прадстаўнікам БХД, што ён ня выканае ніводнага з вышэйпералічаных жаданьняў[39].

Тры дні перад тым, 9.XI.1926 г., пад час зьезду польскіх біскупаў у Вільні, здарыўся яшчэ больш характэрны выпадак, які поўнасцю выявіў сапраўднае аблічча міт. Ялбжыкоўскага. На зьезьдзе прысутнічаў а. архімандрыт айцоў марыянаў Андрэй Цікота, і ён зьвярнуў увагу на неабходнасьць ужываньня беларускае мовы ў каталіцкай працы між беларусамі. На гэта міт. Ялбжыкоўскі з бязьлічным цынізмам параіў а. архімандрыту ехаць да бальшавікоў і там гаварыць па-беларуску[40]. І характэрна, што ніхто з прысутных польскіх ерархаў не сказаў нічога супраць такога адказу.

У далейшым наступ міт. Ялбжыкоўскага на беларускае каталіцкае жыцьцё ўзмацняўся з дня на дзень. Недарма яго агульна пачалі называць беларусажэрам. У студзені 1927 г. ён перанёс кс. Віктара Шутовіча з беларускае парахвіі Барадзенічы, дзе той працаваў 10 гадоў, у польскую парахвію Тшцяны ды адначасна здэградаваў з параха на вікарага, а на яго мейсца назначыў ксяндза-паляка. У тым жа часе быў зґаласіўся на працу ў Віленскую дыяцэзію кс. Ст.Бланкоўскі, але з умоваю, каб быў прызначаны ў якую-небудзь беларускую парахвію, — такога назначэньня не атрымаў.

Убачыўшы такую руплівасьць мітрапаліта ў змаганьні з беларускім рэлігійным жыцьцём, польскія адміністрацыйныя ўлады ў сваю чаргу ўзмоцнілі супрацьбеларускі наступ. Польскі суд засудзіў кс. Вінцеся Гадлеўскага, жодзіскага параха, на два годы турмы, абвінавачваючы яго ў «распаўсюджваньні бунтарскае дактрыны, якая мела на мэце адарваць ад Польшчы беларускія землі». Міт. Ялбжыкоўскі не сказаў ні слова абароны за свайго сьвятара[41]. Драбнейшыя супрацьбеларускія выступленьні польскае паліцыі ставаліся што раз часьцейшымі.

Да якое ступені даходзіў шавінізм міт. Ялбжыкоўскага, мог даведацца ўвесь сьвет пад час паўторнае каранацыі іконы Вастрабрамскае Божае Маці. На Востраай браме быў зьнішчаны лацінскі напіс і памешчаны польскі: «Królowo Korony Polskiej modl się za nami». Такое надужыцьцё рэлігійных сьвятасьцяў, відаць, самі палякі ўважалі абураючым і спадзяваліся, што яно можа выклікаць паважныя заварушэньні, дзеля гэтага перад каранацыяй, якая адбывалася 2.VII.1927 г., арыштована цэлы рад беларускіх дзеячоў і выпушчана іх толькі пасьля каранацыі[42].

Ня маючы свае ерархіі, беларусы-каталікі маглі ставіць супраціў толькі праз адзіную прокаталіцкую арганізацыю Беларускую хрысьціянскую дэмакратыю і прокаталіцкую газэту «Беларуская крыніца», і вось на гэтыя ўстановы абрушыўся міт. Ялбжыкоўскі. Да 10.XII.1928 г. ён выдае загад Нр. 5216 усім сваім парахам, у якім забараняе вернікам на-

лежаць да Беларускае хрысціянскае дэмакратыі і чытаць «Беларускую крыніцу», бо яна, маўляў, займела памылковую дарогу «рэлігійнага індыфэрэнтызму і бальшавізму»[43]. Таго ж дня кс. Адам Станкевіч атрымаў асобны ліст у лацінскай мове з такімі ж забаронамі. Наступнага дня галоўная ўправа БХД выслала ў гэтай справе тэлеграму Апостальскаму пасаду, а праз пару тыдняў шырока апрацаваны мэмарыял. Адначасна беларускія арганізацыі ў Вільні абвесьцілі пратэст супраць загаду мітрапаліта. Адказу з Рыму на мэмарыял ня было ніякага — і БХД прадаўжала сваю дзейнасьць, але яе палажэньне было вельмі няпрыемнае: публічнае ачорненьне з вуснаў мітрапаліта ставіла ўсіх, у тым ліку і Апостальскі пасад, у заклапотанае палажэньне, але шавіністычны нацыяналізм міт. Ялбжыкоўскага ня лічыўся з нічым.

Маючы такога мітрапаліта, нацыяналістычна настроенае польскае духавенства ўважала, што мае разьвязаныя рукі ў супрацьбеларускіх пачынаньнях. Капітульны канонік кс. Кароль Любянец заснаваў у сваім маёнтку Мінойты каля Ліды адзіную ў сваім родзе «школу польскасьці». Уся гэтая школа палягала на тым, каб прывабіць праваслаўных беларусаў, перацягнуць іх на каталіцызм лацінскага абраду і перапісаць на палякаў. «Вучняў» прынаджвалася рознымі абяцанкамі, а «навука» трывала ўсяго тыдзень-два і галоўным пунктам праграмы афіцыяльна мела катэхізацыю, а ў сапраўднасьці гэта было «пераконваньне», што кожны паляк мусіць быць каталіком, а каталік — палякам. Па некаторым часе кс. Любянец пераехаў назад у Вільню, а школу даручыў весьці адпаведна вышкаленым манашкам-катэхэткам, засобіўшы іх і вучняў фінансава.

Што рабіў кс. Любянец у Мінойтах, тое ж рабілі амаль усе польскія парахі на Беларусі. Карэспандэнцыі ў «Беларускай крыніцы» і «Хрысціянскай думцы» даюць безьліч прыкладаў такое дзейнасьці. З свайго боку польская паліцыя пасьля дэкрэту міт. Ялбжыкоўскага супраць «Беларускае крыніцы» значна зактывізавала супрацьбеларускую дзейнасьць, канфіскуючы пры розных нагодах беларускія каталіцкія часапісы і нават малітаўнік «Голас душы».

Ужо перш успаміналася, што найбольш вострыя атакі былі скіраваны супраць больш сьведамых і актыўных беларускіх сьвятароў, гэтая акцыя ў Віленскай дыяцэзіі ня спынялася ніколі. У 1928 г. а. др. Казімер Кулак, ня могучы атрымаць працы ў беларускай парахвіі, быў на нейкі час прыняты біс. Лазінскім у Пінскую дух. сэм., але і там мусіў выкладаць па-польску, а потым і зусім быў выкінены, і міт. Ялбжыкоўскі паслаў яго ў парахвію Ляндвараў. У 1929 г. а. Францішак Чарняўскі быў высланы ў Францыю працаваць у польскай калёніі. У 1931 г. быў выкінены з ліку прафэсароў Віленскае дух. сэм. а. др. Язэп Рэшэць і перанесены перш на прэфэкта ў настаўніцкую сэмінарыю, а потым высланы ў глухую мазурскую вёску, адкуль у 1938 г. выехаў у ЗША. Звычайна гэткія перакідваньні адбываліся бяз ніякага розгаласу, але калі ў 1927 г. на мейсца кс. В.Гадлеўскага ў Жодзішкі быў высланы ксёндз-паляк, дык

справа дайшла да скандалу — вернікі замкнулі касьцёл і плебанію, і польскага параха ў беларускую парахвію ўвяла польская паліцыя, выламаўшы дзьверы карабінамі.

У афіцыяльным органе Віленскае каталіцкае мітраполіі зьяўляліся няраз такія артыкулы і лісты мітрапаліта, што нават некаторыя палякі іх ацэньвалі вельмі крытычна, бо як пісаў адзін расейскі каталіцкі часапіс, які выходзіў пад рэдакцыяю кс. Около-Кулака: «Усё няшчасьце ў тым, што на так званых усходніх ускраінах Польшчы царкоўная работа залішне зьвязана з палітычнаю»[44]. А польская палітыка на беларускіх землях азначалася неймаверным зазнайствам і брутальнасьцю. З гэтага гледзішча здарыўся вельмі характэрны выпадак з а. др. праф. Янкам Тарасэвічам пад час яго падарожжа ў 1935 г. з Амэрыкі (ЗША) на бацькаўшчыну. Калі ён прыехаў у родную вёску Клешнякі, дык атрымаў загад ад паветавага Шчучынскага старосты неадкладна пакінуць вёску і агулам бацькаўшчыну[45].

## Напярэдадні Другое сусьветнае вайны

Палітыканства польскага каталіцкага духавенства ў беларускіх парахвіях адбівалася вельмі шкодна на рэлігійным жыцці. Аб гэтым ня раз зьяўляліся весткі ў беларускай прэсе і аб гэтым часта гаварылі вернікі ды нават пісалі аб гэтым да біскупаў. Для прыкладу можа служыць ліст вернікаў з парахвіі Мядзьведзічы Пінскае дыяцэзіі з 1935 г. Яны між іншым пісалі: «Просім вышэйшую ў нас каталіцкую ўладу даць нам ксяндзоў-беларусаў і ўвесьці ў касьцёл нашую беларускую мову, бо ў праціўным выпадку скора касьцёл наш саўсім апустошыцца і народ наш адзічэе»[46].

Відаць, аднак, што польскія біскупы рабілі быццам наўмысьля, каб апустошыць беларускія каталіцкія сьвятыні і каб пасьля гэтага ксяндзы маглі бяскарна звальваць віну за гэткі стан на вернікаў. Праўда, гэтае цьверджаньне нельга ўагульніваць, бо пакуль у Пінску жыў Я.Э.Жыгімонт Лазінскі (1932), дык ён хоць і не азначаўся асабліваю прыхільнасьцю для беларусаў, але такжа не баяўся выступіць супраць загоністых дамаганьняў польскіх нацыяналістаў адносна беларусаў. Аднойчы ён выпрасіў за дзьвёры высокага польскага гэнэрала, які дамагаўся зьнішчэньня ўсяго беларускага ў рэлігійным жыцьці, а іншым разам патрапіў сказаць цьвёрдае слова за гэткае ж дамаганьне нават самому маршалку Пільсудзкаму. На жаль, і гэты ерарх у канцы ўлягаў націску польскіх кіраўнікоў і паволі ачышчаў Пінскую дух. сэм. ад беларускасьці і ад беларусаў, а беларускіх сьвятароў пераносіў у парахвіі з польскім насельніцтвам. А ягоны наступнік ад 1932 г. Я.Э. Казімер Букраба ў сваёй дзейнасьці стараўся прыпадобніцца да міт. Ялбжыкоўскага.

«Чыстка» духоўных сэмінарыяў у Вільні і Пінску ад беларусаў выконвалася ціха, але адзін выпадак вынес гэтую дзейнасьць на дзённае сьвятло. Выкідаючы бяз ніякае прычыны ў 1935 г. з Віленскае дух. сэм.

Вацлава Папуцэвіча, запрапанована яму ехаць у якую-колечы сэмінарыю ў цэнтры Польшчы. Беларуская прэса зьвярнула ўвагу на гэтае здарэньне[47] — і факт стаўся шырока ведамы. Ад таго часу ў абедзьве сэмінарыі больш беларусаў агулам ня прыймалі.

Такая рэлігійная палітыка падрывала каталіцызм у сваіх асновах, але, на жаль, польскія духоўныя кіраўнікі яе прытрымоўваліся на Беларусі з крайным засьляпленьнем. Асабліва наглядна гэта выявілася ў адносінах да Беларускае каталіцкае акцыі. На арганізацыйным сходзе беларускага каталіцкага актыву ў Вільні 8.X.1936 г. было пастаноўлена заснаваць Беларускую каталіцкую акцыю. Тымчасовая ўправа гэтае арганізацыі на чале з а. Гэрмановічам зьвярнулася да кампэтэнтных духоўных уладаў у Вільні з просьбаю аб зацьверджаньні новае арганізацыі. Справа была выслана ў Пазнань, дзе знайходзіўся цэнтр Каталіцкае акцыі на ўсю Польшчу. Адтуль адказалі, што ня гожа быць самастойнае Беларускае каталіцкае акцыі (ня кажучы чаму), але можа быць толькі беларуская сэкцыя пры мяйсцовай дыяцэзальнай Кат. акцыі. Справа зноў знайшлася ў Віленскай дыяцэзальнай канцылярыі, і адтуль пасьля розных абяцанак і адкладаў у лютым 1937 г. адказалі, што і беларуская сэкцыя Кат. акцыі ня можа быць зацьверджана. Выходзіла так, што беларусам-каталіком з сваім рэлігійным жыцьцём у каталіцкай Польшчы трэба было хавацца ў катакомбы.

Час, аб якім тут гаворыцца, у міжнародным жыцьці азначаўся ўзрастаючым напружаньнем. І ў меру таго, як гэтае напружаньне ўзрастала, збольшваўся польскі наступ на беларускае каталіцкае жыцьцё.

*1954*

---

[1] Дзеян. Апост. 2, 6—12.

[2] П.Милюковъ. Очерки по исторіи русской культуры. Парижъ, 1931. Том 2, ч. 1, стар. 27.

[3] Прот. А.Шмеман. Исторический путь Православия. Нью-Йорк, 1954, стар. 351.

[4] С.М.Соловьевъ. Исторія Россіи съ древнейшихъ временъ. С.-Петербургъ, 1895. Кн. 1, стар. 1473.

Там жа, стар. 1477.

Воссоединение Украины с Россией. Документы и материалы. Москва, 1954. Том III, стар. 413.

Патриарх Сергей и его духовное наследство. Москва, 1947. стар. 45.

Eugen Sakowicz. Cerkiew Prawosławna w Polsce podczas Wielkiego Sejmu 1788—1792. («Prawosławne Teologiczne Rozprawy») Warszawa, 1935, star. 79. «Калосьсе» Нр. 2(11) Вільня, 1938. стар. 110.

«Русскій Архивъ Нр. 9. Москва, 1868, стар. 1359; Wl. Wielhorski; Litwini, Białorusini i Polacy w dziejach kultury W. Ks. Litewskiego. London, 1951, star. 60.

[0] Adrien Boudou S. J. Le Saint-Siege et la Russie. Tome 2. Paris, 1925. s. 353.

[1] Полное собраніе законовъ Россійской имперіи. С.-Петербургъ, 1831. Том. V. отд. 2. тар. 27. паз. 9908. «О воспрещеніи Духовенству Римско-Католическаго исповеданія обращать людей Православнаго исповеданія въ сваю вѣру». Тамжа паданы і кары за гэта.

[2] С.С.Татищевъ. Императоръ Александръ II. Его жизнь и царствованіе. С.-Петербургъ, 1903. Том 2, стар. 24.

[13] A.Boudou. op. cit. Star. 362.

[14] Николай Зарнов. Вселенская Церковь и Русское Православие. Париж, 1952, стар. 213—214.

[15] Theiner August. Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum. Romae, 1861. Tomus sec. star. 278.

[16] Ластоўскі Вацлаў. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўня, 1926, стар. 182; «Какъ ся мша чтеть римскимъ обычаемъ Ма(т)це Божіей»; «О оустани Кристусовь изъ мертвыхъ» і інш.

[17] Przyałgowski W. Żywoty biskupów Wileńskich. St. Petersburg, 1860.

[18] Bruckner A. Dzieje kultury polskiej. Warszawa, 1939. Tom II. star. 357. Кажа, што ў адной толькі Наваградчыне арыяне забралі каля 650 праваслаўных цэркваў. Іншы польскі гісторык Красінскі ў працы, прысьвечанай Вільні, кажа, што на 600 шляхэцкіх родаў у Наваградчыне толькі 12 асталося праваслаўнымі, іншыя перайшлі ў пратэстанцкія сэкты.

[19] Kot Stanisław. Budny Szymon. «Polski Słownik biograficzny». Kraków, 1837. Tom III. star. 96—99. Там-жа падана бібліяграфія твораў С.Буднага.

[20] Kot. St. La réformation dans le Grand-Duché de Lithuanie, facteur d'occidentilisation culturelle. («Annuaire de l'institut de Philologie et d'histoire orientales et slaves»). Tome XII. «Pankoplia». Bruxelles, 1953, star. 201—261.

[21] Nagrodzki Zygmunt. Rola duchowieństwa katolickiego w godzinach prób i cierpień na terenie Litwy i Białej Rusi 1863—1883. Wilno, 1935.

[22] P.Palmieri. La Chiesa Russa. Firenze, 1907. Tom I, star. 725.

[23] Czuzoff V. La conversion de la Russie et le clergé polonais. («Revue catholique des Eglises») Paris, 1908. T. V. star. 449—964; P. A. Mohl S. J. Polacy przeszkodą do unii Wschodu z Zachodem? Odpowiedź autorowi dzieła «La Chiesa Russa». Kraków, 1908. Zjavilisia tak-ża artykuły u casapisie «Przegląd polski», u «Czas» i ins.

[24] P.Palmieri. A propos de «La conversion de la Russie et le clergé polonais». («Revue catholique des Eglises»). Paris, 1908. T. V, star. 553—564. A tak-źa u hazecie «Czas».

[25] А. Навіна. На дарозе да новага жыцьця. «Маладая Беларусь». Сшытак I. Пецярбург, 1912, стар. 27.

[26] Ks. Adam Stankevic. Biełaruski Chryścijanski Ruch. Vilnia, 1938. Cytuju pavodla «Chryścijanskaje Dumki». Vilnia, 1938. Nr. 11(159) i dal.

[27] Кс. Ад. Станкевіч. Прафэсар Браніслаў Эпімах-Шыпілла. Вільня, 1935.

[28] Е.Карский. Белорусы. Том III. ч. 3. Петроград, 1922, стар. 167.

[29] А.Навіна. op. cit, стар. 27.

[30] «Krynica» Nr. 12. Miensk, 1919. Karespandecyja «Z Miensku». Pavodla «Chryścijanskaja Dumka». Nr. 16(164). Vilnia, 1.VI.1938, star. 6.

[31] Ks.Ad.Stankievic. Biełaruski Chryścijanski Ruch. Vilnia, 1938.

[32] Ks.Ad.Stankievic. Op. cit.

[33] Ks.Ad.Stankievic. Op. cit.

[34] «Крывіч» Нр. 9. Коўня, 1925, стар. 97.

[35] «Селянская Доля» Нр. I. чэрвень 1921, стар. 22.

[36] Wilaniwski B. Ustępstwa ze strony Kościoła na rzecz państwa. Wilno, 1927.

[37] Ян Шутовіч. Ксёндз Адам Станкевіч. У 25-ыя ўгодкі сьвяшчэнства і беларускай нацыянальнай дзейнасьці. Вільня, 1940, стар. 46.

[38] Конкордат. «Крывіч» Нр. 9. Коўня, 1925. Стар. 97—98.

[39] Piotr Kaczan. Situation religieuse de Blancs-Ruthens catholiques en Pologne. «Natio». Revue consacree aux problemes des minorites en Pologne. (U catyroch movach). Warszawa, 1927. Nr. 7—8. Star. 78.

[40] Piotr Kaczan. Op. cit. Star. 70.

[41] Piotr Kaczan. Op. cit. Nr. 3—4. Star. 146.

[42] Piotr Kaczan. Op. cit. Nr. 7—8. Star. 96.

[43] Ks. Ad. Stankevic. Op. cit. («Chryścijanskaja Dumka»). Nr. 27(175). Vilnia, 1938. Star. 6.

[44] «Китеж» Nr. 1—3. Варшава, 1929, у зьвязку з адным артыкулам, які зьявіўся ў «Wiadomości Archidiecezalne Wileńskie». Nr. 5. R. 1929.

[45] Ks. dr. prof. J.Tarasevic. Na Baćkauscynu. Vilnia, 1936.

[46] «Chryścijanskaja Dumka» Nr. 4(106). Vilnia, 1935.

[47] Глядзі: «Беларуская Крыніца». Нр. 40. Вільня, 1935 г.; «Шлях Моладзі». Год VII. Нр. 12(85); стар. 15. Вільня, 1935.

## ІСТОТНЫЯ АЗНАКІ БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРЫ

Слова культура ўжываецца ў некалькі значэньнях, дзеля гэтага для дакладнасьці тэмы перш неабходна дакладна азначыць ягоны сэнс.

Культура — гэта лацінскае слова cultura, якое азначае апрацоўку зямлі, узгадаваньне, разьвіцьцё. Сёньня гэтае слова ўжываецца амаль ува ўсіх мовах сьвету і ўсюды мае шматлікія значэньні. Гаворыцца аб культуры чалавека, аб культурным узроўні жыцьця, аб культуры мовы, аб фізычнай культуры, аб культуры бактэрыяў і пад. У больш сьціслым значэньні словам культура азначаюцца ўсе вытвары людзкога духа на вышэйшай ступені разьвіцьця.

Вельмі часта слова культура мяшаецца з словам цывілізацыя. У некаторых краінах, як, напрыклад, Францыя, гэтыя два словы атоесамліваюцца, але ў іншых краінах іх звычайна разрозьніваюць. Слова цывілізацыя паходзіць ад лацінскага слова civilis — грамадзкі, дзяржаўны і азначае вышэйшую ступень грамадзкага жыцьця, перадусім прагрэс матэрыяльнае культуры. У беларускай мове звычайна гэтыя словы разрозьніваюцца.

Паколькі культура ёсьць вытварам людзкога духа, а людзкі дух мае свой пачатак ад Бога, дык найглыбейшая аснова культур ёсьць аднолькавая для ўсяго людзтва — ёю ёсьць духовая дзейнасьць чалавека. З усіх жывых істотаў на зямлі толькі людзі ствараюць культуру, бо толькі яны маюць дробную творчую іскру ад Бога — разумную і несьмяротную душу.

У зьвязку з найглыбейшаю асноваю культуры вельмі характэрныя яе першыя праявы, гэта зварот людзкога духа да свае першакрыніцы, да Бога. Гісторыя культуры ўсіх народаў наагул і кожнага ў паасобку дае нязьлічаныя доказы, што пачатак і разьвіцьцё культуры кожнага народу, і ў тым ліку беларускага, зьвязана з рэлігійным жыцьцём. Сучасны італьянскі філёзаф Шіякка кажа аб гэтым: «Сучасная культура павінна перераканацца, што няма культуры без мэтафізічнае асновы, як няма культуры бяз духу дабрадзейнасьці. Бяз веры ў трансцэндэнтную рэальнасьць (ясьней кажучы, бяз веры ў Бога) і без надзеі ў нашую несьмяротнасьць развальваюцца ўсякія прынцыпы маральнасьці і рэлігіі. Дзеля гэтага разьвязка сучаснага крызысу і сучаснае сьведамасьці знайходзіцца ў аднаўленьні хрысьціянска-каталіцкае мэтафізыкі, якая была заўсёды хрыбтом кожнае сапраўднае цывілізацыі, непахіснаю асноваю кожнага сапраўднага маральнага паняцьця жыцьця»[1].

Калі ў выніку нейкіх дачасных, дрэнна панятых, прычынаў падкопваюцца найглыбейшыя асновы культуры, яе рэлігійны элемэнт, тады пачынаюць у грамадзтве верхаводзіць прагнасьці, жарсьці і ўсякія вады, якія няміnуча вядуць грамадзства да ўпадку. Найглыбейшыя карэньні росту і ўпадку народу заўсёды сягаюць да найглыбейшых асноваў духовага жыцьця. Трэба быць крайне засьлепленым матэрыялістам, каб ня выцягнуць навукі з агульнаведамага факту. Зярняці, схаванага ў зямлі,

ня відаць, але яно адтуль прарастае і вырастае на аграмаднае дрэва. Так і духовае жыцьцё чалавека — яго на першы пагляд ня відаць матэрыяльнымі вачыма, але гэта яно родзіць думкі, якія вырастаюць у найбольшыя і найпрыгажэйшыя ўчынкі чалавека, у культурныя асягненьні. Іншы прыклад яшчэ больш прамаўляючы: толькі на адпаведна апрацаванай глебе вырастаюць культурныя расьліны, падобна і ў душы людзкой, толькі тады, калі яна будзе апрацавана цнотамі, успрыйме маральныя прынцыпы паводзін, станецца найбольш прыдатнаю для таго, каб на ёй узрасьлі прыгожыя кветкі высокае культуры.

Гэта былі агульныя заўвагі, якія адносяцца да кожнага народу, але так як акрамя агульналюдзкіх праяваў духовага жыцьця кожны народ і кожны чалавек мае своеасаблівыя азнакі і своеасаблівыя патрэбы, таксама і культура кожнага народу мае шмат толькі ёй уласьцівых азнакаў, адпаведных да яго характару, навакольнае прыроды і абставінаў жыцьця. Кожны народ творыць мелёдыі, сугучныя з біцьцём ягонага сэрца, якія шматгалосным рэхам лунаюць па родных абшарах; кожны народ творыць сваю мову, якая найлепш выказвае ягоныя думкі; кожны народ творыць сваё мастацтва, якое найбольш трапна выказвае яго пачуцьці; кожны народ услаўляе Бога найбольш адпаведна да свайго характару і т.п.

Дойлід, плянуючы будынак, абавязкава ўзгляднівае кліматычныя асаблівасьці краю і адпаведна да іх праектуе форму будынку і дабірае будаўнічы матэрыял. Ня інакш павінна быць і з усімі тымі, хто нейкім чынам займаецца творчаю працаю ў якой колечы галіне беларускае культуры. Тут яшчэ больш чым дзе неабходна пазнаць усе асаблівасьці характару беларускага народу і яго культуры. Да гэтага часу вельмі мала зроблена ў гэтай галіне, зьявілася ўсяго некалькі працаў, якія больш або менш блізка закранаюць гісторыю беларускае культуры[2], але і яны пераважна зьвяртаюць увагу толькі на матэрыяльную культуру. На жаль, гэта не адна ніва з беларускае гісторыі, якая яшчэ чакае сваіх работнікаў.

Прадмет гісторыі беларускае культуры лішне шырокі, каб ім займацца ў рамах часапіснага артыкулу, і таму ў гэтым артыкуле зьвернем ўвагу толькі на некаторыя азнакі беларускае духоўнае культуры.

У беларускай народнай мудрасьці, у вуснай творчасьці, у народных рэлігійных абрадах, у бытавых звычаях і ў звычаёвым беларускім праве, калі іх глыбей прааналізаваць, можна знайсьці вельмі характэрную супольную рысу — глыбокі філязафічны зьмест, і гэта ёсьць адна з істотных азнакаў беларускае духовае культуры.

Варта прыслухацца да беларускіх прыказкаў, каб пераканацца, што там ёсьць няімаверна глыбокая навука аб Богу, аб прычынах навакольных зьявішчаў і аб псыхалягічных перажываньнях чалавека, аб жыцьці наагул. Праўда, у іншых народаў можна пачуць падобныя прыказкі і афарызмы, але бадай што ніхто так часта не карыстаецца сваімі прыказ-

камі, як беларус. Уся вусная народная творчасьць — гэта ж нявычарпальнае багацьце народнае мудрасьці. Да таго ў кожнай вёсцы і мястэчку ёсьць нямала такіх, што аб іх кажуць: «Бяз прыказкі і з лавы ня зваліцца».

Мастацкая беларуская літаратура, не зважаючы на сваю маладосьць, такжа мае нямала філязафічнае глыбіні. Не адзін гэрой апавяданьняў М.Гарэцкага ломіць сабе галаву над глыбокімі жыцьцёвымі праблемамі: «Адкуль усё і што яно?» Якуб Колас вуснамі Лабановіча ў «Палескай глушы» пытаецца свайго сябру: «Скажы ж мне, братка Алесь, для чаго чалавек на сьвеце жыве?» А Янка Купала ў паэме «Сон на кургане» ідзе так далёка, што вандруе аж у сьвет таёмнасьцяў. Дзе ў іншай літаратуры так глыбока і адначасна так па-мастацку прыгожа даецца апраўданьне існаваньня песьні, як гэта зрабіў Максім Багдановіч у «Апокрыфе»? Недарма гэтага перадчасна згасшага паэта назвалі паэтам-філёзафам, бо большасьць ягоных вершаў прысьвечаны паважным філязафічным пытаньням. Цяжка шукаць сваеасаблівых беларускіх азнакаў у сучаснай паняволенай беларускай літаратуры, бо яна, акрамя скалечанае беларускае мовы, мала што мае больш беларускага.

Падобна і ў бытавых звычаях, калі іх толькі ўважна прадумаць, знайходзіцца падзіву годная глыбіня назіраньня. Часам гэтыя назіраньні выказваюцца старымі людзьмі ў форме радаў, якія з часам праз іх незразуменьне паратвараюцца ў забобоны. З гэтага гледзішча вельмі цікавою ёсьць «Палеская лягэнда», запісаная Старым Уласам, у якой бацька, уміраючы, раіць сыну: «Калі ты ідзеш з сахою, з возам, з бараною ці сяўнёю, не кажы, ідучы з дому, «Памажы Божа» нікому! А другое, знай, ці чуеш, як арэш, ці барануеш, ды дамоў будзеш адходзіць, абгарадзіць не зашкодзіць. І нарэшце, помні гэта, ці то восень, вясна, лета, каб круглым годам табе яда была з мёдам». Сын даслоўна ўспрыняў бацькаў наказ і з году ў год бяднеў ды наракаў на бацьку і на людзей. Аж аднойчы яму зьяўляецца якісь дзед і тлумачыць: «Сынку, робіш ты ня тое і на бацьку дарма брэшаш, а за гэта цяжка грэшыш. «Памажы Божа» не даваці — гэта значыць, не заспаці і старацца, мой саколе, чым найраней выйсьці ў поле, дык ня ты дасі людзям, табе кожан даваць будзе. З гарадзьбой рэчы такія: урэжаш гонцы, другія, абжэнь сошкай ці баронкай, абгародзіш баразёнкай. З мёдам то такая справа: кожная салодка справа, зьясі смачна, мёд пачуеш, калі добра папрацуеш».

Такая адзнака беларускае творчасьці сьведчыць аб глыбокай пытлівасьці розуму стваральнікаў народнае творчасьці і агулам народу, для якога яна прызначана. Аднак з гэтаю вельмі дадатнаю азнакаю беларускага характару і беларускае культуры йдзе ў пары другая азнака — супакой. Непаседа ня мае часу займацца глыбокімі разважаньнямі. Ужо не адзін дасьледнік беларускае гісторыі сьцьвердзіў факт, што беларусы лішне спакойны народ і гэтую азнаку ацанілі як адмоўную. Тут ня мейсца разьбіраць, ці яна адмоўная, ці не, але ёсьць факт, што такая рыса

належыць да характару беларуса і мае сваё адбіцьцё ў беларускай культуры. Асабліва моцна сьледная гэтая азнака ў беларускай народнай музыцы, будаўніцтве і арнамэнтах — яны маюць упрост маестатычны супакой. Толькі беларускія народныя танцы маюць адметны характар: гэта бурапенныя фігуры, поўныя імклівага жыцьця, радаснага тэмпэрамэнту. Але яны ёсьць вытварам перадусім моладзі і маюць на сабе таўро маладосьці.

Глыбокая пытлівасьць мае аграмадныя творчыя магчымасьці, аднак для іх разьвіцьця неабходная свабода. І вось у душы беларуса, не зважаючы на доўгавяковую паншчыну, на нацыянальнае паняволеньне, заўсёды аставалася любоў і імкненьне да свабоды. Трапна выказаў гэта галоўны гэрой паэмы «Новая зямля»: «Купіць зямлю, здабыць свой кут, каб з панскіх вызваліцца пут». Аб тым, якія аграмадныя здольнасьці крыюцца ў беларускай душы, могуць сьведчыць тыя людзі, якія аддалі свае таленты нашым суседзям за час паняволеньня: Міцкевіч, Манюшко, Арэшчыха, Карловіч, Касьцюшко, Пільсудзкі і шмат іншых — палякам, а Глінка, Дастаеўскі і цэлы рад навукоўцаў — расейцам. У сапраўднай свабодзе ў родным краю яны маглі б разьвіць свае таленты шмат больш і быць бязумоўна больш карыснымі для ўсяго людзтва.

Бытавыя беларускія традыцыі маюць яшчэ адну вельмі характэрную азнаку, яны ўнармоўваюць жыцьцё згодна з прыродным парадкам. У бытавых абрадах падчыркваецца Божая ўсюдыпрысутнасьць і ўсемагутнасьць. Таму ўсякую важнейшую працу беларус пачынае з Богам і кожнаму працуючаму выказвае пажаданьне адпаведна да роду занятку: «Памажы Божа!», «Прыспарай Божа!», «Радзі Божа!». Пачынаючы будаваць хату, на пляцу перш ставіцца крыж, а закончыўшы яе, у найбольш пачэсным мейсцы, на покуці, завешваюцца абразы сьвятых.

Адносіны да бліжніх і да акружаючае прыроды так жа нармуюцца згодна з прыродным парадкам. На Беларусі няма звычаю абразаць дрэвы: «Нашто іх калечыць?» І згодна з гэтым правілам беларус ніколі не стараўся дэнацыяналізаваць іншых народаў, якія знайходзілі на Беларусі мейсца жыхарства. «Хочаш стацца такімі, як мы, калі ласка, а ня хочаш, аставайся такім, як хочаш». Жыды, татары, караімы, расейцы-стараверы чуліся між беларусаў лепш чым дзе і ня раз потым за гэтую дабразычлівасьць адплочвалі крыўдамі.

Як у кожнай культуры, падобна і ў беларускай, не абыйшлося бяз уплыву іншых культураў. Асабліва важным мамэнтам з гэтага гледзішча было прыняцьце хрысьціянства. Прыйшло яно на Беларусь з Бізантыі, але ў баўгарскім афармленьні і прынясло багатыя скарбы высокае бізантыйскае культуры. Пад уплывам хрысьціянства такія дзялянкі культуры, як: рэлігійна-духоўная, філязофія, будаўніцтва, выяўленчае мастацтва — атрымалі магутны жыватворны штуршок, а да таго зьявілася зусім новая галіна культуры — пісьменства. Але ўвесь гэты ўспрыняты скарб хутка займеў беларускія асаблівасьці. У рэлігійным жыцьці асталіся шматлікія

спрадвечныя беларускія абрады; філязофія зьмяшалася з беларускаю народнаю мудрасьцю; мураванае будаўніцтва атрымала беларускую арнамэнтыку, на свой лад разьмяркованы нутраны прастор сьвятыняў і хутка вытвараны зусім своеасаблівы стыль; выяўленчае бізантыйскае мастацтва злагодзіла строгія іконапісныя каноны, а пісьменства ўжо ў XIII ст. мела нямала самастойных твораў.

З гледзішча ўплываў іншых культураў вельмі важнаю датаю ў гісторыі беларускае культуры быў XIII в. Тады татарская навала, заняўшы Расею і часьць Украіны, парвала лучнасьць Беларусі з Бізантыяю. У тым часе наладжваюцца сувязі Беларусі з Заходняю Эўропай і пачынаецца заходняэўрапэйскі ўплыў на беларускую духовую і матэрыяльную культуру. І гэты ўплыў яшчэ больш, як бізантыйскі на Беларусі, прыймае беларускае аблічча. Адною з найбольш істотных азнакаў беларускае культуры з часу заходняэўрапэйскага ўплыву ёсьць сынтэза. На Беларусі плянуецца і даконваецца аб'еднаньне Праваслаўнае і Каталіцкае Цэркваў у форме Берасьцейскае вуніі; беларускія прававеды рэдагуюць славуты Літоўскі статут, у якім знайшлі адлюстраваньне прынцыпы і рымскага і мяйсцовага беларускага права; беларускі навуковец рэфармуе царкоўнаславянскі альфабэт на ўзор лацінскага альфабэту, згодна з тагачаснымі беларускімі формамі пісьма, і гэты новы альфабэт — гражданка, праз Маскоўшчыну прыймаецца шырока ў некаторых славянскіх краінах.

Пэрыяд паняволеньня Беларусі стаўся часам паважнага застою і нават заняпаду ў шматлікіх дзялянках беларускае культуры. Сумны ў сабе гэты факт, але ён ня сьведчыць аб творчай кволасьці беларускага духа, бо народы нават з найбольш творчым патэнцыялам у паняволеньні замаўкаюць дзеля тае простае прычыны, што культура «ёсьць творам ня толькі духа, але і свабоды»[3].

Цяпер на Беларусі адбываецца вельмі прыкрае зьявішча накідваньня чужое культуры і яшчэ горш — накідваньне сьветагляду, які працівіцца найглыбейшым жаданьням людзкога духа. Але якія б насільствы не тварыліся над беларускім народам, яны астануцца толькі прамінаючым зьявішчам. Бо ўсё тое, што не адказвае характару беларускага народу, патрэбам яго душы, пры першай жа нагодзе будзе стрэсена, як старыя рызманы. Дзеля гэтага ня шкода ніякіх высілкаў для асягненьня свабоды, бо толькі ў свабодных умовах беларускі народ зможа разьвіць належна сваю культуру згодна з найглыбейшымі жаданьнямі свае душы для свае сьветлае будучыні.

*1955*

---

[1] Michele Federico Sciacca. Il problema di Dio e della religione nella filosofia attuale. Morcelliana, 1946, star. 338.

[2] Вось важнейшыя творы да пытаньня беларускае культуры:

Dr. M. Antonovytsch, Kultur der Ostslaven: Ukrainen. Weissruthenen. Russen. Handbuch der Kulturgeschichte Nr. 72/73, Bresla, 1941.

А.Цьвікевіч. Западно-русізм. Нарысы з гісторыі грамадзкай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX вв. Менск, 1929.

Ю.В.Готье. Очерк по истории материальной культуры Восточной Европы. Ленинград, 1925.

История культуры древней Руси. Москва-Ленинград, 1951. 2 томы.

Р.Максімовіч. Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў на Беларусі. «Запісы БІНІМ». Нр. 6 і «Конадні» Нр. 3. 1955 р.

О. Савич. Нариси з історії культурних рухів на Україні і Білій Руси в XVII—XVIII ст. Київ, 1930. У 1928 г. быў зьявіўся адзін нумар савецкага часопісу «Weissruthenische Kultur», на жаль, у ім, акрамя назову, няма нічога аб сапраўднай беларускай культуры.

[3] Jaques Maritain, Religion et cultur. Paris, 1946, star. 12.

## Станіслаў СТАНКЕВІЧ
(1907— 1980)

Філолаг, літаратурны крытык, паэт, публіцыст, саветолаг, выдавец, культурны, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Арляняты Ашмянскага павета. Вучыўся ў Віленскай гімназіі. Скончыў гуманістычны факультэт Віленскага універсітэта (1933). Выступаў у заходнебеларускім перыядычным друку. З 1936 г. — доктар філалогіі. Пасля верасня 1939 г. працаваў выкладчыкам у Навагрудскім педагагічным вучылішчы. У час нямецкай акупацыі Беларусі прымаў удзел у беларускім палітычным і культурным жыцці. Быў прызначаны бургамістрам Барысава, а пазней — Баранавічаў. Адзін з арганізатараў і ўдзельнікаў II Усебеларускага кангрэса (1944). Сябра ўрада Беларускай Цэнтральнай Рады. З 1944 г. жыў у Нямеччыне. Супрацоўнік беларускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода». Узначальваў навуковую раду беларускай секцыі Інстытута даследавання СССР у Мюнхене. На пачатку 50-х г. пераехаў у ЗША, жыў у Нью-Йорку. Займаўся навуковай, культурна-асветніцкай і палітычнай дзейнасцю. Адзін з арганізатараў і заснавальнікаў беларускіх эміграцкіх газет «Бацькаўшчына» і «Беларус». Супрацоўнічаў з Беларускім інстытутам навукі і мастацтва. Аўтар навуковых прац і даследаванняў у галіне гісторыі літаратуры, літаратурнай крытыкі і мовазнаўства.

### ЧАМУ НАС НЕ РАЗУМЕЕ ЗАХАД?
#### Праз расейскія акуляры

Адным з найбольш ненармальных і шкодных нам зьявішчаў у дачыненьні Захаду да падрасейскага, а цяпер падсавецкага Усходу ёсьць пагляд, што ўсе тыя тэрыторыі, якія ляжаць на ўсход ад Буга й Сану, — гэта Расея, а ўсе тыя народы, што гэтую вялізарную тэрыторыю засяляюць, — гэта ў аснаўным расейцы. Праўда, кажны інтэлігентны чалавек Захаду ведае, што на тэрыторыі аднэй шостай жыве цэлая мазаіка розных народаў і плямёнаў, аднак ён не здае сабе дастаткова справы з таго, якая ступень іхнае апрычонасьці, якое іх гістарычнае мінулае, як яны апынуліся ў складзе Расейскае імпэрыі, якія іх нацыянальныя імкненьні й палітычныя асьпірацыі, а галоўнае — на чым гэтыя імкненьні базуюцца.

Для шэрага заходняга інтэлігента, не гаворачы ўжо аб простай народнай масе, нерасейскія славянскія народы — беларусы, украінцы й каза-

кі — гэта толькі адгаліненьні аднаго й таго самага народу расейскага, а народы неславянскія — гэта яшчэ першабытныя плямёны, перамешаныя з расейцамі, якія ня маюць ані гістарычнай традыцыі, ані выразных нацыянальных імкненьняў, а зьяўляюцца толькі этнаграфічнай масай, што знаходзіцца яшчэ на прымітыўным узроўні свайго разьвіцьця й незалежна ад Расеі існаваць ня можа. Для такога роду заходніх ляікаў — а іх бальшыня навет сярод інтэлігенцыі — грузін або туркестанец у сваёй нацыянальнай дасьпеласьці й гістарычнай традыцыі нічым ня розьніцца ад якута або чэраміса.

Паўстае тады пытаньне, дзе фактычна хаваецца прычына такога хвальшывага пагляду й няведаньня ўзапраўдных нацыянальных дачыненьняў на ўсходзе Эўропы й у падсавецкай Азыі, дзе прычына такой ігнаранцыі й замарочаньня паняцьцяў у паглядах на ўсходнюю праблему? Бо ў той час, калі гэты ж шэры заходні інтэлігент больш-менш здае сабе справу з нацыянальных дачыненьняў зусім прымітыўных каляровых народаў Афрыкі ці паўдзённа-ўсходняй Азыі, ён зьяўляецца поўным анальфабэтам у сваіх паглядах на такія народы, як беларусы, украінцы, туркестанцы ці каўказцы, якія маюць куды багацейшую гістарычную мінуўшчыню за расейцаў, а сяньняшняя культурная ўзроўня якіх зусім ня ніжэйшая, чымсьці ў расейцаў, якія ў дадатак зьяўляюцца ягонымі недалёкімі суседзямі.

Калі заходні сьвет выказвае такую незнаёмасьць сяньняшніх падсавецкіх народаў, то ўжо аб іхных нацыянальна-вызвольных імкненьнях, як і аб рэальнасьці й мэтазгоднасьці гэтых імкненьняў, ён арыентуецца яшчэ менш. У ўяўленьні людзей Захаду Расея — гэта нешта настолькі суцэльнае й арганічна зьвязанае, што ейны распадзел на нацыянальныя дзяржавы выдаецца нечым нерэальным, немэтазгодным, а навет — праступным. У той час, калі гэтыя людзі ўспрыймаюць распадзел Брытанскае імпэрыі й унезалежненьне ейных калёніяў як нешта зусім натуральнае й гістарычна неабходнае, яны ніяк ня могуць пагадзіцца з думкай, што падобны лёс павінен спаткаць таксама й Расею. Таму да нацыянальна-вызвольных рухаў нерасейскіх народаў ставіцца Захад недаверліва, вычэкваюча, а ў найлепшым выпадку — абыякава.

### «Адзінанедзялімаўская» палітыка Захаду

Ёсьць дзьве аснаўныя прычыны такой заблытанасьці паняцьцяў у дачыненьні да ўсходняй праблемы: адна, калі так можна выразіцца, нутраная, а другая — вонкавая, якая зьяўляецца непасрэдным вынікам замежнай палітыкі заходніх дзяржаваў у дачыненьні да Расеі. Захад, а ў тым ліку й ЗША, доўгі час уважаў, што для раўнавагі сілаў у сьвеце ім патрэбная вялікая й сільная Расея, якая балянсавала б дзве магутныя дынамічныя дзяржавы — Нямеччыну з захаду й Японію з усходу. Да гэтага далучаўся мамэнт эканамічны — вялікая й індустрыяльна адсталая Расея ўважалася за выгадны рынак збыту, на які Захад мог кідаць над-

выжку сваёй прамысловай прадукцыі й адкуль мог даставаць патрэбную яму сыравіну. Заходнія дзяржавы ўважалі, што куды выгадней мець гандлёвыя інтарэсы з адным вялікім кліентам, чымсьці з цэлым радам кліентаў дробных.

Выходзячы з гэтых, чыста практычных, меркаваньняў, заходняя палітыка аж да апошняга часу разьвівалася ў кірунку захаваньня вялікай Расеі, а таму ня толькі ня была яна зацікаўленая ў паддзержываньні незалежніцкіх рухаў нерасейскіх народаў, але, наадварот, гэтыя рухі былі ёй не на руку, а таму й не знаходзілі яны на Захадзе ніякай сымпатыі. Ясна, што такая палітыка Захаду зрабіла сваё: яна на працягу доўгіх дзесяцігодзьдзяў сыстэматычна ўзьдзейвала на заходнія грамадзянствы й адпаведна фармавала іхную апінію аб нацыянальнай праблеме Усходу.

Але сяньня палажэньня дыямэтральна зьмянілася. Сяньня ані Нямеччына, ані Японія ня толькі Захаду загражаць ня могуць, але навет становяцца ягонымі саюзьнікамі. Затое сяньняшняя Расея ў форме Савецкага Саюзу, якая культывуе й да высокай ступені ўдасканальвае імпэрыялістычную палітыку царскае Расеі, сталася сьмяротнай загрозай для Захаду.

Наіўным ёсьць таксама пагляд, які яшчэ пакутуе ў многіх уплывовых заходніх сфэрах, што будучая «дэмакратычная» Расея, якая паўстане пасьля зьнішчэньня бальшавізму, вызбудзецца дасюлешніх імпэрыялістычных імкненьняў і станецца карысным сябрам у сям'і дэмакратычных дзяржаваў сьвету. Тыя, што гэтак думаюць, забываюць, на жаль, што дынамічны імпэрыялізм, няўпыннае імкненьне да пашырэньня сваіх тэрыторый коштам іншых народаў зьяўляецца неадлучнай рысай псыхалёгіі расейскага народу, якая зьяўляецца найважнейшым рухаючым маторам расейскае гісторыі ўжо ад XV стагодзьдзя. Гэтая рыса найяскравей сяньня выяўляецца ў савецкіх агрэсыўных плянах, з аднаго боку, і палітычнай плятформе даслоўна ўсіх расейскіх палітычных групаў на эміграцыі, з другога. Таму няма абсалютна ніякай гарантыі, што будучая Расея з драпежнага ваўка раптам станецца нявінным ягняткам, затое ёсьць шмат дадзеных на тое, што гэты драпежны воўк і надалей астанецца тым самым ваўком.

Захад яшчэ ня змог зразумець, што захаваньне ў будучыні вялікай і сільнай, хоць і не бальшавіцкай Расеі можа для яго быць больш небясьпечным, чымсьці адроджаныя нямецкі й японскі імпэрыялізм, узятыя разам. Аб адраджэньні імпэрыялізму гэтых апошніх дзяржаваў да трэйцяй сусьветнай вайны ня можа быць і мовы, бо ў гэтым пэрыядзе часу абедзьве гэтыя дзяржавы будуць знаходзіцца пад непасрэднай кантроляй Захаду, у першую чаргу ЗША. Але ў выпадку пераможнай новай сусьветнай вайны як Нямеччына, гэтак і Японія, якія ў вайне такой прыймуць актыўны ўдзел як раўнапраўныя партнэры, з-пад кантролі гэтай лёгка могуць выйсьці. А тады зусім праўдападобным можа быць зблякаваньне гэтых дзьвюх мілітарна сільных і індустрыяльна разьвітых дзяр-

жаваў зь вялікай Расеяй супраць Амэрыкі, што для апошняй стварыла б новыя й вельмі небясьпечныя камплікацыі. Блёк жа аднэй Нямеччыны зь Японіяй без Расеі для ЗША, якія вырасьлі сяньня ў вялізарную мілітарную й эканамічную магутнасьць і якія, бясспрэчна, гэтую магутнасьць і пасьля эвэнтуальнай новай вайны захаваюць, ня будзе страшным.

Такім чынам, захаваньне вялікай Расеі ў ейных сяньняшніх межах можа ў будучыні якраз зьвіхнуць тую раўнавагу сілаў у сьвеце, да якой імкнецца Захад, затое ейны распадзел на нацыянальныя дзяржавы гэтую раўнавагу, бясспрэчна, захавае на карысьць Захаду й загарантуе доўгатрывалы мір у сьвеце.

## Магутная сіла ілжывай інфармацыі

Другая, або названая намі нутраная, прычына неразуменьня Захадам усходняе праблемы выплывае з нацыянальнай палітыкі царскай Расеі, а такжа зь ілжывай інфармацыі аб Усходзе расейскай эміграцыі.

Захад пазнаў запраўднае палажэньне й запраўдныя нацыянальныя асьпірацыі каляровых народаў у калёніях заходніх дзяржаваў дзякуючы таму, што гэтыя дзяржавы, абмяжоўваючыся толькі да палітычнага, а не нацыянальнага паняволеньня гэтых народаў і іхнай эканамічнай эксплуатацыі, ніколі не хавалі праўды аб гэтых народах. Наадварот, дзяржавы гэтыя, будучы незацікаўленымі ў нацыянальным паняволеньні каляніяльных народаў, а тым больш у іхнай асыміляцыі, якраз спрычыніліся да папулярызацыі найбольш аб'ектыўнай веды аб народах, засяляючых іхныя калёніі.

Зусім інакш прадстаўлялася справа ў царскай Расеі, якая, раўналежна зь няволяй палітычнай, сацыяльнай і эканамічнай, замацавала сыстэму жорсткага нявольніцтва нацыянальнага. Усе падбітыя ёю нерасейскія народы былі асуджаныя на поўную асыміляцыю, а таму нацыянальна-вызвольныя рухі да 1905 г. маглі там разьвівацца толькі падпольна. Найяскравейшым доказам русыфікатарскай палітыкі царскага рэжыму можа служыць факт, што да рэвалюцыі 1905 г. існавала суровая забарона беларускага друку.

Такім чынам, у царскі пэрыяд толькі расейцы мелі магчымасьць інфармаваць сьвет аб Расеі, а народы нерасейскія, што станавілі большыню насельніцтва, усякага голасу былі пазбаўленыя. Інфармацыі ж, даваныя расейцамі, былі, як правіла, хвальшывыя, груба тэндэнцыйныя. У іх звычайна прадстаўлялася, што Расея, нягледзячы на ейную этнічную шматскладовасьць, прадстаўляе сабою неразьдзельную цэласьць навет з гледзішча нацыянальнага, бо нерасейскія народы зьяўляюцца толькі паасобнымі плямёнамі й адгаліненьнямі вялікага расейскага народу, які, дарэчы, і ўтварыўся зь мешаніны розных этнічных групаў на славянска-расейскай базе.

## Аргумэнты расейскіх эмігрантаў

Пасьля бальшавіцкай рэвалюцыі ўва ўсіх краінах Захаду апынулася вялікая колькасьць расейскіх эмігрантаў, якія адыгрывалі й адыгрываюць сяньня ролю галоўных інфарматараў аб Расеі й нацыянальным у ёй пытаньні. Гэтыя эмігранты зьяўляюцца й да сяньня галоўнымі дараднікамі заходніх афіцыяльных і прыватных уплывовых інстытуцыяў, умела выкарыстоўваючы сваё становішча на карысьць расейскіх імпэрыялістычных інтарэсаў. І трэба прызнацца, што іхная роля ў хвальшаваньні запраўднага палажэньня на падсавецкай тэрыторыі вялізарная, бо Захад, трымаючыся традыцыйнага спосабу думаньня аб усходняй праблеме, ахвотна прыслухоўваецца да іхнага хвальшывага голасу.

На доказ канечнасьці захаваньня адзінай і непадзельнай Расеі звычайна высоўваюць расейскія эміграцыйныя палітыкі чатыры аснаўныя аргумэнты:

1. Яны стараюцца пераканаць Захад у тым, што на тэрыторыі Савецкага Саюзу нацыянальнае пытаньне зусім ня існуе, што нерасейскія народы ніякіх нацыянальных асьпірацыяў ня маюць і ніякай дзяржаўнай незалежнасьці й аддзяленьня ад Расеі не жадаюць, а імкнуцца толькі, як і расейцы, скінуць бальшавізм, дабіцца асабістай вольнасьці й сацыяльнай справядлівасьці. Яны ў дабавак цьвердзяць, што нацыянальная праблема ёсьць выдумкай толькі групкі сэпаратыстычна настроенай інтэлігенцыі, што нацыянальныя рухі былі штучна створаныя гэтай інтэлігенцыяй пад час апошняй вайны пры выдатным падтрыманьні нацыстаўскага акупацыйнага апарату й розэнбэргаўскага ўсходняга міністэрства.

Ілжа такога цьверджаньня відавочная, калі ўзяць пад увагу спаміж многіх іншых толькі два наступныя факты: а) Амаль усе паняволеныя народы супольнымі высілкамі сваёй інтэлігенцыі й шырокіх народных масаў аднавілі ў 1917—1918 гг. свае незалежныя дзяржавы, якія потым баранілі з аружжам у руках, аж пакуль ня былі пераможаныя перавагаю фізычнае сілы расейскага бальшавізму. б) Найбольш арыштаў, ссылак, расстрэлаў і адкрытых судовых працэсаў на тэрыторыі нацыянальных рэспублікаў адбывалася й адбываецца якраз за «нацыянал-дэмакратызм», «мясцовы нацыяналізм», «нацыянал-фашызм» і «нацыянальную абмежаванасьць», а гэта найлепшы довад, што нацыянальная апазыцыя там вельмі моцная, якой ня ў сілах зьнішчыць дагэтуль бальшавікі, нягледзячы на ведамыя мэтады крывавага тэрору.

Што ж датычыцца цьверджаньня, што нацыянальна-незалежніцкія рухі былі створаныя пры выдатным падтрыманьні нямецкага нацызму, дык у запраўднасьці справа прадстаўлялася наадварот. У тых акупаваных немцамі зонах, у якіх была заведзеная нямецкая цывільная адміністрацыя, немцы наагул ня мелі выразнай нацыянальнай палітыкі й ставіліся да нацыянальнай праблемы нерасейскіх народаў вычэкваючы, церпячы, хоць і неахвотна, чыста культурную дзейнасьць, а катэгарычна забара-

няючы дзейнасьць палітычную. Затое на тых тэрыторыях, якія знаходзіліся пад ваенным упраўленьнем (на Беларусі на ўсход ад Барысава), немцы, акружаныя расейскімі дараднікамі — «зондэрфюрэрамі», праводзілі выразна прарасейскую палітыку. Прыкладам, прэса для мясцовага насельніцтва выдавалася ваенным аддзелам прапаганды выключна ў расейскай мове (выдаваныя ў кажнай акрузе газэты — «Новый путь» і інш.).

Таму цьвердзіць, што немцы стварылі незалежніцкія рухі нерасейскіх народаў у той час, калі ў запраўднасьці яны гэтыя рухі душылі, а прапагандавалі расейшчыну, зьяўляецца нахабнай ілжой.

2. Другім аргумэнтам, якім хочуць расейцы застрашыць Захад, ёсьць цьверджаньне, што калі Захад стане на пазыцыях распадзелу Расеі, дык у будучай вайне будзе ён мець супраць сябе ўвесь расейскі народ.

Гэты аргумэнт зьяўляецца ня чым іншым, як палітычным шантажом, бо ня мае ён пад сабой ніякіх рэальных падставаў. Мы, знаючы расейскі народ, моцна сумняваемся, ці ён, будучы цэлымі стагодзьдзямі прызвычаены да нявольніцкага жыцьця, выступіў б наагул актыўна супраць бальшавізму, так як ні разу ня выступіў супраць яго ў шырэйшых маштабах дагэтуль, тады, калі на нерасейскіх тэрыторыях адбываецца ўвесь час бесьперапыннае змаганьне супраць бальшавізму, якое, у залежнасьці ад абставінаў або выліваецца ў форму збройных партызанскіх войнаў, або абмежваецца да пасыўнага супраціву. Таму ёсьць усе падставы думаць, што на выпадак вайны, незалежна ад таго, зь якімі лёзунгамі будзе йсьці на ўсход заходняя армія, расейскі народ у найлепшым выпадку захаваецца пасыўна.

3. Трэйцім аргумэнтам, якім апэруюць расейскія эмігранты, ёсьць цьверджаньне, што ў той час, калі ў цэлым сьвеце штораз больш актуальным становіцца імкненьне да розных міждзяржаўных задзіночаньняў у форме вуніяў, блёкаў, федэрацыяў, зусім не мэтазгодным ёсьць усякае раздрабненьне, а таму й Расея павінна быць захаваная як непарушная цэласьць.

Гэты аргумэнт зьяўляецца ня менш слабым за папярэдні. Ніводзін з паняволеных народаў не зьяўляецца праціўнікам актуальнага сяньня ў сьвеце міждзяржаўнага задзіночаньня. Але кожны зь іх жадае ў такую задзіночаную канстэляцыю дзяржаваў увайсьці вольным і стацца ў ёй раўнапраўным партнэрам, разумеючы, што ня можа быць ніякага задзіночаньня, ніякай уніі ці фэдэрацыі між нявольнікам і панявольваючым, між вязьнем і турэмным вартаўнікам.

4. Распадзел Расейскае імпэрыі на нацыянальныя дзяржавы прывёў бы — як цьвердзяць расейцы — да балканізацыі эўрапэйскага Усходу й падсавецкай Азыі, што ў далейшую чаргу магло б толькі выклікаць бесьперапынныя споры, а навет міжусобныя войны.

Гэты аргумэнт спаміж усіх, вышэй прыведзеных, зьяўляецца бадай што найслабейшым. Калі б, прыкладам, і заіснавалі некаторыя споры

між паасобнымі дзяржавамі паняволеных сяньня народаў, то ў сваёй шкоднасьці для сусьветнай бясьпечнасьці не маглі б яны быць настолькі грознымі й небясьпечнымі, як споры, змаганьня й навет збройныя паўстаньні паняволеных народаў супраць Масквы, якія, у выпадку захаваньня турмы народаў, напэўна, будуць мець месца.

Нягледзячы на тое, што ўсе гэтыя аргумэнты зьяўляюцца ў істоце сваёй нясур'ёзнымі й іхны хвальш відавочны, усё ж такі яны маюць яшчэ значны ўплыў на заходнюю мэнтальнасьць, прызвычаеную да закасьцянелага ў сваіх формах традыцыйнага спосабу думаньня.

## Лёд памалу праломліваецца

У апошнія гады на Захадзе пачалася, аднак, павольная, але грунтоўная рэвізыя паглядаў на ўсходнюю праблему. Сярод многіх заходніх людзей, што пачалі вызваляцца ад агульна прынятага шаблёну думаньня й разумець нацыянальнае пытаньне падсавецкага ўсходу так, якім яно ёсьць у запраўднасьці, знаходзяцца ўжо ўплывовыя палітыкі й дзяржаўныя мужы, якія ня толькі ўважаюць за патрэбнае разьвязаньне нацыянальнага пытаньня Усходу ў духу нашых імкненьняў, але становяцца навет запраўднымі піянэрамі папулярызацыі на Захадзе нашых ідэяў і шчырымі абароньнікамі нашых нацыянальных інтарэсаў.

Да такіх людзей у Ангельшчыне належаць, у першую чаргу, старшыня Шкоцкай лігі за свабоду Эўропы Дж.Ф.Стуарт і выдатны вайсковец і ўплывовы публіцыст генэрал-маёр Дж.Ф.С.Фулер. Штораз болей такіх людзей паяўляецца і ў ЗША. Апрача былога рэспубліканскага кандыдата на прэзыдэнта сэната Г. Стасэна да гэтай групы людзей належаць яшчэ сэнатар О'Конор, сэнатар Смітс, кангрэсмэны Кэрстэн, Смэтэрс, Борыс, Армстронг і іншыя.

Гэтыя людзі дамагаюцца распадзелу Расейскае імпэрыі на нацыянальныя дзяржавы паняволеных народаў ня толькі ў імя дэмакратычных ідэяў, але й дзеля таго, што гэта зьяўляецца гістарычнай канечнасьцю й ляжыць у інтарэсах Захаду, што гэта адзіны спосаб перамогі над бальшавізмам і ўстанаўленьня трывалага міру ў сьвеце.

Трэба верыць, што на гэткі шлях раней ці пазьней будзе змушаная ўзыйсьці й афіцыяльная палітыка заходніх дзяржаваў, бо гэтага вымагаюць палітычныя інтарэсы самога ж Захаду.

*1952*

**Мікалай ЛАПІЦКІ**
(1907—1976)

Праваслаўны святар, рэлігійны, культурны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Грэлікі на Вілейшчыне. Вучыўся ў Вілейскай гімназіі. Скончыў Віленскую праваслаўную духоўную семінарыю (1930) і багаслоўскі факультэт Варшаўскага універсітэта (1934). У гады вучобы быў абраны старшынёй Аб'яднання студэнтаў праваслаўнага багаслоўя. Рукапаложаны ў сан святара ў 1934 г. Абараніў магістэрскую працу «Праваслаўе ў Вялікім Княстве Літоўскім за часоў панавання Уладзіслава Ягайлы» (1935). У гады Другой сусветнай вайны — сябра кансісторыі Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы і настаяцель Чыгуначнай царквы ў Мінску (з восені 1942). Удзельнік Царкоўнага Сабору, які абвясціў ўтварэнне Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы (1942). Дэлегат II Усебеларускага кангрэса (1944). Прыводзіў да прысягі батальёны Беларускай краёвай абароны. З 1944 г. жыў у Нямеччыне. Рашуча выступаў супраць уваходу беларускіх праваслаўных епіскапаў у склад Расійскай зарубежнай царквы. Вёў богаслужэнні ў беларускіх эвакуацыйна-перасяленчых лагерах у Нямеччыне. Выкладаў Закон Божы ў Беларускай гімназіі імя Янкі Купалы. На правах сябра ўваходзіў у склад рэдакцыйных калегій газеты «Беларускае слова» і часопіса «Беларуская думка». Настаяцель прыходу св. Ефрасінні ў Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі, ЗША). Адзін з ініцыятараў функцыянавання Беларускай праваслаўнай царквы пад юрысдыкцыяй Канстанцінопальскага патрыярха. З чэрвеня 1951 г. рэдагаваў часопіс «Царкоўны сьветач». Займаўся публіцыстычнай і выдавецкай дзейнасцю. Быў абраны старшынёй Задзіночанага Беларуска-Амерыканскага дапамогавага камітэта. Паслядоўна адстойваў інтарэсы Беларускай праваслаўнай аўтакефальнай царквы, выступаў за дзяржаўную незалежнасць Беларусі.

## БЕЛАРУСКАЯ АЎТАКЕФАЛЬНАЯ ПРАВАСЛАЎНАЯ ЦАРКВА
(*Фрагмент*)

Аўтакафелія не зьяўляецца ніякім догматам веры. Аўтакефалія — гэта чыста кананічнае паняцьце для азначэньня пабудовы Праваслаўнае Царквы. Сусьветная Праваслаўная Царква складаеца з Памесных Цэркваў, якія ў сваім кіраўніцтве незалежныя, або аўтакефальныя.

У царкоўных канонах няма ўказаньняў пра спосаб устанаўленьня аўтакефаліі для новых цэркваў. У канонах Праваслаўнае Царквы знаходзім толькі падставы, пры наяўнасьці якіх царква можа быць аўтаке-

фальнай. 34 правіла Сьвятых Апосталаў падае нацыянальную падставу для царкоўнае незалежнасьці: «Епіскапам кожнага народу належыцца знаць першага між імі...». Правіла 6 Першага Сусьветнага Сабору і 17 Чацьвертага Сусьветнага Сабору падае палітычна-тэрытарыяльныя падставы: «Калі царскай уладай заснаваны або будзе заснаваны горад, дык разьдзел царкоўных парафіяў няхай пасьледуе за цывільным ды земскім парадкам». І сапраўды ў гісторыі Царквы бачым, што гэтыя дзьве падставы далі магчымасьць атрымаць аўтакефалію ў свой час беларусам, сэрбам, румынам ды інш. На вялікі жаль, аўтакефалія новым Цэрквам давалася нялёгка.

Царкоўная гісторыя паказывае, што ініцыятыва ў справе ўнезалежненьня царквы таго ці іншага народу выходзіла ад часткі падпарадкаванае, а не ад мітраполіі, ці «маткі» царквы. Наадварот, цэрквы-«маткі» амаль заўсёды супраціўляліся аддзяленьню і часта, каб утрымаць пры сабе «сястру», вялі зацятую барацьбу. Але гэтая барацьба звычайна канчалася вынікам у карысьць таго народу, які змагаўся за сваю аўтакефалію.

Матывамі да барацьбы за царкоўную незалежнасьць у кіраваньні быў ня толькі прэстыж народу пры яго ўзросьце, але і заданьне: па-першае, — стварыць лепшыя ўмовы для пазытыўнага разьвіцьця духоўных якасьцяў у царкоўна-рэлігійным жыцьці свайго народу, па-другое, — вызваліцца ад панаваньня ў царкве чужое нацыянальна гіерархіі і духавенства, якія праз царкву праводзілі нацыянальную і культурную асыміляцыю. Гэтымі матывамі кіраваўся беларускі народ, калі ў другой палове XIII ст. стварыў Наваградзкую праваслаўную мітраполію, якую ў 1291 г. зацьвердзіў Андронік Старэйшы, імпэратар Візантыі, і прызнаў ёй даволі высокае, бо 82-ое месца ў Патрыяршай Радзе на агульную колькасьць 100. Гэтымі матывамі кіраваўся беларускі народ, калі з часоў Гэдыміна ўтрымоўваў сваю мітраполію на чале з мітрапалітам Фіафілам, які ў 1329 г. прымаў удзел у Канстантынопальскім Сынодзе (Acta Patriarch Consrantinopoli (бал. 147). Апрача гэтага, як удзельнік Канстантынопальскага Сыноду, мітрапаліт Наваградзкі ўспамінаецца ў жніўні 1317 і студзені 1327 (Latopisiec Litwy i Kronika Ruska, выд. Даніловіча, 72—143). Гэтымі матывамі кіраваўся Альгерд, калі ў 1355 г. аднавіў Наваградзкую мітраполію. Тагды Канстынопальскі патрыярх высьвяціў мітрапалітам брата Альгердавае жонкі (Марыі Яраслаўны, кн. Віцебскай) Рамана. Але гэтыя асягненьні здабываліся і ўтрымоўваліся нялёгка. Новастворанаая аўтакефальная Наваградзкая мітраполія вяла заўсёднае змаганьне з цэнтралізмам Кіеўскіх мітрапалітаў, якія ўвесь час рабілі заходы перад Канстантынопальскай патрыярхіяй, каб скасаваць яе. Як вынік гэтага змаганьня ў пару панаваньня Вітаўта (1415) у Наваградку адбыўся Сабор праваслаўных епіскапаў Беларусі (Полацкага, Тураўскага, Смаленскага, Чарнігаўскага), якія выбіраюць аўтакефальным мітрапалітам Наваградзкім Грыгорыя Цамблака. Гэты апошні астаецца мітра-

палітам да ягонае сьмерці (1419). Такім чынам, Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква мае кананічныя і гістарычныя асновы. Зусім зразумела, што беларускі народ працуе над адбудовай разбуранага, а паіменна над адбудовай аўтакефаліі Беларускае праваслаўнае царквы.

Гістарычныя падзеі разгортваліся так, што беларускі народ папаў у палон, які трывае стагодзьдзямі. Аднак беларускі народ не пагадзіўся з такім станам рэчаў і змагаецца за права быць незалежным палітычна і духоўна, а значыць змагаецца і за аўтакефалію Беларускае праваслаўнае царквы. Паказчыкам жывучасьці беларускага нацыянальнага духа зьяўляецца разьвіцьцё беларускае незалежніцкае думкі ў XIX і XX стст. Акт 25 сакавіка 1918 г., якім Беларусь была абвешчана незалежнай дзяржавай, зьяўляецца выражэньнем волі міліённых масаў беларусаў мець сваю сувэрэнную дзяржаву. На жаль, маладая Беларуская Рэспубліка была ўзноў акупавана ўзброенымі сіламі нашых ворагаў з усходу і захаду. Аднак акупанты не змаглі зламаць народнага духа: беларускія незалежніцкія ідэалы жывуць у народных гушчах. Сьведчаньнем жывучасьці гэтых ідэалаў зьяўляецца барацьба за Вольную Бацькаўшчыну, якая пасьля падзелу Беларусі Рыскім трактатам паміж Польшчай і камуністычнай Масквой вялася на прасторы ад Беластоку да Смаленску і каштавала нам шмат крыві. Тыя ахвяры, якія клаў беларускі народ у барацьбе за незалежнасьць, не даюць нам права зрачыся мэты, у імя якое людзі ішлі на сьмерць і ў астрог. Самаахвярнасьць тых, што цярпелі і згінулі, натхняе нас на далейшую барацьбу. Гэтай высокай ідэяй кіраваўся мітрапаліт Мелхісэдэк, калі ў 1922 г. аднаўляў аўтакафелію Беларускае праваслаўнае царквы ў акупаванай бальшавікамі частцы Беларусі. Пра аднаўленьне Беларускае праваслаўнае аўтакефальнае царквы мітрапалітам Мелхісэдэкам 23 ліпеня 1922 г. сьведчыць адозва Зьезду прадстаўнікоў гіерархіі, духавенства і вернікаў, выдадзеная ў 1927 г., у якой гаворыцца: «Роўна пяць год таму, у адзін з самых вострых момантаў царкоўнае бязладзіцы, у часы створанага тагды бязуладзьдзя ў царкве і нараджэньня абнаўленчае блытаніны, у Менску, у асяродзьдзі царкоўных людзей, узьнікла думка абгарадзіць сваю мясцовую Царкву ад цяжкіх страсеньняў, выставіўшы ў якасьці ратуючае котвы ідэю самабытнасьці Беларускай Царквы на нацыянальнае самавызначэньне. Здаровы царкоўны інстынкт самазахаваньня і прагрэсыўная плынь рэлігійнай думкі гармanічна спалучыліся ў гэтым ідэйным руху, тым ня менш акт абвешчаньня Беларускай мітраполіі 23 ліпеня 1922 году, радасна спатканы ўсім праваслаўным насельніцтвам Менскага краю, быў падарваны ў сваім сапраўдным значэньні засільлем абнаўленства і таму ня даў усіх сваіх дабрадзейных для Царквы вынікаў. Далейшая паласа царкоўнага жыцьця ў Менскай епархіі, хоць і вярнула старацаркоўніцтву ягонае сапраўднае месца, таксама мала спрыяла законнаму імкненьню праваслаўнай Беларусі да адбудовы свайго царкоўнага жыцьця на грунце пастаноў незалежнасьці (аўтакефаліі). Адносіны кіруючых царкоўных кругоў у Маскве

да гэтага пытаньня насілі характар переменны і нясталы, прымаючы то форму спагады (пры нябожчыку патрыярху), то форму выразнай няпрыхільнасьці (пры ягоных намесьніках). Прайшло сумнае пяцігодзьдзе, на працягу якога пытаньне Беларускай мітраполіі ня толькі не пасунулася да пажаданага канца, але ўскладнілася рознымі абставінамі царкоўнага жыцьця, пакуль нарэшце падзеі апошніх гадоў не скранулі Беларускую Царкву з стану паралічу. І вось тагды жыцьцё зноў высунула тую ідэю аўтакефаліі, якую да гэтага часу прыгняталі царкоўныя веяньні і плыні, нічога супольнага ня маючыя з сапраўднымі інтарэсамі царквы. Беларускі зьезд, які толькі што закончыўся, увачавідкі паказаў, як глыбока прасякнула гэтая ідэя ў сьведамасьці епархіі і з якім адзінадушшам яна была санкцыянавана саборным розумам яе — зьездам. Інакш і быць ня можа. У той час, калі сувязі, якія злучалі раней царкоўную акругу з вышэйшым адміністрацыйным цэнтрам, ужо аджылі, калі гэтыя сувязі прыносяць ёй не карысьць, а шкоду, гэтая акруга павінна шукаць апорны пункт у самой сабе, у свабоднай канцэнтрацыі сваіх жывых сілаў, у арганізацыі свайго адміністрацыйнага ладу... Каму нарэшце няведамы некаторыя выразныя факты нашай беларускай гісторыі, якая сьведчыць аб наяўнасьці гэтай ідэі ў сьведамасьці беларусаў, продкаў нашых (гісторыя Мітрапаліта Грыгорыя Цамблака ў XV веку) нягледзячы на ўвесь шматвяковы і рэлігійны цяжар, пад якім мы жылі...»

Беларуская царкоўна-рэлігійная думка ў разгляданую намі пару фармавалася ў духу рэлігійна-гістарычных шуканьняў беларускага народу. Падзеі гэтае крытычнае пары паказалі, што ўплывы маскоўскае царквы ня мелі нейкага глыбейшага ўплыву на царкоўную самасьведамасьць беларусаў. Прыведзеныя намі вышэй вытрымкі з Пасланьня Сабору беларускіх гіерархаў, духавенства і вернікаў сьведчаць вымоўна аб тым, што ідэя аўтакефальнасьці беларускае царквы была тым корнем, з якога расьце дрэва нашае царквы.

*1952*

**Леў АКІНШЭВІЧ**
**(1898—1980)**

**Гісторык, культуролаг, саветолаг, беларускі і ўкраінскі культурны дзеяч. Нарадзіўся ў г. Санкт-Пецярбургу. Вучыўся ў Кіеўскім універсітэце. Скончыў Кіеўскую вайсковую школу (1918). Прыняў грамадзянства Беларускай Народнай Рэспублікі (1918). Працаваў ва Украінскай акадэміі навук, супрацоўнічаў з Інстытутам беларускай культуры. Выступаў у беларускіх навуковых выданнях і перыядычным друку. У 30-я г. быў абвінавачаны ў беларускім і ўкраінскім нацыяналізме. На пачатку 40-х г. працаваў у Смаленску. Пасля нападу нямецкіх войскаў на СССР знаходзіўся на Украіне. З 1944 г. — у Заходняй Нямеччыне. Пасля вайны выехаў у ЗША. Працаваў навуковым супрацоўнікам у Цэнтры па вывучэнню СССР у Вашынгтоне. Займаўся даследаваннямі гісторыі Беларусі і Украіны XVI—XVII стст. Супрацоўнік Беларускага інстытута навукі і мастацтва (ЗША). Шырока друкаваўся на старонках беларускіх і ўкраінскіх эміграцкіх выданняў.**

## ПРА «ЦЫВІЛІЗАЦЫЙНЫЯ АСНОВЫ» БЕЛАРУСКАГА ГІСТАРЫЧНАГА ПРАЦЭСУ

Бясспрэчная рыса найнавейшае філязофіі гісторыі — ейная адмысловая ўвага да вывучэньня паасобных камплексаў, г.зв. «культурна-гістарычных цыкляў», ці «цывілізацыяў». Гэты кірунак апраўдваецца тым, што пры больш глыбокім знаёмстве з гісторыяй паасобных людзкіх грамадаў усё з большай і большай выразнасьцяй выступаюць рысы нераўнамернасьці, нятоесамасьці, апрычонасьці гістарычнага разьвіцьця паасобных народных групаў. Усё ясьней становіцца, што супольны й тоесамы шлях агульнага разьвіцьця ўсіх людзкіх грамадаў адшукаць цяжка. Усё больш выразна зазначаецца й неаднолькавасьць гэтага гістарычнага разьвіцьця. Прыкладам, нават Марксу й Энгельсу давялося вылучыць адмысловы «азіяцкі спосаб вытворчасьці», які яны знаходзілі ў гісторыі Кітаю й старадаўнага Эгіпту, і гэты «спосаб» выразна выломваўся із стройнай нібы схэмы «сацыяльна-эканамічных фармацыяў», што прыходзяць на зьмену адна аднэй у гісторыі сьвету.

Справа, аднак, выходзіць далёка за межы Кітаю й Эгіпту, бо цэлы шэраг людзкіх арганізацыяў таксама мае тэндэнцыю выломвацца із схэмы агульнага й аднолькавага (у васноўных рысах) людзкога прагрэсу.

Усё ясьней робіцца, што ўсе схэмы прагрэсыўнага разьвіцьця народаў сьвету ў запраўднасьці абапіраюцца на нібы «клясычным» прыкладзе гісторыі Заходняй Эўропы. З часам сталася ясным, што й сама гісторыя гэтай апошняй ня ёсьць адзінай і бесперапыннай, што яна лучыць у сабе адменныя самастойныя цывілізацыйныя цыклі антычнага (грэка-рымскага) й мадэрнага (рамана-германскага) тыпу.

Шэраг рысаў сучаснай заходняэўрапейскай цывілізацыі выразна адзяляюць ейнае разьвіцьцё ад развіцьця іншых людзкіх грамадаў. Апошнія ня ведалі й ня ведаюць такога выразнага й юрыдычна абгрунтаванага падзелу дзяржаўнае ўлады, як гэта было ў заходняэўрапейскім фэадалізьме. Яны не стварылі на базе вынікаў фэадалізму грамады з усталенымі правамі грамадзянаў дзеля ўдзелу ў дзяржаўным кіраўніцтве й кантролю над ім. Яны ніколі не дайшлі да таго кансэквэнтнага выніку асабістае волі, пэрсанальнае ініцыятывы й цьвёрдасьці прынцыпу прыватнай уласнасьці, які стварыў клясычныя ўзоры заходняэўрапейскага (а за ім і амэрыканскага) «капіталізму». Мы тут бярэм адно праўныя й гаспадарчыя катэгорыі. Але можна й трэба гаварыць і пра адменныя прынцыпы ў вагульнакультурным, рэлігійным, маральным ды іншым жыцьці й прагрэсе розных людзкіх групаў.

За асобную й адмысловую рысу заходняй цывілізацыі F. S. C. Northrop («The Taming of the Nations». New York. 1952. бач. 186—213) уважае ейную рымскую спадчыну й асабліва засвоеныя ёй канцэпцыі цьвярдых і агульназьвязваючых усё жыхарства прынцыпаў рымскага права. У гэтай думцы ёсьць шмат праўды.

Гэтая заходняя цывілізацыя была й у сваёй аснове ёсьць адзінай, нягледзячы на стракатую адменнасьць ейных паасобных нацыянальных кампанэнтаў. Пра гэта так пісаў расейскі славянафіл Н.Данілеўскі, адзін з заснавальнікаў тэорыі культурна-гістарычных «цыклічных тыпаў»: «Гэта, у сапраўднасьці, гісторыя аднаго цэлага... Як ніхто ня думае аб асобнай цывілізацыі Атэнаў ці Спарты, гэтаксама няма чаго гаварыць пра асобную гісторыю Францыі, Італіі ці Нямеччыны. Такой гісторыі ў сапраўднасьці няма зусім, а ёсьць толькі гісторыя Эўропы з францускага, італьянскага, ангельскага ці нямецкага гледзішча...» («Россия и Европа», б. 110).

Ці пануе «клясычная» цывілізацыя Заходняе Эўропы на прасторы ўсяго эўрапейскага абшару? І ці належаць да гэтага цывілізацыйнага камплексу народы, якія засяляюць шырокія прасторы Усходу Эўропы? На гэтыя пытаньні даваліся розныя адказы. Калі расейскі гісторык Паўлаў-Сільванскі першы заявіў пра існаваньне фэадалізму ў Расеі, ён гэтым самым ставіў гісторыю Расеі на адну роўню з гісторыяй Захаду. Калі савецкая гістарычная навука прыймае гістарычную схэму Маркса—Энгельса, дык яна гэтым самым ізноў ставіць расейскую гісторыю на адзін шлях з гісторыяй Захаду. Калі ўкраінскія гісторыкі В.Ліпінскі й С.Тамашэўскі ставяць пытаньне пра заходнія асновы культурнага й па-

літычнага разьвіцьця ўкраінскага народу, яны гэтым самым вылучаюць гэты ўсходняэўрапейскі народ з кола культурнага цыклю Усходняе Эўропы.

Што да народу расейскага, дык ягоная культурная сваясаблівасьць і адменнасьць ягоных гістарычных шляхоў вызнаюцца цяпер шмат кім з гісторыкаў за бясспрэчныя. Адкінутыя й запярэчаныя ў свой час ідэі расейскіх славянафілаў і расейскіх народнікаў, якія верылі ў магчымасьць для Расеі мінуць капіталістычны шлях разьвіцьця, шмат у чым у наш час здаюцца ня гэткімі ўжо сьмешнымі й галаслоўнымі.

«У расейскага народу, — піша расейскі філёзаф нашага часу, — была вялізарная сіла стыхіі й параўнальная слабасьць формы... У народаў Заходняе Эўропы ўсё шмат лепш выясьнена й аформлена, усё падзелена на катэгорыі й усё нязьменнае. Расея ніколі ня была ў заходнім сэнсе краінай арыстакратычнай, як ня сталася яна й буржуазнай» (Н.Бердяев «Русская идея» б. 6).

«Расейцы, — піша А.Тойнбі, — былі хрысьціянамі, й шмат хто зь іх і цяпер зьяўляюцца імі, але яны ніколі ня былі хрысьціянамі Захаду. Расея была наверненая ў хрысьціянства ня з Рыму, як Ангельшчына, але з Канстантынопалю, й, нягледзячы на іхную супольную хрысьціянскую аснову, усходняе й заходняе хрысьціянства былі заўсёды адно ад аднаго далёкія, а часам — адно аднаму антыпатычныя й варожыя» («The World and West», p. 4).

«Расея, — пісаў ужо згаданы намі Н.Данілеўскі, — не належыць ані да эўрапейскага дабра, ані эўрапейскага зла, як жа можа яна належыць да Эўропы?» (тамжа, б. б. 60—61). «Яе ня жывілі, — кажа ён, — ніводзін з тых карэньняў, празь якія Эўропа ўбірала як добрыя, гэтак і шкодныя сокі беспасярэдна зруйнаванага ёю антычнага сьвету, не кармілі яе й тыя карэньні, якія чэрпалі жыўнасьць з глыбіні нямецкага духу. Ня была яна й часткай адноўленай Рымскай імпэрыі Карлы Вялікага, якая творыць нібы супольны камель, праз падзел якога паўстала ўсё галінастае эўрапейскае дрэва, не ўваходзіла да складу той тэарэтычнай фэдэрацыі, якая заступіла сабою Карлаву манархію, ня зьвязвалася ў вадно агульнае цела фэодальна-арыстакратычнай сеткай, якая (як у часе Карлы, гэтак і ў часы свайго рыцарскага красаваньня) ня мела ў сабе нічога нацыянальнага, а была ўстановай агульнаэўрапейскай у поўным сэнсе гэтага слова. Пасьля, калі настаў новы век і пачаўся новы парадак рэчаў, Расея таксама ня брала ўдзелу ў змаганьні з фэодальным прыгнечаньнем, вынікам якога на Захадзе было забясьпечаньне тэй формы рэлігійнае свабоды, якая называе сябе пратэстанцтвам. Ня ведала Расея й гнёту, а зь іншага боку й узгадавальнага ўзьдзеяньня схалястыкі, ды ня вырабіла тэй свабоды думкі, якая стварыла новую навуку...» (тамжа).

Ня будзем разглядаць тут пытаньне, ці мае слушнасьць Данілеўскі ў дэталях свайго супроцьстаўленьня Расеі Заходняй Эўропе. Для нас даво-

лі будзе прызнаць яму часткавую слушнасьць, каб ужо шмат у чым зразумець іншыя цывілізацыйныя асновы расейскае культуры.

Наступным і заканамерным будзе пытаньне: дзе ў гэтым цывілізацыйным камплексе канчаецца Расея й пачынаецца Усходняя Эўропа ў цэласьці? Пытаньне гэтае можа быць пастаўленае ў шмат якіх плашчынях. Можна, прыкладам, аднесьці да ўсходняэўрапейскага культурнагістарычнага камплексу саму Расею, далучыўшы да яе хіба ейных цюркскіх, усходняфінскіх ды мангольскіх падданых. Гэта мы знойдзем ня толькі ў згаданых вышэй украінскіх гісторыкаў, але й у найноўшых працах у ангельскай мове Оскара Галецкага. Можна, зь іншага боку, паставіць пытаньне й пра ролю іншых усходняэўрапейскіх народаў: беларусаў, летувісаў, украінцаў ды інш. Куды належыць іхная гісторыя? Ці былі гэта далёка высунутыя на ўсход арганічныя часткі Заходняй Эўропы? Ці, наадварот, гэта былі арганічныя часткі Эўропы Усходняй, адно тэрытарыяльна бліжэйшыя да Захаду й якія з гэтае прычыны перанялі ад гэтага Захаду шэраг ягоных рысаў і культурных асаблівасьцяў? Ці, нарэшце, гісторыя гэтых народаў зьяўляецца гісторыяй глыбокіх нутраных канфліктаў, якія вынікаюць з прычыны паміжлежнага, «міжкультурнага» палажэньня іхных земляў?

Усё гэта вельмі паважныя праблемы, й ад іхнага вырашэньня шмат у чым залежыць уся ацэнка гісторыі гэтых народаў ды праўдзівае разуменьне яе.

Трэба адразу адкінуць кажную спробу падыйсьці да вырашэньня згаданых праблемаў з пазыцыі тых ці іншых палітычных інтарэсаў нашае сучаснасьці. Расейская імпэрыя, якая на цэлыя стагодзьдзі палучыла пад сваёй уладай шматлікія й разнародныя народы й нацыі Усходняе Эўропы, мае гарачых абаронцаў і зацятых ворагаў. Якраз выходзячы з гэтых пачуцьцяў і пераконаньняў, шмат хто з гісторыкаў Усходняе Эўропы й дае кірунак сваім гістарычным паглядам. Сумліўна, ці гэта справядліва.

Расейская імпэрыя, як і ўсё на сьвеце, — зьявішча часовае. Усходняя Эўропа магла быць палітычна нязлучаная ў вадну цэласьць (як гэта дагэтуль ёсьць з Эўропай Заходняй) і ўсё-ткі тэарэтычна быць адзіным цывілізацыйным цэлым. І наадварот, яна можа быць злучаная ў вадно дзяржаўнае цела, але ўсё ж быць разнародным у сваім агульнакультурным зьмесьце камплексам. (Гэткім яна ўжо, без усялякага сумлеву, й бывала, улучаючы ў сябе выразна заходніх фінаў ці палякаў ды выразна далёкаўсходніх манголаў або карэйцаў). Само злучэньне ўсходняэўрапейскіх народаў, калі яно ўжо мела стацца, зусім не абавязкава мусіла адбыцца пад эгідай расейскае Масквы. Вельмі лёгка палітычным цэнтрам Усходняе Эўропы мог стацца ўкраінскі Кіяў ці беларуская Вільня, або й татарскі Сарай-Бэркэ. Мы ведаем, што спробы й змаганьне за гэткае пяршынство іншых, нерасейскіх народаў, запраўды мелі месца.

Падыходзячы з гэтага гледзішча спэцыяльна да гісторыі беларускага народу, трэба сказаць, што яна не дае выразнага й апрыёрнага адказу на пытаньне, арганічнай часткай якога «культурна-гістарычнага цыклю» было ягонае гістарычнае разьвіцьцё. А калі гэтак, дык трэба зьбіраць матар'ялы, якія могуць нам сказаць штоколечы ў справе вырашэньня гэтае праблемы. Тут, у гэтым артыкуле, можна закрануць хіба самыя агульныя (й далёка не вычарпальныя) аргумэнты.

У часы «князёўскія» (X—XIII стст.) беларускія княствы, бясспрэчна, менш за ўкраінскія й расейскія, мелі тэндэнцыю да злучэньня ў ваднэй «рускай» цэласьці. Звычайна гэта тлумачаць тым, што тут была асобная князёўская дынастыя. Гэтае тлумачэньне мала пераканальнае. Нам думаецца, што яны вылучаліся нечым іншым і ў першую чаргу, як відаць, тым, што глыбіня супольных культурных уплываў (перадусім — уплываў бізантыйскіх) тут была меншая. Не малую ролю іграў таксама мамэнт расавай і культурнай блізіні да старых суседзяў (а магчыма й старых родзічаў), народаў «балцкае» групы — да лятувісаў і латышоў. Блізіня ды моц сувязяў з Заходняй Эўропай была тут ці не асабліва поўнай.

Ці рабіла гэта беларускія княствы часткаю Заходняй Эўропы, вылучаючы іх з усходнеэўрапейскіх камплексаў Кіяўскае імпэрыі й Суздальскае зямлі? Сьцьвярджаць гэта немагчыма: князёўская Беларусь была, агулам бяручы, усё ж у коле палітычных і культурных уплываў усходнеэўрапейскага, «славяна-бізантыйскага» цыклю.

Ці прынесла якасныя зьмены новая эпоха, калі зарганізавалася вялікая «Літоўская» імпэрыя й калі (XVI—XVII стст.) беларуская культура й мова сталіся асноўнай базай палітычнай і культурнай сувязі паміж паасобнымі й рознымі часткамі вялікага цела гэтае імпэрыі? Каб даць адказ на гэтую праблему, трэба вырашыць некаторыя ейныя часткі. Аднэй зь іх мае быць пытаньне пра гістарычныя заданьні, якія ставіў перад сабой «Літоўскі» дзяржаўны саюз, другой — пытаньне пра кірунак і шлях культурных уплываў і ар'ентацыяў.

Яшчэ Макіявэлі ўважаў, што «арганічнай» рысай кажнай дзяржаўнай арганізацыі, калі яна здаровая дзяржаўная арганізацыя, зьяўляецца нахіл да пашырэньня ейных межаў. У наш час з гэтым паглядам ня шмат хто мог бы пагадзіцца. Але наш час — гэта час перамогі тэндэнцыяў стрымліваньня й абмяжаваньня вольнай гульні ў сфэры міждзяржаўных дачыненьняў. На гэта, ведама, ёсьць свае прычыны. Ды мы цяпер гаворым пра Вялікае Княства Літоўскае й пра часы Макіявэлі. Для тае эпохі ягонае цьверджаньне ня было памылковым.

Як здаровы й моцны арганізм XIV—XVI стст. (гаворым цяпер адно пра гэты перыяд) Вялікае Княства Літоўскае вяло палітыку заваяваньняў. Гэтая палітыка даўгі час была ўдалай, а ейны кірунак быў выразны: ён ішоў па лініі змаганьня дзеля задзіночаньня вакол беларускае Вільні ўсіх галоўных частак усходнеэўрапейскага цыклю. Мы ведаем, што арганічным удзельнікам у дзяржаўным жыцьці Літвы-Беларусі быў побач

зь беларускім і лятувіскі народ, да іх пазьней далучылася асноўная частка ўкраінскага жыхарства Прыдняпроўя, часткава й часова ўваходзілі сюды й часткі заходнярасейскіх княстваў. Даўгі час Віленскі князь быў найбольш магчымым кандыдатам на галаву вялікае ўсходняэўрапейскае імпэрыі, што лучыла ў сабе ўсю асноўную прастору Усходняе Эўропы.

Мы гаворым пра гэты працэс таму, што гісторыя Усходняе Эўропы не тварыла дагэтуль магчымасьці сужыцьця (хоць бы й далёка ня мірнага) розных нацыянальных самастойных дзяржаўных адзінак, як гэта было ў Эўропе Заходняй. Тут адзін арганізм імкнуўся стаць гегемонам над іншымі, й, галоўнае, якраз тут ён здолеў гэтага дасягнуць.

Мы ведаем, што гэтая вялікая гістарычная наважнасьць літоўска-беларускіх князёў — злучыць пад знакам Віленскае Пагоні ўсю Усходнюю Эўропу — у канцы закончылася няўдачай. Вялікі паход на ўсход і поўдзень зьмяніўся палітыкай абароны перад усходам і поўднем саюзу «Літвы» з Польшчай, вялікімі ўдачамі Масквы. Не беларуская Вільня, а расейская Масква сіламоц злучыла пад сваёй уладай народы вялікіх прастораў усходняэўрапейскай раўніны. На даўгія гады расейская культура стала дамінантным выказьнікам творчых праяваў своеасаблівага генія ўсходняэўрапейскіх нацыяў.

Чаму гэтак сталася? Нам адказваюць: вайсковыя няўдачы «Літвы». Ці гэта можа здаволіць нас? Матар'яльныя рэсурсы Вялікага Княства Літоўскага ня былі меншымі за рэсурсы Маскоўскага гаспадарства. Кажуць яшчэ: сацыяльны антаганізм паміж шляхтай і сялянствам. Але ці ж ня было гэта скрозь у тагачасных дзяржавах? Нам кажуць: змаганьне спалячанае шляхты зь вернымі старой культуры народнымі масамі, змаганьне вуніі й праваслаўя. Але чаму мела месца гэтае змаганьне й у чым прычыны ўсёй ягонай гарачыні?

Мяркуем, што ўсе гэтыя факты мелі сваё значэньне, але асноўнай прычынай паразы «Літвы» быў дэманстратыўны выбар ейнай элітай заходняга (а ня ўсходняга) шляху. Адразу зробім заўвагу: гэты выбар і гэты шлях абяцалі й запраўды далі вельмі памысныя вынікі. Яны адкрылі жывую крыніцу больш сьпелае заходняе культуры, й з гэтай крыніцы пілі ды ёй жывіліся найлепшыя дзеячы беларускага й іншых народаў Вялікага Княства. І калі мы гаворым пра гэта як пра прычыну паразы, дык маем на ўвазе тое, што заходняя культура прывівалася да іншага культурнага пня. Гэта рабіла новую расьціну, хай і часова, але слабой. А перад ёй стаялі іншыя ўсходняэўрапейскія грамады, усё менш і менш закранутыя заходняй культурай, далей жа на ўсход незакранутыя зусім, ёй арганічна чужыя. Яны наважна супраціўляліся заходняй плыні, й чым больш «заходняй» рабілася «Літва», тым мацнейшай і найважнейшай была сіла іхнага супраціву.

Чым паўнейшай была вэстэрнізацыя Вялікага Княства Літоўскага (у васнове якраз гэтак мае быць названы працэс вялікіх палітычных і культурных зьменаў XVI— XVIII стст.), тым большы яна сустракала ад-

пор як унутры краіны, гэтак, і асабліва, звонку — з паўдня й з усходу. Калі вялікі князь прыняў каталіцтва й каталіцкі клер атрымаў шэраг прывілеяў, ды калі беларускі й лятувіскі шляхціч загаварыў па-польску, супраціў набыў яшчэ большую вайстрыню. Вось жа ў самым працэсе ўсё большай і большай вэстэрнізацыі «Літвы» мы бачым нейкі дзіўны парадокс: чым паўнейшым і, здавалася б, больш плённым ён быў, тым слабейшай і менш задзіночнай рабілася нацыянальная грамада.

Праўда, такога наважнага выступу супроць вэстэрнізацыі, як гэта было, прыкладам, на Украіне ў часы Багдана Хмяльніцкага, на Беларусі-Літве ня было. Але й тут быў у сярэдзіне XVII ст. казацкі рух. І тут было войстрае змаганьне паміж каталіцтвам і вуніяй, з аднаго боку, і праваслаўем, зь іншага. Было б дзяцінствам думаць, што гэтае змаганьне было толькі выяўленьнем пэўных рэлігійных адменаў. Ягоная абвойстранасьць і глыбіня гавораць нам пра іншае — пра вялікае змаганьне дзьвюх культурных асноваў.

Час вялікае Літоўска-Беларускае дзяржавы зьяўляецца часам вялікіх культурных здабыткаў. Ці ня першым зь іх было стварэньне дасканалай сыстэмы праўных нормаў, сабраных у славутых Літоўскіх статутах. Зацемім: Літоўскія статуты праводзілі ў беларускую (украінскую, лятувіскую) грамаду вялікія прынцыпы праўнай сталасьці, праўнай адказнасьці, значаньне прыватнае ўласнасьці й г.д. Гэта былі вялікія прынцыпы рымскае, а пазьней і заходняэўрапейскае цывілізацыяў. Але ўспрыймаліся яны беларускімі праўнікамі не мэханічна, а творча перапрацоўваліся на базе старых, адвечных праўных звычаяў княжае эпохі. Жыцьцё, аднак, уносіла ў гэтую тэарэтычна-сталую пабудову юрыдычных правілаў сваю карэктыву, робячы часта беларуска-лятувіскую грамаду краінай шляхоцкіх праўных парушэньняў.

У Вялікім Княстве Літоўскім, як у пэўнай цэласьці, мы выразна бачым грамаду пераходнага тыпу, у якой змагаліся паміж сабой заходнія й усходняэўрапейскія цывілізацыйныя ўплывы. Некаторая, прынамсе вонкавая, перамога першых адштырхнула ад беларуска-літоўскае дзяржавы суседнія землі з усходняэўрапейскай культурнай асновай. Гэта аддало іх у канцовым выніку ў рукі Масквы. У самой жа дзяржаве змаганьне дзьвюх цывілізацыйных асноваў гэтак і ня прывяло да здаровай і арганічнай іхнай сынтэзы. У гэтым была прычына, што ў канцы XVIII ст. Вялікае Княства, паслабленае й нутрана вычарпанае, стала лёгкай здабычай Расеі.

Мінулі стагодзьдзі. У іхным часе беларуская грамада ня жыла творчым культурна-палітычным жыцьцём, аддаючы свае лепшыя сілы, сваіх найздальнейшых сыноў ці расейскай, ці польскай культурам. Сама ж Беларусь заставалася краем, дзе спробы русыфікацыі мелі больш вонкавыя ўдачы, пакідаючы краіну ўсьцяж у тым жа палажэньні наяўнасьці дзьвюх — заходняй і ўсходняй — эўрапейскіх культурных асноваў.

Вялікі рух беларускага нацыянальнага адраджэньня другой паловы XIX й першай паловы XX стагодзьдзяў меў перад сабой ня толькі заданьне адрадзіць ці пабудаваць нацыянальную народна-беларускую культуру. Перад ім павінны былі паўстаць і іншыя заданьні, а сярод іх адно з найважнейшых — вызначэньне «цывілізацыйнай базы» для гэтае пабудовы. У сувязі з гэтым наяўнасьць «шляхоцкіх» і «сялянскіх» плыняў у беларускай літаратуры й культуры не гавораць адно пра «клясавую» аснову гэтых адменаў. Наяўнасьць «каталіцкіх» і «праваслаўных» тэндэнцыяў гаворыць ня толькі пра розьніцы ў рэлігійных паглядах. Культурнае «русафільства» ці «палянафільства» ня былі адно перажыткамі «адукацыйных уплываў». Справа, бясспрэчна, была больш складанай.

Беларуская культура яшчэ ня вырашыла гэтых праблемаў. Да гэтага часу на згаданым шляху стаялі пераважна вонкавыя перашкоды. Трэба спадзявацца, што, здабыўшы магчымасьці вольнага разьвіцьця, яна дасягне таго, чаго не ўдалося вялікай Беларуска-Літоўскай дзяржаве XIV—XVIII стст. — здаровай, арганічнай, да апошняй грані праведзенай сынтэзы сваіх цывілізацыйных асноваў. І для ўдачы гэтае справы ёсьць запарука — вялікая любасьць і вялікая ахвярнасьць, якая была асновай беларускага адраджэньня, пачынаючы ад ягоных першых крокаў.

Гэтая любасьць і гэтая ахвярнасьць неабходныя для творчага працэсу будовы ўсёй нацыянальнай асновы. Дасягнуўшы гэтай сваёй сынтэзы, беларускі народ будзе мець перад сабой вялікія творчыя магчымасьці. І хто ведае, можа, карысныя ня толькі для яго аднаго. Бо, магчыма, яны асьвецяць новым сьвятлом зь беларускай Вільні ці Менску й вялікія прасторы іншых усходняэўрапейскіх земляў.

*1953*

**Вітаўт ТУМАШ**
(1910—1998)

Урач, гісторык, літаратурны крытык, публіцыст, культурны дзеяч. Скончыў медыцынскі факультэт універсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні (1937). Дзеяч Беларускага студэнцкага саюза. У 1940—1941 гг. — кіраўнік Лодзінскай філіі Беларускага Камітэта Самапомачы ў Нямеччыне. Сябра Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Берліне (1941). З ліпеня да паловы лістапада 1941 г. бургамістр г. Мінска. Рэдактар берлінскага беларускага тыднёвіка «Раніца» (1943). Пасля вайны застаўся ў Нямеччыне, адкуль пазней эміграваў у Злучаныя Штаты Амерыкі. Правамоцны сябра кіраўнічай рады Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку. Аўтар шэрагу гістарычных, літаратурна-крытычных і культуралагічных прац і даследаванняў. Асабліва важкія заслугі навукоўца ў галіне Скарыніяны. Выступаў з артыкуламі ў беларускіх эмігранцкіх выданнях («Запісы», «Беларус» і інш.).

## ВАЖНЕЙШЫЯ МАМЭНТЫ КУЛЬТУРНЫХ ПРАЦЭСАЎ БЕЛАРУСІ

Ці раз ужо ставілася ды абмяркоўвалася пытаньне: да якога цывілізацыйнага кругу належыць Беларусь, дзе ейнае месца ў цывілізацыйных схэмах Эўропы? Бясспрэчная заслуга праф. Льва Акіншэвіча, што ён першы пасьля апошняй вайны ўзьняў гэтае старое пытаньне нанава ды зьвярнуў увагу на патрэбу ягонага высьвятленьня ў новым сучасным навукова-гістарычным аспэкце[1]. Гэткае высьвятленьне тым важнае, што яно кіне зыркае сьвятло й на не адну няясную дагэтуль балонку гісторыі беларускага народу.

Зразумела, каб належна адказаць на гэтае пытаньне, трэба ня толькі глянуць на культурна-цывілізацыйнае сяньня Беларусі, але неабходна прасачыць і галоўныя культурныя працэсы на працягу ўсёй гісторыі беларускага народу. Трэба, у першую чаргу, зьвярнуць увагу на беларускія спрадвечныя спадчынныя духовыя элемэнты, іхны характар, ды паспрабаваць азначыць і склясыфікаваць «усходнясьць», «заходнясьць» ці іншую іхную культурную існасьць. Трэба прасачыць і вонкавыя цывілізацыйныя ўплывы як Захаду, гэтак і Усходу, якія стагодзьдзямі пранікалі на землі Беларусі ды ў той ці іншай меры сталі сяньня неад’емнымі

сустаўнымі часткамі нашай сучаснай культурна-цывілізацыйнай запраўднасьці.

Толькі гэткім шляхам можам наблізіцца да правільнага адказу на пытаньне: Беларусь цывілізацыйна Захад ці Усход, і дзе — на ўсходняй ці заходняй мяжы Беларусі — канчаецца з культурнага гледзішча Захад Эўропы?

Гэты нарыс і ёсьць вельмі агульнаю спробаю падчыркнуць галоўныя ды тыповыя асаблівасьці сваёй беларускай культуры й беларускага нацыянальнага характару ды азначыць важнейшыя вонкавыя культурна-цывілізацыйныя ўплывы, якія мелі сваё значаньне ў стварэньні сучасных формаў культурна-грамадзкага жыцьця беларускага народу. Азначыць іх ня ў сучасным статычным разрэзе, а ў дынамічным гістарычным разьвіцьці. Будзе адначасна й намаганьне выявіць некаторыя важнейшыя мамэнты беларускіх культурна-гістарычных працэсаў, проба ўставіць важнейшыя для іх надзеі ды пераломныя ці сымбалічныя гады.

## 1. Псыхічна-духовыя свомасьці беларускага народу

Як ведама, паводле свайго саматычнага складу, беларускі народ мае ў сваёй аснове аналёгічныя элемэнты, як і бальшыня іншых эўрапейскіх народаў. З магчымых чужых дамешак можа паўстаць найважнейшае пытаньне толькі пра дамешкі балцкага субстрату, у сваёй аснове таксама эўрапейскага. У вадваротнасьць расейскаму, беларускі народ практычна ня мае ніякіх паважнейшых дамешак ні фінскіх, ні мангольскіх, ні іншых азійскіх. Дык беларускі народ мае падобную саматычную аснову як і бальшыня народаў заходняй Эўропы.

Усьведамляючы гэта, ня будзе дзіўным, што на працягу апошняга тысячагодзьдзя свайго гістарычнага жыцьця ён і выявіў аснаўныя рысы свайго нацыянальнага характару, блізкія ды аналягічныя да тых, якія ўважаюцца за тыповыя для народаў заходняй Эўропы.

Адной зь вельмі важных рысаў беларускага нацыянальнага характару, якую выяўляе нам гісторыя, ёсьць тое, што ў фармаваньні свайго дзяржаўна-палітычнага ладу беларускі народ праз усе эпохі сваёй гісторыі праяўляе выразнае нежаданьне тварыць абсалютныя, дэспатычныя формы ўлады, а, наадварот, выяўляе сталую моцную цягу да нармаваных, дэмакратычных формаў.

Ужо ў першы пэрыяд гісторыі Беларусі, у пару незалежных княстваў (X—XVI стст.) тагачасныя палітычна-дзяржаўныя асяродкі звычайна ня кіраваліся неабмежанаю воляю князя. У важнейшых справах князь заўсёды склікаў народнае веча, пастановы якога былі абавязкавымі і для народу, і для князя. Веча пастанаўляла аб паходзе ці супакоі, веча магло скідаць князёў ды паклікаць новых, веча выносіла пастановы пра ўсе іншыя важнейшыя справы княства. Гісторыкі падчыркваюць тую характэрную для беларускага народу асаблівасьць, што ў супрацьлежнасьць Кіяву ды Суздальшчыне (пазьней Маскоўшчыне) беларускія князі заў-

сёды дбалі пра супрацоўніцтва ды добрае сужыцьцё з сваім народным вечам і лічыліся зь ягонымі пастановамі. Нават і гэткая няштодзённая індывідуальнасьць, як князь Усяслаў Полацкі Чарадзей (1044—1101), заўсёды шукаў апоры ў сваім народным вечы, а праз яго й у цэлым народзе, і гэта была галоўная крыніца ягонай палітычна-вайсковай моцы, гэтак патрэбнай яму ў цяжкім змаганьні зь Кіявам[2].

Гэтыя яскравыя народаўладныя тэндэнцыі палітычна-дзяржаўнага ладу ўжо ў тую пару выразна адрозьніваюць Полацкае Княства ад дзяржаўна-палітычнага асяродку Украіны — Кіява — з нахілам да абсалютнай князёвай улады, абапёртай не на народзе, а толькі на верхавінах арыстакрацыі, і, асабліва, ад безагляднага дэспатызму пазьнейшай Маскоўшчыны, дзе князь прынцыпова ня лічыўся з голасам народу ды дзе вытварылася ведамае беззасьцярэжнае «самадзяржаў'е» валадара («І ці ж гэта праваслаўнае прасьвятое быць пад уладаю й загадамі рабоў...» — пісаў цар Іван Грозны да князя Курбскага).

І ў другім пэрыядзе гісторыі Беларусі, у пару Вялікага Княства Літоўскага (XIV—XVIII стст.), улада вялікага князя, афіцыйна называнага вельмі характэрным беларускім імем — гаспадар, — не набывае ў нас формаў дэспотычнага самадзяржаў'я. Вялікі князь у адносінах да сваіх падданых-грамадзянаў выступае тады фактычна як найвышэйшы фэадальны гаспадар, які толькі «гаспадарыць» над сваім народам, але не пануе як абсалютны дэспат.

Дачыненьні паміж гаспадаром-валадаром і грамадзянамі ў Вялікім Княстве нармалізаваліся дакладна распрацаванымі з часам законамі, якія вызначалі ды гарантавалі правы грамадзянаў і, адначасна, клалі межы й князёвай волі ды дбалі, каб яна не перарадзілася ў самаволю. Праз усю гісторыю Беларусі клаўся вялікі націск на справу магчыма дакладнага праўнага ўнармаваньня дзяржаўна-палітычных дачыненьняў, устанаўленьня судовых нормаў паступаньня, належнае распрацаваньне законаў ды на ўклад сыстэматычных юрыдычных кодэксаў.

У выніку гэтага й права ў Беларусі, як звычаёвае, гэтак і пісанае, высака разьвіваецца, аж даходзіць да свайго красаваньня ў пару Вялікага Княства, пакідаючы ў сваім разьвіцьці далёка за сабою суседнія Польшчу, Маскоўшчыну[2a] ды іншыя тагачасныя народы Эўропы. Найвышэйшая юрыдычная дасканаласьць была дасягнутая ў г.зв. Статуце Вялікага Княства Літоўскага ў ягоных трох рэдакцыях з 1529, 1566 і 1588 гг.

Характэрна, што ў Беларусі ніколі, нават і на кароткі час, не дайшло да абагомленьня валадара, да надаваньня яму ня толькі вышэйшых людзкіх, але й надлюдзкіх адзнакаў, ані да цэзарапапізму. Наадварот, беларускі палітычна-дзяржаўны лад і ў пару незалежных княстваў, і ў пару Вялікага Княства выяўляе выдатную, як на гэныя часы, насычанасьць дэмакратычнымі народаўладнымі элемэнтамі. («І то ёсьць нашая вольнасьць, каторую мы межы іншымі народамі хрысьціянскімі хвалімся,

што пана, іж бы водле волі сваей, а ня водле праў нашых панаваў, над сабою ня маем», — кажа канцлер Леў Сапега ў прадмове да Літоўскага статуту 1588 г.).

Вырасшы з традыцыйнага народнага права, «Літоўскія статуты праводзілі ў беларускую грамаду вялікія прынцыпы праўнай сталасьці, праўнай адказнасьці, значаньня прыватнае ўласнасьці й г.д.» — тыя нормы, якія былі свомыя некалі й для рымскай, а пазьней заходняэўрапейскай цывілізацыі[3].

У XIX—XX стст. пры поўнай утраце палітычнай самастойнасьці ня было й ніякіх магчымасьцяў для далейшага разьвіцьця свайго, з сваімі традыцыйна-дэмакратычнымі свомасьцямі, палітычнага ладу. Аднак усё ж характэрна, што ўжо ў часе спробаў аднаўленьня сваёй дзяржаўнасьці ў 1917—1921 гг., і пазьней практычна ня існавалі паважнейшыя беларускія партыі правага ці левага таталітарнага кірунку.

З гэтага відаць, што ў беларускім народзе жыве спрадвечнае імкненьне да больш ці менш лібэральных, дэмакратычных, а не абсалютных формаў грамадзкага ладу. Праз усе вякі свайго гістарычнага жыцьця беларускі народ праяўляе глыбокую сьведамасьць таго, што дабравольна зарганізаваная й законамі здысцыплінаваная грамада стаіць заўсёды вышэй за бязвольную масу, задзіночаную толькі жорсткаю воляю дэспата. З гэтага гледзішча беларускі народ бязумоўна тыпова заходняэўрапейскі, бо для народаў Заходняй Эўропы ёсьць характэрным імкненьне да нармаваньня грамадзка-палітычнага ладу законамі. «Мадэрны эўрапеец, падобна антычнаму рымляніну, жыве ў культуры нормаў», — кажа Вальтэр Шубарт[4]. Тое ж думае й Нортроп[5] ды шмат іншых.

Пашана да правоў адзінкі, талерантнасьць, свабода сумленьня выявіліся таксама вельмі выразна ня толькі ў палітычна-дзяржаўным жыцьці беларускага народу, але й у ягоных дачыненьнях да іншаверных ды іншанацыянальных народаў.

Усе важнейшыя рэлігійна-сьветаглядныя перамены ў Беларусі — прыход хрысьціянства ў X ст., зьяўленьне каталіцтва, шпаркі прыплыў ды адплыў рэфармацыйнага руху ў XVI—XVII стст., пазьнейшая каталіцкая рэакцыя ды рэлігійная вунія 1596 г. — адбываліся на беларускіх землях бяз крывавых братагубных змаганьняў, гэтак характэрных ды частых у тую пару для шмат якіх краінаў Заходняй Эўропы. Гісторыя Беларусі ня ведае інквізыцыйных агнёў, ані Баўтрамеявых ночаў. Падобнае заладжваньне рэлігійных супярэчнасьцяў наскрозь чужое псыхіцы беларускага народу. Адзіны ведамы выпадак гвалтоўнай народнай рэакцыі на настырлівы рэлігійны фанатызм — забойства епіскапа Язафата Кунцэвіча ў Віцебску ў 1623 г. — мае ў сваёй аснове чужыя, небеларускія прычыны. Гарачы прапагатар вуніі, яп. Язафат Кунцэвіч — украінец і з свайго паходжаньня (валыняк), і сваёй псыхікай, і тэмпэрамэнтам. У сваёй вунійнай акцыі ён і паступаў з тыповаю для ўкраінца, а не беларуса, нясутрымнай пачуцьцёвасьцяй. Цалком супроцьлежнае,

сутрымнае й разважнае, тыповае для беларускай мэнтальнасьці становішча займаў (як гэта яскрава відаць зь ягоных лістоў да Язафата Кунцэвіча) канцлер Вялікага Княства Леў Сапега. Гвалтоўная рэакцыя віцеблян была ня чым іншым, як спантанічным, інстыктыўным народным пратэстам супроць чужога беларускай народнай псыхіцы рэлігійнага ваяўнічага фанатызму.

Азнаку заўсёднай талерантнасьці носяць на сабе й дачыненьні беларускага народу да народаў іншых. Ведамая ды вельмі ўражальная зьява, што праз першыя чатыры вякі свайго хрысьціянства беларускі народ жыў у поўнай рэлігійнай і, найчасьцей, палітычнай суладнасьці й згодзе з суседнімі балцкімі паганскімі плямёнамі лятувісаў і латышоў. Праз гэтыя чатыры стагодзьдзі блізкога суседзкага сужыцьця прашчурам сучаснага беларускага народу ня прыйшла ніколі й думка, каб арганізаваць супроць іх крыжавыя паходы ды наварачваць сілком на хрысьціянства.

Характэрна таксама для нацыянальнай псыхікі беларускага народу тое, што чужыя расава і нацыянальна ды іншаверныя ім жыды ня толькі знайшлі на беларускіх землях гасьцінны сабе прыпынак і магчымасьць жыцьця, але пад дзяржаўна-праўнаю аховаю перажывалі ў Беларусі пару свайго эканамічнага дабрабыту ды культурнага красаваньня (асабліва ў XVI—XVII стст.) — так доўга, пакуль яшчэ сам беларускі народ быў фактычным гаспадаром сваёй зямлі ды мог гарантаваць ім свабоду веры, звычаяў, гандлю й супакой. Гісторыя беларуска-жыдоўскіх дачыненьняў ня ведае ніякіх гвалтаў ды ніякіх тэндэнцыяў да расавага паніжаньня.

Падобныя зусім як да жыдоў, былі й дачыненьні да меншых рэлігійна-нацыянальных групаў, як да караімаў, да татарскіх уцекачоў-пераселенцаў, да пратэстанцкіх немцаў, да расейскіх старавераў, якія ўцякалі ад рэлігійнага прасьледу сваіх жа суродзічаў на беларускія, чужыя ім нацыянальна й рэлігійна землі, каб ратаваць свабоду свайго сумленьня, веру, а разам і жыцьцё.

Усё гэта прыклады й канкрэтныя гістарычныя доказы глыбокай рэлігійнай і нацыянальнай талерантнасьці беларускага народу.

У выніку такой талерантнасці гісторыя Беларусі ня ведае й ніякіх масавых эміграцыяў ці ўцёкаў народу ад палітычнага, нацыянальнага ці рэлігійнага прасьледу сваёй улады з тое прастое прычыны, што такога перасьледу ніколі ў Беларусі ня было. Наадварот, беларускія землі былі вякамі прытулкам для іншых перасьледваных, як пра гэта й сьведчаць вышэй успомненыя нацыянальна-рэлігійныя групы караімаў, татараў, старавераў, жыдоў.

Падсумоўваючы, можам сказаць, што беларускі народ праз усю сваю гісторыю вызначаецца гэткімі сталымі асаблівасьцямі свайго нацыянальнага характару, як дэмакратызм, індывідуалізм, пашана да правоў адзінкі, свабода сумленьня, высока разьвітае пачуцьцё права, нацыянальная, палітычная й рэлігійная талерантнасьць, адкіданьне абсалютызму й дэспотыі.

Дый больш гэтага. У краінах Заходняй Эўропы, як ведама, элемэнты права, дэмакрацыі ды талерантнасьці ня ёсьць спрадвечныя, сталыя. Яны разьвіліся паступова ды дасьпелі толькі параўнальна нядаўна. Заходняя Эўропа ці раз перажывала, дый і ня гэтак даўно, вельмі бурныя ды крывавыя пэрыяды нават і поўнага запярэчаньня гэтых, прызнаных сяньня за тыпова заходняэўрапейскія, прынцыпаў. Прыпомнім сабе хоць бы інквізыцыю, жорсткія рэлігійныя змаганьні, крывавыя парахункі ў часы францускай рэвалюцыі, дый ці не адну й іншую балону крывавых гвалтаў чалавека над чалавекам у гісторыі Заходняй Эўропы. А яшчэ гэтак нядаўна нямецкі гітлерызм паказаў, што гэтыя «заходнія» прынцыпы ня можна і сяньня яшчэ лічыць як запраўды ўжо ў поўнасьці ды назаўсёды запанаваўшыя сярод народаў Захаду.

Тым часам беларускі народ праз цэлае апошняе тысячыгодзьдзе, праз ўсё сваё гістарычнае існаваньне зусім ня ведае гэткіх крывавых перабояў на шляху сваіх культурна-гістарычных працэсаў. Дэмакрацыя, талерантнасьць, праўнасьць — ягоныя заўсёдныя, неадлучныя, спрадвечныя арганічныя элемэнты.

Паколькі яны запраўды арганічныя для псыхікі беларускага народу, сьветчыць гэта, што, нягледзячы на доўгія стагодзьдзі ўплываў бізантыйскіх вонкавых культурна-мастацкіх формаў, беларускі народ аднак не пераняў і крыхі такіх псыхічна-духовых асаблівасьцяй Бізантыі, як догматызм ды цэзаропапізм, якія гэтак глыбака ўспрыняліся ды ўрасьлі ў спрыяльную для іх, відаць, духовую глебу суседняй Маскоўшчыны. Падобна гэтаму не змаглі перакінуцца на беларускую глебу й рэлігійныя крывавыя змаганьні з Захаду.

З гэтага мы павінны зрабіць лёгічны ды важны вывад, што, пераймаючы тыя ці іншыя вонкавыя культурна-цывілізацыйныя формы зь Бізантыі ці Захаду, беларускі народ, аднак, не пераймаў разам і іхных псыхічных асаблівасьцяў, заўсёды застаўся самым сабою. Гэтая, праз усе стагодзьдзі гісторыі захаваная, свая духовая самабытнасьць — вельмі ўражаючая дый цэнная духова-псыхічная асаблівасьць беларускага народу.

## 2. Цывілізацыйныя ўплывы Бізантыі

На паўдзённым канцы ведамага вялікага гандлёвага шляху «з варагаў у грэкі», які перасякаў землі Беларусі й меў у старавечную пару вельмі важнае гандлёва-культурнае значэньне для ўсёй тагачаснай Усходняй Эўропы, ляжала Бізантыя — важнае калісьці вогнішча высокай бізантыйскай цывілізацыі. Дзякуючы гэтаму шляху бізантыйскія ўплывы на землях Беларусі існавалі ўжо здаўна.

Асабліва шырокія магчымасьці для гэтых культурных уплываў адкрываюцца з прыходам хрысьціянства ў Беларусь у усходняй, бізантыйска-праваслаўнай форме. Царква, як ведама, — і на Захадзе, і на Усходзе — у тыя вякі фармавала культурна-духовае жыцьцё тагачаснага чалавека й

накідала яму свой сьветагляд. Дык натуральна, што рэлігійна-царкоўныя ўплывы й у Беларусі з прыймом хрысьціянства паволі праніклі ўва ўсе дзялянкі культурна-духовага жыцьця.

З пачаткам хрысьціянства ў Беларусі нашыраюцца й паступова ўрастаюць у глебу старой мясцовай культуры гэткія новыя важныя культурныя элемэнты, як бізантыйская царкоўная архітэктура й малярства, царкоўная музыка, тагачасная царкоўная й сьвецкая пісьменнасьць з рэлігійна-філёзофічным хрысьціянскім сьветаглядам.

Асабліва важным з культурна-гістарычнага гледзішча быў факт прыходу й пашырэньня разам з хрысьціянствам навукі пісьма, кірылічнай (разьвітай з грэцкай) абэцэды й пісьменнасьці ў царкоўнаславянскай мове. Пісьмо гэтае ў пазьнейшых вякох было прытарнаванае да мовы беларускай ды раскрыла шырокія магчымасьці для разьвіцьця сваёй пісьменнай мовы ды стварэньня беларускай ужытковай і літаратурнай пісьменнасьці. Перанятая з хрысьціянствам навука пісьма й разьвітае на яго аснове параўнальна рана (ужо ў XIII ст.), беларускае пісьменства ды багатая, як на тую пару, літаратурная мова мелі вельмі важнае для Беларусі ня толькі культурнае, але й палітычнае значэньне. Існаваньне свайго, шырака разьвітага, пісьменства давала для беларускага народу аўтаматычную культурную перавагу на доўгія вякі над суседнімі, без сваёй пісьменнасьці, балцкімі народамі, якія толькі вельмі позна, каля паловы XVI ст., здабыліся на першыя спробы сваёй пісьменнасьці, а яшчэ пазьней, бо толькі ў XIX ст. дачакаліся сваёй літаратурнай мовы. «Доўга на ўсім абшырным заходнім прасторы ад Дзьвіны й Дняпра ў глыбіню чужых краінаў пісьменная беларуская мова была адзіная, адзіная жывая або родная народу...» — кажа выдатны расейскі слявісты XIX ст. Пётра Бязсонаў[6]. І гэта не засталося без свайго выдатнага значэньня для далейшага ходу культурна-палітычных падзеяў на беларускім і сумежным зь ім усходняэўрапейскім прасторы.

Вось чаму **год 988**, год хрышчэньня Усходняй Эўропы й Беларусі, зусім абаснована ўважаецца за першы вельмі важны зваротны мамэнт у гісторыі культуры беларускага народу. Ад гэтага году, праз XI—XIII стст., бізантыйскія культурныя формы пашыраюцца, умацоўваюцца, урастаюць глыбей у глебу беларускай дахрысьціянскай культуры.

Цэрквы ў бізантыйскім стылі будуюцца хутка па ўсіх беларускіх местах. Ужо пад 1007 годам у летапісах успамінаецца царква сьв. Багародзіцы ў Полацку. У гэтым жа стагодзьдзі (1044—1066) у тым жа Полацку будуецца сабор сьв. Сафіі «зь сямі вярхамі». Ведамыя старавечныя цэрквы — Пятрапаўлаўская, Сьмядынская, Іванаўская, Сьвірская — у Смаленску, Благавешчанская ў Віцебску, Барысаглебскага й Спаскага манастыроў у Полацку, Калажанская ў Горадні — ды шмат іншых.

Зразумела, што разам з царкоўнай архітэктураю пашыраюцца й бізантыйскія формы царкоўнага малярства. Толькі разьба, прызнаная за неадпаведную для царквы ад часоў «іконаборчай» віхуры VIII ст. ў Бі-

зантыі, ня толькі не разьвіваецца, але й разьвіцьцё мясцовай дахрысьціянскай разьбы пад уплывам адмоўнага настаўленьня царквы моцна заглушаецца. Захоўваецца ды далей разьвіваецца толькі народная арнамэнтальная разьба. Адно шмат пазьней адраджаюць нанава разьбу заходняэўрапейскія культурныя ўплывы ды паяўленьне каталіцкіх касьцёлаў у Беларусі.

Прынесеная разам з хрысьціянствам царкоўная абрадавая музыка (сьпеў) зрабілі сваё ўзьдзеяньне з часам і на беларускую народную музычную творчасьць. З свайго боку сама царкоўная музыка з часам падпалася значным уплывам музыкі народнай.

У вагульным выніку, пасьля прыняцьця хрысьціянства беларускія землі з часам апынаюцца ў крузе ўплываў культурна-мастацкіх формаў бізантыйскага цывілізацыйнага сьвету. Для зразуменьня сутнасьці й вагі гэтага факту трэба сабе ўсьведаміць тое, што ў тыя стагодзьдзі бізантыйская культура выразна перавышала тагачасную культуру сярэднявечнай Заходняй Эўропы. Ейныя ўплывы пашыраліся тады ня толькі праз царкву на праваслаўныя народы, але былі вельмі выдатнымі й сярод шмат якіх неправаслаўных міжземнаморскіх народаў Эўропы, асабліва Італіі. Бізантыйскія формы малярства дамінавалі ў Італіі аж да пачатку XIV ст.

Пасьля хросту Беларусі наступнай важнай датаю для далейшага кірунку разьвіцьця культурных працэсаў на беларускіх землях быў **год 1240**. Гэта год ведамага татарскага нахлыну на землі Украіны й Маскоўшчыны. «Кіяўская імпэрыя», заняпаўшая ўжо значна й так, руйнуецца дашчэнту. Нішчыцца й сам Кіяў — важны з культурнага гледзішча перадатачны пункт у дачыненьнях між беларускімі землямі й Бізантыяй.

Паслабленьне безпасярэдніх культурных сувязяў зь Бізантыяй і некаторая ізоляцыя ад яе Беларусі, што наступіла ў выніку татарскіх падбояў на ўсходзе Эўропы й улучэньня вялікіх прастораў у круг татарска-азійскіх уплываў, — становіцца важным гістарычным стымулам для актывізацыі сваёй незалежнай творчай ініцыятывы ў справе далейшага разьвіцьця бізантыйскіх культурных формаў. Паколькі на пачатку хрысьціянства на землях Беларусі творцамі ня раз былі пакліканыя здалёку, з краінаў праваслаўнага паўдня, мастакі, дык у гэтым часе ўжо й незалежна ад Бізантыі разьвіваюць перанятую некалі ад Бізантыі культурна-мастацкую спадчыну. Гэта даводзіць да таго натуральнага зьявішча, што сьведама ці падсьведама свае мастакі на бізантыйскіх формах пакідаюць сваё беларускае таўро, а з часам і зводзяць чужыя бізантыйскія й самабытныя беларускія культурныя элемэнты да аднаго супольнага культурнага назоўніка.

Апрача самастойнасьці ў разьвіцьці культурна-духовай хрысьціянскай бізантыйскай спадчыны татарскі падбой на Украіне меў і яшчэ адно важнае значэньне для лёсу культурна-гістарычных працэсаў тагачаснай Беларусі. Пасьля 1240 году беларускія землі сіламоц зусім новага палітычнага палажэньня ўва Усходняй Эўропе яшчэ мацней кіруюцца да

сваіх натуральных балтыйскіх культурна-гандлёвых шляхоў для пашырэньня сувязяў з паўночнымі краінамі Заходняй Эўропы.

Чарговы цікавы для культурных працэсаў Беларусі **год 1392** хоць і не вызначаецца выдатнай гістарычнай падзеяй, аднак ён важны для культурнай гісторыі Беларусі сваім глыбокім сымбалічным зьместам. Гэта год першага пакліканьня ў Польшчу цэлага шэрагу беларускіх маляроў на размалёву каталіцкіх касьцёлаў Польшчы ды беларускіх музыкаў на каралеўскі двор у Кракаве[7].

Гэта, што беларускіх маляроў запрашалі ў Польшчу для мастацкай творчай працы й пазьней, ледзь ня цэлае стагодзьдзе, сьветчыць пра тое, што заклік 1392 году ня быў толькі прыпадковаю справаю асабістых густаў караля Ягайлы. Гэта была й важная праява прызнаньня польскім грамадзтвам вышэйшасьці тагачаснага беларускага малярства «на грэцкі лад» (graeco more — як кажа Длугош) за тагачаснае малярства заходняэўрапейскае. Польскае тады яшчэ наагул не існавала[8].

Толькі гэтак можна вытлумачыць і зразумець зыркі гістарычна-культурны факт, што беларускае малярства праз колькі пакаленьняў успрыймалася зь вялікім прызнаньнем па ўсёй Польшчы, што беларускім мастаком даручалі размалёву манумэнтальнымі фрэскамі дзесяткі касьцёлаў, што ім была давераная й справа аднаўленьня польскай рэлігійна-нацыянальнай сьвятасьці — славутага абраза Яснагорскай Мадоны ў Чэнстахове. Адтуль паходзяць ейныя ведамыя не заходнія, а «грэцкія» рысы[9].

**Год 1453**, год упадку Канстантынопаля, асноўнага вогнішча бізантыйскай культуры, ня мог ня мець важнага культурнага значэньня й для Беларусі, якая тады ўсё яшчэ была ў крузе пераважаючых цывілізацыйных уплываў Бізантыі ды на свой лад разьвівала перанятыя бізантыйскія культурныя формы. У выніку культурныя сувязі з паўднём амаль зусім спыняюцца. Далейшае разьвіцьцё існуючых у Беларусі бізантыйскіх формаў ідзе ўжо зусім сваім самастойным шляхам. З другога боку факт гэты наканоўвае гістарычную патрэбу далейшага пашырэньня й паглыбленьня культурных сувязяў з Захадам, сувязяў, якія і так ужо былі жывыя ад некалькі апошніх стагодзьдзяў.

Упадак Бізантыі ўзмацніў з часам культурныя ўплывы Захаду на землях Беларусі й другім, пасярэднім шляхом. Уцёкі перад туркамі ды эміграцыя на Захад бізантыйскай інтэлектуальнай верхавіны становіцца адной з важных прычынаў рэнэсансавага культурна-духовага ўздыму на землях паўночнай Італіі. Узьніклы новы культурны рух выліваецца неўзабаве зь вялікаю экспансійнаю сілаю й па-за межы Італіі, ды на пачатку XVI ст. ягоныя хвалі штурмуюць ужо й землі далёкай ад Італіі Беларусі.

Арнольд Тойнбі ў сваёй A Study of History за прыблізную мяжу паміж эўрапейскім сярэднявеччам й новаю культурнаю эпохаю падае **1475 год**. Цікава адмеціць, што гэты год мае сваё апраўданьне на межавы год і ў

гісторыі культурных працэсаў Беларусі. 1475 год — гэта апошні год, у якім польскія летапісцы адзначаюць яшчэ мастацкую дзейнасьць беларускіх маляроў на землях Польшчы[10]. Пасьля гэтага году іх на працу ў Польшчу ўжо больш не запрашаюць. Культурна-гістарычнае значэньне й вымовы гэтага факту насьвятляе й зырка падчырквае яшчэ тое, што ўсяго тры гады пасьля гэтага, у 1478 г., у Кракаве зьяўляецца выдатны нюрнбэрскі скульптар Файт Штос (Віт Ствош па-польску), які сваёй геніяльнай разьбой здабывае назаўсёды густы Кракава ды Польшчы для заходніх мастацкіх формаў.

Дык 1475 год, межавы для Заходняй Эўропы год паміж сярэднявечнаю фэадальна-гатычнаю й новаю — рэнэсансаваю — парою, маем падставу прыняць за межавы год і ў гісторыі беларускай культуры. Год гэты падчырквае ў гісторыі Беларусі мамэнт, калі беларускае (fraeco more) мастацтва перастае ўжо быць прыцягальным навонкі, калі яно мусіць ужо там уступіць перад новымі культурна-мастацкімі формамі Захаду. Яно адступае спачатку на свае беларускія землі, каб неўзабаве й там здаць свае, безканкурэнцыйныя раней, пазыцыі наступаючаму з Захаду рэнэсансу, а пазьней бароку.

Хоць беларускія маляры больш не паяўляюцца для творчай працы на землях Польшчы, то беларускія музыкі-гусьляры застаюцца сталымі пажаданымі госьцьмі польскага каралеўскага двара й надалей. Тлумачыцца гэта тым, што музычнае мастацтва, якое яны рэпрэзэнтавалі, было ў запраўднасьці беларускаю народнаю музычнаю творчасьцю, узьдзеяньне й краса якой былі мастацкімі вартасьцямі, якія ў значна меншай ступені падлягалі гістарычным законам сталай перамены ды чарадаваньня культурных эпохаў ды мастацкіх стыляў.

Хоць з канца XV ст. беларускае малярства й згубіла сваю надзвычайную моц для чужой Польшчы, дык аднак на родных сабе землях Беларусі яно доўга й надалей цешылася яшчэ поўнаю й безканкурэнцыйнаю пашанаю. Вельмі зыркім фактам, які добра перадае нам характар мастацкіх адчуваньняў нашых прашчураў каля паловы XVI ст., ёсьць тэстамэнт з 1539 году віленскага ваяводы й выдатнага канцлера Вялікага Княства Літоўскага Альбрэхта Гаштаўта, які паходзіў з каталіцкага ад колькі пакаленьняў магнацкага роду. У сваім тэстамэнце Гаштаўт пісаў:

«Хачу, каб пахавалі мяне ў катэдры [віленскай — *Р.М.*], у капліцы, якую завуць Гаштаўтавай, каторую нядаўна нанава пасьля пажару адбудаваў. **Над галавою хай павесяць мне абраз Багародзіцы, маляваны грэцкім звычаем, выкладзены дарагімі каменямі й пэрламі...»**[11]

З гэтага бачым, што яшчэ й каля паловы XVI ст. беларускае (fraeco more) малярства адчувалася за больш узвышанае за заходняе й для тагачаснага нават асьвечанага стану Беларусі каталіцкага веравызнаньня.

Захаваныя, на шчасьце, хоць адно часткова, каштоўныя фрэскі беларускіх маляроў XIV—XV стст. у касьцёлах Польшчы перадаюць нам і яшчэ адну нязвычайна цікавую й важную зьяву. З малюнкаў гэтых вы-

разна відаць, што беларускія мастакі сьведама ды сьмела адыходзілі ад перaказанага царкоўнаю традыцыяй бізантыйскага шаблёну. Сьвятыя пад іхным пэндзлем ажываюць зь няземнай аскетычнай застыласьці, набіраюць руху, колеру, жыцьця; на некаторых малюнках выступае й выразнае драматычнае напружаньне, шчырае, безпасярэдняе пачуцьцё.

Гэтая вось важная розьніца — адыход ад старых бізантыйскіх канонаў — і ёсьць галоўнаю асноваю для азначэньня тагачаснага малярства Беларусі як ужо цалком самастойнага **беларускага малярства**, беларускага ня толькі паводле нацыянальнасьці сваіх тварцоў ды краіны ягонага разьвіцьця, але паводле свайго своеасаблівага мастацкага стылю. Гэтым згаданыя фрэскі моцна розьняцца й ад малярства Кіяўскіх, Маскоўскіх ды Наўгародзкіх мастацкіх школаў, якія выказалі менш самастойнасьці ды звычайна сьлепа трымаліся царкоўнай традыцыі ды бізантыйскіх мастацкіх першаўзораў. А затое яны сваім характарам набліжаюцца да твораў італьянцаў пачатку XVI ст. — Джыото з Флёрэнцыі (1267?—1337), Дучыё зь Сены (1255?—1319) ды іхных пасьлядоўнікаў Сімонэ Марціні, Лінно Мэммі й іншых, што зацемілі й падчыркнулі даўно дасьледнікі старабеларускіх фрэскаў у касьцёлах Польшчы.

Джыото, які ўзгадваўся яшчэ ў традыцыях бізантыйскага малярства, першы ў сваёй творчасьці пераасілеў іх ды вывяў мастацтва Італіі з даўгавяковай мастацкай залежнасьці й бізантыйскага палону на свой самастойны шлях. Толькі ад Джыото пачынаецца запраўднае італьянскае й запраўднае заходняэўрапейскае малярства, якое пад канец ужо наступнага стагодзьдзя, у пару італьянскага адраджэньня, дасягае нязвычайных узвышшаў. Дзеля гэтага Джыото й заслужыў у гісторыі мастацтва імя бацькі ня толькі італьянскага, але й усяго навачаснага эўрапейскага мастацтва.

Вось у творах Джыото ды ягоных пасьлядоўнікаў на пачатку XVI ст. наглядаем аналягічны мастацкі працэс да тога, які ў канцы таго ж стагодзьдзя выразна выяўляецца й на паўночным усходзе, у майстроў далёкай ад Італіі Беларусі: сьвятыя, дакрануўшыся да сьвежай, творчай глебы, быццам ажываюць з сваёй закасьцянеласьці, набіраюць больш руху, жыцьця, выразу. Цёмныя, панурыя тоны бізантыйскіх абразоў уступаюць месца сьветлым ды яскравым колерам. На месца няземскай містычнай адарванасьці ад рэальнага жыцьця зьяўляецца ў абразох пачуцьцё, рамантычнае напружаньне.

Гэтая дзіву годная аналёгія кірунку амаль адначасовай эвалюцыі мастацкіх формаў у далёкіх ад сябе Італіі й Беларусі, бязумоўна, ня сьветчыць пра нейкую іх беспасярэднюю ўзаемазалежнасьць. Абодва мастацкія працэсы зарадзіліся цалкам незалежна адзін ад другога, як праява самастойных genuius Іосі дзьвёх далёкіх ад сябе геаграфічных краінаў.

Бязумоўна, што аналёгія далёка ня ёсьць яшчэ тоесамасьць, і, побач падабенства, малярства гэтых двух далёкіх ад сябе й розных культурнагеаграфічных асяродзьдзяў шмат чым і розьніцца. У Джыото новыя ідэі

ў малярстве выражаныя адразу мацней, яскравей. У беларускіх жа маляроў яны выступаюць яшчэ больш у зародку. На моцным заакцэнтаваньні плястычнасьці формаў на Джыотавых фрэсках адчуваецца ўплыў рэалістычнай сярэднявечнай готычнай разьбы, уплыў, якога цяжка й спадзявацца ў тагачасным царкоўным малярстве Беларусі, паколькі традыцыя праваслаў'я недапускала скульптурнае мастацтва ў цэрквы й яно было ў нас у заняпадзе.

У далейшым сваім разьвіцьці лёс аналягічных у Італіі й Беларусі мастацкіх працэсаў быў адменны. У Беларусі ён хоць на пачатку й выліўся за межы сваёй краіны, на захад у Польшчу, на гэтым аднак і запыніўся, няздолеўшы вырасьці ў мастацкі рух шырэйшага культурнага засягу, які ахапіў бы далейшыя краіны й народы, як гэта сталася з часам зь італьянскім мастацтвам. Прычына гэтага, бязумоўна, галоўна ў розным тады геапалітычным палажэньні Італіі й Беларусі.

Італія тады знаходзілася на скрыжаваньні культурна-эканамічных міжземнаморскіх шляхоў і тагачаснай Эўропы, а Беларусь — на далёкіх ейных паўночна-ўсходніх узьмежжах, асмужаная з усходу апанаванымі татарскаю ардою, недаступнымі для эўрапейскіх культурных працэсаў, прасторамі. Наяўны факт удалай спробы й у гэтых геапалітычна-неспрыяльных умовах знайсьці свой самастойны творчы шлях ды вывясьці беларускае мастацтва з-пад уплыву бізантыйскіх дагматычных традыцыяў на новыя самастойныя торныя шляхі, сьветчыць як найлепш і аб геніі старабеларускіх мастакоў, і аб патэнцыяльных духова-творчых магчымасьцях беларускага народу.

Сам факт, што малярства Андрэяў ды Уладыкаў ня было бізантыйскім, а ўжо беларускім, толькі на аснове бізантыйскіх агульных традыцыяў, тлумачыць нам і прычыну гэткага лёгкага ўспрыйманьня яго ў суседняй каталіцкай Польшчы, якой яно было шмат бліжэйшым за строга догматычнае малярства бізантыйскае.

Зьява зьбеларушчаньня ды перамены мастацкіх чужых формаў у малярстве ня ёсьць паадзіночнаю ды прыпадковаю. Аналягічныя перамены бізантыйскіх формаў у працэсе ўрастаньня ў беларускую глебу адбыліся й у галіне царкоўнай архітэктуры. Тут гэтую перамену ды «акліматызацыю» бізантыйскіх узораў будаўніцтва прысьпяшае неабходнасьць шырокага тарнаваньня нехарактэрнага для Бізантыі будаўлянага матар'ялу — дрэва, — аднаго з аснаўных матар'ялаў будаўніцтва лясістай Беларусі. У выніку царкоўная архітэктура вельмі хутка, калі ходзіць аб дзеравяныя цэрквы, хіба ледзь не ад самага пачатку, мусе пераймаць мясцовыя формы й традыцыі дзеравянага будаўніцтва. Вось гэтым шляхом цэрквы меншых селішчаў пераймаюць мясцовыя формы будаўніцтва ды хутка зрастаюцца з сваім навакольлем у гарманічны, адналіты архітэктурны краявід. Гэтая зьява кідаецца кажнаму ў вочы, каму прышлося падарожнічаць па землях Беларусі ды наглядаць праваслаўныя цэрквы малых местаў і мястэчкаў.

Некаторую аналёгію гэтым працэсам у малярстве й архітэктуры можым знайсьці й у галіне пісьменнасьці. Гэтым жа часам у пісьменнасьці Беларусі адбываецца працэс паступовага перарастаньня царкоўнаславяншчыны беларускімі моўнымі элемэнтамі аж да поўнай «беларусызацыі» сьвецкай пісьменнасьці, якая адбываецца ў XIII—XIV стст. Цікава будзе тут адзначыць, што тады ж і падобны працэс адбываўся на захадзе Эўропы. Тамака, пачынаючы ўжо ад Дантэ, Пэтрарка ды Бокачыё ў Італіі, а Чосэр у Англіі, заводзілі ў пісьменнасьць народныя мовы на месца незразумелай для народу мовы лацінскай і клалі гэтым падваліны пад разьвіцьцё заходняэўрапейскіх нацыянальных літаратураў. Дык і ў галіне пісьменнасьці, як і ў галіне малярства, эвалюцыйныя працэсы XIII—XIV стст. дзіўна пераклікаюцца сваёй уражаючай аналёгіяй. А яшчэ больш цікава тое, што паложаная між Захадам і Беларусяй Польшча з сваёй польскай моваю ў пісьменнасьці значна спазьнілася й у прыраўнаньні да Беларусі, і да Захаду. Як ведама, першыя спробы пісаньня папольску належаць толькі да канца XIV ст., а шырэйшае пісьменнае карыстаньне польскай мовы прыходзіць толькі ў XVI ст.

Паява заходняй готыкі на беларускіх землях у XIV—XV стст. ня прыводзіць да паважнейшай перамены ў пануючым усё становішчы бізантыйскіх формаў мастацтва. Толькі ў XVI ст. на беларускіх землях паяўляецца першы паважны канкурэнт бізантыйскім традыцыям — мастацтва рэнэсансу. Пад наступам італьянскага рэнэсансу вытвараныя мастацкія формы на бізантыйскай аснове пачынаюць уступаць заходняэўрапейскім. Асабліва важным, проста вырашальным фактарам для справы зламаньня сілы бізантыйскіх культурных традыцыяў на беларускіх землях быў рэфармацыйны рух паловы XVI ст. Гэта Рэфармацыя адарвала ад праваслаў'я вялізарную бальшыню тагачаснай кіруючай сацыяльна й культурна клясы — баярства. Ды хутка была змушаная сама ўступіць перад ростам сілаў каталіцкай рэакцыі. На працягу ўсяго колькіх дзесяткаў гадоў блізу ўвесь грамадзка-кіруючы пласт народу апынуўся пад поўнымі ўплывамі каталіцкай царквы — галоўнай носьбіцы, пашыральніцы ды ці раз і творцы заходніх культурных формаў.

Для далейшых лёсаў бізантыйскіх культурных элемэнтаў на землях Беларусі важнаю падзеяю была Берасьцейская рэлігійная вунія **1569 году**. Як рэфармацыйны рух падарваў сілы царкоўнабізантыйскіх традыцыяў сярод шляхоцкага стану, гэтак рэлігійная вунія ўлучае ў працэс азаходніваньня ды адыходу ад бізантыйскіх традыцыяў і формаў культурна важны стан сьвятарства ды шырокія масы мяшчанства й сялянства. У выніку рэлігійнай вуніі заходнія формы ўрываюцца ў самую цьвярдыню-захоўніцу бізантыйскіх культурных традыцыяў — праваслаўную царкву. Якога памеру й культурна-палітычнага значэньня быў гэты факт, гаворыць нам тое, што пад канец XVIII ст. па-за рэлігійнай вуніяй заставалася ўсяго толькі каля 20% усяго жыхарства Вялікага Княства Літоўскага (у гэтыя 20% улічаная й каталіцкая Жамойць).

У выніку гэтага ўрослыя папярэднімі стагодзьдзямі ў беларускую глебу бізантыйскія культурныя элемэнты з кажным стагодзьдзем пакрываюцца ўсё новымі напластаваньнямі культуры заходняэўрапейскай. Кольkасна й сваім значэньнем бізантыйскія формы малеюць з кажным стагодзьдзем, хоць зусім зь беларускай зямлі яны ня шчэзьлі ніколі. Выразныя сьляды іх бачныя й па сяньня ці то ў нашай архітэктурнай спадчыне, ці то ў традыцыях царкоўнага малярства, у народнай музыцы, у формах беларускіх імёнаў ці то ў сучасным, моцна азаходненым, кірылічным шрыфце, які зьяўляецца ня чым іншым, як далёкім нашчадкам старой грэцкай абэцэды.

З гэтага кароткага агляду лёсаў бізантыйскіх культурных уплываў на землях Беларусі бачым, што ад мамэнту іхнага зьяўленьня й пашырэньня ў часе хрышчэньня Беларусі ў канцы X ст. яны выразна ў нас панавалі аж да XV ст. Усе гэтыя стагодзьдзі Беларусь бяспрэчна знаходзілася ў цывілізацыйным крузе Бізантыі й менш — захаду Эўропы. Толькі ад XVI ст. бізантыйскія культурныя элемэнты губляюць пераважаючую ролю ў Беларусі на карысьць заходняэўрапейскіх і далей усё заняпадаюць, ніколі больш не вяртаючыся да свайго колішняга становішча.

Заканчываючы гэты агляд, неабходна зьвярнуць увагу на яшчэ адзін важны мамэнт: вонкавыя бізантыйскія формы культуры й мастацтва, перанятыя некалі разам з хрысьціянствам і далей разьвіваныя самастойна стагодзьдзямі на землях Беларусі, не прынясьлі з сабою й не перашчапілі на беларускую глебу зь Бізантыі ейных ведамых духова-псыхічных ды палітычных прыкметаў — дагматызму, нетолерантнасьці, абсалютызму, цэзарапапізму. Яны, як наскрозь чужыя псыхіцы беларускага народу, былі кансэквэнтна адкінуты й ніколі, нават на коратка, у Беларусі ня прывіліся.

### 3. Заходняэўрапейскія цывілізацыйныя ўплывы

Само геаграфічнае палажэньне Беларусі ськіроўвае яе на захад, да Балтыцкага мора, зь якім землі Беларусі злучаюць дзьве водныя гандлёва-камунікацыйныя артэрыі — Дзьвіна й Нёман. Дзеля гэтага й сувязі беларускіх земляў з Захадам існуюць здаўна, яшчэ з дагістарычных часоў.

У гістарычную пару асабліва бойкія гандлёвыя дачыненьні з Захадам навязваюцца каля пачатку XIII ст. празь ведамы нямецкі гандлёвы хаўрус Ганзу. Ужо ў 1201 г. Немцы закладаюць пры ўтоках Дзьвіны й свой сталы гандлёвы пункт — места Рыгу. Неўзабаве культурная сутычнасьць земляў Беларусі з Захадам яшчэ больш узрастае ў выніку зьяўлення на балтыцкім узьбярэжжы нямецкіх рыцарскіх ордэнаў крыжакоў і мечаносаў дый вяковых зацятых зь імі змаганьняў. Ордэн мечаносаў арганізуецца ў 1202 годзе. Крыжакі ў Прусах зьяўляюцца ў 1231 годзе.

Вось гэтымі двума галоўнымі шляхамі — гандлёвым і ваенным — на працягу даўгіх стагодзьдзяў адбываецца жвавы культурны кантакт зем-

ляў Беларусі з сярэднявечнаю Нямеччынай. Гандлёвыя сувязі між землямі Нямеччыны й Беларусі былі тады бойкія й бесьперабойныя, пра што сьветчаць нам шмат якія гандлёвыя ўмовы ў тую пару беларускіх местаў зь нямецкімі купцамі, а між імі й выдатная памятка беларускага права — Смаленская Гандлёвая праўда з 1229 году. Па большых местах Беларусі былі тады й сталыя нямецкія купецкія калёніі з сваймі каталіцкімі касьцёламі, збудаванымі й аздобленымі абразамі й скульптураю ў стылі сярэднявечнага заходу Эўропы — готыкі[12].

Як відаць з умоваў, нямецкія купцы прыязджалі тады ў месты Беларусі, беларускія ж езьдзілі ў Рыгу, на Гоцкі бераг, бывалі й у Нямеччыне. Гандаль Беларусі йшоў тады з гэткімі местамі Нямеччыны: Любэк, Мюнстэр, Сэст, Брэмэн, Дортмунд, Гронінген, Брайншвайг, Касэль дый іншымі.

Збройная экспансія мечаносаў зь Лівоніі часова ахапіла навет і частку Полаччыны. У канцы XIII ст. Немцы занялі Полацк з намерам атаўбавацца там настала дый пачалі разбудоўвацца, ставячы й колькі касьцёлаў. У 1307 г., за вялікага князя Віценя, войска літвы заняло Полацк, Немцаў выразала, а ўсе каталіцкія касьцёлы зруйнавала.

Як сьлед колішняй жвавай гандлёва-эканамічнай лучнасьці Беларусі празь Немцаў з Захадам ад тэй пары ў беларускай мове шмат нямецкай гандлёва-рамесьніцкай тэрміналёгіі. Вынікам жа ваенных дачыненьняў з ваяўнічымі нямецкімі ордэнамі было зьяўленьне ў нас заходняй готыкі ў будаўніцтве. Была гэта галоўна замкавая готыка. І да сяньня ведамыя (хоць пераважна ўжо ў руінах) гэткія гатычныя замкі Беларусі, як Лідзкі, Троцкі, Крэўскі, Медніцкі, Наваградзкі.

Неўзабаве пасьля зьявы Немцаў пры ўтоках Дзьвіны й у Прусах з Азіі прыходзіць татарская навала **1240 году**, якая залівае вялікія прасторы Усходняй Эўропы, ізалюе значна ад іх беларускія, вольныя ад татарскага ярма, землі, ды ў выніку накіроўвае Беларусь да мацнейшай эканамічнай і культурнай сувязі з Захадам. Вялікае значаньне для культурных працэсаў Беларусі зьявы на ўсходзе Эўропы Татараў было ужо адзначана ў папярэднім разьдзеле й тут над ім спыняцца ня будзем.

Чароднаю важнаю падзеяй для справы ўзмацаваньня культурных сувязяў беларускіх земляў з Захадам была Крэўская вунія Вялікага Княства Літоўскага з Польшчаю **ў 1385 годзе**. Гэты гістарычны акт рашчыняе насьцеж шырокую браму для вольных культурных дачыненьняў Беларусі з Захадам і празь землі Польшчы. У выніку Крэўскага акту бізантыйскага тады яшчэ цывілізацыйнага кругу Беларусь дый заходняэўрапейскага цывілізацыйнага кругу Польшча атрымалі гістарычную магчымасьць вольнага абмену сваймі культурнымі багацьцямі. Паколькі бізантыйскія формы культуры былі тады, агульна бяручы, вышэйшыя за заходнія, дык і кірунак культурных уплываў ідзе напачатку галоўна з усходу на захад, зь Беларусі (Вялікага Княства Літоўскага) ў Польшчу.

У Вялікім Княсьцьве Літоўскім, як ведама, у тую пару была ўжо ў шырокім дзяржаўным і грамадзкім ужытку беларуская пісьмовая мова. Польшча ж тады яшчэ мела толькі чужую, незразумелую для шырэйшага кругу людзей, лацінскую мову ў пісьмовым карыстаньні. Не бяз уплыву Беларусі пасьля Крэўскай вуніі й Палякі пачынаюць свае спробы пісаньня ў сваёй польскай мове. Пазьней беларуская мова праз каралеўска-вялікакняжы двор, на якім яна красуецца, ды праз сталую палітычную сутычнасьць нашага баярства з польскаю шляхтаю на соймах, палітычных зьездах, супольных ваенных паходах кладзе свой сьлед і на далейшым разьвіцьці літаратурнай польскай мовы, пакідаючы свае выразныя ўплывы на фанэтыцы, марфалёгіі, слоўніку мовы польскай[13]. На кракаўскім каралеўскім двары зьяўляюцца й беларускія музыкі дый сьпевакі. У шмат якіх касьцёлах Польшчы, улучна з касьцёлам на каралеўскім Вавэлі ў Кракаве, манумэнтальныя фрэскі ў тагачасным беларускім царкоўным стылі размалёўваюць запрошаныя зь Беларусі маляры.

Але хоць асноўная плынь культурных уплываў напачатку йдзе з усходу на захад, то ўсё ж некаторыя цывілізацыйна-грамадзкія формы ўспрыймаюцца ў нас адразу праз Польшчу й з Захаду. Першым чынам, пачынаючы ўжо ад 1387 году, у беларускіх местах пашыраецца нямецкая форма тагачаснага меставога самаўраду, г.зв. майдэборскага права. У тым годзе такія правы атрымвае першае беларускае места — сталічная Вільня. Пазьней, да канца XV ст., майдэборскае права пашыраецца на ўсе іншыя важнейшыя месты Беларусі.

У выніку пераходу на каталіцтва вялікакняжай дынастыі дый некаторых вялікамагнацкіх радоў у Беларусі пасьля Крэўскай вуніі пачынаюць будавацца й першыя касьцёлы ўжо не для замкнутых чужанацыянальных гандлёвых калёніяў, як было раней, але й для мясцовых жыхароў каталіцкага веравызнаньня. Гэтыя новыя касьцёлы ўзбагачаюць ранейшую замкавую готыку Беларусі готыкаю касьцельнаю. Першымі гэткімі касьцёламі гатычнага стылю былі: віленская катэдра (у сваім першым выглядзе), збудаваная ў 1407 г., касьцёлы сьв. Мікалая й Францішканскі ў Вільні (апошні збудаваны ў 1430 г.).

Готыка ў архітэктуры на землях Беларусі буйна разьвіваецца праз усё XV стагодзьдзе й аж да другой паловы XVI, калі ў Вільні паўсталі ведамы Бэрнардынскі касьцёл дый нязвычайна арыгінальны, даведзены да дасканальнасьці й завяршэньня ў мастацкім задуме, у сваім арыгінальным тыпе нідзе больш у Эўропе не сустраканы — касьцёл сьв. Ганны. Трэба падчыркнуць, што беларуская готыка ні ў якім выпадку ня нейкі эпігонны перапевак ранейшых заходнеэўрапейскіх гатычных формаў. Наадварот — гэта наскрозь самастойнае творчае іх прадоўжаньне й дапаўненьне ў часе й прасторы, дзе з усёю сілаю выявілася сваё мясцовае творчае перажываньне. Беларуская готыка другой паловы XVI ст. гэта

найдалей на ўсходзе й найпазьней у часе высунены фарпост гэтага стылю ў Эўропе[14].

Пад уплывам замкавай ды касьцельнай гатычнай архітэктуры перажывае сваю спэцыфічную эвалюцыю й архітэктура Беларусі старой бізантыйскай традыцыі. Творчая ініцыятыва тагачасных дойлідаў-будаўнічых Беларусі намагаецца спалучыць у вадно гэтыя два цалком адменныя стылі, давесьці іх да сваеасаблівай мастацкай сынтэзы, улучыўшы формы мясцовай традыцыйнай архітэктуры. Гэтак паўстае цэлая чарада цэркваў і касьцёлаў у Беларусі ў выглядзе абаронных сьвятыняў, у якіх стапіліся ў вадно гатычныя й бізантыйскія архітэктурныя элемэнты[15]. Усе яны ў сваёй аснове маюць плян бізантыйскай трынававай будоўлі з трыма абсыдамі, накрытай зоркавым або сеткавым скляпеньнем, умацаванай на рагох чатырма круглымі або васьмібочнымі баштамі[16]. З гэткіх гатычна-бізантыйскіх сьвятыняў-замкаў захаваліся дагэтуль і найбольш ведамыя сяньня цэрквы ў Сынкавічах, Скрыбаўцах, Маламажэйкаве, Супрасьлі, Бэрнардынскі касьцёл ды Сьвятатраецкая царква ў Вільні.

Хоць Нямеччына была найбліжэй да Беларусі ад іншых заходняэўрапейскіх краёў, галоўна дзеля блізкога суседства праз прускіх і лівонскіх Немцаў, то ўсё ж ня трэба думаць, што культурныя ўплывы з захаду ў тую пару йшлі толькі зь Нямеччыны. Вялікае Княства Літоўскае ў XIV—XVI стст. было знанаю дзяржаваю ўва ўсёй Эўропе й мела культурныя сувязі й з шмат якімі іншымі краінамі заходу Эўропы. Гісторыкі мастацтва знаходзяць і падчыркваюць існаваньне выразных нідэрляндзка-францускіх элемэнтаў у замкавай архітэктуры беларускага прастору ў XIV—XVI стст., асабліва ў архітэктуры шмат якіх наводных замкаў. Францускі падарожнік Gilbert de Lannoy, які гасьціў у Вітаўта Вялікага ў 1413 годзе ў Троках, у сваіх апісаньнях падарожжа адцеміў, што троцкі замак збудаваны a la maniere de France.

З канца XV ст. на захадзе Эўропы даўгую пару сярэднявечча спыняе нарэшце рэнэсанс. Ад пачатку XVI ст. хвалі італьянскага адраджэньня дабягаюць ужо й да беларускай зямлі. Тыповае для гэтай эпохі раптоўнае й адначаснае зьяўленьне вялікай чарады выдатных тварцоў навукі, культуры й мастацтва знайшло сваю праяву й у нас у васобе дактаранта Падуанскага унівэрсытэту др. Францішка Скарыны з Полацка. Доктар лекарскіх навук і філязофіі, тэалёг і перакладнік бібліі ў беларускую мову, першы друкар Беларусі й усёй Усходняй Эўропы, няўтомны падарожнік па Эўропе, — ён сваймі здольнасьцямі, усебаковымі зацікаўленьнямі, сваёй нясупыннай актыўнасьцяй быў тыповым прадстаўніком эўрапейскага адраджэньня.

Як з паўдня, зь Бізантыі, разам з хрысьціянствам Беларусь атрымала й навуку пісьма, гэтак цяпер разам з адраджэньнем прыходзіць з Захаду, дзякуючы акурат доктару Скарыну, вельмі рана нязвычайна важнае тэхнічнае ўдасканальненьне пісьма — друк, які, зразумела, меў першарад-

нае значаньне для ўздыму асьветы ў Беларусі й пашырэньня новых заходняэўрапейскіх ідэяў.

Другая, побач культурнага рэнэсансу, важная духовая плынь XVI ст.— гэта рэфармацыйны рух, які выйшаў ужо ня зь Італіі, а зь земляў Паўночнай Эўропы. Першая пратэстанцкая школа ў Беларусі паўстане ў 1539 годзе ў Вільні, а неўзабаве пратэстантызм пашыраецца нязвычайна сярод беларускага шляхоцкага стану. Вялікая важнасьць рэфармацыйнай «рэвалюцыі» XVI ст. для культурных працэсаў Беларусі была ў тым, што рэфамарцыя праз адарваньне ад праваслаўнае царквы вядучага тады сацыяльнага пласта, баярства, зламала гэтым сілу праваслаўя ў Беларусі ды царкоўнага бізантыйскага сьветагляду. Здабыты ад праваслаўя баярскі стан па колькіх ужо дзесяцігодзьдзях Рэфармацыя згубіла, аднак, на карысьць наступаючай каталіцкай рэакцыі. Гэткім парадкам Рэфармацыя ў Беларусі адыграла ролю гістарычнага каталізатара, які моцна прысьпешыў працэс азаходненьня беларускага шляхоцкага стану, працерабіўшы дарогу каталіцтву.

Важную ролю пераносьніка заходніх культурных плыняў і ідэяў на землі Беларусі — Адраджэньня й Рэфармацыі — адыграла тагачасная студэнцкая моладзь, якая, асабліва ў XVI ст., масава ехала на вышэйшую навуку на Захад, на унівэрсытэты Нямеччыны, Італіі, Францыі. Гэтым шляхам прыйшло да нас і азнаямленьне з рымскім дый заходняэўрапейскім правам, што не засталося без свайго дабрадзейнага ўплыву на справу ўзорнага скадыфікаваньня старых беларускіх звычаёвых і пісаных правоў у ведамым Літоўскім статуце (1529, 1566, 1588). А што гэты ўплыў існаваў, сьветчыць пра гэта й сам укладальнік трэйцяй рэдакцыі Статуту, Леў Сапега, які ў прадмове да Статуту паклікаецца й на Арыстотэля, і на Цыцэрона, і на рымскае права.

Зразумела, што ідэі рэнэсансу праявіліся ў Беларусі й у мастацтве, асабліва ў архітэктуры. Ведамымі ў гісторыі прыкладамі рэнэсансавых пабудоваў у Беларусі былі віленскі ніжні замак (зьнішчаны пазьней Масквою), фундаваны Лявом Сапегам касьцёл сьв. Міхала ў Вільні, старая віленская ратуша, няіснуючая сяньня рэнэсансавая перабудова віленскай катэдры. Пакінуў свой сьлед рэнэсанс і на беларускім малярсьцьве. Апрача чыста рэнэсансавых твораў, паўсталі тады й вельмі характэрныя ў беларускім малярсьцьве абразы, твораныя ў кірунку спробы сынтэзы традыцыйных бізантыйскіх формаў з новымі заходнімі. Тыповы й агульна ведамы прыклад гэткай бізантыйска-рэнэсансавай сынтэзы ў малярсьцьве — выдатны абраз віленскай Астрабрамскай Мадоны.

**Год 1569** — чародны вельмі важны зваротны пункт для культурных працэсаў Беларусі XVI й наступных стагодзьдзяў. Але сваё важнае значаньне ў гісторыі культурнай эвалюцыі Беларусі гэты год мае дзеля зусім іншай прычыны, чымся ў гісторыі палітычнай Вялікага Княства Літоўскага. Для Вялікага Княства, як дзяржавы, год гэты вызначаецца

першым чынам ведамай Люблінскай вуніяй, якая мацней патужыла дзяржаўныя сувязі між Вялікім Няствам і Польшчаю дый усталявала іх больш як на два стагодзьдзі, аж да канца Рэчы Паспалітае. Для гісторыі ж культурных працэсаў Беларусі гэта год прыезду ў Вялікае Княства, у Вільню, першай групы баёвай авангарды каталіцкай рэакцыі на рэфармацыйны рух — езуітаў. Дзейнасьць езуітаў у сваім канцавым выніку адзначылася для земляў Беларусі кансэквэнцыямі вялікай культурна-гістарычнай вагі. Ужо перад канцом таго ж XVI ст. яна даводзіць да зламаньня сілы рэфармацыйнага руху, яна мацуе й пашырае нязвычайна каталіцтва, яна рыхтуе грунт рэлігійнай вуніі ў Беларусі, што й рэалізуецца ў 1569 годзе, яна даводзіць да борздае палянізацыі ды дэнацыяналізацыі беларускага шляхоцкага стану, якая й прыходзіць масава ўжо ў наступным, XVII стагодзьдзі.

Разам з каталіцкаю рэакцыяй у рэлігійнай галіне, у галіне мастацтва езуіты, як ведама, прыносяць і пашыраюць жыцьцярадасны, бурны, народжаны, як і рэнэсанс, у Італіі барок. З надыходам бароку ў другой палове XVI ст. землі Беларусі перажываюць рэдка дзе ў гісторыі мастацтва Эўропы сустраканую зьяву: у краі, што даўгімі стагодзьдзямі быў у поўнай ды блізу вылучнай уладзе бізантыйскіх формаў архітэктуры, цяпер сустракаюцца ў вадным часе й разам, побач творча спаборнічаюць аж тыя іншыя, ужо заходняэўрапейскія, стылі: готыка, рэнэсанс і барок. І што яшчэ больш уражае: усе яны даюць у тым жа часе творы арыгінальныя, самабытныя, творы высокай мастацкай якасьці[17]. Другая, ня менш важная характэрная асаблівасьць архітэктуры Беларусі гэтай пары — гэта той факт, што ўва ўсіх трох стылях бачым глыбокае ўчуцьцё ў іхную мастацкую існасьць і адменнасьць, а з другога боку — вялікую творчую самастойнасьць у перадаваньні заходніх формаў гэтых стыляў.

У сваіх дачыненьнях да бізантыйскіх формаў архітэктуры Беларусі тры заходнія стылі — готыка, рэнэсанс і барок — выявілі свае характэрныя адменныя асаблівасьці. Готыка, як ведама, ня здолела выцісьнуць бізантыйскія формы з царкоўнага будаўніцтва, але выклікала вельмі цікавую мясцовую эвалюцыю ў кірунку сынтэзы гэтых двох стыляў, пра што гаварылася раней. Ня стаўся паважнаю загрозаю для мясцовых бізантыйскіх архітэктурных традыцыяў і кароткатрывалы й даволі слабы ў Беларусі рэнэсанс. Затое ўрачысты барок закрасаваў на беларускіх землях нязвычайна пышна. Ён заглушыў тут з часам і бізантыйскі, і ўсе іншыя стылі будаўніцтва, выйшаў бясспрэчным пераможцам на цэлыя два стагодзьдзі, аж да пары, калі ў канцы XVIII ст. падмяніў яго нэаклясыцызм.

Хоць барок у Беларусі зьяўляецца ўжо ў вапошняй чвэрці XVI ст., але першы галоўны, узорны для іншых, барокавы архітэктурны твор паўстае толькі на пачатку XVII ст. Гэта віленскі касьцёл сьв. Казімера, закончаны ў **1606 годзе** (пачаты ў 1596), а збудаваны на ўзор касьцёлаў Ił Gesu ў Рыме. Неўзабаве па тым на ўзор касьцёлу сьв. Казімера пачы-

наюць будавацца дзесяткі барокавых касьцёлаў і цэркваў у Вільні, Полацку, Віцебску, Нясьвіжы, Магілёве, Смаленску — па ўсёй Беларусі. З гэтых сьвятыняў віленскі касьцёл Пётры й Паўлы з двума тысячамі скульптураў, збудованы ў 1668—1684 гадох гэтманам Вялікага Княства М.К.Пацам з удзячнасьці за перамогу над Маскоўшчынай, — адно з найбольш выдатных архітэктурных дасягненьняў бароку ня толькі на землях Беларусі, але й усёй Эўропы. Польскія гісторыкі мастацтва шчыра прызнаюць, што ў багацьці нутраной барокавай дэкарацыі на землях Польшчы ня было створана нічога роўнага[18].

Трэба тут ня толькі адцеміць, але й яшчэ раз моцна падчыркнуць факт, што раптоўнае, масавае ўспрыйманьне мастацкіх формаў заходня-эўрапейскага цывілізацыйнага кругу, якое прыходзіць на землях Беларусі ў XVI ст., ніколі ня было пасыўным нявольніцкім перайманьнем ці сьляпым насьледаваньнем гатовых узораў культуры Заходняй Эўропы. Наадварот — становішча нашых прашчураў на працягу й гэтага стагодзьдзя самадзейна-творчае, актыўнае. Ува ўсіх галінах культуры, і асабліва мастацтва, выяўляецца імкненьне ператварыць успрыйманыя новыя ідэі й мастацкія формы на свой лад, датарнаваць іх да свайго культурнага асяродзьдзя, да сваіх культурных традыцыяў, да свайго мастацкага сьветаадчуваньня. У галіне мастацтва гэткая творчая самадзейнасьць захоўваецца ў паўніні й у наступных стагодзьдзях — XVII і XVIII, хоць і настае тады ўжо заняпад нацыянальна-палітычны, а асабліва заняпад беларускага пісьменства й беларускай літаратурнай мовы з прычыны палянізацыі.

Пасьля бесканкурэнцыйнага панаваньня ў XVII ст. барок у Беларусі на пачатку XVIII ст. паволі перараджаецца ў далейшую фазу свайго разьвіцьця — ракако. Першаю пабудоваю гэтага стылю на беларускім прасторы быў касьцёл сьв. Кацярыны ў Вільні, пабудаваны ў **1703 годзе**. Пазьнейшыя шмат якія выдатнейшыя будовы ў гэтым стылі — гэта катэдра ў Менску, вуніяцкая царква ў Полацку, Бэрнардынскі касьцёл і ратуша ў Віцебску, касьцёлы ў Друі, Барунах, Горадне, Будславе, астранамічная абсэрваторыя ў Вільні. Мастакі Беларусі й гэтай пары ацанілі самародныя магчымасьці барока для далейшых варыяцыяў ды бясконцых інтэпрэтацыяў стылю.

Трэба аднак адцеміць, што ў вадваротнасьць бароку ракако ў Беларусі прышчапілася толькі часткава й выявілася яно толькі ў эвалюцыі некаторых дэкарацыйных дэталяў таго ж бароку. Дзеля гэтага некаторыя гісторыкі архітэктуры Беларусі адмаўляюць яму нат права на назоў ракако, а ўважаюць за трапнейшы, больш адпаведны тэрмін для гэтага стылю — позны барок. Але й у слаба выяўленым ракако беларускіх земляў зазначыліся свае адменныя асаблівасьці: у вадваротнасьць італьянскаму, які любіў дамінацыю пазёмных, ракако Беларусі адзначаецца сталаю перавагаю стоцьных лініяў, характэрызуецца замілаваньнем да лёгкіх, выносных формаў, у якіх адклікаецца быццам рэха далёкай папя-

рэдніцы — готыкі. Гэтая «готызацыя» барокавай асновы формаў — цікавая адменнасьць беларускага ракако[19].

Бесьперапынная ад XIV ст. чарада заходняэўрапейскіх стыляў на землях Беларусі — готыкі, рэнэсансу, бароку, ракако — завяршаецца дый абрываецца ў канцы XVIII стагодзьдзя стылем апошнім — нэоклясыцызмам. І гэты стыль творыць у Беларусі, найперш у сталічнай Вільні, выдатныя архітэктурныя памяткі, як новая віленская ратуша (1781—1783), як апошняя манумэнтальная перабудова віленскай катэдры (1777—1801), як кальвінскі збор у Вільні.

Нязвычайнае красаваньне архітэктурнага мастацтва на землях Беларусі ў XVII—XVIII стст., у пару ўжо нат нацыянальна-палітычнага заняпаду, хіба найлепш выяўляе вялікую творчую пругкасьць дый нявычэрпнае багацьце мастацкіх сілаў беларускага народу. Гісторыкі мастацтва падчыркваюць зь вялікім прызнаньнем факт, што хоць архітэктурныя творы на беларускіх землях тае пары грунтуюцца на глыбокім веданьні й мастацкіх традыцыяў і мастацкіх навінак Заходняй Эўропы, дык усё ж у гэтых творах выяўляецца адначасна й поўная індывідуальная самадзейнасьць мастакоў. Беларускія землі выявілі тады магутныя мастацкія творчыя сілы, якія стварылі вялікую архітэктуру, вялікую якасна й колькасна[20]. І — што асабліва важна — як навейшыя досьледы выявілі, архітэктуру гэтую стварылі пераважна свае радзімыя сілы. Мясцовыя мастакі пераважалі запрошаных чужынцаў лікам, а часта ня ўступалі ім і сваймі кваліфікацыямі дый мастацкім дазнаньнем. Сяньня ведамыя ўжо гэткія прозьвішчы мясцовых архітэктараў Вялікага Княства толькі з XVIII ст.: Грынцэвіч, Барткевіч, Тамашэвіч, Даўкшэвіч, Праховіч, Асікевіч, Жэлевіч, Гуцэвіч, Шчыт, Клімовіч, Лукяновіч, Гарашэвіч, Сялява, Валовіч, Катовіч і дзесяткі іншых. Не адзін зь іх быў майстрам высокага таленту й вялікага дазнаньня, здольнасьці якога ўсхвалялі й тагачасьнікі, адцемлюючы, што свае «абрысы» (праекты) рабіў ён ex mente sua (з галавы).

Ня дзіва, што гэткая пышная мастацкая спадчына, якая паўстала на землях Беларусі ў XIV—XVIII стст. пад культурнымі ўплывамі захаду Эўропы, знайшла й прэтэндэнтаў на яе сярод суседніх Беларусі народаў. Польскія гісторыкі мастацтва першым чынам намагаюцца прадставіць гэтае мастацтва як польскае й у сэнсе ягонага аўтарства, і ў сэнсе ягонай сяньняшняй спадчыннай прыналежнасьці. Таму трэба спыніцца над гэтым пытаньнем і дакладней яго разгледзець.

Ведамая рэч, што тэрытарыяльныя адменнасьці паасобных стыляў у гісторыі мастацтва звычайна прынята азначаць назовамі краінаў іх паўстаньня й пашырэньня. Гаворым, прыкладам, пра нямецкі, францускі ці гішпанскі готык, каб гэтак азначыць тэрытарыяльна-нацыянальныя адменнасьці й своеасаблівасьці гэтага стылю. І гэта зусім апраўдана, паколькі кажны народ узбагаціў яго асаблівасьцямі, выплываючымі з свае нацы-

янальнай псыхікі, зь мясцовай традыцыі, з эканамічна-сацыяльных дачыненьняў дадзенага краю.

Вось у гэтым разуменьні мы маем поўную аснову гаварыць і пра мастацкія памяткі гэтых стыляў на прасторы Беларусі як пра беларускую готыку, беларускі рэнэсанс, беларускі барок і г.д. Маем поўную аснову гаварыць гэтак таму, што на беларускім нацыянальным прасторы стагодзьдзямі была створаная вялікая колькасьць выдатных твораў у гэтых стылях, твораў, якія адзначаюцца характэрнымі мясцовымі мастацкімі адменнасьцямі. Маем права гаварыць гэтак і таму, што нат і тварцы гэтага мастацтва часта былі ўраджэнцамі беларускай зямлі. Таму таксама, што на ім паклалі свой адбітак і навакольная культурная традыцыя, і таксама мэцэнаты-фундатары, якія давалі свае замаўленьні мастаком, ставілі ім пры гэтым свае пажаданьні, выражалі свае густы і праз гэта ўплывалі на канцавы характар і выгляд архітэктурнага ці іншага мастацкага твору, творанага й мастаком-чужынцам. Трэба не забывацца таксама, што архітэктурныя творы былі ў нас «творы калектыўнай шырэйшай усебаковай культурнай працы й творчага духу... вялікай колькасьці людзей... усялякіх станаў і ўсялякіх прафэсіяў...»[21]. Дзеля гэтага ёсьць і поўная аснова для цьверджаньня, што мастацтва гэтае вырасла «з найглыбейшых патрэбаў і настрояў мясцовага элемэнту...»[22], хоць сам стыль, у якім яно было творанае, і быў далёкага, заходнеяэўрапейскага паходжаньня, хоць і галоўныя дойліды-архітэкты нат часта былі чужынцамі з далёкай Італіі ці іншай краіны Заходняе Эўропы.

Нат і польскія аўтары, якія звычайна намагаюцца залічыць мастацтва Беларусі заходнеяэўрапейскіх формаў да свайго, заўсёды змушаныя падчыркнуць ягоную вялікую адменнасьць ад польскіх формаў тых жа самых стыляў, якія тады ж разьвіваліся на прасторы Польшчы. Праз гэта самае яны фактычна ўжо прызнаюць фармальную незалежнасьць і асобнасьць мастацтва Беларусі ад мастацтва Польшчы гэтых жа заходнеяэўрапейскіх формаў.

Як ужо гаварылася вышэй, тварцамі архітэктуры Беларусі XIV—XVIII стст. былі ў вялікай меры мастакі мясцовага паходжаньня. З чужынцаў асабліва шмат працавала Італьянцаў, менш Немцаў, колькі Французаў, Бэльгаў, Нідэрляндзцаў. Куды радзей, выпадкова, былі гэта Палякі. Мастакі-чужынцы запрашаліся зь Італіі ці іншай краіны звычайна беспасярэдня, й з Польшчаю яны найчасьцей мелі гэтулькі супольнага, што мусілі праз польскія землі ехаць. Мастакоў з самой Польшчы на працу ў Вялікае Княства запрашалі рэдка ня толькі таму, што нейкіх выдатнейшых майстроў Польшча тады ня мела, але й дзеля сьведамай неахвоты да Польшчы й Палякаў. Польскі гісторык Белінскі піша, што ў XVI—XVII стст. багацейшая моладзь зь Вялікага Княства масава ехала на навуку ня ў Польшчу, а на унівэрсытэты Нямеччыны, Італіі, Францыі, і жаліцца на тое, што яны знарок абміналі польскі кракаўскі унівэрсытэт: «Да Кракаўскай Акадэміі менш кіраваліся. Галоўную

ролю граў у гэтым палітычны партыкулярызм, бо ж з навуковага гледзішча Кракаўская Акадэмія тады ня суступала замежным»[23]. Дык як бачым з усяго паводля паходжаньня мастакоў, тварцоў заходніх формаў архітэктуры, разьбы, малярства Беларусі XIV—XVIII стст. няма ніякіх абсалютна падставаў залічаць гэтае мастацтва да мастацтва польскага.

Калі ходзіць аб фундатараў-мэцэнатаў, дык гэта былі пераважна мясцовыя магнаты, якія ў XIV—XVI стст., зь невялікімі хіба толькі выняткамі, былі ў сваёй масе Беларусамі з нацыянальнасьці, культурнай традыцыі й мовы. Калі польскі гісторык мастацтва Марыян Марэлёўскі, разглядаючы замкавае будаўніцтва беларускага прастору XIV—XVI стагодзьдзяў, кажа, што «надводнасьць і надазёрнасьць тутэйшых замкаў — праява культуры й мудрасьці... галоўна польска-беларускіх паноў гэтай зямлі»[24], дык у гэтым сьцьверджаньні слова «польска-» дачэпленае аўтарам без аніякіх гістарычных асноваў. Мы ж ведаем добра, што ў межах Вялікага Княства Літоўскага ў XIV—XVI стст. ня было даслоўна ніводнага аселага «польскага пана», бо да 1569 году й законамі Вялікага Княства было забаронена польскім паном асяляцца настала ў межах Княства, мець маёмасьць або займаць нейкія дзяржаўныя становішчы.

У XVII—XVIII стст. справа зьмянілася ўсяго нагэтульki, што бальшыня нашчадкаў гэтых жа беларускіх магнатаў палянізавалася моўна, ахоўваючы аднака ж надалей свае культурныя дый палітычныя «літоўскія» традыцыі, з сталым адчуваньнем і нат падчыркваньнем ды культываваньнем сваіх псыхічных, моўных ды культурных адменнасьцяў ад запраўдных Палякоў з «Кароны». Сама моўная палянізацыя магнацкіх радоў Беларусі XVII—XVIII стст. дае ня большую аснову на далучаньне дзеля гэтага фундаваных імі архітэктурных памятак да мастацтва польскага, як каб нехта далучаў мастацтва Польшчы XVIII ст. да францускага на тэй аснове, што тагачасная польская арыстакратыя гаварыла пафранцуску.

Некаторыя польскія аўтары, відаць, улучаюць мастацтва Беларусі да гісторыі мастацтва Польшчы на тэй чыста фармальнай аснове, што Вялікае Княства ад 1385 году было спачатна ў слабой, а пасьля ад 1569 г. ў цясьнейшай палітычнай вуніі з Польшчаю. І польскія бесстаронныя гісторыкі сяньня прызнаюць, што аж да канца XVIII ст., дакладней да 22 кастрычніка 1791 г., калі пастановаю Чатыралетняга Сойму была праведзеная уніфікацыя дзьвёх дзяржаваў, праз усе стагодзьдзі вуніі Вялікае Княства й Польшча былі з праўнага гледзішча самастойнымі дзяржаўнымі арганізмамі, зьвязанымі на роўных правох і даволі слабка ў супольную «Рэч Паспалітую».

З гэтага кароткага разгляду пытаньня бачым, што ўлучаньне мастацтва беларускага нацыянальнага прастору заходняэўрапейскіх формаў у межы гісторыі польскага мастацтва ня мае ніякіх ані фактычных, ані лягічных падставаў. Адзіна правільнае сучаснае нацыянальнае азначэньне яго можа быць толькі імём таго народу, які быў і нацыянальнаю, і куль-

турнаю асноваю Вялікага Княства праз усе гэтыя вякі — народу беларускага.

Кароткі агляд важнейшых фазаў прасяканьня на землі Беларусі заходняэўрапейскіх культурных плыняў у XIV—XVIII стст. прадстаўлены тут галоўна на прыкладах зь гісторыі архітэктуры Беларусі, тае галіны мастацтва, што, як ведама, найбольш чула адлюстроўвае эканамічна-палітычную эвалюцыю грамадзтва. З другога боку, у разгляданых стагодзьдзях архітэктура была галіной мастацтва, якая найбольш пышна красавала на землях Беларусі. Трэба, аднак, помніць, што аналягічныя зусім працэсы можам адмеціць і ў разьвіцьці разьбы, малярства дый іншых галінаў мастацтва, як і культуры наагул.

Духовая самастойнасьць ды нязвычайная творчая пругкасьць у галіне мастацтва, на жаль, куды менш праявілася ў галіне пісьменства. Новыя ідэі ў пісьменсьцьве, якія йшлі з Заходу ў Беларусь, ішлі праз Польшчу й прыходзілі да нас часта пры пасярэдніцтве ўжо польскай мовы. Гэта было аднэю з прычынаў палянізацыі. Вось чаму працэс культурна-цывілізацыйнага азаходненьня ад нейкага канца XVI ст. у галінах, зьвязаных з моваю, нёс із сабою разам і палянізацыю. Гэтая моўная палянізацыя шляхоцкага стану Беларусі знайшла й сваю праяву ў ведамай пастанове 1697 году аб тым, што «пісар земскі» мае пісаць ужо ня «рускімі» (беларускімі) «літарамі й словы», але польскімі.

Аднак і ў галіне культурна-пісьменьніцкай дый рэлігійнай паасобныя культурныя эпохі выявілі й зь беларускага народу сваіх выдатных прадстаўнікоў. Пра доктара Скарыну як пра тыповага прадстаўніка раньняга рэнэсансу ўжо гаварылася раней. Тыповай індывідуальнасьцяй тэй жа рэнэсансавай пары з шырокаю аьсветаю, зь ведаю рымскага права й антычнай культурнай спадчыны, з шырокай рэлігійнай дый сьветагляднай талеранцыяй быў канцлер Леў Сапега, укладальнік і выдавец трэйцяга Статуту з 1588 г. Тыповым дзеячом Рэфармацыі быў у нас Васіль Цяпінскі. Барокавага стылю й мэнтальнасьці дзеячамі былі пісьменьнікі, красамоўцы, рэлігійныя дзеячы Мялет Сматрыцкі з пачатку XVII ст. й Сымон Полацкі з другой паловы гэтага ж стагодзьдзя. Творы абодвух гэтых пісьменьнікаў-красамоўцаў перасыпаныя тыповаю для бароку буйною мэтафарычнасьцяй.

Адбіліся ў гісторыі беларускае літаратуры й блізу ўсе пазьнейшыя заходняэўрапейскія плыні. Інтэрмэдыі XVII—XVIII стст. бязумоўна паўсталі пад уплывам падобных твораў Заходу. Рэакцыяй на псэўдаклясычныя формы літаратуры былі нашыя «Энэіда навыварат» дый «Тарас на Парнасе». Заходняэўрапейскі рамантызм узбудзіў пачаткі новай беларускай літаратуры XIX ст. і быў не апошняю прычынаю-штурхачом беларускага нацыянальнага адраджэньня. Выціснулі сваё таўро на беларускай літаратуры й пазьнейшыя заходняэўрапейскія літаратурныя плыні як натуралізм, нэарамантызм, сымбалізм.

Канчаючы гэты агляд заходняэўрапейскіх цывілізацыйна-культурных элемэнтаў на землях Беларусі, мусім сьцьвердзіць бясспрэчны гістарычны факт, што стала нарастаючыя ад XIII стагодзьдзя заходняэўрапейскія ўплывы ад XVI ст. пачынаюць на землях Беларусі ўжо дамінаваць поўнасьцяй над пераважаючымі раней формамі бізантыйскімі. Ад XVI ст. аж да XX ст. беларускія землі знаходзяцца ўжо ў бясспрэчным заходняэўрапейскім культурным крузе, і заходняэўрапейскія формы мастацтва й культуры праз гэтыя стагодзьдзі ўсё глыбей урастаюць у беларускую радзімую культурную глебу.

У гэтай культурнай эвалюцыі ніякой істотнай зьмены ня прыносіць і XIX ст., калі Беларусь апынулася пад расейскім панаваньнем. Палітычная зьмена зусім ня прынесла з сабою зьмены культурнай арыентацыі Беларусі. І далей у Беларусі пануюць заходняэўрапейскія формы культуры, тым больш што й сама Расея ў XIX ст. падпадае пад працэс моцнай эўрапеізацыі, запыненай толькі бальшавіцкаю рэвалюцыяй 1917 году, якая хоць з часам і прынесла гвалтоўнае перайманьне эўрапейскай тэхнікі й мэханізацыі, але ў галіне духовай была station... 

Найбольш трывалкія і па сяньня відавочныя культурна-мастацкія памяткі-сьветкі заходняга цывілізацыйнага шляху Беларусі праз апошняе паўтысячагодзьдзе — гэта архітэктура. Хоць бясконцыя войны й панішчылі безьліч выдатных архітэктурных памятак, аднак і да сяньняшняга дня на ўсім прасторы Беларусі густа рассыпаныя тысячы будоўляў заходняэўрапейскіх формаў і стыляў. Насычанасьць імі краявіду рэдка абрываецца, бадай бязь пераходных формаў толькі на ўсходнім узьмежжы з расейскімі прасторамі. Гэта наяўны, бясспрэчны довад таго, што тамака гэта праходзіць, ад стагодзьдзяў трывае усходняя мяжа заходнеэўрапейскай цывілізацыі.

### 4. Эўразійска-расейскія ўплывы

Заходняя Эўропа дый Бізантыя — два галоўныя цывілізацыйныя сьветы, узьдзеяньні якіх фармавалі з вонкавага боку культурную існасьць Беларусі на працягу апошняга тысячагодзьдзя. Прасяканьні іншых цывілізацыйных элемэнтаў былі куды меншага значаньня.

Да прыняцьця хрысьціянства ў канцы X ст. паважныя культурна-цывілізацыйныя ўплывы йшлі з паўночнай краіны Вялікага воднага шляху — Скандынавіі. Дый пышная скандынаўская цывілізацыя каля 1000-нага году хрысьціянізавалася, заняпала й улілася ў заходняэўрапейскую. Тойнбі залічае яе да цывілізацыяў, што хоць пышна зараджаюцца, але пазьней вянуць, не разьвіваюцца, — да «абартыўных цывілізацыяў». Скандынаўскія ўплывы пазьней шчэзьлі зь беларускага прастору, пакінуўшы толькі невялікія сьляды ў архітэктуры, у мове. Скандынаўскія элемэнты гісторыкі мастацтва адзначылі ў старой архітэктуры Полацку, Пскову дый некаторых іншых местаў Беларусі. У старабеларускай мове

быў таксама значны лік словаў скандынаўскага паходжаньня, зь якіх сяньня засталося ўсяго колькі, як крук, пуд, селядзец, сьцяг, цівун[25].

Што да іншых вонкавых культурных узьдзеяньняў на культурныя працэсы Беларусі, паважней можна ставіць пытаньне пра ўплывы расейска-эўразійскія, хоць яны яшчэ й вельмі кароткатрывалыя. Сучасныя гісторыкі культуры адцемлююць, што Расея сваёю, кардынальна рознаю ад эўрапейскай, эвалюцыяй грамадзка-палітычнага ладу, сваёю своеасаблівою псыхікаю й культурнаю тэндэнцыяю вылучыцца ў зусім адменны, асобны цывілізацыйны сьвет. Арнольд Тойнбі ў сваім пераліку існуючых цывілізацыяў у A study of History выдзяляе расейскую асобна як новы атожылак хрысьціянска-бізантыйскай, дый называе яе «праваслаўна-хрысьціянска-расейскаю».

Азначаць, як гэта робіць Тойнбі, сучасную расейскую культуру назовам «хрысьціянска-праваслаўнай» сяньня, калі ў Расеі ўжо другое чвэрцьвечча сыстэматычна дый безаглядна выкарчоўваюцца ўсякія хрысьціянска-рэлігійныя элемэнты, няма хіба ніякіх аб'ектыўных падставаў. Калі характар расейскага палітычна-культурнага працэсу з сваім дэспатызмам, дагматызмам дый нэгацыяй правоў адзінкі не зьмяніўся ў сваёй аснове й пасьля адкіненьня праваслаўя й хрысьціянства наагул, дык гэта найлепшы довад таго, што не хрысьціянства ягоная карэнная існасьць.

Хоць Бізантыя некалі й мела ці малы культурны ўплыў на Маскоўшчыну ды паклала на яе сваё нясьцертнае таўро, дык ці не яшчэ мацнейшы быў уплыў даўгога татарскага ярма (240 гадоў) дый факт увабраньня на працягу тысячагодзьдзя вялікай масы азійскага біялягічнага элемэнту зь ягонай спэцыфічнай псыхікай. Вось чаму назоў Тойнбі «хрысьціянска-праваслаўнай» для культуры сучаснай Расеі трэба ўважаць за неадпаведны. Куды дакладней і трапней азначае існасьць расейскай культуры ўведзены некаторымі расейскімі аўтарамі назоў «эўразійскія» (Трубецкі дый іншыя), што значыць, культура, якая паўстала із скрыжаваньня й зьліцьця цывілізацыйных элемэнтаў як Эўропы, так і сумежных прастораў Азіі. Гэты назоў куды дакладней перадае геаграфічную, нацыянальную, расавую дый культурна-гістарычную існасьць сучаснай Расеі.

Цэзарапапізм і дэспотыя, нэгацыя волі й правоў адзінкі, дагматызм пры адначасным няіснаваньні сталых праўных нормаў — гэта асноўныя рысы, якія на працягу стагодзьдзяў татарскага ярма ды сутыку й біялягічнага зьліцьця з народамі Азіі разьвіліся дый замацоўваліся ў расейскім народзе. З папярэдняга агляду асноўных свомасьцяў псыхікі беларускага народу можам бачыць, што гэтыя рысы расейскай псыхікі кардынальна супрацьлежныя да спрадвечнай цягі беларускага народу да лібэралізму, да дэмакратычнай талерантнасьці, да глыбокага нутранога праўнага пачуцьця. Прыяцель Расеі й Расейцаў Вальтэр Шубарт кажа, што Расейцам не стае праўнага пачуцьця таму, што «ўсе народы, якія

былі доўга ў нявольніцтве, выяўляюць як сталую свомасьць занік права-вога пачуцьця»[26].

Пра нейкія расейскія культурныя ўплывы ў Беларусі аж да XIX ст. паважна гаварыць цяжка. Рэкі Беларусі цякуць на паўночны захад, да Балтыцкага мора, і на паўдня, да Чорнага, але не на ўсход, у Маскоўшчыну. І таму эканамічна-культурныя сувязі беларускіх земляў з Маскоўшчынай на пачатку гісторыі былі другараднага значаньня. Хоць у пару існаваньня беларускіх незалежных княстваў (X—XIV стст.) жыцьцё прашчураў сучаснага расейскага народу й праходзіла ў падобных у некаторай меры да тагачаснага палітычна-эканамічнага жыцьця беларускага народу гістарычных абставінах, дык з пачаткам татарскага ярма гісторыя Маскоўшчыны й расейскага народу пайшла ўжо зусім адменным шляхам.

Татарская навала 1240 году сіламоц новага палітычнага палажэньня стварыла на абшары Усходняй Эўропы гістарычную канечнасьць для земляў Беларусі іх арыентацыі на захад, на заходнія эканамічныя й культурныя сувязі. Тая ж самая прычына на Маскоўшчыну дзеіла ў сусім адваротным кірунку. Маскоўшчыну татарскае ярмо ізалявала ад Захаду, улучыла на доўгія стагодзьдзі ў жыцьцё й справы вялікай татарскай імпэрыі, паддала беспасярэднім азійска-татарскім культурным, палітычным і біялягічным узьдзеяньням на працягу цэлых 240 гадоў.

У выніку гэтага ад XIII ст. значна нарастаюць культурна-палітычныя розьніцы між Беларусяй і Маскоўшчынай. У выніку іх між гэтымі двума народамі й краямі існуюць ужо ня толькі нацыянальныя й палітычна-дзяржаўныя межы, але, што гістарычна было асабліва важна, паўстае яшчэ новая мяжа — мяжа двох зусім розных цывілізацыйных сьветаў. Гэты вось факт і тлумачыць нам у вялікай меры шматвяковае зацятае змаганьне на гэтай цывілізацыйна-культурнай мяжы паміж Беларусяй (Вялікім Княствам Літоўскім) і Маскоўшчынай, наўсуперак, здавалася б, значнай моўнай дый рэлігійнай блізіні гэтых двух суседніх народаў. Гэтая цывілізацыйная розьніца ў стагодзьдзяў XVI—XVII усё нарастае з далейшым культурным працэсам шпаркага азаходненьня Беларусі, пры адначаснай далейшай, дабрахвотнай ужо, ізаляцыі Маскоўшчыны ад жвавейшых культурных сувязяў з Захадам.

Калі землі Беларусі мелі жвавы бесьперабойны культурна-эканамічны кантакт з Захадам ад пачатку ўжо XIII ст., дык у Маскоўшчыну паважнейшыя заходнія культурныя ўплывы пачалі прасочвацца куды пазьней, і былі яны найчасьцей вынікам дзейнасьці тамака беларускіх эмігрантаў.

Асабліва ўзмацніліся беларускія культурныя ўплывы на Расею ад паловы XVII ст., калі паўстае бесьперапынная эміграцыйная плынь беларускай праваслаўнай інтэлігенцыі зь Беларусі ў Маскоўшчыну. Гэта была нязьлічоная чарада ведамых беларускіх «асьветнікаў» Маскоўшчыны, найвыдатнейшым зь якіх быў Сымон Полацкі. Гэтыя беларускія асьвет-

нікі нарыхтавалі глебу для ведамых пазьнейшых рэформаў і эўрапеізацыі Расеі цара Пётры I ў XVIII стагодзьдзі[27].

Ніякіх расейскіх уплываў не даецца зацеміць і ў XVIII ст., хоць палітычныя ўплывы Маскоўшчыны ў Беларусі з прычыны анархіі й палітычнага ўпадку Польска-Літоўскае Рэчы Паспалітае былі ўжо вялікія, і яны ў канцы стагодзьдзя давялі да распадзелу гэтае Рэчы Паспалітае між суседзямі дый да далучэньня беларускіх земляў да Расейскае імпэрыі. З культурнага гледзішча не мяняецца аднак шмат палажэньне нат і пасьля ўпадку Вялікага Княства. Аж да 1831 г. і пад расейскім панаваньнем праходзіць далей ня гэтулькі русыфікацыя, колькі далейшая палянізацыя сацыяльных верхавінаў, палянізацыя больш фарсоўная, як у ўсе папярэднія вякі, дзеля вельмі актыўнай асьветна-школьнай палітыкі на землях Беларусі царскага міністра асьветы Паляка князя Адама Чартарыйскага.

Вогнішчамі палянізацыі Беларусі на пачатку XIX ст. былі польскія школы, Віленскі польскі унівэрсытэт, польскі друк. Польскія аўтары адзначаюць, што дзякуючы дзейнасьці Адама Чартарыйскага ў паасобных гадох пачатку XIX ст. у беларускай Вільні друкуецца больш польскіх кніжак, як ува ўсіх местах Польшчы, разам узятых. У выніку дзейнасьці Чартарыйскага пад расейскім панаваньнем Вільня сталася культурна-палітычным цэнтрам польскага нацыянальнага руху й для этнаграфічнай Польшчы[28].

Хоць пасьля польскага паўстаньня 1831 г. расейская ўлада часткова й затармазіла палянізацыю Беларусі дый узмагла русыфікацыю, аднак паважнейшых, глыбейшых вынікаў у гэтым яна ўсё ж дасягнуць ня здолела.

Толькі ў запыненым знарок Масквою культурным разьвіцьці Беларусі спынілася блізу зусім і ранейшае пышнае архітэктурнае будаўніцтва. Расейская ўлада намагалася сьціраць як мага заходнія культурныя формы Беларусі, адмыслова на гэта перабудоўвала праваслаўныя й уніяцкія цэрквы, будавала й новыя, ужо ў тыповым расейскім стылі. Аднак нейкай грунтоўнай зьмены культурнага твару Беларусі зрабіць за адно стагодзьдзе не пасьпела. Тое ж, што было збудаванае, адчувалася як чужое, нязрослае з традыцыйным архітэктурным краявідам.

Калі, прыкладам, старая архітэктура Вільні стварыла арыгінальную гарманійную сынтэзу элемэнтаў, радзімых Заходу й Бізантыі, дык накінутыя новыя, зусім чужыя месцу й асяродзьдзю, расейскія архітэктурныя формы тырчэлі чужым гардлівым госьцем. Адцеміў гэта добра гісторык мастацтва Паўль Вэбэр, які ў 1916 годзе наведаў Вільню й у сваёй кніжцы аб мастацкіх багацьцях места пісаў пра збудаваную ў 1909 г. расейскім урадам Раманаўскую царкву на Закрэце, што ў вагульным відзе места яна вычуваецца як нешта брутальнае, гвалтоўнае, чужое[29].

Дык, не зважаючы на расейскія намаганьні, аж да пачатку XX ст. на землях Беларусі дамінавалі заходнія культурныя формы[30]. Беларусь да

лей і бясспрэчна з культурнага гледзішча была ў крузе цывілізацыі заходняэўрапейскай. Ці ўрастуць у беларускую культурную глебу й наколькі найнавейшыя расейска-эўразійскія ўплывы савецкай ужо пары — гаварыць пра гэта сяньня яшчэ зарана.

## 5. Высновы

На падставе гэтага кароткага агляду культурна-гістарычных працэсаў Беларусі можам зрабіць гэткія агульныя высновы.

1. Беларускія народныя радзімыя духова-культурныя асновы на працягу ўсіх пораў гістарычнага жыцьця беларускага народу вызначаюцца элемэнтамі прававога ладу, дэмакратыі, нацыянальнай, рэлігійнай дый палітычнай талеранцыі. Гэта дае поўную падставу паводля псыхікі дый нацыянальна-культурнага тыпу беларускі народ залічыць да народаў заходняэўрапейскіх.

2. З вонкавых культурна-цывілізацыйных узьдзеяньняў у гісторыі беларускага народу найбольшае значаньне мелі ўплывы бізантыйскія й заходняэўрапейскія. Бізантыйскія цывілізацыйныя формы пераважаюць на землях Беларусі ад пачатку хрысьціянства аж да XV стагодзьдзя — у гэтым часе Беларусь была ў межах бізантыйскага цывілізацыйнага кругу.

3. Заходняэўрапейскія ўплывы на землях Беларусі нарастаюць ад XIII ст. й дасягаюць перавагу над бізантыйскімі ў XVI стагодзьдзі, ад пары Рэфармацыі ў Беларусі. Дамінацыя заходняэўрапейскіх цывілізацыйных элемэнтаў трывае ад таго часу аж да XX стагодзьдзя.

4. Уплывы расейска-эўразійскія вельмі кароткатрывалыя, не ранейшыя за XIX стагодзьдзе, і ня мелі дагэтуль паважнейшага значаньня для культурна-цывілізацыйнага твару Беларусі.

У выніку прыходзім да канцовага высноваў, што беларускі народ у сваіх духова-псыхічных асновах — народ заходняэўрапейскага цывілізацыйнага тыпу, і знаходзіўся ён у межах цывілізацыйнага заходняэўрапейскага кругу на працягу ўсяго апошняга паўтысячагодзьдзя свае гісторыі. У сваю культуру ўвабраў ён аднак жа й некаторую долю вонкавых бізантыйскіх культурных элемэнтаў у выніку свае прыналежнасьці да бізантыйскага цывілізацыйнага кругу празь першае паўтысячагодзьдзе свайго гістарычнага існаваньня. Зьмена цывілізацыйнай арыентацыі Беларусі зь бізантыйскай на заходняэўрапейскую завяршылася ў XVI стагодзьдзі.

*1954*

---

[1] Глядзі Л.Акіншэвіч: Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу. ЗАПІСЫ Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва. Кніжка 2(4). Ню Ёрк, 1953 г.

[2] И.Д.Беляев. Рассказы из Русской истории. Москва, 1872, кн. IV. История Полотска, бач. 315—316.

[2a] Прафэсар В.Вяльгорскі вось што піша пра Літоўскі статут: «Вялікае Княства Літоўскае атрымала ў XVI стагодзьдзі... кнігу правоў, што адказвала роўні заканадаўства тагачаснай Эўропы, а на якую ў гэтым часе ані Польскае Каралеўства на захадзе, ані Маскоўскае Царства на ўсходзе не патрапілі здабыцца».

Władysław Wielhorski: Statut Litewski. Zarys historyczny jego powstania i rozwoju. 1529—1566—1588. Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Alma Mater Vilnensis. Лёндан, 1953 г.

[3] Л.Акіншэвіч — Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага гістарычнага працэсу. ЗАПІСЫ, N 2(4), бач. 77—78.

[4] Walter Schubart — Europa und die Seele des Ostens. Luzern, 1938. Бач. 99.

[5] F.S.C. Northrop — The Taming of the Nations. New York, 1952. Бач. 186—213.

[6] Петр Безсонов — Белорусские песни. Москва, 1871 г. Бач. LXII.

[7] Дату гэтую падае польскі храністы Ян Длугош. Ён падчыркнуў і факт, што Ягайле больш падабалася мастацтва «грэцкае» (беларускае на бізантыйскай аснове) за «лацінскае» (заходняе). Ягайла «Gnesnensem, Sandomiriensem et Visliciensem Ecclesias, sculptura Graeca (illam onim magis quam Latinam probabat) adornauit». Joanis Dlugossi, Historia Polonica, Lipsiae, 1711, II, 659.

[8] Ведамы гісторык польскага мастацтва Т.Вайцяхоўскі сьцьвярджае: «...кракаўскія маляры таго часу ўмелі толькі хварбаваць сьцены ды пазалачваць на іх зоркі, абразоў жа не малявалі». T. Wojciechowski: Kościół katedralny w Krakowie. Выданьне Кракаўскай Акадэміі Навук. Кракаў, 1900 г. Другі выдатны польскі вучоны, ведамы гісторык польскай культуры, Аляксандра Брукнэр, гэтак піша пра польскае малярства: «**Польскае** малярства, ці толькі малярства **ў Польшчы** — прыходзіцца пытацца праз усю нашую гісторыю аж да XIX стагодзьдзя. Мы ня мелі для гэтай галіны мастацтва ані патрэбнай здольнасьці, ані таксама зацікаўленьня. У Польшчы заўсёды працавалі чужыя маляры, якія сваіх на другое месца сьпіхалі»... Aleksander Bruckner: Encyklopedia Staropolska. Том 1, бач. 826, Варшава, 1939 г.

[9] J.Starzyński i M.Walicki: Malarstwo monumentalne w Polsce średniowiecznej. Варшава, 1929 г. Бач. 42.

[10] M.Walicki: Malowidła ścienne kościoła sw. Trojcy na zamku w Lublinie. Zakład Architektury Polskiej. Studja do dziejów sztuki w Polsce. T. III. Варшава, 1930 г.

[11] Maria Kuzmińska: Olbracht Marcinowicz Gasztold. «Ateneum Wileńskie», rok IV, zeszyt 13. Вільня, 1927 г. Бач. 391. Гутарка ідзе гэта пра таго-ж ваяводу Гаштаўта, да якога ў 1530 г. пісаў лісты ў справах доктара Францішка Скарыны Альбрэхт Прускі (глядзі ЗАПІСЫ, N 2(4), 1953 г., бач. 108—113: «Кароль Альбрэхт Прускі і Скарына» — С.Брага). Там аднак памылкова пададзенае ягонае імя як Станіслаў. Ён зваўся Альбрэхтам, а Станіслаў быў ягоны адзіны, апошні з роду Гаштаўтаў, сын, першы муж ведамай Барбары Радзівілянкі. Перанятая з лацінскіх лістоў форма прозьвішча **Гаштальд** ёсьць лацінізацыя беларускай формы **Гаштаўт** (аналягічна, як **Вітальд** лацінізаваная форма ад **Вітаўт**).

[12] Пра гэткі каталіцкі касьцёл у Смаленску — «Латынескую царкву» або «Нямецкую Багародзіцу» (як падае другі сьпісак) — успамінае 32 параграф Смаленскай Гандлёвай Праўды 1229 году (або 29 параграф іншага варыянтнага сьпіску). Тамка кажацца: «Аже капь, чимь то весять, изломлена будеть, а любо легче будеть, тоть спускати обе в одино место, что лежить у святое Богородице на горе, а другая у Латинской церкви, обе ровнати». Гл. «Памятники русского права» под редакцией С.В.Юшкова. Выпуск II. Масква, 1953 г. Б. 67.

[13] Пра тагачасныя ўплывы старабеларускай мовы на польскую гл. коратка ў нарысе Сымона Брагі «Уплывы нашае мовы на польскую», часапіс САКАВІК, N 1(2), 1948 г. Бач. 47. З польскіх аўтараў абшырней пра гэта піша ў сваёй кнізе Tadeusz Lehr-Spławiński — Język polski. Pochodzenie — Powstanie — Rozwój. Warszawa, 1947. Як інфармуе менскае ПОЛЫМЯ, N 2, 1955 г., новую цікавую працу прасьвячаную пытаньню ўплыву беларускае мовы на польскую напісаў пры Моваведным Камітэце Акадэміі Навук Польшчы Г.Сафарэвіч.

[14] Marian Bohusz-Szyszko — Zarys rozwoju sztuk plastycznych na ziemiach Wielkiego Księstwa Litewskiego. Alma Mater Vilnensis. Londyn, 1953. Б. 322.

[15] Эвалюцыя сынтэзы архітэктурных формаў бізантыйскій і готыкі на беларускіх землях дакладней разгледжаная ў кнізе: Мікола Шчакаціхін — Нарысы зь гісторыі беларускага мастацтва. Выданьне Інстытуту Беларускай Культуры. Менск, 1928 г.

[16] Walicki Michał i Starzyński Juliusz. Dzieje Sztuki Polskiej. Warszawa, 1936.

[17] Marian Bohusz-Szyszko. Zarys rozwoju sztuk plastycznych... Б. 325.

[18] Marian Bohusz-Szyszko. Zarys rozwoju sztuk plastycznych... Б. 327.

[19] Marian Morelowski. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia. Вільня, 1940 г.

[20] Marian Bohusz-Szyszko. Zarys rozwoju sztuk plastycznych... Б. 329.

[21] Marian Morelowski. Znaczenie baroku wileńskiego XVIII stulecia... Objasnienia. Вільня, 1940. Б. 31.

[22] Marian Morelowski. Znaczenie baroku... Objasnienia. Б. 46

[23] Józef Bieliński. Uniwersytet Wileński 1579—1831. Кракаў, 1899 г. Том I, б. 25—26.

[24] Marian Morelowski. Zarysy syntetyczne sztuki wileńskiej od gotyku do neoklasycyzmu. Вільня, 1938—1939 г. г. Б. 16.

[25] Clara Thornqvist. Studien uber die Nordischen Lehnworter im Russischen. Uppsala och Stockholm, 1948. Аўтарка працы дапушчае магчымасьць скандынаўскага паходжаньня й гэткіх беларускіх словаў: ба[…] быль, сьціртa, сорак, шоўк.

[26] Alle Volker, die lange geknechtet gewesen sind, weisen als ubereinstimmendes Merkmal die Verkummerung des Rechtsgefuhls auf...» Walter Schubart. Europa und die Seele des Ostens. Luzern, 1938. Б. 71.

[27] Вялікае культурнае значаньне для Расеі працы гэтых беларускіх асьветнікаў-выхаджэнцаў XVII ст. шырэй насьветленае ў кніжцы расейскага слявістага мінулага стагодзьдзя Пётры Бязсонава: Белорусские песни. Масква, 1871 г

[28] Stanisław Kościałkowski. Dzieje nauki i piśmiennictwa polskiego w W. Ks. Litewskim. Dzieje Ziem Wielkiego Księstwa Litewskiego. Londyn, 1953. Б. 256.

[29] «...die im Jahre 1909 vollendete Romanoffkapelle am starksten als Fremdkorper im Stadbilde auffallt. Es liegt etwas brutales in ihrer ganzen Erscheinung und in ihrer Ausstattung mit vielen knallgoldenen Zwiebelkuppeln. Wer aus einiger Entfernung... die Stadt uberschaut, empfindet das ostlandische Glanzen dieser Kuppeln... als gewaltsame Eindrigen einer fremden Macht». Prof. Dr. Paul Weber. Wilna. Eine vergessene Kunststatte. Вільня, 1917 г. Б. 94.

[30] Гэты бясспрэчны й відавочны гістарычны факт стаіць у поўнай супярэчнасьці з хвалшывай, накі нутай згары тэзай сучаснай савецкай афіцыйнай гістарыяграфіі. Савецкі гісторык архітэктуры Беларусі Ю.Ягораў у апублікаванай нядаўна Акадэміяй навук СССР кнізе цьвердзіць з абурэньнем, што гэта толькі «беларускія нацыяналістыя няўтомна «даводзілі» адсутнасьць якога-небудзь уплыву расейскай культуры на фармаваньне й разьвіцьцё беларускай архітэктуры, падчыркуючы пры гэтым ейнае заходняэўрапейскае паходжаньне». Сам жа Ягораў намагаецца «давесьці» зусім адваротнае: што ў XVI—XVIII стст. «Беларускі народ... сіляў натхненьне й майстроўства ад найвыдатнейшых твораў расейскага дойлідства...», хоць ягоныя канкрэтныя «довады» гэтага ня йдуць далей сьцьверджаньня факту будовы ў XVI ст., у часе Лівонскае вайны, войскам цара Івана Грознага часовага значаньня замкаў на беларускай тэрыторыі памежнай з Маскоўшчынаю (прыкл. Сокал, Тураўля). Гл.: Ю.Ягораў — Градостроительство Белоруссии. Академия наук СССР. Институт истории искусств. Масква, 1954. Б.б. 6 й 107.

**Сьвятаслаў КОЎШ**
(1917—1997)

Праваслаўны святар, пісьменнік, культурны, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў м. Ілья на Вілейшчыне. Скончыў Віленскую беларускую гімназію. Вучыўся на факультэце права ў Віленскім універсітэце. Пасля заканчэння вучобы высвечаны ў дыяканы. Працаваў псаломшчыкам. З верасня-кастрычніка 1939 г. — загадчык вучэбнай часткі ў адной з сярэдніх школ недалёка ад Стаўбцоў на Міншчыне. У час акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі працаваў у беларускіх адміністрацыйных установах. Быў абраны старшынёй Клецкага павета. З чэрвеня 1944 г. — у Нямеччыне. Пасля заканчэння вайны адзін з арганізатараў беларускага лагера для перамешчаных асоб у Ватэнштэце. Настаўнік беларускай гімназіі імя Максіма Багдановіча. У 1949 г. пераехаў у ЗША. Адзін з актыўных дзеячаў рэлігійнага, культурнага і грамадскага жыцця ў эміграцыі. Настаяцель беларускага прыхода св. Кірылы Тураўскага ў Рычманд-Гіле ў Нью-Йорку (1969—1977) і прыходу св. Ефрасінні Полацкай у Саўт-Рыверы (штат Нью-Джэрсі; 1976—1986). Рэдактар часопіса «Царкоўны сьветач». Сябра епархіяльнай рады Беларускай праваслаўнай царквы Паўночнай Амерыкі і Канады (з 1971 г.). Аўтар кнігі балад і прозы «Русалчына балада» і інш.

## ШЛЯХАМ АЎТАКЕФАЛІІ

Кожны раз, калі хістаюцца асновы Расейскае імпэрыі, Беларускі народ стараецца аднавіць страчаную палітычную і рэлігійную незалежнасьць. Развал царскае Расеі ў Першую сусьветную вайну і пасьледаваўшая за гэтым Грамадзянская вайна былі выкарыстаны паняволеным народамі Маскоўскае імпэрыі — і Беларускім народам, у прыватнасьці, — у напрамку рэстаўрацыі дзяржаўнае і царкоўнае самастойнасьці. Абвешчаньне незалежнасьці Беларусі 25 сакавіка 1918 г. споўніла жаданьні тых, хто шукаў нацыянальнае незалежнасьці Бацькаўшчыны.

Маладая Беларуская рэспубліка не змагла абараніць сваю незалежнасьць і стала ахвяраю бальшавіцкага імпэрыялізму. Аднак збройная перамога бальшавікоў не азначала духовае капітуляцыі беларусаў: у абставінах жахлівага тэрору ваеннага камунізму Беларускі народ абвесьціў рэлігійную незалежнасьць ад Масквы. Здарылася гэта 23 ліпеня 1922 г. Катэдральным саборы сталічнага Менску. У гэты дзень адбыўся Сабор Беларускае Праваслаўнае Царквы, які абвесьціў аўтакефалію і выбра

мітрапалітам яе Епіскапа Мелхісэдэка (Паеўскага). Адначасна з гэтым быў створаны епіскапат Беларускае аўтакефальнае царквы шляхом хіратоніі епіскапаў Мікалая (Шэмеціль), Яна (Пашына), Філарэта (Раманскага).

Трэба адзначыць, што Маскоўскі патрыярх Ціхан не асудзіў нацыянальныя аўтакефальныя цэрквы, якія заіснавалі на абшары Савецкага Саюзу і «не проявил никакого антагонизма по отношении к возникшей в 1922 г. Белорусской автокефалии» (Петр Соколов. — Сборник «Русская Православная Церковь в СССР», Мюнхен, 1962 г.)

Палажэньне Беларускае Аўтакефальнае Царквы кардынальна зьмянілася з таго часу, як звольнены з турэмнага зьняволеньня 20 сакавіка 1927 г. мітрапаліт Сяргей (Страгородзкі) пайшоў на супрацоўніцтва з бальшавіцкай уладай. Мітрапаліт Сяргей зрабіў усё магчымае ў ягонай моцы, каб падпарадкаваць Маскоўскай патрыярхіі нацыянальныя праваслаўныя цэрквы, асягнуўшыя незалежнасьць ад Масквы. «В Белорусской ССР [гл. вышэйуспомнены зборнік] митрополитом Сергием был лишен митрополичьего сана Первоиерарх Белорусской Автокефальной Церкви Мелхиседек (Паевский). Его большие заслуги по ограждению белорусской паствы от обновленческого влияния и атеистических мероприятий власти не были приняты во внимание московской иерархией. Митрополит был выслан в Красноярск, верное ему духовенство подвергалось политическим преследованиям, вплоть до физического уничтожения в застенках ГПУ—НКВД. Несколькими годами позже приверженцы автокефалии — миряне уничтожались тоже как «буржуазные националисты».

Ліквідацыя Беларускае Праваслаўнае Аўтакефальнае Царквы Маскоўскай патрыярхіяй адбылася ў пару бальшавіцкае экспансыі ў праваслаўным сьвеце за межамі СССР. Такім чынам, у 1927 г. мітрапаліт Сяргей выслаў ліст мітрапаліту Дзіянісію (Веледзінскаму), першагіерарху Праваслаўнае Царквы ў Польшчы, падняўшы пытаньне аб «незаконнасьці» яе аўтакефаліі з тым, каб падпарадкаваць гэтую Царкву Маскоўскай патрыярхіі. З падобным лістом і амаль адначасна з гэтым ён зьвярнуўся да першагіерарха Праваслаўнае Царквы ў Эстоніі архіепіскапа Рэвельскага Аляксандра. 9 траўня 1928 г. мітрапаліт Сяргей выдаў загад аб ліквідацыі Архірэйскага Сабору і Сыноду Зарубежнай Расейскай Царквы з прапановай ёй падпарадкавацца Маскоўскай патрыярхіі.

Разьдзел Польшчы Нямеччынай і СССР у 1939 г. ды акупацыя Заходняе Беларусі Чырвонай Арміяй зьвярнулі Маскоўскаму патрыярху рэштку Беларускае тэрыторыі. Дзейнікі савецкае ўлады з благаславенства мітрапаліта Сяргея прыступілі да канчатковае ліквідацыі праваслаўнае царквы ўва ўсёй Беларусі так, як гэта было імі зроблена ўва Усходняй Беларусі, дзе за адну ноч 29 ліпеня 1937 г. былі арыштаваны ўсе епіскапы і духаўнікі ў Менску і на правінцыі. Протапрэсьвіцер М.Лапіцкі сьведчыць: «Усе яны [епіскапы і духаўнікі] на чале з епіскапам Баб-

руйскім Філарэтам, заступнікам мітр. Мелхісэдэка, былі пасаджаны ў савецкія турмы ці ў канцлагеры далёкае Сібіры, адкуль і не вярнуліся. Ад 1937 г. у Савецкай Беларусі ня было дзейнай ніводнай праваслаўнай царквы, ані аднаго духаўніка, і рэлігійна-царкоўнае жыцьцё было поўнасьцю зьліквідавана».

Пераможны наступ нямецкае арміі 22 чэрвеня 1941 г. і ліхаманкавае адступленьне бальшавікоў спынілі на некаторы час расправу Масквы з рэшткамі царкоўнае арганізацыі на Беларусі.

Ізноў пахіснуліся асновы Расейскае імпэрыі, на гэты раз чырвонае. На папялішчах вайны, у грукаце гарматаў, на палетках, загараных танкамі, беларусы пачалі адрабляць усё тое, што зрабіла чужая ўлада. Выкарыстаўшы абставіны, Беларускі народ ізноў абвесьціў усяму сьвету ягоную волю жыць незалежным жыцьцём. Вуснамі 2 Усебеларускага кангрэсу Беларусы пацьвердзілі ўсё тое, што сказалі іх бацькі ў 1917—1918 гг., гэта значыць, яшчэ раз абвесьцілі незалежнасьць сваёй Бацькаўшчыны ды ўневажылі ўсе міжнародныя ўмовы, зробленыя ад імені Беларускага народу ягонымі акупантамі паміж дзвюмя сусьветнымі войнамі. Адначасна з гэтым ішла адбудова царкоўнага жыцьця. Над цэрквамі, перапробленымі бязбожнай уладай камуністаў у антырэлігійныя музэі, узьняліся крыжы. Перахоўваныя з піэтызмам іконы сьвятых занялі пачэснае месца ў адбудаваных сьвятынях, перад ласкавым воблікам Божае Маці зацепліліся сьвечы. Ішла ўпорыстая работа на ніве арганізацыі царкоўнага жыцьця з накіраваньнем яго ў адзінае беларускае рэчышча. Жыцьцё паставіла на парадак дня стварэньне беларускага епіскапату і кадраў духавенства. Асяродкам царкоўнага жыцьця Беларусі ў 1941 годзе былі Жыровіцы, дзе тады прабывалі мітр. Панцялейман і епіс. Вэнэдыкт.

У другой палове верасьня 1941 году епіскап Берасьцейскі Вэнэдыкт (Бабкоўскі, хіратанізаваны 30 сакавіка 1941 г. у Маскве мітрапалітам Сяргеем) наведаў Менск, дзе навязаў кантакт з беларускай грамадзкасьцю — у прыватнасьці з праф. Радаславам Астроўскім — і нямецкімі ўладамі. Пры падтрымцы беларускіх дзейнікаў 3 кастрычніка епіскап Вэнэдыкт атрымаў ад нямецкіх акупацыйных уладаў прызнаньне мітрапаліта Панцялеймана галавою Беларускае Праваслаўнае Царквы пад варункам, што ён, мітрапаліт Панцялейман, абвесьціць аўтакефалію Беларускае Праваслаўнае Нацыянальнае Царквы (глядзі Мгр. А.М. «Матар'ялы да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы» — Нямеччына, 1948 г.). Самым першым актам мітрапаліта Панцялеймана было даручэньне епіскапу Вэнэдыкту наладзіць царкоўнае жыцьцё ў Менску, замацаваўшы на прыходах прыехаўшых туды аа. Балая, Лапіцкага і Кушнера. Цяпер мітрапаліт Панцялейман стаў тварам перад неадкладнай неабходнасьцю хіратоніі новых беларускіх епіскапаў. Пытаньнем хіратоніі новых беларускіх архірэяў цікавіліся таксама мітрапаліт Варшаўскі Дзіянісі і Беларускі нацыянальны камітэт у Варшаве. Мгр. А.М. аўтар «Ма-

тар'ялаў да гісторыі Праваслаўнае Беларускае Царквы» гаворыць вось што: «Мітрапаліт Дзіянісі лічыў Заходнюю Беларусь сваёй царкоўнай тэрыторыяй, якая ў выніку ваенных падзеяў у 1939 годзе выйшла з-пад яго юрысдыкцыі. Ваенная акупацыя Беларусі немцамі давала надзею мітрапаліту Дзіянісію на паварот гэтай тэрыторыі пад яго архіпастырскую апеку. Каб лепш было ажыцьцявіць свае пажаданьні ў гэтай справе, ён стварыў пад сваім кіраўніцтвам Беларускую Раду і ў яе склад паклікаў беларусаў: архімандрыта Філафея, Б.Стрэльчыка, д-ра Ермачэнка, д-ра А.Красоўскага, д-ра А.Вітушка. Першае паседжаньне гэтай Рады адбылося 9 верасьня 1941 г. На гэтым паседжаньні быў напісаны мэмарандум да нямецкіх цэнтральных уладаў у Бэрліне, у якім між іншымі пажаданьнямі царкоўнага характару былі выстаўлены кандыдаты ў сан епіскапаў на Беларусі архімандрыты: Феафан (Пратасевіч), Філафей (Нарко) і Афанасі (Мартос)».

У той час, калі мітрапаліт Дзіянісі разам з Беларускім нацыянальным камітэтам у Варшаве шукалі адказу ў Бэрліне, беларуская грамадзкасьць на бацькаўшчыне вырашыла пытаньне беларускага епіскапату на месцы, атрымаўшы ад акупацыйных уладаў прызнаньне мітрапаліта Панцялеймана галавою Беларускае Царквы. Адносна кандыдатаў у епіскапскі сан, запрапанаваных мітрапалітам Дзіянісам, беларускія дзейнікі ў Менску ня мелі засьцярогаў.

Такім чынам, калі архімандрыт Філафей ехаў у Менск, каб пазнаёміцца з сытуацыяй на Беларусі і па дарозе затрымаўся ў Жыровіцах, дзе тады прысутнічалі мітрапаліт Панцялейман і епіскап Вэнэдыкт, справа ягонае епіскапскае хіратоніі стала прадвырашаным фактам. Хіратонія адбылася 23 лістапада 1941 г. у Жыровіцкім манастыры. У наступны дзень пасьля хіратоніі адбылося паседжаньне Сабору Епіскапаў Беларускае Царквы ў складзе мітрапаліта Панцялеймана і епіскапаў Вэнэдыкта і Філафея. Старэйшыя ўладыкі даручылі епіскапу Філафею выконваць абавязкі кіраўніка справаў Архірэйскага Сабору.

29 лістапада мітрапаліт Панцялейман і епіскап Філафей выехалі ў Менск на сталае жыхарства для кіраваньня Беларускаю Царквою. Некалькімі днямі раней, бо 25 лістапада еп. Вэнэдыкт выехаў у Горадню для кіраваньня гэтай епархіяй, якую нямецкія ўлады далучылі да Усходняй Прусіі. Ад гэтага дня Жыровіцкі манастыр перастаў быць цэнтрам епархіяльнага жыцьця.

У лютым 1942 г. у Менск прыехаў архімандрыт Афанасі. 3 сакавіка 1942 г. у Менску пачаліся працы Сабору Беларускіх Епіскапаў, у якім прымалі ўдзел мітрапаліт Панцялейман, еп. Вэнэдыкт з правам дарадчага голасу. Абставіны ваеннага часу ставілі перад Саборам епіскапаў дадатковыя цяжкасьці. Справа ў тым, што Гародзеншчына з яе 144 прыходамі належала да Усходняе Прусіі. Сабор пастанавіў стварыць там самастойную епархію з аўтаномным кіраўніцтвам, назначыўшы туды прэасьвяшчэннага Вэнэдыкта (Бабкоўскага) з тытулам Беластоцкага і

Гродзенскага. Вакантную ў выніку гэтага Берасьцейскую кафедру заняў епіскап Іоан (Лаўрыненка) з тытулам епіскапа Берасьцейскага і Кобрынскага. Быў зацьверджаны праект падзяліць Беларусь на пяць епархіяў: Менскую — мітрапалічную, Магілёўскую, Смаленскую, Віцебскую і Наваградзкую. На кожную епархію быў назначаны епіскап: Менскую епархію ўзначаліў мітрапаліт Панцялейман з тытулам архіепіскап Менскі і мітрапаліт усёй Беларусі. Магілёўскую епархію ўзначаліў да гэтага часу Слуцкі епіскап Філафей з тытулам Магілёўскі і Мсьціслаўскі. Віцебская епархія была прызначана архім. Афанасію з тытулам Епіскап Віцебскі і Полацкі. Смаленская кафедра прадназначалася прат. Сямёну Сеўба з тытулам Смаленскі і Бранскі. Наваградзкую епархію павінен быў узначаліць епіскап Веніямін з тытулам Наваградзкі і Баранавіцкі. Таму што еп. Веніямін знаходзіўся на Валыні ў Пачаве, часовае кіраўніцтва епархіяй даручылася Афанасію, чыя хіратонія адбылася 8 сакавіка 1942 г. у Менску. Жыровіцкі манастыр, згодна з пастановай Сабору епіскапаў, узначаліў мітрапаліт Панцялейман з дадаткам да ягонага тытулу: «Сьвяшчэннаархімандрыт Жыровіцкай Сьвята-Усьпенскай абіцелі». 15 ліпеня 1942 г. адбылася епіскапская хіратонія архім. Сьцяпана Сеўба з тытулам епіскапа Смаленскага і Бранскага.

Наяўнасьць беларускага епіскапату і арганізацыі царкоўнага жыцьця ў правінцыі стварылі патрэбныя прадумовы да скліканьня Сабора, які распачаў працы 30 жніўня 1942 г. у Менску. З даручэньня мітрапаліта Панцялеймана Сабор узначаліў архіепіскап Філафей. Апрача архіепіскапа Філафея, у Саборы прынялі ўдзел епеп. Афанасі і Сьцяпан. Ад духавенства бралі ўдзел 43 дэлегаты і 66 дэлегатаў ад вернікаў. Апрача гэтага, на Саборы прысутнічалі госьці і карэспандэнты. У першы дзень працаў Сабора дэлегаты слухалі рэфэраты: прат. Балая «Кананічныя асновы аўтакефаліі» і прат. Івана Кушнера «Пытаньне аўтакефаліі на Беларусі». Архіепіскап Філафей зрабіў асьведчаньне, што фактычна аўтакефалія Беларускае Царквы ўжо існуе і што Сабору астаецца аформіць яе кананічна і паведаміць пра яе існаваньне іншыя аўтакефальныя цэрквы. Наступна Сабор прыняў Статут Беларускае Царквы і апрацаваў тэкст лістоў да галоваў праваслаўных аўтакефальных цэркваў і да Канстантынопальскага патрыярха. Свае працы Сабор скончыў 2 верасьня 1942 г.

Другая акупацыя Беларусі бальшавікамі ў 1944 г. прымусіла вялікую частку беларускага незалежніцкага актыву адыйсьці на захад. Беларусь залілі хвалі чырвонага тэрору. Беларуская Праваслаўная Царква ізноў у катакомбах чакае сьветлага дня. Яна сьвятая і беззаганная — і таму брамы пекла не перамогуць яе.

На эміграцыі, у сілу жыцьцёвых абставінаў, адноўлены вялікім высілкам усяе беларускае грамадзкасьці беларускі епіскапат адышоў ад ідэ аўтакефаліі свае царквы і пакінуў беларускую эміграцыю самой сабе. Нягледзячы на гэта, беларускае царкоўнае жыцьцё наладжана на ўсі кантынэнтах нашае плянэты. Робяцца высілкі аднавіць беларускі епіс

капат у эміграцыі. Доказам таго, што беларуская царкоўная справа знаходзіцца на добрым шляху, зьяўляецца згода Канстантынопальскага патрыярха аднавіць беларускі епіскапат.

Вялікія здарэньні па-рознаму расцэньваюцца рознымі людзьмі. У пару разгрому Праваслаўя ваенным камунізмам дваццатых гадоў Беларускі народ стаў на правільны шлях арганізацыі свайго царкоўнага жыцьця, абвесьціўшы аўтакефалію, у той час калі бяспрынцыповыя рэлігійна колы вырашалі справу ў пляне гэрэтычных шуканьняў абнаўленства, жывацаркоўніцтва ды іншых раскольніцкіх плыняў. Няма нічога дзіўнага, што і ў наш трывожны век людзі, асьлепленыя велічнасьцю ідэі аўтакефаліі Беларускае Царквы, адыходзяць ад самае Праваслаўнае Царквы ды, успрыняўшы жаданае за сапраўднае, губляюцца ў дрыгве адшчапенства. Прыклад двох Аўтакефальных Сабораў беларускіх у дваццатым веку няхай будзе для нас навукай і паказальнікам вялікіх асягненьняў вялікіх людзей.

*1972*

## Аляксей КАЎКА
(1937)

Гісторык, літаратуразнавец, культуролаг, культурны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Равецкі Бор (цяпер Машчаліна) на Міншчыне. Выхоўваўся ў дзіцячым доме. Закончыў Мінскі бібліятэчны тэхнікум. Загадчык сельскай бібліятэкі, пазней інструктар райкама камсамола ў Чэрвенскім раёне (Мінская вобл.). У 1956—1959 гг. — на тэрміновай службе ў Савецкай Арміі (кантынгент савецкіх войск у Нямеччыне). Пасля дэмабілізацыі працаваў на кіраўнічых камсамольскіх і партыйных пасадах у г. Чэрвені і Мінску. Завочна скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1961). З 1965 г. — у апараце ЦК УЛКСМ. Працаваў у міжнародным аддзеле адказным сакратаром па сувязях з маладзёжнымі арганізацыямі Польшчы. Вучыўся ў Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС, якую закончыў у 1971 г. Старшы навуковы супрацоўнік, загадчык сектара Польшчы ў Інстытуце эканомікі сусветнай сістэмы сацыялізму АН СССР (1971—1979), у 1979—1982 гг. — прадстаўнік Саюза савецкіх таварыстваў дружбы і культурных сувязей з замежжам, адначасова радца Амбасады СССР у Польшчы. Галоўны рэдактар часопіса «Советское славяноведение». Адзін з ініцыятараў заснавання Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Ф.Скарыны (1988). З 1989 г. — супрацоўнік Інстытута сусветнай літаратуры Расійскай акадэміі навук. Абараніў доктарскую дысертацыю (1991). Віцэ-старшыня Маскоўскай рэгіянальнай асацыяцыі беларусістаў. Аўтар навуковых даследаванняў і манаграфій, эсэ і нарысаў («Польша: Отечество и социализм», 1977; «Тут мой народ: Францішак Скарына і беларуская літаратура XVI — пач. XX стст.», 1989; «Letter to russian friend» («Письмо русскому другу». London, 1979; «Жывом! Старонкамі беларускага самапазнання», 1997 і інш.) Укладальнік літаратурна-навуковых гадавікоў «Скарыніч» (1991, 1993, 1997). Даследуе гісторыю, культуру і літаратуру Беларусі.

### ПИСЬМО РУССКОМУ ДРУГУ
(*Фрагмент*)

Белорусский язык...

В век научно-технической революции не постигнет ли его участь волжского диалекта?

Вашим вопросом взята под сомнение существеннейшая черта моего народа, в которой выражен дух, индивидуальность и, в конечном итоге, — жизнестойкость белорусов.

Вопрос о белорусском языке, перенесенный из средневековых, дореволюционных эпох, в известном смысле еще существует. В объеме намного меньшем, нежели существовал он, скажем, сто лет тому назад, когда и белорусский язык, и весь околодесятимиллионный народ, говоривший на нем, объявлялись химерою или «польскою интригою» в Северно-Западном крае; там по триединой формуле — самодержавие, православие, народность — решалось «русское дело», дело скорейшего превращения тогдашних «западноруссов» в «истинно русских людей». Сие «русское дело», представлявшееся величайшим деянием не одним полицейско-бюрократическим носителям славы России, судьбе угодно было отправить на свалку истории вместе с обломанным клювом хищной птицы из императорского герба.

Белорусы обрели собственную социалистическую государственность, первостепенные социальные и политические права вместе с правом развивать просвещение «на роднай мове». На вещий вопрос «посмотрим, что скажут еще сами белорусы» относительно своей самобытности и исторической жизнеспособности, который для угнетаемого и унижаемого народа прозвучал в те мрачные времена голосом искреннего сочувствия и светлой надежды, на этот вопрос мои соотечественники представили и продолжают представлять немало доказательств различного свойства и «калибра», снимая сомнения относительно своего естественноисторического места в общем предназначении народов и человечества. Можно было бы адресовать Ваше внимание на эти доказательства, и Ваш восприимчивый разум нашел бы нужный ответ на возникший вопрос, рассеяв, возможно, сопутствующие ему сомнения.

Но затронутая проблема, выходя за рамки приватной беседы двух друзей, выглядит достаточно сложной и больной, чтобы замалчивать ее. Она действительно существует — в остатках ли имперского мышления, в рецидивах ли имперской политики, — раня и белорусов, не оставляя безучастными и сторонних наблюдателей. В реакции со стороны на современное положение белорусского языка заметно различие во взглядах посещающих БССР украинцев, поляков, чехов, словаков, болгар и некоторых русских. Первые недоумевают по поводу искусственного сдерживания, вторые — по поводу «искусственного» насаждения белорусского языка в Белоруссии.

В своих сомнениях Вы — не исключение, хотя мне и трудно скрыть досаду, что стереотип о моем родном слове не чужд даже русским просвещенным умам, не исключая тех, кто сегодня болезненно задумывается над возрождением русской идеи. О массовом обывателе, у которого от усердного поклонения золотому тельцу и «литым богам» притупляется чутье к собственным национальным ценностям, говорить не приходится.

Итак, проблема есть, и проблема тревожная: в Белоруссии мы являемся свидетелями развернувшейся ассимиляции. Устроители этого духовного кастрирования населения действуют под знаменем интернационализации и неизбежного слияния наций, игнорируя ту элементарную

истину, что в будущую единую общечеловеческую семью придут и идут не безъязыкие народы-кастраты, забывшие свои имена и достоинства, а каждый принесет с собой неповторимый букет своего разумения истины и красоты. С какой стати белорусам передавать кому бы то ни было право выражать за них их собственное предназначение на этой планете, тем более, что неоднократные попытки могущественных соседей белорусского народа выразить за него свою волю и стремления оборачивались нередко в ущерб белорусам, создавая на этом участке цивилизованной Европы «культурное» подобие колониальной Африки.

Типичный продукт и, в определенном смысле, духовный суррогат ассимиляторской политики явил Вам тот самый капитан дальнего плавания, выражая свое пренебрежение к языку земли, взрастившей его. Нечто похожее можно обнаружить в нынешней белорусской интеллигенции с ее поразительной «безъязыкостью» и национальной индифферентностью, в силу чего критерии ее интеллигентности оказываются под немалым вопросом, и самую ее, пожалуй, вернее было бы именовать, скажем, кадрами с высшим образованием северо-западной части СССР.

Разумеется, ассимиляция (в своем месте мы попытаемся представить некоторые ее реальные черты), как бы она ни форсировалась, имеет свои пределы, ограничиваемые (пусть и ограниченной) белорусской государственностью, и поэтому она бессильна сдержать развитие языка и культуры белорусского народа, хотя способна сужать естественные границы этого необратимого процесса, тормозя и деформируя его. И хотя «русское дело» в Белоруссии в 1977 г. ни по содержанию, ни по форме, ни по своим конечным целям не адекватно своему однофамильцу 1877 г., нас не может не тревожить сам факт существования такового, пусть и в иных, более гуманных формах.

*1976— 1977*

## ТЭРЫТОРЫЯ ЦІ НАЦЫЯ?

**Метамарфозы беларускага «западно-руссизма».**

«Я ўбачыў і зразумеў, што і ў Беларусі Беларусі ўжо няма. Яе зрабілі тэрыторыяй Саюза, прахадным дваром».

*У.Дамашэвіч. «Мітынговая аповесць».*

— Рускія?
— Не, беларусы.
— Фшыстко едно, рускія.
Спрачацца не выпадала.

*З дыялогу польскага пагранічніка з беларускімі турыстамі (ЛіМ. 1992. 17 крас.)*

Калі б спатрэбілася адным толькі словам выказаць глыбіню нацыянальнага заняпаду беларусаў, слова такое ёсць: «западно-руссизм». Аз-

начэнне «беларускі» ў звязцы з ім парадаксальна адцяняе трагікамізм таго грамадскага і псіхічнага стану, пры якім вынішчэнне нацыянальнае тоеснасці народа адбываецца ад ягонага імя і нават вуснамі, рукамі ягоных гадаванцаў. Ці не над недарэчнасцю паўсталых абставін некалі з горыччу засяроджваўся Паэт-прарок: «У батракі пайшлі унукі і топчуць прадзедавы косці» (Янка Купала)? «Западно-руссизм», здаецца, і ёсць палітычным, духоўным жабрацтвам, торбай жабрачай на шыі, якую змушаны ў пэўнай ступені й прывучаны цягаць беларус. І цягае каторае ўжо стагоддзе. Нават не з прычыны свае нішчымнасці (не абдзелены ж ён ад прыроды, як і кожан іншы народ, ні багаццем, ні кляйнотамі), але найбольш праз сваю рахманасць беларускую, прыцярпеласць адвечную. Ці не з гэтых і падобных «цнотаў» яшчэ не так даўно маладыя філосафы на Беларусі (многія з іх павырасталі ўжо на дактароў і нават акадэмікаў) выводзілі своеасаблівыя заканамернасці беларускага лёсу, здабываючы сабе навуковыя ступені, а народу — перспектыву самагубцы?

Прыклад: «Из всех наций Советского Союза белорусская нация проявляет наибольшую тенденцию к переходу на литературный язык русского народа». Таму «постепенный добровольный переход белорусов на литературный язык русского народа является закономерностью»[1].

Нам яшчэ давядзецца крануць уласцівага сэнсу гэтае філасафічнае, дакладней, «научно-коммунистической» высновы. Зараз звяртаем толькі ўвагу на адну, дужа прыкметную, не менш эксплуатаваную рысу «добраахвотнасці», якой з акадэмічных і палітычных вышыняў звыклася пазначаць моўнае нацыянальна-культурнае нядбальства на Беларусі. Адносна якога, дарэчы, метафарычная самаіронія Купалы гучыць не менш пераканальна:

Аграбленыя з гонару й кашулі,
З свайго прыпыну выгнаныя вон,
Мы дзякуем, што торбы апранулі
На нас ды з нашых нітак-валакон.

*Перад будучыняй. 1922*

Але абок мастацка-вобразнага асэнсавання нашае нацыянальнае нямогласці (аналіз літаратурных твораў з гэтага гледзішча — асобнае, вартае спецыяльнае ўвагі пытанне) айчынная думка назапасіла адпаведны навуковы досвед, знову запатрабаваны пасля працяглага замоўчвання й фальсіфікацый беларускім грамадствам. Перадусім маем на ўвазе фундаментальную працу дзеяча-адраджэнца і гісторыка Аляксандра Цвікевіча «Западно-руссизм» (Менск, 1929), аплачаную трагічнай цаной, разам з многімі іншымі доказамі Беларускае Праўды[2].

«Западно-руссизм», паводле аўтара, ёсць пэўная ідэйна-тэарэтычная школа, прадстаўнікі якой «паставілі сваёй мэтай давесці, што Беларусь не з'яўляецца апрычонным краем, з сваёй гістарычна-нацыянальнай прыродаю, але яна ёсць заходнерускай часткай Расіі». Даследчык і раскрыў гэтую ідэалагічную з'яву як своеасаблівую супярэчнасць, «адмоўны бок» агульнае гісторыі Беларусі, беларускага руху.

Аналізуючы эвалюцыю «западнорусской» думкі, асабліва яе галоўнага тэарэтыка М.Каяловіча, Цвікевіч фактычна на тым і спыніўся, паколькі, як зазначаў, пасля Каяловіча гэтай школе ўжо «не заставалася сказаць большага». Вывад слушны пры адной агаворцы: калі лакалізоўваць згаданую з'яву канкрэтна-гістарычнымі, дакладней, дакастрычніцкімі часавымі рамкамі. У гэтым, канцэптуальным, сэнсе «западно-руссизм» Каяловічавага ўзору сапраўды ўяўляў сабою дастаткова завершанае абгрунтаванне непадзельнасці гісторыка-культурнага, увогуле нацыянальнага лёсу Беларусі, званай тады афіцыйна «западно-русским краем», ад лёсаў Расіі. Невыпадкова ў сваіх «Чтениях по истории Западной России» ён скрозь націскаў на неабходнасць «знать Западную Россию по-русски, понимать по-русски» і г.д. і да т.п.

Зыходзячы з падобнае ж адзінарускае званіцы, нічым прынцыпова новым не ўзбагацілі пытанне нават такія арыгінальныя публіцысты, ці не апошнія з магікан дарэвалюцыйнага,«класічнага», «западно-руссизма», як Лукаш Саланевіч ды Іван Саланевіч. Першы з іх на пачатку сваёй кар'еры пры заснаванні «Белорусского общества» (1909) ледзь было не дагаварыўся да неабходнасці «самоопределения самими белорусами» свайго ўласнага шляху, не тоеснага, маўляў, ні маскоўска-расійскаму, ні польскаму. Фактычнае ж разуменне гэтага шляху пружанскія гадунцы (паходзілі Саланевічы з Пружаншчыны) выказалі ў ролі зацятых апанентаў Беларушчыны. Першы — у якасці рэдактара газеты «Северо-западная жизнь», крытыка-фальсіфікатара «Нашай нівы», беларускага адраджэнчага руху наогул (маўляў, прыдуманага палякамі з мэтаю падарваць «общерусское» адзінства). Другі, на эміграцыі, — у ролі тэарэтыка й прапагандыста вялікарускага манархізму, несумяшчальнага, варожага беларускай нацыянальнай індывідуальнасці як такой.

Так, у адным з нумароў успомненай «Северо-западной жизни» (1912, 20 снеж.), у звароце да мясцовае інтэлігенцыі, падкрэслівалася патрэба «не выделять себя из состава российской интеллигенции», паколькі «кроме места рождения ничего больше белорусского интеллигента православного исповедания [за межамі праваслаўя ва ўяўленні ідэолагаў «западно-руссизма» беларусаў не існавала. — *А.К.*] не отличает от интеллигента великорусского и малороссийского: одно отечество, один язык, одна культура, одно прошлое, одно будущее». Адпаведна і нацыянальна-культурную беларускую працу адэпты «западно-руссизма» кваліфікавалі не інакш як правакацыяй мясцовых палякаў, мянуючы «белоляхами» беларускіх дзеячаў-адраджэнцаў з нашаніўскага асяроддзя.

Словам, у абгрунтаванні гістарычнае бездапаможнасці беларусаў, непазбежнасці іхняга духоўна-палітычнага ўтрыманства на «вялікарускім» карку «западно-руссизм» дакастрычніцкага гатунку самавызначаўся даволі ясна, з тэарэтычнага боку амаль што вычарпальна.

Але як ідэйная канцэпцыя і яшчэ больш — палітычная практыка, звязаная з адмаўленнем нацыянальна-гістарычнае самастойнасці і са-

матворчасці беларускага этнасу, «западно-руссизм» і далей, праз усё XX стагоддзе, працягваў і працягвае сваё існаванне, хаця пад іншымі назвамі, ідэалагічнымі афарбоўкамі. І ў гэтым пастаянна дзейсным сэнсе ён дасюль застаецца змрочным фактам і недарэчным фактарам беларускага жыцця, своеасаблівым комплексам нацыянальнае непаўнацэннасці ў псіхіцы беларуса перад «старэйшым» братам-велікарусам, перад рускаю моваю, рускаю культураю.

І ўсё ж пры натуральным пераемстве нельга не ўлічваць відавочнае розніцы паміж «западно-руссизмом» XIX — пачатку XX стст. і яго сучаснымі носьбітамі-вызнаўцамі, паміж «бацькамі» і нашчадкамі, паміж тымі ж Каяловічамі ці Саланевічамі і, беручы мастацка-абагулены тып з Купалавых «Тутэйшых», Мікітам Зносакам або Мікіцієм Зносіловым. Той, першы, зрадзіўся і выступаў у рэчышчы ўласнарускай каланіяльна-асімілятарскае палітыкі на Беларусі. Гэты, другі, перарос, увабраўся ў поўсць і паразітуе на глебе ўласнабеларускай, пад аслонай фармальных атрыбутаў беларускае дзяржаўнасці, а цяпер, пасля абвяшчэння незалежнае суверэннае Рэспублікі Беларусь, нават беларускага суверэнітэту. Наколькі першы сфарміраваўся на выкрыцці «знешняе» небяспекі для беларусаў — паланізма і ўсім сваім пафасам быў скіраваны супраць паланізацыі Беларусі, нагэтулькі другі выказаў свой імпэт толькі і выключна на змаганні з беларускім адраджэнчым рухам, у падаўленні й нявечанні беларускага нацыянальнага жыцця.

З гэтага другога пункту гледжання ўсю 70-гадовую гісторыю былое БССР, за невялікім выключэннем першае дэкады, 20-х гг., можна разглядаць як гісторыю татальнага панавання й практычнага здзяйснення ідэйных установак «западно-руссизма», праўда, у іншых, савецка-інтэрнацыяналістычных шатах. Канчатковая ж мэта абодвух «руссизмов» адна і тая ж: зліццё (палітычнае, эканамічнае, моўнае, культурнае) беларусаў з рускімі: у адным выпадку праз выбаўленне ад «польска-каталіцкае» сапсаванасці, у другім — праз паўсюдную й няспынную інтэрнацыяналізацыю, фактычна — русіфікацыю.

Асімілятарская сутнасць «западно-руссизма» з надзвычайнай нагляднасцю праявілася й праяўляецца ў адносінах да беларускае мовы — асноўнага, у апошнія стагоддзі фактычна адзінага ўвасаблення і гаранта беларускасці ў беларусах. Не выпадкова, што на знявечанне гэтае цэнтральнае артэрыі беларушчыны, духоўнага хрыбта нацыі кіраваліся й дасюль кіруюцца галоўныя высілкі асімілятараў. Праілюструем нашу думку трыма спасылкамі — храналагічна й сацыяльна адлеглымі між сабой, тым не менш вельмі сугучнымі ў сваёй «западно-русской» існасці.

Першая. З данясення віленскага губернатара князя М.Далгарукава на імя імператара Мікалая I (1833): «Во все времена во всех странах мира **язык** [тут і далей выдзелена мной. — *А.К.*] всегда был и будет непосредственным **орудием** правительства **для достижения** всевозможных **видов и намерений**. Ведь господствующий язык, как господствующее вероис-

поведание, должны иметь преимущественное уважение перед местными наречиями отдельных пограничных или новообретенных стран. Общее употребление господствующего языка **нечувствительно обмиряет** разнородные племена онаго, истребляет народные предубеждения, затемняет самые предания давней вражды, **изглаживает воспоминание** о **происхождении** и, наконец, **сливает** все чуждые племена **в один народ»**.

Другая. З тэлеграмы прадстаўніка ЦК РКП(б) на Беларусі й Літве Машыцкага на імя Леніна, Чычэрына, Сталіна (2 лютага 1919 г.): БНР была ўтворана з мэтаю «показать, что наши интересы противоречат, для того, чтобы создать промежуточное государство, буфер. С целью защитить соседей от большевистской заразы нужно было разжечь пагубные националистические чувства и заглушить классовые противоречия. Орудием для сего служил, между прочим, пресловутый белорусский язык, вероятно, изобретенный бежавшими в Польшу Мамонько, Грибом, Скирмунтом. Так делала Рада Белоруссии. Но когда на тот же путь вступило правительство [на чале з Зм. Жылуновічам], декретировавшее выделение Белорусской Республики, на сцене снова появился комедийный белорусский язык. Целесообразность этого акта мы никак понять не можем ни экономически, ни политически, ни этнографически.

Положение пяти губерний, вошедших в состав Белорусской Республики, ничем существенным не отличается от остальных губерний Советской России. Нам нужно классовое самоопределение, но не искусственное национальное...»

Трэцяя. «Да, мы белорусы, но оттого, что мы предпочитаем русский язык в своем общении, мы не станем меньше любить свою родину, свою белорусскую землю, белорусские песни и историю своего народа. Мы думаем по-русски, и дети наши с пеленок впитывают русский язык. (Не пустим детей в белорусскую школу. Ліст за 17 подпісамі жыхароў г. Рагачова // Народная газета. 1992. 9 чэрв.)

Які ж каментарый напрошваецца да цытаваных прыкладаў? З іх першыя два даволі паказальныя непрыхаванай імперска-каланіяльнай сутнасцю абодвух рэжымаў на Беларусі — расійска-царскага і бальшавіцка-савецкага. Сутнасць гэтая й праявілася ў аднолькава ліквідатарскім настаўленні да нацыянальнае мовы карэннага насельніцтва. У святле абодвух, праграмных на свой лад, дакументаў не здаюцца арыгінальнымі цытаваныя на пачатку філасафічныя довады наконт «добраахвотнасці» беларускага нацыянальна-духоўнага самагубства. Прынамсі рэкамендацыі царскага саноўніка і заўвагі бальшавіцкага камісара з дастатковай адназначнасцю выказваюць механізм тае дзяржаўна-палітычнае машыны на Беларусі, прызначэнне якой перарабляць тубыльцаў у «истинно русских», або «поистине интернациональных» людзей, забяспечыць «канвеерную» вытворчасць масавіднага нацыянальна скалечанага тыпа, «натурнага турку» (метафара М.Драгаманава), які на сваёй беларускай зямлі стаецца галоўным, нярэдка ваяўнічым апанентам беларушчыны

(ліст-пратэст «жителей» з Рагачова). І не толькі апанентам, але, здаецца, і ўз'юшаным далакопам.

На гэты ж «западнорусский» рахунак можна залічыць мноства іншых, хоць знешне прыстойнейшых фактаў антыбеларускага змагання, разгорнутага ў апошні час з газетных палос, тэле-, радыёстудый, універсітэцкіх кафедраў, вайсковых штабоў і г. д.

Метамарфозы «западно-руссизма» выклікаюць паралелі з падобнай з'явай на ўкраінскай глебе, вядомай пад назваю «маларасійства». Украінскі пісьменнік і вучоны Я. Маланюк у аднайменным артыкуле зазначае, што маларасійства — гэта не маскафільства ці якое іншае «-фільства», не пазбаўленае рацыі быту як пэўны напрамак ці тактыка ў палітыцы. «Але маларасійства — гэта не палітыка і нават не тактыка, толькі заўсёды апрыёрная і татальная капітуляцыя. Капітуляцыя яшчэ перад боем». Вельмі прынадная заўвага. Яна ставіць ва ўласцівым вымеры любы від нацыянальнага рэнегацтва, тым больш ва ўмовах нацыі прыгнечанай ці духоўна ўшчэмленай, якой, па сутнасці, пакуль што застаецца нацыя беларуская, дзе ў паўсядзённым бытаванні на звычайны зварот па-беларуску чынадрал з-за канторскага стала можа самаўпэўнена й беспакарана прасіпець абразліваеe «говорите нормальным языком!».

«Западно-руссизм» і праявіўся на беларускай зямлі як стратэгія паражэнства ў нацыянальна-дзяржаўным і культурным будаўніцтве. Стратэгія, накінутая беларусам імперска-каланіяльным ладам. Нашэсцем, з аднаго боку, «истинно русского человека, великоросса-шовиниста, в сущности подлеца и насильника, каким является типичный русский бюрократ» (Ленин В.И. Полн. собр. соч. Т. 45. С. 257), а з другога — штампаваннем праз адпаведную школьна-універсітэцка-акадэмічную сістэму па мікітазноскаваму стандарту «руска-існінай тутэйшай, между прочым, інтэлігенцыі» з вытраўленым пачуццём нацыянальнай самапавагі. Што мог гэты альянс духоўнага каланізатарства, змацаваны культам пагарды да беларускага слова, беларускае тоеснасці, зрабіць дабратворчага для культуры Пушкіна й Дастаеўскага?

Пытанне само па сабе рытарычнае, але спараджае другое, здавён набалелае пытанне, непрадузяты адказ на якое, як ні мулка, а давядзецца шукаць — добра, калі б супольнымі намаганнямі, пры ўзаемаразуменні і беларусам, і рускім. Менавіта: чым жа ў рэшце рэшт адзначылася на Беларусі руская мова, руская літаратура ў абліччы многіх сваіх «русскоязычных» носьбітаў-праваднікоў — лесвіцай для ўзвышэння ці пятлёй для задушэння мовы, культуры беларускай? Тым больш што першыя спробы спакойнага заглыблення над згаданым пытаннем (гл.: Церашковiч П. Русские на Беларуси: Постинтернационалистическая рефлексия // Нёман. 1992. N 6) пераконваюць у тым, наколькі ўзважаны, навукова доказны падыход да справы здольны ўзбагаціць, у нечым і ацвярозіць прывычныя, прыпамаджаныя ідэалагічным глянцам уяўленні аб бела-

цыямі» ў кнігарнях, школах, універсітэтах, сродках масавай інфармацыі, з «каўпаком абецэдаршчыны» або залескаўшчыны над вывучэннем гісторыі Бацькаўшчыны і г.д. і да т.п. Культура з яе, бадай што, адзіным культам пагарды, ушчамлення й прыніжэння культуры нацыянальнай, беларускай. Не думаю, каб гэткая цывілізатарская пыха мясцовых «прогрессистов» мела штось супольнае з чалавекалюбнаю, сусветна спагадліваю прыродаю ўласна рускай культуры, прадстаўніцтва якой на Беларусі хацелі б замацаваць за сабой нашы дамарослыя «образованцы».

Варта, аднак, мець на ўвазе вытокі, духоўную прарадзіму гэтае «ісціна інтэлігенцкай», мікітазносаўскае партыі, каб лішні раз не памыліцца наконт яе фактычнага прызначэння. Таму дадамо да ўсяго ўжо сказанага яшчэ адно сведчанне — надта ж, на нашу думку, і паказальнае і павучальнае ў нашых развагах над праблемай «западно-руссизма». Вось яно:

«Мы хотим сказать, что если под обрусением Северо-Западного края разуметь совершенное уподобление его великорусскому типу, то такое требование только усложнит, умудрит задачу, подвергнет ревнителей обрусения неминуемому разочарованию, а через это и охлаждение к краю, возбудит охлаждение в местных жителях и поссорит их с туземцами, что отчасти уже и было. Мы, впрочем, со своей стороны нисколько не дорожим сбережением этих местных особенностей и нисколько не осуждаем тех приезжих русских, которым все эти особенности не сочувственны. Мало того, пусть они сохраняют и выражают со всей искренностью свое внутреннее убеждение в превосходстве великорусского обычая и закала. Пусть уподобление совершится, если возможно, во многом мирным влиянием великорусской народной стихии, — как мы видим это и в малороссийских губернях, уступающих каждый день неумышленной пропаганде владимирских офеней и московских купцов». І — галоўная, стратэгічная рэкамендацыя для здзяйснення задуманага: «воспитание туземной общественной силы — создание «интеллигентского» класса из местных элементов» (Аксаков И.С. Задачи России в Северо-Западном крае // Соч. М., 1886. Т. 3. С. 503—504, 506.)

Што ж, нельга не прызнаць вынаходлівасці за вядомым рускім славянафілам, духоўным пратэжэ беларускіх «западно-руссов». Трыумф «великорусского закала» на Беларусі такі адбыўся, хай сабе не адно мірным шляхам. Паспяхова здзейснена і ўзгадаванне «туземной общественной силы», мясцовых «офеней», інтэлігентнасць якіх аўтар цытаваных радкоў не без рацыі пазначыў двукоссем.

Але трыумфальнае шэсце «западно-руссизма» па беларускай зямлі, душэнне беларушчыны беларускімі рукамі (класічны метад усялякага каланіялізму) няўжо не мае свае мяжы? Сёння на пастаўленае пытанне можна адказаць станоўча: мяжа такі ўвідочнілася. Гістарычная асуджанасць «западно-руссизма» прадвызначылася, чым у многім тлумачыцца

і ўзмацненне апошнім часам яго ваяўнічае распаношанасці. Толькі гэта ўжо распаношанасць асуджэнцаў, здольных яшчэ папсаваць беларускае крыві, але не здольных ухіліцца ад канчатковага прыгавору над імі суда Беларускае гісторыі.

Распалася нарэшце сістэма, што спарадзіла й наталяла трупны вірус асімілятарства ў беларускім нацыянальным арганізме. Адраджэнне Беларускае Дзяржавы стварае рэальны грунт дзеля вырашэння драматычнае дылемы беларусаў: тэрыторыя ці нацыя, гаспадары ў сваёй хаце ці рабалепныя еўнухі чужацкіх прыхамацяў, свабодныя творцы Культуры ці паддоследныя ахвяры культуртрэгерскіх эксперыментаў «усходніх» і «заходніх» (другая, «польска-крэсавая» разнастайнасць нашага духоўнага калецтва тут не закраналася) місіянераў і іхняе дамарослае кліентуры. Станоўчае вырашэнне згаданае дылемы аб'ектыўна неўнікнёнае, колькі б ні зацягваўся пераход Беларускае Краіны ад суверэнітэту дэкларатыўнага да суверэнітэту фактычнага, дзейснага, пры якім далейшае абкрадванне й глумленне з беларускае душы стане вельмі праблематычным.

У святле сказанага і «западно-руссизм» паўстае праблемай не гэтулькі акадэмічнай, колькі і перадусім справай палітычнай, і вырашэнне яе знаходзіцца ў абсягу Беларускае Палітыкі, Беларускіх Палітыкаў, дэфіцыт якіх на Беларусі сягоння адчуваецца ці не вастрэй ад мноства іншых нястач нашага крызіснага часу.

І тым не менш беларус, сінявокі чалавек, праз сталецці змушаны саромецца й асцерагацца свае беларускасці, пачынае патроху праціраць свае, імперскай лухтой зацярушаныя вочы. Пэўне ж, пачне ён урэшце жыць і дзейнічаць па-беларуску. Знайшоўшы ў сваім беларускім выбары сэнс і асалоду жыцця.

*1992*

---

[1] Не спасылаюся на прозвішча аўтара цытаванае працы, друкаванае ў 1971 г., — мажліва, сёння ён устрымаўся б ад такое высновы — падобных меркаванняў адносна этнічнае індывідуальнасці беларусаў безліч. Прыклад скарыстаны намі як характэрная, дасюль пашыраная спроба «навуковага» абгрунтавання моўнае, наогул нацыянальнае непаўнацэннасці беларускае супольнасці, нібыта характарам свае прыроды, гісторыі асуджанага на сталае ўтрыманства, непазбежнае растварэнне ў велікарускім этнасе, або так званым «общерусском» («единорусском») народе.

[2] У 1930 г. А.Цвікевіч быў арыштаваны органамі ДПУ і паводле сфабрыкаванага абвінавачвання ў прыналежнасці да «Саюза вызвалення Беларусі» асуджаны на высланне за межы рэспублікі, у 1937 г. расстраляны. Тыраж згаданае кнігі адразу ж, з друкарскага варштату, быў канфіскаваны і амаль цалкам знішчаны. Уцалелі выпадкова адзінкавыя асобнікі ў прыватных зборах.

**Алег БЕМБЕЛЬ**
**(1939)**

**Філасаф, паэт, публіцыст, культурны дзеяч. Нарадзіўся ў Мінску. Вучыўся ў Мінскім музычным вучылішчы па класе фартэпіяна (1959—1963). Пэўны час працаваў у музычных дзіцячых школах г. Мінска. У 1963—1969 гг. — студэнт Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. У 1970 г. уступіў у Камуністычную партыю. Займаўся ў аспірантуры Інстытута філасофіі і права Акадэміі навук БССР (1971—1974), а пазней працаваў тут на пасадзе малодшага навуковага супрацоўніка (1974—1983). Напісаў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацкай культуры». Аднак да абароны навуковае даследаванне не было дапушчана з прычыны яго «нацыяналістычнага характару». З 1983 г. працаваў няштатным супрацоўнікам Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага тэлебачання. У 1984 г. вярнуўся да навуковай дзейнасці ў Інстытуце філасофіі і права АН БССР. За кнігу «Роднае слова і маральна-этычны прагрэс», выдадзеную на беларускай мове ў Вялікабрытаніі (Лондан, 1985), падвергся рэпрэсіям. Быў выключаны з партыі, пазбаўлены статуса навуковага супрацоўніка і звольнены з працы (1987). Займаўся творчай дзейнасцю. З 1991 г. — супрацоўнік Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. Як паэт у літаратурна-мастацкіх часопісах выступае пад псеўданімам Зьніч. Аўтар паэтычных зборнікаў «Саната ростані» (Беласток, 1988), «Рэха малітвы» (Нью-Йорк, 1988), «Малітвы за Беларусь» (Мінск, 1989). З 1995 г. — паслушнік мужчынскага праваслаўнага манастыра ў Жыровічах.**

## РОДНАЕ СЛОВА І МАРАЛЬНА-ЭТЫЧНЫ ПРАГРЭС
**(*Фрагмент*)**

Мова кожнага народа (акрамя інфарматыўнай, прадметна-сэнсавай, паняццевай) змяшчае унікальную, неперакладальную, «чыста гукавую» — музычную плынь, маральна і эстэтычна вельмі глыбокую і напружаную. Чалавек з развітым духоўным слыхам знаходзіць вялікую асалоду, чуе непасрэдны рух існага ў гэтай музыцы, у якой — рэха гісторыі, прыроды і духа, яго народа...

Але...

Жыццё бязлітасна ставіць пытанне: быць ці не быць у далейшым жывой стыхіі беларускага слова?..

А беларус, які ўсведамляе сябе беларусам, любы чалавек, не глухі да прыгажосці, думае: як захаваць моўную Нарач, Палессе мовы — ад НТР атрутных страў?.. Ад сытай апатыі мешчаніна?.. Што я магу зрабіць для гэтага?..

Перш за ўсё трэба ўсвядоміць, што працэсы разбурэння прыроднага і духоўнага асяроддзя чалавечага жыцця, «нацыянальнага эйкасу» і нацыянальнай культуры ідуць паралельна і знітаваны глыбей, чым здаецца на першы погляд... Што сацыяльная небяспека духоўнага разбурэння недаацэньваецца, а часцей за ўсё нават і не заўважаецца — ва ўсеагульнай сытасці, у грукаце «масавай культуры», у самагіпнозе чыста колькаснага, фармальнага «культурнага росту»... Што берагчы «духоўны эйкас» народа, «кроў культуры — мову» трэба не тады, калі ўжо будзе позна, а цяпер, калі яўных, незваротных адзнак катастрофы, «моўнай лейкеміі» быццам яшчэ няма...

Трэба пераадолець вульгарна-сацыялагічнае, прамое (для прыстойнасці, праўда, аздобленае невялічкімі, чыста колькаснымі папраўкамі) перанясенне заканамернасцей развіцця сацыяльна-эканамічнага і палітычнага «макрасвету» на «мікрасвет» нацыянальнай духоўнай культуры...

Кожны чалавек павінен глыбока адчуваць і разумець, што паўнакроўнае існаванне, развіццё і ўзаемадзеянне духоўных культур усіх народаў свету безумоўна з'яўляецца магутным фактарам, істотным момантам станаўлення чалавецтва. Што любыя спробы штучнай, фарсіраванай дэфармацыі (ці здушэння ў абдымках) той ці іншай з гэтых унікальных цэласнасцяў, якія ствараліся кожным народам на працягу многіх стагоддзяў і безліччу нерваў знітаваныя з усімі іншымі, — закранаюць істотныя моманты станаўлення ўсяго чалавецтва, робяць шкоду яго сапраўдным жыццёвым інтарэсам, і іхнія стратэгічныя вынікі не могуць быць нават прыблізна ацэнены. Іх можна параўнаць толькі з экалагічным шкодніцтвам. Бо, відаць, немагчыма прадказаць ці разлічыць, якому менавіта народу — «вялікаму» ці «маламу», «перадавому» ці «адсталаму» — і менавіта калі суджана будзе, на новым «вітку» прыродна-гістарычнай спіралі, на новым узроўні, — зрабіцца «новым Усходам», «новай Антычнай Грэцыяй», калыскай новага Адраджэння...

Глыбокі філасофскі аналіз праблем нацыянальнай мовы ажыццявімы толькі ў кантэксце агульнай культуралагічнай праблемы — праблемы нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў духоўнай культуры асобнага народа як часткі больш шырокага сацыяльнага цэлага. Адпаведныя паняцці — перш за ўсё катэгорыю «нацыянальнае» як інструмент даследавання культуры — мы разгледзім ніжэй. Спачатку, у якасці папярэдніх заўваг, я паспрабую аспрэчыць некаторыя меркаванні футуралагічнага характару, якія, нягледзячы на іх быццам «чыста тэарэтычны» і нават «фантастычны» характар, маюць самае прамое дачыненне да нашай моўнай практыкі.

Амаль у кожнай сучаснай манаграфіі, прысвечанай разгляду тэарэтычных пытанняў нацыянальнага развіцця і міжнацыянальных адносін, перш за ўсё ў галіне культуры, мы знаходзім раздзелы, у якіх аўтары імкнуцца заглянуць у далёкую будучыню, у тыя часы, якія наступяць за этапам усебаковага росквіту народаў свету і іх нацыянальных культур ва ўмовах сталай сусветнай камуністычнай цывілізацыі[1]. Многія з іх, у той ці іншай форме, схільны лічыць, што хаця этнічныя і культурныя (у прыватнасці, моўныя) адрозненні (якія яны разглядаюць як рэшткавыя з'явы — у тых, будучых умовах) будуць існаваць яшчэ доўга і ў эпоху сталага сусветнага камунізму, але ж з цягам часу і яны растануць ва ўсеагульнай безнацыянальнай цэласці чалавецтва. Наконт гэтага таксама дазволю сабе выказаць некаторыя меркаванні.

Людзям заўсёды было ўласціва палкае жаданне ўявіць сабе, што будзе «там, за гарызонтам» (у дадзеным выпадку — за «часавым гарызонтам»), — нават калі гэта і не выклікалася непасрэднай практычнай неабходнасцю. На мой погляд, думкі па гэтых далёкіх у часе пытаннях карысныя нават і тады, калі меркаванні, якія пры гэтым выказваюцца, не ва ўсіх сваіх аспектах з'яўляюцца дастаткова абгрунтаванымі і пераканальнымі. Так, на наш погляд, канцэпцыя поўнага этнічнага і культурнага (у прыватнасці, моўнага) «зліцця» народаў ва ўмовах сусветнага камунізму не змяшчае ў сабе нават патэнцыяльнага адказу на шэраг важных агульнафіласофскіх і прыватных пытанняў. Напрыклад, незразумела, як людзі будуць успрымаць шматвяковую творчую спадчыну нацыянальных паэтаў, калі знікнуць жывыя мовы, ад якіх яны неадрыўныя?.. Няўжо толькі ў перакладах на адну вялікую сусветную мову?[2] У плане агульнафіласофскім, калі ўявіць сабе ў будучым поўную этнічную і культурную (у прыватнасці, — моўную) аднароднасць чалавецтва, то ў трыядзе непарыўна звязаных катэгорый «агульнага» (чалавецтва як пэўная цэласць), «асаблівага» (этнасы і нацыянальныя культуры) і «адзінкавага» (асобны чалавек) знікае найважнейшая катэгорыя «асаблівага».

Урэшце, узнікае і такое пытанне: а навошта наогул імкненне ў тэорыі (практыка такога пытання ніколі не ставіла) да поўнага этнічнага і культурнага «зліцця» чалавецтва, калі росквіт народаў і нацыянальных культур ва ўмовах сацыяльнай гармоніі і сацыяльнага адзінства чалавецтва ў сусветнай камуністычнай цывілізацыі адкрывае бязмежныя перспектывы творчага развіцця чалавецтва, пружынай якога якраз і з'явіцца канструктыўнае творчае ўзаеманапружанне, узаемаўплыў высокаразвітых, высокаіндывідуалізаваных нацыянальных духоўных культур, — у той час як «узрастанне нацыянальнай энтрапіі» (поўнае этнічнае і культурнае «зліццё» народаў) лагічна і эмацыянальна ўспрымаецца як пачатак творчага і прыроднага заняпаду чалавецтва?.. Каму спатрэбіцца — нават у самым далёкім часе — і навошта «поўнае сціранне адрозненняў», скажам, у знешнім выглядзе грузін і эстонцаў (кожны народ мае свае ўяўленні і аб чыста прыродным харастве чалавека), і іх характарах,

«манеры разумець рэчы» і, адпаведна, у іх духоўных культурах, якія адлюстроўваюць усё гэта?.. Рускім? Палякам? Французам? Справе пабудовы камунізму? Сапраўднаму сяброўству паміж народамі? Гэта нікому не патрэбна ў наш час. Тым больш не зразумела, каму і навошта гэта спатрэбіцца, калі ўсе класавыя антаганізмы разам з самімі класамі адыдуць у далёкае гістарычнае мінулае, а сусветная камуністычная цывілізацыя будзе трывалай эканамічнай і сацыяльнай асновай росквіту творчай індывідуальнасці ўсіх народаў, міжнацыянальнай прыроднай і духоўнай гармоніі (як і росквіту творчай індывідуальнасці кожнага асобнага чалавека і гармоніі міжіндывідуальнай)? У тэарэтычным імкненні да, так сказаць, «татальнага зліцця», на наш погляд, практычна не ўлічваецца якасная спецыфіка, унутраныя прыродна-гістарычныя рытмы развіцця этнічных і духоўна-культурных цэласнасцей. Фактычна заканамернасці развіцця сацыяльна-эканамічных арганізмаў (у дадзеным выпадку неабходнасць і непазбежнасць іх глабальнага «зліцця» у сусветным камуністычным грамадстве) механічна пераносяцца на сферы этнічнага і духоўнага станаўлення чалавецтва — з той толькі розніцай, што працэсы «зліцця» ў гэтых сферах уяўляюцца ў гістарычным плане крыху больш павольнымі. У палітычнай практыцы гэтыя ўяўленні не могуць прынесці ніякай карысці камуністычнаму руху. Наадварот, яны даюць добрыя козыры нашым палітычным апанентам у іх палеміцы супраць нас па пытаннях нацыянальнага развіцця і міжнацыянальных адносін, могуць прывесці да памылак у нацыянальнай палітыцы і адштурхнуць ад актыўнага ўдзелу ў стварэнні камуністычнага грамадства многіх дзеячаў нацыянальнай творчай інтэлігенцыі.

«Калі гаворка заходзіць аб прагназаванні мастацкай культуры будучыні, — піша вядомы даследчык беларускай культуры У.М.Конан, — наглядаецца некрытычны падыход да ўстойлівых стандартных уяўленняў аб безнацыянальнай «адзінай агульначалавечай культуры бяскласавага грамадства», у якім нібыта будзе ліквідавана «сама праблема нацыянальнага ў мастацтве». Але ж будучая агульначалавечая культура, згодна з законам спадчыннасці, успрымае лепшыя дасягненні шматвяковай мастацкай культуры, створанай у нацыянальных формах, якія патрабуюць для свайго адэкватнага засваення ўспрыімлівасці да нацыянальнай своеасаблівасці, напрыклад, ведання нацыянальных моў і г.д.»[3].

«Такім чынам, — працягвае У.М.Конан, — праблема нацыянальнага ў мастацтве ўсё ж застаецца, калі не рабіць дапушчэння, што «адзіная агульначалавечая культура» будучыні адмовіцца ад сваіх шматвяковых нацыянальных традыцый. Дыялектычна супярэчлівыя суадносіны нацыянальнага і інтэрнацыянальнага, бясспрэчна «двухмерныя», пашыраюцца не толькі на мінулае, але і на будучыню. Можна выказаць меркаванне, што эмпірычна яны рэалізуюцца праз бесупыннае ўдасканаленне «каналаў сувязі» паміж нацыянальна дыферэнцыраванымі культурамі, якія ўзаемна збліжаюцца. Стандартнае ўяўленне аб поўнай элімінацыі

нацыянальнай своеасаблівасці ў будучай агульначалавечай культуры ўзнікла з лагічна памылковай прадумовы, быццам культура кожнага пэўнага адрэзку часу з'яўляецца не складанай у структурных адносінах сістэмай, якая ўключае ў сябе ў якасці падсістэм «гарызантальныя» (прасторавыя) і «вертыкальныя» (часавыя) плыні культуры, а нечым абсалютна аднародным, недыферэнцыраваным, толькі што створаным, а таму — дазваляючым сабе «ліквідаваць» праблему нацыянальных традыцый»[4].

На наш погляд, пры абмеркаванні гэтых далёкіх у часе пытанняў, якія будуць звязаны з пошукамі аптымальных шляхоў развіцця нацыянальных духоўных культур і этнасаў на этапе сталай сусветнай камуністычнай цывілізацыі і якія прыйдзецца вырашаць далёкім ад нас у часе і значна больш развітым за нас пакаленням народаў свету, вельмі дарэчы будуць словы Энгельса, якія ўсёй сваёй логікай і гумарам заклікаюць нас да пэўнай стрыманасці і асцярожнасці ў суджэннях па ўсіх пытаннях, што знаходзяцца па-за «часавым гарызонтам» любой эпохі і ў роўнай меры могуць быць дастасаваны да кожнага з гэтых пытанняў (у Энгельса гаворка ідзе пра сямейна-шлюбныя адносіны ў камуністычным грамадстве): «Тыя меркаванні, што мы можам цяпер выказаць пра формы адносін між паламі пасля знішчэння капіталістычнай вытворчасці, якое павінна адбыцца, маюць пераважна негатыўны характар, абмяжоўваюцца ў пераважнай большасці выпадкаў тым, што будзе адкінута. Але што прыйдзе на змену? Гэта вызначыцца, калі вырасце новае пакаленне... Калі гэтыя людзі з'явяцца, яны адкінуць да д'ябла тое, што, згодна цяперашнім уяўленням, ім трэба рабіць: яны будуць ведаць самі, як ім дзейнічаць...»[5]. Усё гэта цалкам можна сказаць і пра тыя пакаленні народаў свету, якія будуць вырашаць праблемы этна-культурнага развіцця ў камуністычнай будучыні. Яны, безумоўна, адкінуць усе негатыўныя моманты міжнацыянальных адносін, якія былі выкліканы класавымі антаганізмамі папярэдніх эпох. А далейшы напрамак этнічнага і духоўнага развіцця народаў свету (ва ўмовах глабальнай сацыяльнай цэласнасці чалавецтва), агульны характар якога, здаецца, можна азначыць у цяперашні час як творча напружаную шматнацыянальную гармонію сусветнай камуністычнай цывілізацыі, далейшую канкрэтызацыю форм і шляхоў гэтага развіцця вызначаць пакаленні, якія вырастуць і сфарміруюцца ў тых умовах. Нашы сучасныя меркаванні ў гэтым плане, натуральна, абмежаваны толькі ўзроўнем лагічнага ці інтуітыўнага прадчування ці, урэшце, сферай пошукаў пэўных зародкавых момантаў будучага ў сучасных працэсах этнічнага і духоўнага развіцця народаў у нашу пераходную ад капіталізму да камунізму эпоху.

Ёсць, аднак, даследчыкі, якія ўжо цяпер, у якасці «ісціны ў апошняй інстанцыі», выказваюць «катэгарычны імператыў» — для тых далёкіх пакаленняў: татальнае (у тым ліку этнічнае, культурнае, моўнае і т.д.) «зліццё» народаў свету ў нейкую «па-за нацыянальную» аднародную ма-

су (якую менавіта — яны, вядома, растлумачыць не могуць). Мы ні ў якім разе не будзем прыклейваць ім ярлыкі, як яны гэта вельмі любяць рабіць самі (хоць і добра вядома, як завецца такое «лінейнае», «эўкліда-ва» праэцыраванне сацыяльна-эканамічных і палітычных заканамернас-цей на сферу чалавечага генафонду і духоўнай культуры). Мы ім прапа-нуем лепей абвергнуць наступную антыномію іх катэгарычным сцвяр-джэннем.

Яны любяць выказваць думку: няма аднаго з істотных прызнакаў на-цыі — любога! — няма і нацыі. Глабальнае сацыяльна-эканамічнае і арганізацыйна-палітычнае зліццё непазбежна прывядзе праз некаторы (няхай сабе і вельмі працяглы) час да поўнага этнічнага (у цяперашні час расце колькасць змешаных шлюбаў)[6], культурнага (духоўныя куль-туры народаў ужо цяпер інтэнсіўна і глыбока ўзаемадзейнічаюць, уплы-ваюць адна на адну, — што ж будзе тады, калі аніякіх «бар'ераў» паміж імі не будзе!..), моўнага (мовы таксама ўсё больш інтэнсіўна ўзаемадзей-нічаюць, «узаемапранікаюць») і г.д. «зліцця» народаў свету.

Зразумела, думка аб тым, што сацыяльна-эканамічнае і палітычнае «зліццё» адымае асноўны, фундаментальны прызнак (момант) паняцця «нацыі» і таму «нацыі» знікаюць, «зліваюцца» ў сацыяльнай цэласнасці сталай сусветнай камуністычнай цывілізацыі, — гэтая думка правільная і нават належыць да ліку «прапісных ісцін». Аднак што да астатніх аб'ектыўна рэальных прызнакаў сучасных нацый (этнічных, культурных, моўных і г.д.), якія прайшлі жорсткія гістарычныя выпрабаванні на пра-цягу многіх стагоддзяў і нават тысячагоддзяў і не зніклі, не сцерліся, нягледзячы на часамі надзвычай цяжкія ўмовы для іх захавання, на шматлікія наўмысныя спробы знішчыць іх назаўсёды, — то як можна катэгарычна сцвярджаць, што яны знікнуць, што народы самі выракуц-ца таго, што стварылі, баранілі і перанеслі скрозь бездань часоў і пака-ленняў, — у аптымальных сацыяльных умовах сталага сусветнага каму-нізму, ва ўмовах творчай гармоніі, вялікай сусветнай сябрыны наро-даў?.. Гэтае сцвярджэнне і лагічна, і эстэтычна, і маральна ўспрымаецца як вельмі слаба абгрунтаванае. А галоўнае — як бяссэнсавае, жудаснае і амаральнае.

Сталы камунізм будзе мяжой якаснага скачка ў развіцці этнасаў (на-родаў), мяжой з'яўлення новых гістарычных форм «этна-сацыяльных арганізмаў», у адносінах да якіх іхняя сучасная найвышэйшая форма («нацыя») будзе такой самай папярэдняй гістарычнай ступенню, якой «народнасці» і «рода-племянныя супольнасці» былі ў адносінах да самой «нацыі».

Палымяныя прыхільнікі татальнага культурнага і моўнага «зліцця» народаў — калі іх спытаеш: а навошта ж вам патрэбна гэтае «зліццё», чаму вам ужо так абрыдлі нацыянальныя мовы, што самае мілае вашаму сэрцу — гэта як мага хутчэй адкінуць іх у нябыт (няхай сабе пакуль што толькі ў тэорыі)? — адказваюць прыблізна так: «Каб бачыць перспекты-

ву!.. Каб правільна накіроўваць культурнае будаўніцтва і духоўнае развіццё народаў. Каб не аддаляць народы адзін ад аднаго, а збліжаць іх. Мноства моў у наш век НТР перашкаджае свабодным кантактам паміж народамі, адгароджвае кожны народ ад усіх астатніх, робіць шкоду ўзаемаразуменню і дружбе паміж народамі, справе камунізму...» і г.д.

Мне здаецца, наадварот: найбольшую прапагандысцкую шкоду справе камунізму і сапраўднаму сяброўству народаў робіць якраз катэгарычнае сцвярджэнне, што неацэнныя скарбы народаў — іхнія культуры і мовы — пры сталым сусветным камунізме будуць адкінуты, як нешта нікому не патрэбнае, і забыты. Якраз менавіта падобныя сцвярджэнні, спробы зрабіць «катэгарычна-імператыўнай» адну з антыномій, якую ні лагічна, ні эстэтычна, ні маральна яны абгрунтаваць не могуць, — робяць найвялікшую шкоду той справе, якую іх аўтары быццам абараняюць. Антыкамуністычная, антысавецкая прапаганда якраз ловіць і актыўна выкарыстоўвае гэтыя сцвярджэнні ў псіхалагічнай вайне. «Глядзіце, — зноў і зноў паўтарае іхняя прапагандысцкая машына, звяртаючыся асабліва да раней прыгнечаных народаў, але не толькі да іх (гэта яна падкідае і французам, і італьянцам, і іспанцам, і немцам), — калі вы пойдзеце за камуністамі, за Саветамі, — вашы культуры і мовы будуць знішчаны. Не адразу, вядома. Некаторы час вам дадуць яшчэ пагуляць з гэтымі цацкамі. Але потым іх выкінуць назаўсёды. Іхнія тэарэтыкі і не ўтойваюць гэтага...»

Пры наяўнасці мовы міжнародных зносін (а ў нас такая мова ёсць, і гэта — вялікае дабро для ўсіх братніх народаў СССР; у перспектыве, зразумела, будзе і сусветная мова міжнацыянальных зносін ці дзве-тры з сучасных «вялікіх моў») народы свабодна развіваюць і паглыбляюць кантакты і ўзаемадзеянні ў галіне духоўнай культуры. І толькі гэта спрыяе ўсё больш поўнаму раскрыццю арыгінальных творчых патэнцый культуры і мовы кожнага асобнага народа. Гэта ўсё настолькі натуральна і відавочна, што нават неяк няёмка даводзіць, здавалася б, «прапісныя ісціны». Але, на жаль, прыходзіцца...

Выказваецца і такая думка: пытанне аб «зліцці» (ці «адміранні») нацыянальных моў такое далёкае ў часе, што цяпер няма аніякай патрэбы яго ставіць і абмяркоўваць.

Гэта далёка не так. Абапіраючыся на тэзіс неабходнага і немінучага «моўнага зліцця» ў будучым як на стратэгічны арыенцір (прыхільнікі гэтага тэзісу не адрозніваюць мову як сродак зносін — у прыватнасці і міжнацыянальных — і мову як форму існавання пэўнай культуры), — іншыя жвавыя адміністратары, якія не разумеюць ні свайго прафесійнага і маральнага, ні нават свайго канстытуцыйнага[7] абавязку, што цяпер ствараюць вакол моў, якія, на іхні погляд, у першую чаргу «аджываюць свой век» і праз некаторы час цалкам адыдуць у нябыт, псіхалагічны і арганізацыйны клімат, вельмі далёкі ад спрыяльнага. Яны мяркуюць прыкладна так (і не лічаць нават патрэбным хаваць свае думкі): «Калі

мовы немінуча сальюцца ў будучым — дык навошта іх цяпер развіваць? Навошта рабіць дарэмную справу — ствараць на «другарадных мовах» тэксты — паэмы, раманы, дысертацыі, філасофскія трактаты і г.д. (якія ўсё роўна «ніхто не чытае»), праводзіць навуковыя канферэнцыі, семінары (на якіх усё роўна «ніхто нічога не разумее») і г.д.?.. Давайце лепей гэтых кволых старых паціху, дзе магчыма, падштурхнём у труну, давайце ўжо цяпер актыўна рабіць тое, што гістарычна прагрэсіўна і немінуча!..»

І робяць...

Так што, здавалася б, «вельмі далёкае ў часе» пытанне мае самае прамое дачыненне да нашых сённяшніх спраў. І тое ці іншае «чыста тэарэтычнае» яго вырашэнне робіць непасрэдны ўплыў на практыку — перш за ўсё на практыку слоўнай творчасці, на стварэнне адпаведнага псіхалагічнага і арганізацыйнага клімату вакол развіцця пэўных плыняў прафесійнай творчай дзейнасці (напрыклад, культуралагічнай плыні філасофскага працэсу) у адэкватнай моўнай форме.

*1985*

---

[1] Гл., у прыв.: Куличенко М.Н. Национальные отношения в СССР и тенденции их развития. М., 1972. С. 515—558; С.Т.Калтахчян. Ленинизм о сущности нации и пути образования интернациональной общности людей. М., 1976. С. 151, 177, 401—407 і інш.; Рогачев П.М., Свердлин М.А. Нации, народ, человечество. М., 1967 і інш.

[2] Больш падрабязна пра сувязі паэзіі з нацыянальнымі мовамі гл. ніжэй.

[3] Гл.: Конон В.М. Эстетическая мысль Советской Белоруссии. Мн., 1978. С. 71.

[4] Тамсама. С. 71—72.

[5] Гл.: Маркс К., Энгельс Ф. Соч.: Т. 21. С. 109—110.

[6] Дарэчы, расце і колькасць насельніцтва Зямлі (так званы «дэмаграфічны выбух»). Але на гэтай падставе мала хто сцвярджае, што праз якую сотню ці дзве гадоў на Зямлі будзе людзей, як у аўтобусе ў часы «пік». Хоць — калі сучасныя дэмаграфічныя працэсы праэцыраваць у будучыню «па эўклідавай прамой» — гэтая перспектыва выглядае значна больш верагоднай, чым татальнае этнічнае «зліццё» чалавецтва — на аснове сучаснага ўзрастання колькасці змешаных шлюбаў.

[7] «Клопат аб захаванні гістарычных помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей — доўг і абавязак грамадзян Беларускай ССР» (артыкул 66). А ці ж не найважнейшая з «іншых культурных каштоўнасцей» — нацыянальная мова, з якой выраблены ўсе помнікі слоўнай культуры народа і на якой разгортваецца жывое нацыянальнае духоўнае жыццё?.. (Гл.: Канстытуцыя (Асноўны Закон) Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Мн., 1978. С. 22).

**Ніл ГІЛЕВІЧ**
(1931)

Паэт, фалькларыст, літаратуразнавец, перакладчык, публіцыст, культурны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Слабада Лагойскага раёна на Міншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1956). З 1960 г. працаваў на кафедры беларускай літаратуры ў БДУ. Кандыдат філалагічных навук (1963). Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі, у 1980—1989 гг. — першы сакратар праўлення. Прымае актыўны ўдзел у беларускім культурным і грамадска-палітычным жыцці. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. У 1989 г. абраны старшынёй Таварыства беларускай мовы. Узначальваў у беларускім парламенце Пастаянную камісію па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны (з 1989 г.). Займаецца літаратурнай і навуковай дзейнасцю. Аўтар некалькіх паэтычных зборнікаў, літаратуразнаўчых даследаванняў і прац па беларускім фальклоры. Перакладчык і папулярызатар балгарскай і славенскай паэзіі.

## «І СУВЕРЭНІТЭТ ДУХУ!»
(*Фрагмент*)

Не думаю, што трэба рабіць наўмысную агаворку і прасіць чытачоў, каб не спяшаліся абвінаваціць «у адрыве, у адасабленні, у нацыянальнай замкнутасці, у правінцыялізме» і іншых грахах смяротных. Можа, перастанем ужо, нарэшце, карыстацца гэтымі гнюснымі стэрэатыпамі? Размова аб тым, што, беручы, і шчодра беручы, з сусветнае культуры, трэба ўсё ж помніць, што ўзятае духоўнае багацце павінна не забіваць сваё, а наадварот — як жыватворная вада, павінна спрыяць яго росту і росквіту. Але менавіта — свайго! Таго адметнага і самабытнага, чаго не дасць, не вырасціць аніякі іншы народ у свеце!..

Да многіх з нас усё не даходзіць, што клопат пра развіццё беларускай мовы і культуры мае першаступеннае значэнне для лёсу нашай нацыі наогул. Калі мы хочам быць самі сабою, зразумела. Культура, духоўнасць — гэта тая вельмі тонкая матэрыя, якая непарыўна і моцна яднае нас. Нас — гэта значыць усіх жыхароў Беларусі. Натуральна, каб людзі прыезджыя маглі ўжыцца ў яе, урасці душою, зрабіць сваёю роднай — на гэта патрэбна і вялікае жаданне, і багата часу. Для добрых людзей умова гэта зусім зразумелая, бо, не ўжыўшыся, не адчуўшы гэту культу-

ру сваёй, роднай, — плённа супрацоўнічаць з ёю не зможаш. Скарэй за ўсё будзеш насаджаць усесаюзна-шэры псеўдакультурны стандарт.

Хацелася б думаць, што сёння ўжо ўсім ясна: каб стрымаць эканамічна-сацыяльны рэгрэс у рэспубліцы, стабілізаваць спажывецкі рынак, навесці парадак і лад і затым пайсці абноўленым шляхам далей, наперад, — патрэбна яднанне ўсіх здаровых сіл грамадства, незалежна ад партыйнасці, нацыянальнасці, веравызнання, прафесіі, адукацыі... Інакш кажучы — патрэбна нацыянальная згода, патрэбна адзінства нацыі ў галоўным. А па чым вызначана, што мы — нацыя, калі найпершы вызначальны прызнак — культура, наша, беларуская, у сваім уласным доме, на сваім уласным падворышчы, на сваёй роднай зямлі, — варты жалю экзатычны даважак?

Паўтараю: для рашучага выпраўлення становішча ў рэспубліцы апрача неадкладнага прыняцця пэўных законаў трэба мабілізаваць духоўныя сілы народа — так, як гэта было ў час вайны, старэйшыя людзі помняць. Трэба абудзіць усё лепшае, што ёсць у яго душы, у яго маралі, аднавіць усе яго прыгожыя і плённыя традыцыі, звычаі... А што — у нас— лепшае? Ці ведаем мы самі гэта?

Я думаю, гэта тое, што складае апору народнага характару: надзейная маральная чысціня, трываласць душы і сэрца. Непрымальнасць здрады, адступніцтва, фальшу і крывадушнасці, блазенства і юродства, цынізму. Прыроднае патрабаванне — ад сябе і іншых — маральнай чыстаплотнасці, элементарнай чалавечай прыстойнасці, пачуцця абавязковасці. Прыроднае адчуванне высокага, духоўна прыгожага, чалавечага і — нізкага, нікчэмнага, нялюдскага.

У нашым народзе яшчэ шмат гэтай маральнай сілы, духоўнай самастойнасці, незалежнасці, свабоды самапачування. Не даць растранжырыць гэтыя сілы даастатку, абудзіць іх, падтрымаць і памножыць — вось задача задач для ўсіх, хто сёння шчыра зацікаўлены ў адраджэнні нашай нацыі.

Жыццё кожнага народа мае свой адметны характар, вызначаецца сваім уласным стылем, які бачым ва ўсім: у асаблівасцях гаспадарання, у абыходжанні з прыродай, у характары народных майстроў, само сабой — у побыце, у звычаях і абрадах, у сям'і і ў адносінах з суседзямі, у мастацкай творчасці. Усё гэта мае вельмі вялікае значэнне. Такі народ можа сказаць: «Вось — я, і падобны на іншых, і ўсё ж адметны ад іх, маю сваю культуру і мову, сваю галаву на плячах, жыву сваім уласным розумам — хаця і люблю параіцца з суседзямі і запазычыць у іх што-небудзь мудрае, трымаюся сваіх маральных правілаў, якія мне дасталіся ў спадчыну, умею тое, чаго не ўмеюць іншыя, чуюся гаспадаром там, на сваёй зямлі, і я здольны зрабіць сваё жыццё і заможным, і цікавым...»

Такім народам быў, ёсць і будзе наш беларускі народ, хоць сёння яго долю інакш як праклятай і не назавеш. Нацыянальную годнасць яго, што была так хараша загаварыла ў 20-я гады, прынізілі, заглушылі, а

сям-там і зусім вытравілі, культуру яго, падрэзаўшы крылы, пасадзілі на галодны паёк, нацыянальную школу знішчылі, мову ператварылі ў прадмет насмешак і крыўлянння. Мала гэтага — нашы першыя актыўныя высілкі, скіраваныя на дзяржаўнае і духоўнае адраджэнне Беларусі, у значнай меры паралізаваны Чарнобылем. Здавалася б, перад гэткай страшнай бядой ідэя нацыянальнай згоды аб'яднае нас, грамадзян рэспублікі, цесна-моцна. На вялікі жаль, такога не назіраецца. Сляпыя пачуцці, неразумныя амбіцыі, бяздумнасць, безадказнасць і ўсё, што хочаце, толькі не самаадданая мазольная праца, толькі не жаданне згуртавацца ў адзіным клопаце пра будучыню Беларусі, нашых жа дзяцей і ўнукаў. Ну і, канешне ж, адкрытае і замаскіраванае супраціўленне суверэнітэту рэспублікі, нашаму нацыянальнаму адраджэнню. Ды яшчэ якое супраціўленне! Чаго варта адно нядаўняе публіцыстычнае выступленне А.І.Салжаніцына («Как нам обустроить Россию? Посильные соображения»). Калі нават ён, пісьменнік, адмаўляе нам, беларусам, у праве на дзяржаўны і духоўны суверэнітэт, на самастойнае гістарычнае жыццё, — дык што ж тады хацець ад іншых, скажам, ад чыноўнікаў, ад абывацеляў?..

Дык Бог з імі з усімі! Няхай шчыруюць! Тыя, што не хацелі прызнаваць нас трыста, і дзвесце, і семдзесят гадоў назад, шчыравалі не меней. І ўсё-такі мы жывема! І глядзім у будучыню аптымістычна. Верым у свой вялікі лёс гэтак жа моцна, як верылі Францішак Скарына і Васіль Цяпінскі, Кастусь Каліноўскі і Францішак Багушэвіч, Янка Купала і Якуб Колас, Максім Багдановіч і Цётка, Алесь Гарун і Максім Гарэцкі, і многія іншыя апосталы, духі-заступнікі Беларусі, чые імёны сёння на нашым сцягу.

*1990*

**Васіль БЫКАЎ**
**(1924)**

Пісьменнік, публіцыст, грамадскі і культурны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Бычкі Аршанскага раёна (Віцебская вобл.). Вучыўся на скульптурным аддзяленні Віцебскага мастацкага вучылішча. У Другую сусветную вайну быў мабілізаваны на абарончыя работы. З 1942 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў вайсковае пяхотнае вучылішча ў г. Саратаве. З 1943 г. ваяваў на фронце. Быў двойчы паранены. Прымаў удзел у ваенных аперацыях савецкіх войскаў на Балканах і ў Аўстрыі. У 1947 г. выйшаў у запас. Жыў у Гродна, дзе працаваў у рэдакцыі абласной газеты «Гродзенская праўда» (1947—1949). У 1949—1955 гг. зноў на вайсковай службе ў Савецкай Арміі. Пасля канчатковай дэмабілізацыі вярнуўся ў Гродна і ў рэдакцыю газеты (1956—1972). З 1978 г. — на літаратурна-творчай працы. Як пісьменнік сфарміраваўся ў 60—70-я гг. Аўтар аповесцей, апавяданняў, драматургічных твораў, нарысаў, рэцэнзій і публіцыстычных артыкулаў. У беларускай і еўрапейскай літаратуры вядомы як аўтар ваенных твораў «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Абеліск», «Дажыць да світання», «Сотнікаў», «Альпійская балада» і інш. За аповесць «Мёртвым не баліць» і глыбока праўдзівы, бескампрамісны характар адлюстравання ў ёй маральна-этычнай праблематыкі і паводзін чалавека на вайне прасьледаваўся савецкімі партыйнымі ўладамі. Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі. З пачатку 80-х гг. даследуе ў сваёй творчасці праблему калектывізацыі ў яе маральна-этычным кантэксце (аповесці «Знак бяды», «Аблава»). Новы акцэнт ідэйна-мастацкіх пошукаў пісьменніка яскрава дэманструюць мастацкія творы і публіцыстыка апошняга дзесяцігоддзя («У тумане», «Кар'ер», «Сцяна», зборнік публіцыстычных артыкулаў «На крыжах» і інш.). Поруч з літаратурнай творчасцю пісьменнік прымае актыўны ўдзел у грамадскім і культурным жыцці Беларусі.

## АД НЯНАВІСЦІ — ДА СОРАМУ

Не бяруся меркаваць, ці гэта заканамернасць, або гістарычны казус, але факт, што галоўнай эмацыянальнай сілай нашага грамадства, яго своеасаблівай нацыянальнай рэлігіяй стала нянавісць. Выхаваная на працягу дзесяцігоддзяў нашай гісторыі, яна дасягнула свайго максімальнага, класічнага ўвасаблення ў гады рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, хаця і пасля іх не выявіла намеру паменшаць. Ленінізм як і ідэалогія і палітыка з моманту свайго зараджэння ўзялі нянавісць у якасці галоўна-

га і дзейснага сродку для хуткага дасягнення разбуральных мэтаў. Сталінізм выдатна развіў гэта пачуццё ў народных масах, сублімаваў яго ў якасці універсальнай зброі ажыццяўлення нечуванай па маштабах татальнай палітыкі. Нянавісць стала амаль арганічнай часткай вялізнай ідэі таталітарнага заняволення чалавека. На ўдасканаленне і развіццё гэтай заалагічнай ідэі былі скіраваны вялізныя матэрыяльныя і духоўныя сілы грамадства. Бальшавікі вельмі рана і добра зразумелі ўсю перавагу гэтага пачуцця і, захапіўшы ўладу, панішчылі перш за ўсё рэлігію як галоўную маральную перашкоду на шляху нянавісці. І гэта зразумела: бальшавізм і хрысціянства аказаліся ўзаемавыключнымі ідэямі, адна з іх павінна была саступіць. Робіцца ўсё больш відавочным, што гвалтоўнае вынішчэнне з нашага жыцця хрысціянскай рэлігіі — катастрофа, можа быць, самая вялікая з усіх, якія калі-небудзь спасцiглі нашу краіну.

Ад пачатку перабудовы шмат у краіне перамянілася: знікае страх як магутны сродак арганізацыі і падаўлення нацыі. Але нянавісць засталася. Яна раз’ядноўвае народы, нацыянальнасці, класы, пазбаўляе людзей маральных арыенціраў, бянтэжыць розум інтэлігенцыі. І ўсё гэта праз нашу задоўжаную ў гісторыі несвабоду, наша застарэлае нявольніцтва, якім мы цяжка прыдушаны на працягу стагоддзяў і не можам ад яго вызваліцца нават пры канцы дваццатага стагоддзя. Ды і не спяшаемся тое рабіць. Падобна, што наша паднявольнае становішча нам падабаецца, бо іншае нам невядома. Або таму, што ў нас быццам бы «асаблівы шлях», дзе ўсё перакулена дагары нагамі. Пазбаўленыя маралі і творчай свабоды, мы страцілі густ да працы і, здаецца, страчваем густ да самога жыцця. Густ да нармальнага чалавечага жыцця нам падмянілі пячорным інстынктам барацьбы — малаважна, за што і з кім. Барацьбы з яўным, а лепш з надуманым ворагам, чужой ідэалогіяй, за светлую будучыню і высокі ўраджай. Але абавязкова, каб змагацца і перамагаць. Нават тады, калі ўжо з самага пачатку зразумела, што наша перамога не прынясе нам нічога добрага. Наша свядомасць, вызваленая ад старажытных хрысціянскіх дагматаў, сем дзесяцігоддзяў засмечана антычалавечымі догмамі, у аснове якіх усё тая ж, ледзьве закамуфляваная жывёльная нянавісць. Менавіта наша нянавісць — класавая, ідэалагічная, дзяржаўная, — апроч усяго іншага, даўно і багата поўніць сусветнае зло ва ўсіх яго сучасных формах і відах. З’яўляючыся пракляццем для чалавецтва, яшчэ нядаўна яна пагражала самому існаванню чалавечага роду.

Можа ўзнікнуць пытанне: чаму так адбываецца? Ці, можа, недарэчнасць — усё тое наша праклятае пачуццё, як і прычыны, што яго нараджаюць? Але ўся справа ў тым, што не недарэчнасць. Наша гісторыя і наша паўсядзённае існаванне няспынна генерыруюць самае спрыяльнае асяроддзе для татальнай нянавісці, усё новыя пакаленні і народы захопліваюцца ў яе арбіты. Зразумела, што ў такіх умовах не можа існаваць дабро, яно проста не ў стане прыжыцца.

Гады перабудовы выявілі новыя заканамернасці нашага існавання, калі адна, так сказаць, агульнадзяржаўная нянавісць распалася на мноства іншых нянавісцяў — нацыянальных, партыйных, карпаратыўных, групавых. Ксенафобія, русафобія, антысемітызм... Але таму, што нянавісць зрабілася драбнейшай, лепшай яна не стала. Ненавідзяць усе і ўсіх. Народ ненавідзіць партыю і яе кіраўніцтва, якія завялі краіну ў пастку. Страчваючы ўладу, партыя гатова ўзненавідзець народ, які марудна ўстае з каленяў і праяўляе непаслухмянасць. Інтэлігенцыя ў спрадвечным выбары паміж ісцінай і разлікам падзялілася на два варажнечыя лагеры. Ва ўмовах эканамічнага крызісу краіну ахапіла мітуслівая барацьба за прывілеі, гэтыя жабрацкія крошкі са збяднелага панскага стала. Ветэраны мінулай вайны поўныя варажнечы да маладых, запэцканых ваеннай авантурай «афганцаў», а тыя ў сваю чаргу — да састарэлых пераможцаў нямецкага фашызму. Усіх разам іх ціха, але глыбока не любіць сучасная моладзь, якую і тыя і іншыя спрабуюць выхоўваць у даўно скампраметаваным духу патрыятызму. У адрозненне ад старых часоў, калі выхаваныя людзі стараліся ўтаіць гэта нехрысціянскае пачуццё, цяперашнія ім адкрыта ганарацца. Як ганарацца сваёй нецярпімасцю да ўсяго, што не наша, што не так, як у нас. Бо ў нас, як вядома, «свой асаблівы гістарычны шлях», свая мараль і свая «своеобразная стать». Чужы, нават самы дадатны вопыт для нас — не прыклад, нам трэба свой. Але свой ужо быў, былі дзесяцігоддзі нечуваных эксперыментаў з іх горкім, трагічным вынікам. Дзіўна, што, не ўмеючы што-небудзь вынайсці сваё, вартае, мы з упартасцю маньякаў адмаўляем не толькі заходні быт, прагматызм, культуру, але і здаровы сэнс, які ляжыць у аснове ўсіх эканамічных дасягненняў Захаду.

Выхаваныя ў шматгадовай няволі, мы ненавідзім тых, хто памкнуўся да волі. Мы ім тут жа перакрываем кісларод, пазбаўляем энергетычнага дыхання і г.д. Бо чаму так пасмелі? Маўляў, мы таксама жывём не лепей, але ж мы не імкнёмся да сепаратызму. Мы — да гурту. Толькі ўсе заадно, усе разам. Але былі ўжо разам аж семдзесят год, і што з таго атрымалася — вядома ўсяму свету. Нас заўсёды палохалі непапраўнай заразай плюралізму, згубнасцю здрады «асноўным прынцыпам», у якой тоіцца багна капіталістычнага распаду. Але багна аказалася не там, дзе яе бачылі, а там, дзе на яе заплюшчвалі вочы. Цяпер нас палохаюць анархіяй дэмакратыі, развалам сацыялізму, грамадзянскай вайной, калі толькі мы адмовім «свяшчэннай» партыі ў яе кіруючай ролі. Рухне імперыя. Але хто сказаў, што адміранне імперыі цягне за сабой пагібель для яе падданых? Ці не наадварот адбывалася ў гісторыі? І ці не ў тым наша няшчасце, што наша імперыя аказалася такой жывучай, што не распалася шмат год назад. Калі б той распад здарыўся ў прыдатны для таго час, якой бы бяды маглі пазбыцца многія нашы пакаленні. Але агонія яе задоўжылася і атручвае жыццё навакол. Не толькі нашае, але і народаў Еўропы, Азіі і нават Амерыкі. Адвучаныя ад уласнага шчасця, мы

пільна сочым, каб свайго шчасця не здабылі іншыя. Так было ўсе ранейшыя гады, так без асаблівых змен засталося і цяпер. Рэальная (не папяровая) незалежнасць Балтыі або Украіны палохае нас болей, чым перспектыва ўласнага голаду; рызыка застацца без цэнтрысцкага каманданання многім атручвае слодыч жыцця. Зайздрасць да таго, хто можа забагацець і жыць лепей за нас, трывожыць нас болей, чым уласнае жабрацтва.

Дык што ж мы — яшчэ не саспелі для разумнага чалавечага жыцця ва ўмовах дэмакратыі? Выходзіць, аднак, не саспелі. Мабыць, сапраўды нельга адразу, калі дазволена, пераскочыць ад тыраніі да волі — надта вялікая прорва, што іх падзяляе. Яе не адолець за адзін скачок. А за два таксама не атрымаецца. У тым увесь трагізм моманту, які перажывае краіна.

Галоснасць і шматпакутная перабудова дала нам магчымасць трошкі расплюшчыць вочы і ўпершыню за шмат год незамутнёным позіркам зірнуць на сябе. Зірнуць і жахнуцца ад нашай пачварнасці. Жахнуўшыся, некаторыя тут жа закрычалі: нашто! Так добра было жыць у створаным партыйнай прапагандай ілюзорным свеце, не бачачы сябе, іншых, і адно ганарыцца — уласнай нацыянальнасцю, партыяй, арміяй, КДБ. Сродкі масавай інфармацыі разбурылі нашу санлівасць, дык што ж цяпер: адмяніць галоснасць? Зрабіць гэта вельмі нават проста: цэнзура ліквідавана, але цэнзары — усе на месцах, армія ў пастаяннай баявой гатоўнасці, да позняй начы гарыць святло ў палацах КДБ. Ранейшы дзяржаўны стан можна аднавіць за адзін ранак, і шмат якія з цяперашніх праблем знікнуць.

Але што будзем есці?

Дык што ж нам рабіць? Калі мець на ўвазе творчую інтэлігенцыю краіны, дык нашыя магчымасці ў наладжванні эканомікі роўныя нулю, мараль нам таксама не падначалена. Выхаваць будучыя пакаленні, як нам хочацца, мы не ў стане, бо даўно ўжо збанкрутавалі ў якасці выхавальнікаў. Мабыць, варта пачаць з малога: паспрабаваць абудзіць у сабе сумленне як пярвічны элемент маральнасці. Без карыслівасці, без эгаізму, без крывадушша ўпусціць у душу нейкую часцінку дабрыні і цярпімасці. Хоць бы да свайго бліжняга, да сабрата-пісьменніка. Нават калі ён думае і піша інакш, чым ты, калі ён разумнейшы за цябе ці тым болей дурнейшы. Калі ён іншай крыві і не можа ганарыцца сваёй прыналежнасцю да вялікага народа. А, дапусцім, належыць да малога ці малалікага. Трохі скарыць сваю выхаваную за дзесяцігоддзі ганарлівую пыху, зірнуць адзін аднаму ў вочы і, можа, паспрабаваць засаромецца.

Усё ж сорам — пачуццё, болей вартае за нянавісць.

*1990*

**Алесь АДАМОВІЧ**
**(1927—1994)**

**Пісьменнік, крытык, літаратуразнавец, кінематаграфіст, публіцыст, культурны і грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Канюхі Капыльскага раёна (Мінская вобл.). У час нямецкай акупацыі Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны ўдзельнічаў у партызанскім руху. Вучыўся на філалагічным фалькутэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які скончыў у 1950 г. Працаваў на кафедры беларускай літаратуры ў БДУ, пазней — навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры і мастацтва АН Беларусі. Абараніў кандыдацкую і доктарскую дысертацыі. Вучыўся на Вышэйшых сцэнарных курсах у Маскве (1962—1964). З 1964 г. — на кафедры савецкай літаратуры Маскоўскага універсітэта. У 1966 г. вярнуўся ў Мінск. У 1966—1987 гг. — вядучы навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН Беларусі, загадчык сектара літаратурных узаемасувязей. З 1987 г. узначальваў Усесаюзны навукова-даследчы інстытут кінамастацтва ў Маскве. Як літаратурны крытык вызначыўся ў 60—70-я гг. У гэты перыяд апублікаваў цэлы шэраг грунтоўных літаратурна-крытычных даследаванняў («Беларускі раман», 1961; «Гарызонты беларускай прозы», 1974; «Здалёк і зблізку: Беларуская проза на літаратурнай планеце», 1976; «Літаратура, мы і час», 1979 і інш.). У другой палове 60—70-я гг. сфарміраваўся як празаік (дылогія «Партызаны», 1960—1963; «Сыны ідуць у бой», 1963; «Хатынская аповесць», 1972; «Карнікі», 1980 і інш.). Адзін з аўтараў дакументальных кніг-хронік «Я з вогненнай вёскі...» (сааўтары Я.Брыль і У.Калеснік, 1975) і «Блокадная кніга» (сааўтар Д.Гранін). У мастацкай творчасці і публіцыстыцы 1980—1994 гг. асаблівую ўвагу надаваў прыярытэту агульначалавечых каштоўнасцей. Выступаў супраць замоўчвання наступстваў чарнобыльскай трагедыі на Беларусі і антыдэмакратычнай палітыкі беларускіх камуністычных улад.**

## ХОРОШО ПЕРЕЖИТЬ ФЮРЕРА

Казалось, он и пространство заполонил, все вокруг. И время забрал, отнял навсегда: «Гитлер — освободитель», «вождь всех времен и народов» — везде он, навсегда и навсегда он. А жить ему оставалось пять лет. А второму — побольше, но тоже немного.

Хорошо пережить фюрера... Подумалось — когда в 1970 году писал «внутренний портрет» Гитлера (для «Карателей»). И одновременно, параллельно, главу «Дублер» — уже о Сталине. Теперь я могу с вами, что

пожелаю, как вы когда-то с каждым из нас... Знали бы вы — заранее! Да что Гитлер или Сталин. На одной из наших ежегодных партизанских встреч командир (совсем небольшой чином) все жаловался: «Да я его мог, этого доцентика, запросто кокнуть. Никто бы и не спросил. А теперь он нос воротит». Уже думаешь: а не потому ли фюрер-вождь убивал всех вокруг, уже вроде и бессмысленно, искал и находил в каждом врага, не потому ли, что знал, догадывался: все люди — завтрашние судьи его грязно-кровавых дел и мыслей?

Гитлер вломился в нашу жизнь внезапно, вместе с танками и солдатами-немцами — сила, враждебная изначально. С которой не ужиться. Или он, или ты. Смешно сказать: или ты. Да фюреру дунуть в твою сторону, пальцем на тебя указать — такая за ним сила убийства, кары! Как сказать, как сказать. А лес-то, партизанский, рядышком...

От Сталина убежать было некуда. Особенно тем, кто и родился при нем. Казалось, пребудет вечно. И еще надо было осознать враждебность и этой силы. Как-никак он наш «вождь». «Долой гитлеровские сто грамм, да здравствует сталинский килограмм!» — довоенные колхозные трудодни — граммы и рабочие карточки килограммами уже виделись. Когда навалился враг «внешний».

«Война, сынок!» — услышал я прямо на пороге своего глушанского дома, когда прибежал из лесу, голодный и счастливый, какими бываем только на пороге юности. Сообщил мне это человек, для которого страшнее, чем «война», слов нет, — мать. Сыну пришлось стереть с лица беззаботность, изобразить, что и он понимает, какая беда подступила к каждому из нас. Ничего мы не понимали: что нас ждет. Стояли толпой перед окном поселковой почты и слушали надтреснутый какой-то голос Молотова. Вот этого убьют через неделю (немцы уже будут здесь), а этого партизаны расстреляют (уверен, что и он не подозревал, что может стать полицаем).

Неделя всего лишь минула, и вместо «вождя» над нами уже «фюрер» — такой же всевластный. А точнее — сразу оба.

Пережить, что мы пережили в войну и за войну, было трудно, неимоверно трудно. О Белоруссии, например, говорят, пишут сегодня, подсчитали по-новому: погиб каждый второй житель. Еще год-два такой жестокости и ненависти — и народа такого, белорусов, просто не стало бы. Но и если бы второй наш «фюрер», «вождь всех народов», продержался на этой земле еще с годик-два, уж он точно подобрал бы нас, уцелевших в схватке с Гитлером. Партизан да подпольщиков — в первую очередь. К этому шло. Генерал-майор Филатов знает, что говорит, когда одобряюще пишет на «страничке редактора» в своем «Военно-историческом журнале» (N 1 за 1991 г.), что Сталин «не доверял некоторым партизанам». (Только не некоторым, а всем не доверял вождь.)

Он и мертвый держал нас под прицелом столько лет. Его карателей никто не судил, даже «срок давности» распространили на их геноцид.

(А иначе разве прятал бы и я «своего Сталина» — главу из «Карателей» о нем — аж до 1987 г.? Даже от друзей.)

Вы, кто помоложе, знали бы вы, какое это удовольствие — пережить фюрера! Но каково нам, заранее многое угадывающим, потому что такое уже испытали, каково наблюдать, как наша мачеха-история заново вылепливает знакомые фигурки. То там, то там, вблизи, вдали мелькнут вдруг угрожающе — в мундирах и без.

Как написал в «Комсомолке» Валерий Чалидзе: «Стоит ли менять тюрьму народов на отдельные камеры?» Как избавиться от всевластия однопартийного тоталитаризма и не позволить раскатать его на тирании поменьше, зато числом побольше?

Тирании национал-коммунистические (или вроде бы антикоммунистические), когда «Россия — для русских», а «Грузия — превыше всего!» и т. п.

«Если народ мой пойдет за таким-то, я пойду против своего народа!» — легко сказать, а как это смочь. Да и сказать нелегко, а как раз труднее всего. И потому не будем упрекать: «Где вы, мастера культуры?» — не слыша смелых голосов национальной интеллигенции в «горячих точках». Сами мы не сделали ничего, чтобы, защищая истинное достоинство и честь своих народов, такие люди, каким был грузин Мераб Мамардашвили, или такие, как узбек Тимур Пулатов, молдаванин Ион Друцэ, не были одиноки, чувствовали бы поддержку хотя бы собратьев-интеллигентов страны.

А не пришла ли пора широкого движения в поддержку тех, кто осмеливается выступать против «своей» тирании? Вызволяясь от унитаризма, не позволить тюрьме рассыпаться на тюремные камеры-карцеры. Для этого так важно, чтобы демократия окончательно победила в самой России.

Хорошо бы их не знать, не видеть больше и не «переживать» их — фюреров. Чужих, своих. Сколько можно?

*1991*

## ПА ПРАПІСЦЫ — Я Ў МАСКВЕ...

**(*Фрагмент*)**

— Разбурэнне імперыі адбілася на лёсах усіх — у той ці іншы бок. Складваецца ўражанне, што многім «шасцідзесятнікам» шкада, што ўжо няма СССР, што пры ўладзе не Гарбачоў. Ці я памыляюся? (З пытання карэспандэнта)

— Я не магу гаварыць за ўсю інтэлігенцыю, «шасцідзесятнікаў». У кожнага гэта індывідуальна і нават інтымна. Вось вы ўспаміналі тут «АиФ». Яны якраз там маё інтэрв'ю ўзялі, хутка яно будзе надрукавана. Там мне задавалі пытанне вось гэта: як вы ўспрымаеце тое, што няма вялікай-вялікай дзяржавы, дзе вы маглі сёння сесці і паехаць у Самар-

канд, на Далёкі Усход, маглі паехаць у Кіеў, у Крым, і вы гэта не можаце сёння, і ці не засмучае вас гэта?

Ну я вам скажу сумленна. Для мяне тое, што Беларусь стала Беларуссю, што яна вяртаецца да сваіх каранёў, свайго самастойнага існавання ў свеце, гэта для мяне вялікая падзея, і я не магу не радавацца, і не адчуваць як сваю радасць.

Але ж мы жывыя людзі... Я памятаю, у 1943 годзе я стаяў на пасту ў партызанскім лесе, і вось ляціць у зацішшы наш самалёт, мы яго па гуку адрознівалі (такі роўны і нізкі гул — гэта значыць наш самалёт ляціць), ён павінен на аэрадром партызанскі ў Палессі сесці.

За ім увязаўся нямецкі самалёт, з такім асіным, такім стальным гукам, ён скінуў некалькі бомбаў на гэты аэрадром. І вось я гляджу з такой бяссільнай злосцю на ўсё гэта і думаю: «Ну вось ты тут бамбіш, а вось паспрабуй злятай на Урал, злятай на Далёкі Усход пабамбі, туды ты не даляціш. Пагэтаму, калі ты і скінеш тут на мяне бомбу, ты мяне тут не заб'еш, таму што я і на Урале, і на Далёкім Усходзе...»

Такое было светаадчуванне, і ад гэтага нікуды не дзенешся. Іншая справа, што я потым толькі зразумеў, як гэтае як бы шырокае пачуццё перашкаджала разумець нейкія вельмі трагічныя абставіны, у якіх мы знаходзіліся. Вось гэтае зразумелае пачуццё 16-гадовага беларуса, які выхаваны, вядома, быў на рускай літаратуры, рускай культуры, на беларускай і ў той нашай савецкай школе вучыўся, — яно было заканамернае і зразумелае... І ў часе вайны адчуваць сябе часткай такой велізарнай магутнай дзяржавы, калі нас тут акупавалі, раздавілі, было пачуццём выратавальным.

Але я гавару, гэта пачуццё перашкаджала па-сапраўднаму адчуваць трагедыю самой Беларусі, свайго ўласнага народа.

Я гэта зразумеў толькі недзе ў 50-я гады, калі прачытаў раман «Сонца далёка» Чёсіча, які стаў цяпер прэм'ерам у Югаславіі. У югаславаў было такое пачуццё: Югаславія — гэта невялікая дзяржава, таксама партызанская, сюды накінуліся немцы, карнікі і пачынаюць знішчаць, не могучы перамагчы партызан і народ, які падтрымлівае паўстанне проста фізічна. І партызаны раптам пачынаюць думаць: яшчэ адзін год, яшчэ два, тры, а можа, менш, такога гераічнага змагання, і таго народа, за які мы змагаемся, не будзе.

У нас таксама было такое пачуццё, таму што Беларусь знішчалі пад корань. Але яно раствäралася ў гэтым адчуванні, што мы аж да Сібіры, нас многа. У цэлым у нашай свядомасці ўсё гэта жыве з рознымі плынямі ў душы, і яно прысутнічае і сапраўды. Таму, з аднаго боку, гэта ўсё добра, а з другога, я чуў тут і на Беларусі ад некаторых інтэлігентаў: вось я ніколі не ездзіў у Самарканд, я хачу паехаць.

Ну едзь... «А як я паеду, калі ўжо мяжа, там страляюць...» Гэтыя складаныя пачуцці ёсць у людзей, і не трэба на іх так строга глядзець, людзі ёсць людзі.

*1992*

## НАШ ВЕК ДАКАЗАЎ БЯССІЛЛЕ ЎСЯКАЙ СІЛЫ
(*Фрагмент*)

Мы жывём у такі час, што кім бы ты ні быў — салдатам, пісьменнікам, журналістам, настаўнікам, ты не можаш ужо разважаць і думаць як асоба прыватная, толькі як рускі, толькі як беларус, толькі як француз. Ты ўжо павінен разважаць як гома сапіенс, як чалавек, адказны за існаванне не толькі Беларусі, не толькі Расіі, не толькі Польшчы — за існаванне чалавецтва, за існаванне чалавека, усяго жывога на планеце.

Памятаю, я выпадкова аказаўся ў Вене, у прэзідэнцкім палацы знакамітым. Там я ўпершыню пабачыў Шэварднадзе, міністра замежных спраў. Размова ішла аб еўрапейскай бяспецы. І ўпершыню я пабачыў нашых дыпламатаў, якія перасталі лгаць, якім дазволілі не лгаць, якія загаварылі як людзі з тым бокам. Я памятаю, быў так здзіўлены, так усцешаны, што выйшаў у парк.

Сярод дрэў нікога няма, нейкія птушкі, нейкія жучкі, матылькі. І я, як апошні вар'ят, ім кажу: ну, усё. Вы застаняцеся жывыя.

Мы жылі ў той час з такім настроем. Потым, калі пагроза адступіла, мы сталі жыць зноў толькі сабой, толькі тым, што ёсць у магазіне, і што ў кішэні, і г.д. Я думаю, што рана нам яшчэ пакідаць пазіцыю таго салдата, які думаў за ўсё чалавецтва. Думаючы за ўсё чалавецтва, лягчэй і разумней будзеш думаць і за Беларусь, і за беларускі народ, і за наш Чарнобыль страшны, і за нашу будучыню... Я страшэнна ганаруся сваёй Беларуссю. Яна ўсяму свету паказала прыклад. Потым стане нормай тое, што адбылося з беларускай ядзернай зброяй, — але ніхто, акрамя беларусаў, не зможа сказаць: мы былі першыя. І гэтае першынства беларусы не павінны нікому аддаць. Не павінна быць, каб на нейкім этапе нас зноў купіла таннасць сілы. Уяўнай сілы! На адну тваю сілу тры такія сілы нацэльваюцца, і ты становішся ў тры разы слабейшы. Наша сіла — у нашай маральнай чысціні, праўдзе. І самае галоўнае, каб мы маральную нацыянальную палітыку выпрацавалі, трымаліся. І гэтая маральная сіла будзе той сілай, якая лепш забяспечыць надзейнасць незалежнасці Беларусі, чым любая іншая сіла.

*1995*

**Сяргей ДУБАВЕЦ**
**(1959)**

**Публіцыст, крытык, празаік, выдавец, культурны дзеяч. Нарадзіўся ў г. Мазыр (Гомельская вобл.). Працаваў рабочым на заводзе «Гарызонт» у Мінску. Знаходзіўся на тэрміновай службе ў Савецкай Арміі. У 1979—1984 гг. вучыўся на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Працаваў у абласной газеце «Гомельская праўда» і ў аддзеле крытыкі і мастацтва часопіса «Нёман». У 1990—1998 гг. — галоўны рэдактар газеты «Наша ніва». Адзначаны ўрадавай узнагародай Літоўскай Рэспублікі за адвагу і мужнасць пры абароне незалежнасці Літвы ў студзені 1991 г. Аўтар кнігі «Практыкаванні: Проза, эсэ, крытыка» (1992). Даследуе ролю Беларусі ў сучасным свеце, яе месца ў еўрапейскай супольнасці.**

## БЕЛОРУСЫ УХОДЯТ... БЕЛОРУСЫ ВОЗВРАЩАЮТСЯ...

Меня преследует ощущение ухода. Вот уже год... Или нет. Лет пятнадцать. С тех пор, когда я начал осознавать, кто я, появилось и это ощущение — настойчивое, страстное, непреодолимое желание уйти... Я бе-ло-рус... Может быть, самосознание и самоопределение — одно и то же? «Вплоть до отделения»... Вдруг все изменяется, и ты — не тот, за кого тебя принимают и за кого принимаешь себя сам, поэтому в этой декорации ты уже неуместен и хочешь одного — уйти. Чем это желание отличается от желания свободы? Несвобода — это, видимо, и есть — несоответствие. Осознанное несоответствие.

То же, когда я берусь рассуждать о своем народе, о белорусах. Первое мое ощущение, желание, направление — ощущение несоответствия, желание уйти. Направление свободы. Белорусы уходят — откуда? куда? по какому пути?..

Если мысль, достаточно ее произнести, представляется ложной, если слово, «писавшееся кровью сердца», лишается всякого смысла, если многие знания, кажется, не приносят уже ничего, кроме печали и скорби, — значит, нарушилось соответствие между словом и его первородным смыслом, между содержанием и формой, между миром и мировоззрением, и настало время вернуться к изначальному смыслу, от эмоций — к ratio.

Возможно, это был чудесный полет: парение, скорость, высота... Пока птица, одержимая стремлением «сказку сделать былью», не вздумала остаться на небесах, свить себе там гнездо и вывести в этом гнезде потомство. Осуществление иррационального замысла всегда абсурдно и жестоко. И это не «последняя надежда человечества» — социализм — потерпела фиаско, а очередная попытка поставить мир «на попа», построить царствие небесное, рай на земле. Очередное искушение несоответствием.

По-моему, дело здесь в том, что подчинено, а что главенствует, что в контексте чего. Если ratio в контексте эмоций, то даже самые простые и конкретные истины (например: чтобы не голодать, нужно поесть) не являются аксиомами. Потому что голод — не просто голод, а есть — не просто есть. Свобода, Родина, Беларусь здесь — господствующий над нами «шаблон пустых слов». Их не определишь, не измеришь, не вычислишь, они выше понимания, выше логики, выше твоей никчемной земной жизни. И при этом — ничто. Как и всё, всё-ничто!

Например, Родина. Родина как СССР. Умереть за нее — подвиг, а изменить ей — преступление, ведущее опять-таки к смерти. Жизнь для нее — высший смысл существования. И — высшая бессмыслица. Потому что любые попытки вникнуть, понять, размыслить — кощунственны. Главное — верить. Иначе фатально пропадет значимость всех этих жизней и этих смертей, принесенных на алтарь Родины.

«Родина или смерть» — знакомый лозунг Кубинской революции. Абсолютное (смерть) и относительное (Родина) здесь перепутаны, поменялись местами. Смертью невозможно измерить степень преданности, идейности, убежденности человека. Смерть — измерительная линейка с одним делением. А даже самый-самый ортодокс не может быть таковым на все сто процентов. Рано или поздно у птицы деревенеют крылья.

Между прочим, если вернуть мир в естественное положение — поставить с головы на ноги, вспомнить, что еще у древних римлян место кубинского лозунга занимало здравое: «Жизнь короткая, Родина вечная»...

Возможна ли совокупность Родин? Возможна, поскольку мы все — земляне. Что же касается какой-либо промежуточной совокупности, то она не оправдана никаким здравым смыслом и является плодом чистой идеологии. Как правило, идеологии имперской, потому что в империях главенствующую роль среди Родин, роль «главной жены», играет метрополия с ее культурой, средствами массовой информации и «главным стадионом страны». Да, я об СССР, о Родине Октября и ее творцах. «О, будь они про́кляты! — крикнула как-то в сердцах одна героиня белорусской литературной классики. — Они хотят сделать признаки своей национальности интернационалом для нас, — спасибо за милость... Уж

Яшчэ павінен быць высветлены комплекс прычын, якія абумовілі паніжэнне ўзроўню духоўнасці грамадства, выклікалі дэфармацыю грамадскай свядомасці, мінімальнасць прысутнасці ў ёй гістарычнай памяці. У шэрагу такіх прычын можна назваць вузкі прагматызм і вульгарную палітызацыю некаторых светапоглядных уяўленняў, асабліва тых, якія звязаны з разуменнем патрыятызму, радзімы, у выніку чаго яны згубілі жывое адчуванне індывідуальнай інтымнасці.

Ці ў дастатковай ступені ўсведамляюцца і ўлічваюцца як агульныя, так і спецыфічныя ўнутрана-канкрэтныя фактары пры вызначэнні стану той альбо іншай нацыянальнай культуры, характару моўнай сітуацыі і г.д.? Відаць, аб'ектыўны аналіз прысутнічае пакуль што не ў дастатковай ступені.

Многія праблемы нацыянальнай культуры, перш за ўсё звязаныя з бытаваннем мовы, станам традыцыйных каштоўнасцей фальклору, народных звычаяў і промыслаў, жыццёвага ўкладу, нярэдка разглядаюцца пры дапамозе запазычанай з дарацыяналістычных форм мыслення канструкцыі, у адпаведнасці з якой крыніцай існуючых калізій з'яўляюцца знешнія фактары і сілы. На бытаванне падобных уяўленняў уздзейнічае і слабая распрацаванасць праблемы нацыянальнага. Важным уяўляецца адно — старанная паўсядзённая праца на карысць нацыянальнай культуры не можа і не павінна падмяняцца міфалагічным канструіраваннем. Гэта толькі падточвае ўнутраныя духоўныя сілы, накіроўвае стваральныя патэнцыі ў рэчышча негатывізму, варожага культуры і духоўнасці.

У пачатку XX ст., калі беларускі народ ва ўвесь голас заявіў пра сваё спрадвечнае права на самастойнае грамадска-палітычнае і нацыянальна-культурнае развіццё, яго лепшыя прадстаўнікі з надзеяй і болем узіраліся ў далягляды гісторыі, шукаючы ў ёй так неабходныя для сцвярджэння ідэі суверэннасці нацыі высокія ўзоры непахіснасці, мужнасці, узвышаючай духоўнасці. Тады пачыналася духоўнае адраджэнне народа, і полымя ўзнятай паходні, якая клікала да змагання за права «людзьмі звацца», кінула толькі першыя промні ў глыбіні гісторыі. А таму яна яшчэ магла выглядаць як суцэльна ахутаная цемрай прыніжэння і нявольніцтва, што нараджала не адну індывідуальна-асабовую трагедыю.

Сёння мы выступаем спадчыннікамі ўсяго гістарычнага цыклу палітычнага, сацыяльнага і духоўнага адраджэння беларускага народа. І нацыянальная гісторыя адкрываецца не толькі ў спалучэнні цемры і скупых праблёскаў святла, а ў багацці ўсяго спектра стваральнасці, барацьбы, прыніжэнняў, трагедый і духоўных здзяйсненняў, якія захавалі непадуладную часу высокую вартасць, здольнасць бясконца натхняць вышэйшае ў народзе і чалавеку пачуццё нацыянальнай і індывідуальна-асабовай годнасці і свабоды.

Змястоўна-значымы строй усякай культуры мае схільнасць да крышталізацыі абагуленай вобразнасці і сімволікі, здольнай выказаць яе пам-

кнёнасць, сутнасць і дух, абазначыць яе унікальнасць. У беларускай культуры да ліку такіх першых сімвалаў належыць скарынаўскі знак.

Агнявы сонечны дыск, на ўскрай якога насунуўся месяц, — гэта не проста і не толькі астранома-храналагічнае ўказанне і абазначэнне індывідуальна-асабовага парадку, так сугучнае астральнаму духу эпохі Адраджэння. У культурнай традыцыі, што склалася на аснове складанага перакрыжавання фальклорных, антычных і хрысціянскіх уяўленняў, сонца ўстойліва асацыіравалася з светлым пачаткам быцця, розумам, якія процістаяць цемры, чорным сілам разбурэння і заклікаңы перамагчы іх. Тым самым сцвярджаўся аптымізм надзеі на пераможную сілу лепшых патэнцый жыцця. Выкарыстоўваючы гэтую сімволіку, Ф.Скарына лаканічнымі і наглядьнымі сродкамі выразнасці раскрывае сутнасць і пафас гуманістычнай асветніцкай дзейнасці, а разам з гэтым характар і прызначэнне духоўнай культуры ўвогуле. Прычым скарынаўскі знак — гэта не толькі мадыфікацыя ідэі святла як ідэальнага, адухоўленага пачатку жыцця, сімвала ведаў і гуманістычнага розуму, гэта адначасова і фіксацыя яго неадназначнасці і, магчыма, супярэчлівасці сцвярджэння, драматызму існавання.

Скарынаўская ідэя і практыка асветніцтва, якія далі кнігу «людям посполитым к научению»[1], ідэя і практыка, прасякнутыя сапраўдным дэмакратызмам, сцвярджалі ўзвышаючае, гуманістычнае прызначэнне культуры, ведаў, розуму, надоўга вызначалі праграму будучым працаўнікам культуры. Высокім пафасам асветніцтва натхняліся С.Будны, В.Цяпінскі, М.Сматрыцкі, Сімяон Полацкі. Трэба адзначыць, што абвешчаная Ф.Скарынам ва ўмовах культурнага ўздыму эпохі Адраджэння ідэя кніжнасці і ведаў яшчэ за чатыры стагоддзі да яго знайшла дастаткова трывалую глебу ў гістарычных абставінах грамадска-палітычнага і сацыяльна-культурнага існавання беларускіх княстваў XII ст., пра што яскрава сведчаць жыццё і праца Ефрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, іншых кніжнікаў той старажытнай эпохі.

Велічны прадстаўнік эпохі Адраджэння Ф.Скарына вырас на глебе, падрыхтаванай папярэднікамі. Ён працягваў даўнюю культурную традыцыю. Яго дзейнасць глыбіннымі каранямі злучана з высокай культурай Кіеўскай Русі, падрыхтавана пачатковым перыядам этнакультурнага фарміравання беларусаў, станаўленнем характэрных асаблівасцей гістарычнай самасвядомасці, адлюстраванай у беларуска-літоўскім летапісанні, абапіралася на глыбокае ўспрыняцце гуманістычных ідэй заходнеўрапейскага Рэнесансу. З усёй відавочнасцю раскрываецца значэнне духоўных каштоўнасцей мінулага — неабходнага фактара і магутнага стымулу адраджэння і ўздыму культуры.

Энцыклапедычная шырыня творчых інтарэсаў выдатнага беларускага мысліцеля-гуманіста, асветніка, кнігадрукара і выдаўца, мастака, батаніка, урача была адэкватнай бязмежнаму універсуму прыроднага і духоўнага быцця, які ўпершыню адкрыўся чалавеку ў эпоху Адраджэння.

Шматстайнасць творчых здольнасцей і энцыклапедызм ведаў яднае Ф.Скарыну з іншымі вялікімі людзьмі той эпохі, што не перашкаджае яму заўсёды заставацца сынам сваёй краіны, сапраўдным спадчыннікам і прадстаўніком культуры свайго народа.

Як выдатны духоўны прадстаўнік свайго народа Ф.Скарына адлюстраваў тыповыя рысы і асаблівасці народнага духу і ладу мыслення, якія пазней знойдуць рэльефна разгорнутае выяўленне ў розных сферах нацыянальнай культуры — грамадска-палітычнай і філасофскай думцы, літаратуры, мастацтве.

Выключная чуйнасць да шырачэзнага спектру духоўных інтарэсаў і запатрабаванняў — свайго часу і мінулага, уласнай культурнай традыцыі і культур іншых народаў — арганічна параджала ў Ф.Скарыны ідэю глыбокага адзінства культуры як выніка стваральных намаганняў многіх народаў, што спрыяла замацаванню ў складзе нацыянальнай традыцыі папярэджання супраць духоўнай ксенафобіі. Значнай — менавіта ў плане змястоўнасці будучых духоўных пошукаў — была таксама пераважная ўвага Ф.Скарыны да гуманістычна-маральных асноў жыцця грамадства і чалавека, да праблем сацыяльна-філасофскіх і маральна-эстэтычных, асаблівая цікавасць да жыццевучэння, здольнага дапамагчы ў дасягненні сапраўды чалавечага быцця. У плане сцвярджэння вядучых грамадскіх арыентацый і прызначанасці нацыянальнай культуры важную ролю адыграла скарынаўская ідэя дэмакратызму, звароту культуры да шырокіх мас, а не толькі да вузкіх сацыяльных пластоў і груп.

Пройдуць чатыры стагоддзі, і ва ўмовах уздыму вызваленчай барацьбы пачатку XX ст. скарынаўская традыцыя гуманістычнай адухоўленасці і дэмакратызму культуры атрымае ў Янкі Купалы і Якуба Коласа, іх паплечнікаў і паслядоўнікаў гістарычна абумоўленае сацыяльна-канкрэтнае асэнсаванне і далейшае развіццё. Даўняя традыцыя ўзбагаціцца ідэяй сацыяльнай і нацыянальнай свабоды працоўнага народа, барацьбы за яе дасягненне. Эпоха рэвалюцыйнай барацьбы, духоўнага разняволення працоўнага народа стала магутным каталізатарам развіцця нацыянальнай культуры, што праявілася ва ўзнікненні новых духоўных сфер, новых ідэй і ўяўленняў як выніка кардынальных перамен у грамадстве, народным жыцці, чалавеку. У нацыянальнай культуры зараджаюцца новыя традыцыі — купалаўская і коласаўская. Неабходныя перадумовы для іх фарміравання былі закладзены К.Каліноўскім і Ф.Багушэвічам.

Працэс станаўлення новага адзначаны пераканаўчымі сведчаннямі трываласці і ўстойлівасці былых нацыянальна-культурных уяўленняў, перш за ўсё скарынаўскіх. Дастаткова прыгадаць цэнтральны вобраз купалаўскага рамантызму — вобраз сонца і сонечнага мноства — зорак як сімвала, формы ўвасаблення ідэі свабоды народа і чалавека.

Творчасць Янкі Купалы адлюстравала запаветныя надзеі людзей працы, карэнныя сацыяльныя і нацыянальныя інтарэсы беларускага народа. Першаступеннае значэнне набыла ў творчасці паэта ідэя свабоды

працоўнага народа, якая сцвярджалася ў непарыўнай сувязі з ідэяй свабоды чалавека. У Купалы праблема свабоды ўпершыню асэнсавана не толькі ў плане дасягнення канкрэтных сацыяльна-эканамічных і грамадска-палітычных мэт, але і як праблема духоўная, як разуменне якаснага адрознення паміж нявольніцкім існаваннем і свабодным жыццём, паміж чалавекам прыгнечаным, прыніжаным і чалавекам свабодным.

Свабода — гэта не толькі вызваленне ад форм сацыяльнай падначаленасці чалавека ў антыгуманістычным грамадстве, але таксама далучэнне да духоўнасці, ведаў — да сонца, святла, гаворачы мовай паэзіі Купалы, у якой святло, сонца, веды, свабода выступаюць як ідэнтычныя ідэальныя вызначэнні. І сапраўднасць духоўнасці, ведаў Купала бачыў ва ўласцівай ім сіле разнявольвання, у іх процілегласці цемры, абскурантызму, прыгнёту. Духоўнасць набывала, такім чынам, выразную маральна-гуманістычную афарбоўку. Чалавечае, духоўнае і свабоднае зліваюцца ў Купалы ў адзінае цэлае: далучанасць чалавека да ідэі і стану свабоды з'яўляецца важнейшай унутранай духоўнай яго характарыстыкай, універсальным вызначэннем яго сапраўднасці. Яго паэзія — школа духоўнага станаўлення чалавека. І гэта не проста шлях унутранага інтэлектуальнага яго развіцця як асобы, развіцця ў суб'ектыўна-індывідуальным плане, а шлях ад нявольніцкай прыніжанасці да ўсведамлення сваёй чалавечай годнасці і разумення таго карэннага факта, што станаўленне чалавека адбываецца ў пастаяннай барацьбе супраць усіх форм нявольніцтва. У гэтым — пафас усёй творчасці Янкі Купалы, яго імкнення да духоўнага абсалюту. У гэтым — сама сутнасць купалаўскай духоўнай традыцыі.

У творчасці Якуба Коласа галоўнае месца заняла ідэя велічы і магутнасці працоўнага народа, яго непахіснай жыццёвасці, вечнасці яго быцця. Пераважная ўвага пісьменніка-эпіка да сапраўдных каштоўнасцей жыцця, працы, свабоды, чалавека абумовіла ўласцівае менавіта Коласу ўспрыняцце рэальнасці як натуральнага, блізкага і жывога асяроддзя, тыпова Коласавы адносіны да свету, прыроды, чалавека, адносіны, выключная далікатнасць і гарманічная суразмеранасць якіх былі глыбокім праяўленнем духу стваральнасці, што дазваляе бачыць існуючыя ў прыродзе і жыцці людзей упарадкаванасць і ўзаемасувязі, адчуваць і ўсведамляць іх як адзінае адухоўленае цэлае. Запаветная Коласава ідэя павольнага і засяроджанага тварэння ўвасобілася ў велічы такога блізкага і зразумелага вобраза роднай зямлі, бацькоўска-матчынага краю.

Пафас духоўнага разняволення і стваральнасці, выразнікамі якога былі Янка Купала і Якуб Колас, стаў тыповай прыкметай беларускай дэмакратычнай культуры пачатку XX ст., спрыяльнай глебай для памкненняў і ідэй, істотных для далейшага духоўнага развіцця. У гэтым плане заслугоўвае ўвагі ідэя сінтэзу дасягненняў культур іншых народаў як неабходнага фактару развіцця культуры ўласнай (М.Багдановіч). Гэтая ідэя абапіралася на разуменне сутнасці культуры як творчасці, скла

данага працэсу дасягнення духоўнай агульнасці. Важнае значэнне набылі таксама тэндэнцыя паглыблення пазнавальна-рэфлексіўных пачаткаў, усведамленне каштоўнасці індывідуальна-асабовага свету поруч з светам народным (М.Гарэцкі), падкрэсліванне значэння індывіда, станаўлення асобы для развіцця народнай супольнасці.

Ідэальныя ўзоры, у тым ліку і ўзятыя з мінулага, існуюць не для проціпастаўлення рэальнасці. Прызначэнне ідэальнага — абазначаць шляхі і магчымасці будучай працы па гуманізацыі жыцця. І ў дадзеным выпадку важнае значэнне набывае характар адносін да духоўных каштоўнасцей, гатоўнасць і здольнасць захоўваць і развіваць іх.

Больш позняе ў гістарычным плане не заўсёды азначае больш высокае ў плане культурным, духоўным. А таму і сёння скарынаўская традыцыя гуманістычнай адухоўленасці культуры здольная дапамагаць у пераадоленні распаўсюджанай у нашы дні тэндэнцыі абытаўлення, паніжэння духоўных каштоўнасцей, калі яны губляюць высокі статус ідэальных узораў, уніфікуюцца ва утылітарна-прагматычным светапоглядзе. Купалаўская ідэя пастаяннага духоўнага ўзвышэння народа і чалавека вельмі сугучная сучасным патрэбам абнаўлення ўсіх сфер нашай сацыяльнай рэальнасці, пераадолення тых скажэнняў духоўна-маральнага стану жыцця і свядомасці грамадства, якія былі выкліканы дзесяцігоддзямі абсалютнага прысваення дзяржаўнай улады і шматстайных грамадскіх патэнцый на карысць адной асобы, вузкага кола ўпраўленчай сістэмы. Коласаўскі пафас стваральнасці як узбагачэння рэчаіснасці застаецца пастаянным духоўным антыподам практыкі бюракратычнага тэхналагізму, разбуральнага ў адносінах да прыроды, усяго жывога, у тым ліку і чалавека. А ідэя развіцця асобы на аснове сапраўдных духоўных каштоўнасцей набывае асаблівую актуальнасць перад праявамі суб'ектыўна-эгаістычнага негатывізму і дэструктыўнасці, агрублення нораваў у нашым жыцці.

Відавочнай з'яўляецца неабходнасць шырокага і ўсебаковага вывучэння і захавання нацыянальнай культурнай спадчыны ва ўсім яе багацці — фальклору і мовы, старажытнай кніжнасці, традыцый асветніцтва і гуманізму, велічных ідэй свабоды і роўнасці, ідэалаў нацыянальна-вызваленчай барацьбы, высокіх прыкладаў самаадданай працы ў імя ўзвышэння і дабрабыту народа, развіцця яго культуры. І актывізацыя работы ў гэтым накірунку ёсць неабходная перадумова новага этапу фарміравання нацыянальнай культуры. Разам з тым трэба падкрэсліць, што самі магчымасці развіцця нацыянальнай культуры ў сучасных умовах знаходзяцца ў прамой залежнасці ад поспехаў на шляху кардынальных пераўтварэнняў нашага грамадскага жыцця.

У пачатковы перыяд існавання савецкай улады была абвешчана ідэя развіцця нацый у адзінстве дзяржаўных, эканамічных і культурных форм іх быцця. Канкрэтныя вынікі і ўрокі гэтай палітыкі, у тым ліку і палітыкі беларусізацыі ў 20-я г., яшчэ чакаюць сваіх даследчыкаў. У да-

дзеным выпадку важна падкрэсліць наяўнасць установкі на стварэнне спрыяльных умоў для свабоднага развіцця нацый. Аднак ідэя ўсебаковага развіцця нацый і іх культур была падменена ідэяй бюракратычнага кіравання культурай, прычым у аснову гэтай ідэі былі пакладзены уніфікаваныя ўяўленні пра «чыстую» сацыялістычную культуру, цалкам узгодненыя з той мадэллю сацыялізму, якая сцвярджалася ў якасці ўзору ў 30-я і наступныя гады.

Сярод такіх уніфікаваных уяўленняў трэба асобна адзначыць тэзіс пра зліццё нацый і культур як прамую рэанімацыю і дагматызацыю меркаванняў аб абсалютнай прыналежнасці нацый і іх культур буржуазнай эпохе. Пры гэтым як уступка рэальнасці нацыянальнае будзе прымацца толькі як форма — і ў гэтым сэнсе будуць прызнавацца мова, школа, мастацтва, але ні ў якім разе не як непаўторнае змястоўнае ядро культуры. Гіпертрафія ідэі кіравання культурай, непазбежная ў цэнтралізаванай бюракратычнай сістэме, прасякнутай зневажэннем стваральных магчымасцей народа, і была праявай тэндэнцыі ўвесці нацыянальныя культуры ў рэчышча «зліцця», а таксама уніфікаваць іх змястоўную індывідуальнасць. Асаблівая згубнасць мэтавага бюракратычнага кіравання ў сферы культуры — прадуцыраванне прагматыка-цынічнага, кан'юнктурнага мыслення.

Нацыянальная культура з'яўляецца неабходным першасным духоўна-маральным асяродкам, у якім фарміруецца чалавек, і разбурэнне гэтага асяроддзя вядзе да незваротных працэсаў дэградацыі, што закранаюць як нацыянальную супольнасць у цэлым, так і духоўны свет асобнага чалавека. Гэта не імкненне да замкнёнасці, гэта толькі канстатацыя наяўных рэальнасцей. Агульначалавечае ўзнікае не ў выніку адмаўлення нацыянальнага, а на яго аснове, і гэтыя абодва складаемыя існуюць толькі ў цэласнасці, у пастаянстве ўзаемадзеяння і развіцця. У наш час асабліва значэнне набыло распазнаванне сапраўднага і місціфікаванага, існага і наўмысла-скажонага дзеля бягучай кан'юнктуры. У гэтым плане дарэчы падкрэсліць сапраўднасць, універсальную значнасць нацыянальнай культуры, якая грунтуецца на гуманістычнай стваральнай памкнёнасці, сцвярджэнні вышэйшых духоўных каштоўнасцей — чалавека, свабоды, роўнасці і справядлівасці.

Першай перадумовай адраджэння і развіцця нацыянальных культур з'яўляецца пераадоленне нацыянальнага нігілізму. Недастаткова дэкларатыўнага прызнання унікальнасці і каштоўнасці кожнага народа і яго мовы, кожнай нацыі і нацыянальнай культуры. Настойлівай патрэбаю з'яўляецца сёння распрацоўка канкрэтнай нацыянальна-культурнай палітыкі, накіраванай на стварэнне ўмоў, якія дазволілі б шырока і ўсебакова ажыццявіць прынцып развіцця нацый і нацыянальных культур.

Культура народа змяшчае ўсё створанае ім багацце форм матэрыяльнага і духоўнага жыцця, выяўляе і замацоўвае яго спосаб быцця, мыслення і дзеяння ў свеце. І гэтая шматстайнасць духоўна-практычных на-

маганняў злучана непаўторнай спецыфічнасцю, што ўладарна аб'ядноўвае ўсе сферы існавання народа, нацыі — ад мовы, ладу побыту і ўнутрысямейных адносін да формы арганізацыі палітыка-дзяржаўнага жыцця. З найбольшай пэўнасцю такі шырокі прынцып культуры рэалізуецца ў нацыянальнай дзяржаве. У шматнацыянальнай дзяржаве прынцып цэласнасці нацыянальнай культуры непазбежна аказваецца раздробленым, і ступень гэтага раздраблення знаходзіцца ў прамой залежнасці ад сілы цэнтралізатарскіх тэндэнцый.

У цяперашні час беларуская нацыянальная культура не існуе ў цэласным выглядзе — як адзінства важнейшых форм жыццядзейнасці народа, а прадстаўлена толькі асобнымі элементамі, фрагментамі — духоўна-маральнымі, мастацкімі, філасофскімі традыцыямі, традыцыямі фальклору, вельмі звужанай сферай бытавання нацыянальнай самасвядомасці, мовы, літаратуры, тэатра. Парушаны прыцып агульнага культурнага адзінства. Аднак культура не можа існаваць у большай ці меншай ступені, ёсць мяжа быцця з'явы, калі яна аказваецца перад небяспекаю перастаць быць сама сабою. А ўжо рэзкае зніжэнне статусу і значэння тых элементаў нацыянальнай культуры (перш за ўсё мовы), якія працягваюць існаваць, ёсць вынік парушэння фундаментальнага прынцыпу цэласнасці культуры; тым самым яна адсоўваецца на перыферыю, становіцца другарадным, амаль што экзатычна-этнаграфічным элементам дамінуючай грамадска-культурнай сітуацыі. Таму сама магчымасць існавання нацыянальнай беларускай культуры знаходзіцца ў прамой залежнасці ў першую чаргу ад узнаўлення недастаючых звенняў аптымальнай структуры агульнага культурнага адзінства, а таксама ад свядомага, мэтанакіраванага стварэння неабходных прыярытэтаў для развіцця важнейшых сфер нацыянальнай культуры — дзяржаўнасці, мовы, адукацыі, прэсы, выдавецкай справы, літаратуры, грамадазнаўства, тэатра, выяўленчых мастацтваў, музыкі, музеяў, культурна-асветніцкіх цэнтраў і г.д.

Магчымасці ажыццяўлення прынцыпаў адзінства, цэласнасці культуры і развіцця яе важнейшых форм павінны быць асэнсаваны не ў плане «чыстага кіравання», а ўсвядомлены ў аб'ектыўным, рэалістычным напрамку, які зыходзіць з таго, што развіццё культуры пачынаецца са стварэння ўмоў, асновы для яе спрыяльнага існавання. Па-першае, гэта ўмовы эканамічныя, таму што культура патрабуе разнастайных і значных фінансавых укладаў, па-другое, — умовы грамадска-палітычныя, звязаныя з рэальнай свабодай асобы, друку, перамяшчэнняў і кантактаў, а, па-трэцяе, — гэта праблема стымуляцыі духоўнай творчасці, стварэнне сістэмы грамадскіх прыярытэтаў творчым прафесіям. Праблема стымуляцыі духоўнае творчасці непасрэдна звязана з прызнаннем самастойнай каштоўнасці духоўнай культуры, незвядзеннем яе да утылітарнага абслугоўвання іншых мэт, якія павінны дасягацца сваімі сродкамі.

Намаганні па стварэнню асновы і прадумоў для спрыяльнага існавання нацыянальнай культуры і магчымасцей яе будучага развіцця павінны зыходзіць з уліку таго факта, што развіццё нацыянальнай культуры з'яўляецца вытворным ад развіцця нацыянальнай самасвядомасці. Нацыянальна-патрыятычная свядомасць, якая акумуліруе творчыя імкненні беларускага народа, яго нацыянальную годнасць, складае ўнутраную аснову беларускай культуры. І ў дадзеным выпадку выключнае значэнне набывае пытанне не пра ступень развіцця нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, а пра яе сутнасць, характар, ідэйныя і вартасныя асновы і арыенціры. Не маючы магчымасці падрабязна засяроджвацца на гэтай праблеме, трэба адзначыць, тым не менш, што чалавек не можа існаваць, не апіраючыся на надіндывідуальныя каштоўнасці, а важнейшай такой каштоўнасцю з'яўляецца прынцып агульнага дабрабыту, дабрабыту народа, які кансалідуе людзей і выводзіць іх на ўзровень грамадскіх інтарэсаў. Нацыянальная самасвядомасць уяўляе сабою арганічную форму крышталізацыі, усведамлення і духоўнага ўвасаблення прынцыпу агульнага дабрабыту, таму у ім змешчаны магутныя імпульсы грамадскага дзеяння і творчасці.

У шэрагу фактараў развіцця нацыянальнай самасвядомасці, здольных аказаць жыватворнае ўздзеянне на ўвесь склад нацыянальнай культуры, трэба адзначыць такія важнейшыя з іх. 1. Палітыка-дзяржаўнае спрыянне і падтрымка самога прынцыпу нацыянальнасці. Гэта азначае, што сама дзяржаўнасць Беларусі павінна набыць выразны нацыянальны характар, які зараз размыты ў агульнай формуле адзінства ўсіх сацыяльных пластоў. Натуральным і заканамерным у гэтым плане з'яўляецца прызнанне беларускай мовы дзяржаўнай, сцвярджэнне яе ў такім статусе перш за ўсё ў афіцыйных, дзелавых зносінах і перапісцы. Павінны выразна абазначыцца рэальныя дзяржаўныя прыярытэты ў адносінах развіцця нацыянальнай школы, гуманітарных нацыянальных дысцыплін у вышэйшых навучальных установах, у адносінах да культурнай спадчыны мінулага. 2. Шырыня ажыццяўлення міжнародных кантактаў, у першую чаргу ў галіне культуры. Да нядаўняга часу гэтыя кантакты былі замкнёнымі на цэнтр, што практычна ператварала нацыянальную культуру ў ізаляваную і правінцыяльную. Перакладчыцкая і выдавецкая дзейнасць таксама патрабуе выйсця за межы замкнёнасці. 3. Вырашэнне праблем культурна-асветніцкіх, звязаных перш за ўсё з відавочнай неабходнасцю шырокага вывучэння беларускай мовы, выкладання на беларускай мове ў школах, сярэдніх спецыяльных навучальных установах, ВНУ. Значэнне праблем культурна-асветніцкіх не проста ў сцвярджэнні таго факта, што павінны вывучацца беларуская мова, беларуская літаратура, гісторыя беларускага народа і яго культура, а ў тым, што намаганні ў гэтым накірунку павінны стварыць і паступова пашыраць першаснае нацыянальнае культурна-моўнае асяроддзе, без якога наўрад ці магчыма ажыццяўленне прынцыпу цэласнасці культуры, а значыць і яе развіццё.

Вынікам падзей апошняга часу стала ўзнікненне ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне новай грамадска-палітычнай, эканамічнай і ідэолага-культурнай сітуацыі. Змена арыенціраў грамадскага развіцця, імкненне выкарыстаць каштоўнасці агульначалавечай значымасці, пераадолець ідэалагічны і эканамічны ізаляцыянізм, дабіцца поспеху на аснове сцвярджэння прынцыпаў дэмакратызму, стварэння прававой дзяржаўнасці, сацыяльна-арыентаванай унутрана жыццяздольнай эканомікі сталі дамінуючымі ў дзейнасці прадстаўнікоў сучаснага дэмакратычнага руху. І як гэта заўсёды назіралася раней у працэсе дэмакратычных пераўтварэнняў, грамадска, сацыяльна значныя мэты і задачы арганічна спалучаюцца з задачамі нацыянальнага і асабовага разняволення і адраджэння. Наяўны працэс афармлення суверэнных нацыянальных дзяржаў пры паспяховым і пазбаўленым катаклізмаў працяканні здольны падвесці вынік існаванню мінулых рэштакавых феадальных і пакуль яшчэ дастаткова жывучых таталітарных структур, адкрыць новыя далягляды гістарычнага быцця народаў, прывесці да ўтварэння намнога больш мнагастайнай, стракатай і не уніфікаванай палітычнай карты еўрапейскага кантыненту, асабліва яго ўсходняй часткі.

Гісторыяй прадастаўлена унікальная магчымасць, і было б непапраўнай гістарычнай памылкай народа Беларусі і яе палітыкаў не скарыстаць перспектыву свабодна, самастойна вызначыць уласны лёс, пераадолець былыя адносіны падначаленасці і залежнасці і сцвердзіць абсалютную прыярытэтнасць у палітыцы, эканоміцы і культуры ўласных нацыянальных інтарэсаў, матэрыяльных і духоўных патрэб свайго народа.

Нармальная дзяржаўнасць, як сведчыць вопыт еўрапейскага дэмакратычнага развіцця, — гэта дзяржаўнасць нацыянальная, якая ёсць перш за ўсё інструмент сацыяльнай згоды і развіцця, форма ажыццяўлення інтарэсаў свайго народа, пэўнай грамадскай супольнасці, і без гэтай формы немагчыма дасягненне рэальнага, а не надумана-дэкларатыўнага народнага дабрабыту. У рэшце рэшт паявілася рэальная магчымасць увасобіць той прынцып цэласнасці нацыянальнай культуры, па-за якім з'яўляецца немагчымым яе нармальнае існаванне і развіццё, калі яе сфера і ўплывовасць ахопліваюць усе бакі жыццядзейнасці і творчасці народа — ад форм паўсядзённага жыцця і побыту да дзяржаўнага ўладкавання.

Ступень кардынальнасці магчымых перамен у Беларусі дастаткова высокая. Рэалізацыя рэфарматарскіх імкненняў здольная карэнным чынам трансфармаваць уклад жыцця і духоўны строй народа, стварыць новыя ўмовы яго матэрыяльнага і культурнага, маральнага існавання. Аднак перспектывы руху на гэтым шляху залежаць ад шэрагу фактараў і перадумоў, ад асэнсавання іх сутнасці і значэння, ступені іх рэальнага ўздзеяння на ход магчымага развіцця.

Істотнымі ў гэтых адносінах з'яўляюцца арыентацыі агульнаперспектыўнага парадку. Неабходна прызнанне таго факта, што ў сучасных

умовах цэнтральным напрамкам сацыяльна-гістарычнага развіцця з'яўляецца тое, якое звязана з станаўленнем суверэннай дэмакратычнай дзяржавы — Беларусі. Зразумела, размова ні ў якім разе не ідзе пра прызнанне толькі слоўнае, дэкларатыўнае. Сам гэты факт павінен быць асэнсаваны і прыняты ў сваёй фундаментальнай значымасці, ён павінен быць пакладзены ў аснову ўсёй палітыкі — як міжнароднай, так і эканамічнай, а таксама сацыяльна-культурнай.

Гэта азначае, што на першы план настойліва вылучаецца новае для нас змястоўнае паняцце і абазначэнне — нацыянальны інтарэс. У гэтым няма і не можа быць апалогіі замкнёнасці, а павінен прысутнічаць толькі рэальны ўлік канкрэтных гістарычных фактараў і абставін, і ў першую чаргу тых, з якімі звязаны магчымасці будучага развіцця. Думаецца, што спробы вырашыць «чыста» эканамічныя задачы, абыходзячы сутнасць, праблему і змест свайго нацыянальнага інтарэсу як важнейшай задачы і мэты палітычных імкненняў Беларускай дзяржавы, непазбежна асуджаны на правал.

Зразумела, неабходна распрацоўка не проста паняцця, першаснага і абстрактнага вызначэння, а шырокай праграмы, у якой з дастатковай яснасцю былі б выказаны канкрэтныя нацыянальныя інтарэсы Беларусі ў галіне міждзяржаўных адносін, у развіцці эканомікі, прамысловасці, сельскай гаспадаркі, культуры, асветы і г.д. Шматлікія праблемы, якія сюды ўваходзяць, патрабуюць спецыяльнага глыбокага вывучэння на аснове шырокіх аб'ектыўных дадзеных. Гэтая задача непасрэдна ўваходзіць у тую сферу праблематыкі, якая на палітыка-дзяржаўнай мове можа быць названа праблемамі нацыянальнага самазахавання. Менавіта адсутнасць якога-небудзь намёку на сваю сістэму нацыянальнай бяспекі і прывяла да страшэннай чарнобыльскай катастрофы. А знішчэнне ў недалёкім мінулым лепшых духоўных прадстаўнікоў беларускага народа? Ніхто не ведае, якія выпрабаванні яшчэ чакаюць нас. І гэта можа быць выпрабаванне самой магчымасці існавання народа як самабытнай і незалежнай грамадска-культурнай супольнасці.

Толькі ўсталяванне нацыянальнай дзяржаўнасці і ператварэнне яе ў сапраўды дэмакратычную прававую сістэму здольна забяспечыць будучы дабрабыт беларускага народа. Гэта каркас і дух усяго будучага нашага жыцця, і вырашэнне гэтай задачы немагчыма без выпрацоўкі новых духоўна-ідэалагічных асноў быцця ствараемай дзяржаўнай супольнасці. Крушэнне ідэалагічнай дактрыны, што замацоўвала былы лад існавання шматлікіх народаў, з усёй рэзкасцю ставіць пытанне аб духоўна-маральным фундаменце нашай дзяржаўнасці і нашага будучага дэмакратычнага грамадства.

Праблема будучыні ўсякай сацыяльнай супольнасці — гэта праблема яе адзінства і ўнутранай пэўнасці. У гэтай сітуацыі важнейшай з'яўляецца неабходнасць актыўнага садзеяння аб'ядноўчым нацыянальным тэндэнцыям. Размова ідзе перш за ўсё пра згуртаванне беларускага народа,

пра асэнсаванне духоўнага адзінства нацыі, без чаго немагчыма ажыццяўленне ніякага мэтанакіраванага сацыяльнага дзеяння і руху. Дабрабыт павінен быць сапраўды агульным, дабрабытам кожнага, і без духоўнай кансалідацыі ён недасягальны. Уяўляецца, што ўнутранае адзінства беларускай нацыі можа здзейсніцца толькі на перакрыжаванні намаганняў па стварэнню і злучэнню некалькіх духоўна-ідэалагічных патокаў.

1. Усведамленне прыналежнасці Беларусі, беларускага народа да шырокай цывілізацыйнай супольнасці — еўрапейскай, якая па хрысціянскіх каранях арганічная, натуральная для беларускага народа. Гэта прыналежнасць Беларусі да еўрапейскай цывілізацыі ёсць аб'ектыўны факт нацыянальнага гістарычнага жыцця і культуры, што ў недалёкім мінулым падмянялася аднабаковай васальнай арыентацыяй і залежнасцю.

2. Разуменне ўласнага гістарычнага шляху беларускага народа, які не зводзіцца да лёсу і інтарэсаў іншых народаў, што з'яўляецца карэнным фактам нацыянальнай самасвядомасці ўвогуле.

3. На аснове раскрыцця агульнасці цывілізацыйных каранёў пасцяжэнне і сцвярджэнне сваёй нацыянальнай духоўна-культурнай індывідуальнасці і суверэннасці, сваіх асноў быцця, сваёй культуры і мовы, свайго патрыятычнага пачуцця, сваёй Радзімы.

Грамадская нацыянальная свядомасць, якая пачне фарміравацца на такой аснове, у змястоўным плане непазбежна будзе прадстаўляць сведчанні сваёй прыналежнасці да дэмакратычных імкненняў еўрапейскай цывілізацыі, перш за ўсё такія, як крышталізацыя і ўсведамленне сутнасці свабоды як вышэйшай каштоўнасці быцця, сцвярджэнне каштоўнасці чалавека як вышэйшай мэты намаганняў нацыянальнай дзяржавы, усіх грамадскіх інстытутаў. Складванне менавіта такіх вартасных асноў грамадскай свядомасці і стане адказам на пытанне аб ідэалагічнай пэўнасці нацыянальнай дзяржаўнасці, якая павінна ажыццявіцца ў будучым.

Аднак толькі паслядоўная мэтанакіраванасць намаганняў палітыкаў, дзеячаў культуры і асветы, вучоных здольна прывесці да рэалізацыі гуманістычных і стваральных патэнцый нацыянальнай грамадскай свядомасці, спрыяць яе развіццю, забяспечваючы гэтым самым агульны прагрэс нашай краіны і народа.

*1992*

[1] Скарына Ф. Прадмовы і пасляслоўі. Мн.,1969. С. 15.

**Анатоль МАЙСЕНЯ**
(1959—1996)

Палітолаг, сацыёлаг, публіцыст, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся ў в. Вялікая Ліпа Нясвіжскага раёна (Мінская вобл.). У 1980 г. скончыў перакладчыцкі факультэт Мінскага інстытута замежных моў. Вучыўся ў аспірантуры Інстытута філасофіі і права АН Беларусі. У 1987 г. абараніў дысертацыю, прысвечаную вывучэнню неакансерватызму ў палітычнай свядомасці ў ЗША. Працаваў навуковым супрацоўнікам акадэмічнага інстытута. Пазней працаваў на Беларускім тэлебачанні. Спецыяльны карэспандэнт Расійскіх інфармацыйных праграм па Беларусі, аглядальнік «Народнай газеты». З канца 80-х г. даследаваў развіццё палітычных працэсаў на савецкай і постсавецкай прасторы, а таксама і ў самой Беларусі. Ініцыятар стварэння і арганізатар незалежнага навукова-даследчага інстытута — Нацыянальнага Цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» (1992). Эксперт-палітолаг шэрагу міжнародных арганізацый і даследчых цэнтраў. Аўтар некалькіх кніг. У апошняй з іх («Страна несбывшихся надежд») разглядаў развіццё палітычных і сацыяльных працэсаў на Беларусі ў 1987—1996 гг. Вяртаючыся з міжнародных канферэнцый у Італіі і Аўстрыі, загінуў у аўтамабільнай катастрофе недалёка ад г. Стоўбцаў (Мінская вобл.).

## НА СЯМІ ВЯТРАХ

### Ці здолее Беларусь авалодаць формулай добрасуседства?

#### Замест пралога

Шмат хто паспяшаўся адразу адкінуць інфармацыю пра антырасійскія заявы, якія нібыта прагучалі пад час нядаўняга візіту ў Мінск польскага прэм'ера Х.Сухоцкай, як недарэчнасць, нявінную агаворку альбо нават правакацыю з боку пэўных сродкаў масавай інфармацы. МЗС Беларусі нават палічыў за лепшае выступіць з афіцыйным абвяржэннем, усім сваім аўтарытэтам засведчыўшы, што пані Х.Сухоцкая аніякіх антырасійскіх заяў у Мінску не рабіла. Абвінавачванні былі зняты, справу нібыта закрылі. І мала хто заўважыў тады (а беларускі друк увогуле абышоў здарэнне маўчаннем), што карані гэтай гісторыі залягаюць значна глыбей. Што інцыдэнт крануў саму сутнасць нацыянальнай знешняй палітыкі Беларусі.

# I

З даўніх часоў сярод людзей нашых ходзіць прыказка: «Не купі двара, а купі суседа». Перш чым паставіць новы дом, заўсёды патурбуешся — а хто будзе тваім суседам? Дзяржавы, як людзі, і не менш, чым людзям, дзяржавам патрэбна добрасуседства. Ёсць паразуменне з суседзямі, спакойна на межах — тады і ў дзяржаве можна ўсё на спакойны лад рабіць. І перад незалежнай Беларуссю паўстала цяпер задача заваёўваць на свой бок суседзяў, усталёўваць добрасуседскія сувязі з тымі краінамі, якія маюць агульную мяжу з намі. Але ж ці гатова да гэтага сама Беларусь? Наколькі яе цяперашнія лідэры ўсвядомілі прыярытэтнасць добрасуседства, як яны рэалізуюць гэта ў знешнепалітычнай практыцы?

Па ўсім відаць, не зусім і не лепшым чынам.

Хаатычная знешняя палітыка, якая, хутчэй, складаецца з канфліктуючых імпульсаў двух-трох яе «галоўных архітэктараў», асабістых амбіцый, чым адпавядае аб'ектыўным нацыянальным інтарэсам Беларусі, — усё гэта прыводзіць да непрыгляднай блытаніны і ў адносінах з дзяржавамі-суседзямі. Замест іерархіі прыярытэтаў, дакладна вызначанай палітыкі ў кожным з пяці напрамкаў — Расія, Польшча, Літва, Латвія, Украіна, у залежнасці ад спецыфікі кожнай з пяці суседніх дзяржаў, на самых высокіх узроўнях — бездапаможныя размовы пра роўнае стаўленне да ўсіх, пра адсутнасць усялякіх пераваг і выключэнняў. Каго б гэта ні датычыла.

Замест таго, каб агледзецца навокал, нашы палітыкі і ўрадавыя дзеячы шукаюць партнёраў за сінімі морамі.

Добрасуседства, трывалыя адносіны ўзаемапавагі і ўзаемаразумення з усімі суседзямі — імператыў знешняй палітыкі Беларусі. Гэта бясспрэчна. Але мэта не можа быць дасягнута шляхам штучнага ніверліравання. Тут нельга дзейнічаць на адзін капыл, да кожнага суседа павінен быць індывідуальны падыход, у залежнасці ад яго ўдзельнай вагі на шалях беларускай палітыкі. Нас жа цягне няўмольная сіла інерцыі камуністычнага эгалітарызму.

У аснове формулы добрасуседства ляжыць усведамленне кардынальных перамен у пасткамуністычнай Усходняй Еўропе і месца Беларусі ў сістэме каардынат еўрапейскай і сусветнай геапалітыкі. Чым з'яўлялася знешнепалітычнае акружэнне Беларусі да таго, як былі зруйнаваны адзін за адным камуністычныя рэжымы Усходняй Еўропы? Адзіны ўсярэднены, безаблічны фон камуністычнага інтэрнацыяналізму, праз які ледзь-ледзь праглядвалі адметныя рысы нацыянальных інтарэсаў той жа Польшчы ці Латвіі.

Беларусь як частка вялікай дзяржавы была пазбаўлена сваёй знешняй палітыкі. Што ўяўляе сабой знешнепалітычнае акружэнне Беларусі цяпер? Найскладанейшую камбінацыю з нацыянальных інтарэсаў і палітычных памкненняў суседніх дзяржаў, якія, відавочна, далёка не заўсёды ляжаць у адной плоскасці і зусім не абавязкова супадаюць з нацыя-

нальнымі інтарэсамі самой Беларусі. Своеасаблівы паралелаграм сіл. Вось чаму мэта дасягнення добрасуседства выходзіць за мяжы двухбаковых адносін Беларусі з кожнай з пяці дзяржаў. Яна вызначаецца, папершае, раўнавагай ці гармоніяй інтарэсаў усіх суб'ектаў у дачыненні да Беларусі, і, па-другое, — гэтыя інтарэсы павінны быць суаднесены з нацыянальнымі інтарэсамі самой Беларусі. Праблема добрасуседства — гэта праблема прапорцый, суадносін, балансу сіл і інтарэсаў. Нельга, напрыклад, «перагружаць» двухбаковыя адносіны Беларусі на пэўных напрамках, бо тым самым мы рызыкуем ссунуць цэнтр цяжару ў нашым знешнепалітычным акружэнні да небяспечнай рысы. А значыць, перакрэсліць агульную перспектыву добрасуседства.

Перанясемся цяпер ад абстракцый на грунт сучасных рэальнасцей. Разам з суверэнітэтам Беларусь як незалежная дзяржава вярнула сабе традыцыйнае становішча ў цэнтры Усходняй Еўропы, на памежжы дзвюх рэлігійных культур — дзяржаўнага польскага каталіцызму і рускага праваслаўя. На працягу стагоддзяў, як вядома, Беларусь ляжала на перакрыжаванні вялікадзяржаўных амбіцый польскіх каралёў і маскоўскіх цароў і, як ваенны трафей ці набытак палітычнай змовы, пераходзіла з рук у рукі.

Менавіта сіла гістарычных і культурных традыцый абумоўлівае тое, што аднаўленая Польшча ўсё больш настойліва звяртае свой позірк у бок тых беларускіх зямель — «крэсаў усходніх», якія калісьці належалі Польскай дзяржаве. І калі афіцыйная Варшава не дае падстаў сцвярджаць аб экспансіяністцкіх планах Польшчы у дачыненні да Беларусі (за выключэннем вытрыманых у гэтым духу асобных артыкулаў у польскай прэсе), то на перадзел сфер эканамічнага ўплыву, нарошчванне сваёй прысутнасці ў эканоміцы нашай рэспублікі яна прэтэндуе адкрыта. Гэта становучая з'ява, улічваючы ненармальную гіперінтэграванасць беларускай эканомікі ў расійскую.

Але ёсць іншае, тое, што тычыцца рэлігіі і культуры.

Цяжка сумясціць з паняццем грамадзянскага патрыятызму асобныя акцыі Саюза палякаў і яго філій. Адзіны факт — адкрыццё помніка салдатам і афіцэрам польскай Арміі Краёвай у вёсцы Стрыеўка Гродзенскага раёна пры маўклівай згодзе афіцыйных улад. Ён паказвае, наколькі рэальная небяспека «паўзучай паланізацыі», асабліва на Гродзеншчыне.

У гэтым кантэксце адраджэнне традыцыйнага саперніцтва паміж Польшчай і Расіяй за сферу ўплыву на Беларусь, сутыкненне інтарэсаў дзвюх дзяржаў становіцца непазбежным. Менавіта гэты канфлікт інтарэсаў і праглядае, нягледзячы на ўсе паліятывы афіцыйных заяў, праз абставіны візіту ў Мінск прэм'ера Польшчы Х.Сухоцкай.

Пагодзімся, што пані Х.Сухоцкая асабіста не рабіла ніякіх заяў наконт «заклапочанасці Польшчы» развіццём беларуска-расійскіх адносін. Дапусцім таксама, што ў гэтым скандальным артыкуле М.Юсіна ў «Известиях» з абвінавачваннямі польскага прэм'ера загаварыла дзяржаўная

расійская рэўнасць. Загаварыла без належнага такту і павагі. Але па сутнасці гэта нічога не мяняе. Высвятленне дэталей аднаго здарэння пад час афіцыйнага візіту ў Мінск не можа адмяніць агульную тэндэнцыю, што прыводзіць да калізіі інтарэсаў Расіі і Польшчы на Беларусі.

Словы аб заклапочанасці Польшчы ўсё ж былі сказаны пад час візіту — калі не прэм'ерам, дык, дакладна, шэфам кабінета Савета Міністраў Польшчы Янам Марыяй Ракітай — узыходзячай зоркай польскай палітыкі. Прынамсі, заяву Я.Ракіты засведчыла і польская прэса (Рэч Паспаліта. 1992, 19 лістап.). Ды і выказванні самой пані Х.Сухоцкай, паводле інфармацыі ПАП, пасля вяртання ў Варшаву мала чым, па сутнасці, адрозніваліся ад таго, пра што пісалі «Известия». Пажаданне польскага прэм'ера, каб Беларусь была поўнасцю суверэннай дзяржавай, пагадзіцеся, можна палічыць двухсэнсоўным. Уявіце сабе, што такая фраза прагучала б у Варшаве з вуснаў нашых лідэраў у дачыненні да Польшчы?! Тым больш, наш суверэнітэт абумоўліваюць узроўнем беларуска-расійскіх адносін?! Гэта, у рэшце рэшт, справа самой Беларусі вызначаць, з кім з суседзяў і на якім узроўні падтрымліваць адносіны.

З другога боку, нічога заганнага няма і ў тым, што лідэры Польшчы падкрэсліваюць: беларуска-польскія адносіны патрабуюць сур'ёзнай карэкціроўкі, іх патрэбна неадкладна прывесці ў адпаведнасць з новымі палітычнымі і эканамічнымі рэальнасцямі. Прэтэнзіі Польшчы на больш важкі статус у беларускіх справах таксама не могуць выклікаць прынцыповых пярэчанняў. Гэта натуральнае імкненне кожнай дзяржавы, якая дбае аб сваім міжнародным аўтарытэце, нацыянальным бізнесе і культуры. Менавіта ад Польшчы зыходзяць цяпер самыя моцныя імпульсы на перадыслакацыю сіл і ўплыву ў знешнепалітычным акружэнні Беларусі.

Задача беларускага кіраўніцтва не ў тым, каб адштурхнуць ці нейтралізаваць гэтае імкненне, а ў тым, каб абмежаваць яго рамкамі ўласных нацыянальных інтарэсаў. Каб не атрымалася, як у той прымаўцы: «Суседу дагадзі — сябе абгаладзі».

## II

Беларусі трэба тэрмінова вызначыцца ў прынцыпах свайго стаўлення да Польшчы на новым этапе еўрапейскай гісторыі. Па-першае, калі нарошчванне еўрапейскага вектара сілы ў палітыцы і эканоміцы Беларусі — бясспрэчны імператыў, то наколькі Польшча можа сёння быць «краінай, праз якую Беларусь ідзе ў Еўропу»?.. Менавіта такую ролю вызначыла для Польшчы ў час свайго візіту прэм'ер Х.Сухоцкая. Вядома, гэтыя словы — больш чым метафара ці простая канстатацыя геаграфічнага становішча.

Па-другое, як не дапусціць пры новым раскладзе сіл і новай ролі Польшчы парушэння раўнавагі ў знешнепалітычным акружэнні Беларусі? У першую чаргу, пэўна, гэта тычыцца адносін з Расіяй.

Гісторыя посткамуністычнага перыяду сведчыць аб тым, што цывілізаваная Еўропа будзе прырастаць паступова, уцягваючы ў сваю арбіту і інтэгруючы адну за адной краіны, па якіх прайшлася «аксамітная рэвалюцыя».

Бясспрэчна, што ў гэтым працэсе еўрапейскай інтэграцыі і рыначных трансфармацый эканомікі Польшча ідзе на некалькі гадоў наперадзе нас. Таму ігнараванне вопыту Польшчы было б цяжкай памылкай для Беларусі. Мы павінны з усёй прагнасцю, як мага больш і настойліва вучыцца ў палякаў рынначнаму і камерцыйнаму «ноу-хау», як мага актыўней гандляваць і ладзіць бізнескааперацыю. Бо палякі робяць усё гэта пакуль што лепш за нас. Але мы не можам дазволіць сабе некрытычнага пераймання польскай мадэлі, бо «шокавая тэрапія» не ёсць наш шлях у Еўропу. Па-першае, мы не маем такой раскошы, як тыя 40— 50 мільярдаў долараў, якімі Захад заахвоціў палітычныя і эканамічныя рэформы ў Польшчы. Па-другое, у саміх палякаў цяпер галава баліць, як аднавіць зруйнаваную «шокавай тэрапіяй» нацыянальную прамысловасць. Для Беларусі такі курс быў бы раўназначны самазабойству і страце незалежнасці.

Польшча ўпэўнена займае першае месца сярод краін «далёкага замежжа» ў знешнегадлёвым абароце Беларусі. Пры гэтым у нашых двухбаковых эканамічных сувязях існуе велізарны незапатрабаваны патэнцыял. Паводле ацэнак беларускага прэм'ера Вячаслава Кебіча, прыведзеных у час знаходжання пані Х.Сухоцкай у Мінску, аб'ём беларуска-польскага гандлю толькі ў наступным годзе ўзрасце больш чым удвая. Такая перспектыва зноў жа не можа не цешыць. Але знешнеэканамічныя сувязі з Польшчай маюць пэўную абмежаванасць структуры, таму іх ніяк нельга абсалютызаваць.

Стратэгічная мэта эканамічнай рэформы на Беларусі заключаецца не ў тым, каб любымі спосабамі насыціць рынак таварамі масавага ўжытку, а ў тым, каб узняць да лепшых сусветных узораў узровень айчынных тавараў. І тут не абысціся без карэннай перабудовы нацыянальнай эканомікі на базе навейшых тэхналогій, прамысловага «ноу-хау» і перадавога менеджмента.

На сучаснай Беларусі мала што засталося, што нагадвала б беспрасветную «мужыцкую Беларусь». На прыканцы стагоддзя навукова-тэхнічны і інтэлектуальны ўзровень Беларусі імкнецца да еўрапейскага. Гэта таксама не пашкодзіла б усвядомасць нашым польскім партнёрам.

У галіне тэхналагічнага трансферу Польшча можа выступаць толькі ў ролі пасрэдніка. Гэтага нельга цурацца, але Беларусь павінна ўсталёўваць прамыя, без пасрэднікаў зносіны з носьбітамі перадавых тэхналогій. Не Польшча, а менавіта Германія будзе выступаць стратэгічным саюзнікам Беларусі на тэхналагічным напрамку. І менавіта Германія, як ніякая іншая краіна, у стане адчыніць перад Беларуссю дзверы ў Еўрапейскае супольніцтва. І хоць гэта ўжо наступная тэма, але не магу не

засведчыць, што бясконцае адцягванне тэрміну беларуска-германскай сустрэчы на вышэйшым узроўні з'яўляецца самым недаравальным правалам знешняй палітыкі Беларусі. Пры ўсіх спасылках на аб'ектыўныя абставіны.

Як неафіцыйная асоба, дазволю сабе выказацца напрамкі — празмернае захапленне Польшчай можа мець негатыўныя наступствы для адносін Беларусі з Германіяй, улічваючы традыцыйныя абертоны польска-германскіх адносін. І сёння насцярожанасць Польшчы да Германіі можна прасачыць, напрыклад, у нядаўнім, не вельмі абстаўленым дыпламатыяй выразе польскага прэзідэнта Л.Валенсы, які прадказаў Польшчы 10 гадоў спакойнага жыцця, пакуль аб'яднаная Германія занята сваімі ўласнымі праблемамі.

Польскія арыенціры ў сваёй палітыцы адносна Захаду мы павінны, прынамсі, узгадняць з перспектывай развіцця беларуска-германскіх адносін. Гэта не рэверансы перад Германіяй, гэта рэальнасць, якую, дарэчы, адзначаюць і амерыканскія палітолагі. «Беларусь разам з краінамі Прыбалтыкі ляжыць у зоне ўплыву вялікіх дзяржаў Расіі і Германіі».

У пэўным сэнсе тут мы знаходзімся ў адной лодцы з Польшчай, якая таксама зведвае магутны ўплыў з абодвух бакоў. Тым больш недарэчнымі могуць здацца прагучаўшыя ў апошні час з боку польскіх афіцыйных асоб заявы, якія маюць незавуаліраваны антырасійскі характар. Адным з апошніх у гэтым шэрагу стаіць выказванне аб пагрозе з Усходу і неабходнасці перадыслакацыі польскіх фарміраванняў, якое зрабіў пад час візіту да берагоў Тэмзы міністр нацыянальнай абароны Польшчы Я.Онышкевіч. Сімптаматычна, што заява міністра мела месца пасля серыі кансультацый у Лондане і Вашынгтоне.

Складваецца ўражанне, што пэўныя палітычныя колы на Захадзе не супраць таго, каб разыграць з дапамогай Польшчы расійскую карту. Падобны настрой, відаць, захапіў і асобных натаўскіх стратэгаў, якія раілі нам, беларусам, «інтэрнацыяналізаваць» нашы праблемы з Расіяй на манер Прыбалтыкі. Такія парады нагадваюць ужо ўмяшанне ва ўнутраныя справы, да таго ж, гэта проста дыпламатычная нетактоўнасць.

У рэшце рэшт, справа самой Польшчы (як, дарэчы, і прыбалтыйскіх дзяржаў, якія на асабістым горкім вопыце зведалі вынікі канфрантацыі з Расіяй), вырашаць, прымаць ёй падкідваемую з Захаду гульню ці не. Мы не бяромся даваць Польшчы парады, нагадаем толькі, што ў яе сучаснай гісторыі досыць было трагічных момантаў, калі яна траплялa паміж молатам і кавадлам. Што датычыцца Беларусі, дык яна, упэўнены, не павінна дазваляць ніякай двухсэнсоўнасці ў сваёй пазіцыі — любая справакаваная канфрантацыя з Расіяй будзе Беларусі толькі на шкоду. І тут, зноў жа ўпэўнены, беларускім палітыкам належыць цвёрдай рукой адводзіць усе спробы ўцягнуць Беларусь у антырасійскія акцыі. Свае праблемы з Расіяй мы вырашым самі, без дапамогі звонку.

Роля Расіі і роля Польшчы ў справе мацавання суверэнітэту Беларусі, фарміравання нацыянальнай беларускай эканомікі, падтрымання, нарэшце, яе жыццяздольнасці — несуразмерныя, і такімі яны застануцца на бліжэйшую перспектыву. Толькі бязглуздая палітычная фанабэрыя ці рэцыдыў «Рэчы Паспалітай ад мора да мора» можа правакаваць процістаўленне Расіі і Польшчы ў беларускіх справах.

Зноў жа спашлюся на амерыканскіх палітолагаў Дж.Пілата і У.Потэра, якія слушна зазначаюць, што Беларусь, праводзячы курс на збліжэнне с Усходняй Еўропай, павінна выключыць любое абвастрэнне адносін з Расіяй. Да гэтай высновы іх прывялі, вядома, не прарасійскія сімпатыі, а жорсткі рэалізм і навуковая непрадузятасць.

Расія, і ніхто іншы пакуль што, выступае гарантам непарушнасці нашых межаў і жыццяздольнасці беларускай эканомікі. Таму, цвёрда адстойваючы свае нацыянальныя інтарэсы ў адносінах з Расіяй, мы павінны і надалей вырашаць існуючыя паміж намі праблемы мірам і паразуменнем.

Гэтак жа, як і з усімі іншымі краінамі-суседзямі.

*1992*

**Уладзімір КОНАН**
**(1934)**

Філосаф, гісторык, літаратуразнавец, фальклярыст, культуролаг, публіцыст, культурны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Вераскава Навагрудскага павета. Закончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску (1959). Вучыўся ў аспірантуры Інстытута філасофіі і права Акадэміі Навук Беларусі. З 1962 г. працаваў у ім навуковым супрацоўнікам. Прафесар, доктар філасофскіх навук (1982). Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1991 г. загадчык аддзела гісторыі і тэорыі культуры Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф.Скарыны. Аўтар манаграфічных даследаванняў («Развіццё эстэтычнай думкі ў Беларусі: 1917—1934», 1968; «От Ренессанса к классицизму: Становление эстетической мысли в Белоруссии в XVI—XVIII вв.», 1978; «Ля вытокаў самапазнання: Станаўленне духоўных каштоўнасцей у святле фальклору», 1989; «Архетыпы нашай культуры», 1997 і інш.) і больш за 1000 артыкулаў па праблемах філасофскай і грамадскай думкі Беларусі, гісторыі і тэорыі культуры, літаратуразнаўства і эстэтыкі.

## ХРЫСЦІЯНСТВА Ў ГІСТАРЫЧНЫМ ЛЁСЕ БЕЛАРУСІ

Ці садзейнічала хрысціянства развіццю культуры і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў? А калі садзейнічала, то ў якой ступені і ў якім кірунку на розных этапах нашай гісторыі? У чым заключаецца творчая роля рэлігіі ў станаўленні, развіцці і захаванні беларускай культурнай традыцыі? Ці мелі беларусы ў мінуўшчыне сваю нацыянальную рэлігію? А калі ж яны не мелі яе, то ці магчыма гэткая рэлігія сёння і ў будучыні? У якой ступені хрысціянства ёсць звышнацыянальная сусветная рэлігія, і ці здольная яна адаптавацца да разнастайнасці рэгіянальных сацыя-культурных умоваў і самабытнага менталітэту розных плямён, народаў, нацый? Урэшце, ці можна спадзявацца, што хрысціянскія цэрквы — праваслаўная, каталіцкая, пратэстанцкая — дапамогуць беларусам выйсці з нацыянальнага крызісу, які стаўся вынікам ідэалагічнай, палітычнай і культурнай экспансіі на Беларусь з «усходу» і «захаду»?

Каб адказаць на гэтыя пытанні, неабходна раскрыць месца хрысціянства ў гістарычным лёсе народа на розных этапах яго станаўлення і духоўнага развіцця. Патрэбна таксама ўдакладніць ключавыя паняцці гэ-

тай праблемы. Паняцце «нацыянальная самасвядомасць» дакладна адлюстроўвае яе экзістэнцыяльны, быційны аспект сягодня і ў папярэднія два-тры стагоддзі. Экстрапаляцыя гэтага тэрміна на ранейшыя эпохі этнічнай самасвядомасці, калі нацыі яшчэ не сфарміраваліся як адносна цэласныя этна-культурныя і палітычныя сістэмы, вядзе да пэўнай мадэрнізацыі гісторыі, якую можна не браць пад увагу ў публіцыстыцы, але пажадана не дапускаць у навуковых даследаваннях. Прапануецца наступная трохступенная іерархія паняццяў, якая адлюстроўвае тры гістарычныя вектары нацыі — яе мінуўшчыну, сучасны этап і будучыню: этнічная самаідэнтыфікацыя народа, ягоны менталітэт, нацыянальная самасвядомасць і нацыянальная ідэя. Першыя два паняцці ўключаюць не толькі суб'ектыўную, свядомую тоеснасць чалавека з народам, этнасам, нацыяй, але і яго падсвядомыя вобразы, так званыя архетыпы, якія жывяць і нават праграмуюць этна-культурную арыентацыю і нацыянальную самасвядомасць. Паняцці нацыянальнай ідэі і самасвядомасці дакладна пазначаюць гістарычную місію нацыі, яе пасланніцтва ў Сусвеце.

Тэма рэлігіі як духоўнага фактара нацыянальнай культуры і самасвядомасці доўгі час заставалася скарэй прагматычнай і палітычнай, чым тэарэтычнай праблемай. На ўзроўні філасофскай рэфлексіі ў былым СССР рэлігія прызнавалася адной з формаў развіцця культуры, але гэта быў хутчэй «гегелеўскі субстрат» марксісцка-ленінскай філасофіі, а не яе самастойная пазіцыя. Ядром савецкага рэлігіязнаўства быў так званы «навуковы» атэізм, які адмаўляў духоўна-творчую функцыю рэлігіі, асабліва хрысціянства. Паводле Беларускай Савецкай Энцыклапедыі, выдадзенай у гады бальшавіцка-бюракратычнай улады, рэлігія — гэта «скажонае фантастычнае адлюстраванне ў свядомасці людзей пануючых над імі прыродных і грамадскіх сіл». Пагэтаму, сцвярджаецца ў артыкуле «Рэлігія», Камуністычная партыя вядзе ідэйную барацьбу супраць рэлігійных вераванняў і «цемрашальства» як перажытку ў «мінулым гістарычных эпох»[1]. Аўтар энцыклапедычнага артыкула Г.М.Ліўшыц сцвярджаў, быццам мэта сусветных рэлігій — «прымірыць чалавека з ладам прыгнётаў і няроўнасці»; толькі «у СССР і іншых сацыялістычных краінах падарваны сацыяльныя карані хрысціянства»[2].

Паварот да аб'ектыўнай ацэнкі ролі хрысціянства ў сусветнай культуры адлюстраваўся ў «Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі», дзе адзначаецца гуманістычная місія хрысціянства і яго дабрадатны ўплыў на станаўленне нацыянальнага мастацтва[3]. Важнае месца праблемы рэлігіі і культуры занялі на чатырох міжнародных навуковых канферэнцыях «Рым: I—IV» (1991—1994), прысвечаных нацыянальным і рэгіянальным культурам (культурнаму памежжу) Беларусі, Літвы, Польшчы і Украіны. Далейшая канкрэтызацыя гэтай тэматыкі адбылася на міжнародных канферэнцыях, прысвечаных рэлігійнай і нацыянальнай тоеснасці і арганізаваных у 1991—1993 гг. польскім Інстытутам Цэн-

тральна-Усходняй Еўропы (Люблін) па ініцыятыве дырэктара гэтай установы прафесара Ежы Клачоўскага. Урэшце, Польская акадэмія навук падрыхтавала навуковую канферэнцыю «Праваслаўе ў Рэчы Паспалітай і Каталіцызм у Расійскай імперыі» (1994).

У Беларусі праблема рэлігіі і этна-культурнай самаідэнтыфікацыі мае сваю даўнюю традыцыю, якая пачынаецца бадай што з Кірылы Тураўскага (XII ст.), пазней развівалася Францішкам Скарынаю, іншымі асветнікамі XVI—XVII стст. Як сацыяльна-палітычная і духоўная праблема развіцця нацыянальнай самасвядомасці яна пастаўлена беларускімі адраджэнцамі другой паловы XIX — першай чвэрці XX стст. Кастусь Каліноўскі быў першым, хто назваў уніяцтва беларускай царквою і ў сваёй «Мужыцкай праўдзе» заклікаў беларускіх сялян вярнуцца да гэтай, паводле яго слоў, веры нашых дзядоў і прадзедаў, якую адабраў ад нас маскоўскі цар, падкупіўшы «многіх папоў» і загубіўшы праз гэтую гвалтоўную акцыю наш народ перад Богам і людзьмі[4]. Ягоны паслядоўнік Францішак Багушэвіч напісаў верш-гратэск «Хрэсьбіны Мацюка»: пра тое, як расійскі царызм казацкімі нагайкамі перахрышчваў тутэйшых каталікоў у «рускіх праваслаўных»[5].

Гэты пафас беларусізацыі хрысціянства, ужо даўно «ўпісанага» ў кантэкст іншых культур суседніх народаў (расійскага, польскага, літоўскага, чэшскага), яскрава выявіўся ў «нашаніўскую» эпоху станаўлення беларускай класічнай літаратуры (1906—1920). У «Нашай ніве» выявіліся дзве плыні дачынення беларускага нацыянальнага руху да хрысціянства — спецыфічны беларускі сацыялізм нацыянальна-дэмакратычнага кірунку, які прадстаўлялі браты Іван і Антон Луцкевічы, Аляксандр Уласаў ды іншыя нашаніўцы, і спецыфічны ж беларускі фундаменталізм Вацлава Ластоўскага, да якога далучаліся — кожны па-свойму — Сяргей Палуян, Лявон Гмырак і які паўплываў на светапогляд Янкі Купалы 1910—1920 гг. Памяркоўны антыклерыкалізм беларускіх сацыялістаў гуманістычнага кірунку, іх асветніцкі погляд на чыстае функцыянальнае прызначэнне царквы звужалі іх прагнастычнае поле зроку, а часам вярталі на пазіцыі утапізму. Затое прынцыповы эвалюцыянізм, непрыманне гвалтоўных рэвалюцый, акцэнт на духоўным прагрэсе грамадства збліжала іх з хрысціянскім дэмакратызмам[6].

На думку В.Ластоўскага, для ўтварэння нацыянальнай дзяржавы народу патрэбна моц пачуццё свайго гістарычнага пасланніцтва ў форме пашырэння самабытнага веравызнання, агульналюдскай альбо нацыянальнай ідэі. Старая Беларусь, альбо Вялікая Крывія, сцвярджаў гэты першы нацыянальны гісторык, мела самабытную паганскую веру, якая дазваляла сцвярджаць сваю сістэму каштоўнасцяў. Але пасля прыняцця хрысціянства нам не ўдалася ні нацыяналізацыя праваслаўя альбо каталіцтва, ні уніяцтва, насаджанае чужымі рукамі, што яшчэ горш, у нас «не было волі знайсці сваю рэлігійную індывідуальнасць». З гэтай песімістычнай, занадта катэгарычнай, пагэтаму недакладнай пасылкі В.Лас-

тоўскі рабіў усё ж правільную выснову: місія беларусаў — у тым, каб, абапіраючыся на свае гістарычныя традыцыі, аб'яднаць народ, стварыць новыя культурныя каштоўнасці. «Мы, — пісаў Ластоўскі, — павінны знайсці саміх сябе ў кожнай дзедзіне духоўнай і матэрыяльнай творчасці, у сацыяльным укладзе, у рэлігіі і мастацтве. І на гэтыя шуканні прабіў ужо вялікі час»[7].

У артыкуле «Унія» Ластоўскі схіляўся да больш памяркоўнай ацэнкі гэтай самабытнай і трагічнай з'явы ў гісторыя беларускай культуры: «Унія, — пісаў ён, — як абрадак сярэдні паміж скрыстылізаванымі праваслаўем і каталіцызмам магла стацца нацыянальным абрадам толькі тады, калі б была абрадам дзяржаўным, са сваёй уласнай іерархіяй, народнай мовай у літургіі і пры варунку прынадлежнасці да яе ўсіх кляс грамадства»[8].

Тут адчуваецца ўплыў двух заходнебеларускіх прарокаў нацыянальнага адраджэння — Ігната Абдзіраловіча (І.Канчэўскага) і Сулімы (Уладзіміра Самойлы), якія ў пачатку 20-х гг. выступілі з праграмнымі філасофска-этычнымі творамі, дзе ёсць цвярозы аналіз аднабокасці «ўсходніх» ды «заходніх» сацыя-культурных арыентацый і заклік да тварэння самабытных беларускіх грамадска-палітычных і духоўных каштоўнасцяў[9].

Культурна-гістарычную місію хрысціянства ў гістарычным лёсе беларусаў з пазіцый беларускага адраджэння ўпершыню паспрабаваў раскрыць ксёндз Адам Станкевіч у шэрагу артыкулаў і манаграфіі «Хрысціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы» (1940). На думку аўтара, беларуская народная душа ўзгадавалася «пад подыхам хрысціянскай рэлігіі і этыкі», а пазней, калі народ наш вырас у асобную нацыю і стварыў самабытную мову, «хрысціянства заўсёды гэтую мову падтрымлівала і развівала». У адступленні царквы ад традыцыяў беларускай культуры вінавата не хрысціянства, а палітыка, якая заўсёды імкнулася выкарыстаць царкву ў сваіх гістарычна абмежаваных мэтах і памкненнях. Не замоўчваючы негатыўных наступстваў дзейнасці палітызаванай царквы розных канфесіяў, А.Станкевіч усё ж прыйшоў да высновы, што хрысціянства — «ёсць апорай правоў чалавека, правоў на самабытнае існаванне ўсіх народаў, апорай іх уласнай культуры і праўдзівага поступу»[10].

Нарысы А.Станкевіча, здаецца, былі апошнім даследаваннем значэння хрысціянскай царквы ў гісторыі Беларусі sub specie aeternitatis (у полі зроку вечнасці). Савецкая навука і публіцыстыка разглядала праблемы царкоўнага жыцця пераважна з прагматычных і палітычных пазіцыяў, у лепшым выпадку бачыла ў ёй хутчэй функцыю нацыянальных дзяржаў і культур, чым звышэмпірычнае быццё духу. У сваю чаргу дзеячы царквы, як правіла, абмяжоўваліся апалогіяй сваёй канфесіі і рэдка падніmaліся да аб'ектыўнага навуковага аналізу. Апошнім часам праблемаю рэлігіі ў гісторыі беларускай нацыянальнай культуры зацікавілася літа-

ратурная журналістыка, пра што сведчаць публікацыі ў часопісе «Нёман»[11].

Рэлігія, родная мова і генетычна звязаная з імі міфалогія — гэта не толькі кампаненты нацыянальнй культуры, але і крыніца фарміравання архетыпаў нацыянальнага менталітэту як этна-псіхічнай асновы нацыянальнай самасвядомасці. На раннім этапе этнагенезу беларусаў (VI—X стст.) іх этнічная самаідэнтыфікацыя выявілася ў вобразах язычніцкай рэлігіі і звязанай з ёй «ніжэйшай» (народнай) міфалогіі. Даследуючы язычніцкі пантэон беларусаў і этнічных літоўцаў, набор сюжэтаў і вобразаў іх аўтэнтычнай міфалогіі, нельга не звярнуць увагу на тыпалагічную блізкасць гэтых пластоў культуры. Такое збліжэнне, часам аж да тоеснасці, — вынік не толькі ўзаемаўплываў іх культур у рамках агульнай дзяржавы — Вялікага Княства Літоўскага, але і генетычных вытокаў. На думку беларускіх (Ян Станкевіч, Мікола Ермаловіч) і расійскіх (В.В.Сядоў) даследчыкаў, продкамі беларусаў былі не толькі славянскія плямёны, але таксама балты іятвягі, якія жылі тут задоўга да славянскага засялення[12].

Генетычны дуалізм нашага народа стаўся важным чыннікам, які ў пэўнай ступені прадвызначыў яго гістарычны лёс, паўплываў на яго этнічную, рэлігійную і нацыянальную самасвядомасць, выявіўся ў варыянтнасці іх этнонімаў — літвіны, русіны, «рускія», беларусы. Этнонім «рускі» і саманазва праваслаўных «руская вера» не мае этнагенетычных карэнняў у Беларусі, яны прывіліся звонку ад варажскага племені русаў, ваенныя атрады якіх былі закліканы славянамі ў якасці наёмных дружын.

Спецыфічны беларускі культурны феномен — жанравае багацце і духоўная глыбіня фальклору, які выявіў этнічную, а пазней і нацыянальную самасвядомасць беларусаў. Тут, відаць, паспрыяла беларуская «танальнасць» хрышчэння гэтага рэгіёну. У адрозненне ад прымусовага, «рэвалюцыйнага», хрышчэння Кіеўскага княства[13], на вялікіх абшарах крывічоў і летапіснай Літвы (яны склалі ядро Беларусі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага) далучэнне народа да новай рэлігіі адбывалася паступова і, мабыць, за выключэннем лакальных канфліктаў, шляхам мірнай канвергенцыі[14]. Апеты ў гераічнай паэме «Слово о пълку Ігореве» полацкі князь Усяслаў (княжыў у 1044—1101 гг.) — прататыпны вобраз беларускага гістарычнага лёсу — увасабляў гэты старадаўні рэлігійны сінтэз: будаўнік Полацкага Сафійскага сабору, кіеўскі князь у 1068 г. па волі народа і Кіева-Пячорскага манастыра, ён тады ж набыў славу паганскага вешчуна ды прозвішча Чарадзей.

Вось такая «сустрэча» нерастрачаных сіл маладога славяна-беларускага этнасу з хрысціянскай духоўнасцю мела сваімі вынікамі не толькі канфлікты, але таксама інтэнсіўную творчасць. Адбывалася асіміляцыя народнай міфалогіі новай рэлігіяй. Гэтыя працэсы паспрыялі развіццю фальклора, які на працягу X — пачатку XX стст. фарміраваў разам з

рэлгіяй ды іншымі галінамі дрэва культуры архетыпы этнічнай, а пазней і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў, моцна паўплываў на іх менталітэт.

Язычніцкая рэлігія ў яе адносінах да хрысціянства звычайна разглядаецца ў аспекце апазіцыі паміж імі. Між тым у даследаванні дахрысціянскай эпохі нашай духоўнай гісторыі неабходна адрозніваць старадаўнюю, народна-мастацкую рэлігійную свядомасць і язычніцтва сучаснае, «цывілізаванае», якое грунтуецца на самаабагаўленні чалавека і пакланенні «мамоне». Старaславянскае «паганства» не мела выразнага ўяўлення пра Бога як Стваральніка свету і Апекуна жыцця. Але яно было напоўнена верай у Боскае тварэнне, у быццё, космас, у яго жыццёвасць, красу і самакаштоўнасць. У гэтым «вітаісцкім аптымізме» — пазітыўны, культурны сэнс старадаўняй язычніцкай рэлігіі, яна заслугоўвае не пустога адмаўлення, а дыялектычнага «зняцця» і захавання язычніцкай творчасці ў хрысціянскай свядомасці і культурнай традыцыі. Абстрактны тэацэнтрызм сярэднявечнага хрысціянства, які нярэдка адмаўляў духоўную сутнасць космасу, вырадзіўся спачатку ў павярхоўны гуманізм і гомацэнтрызм, а зрэшты, у сучасны прагматызм, які бачыць у прыродзе толькі сродак, а не самамэту. У выніку гэткай «гуманізацыі» чалавек забыў сваю высокую місію: з руплівага гаспадара, «добрага пастыра» і духоўнага пераўтваральніка быцця ператварыўся ў жорсткага спажыўца прыроды ў грамадстве.

Сёння патрэбны універсальны сінтэз усіх рэлігійна-духоўных адкрыццяў чалавецтва, у якім знойдзе сваё месца і старадаўняе язычніцкае ўслаўленне спрадвечнае жыццедайнае Маці-Прыроды. Выхаванню грамадскай экалагічнай свядомасці пасадзейнічае вывучэнне і ў пэўным сэнсе «рэстаўрацыя» народнай міфалогіі і аўтэнтычнага фальклору.

Праведзены мною параўнальны аналіз рэцэпцыі біблейскіх вобразаў, сюжэтаў і матываў дахрысціянскай рэлігійнай традыцыі навогул у беларускім фальклоры засведчыў: беларуская народная творчасць эпохі станаўлення народнасці і нацыі ў значнай ступені «фальклярызавала» Біблію, царкоўную літаратуру ды хрысціянскую традыцыю і такім чынам увяла іх у кантэкст народнай самасвядомасці. Паводле гэтых крытэрыяў, фальклор усё яшчэ багацейшы за прафесійную мастацкую культуру, бо гэтая апошняя, у тым ліку яе найбольш развітая частка — класічная літаратура, развівалася ў неспрыяльных умовах, адносна кароткі перыяд і, відавочна, не паспела творча пераасэнсаваць хрысціянскае Пісанне і царкоўнае Паданне — невычэрпнае мора архетыпаў сусветнай культуры[15]. Гэткі «беларускі феномен», які, здаецца, не характэрны для іншых еўрапейскіх краін, сведчыць, што наша традыцыйная народная культура была і сёння застаецца важным фактарам развіцця нацыянальнай самасвядомасці і ўключэння нацыянальнай культуры ў культуру сусветную. З другога боку, без творчага засваення гэтай апошняй, у тым ліку ўсёй шматграннай царкоўна-хрысціянскай традыцыі, немагчыма «нацы-

яналізацыя» царквы і ўключэнне сусветнай культуры ў кантэкст культурнага развіцця асобных нацый, вялікіх і малых рэгіёнаў.

У першай кніжцы Бібліі ёсць прароцтва аб паходжанні народаў, іх розных моваў і культур: «Была жеесть земля языку единаго и речи едностайное (...) И рече единъ каждый ко другу своему: пойдемо и наделаймо плит и спалимо е огнемъ. И быша имъ плиты в каменя место й клеи в мелу место. И рекоша: подьте й вчинимо собе градъ и столпъ, его же верхъ да досягаеть до небеси. И вчинимъ славно имя наше, первей нежели розыйдемься по всехъ земляхъ. И ступилъ есть Господь видети градъ и столпъ, еже чиниши сынове Адамовы. И рече: се едины суть людие й единостайный есть языкъ всемъ. И почали суть сее делати й не престануть от мышленей своихъ, доньдеже и деломъ не наполнять. Сего для пойдете ступьмо й смесимь тамъ языкъ ихъ, да не поразумееть каждый гласу ближнего своего. И тако разделилъ есть ихъ Господь с того места по всехъ земляхъ. И престаша ставити градъ. И сего ради названо есть имя граду тому Смешение (Вавилон), понеже ту смесился есть языкъ всея земли и оттоле розсеялъ е Господь по всехъ странахъ» (Быццё 11:1—9)[16].

Хрысціянская экзэгетыка па-рознаму тлумачыць гэтае біблейскае паданне, у тым ліку ў натуральна-гістарычным сэнсе (спасылкі на адзіную першамову, на эмпірычны архетып Вавілонскай вежы і да т.п.). У «Толковой Библии» пад рэдакцыяй А.П.Лапухіна (1904) ёсць больш дакладная расшыфроўка фразы «и вчинимъ славно имя наше»: «Узнімаючы такую каласальную вежу, — пісаў каментатар, — будаўнікі хацелі паставіць помнік сваім выдатным здольнасцям і гэткім чынам абяссмерціць сваё імя ў вачах будучых пакаленняў. Мабыць, да гэтага далучаліся яшчэ іхнія ўладалюбівыя намеры: стварыць такі апорны пункт свайго панавання, адкуль было б зручна пашыраць сваю ўладу на па-магчымасці найбольшую колькасць насельніцтва»[17].

Архетып Вавілонскай вежы — гэта сімвалічнае прароцтва пра ўсе былыя і будучыя імперыі, пачынаючы з шматэтнічнай Вавілонскай дзяржавы. Адзін з біблейскіх экзэгетаў наблізіўся да разгадкі гэтага сімвала, аднак толькі рэтраспектыўна, па-за вядомай усім гістарычнай перспектывай: «Раздзяленнем моваў і рассяленнем плямёнаў само сабою разбураліся богапраціўныя намеры, якія мелі сваёю мэтаю палітычнае аб'яднанне ўсіх плямёнаў пад валадарствам аднаго з іх, пры гэтым бязбожнага (...). Калі б існавала сусветная сталіца як асяродак грэху і распусты і калі б запанавала ўсюды адна мова, тады ўвесь свет стаў бы тым, чым калісьці стала Ханаанская зямля, што мярзотамі сваімі вычарпала боскую доўгацярплівасць»[18].

Хрысціянства прапанавала свой дабратворны шлях да ўсіх народаў, расцярушаных па зямлі. Шлях гэты вызначаны ў запавеце Ісуса Хрыста сваім вучням, у першы дзень свайго Уваскрэсення: «Дык ідзіце, навучайце ўсе народы, хрысцячы іх у імя Айца, і Сына, і Святога Духа, на-

вучаючы іх выконваць усё, што Я сказаў Вам: і вось Я з Вамі ўва усе дні да сканчэння веку. Амін» (Мф. 28: 19—20). А каб навучыць «вся языки» (народы), апосталы атрымалі вялікі духоўны дар у дзень Пяцідзесятніцы (Сёмухі): «І напоўніліся Духам Святым ды пачалі гаварыць іншымі мовамі, так, як Дух Святы даў ім прамаўляці (...) І усе недаўмевалі і дзівіліся, кажучы адзін аднаму: Вось усе гэтыя, што гутараць, ці ж не галілейцы? Дык як жа мы чуем сваю гаворку, у якой нарадзіліся...» (Дзеянні 2: 4—8)

Хораша растлумачыў гэты шлях агульналюдскага жыцця ў шматгалоссі нацыянальных культур рускі філосаф Уладзімір Салаўёў: «...Хрыстос уваскрос для ўсіх народаў і запаведаў вучням сваім: «Шедше, научите вся языки». Але ж хіба хрысціянства адмяняе нацыянальнасць? Не, бо захоўвае яе. Адмяняецца не нацыянальнаць, а нацыяналізм (...). Народнасць, альбо нацыянальнасць, ёсць пазітыўная сіла, і кожны народ паводле самабытнага характару свайго заклікавы для асаблівага служэння. Розныя народы ёсць розныя органы ў агульным целе чалавецтва (...). Хрыстос, адмяняючы нацыяналізм, выратоўвае народы, таму што звышнароднае не ёсць безнароднае (...). Узнесены на гэту ступень, патрыятызм ёсць не супярэчнасць, а паўната асабістай маральнасці (...). Хрысціянскі прынцып абавязку, альбо дабрадзейнага служэння, ёсць адзіна абгрунтаваны пэўны і адзін толькі завершаны, альбо дасканалы, прынцып палітычнай дзейнасці»[19].

Хрысціянства прыйшло ў германска-раманскія і славяна-балтскія рэгіёны як спадчына грэка-рымскай культуры, і адпаведна цэрквы карысталіся дзвюмя сусветнымі мовамі — грэчаскай і лацінскай у якасці мовы літургіі і рэлігійнага асветніцтва. Але ж ад самага пачатку яно выявіла здольнасць да адаптацыі адносна этнанацыянальных асаблівасцяў усіх народаў. Хрысціянскія асветнікі Кірыла і Мяфодзій у другой палове IX ст. падрыхтавалі славянскі свет для хрышчэння, фактычна ўзаконіўшы славянскую кніжную мову ў якасці мовы царкоўнай. Гэтай місіі садзейнічала тагачаснае іерархічнае і дагматычнае адзінства хрысціянства да яго фармальнага падзелу на праваслаўе і каталіцтва у 1054 г.

Пасля царкоўнага расколу праваслаўе паслужыла калыскаю духоўнага сталення беларусаў, фарміраванню беларускай народнасці, дзяржавы і культуры. На думку Міколы Ермаловіча, у Навагародскі і Віленскі перыяд станаўлення Вялікага Княства Літоўскага (XIII—XIV стст.) трывала ўкаранёная на беларускіх землях Праваслаўная Царква забяспечыла крывічам, дрыгавічам і іншым беларускім народнасцям духоўную і геапалітычную перавагу над язычніцкімі ў сваёй большасці народнасцямі балцкімі (этнічнымі літоўцамі, ятвягамі і інш.), бо апошнія толькі далучыліся да хрысціянскай рэлігіі, пераважна ў яе каталіцкай канфесіі, якая яшчэ не паспела тады ўкараніцца ў гэтым рэгіёне[20]. Можна гаварыць нават пра спецыфічнае раннехрысціянскае Адраджэнне старажытнай Беларусі, узгадаванае на аснове сінтэза творчых парываў маладог

этнасу, хрысціянскага духоўнага падзвіжніцтва і прынесенай з Візантыі праз хрышчэнне вытанчанай эліністычнай культуры.

Жывым увасабленнем хрысціянскага подзвігу ў XII ст. сталі беларускія асветнікі Ефрасіння Полацкая і Кірыла Тураўскі. Полацкая княжна Прадслава сапраўды праславіла ў хрысціянскім свеце свой беларуска-крывіцкі народ, узвялічыла ягоны прэстыж у тагачасным свеце будаўніцтвам слаўных манастыроў і храмаў, заснаваннем царкоўнай школкі і рукапіснага кнігавыдавецтва.

Кірыла Тураўскі — выдатны царкоўны паэт і аратар, духоўны асветнік свайго беларуска-дрыгавіцкага народа, вядомы ва ўсім праваслаўным свеце тэолаг, паводле слоў летапісца, наш Златавуст, «паче всех просиявший на Руси». Да таго ж ён выступаў яшчэ дыпламатычным пасрэднікам паміж Кіеўскім і Уладзіміра-Суздальскім княствамі, імкнуўся па-хрысціянску паўплываць на князя Андрэя Багалюбскага, які двойчы (1169 і 1174) браў штурмам і аддаваў на рабаванне новую пасля Канстанцінопаля сталіцу праваслаўя Кіеў. Зусім верагодна, што «Прытча аб душы і целе», альбо «Пра сляпога і кульгавага», мела канкрэтнага адрасата — уладзіміра-суздальскага князя, хоць, вядома, сэнс гэтага сімвалічнага твора выходзіў за рамкі лакальных гістарычных падзеяў і набыў значэнне архетыпу грэшных памкненняў і ўчынкаў наогул[22]. Відавочна, што Кірыла Тураўскі — заснавальнік старабеларускай багаслоўскай школы, якую пазней развівалі Грыгорый Цамблак, Францішак Скарына, Лаўрэнцій Зізаній, Мялецій Сматрыцкі, Сімяон Полацкі.

Заснавальнікі Вялікага Княства Літоўскага навагародскія князі Міндоўг (каля 1200—1263) і Войшалк (1223—1268) у сваёй дзейнасці па аб'яднанню беларуска-крывіцкіх, дрыгавіцкіх земляў і летапіснай Літвы (на тэрыторыі сучаснай Беларусі ў басейне верхняга Нёмана) абапіраліся на падтрымку Праваслаўнай Царквы. Гэтым самым быў забяспечаны прыярытэт старадаўняй Беларусі ў дзяржаватворчасці. З таго часу і да канца XVII ст. старабеларуская мова мела статус мовы дзяржаўнай і выконвала інтэграцыйную функцыю ў развіцці культуры Вялікага Княства Літоўскага і этнічнай самасвядомасці беларусаў. Гэтую ж палітыку дзяржаўнай «асіміляцыі» праваслаўнага хрысціянства як фактару стабільнасці Беларуска-літоўскай дзяржавы працягвалі іх паслядоўнікі князі Гедымін, Альгерд і Вітаўт.[22] У гады княжэння Вітаўта (1382—1430), Жыгімонта Кейстутавіча (1432—1440), Казіміра IV Ягелона (1440—1492) беларуска-літоўская і ўкраінская Праваслаўная Царква дабілася незалежнасці ад Маскоўскай метраполіі і, па-сутнасці, была беларускай («рускай») верай.

Абапіраючыся на даследаванні гісторыкаў (А.Грыцкевіча, М.Ермаловіча, П.Лысенкі, Г.Штыхава і інш.), можна зрабіць выснову: Праваслаўная Царква ў старадаўняй Беларусі X—XIII стст., па сутнасці, была дзяржаўнай канфесіяй у Полацкім, Турава-Пінскім, Навагародскім княствах і ў Вялікім Княстве Літоўскім. Пазней, з XIV ст. да Люблін-

скай дзяржаўнай уніі 1569 г. і Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. яна захавала сваё дамінуючае становішча сярод «рускага» (беларускага і ўкраінскага) насельніцтва Беларуска-літоўскай дзяржавы[23]. Мовай літургіі ў Праваслаўнай Царкве па традыцыі заставалася царкоўна-славянская мова, а мова хрысціянскага (прапаведніцкага і кніжнага) асветніцтва — старабеларуская мова. Будучы «кафалічнай» (сусветнай) па духу, яна стала беларускай у якасці духоўнага фактару станаўлення нацыянальнай культуры і нацыянальнай самасвядомасці.

На думку даследчыкаў (А.Станкевіча), каталіцтва (хрысціянства рымскай дагматыкі і лацінскага абраду) прыйшло на Беларусь у XIII ст.; тады ж узніклі касцёлы і каталіцкія манастыры ў Смаленску, Полацку, Навагрудку і іншых гарадах. Паводле польскага даследчыка Е.Ахманьскага, з 1383 да 1553 г. у Віленскай епархіі (усходняя частка сучаснай Літвы і заходне-беларускія землі, апрача Брэста і Пінска) было пабудавана 259 касцёлаў, з іх 93 — у беларускіх паветах[24]. Але да канца XVI ст. каталіцкі касцёл яшчэ не быў духоўным сімвалам пальшчызны. На думку А.Станкевіча, «лацінскае хрысціянства было часта апорай беларускай нацыянальнасці», найперш дзякуючы сваёй кананічнай залежнасці ад Апостальскай сталіцы, па сутнасці, «наднацыянальнай і не звязанай нацыянальна з ніякай дзяржавай»[25]. Наяўнасць беларускай царкоўна-каталіцкай літаратуры кірыліцай і лацінкай (Катэхізіс 1585 г., пераклады літургічных тэкстаў па-беларуску, перавага ксяндзоў-беларусаў у беларускіх прыходах, царкоўнае асветніцтва на беларускай мове) сведчыць, што Каталіцкі Касцёл да сярэдзіны XVII ст. упісаўся ў беларускую культурную традыцыю і застаўся фактарам узгадавання беларускай нацыянальнай самасвядомасці.

Кнігавыдавецкая і асветніцкая дзейнасць Ф.Скарыны, які выдаў першую ва ўсходнеславянскім рэгіёне навукова-папулярную Біблію на роднай мове беларусаў[26], зборнік новазапаветных кніг «Апостал» (Вільня, 1525) і «Малую падарожную кніжку» (Вільня, каля 1522), у якую ўвайшлі Псалтыр, Часасловец (тэксты малітваў дзённай і вячэрняй праваслаўных царкоўных службаў, каноны і акафісты, у тым ліку напісаныя Ф.Скарынаю), засведчыла духоўна-творчую місію хрысціянства ў гістарычным лёсе беларусаў сярэднявечнай і рэнесансавай эпох. Спадчына беларускага асветніка і першадрукара даследавалася галоўным чынам у аспекце станаўлення рэнесанснай культуры і гуманістычнага светапогляду ў гэтым рэгіёне. У найбольш поўнай Скарынавай бібліяграфіі, выдадзенай Беларускім інстытутам навукі і мастацтва (1989), даследаванні тэалагічных праблем ягонай творчасці, яе ўплываў на «беларускую адаптацыю» хрысціянскай царквы, займаюць больш чым сціплае месца[27]. Савецкія даследчыкі ў былой БССР без належнай аргументацыі спрачаліся пра канфесійную прыналежнасць Ф.Скарыны, а багасловы «не ўпісалі» яго ў гісторыю беларускай царквы, якая, дарэчы, яшчэ не напісана.

Неабходна ўлічыць два аспекты творчасці Ф.Скарыны як сведчання этнічнай і нацыянальнай самасвядомасці беларусаў: канкрэтна-гістарычны, абмежаваны храналагічнымі рамкамі яго эпохі (XVI — пачатак XVII), і спрадвечны, які выходзіць за гэтыя рамкі і сягае ў нашую сучаснасць. У першым выпадку ён забяспечыў сваёй айчыне (Літоўскай Русі, паводле тагачаснага этнічнага самаўсведамлення) прыярытэт выдання першай ва ўсходнеславянскім рэгіёне Бібліі на мове свайго народа і гэтым самым «упісаў» Святое Пісанне ў кантэкст развіцця нацыянальнай культуры. У больш шырокім, агульнагістарычным плане Ф.Скарына аказаўся прарокам беларускай нацыянальнай ідэі, сутнасць якой, паводле І.Абдзіраловіча (Канчэўскага), ва ўсведамленні таго, што «толькі праз развіццё асабістага і народнага духу дойдзем мы да ўсечалавечага ідэілу». Праз гэтую ідэю ў рэтраспектыве нашага стагоддзя Ф.Скарына бачыцца ў якасці правобраза беларускага нацыянальнага адраджэнца. «Прыклад Скарыны, аб якім да гэтай пары няведама, хто ён быў такі, ці католік, ці праваслаўны, і пэўна, што і той і другі разам, — адзначыў той жа Канчэўскі, — адбівае гэтае з'явішча беларускага духу ў індывідуальнасці, у душы нашага першага інтэлігента. Гэтую рысу беларуская народная інтэлігенцыя захавала і да нашай пары...»[28]

У спецыфічна царкоўным сэнсе Ф.Скарына быў пачынальнікам самабытнай беларускай багаслоўскай думкі. Яе галоўныя прыкметы — асветніцтва, арыентацыя на «народ просты, паспаліты», на талерантнасць, нацэленасць на агульнахрысціянскія каштоўнасці, урэшце, спецыфічны для беларускай культуры сацыяльна-этнічны акцэнт. Выкарыстаўшы як «усходнія» (грэка-візантыйскія і стараславянскія), так і «заходнія» (лацінскія і, магчыма, пратэстанцкія) крыніцы, беларускі асветнік нідзе не аддае перавагі ні праваслаўю, ні каталіцтву, але затое падкрэслівае сваю вернасць агульнахрысціянскім догматам, Святому Пісанню і Паданню. Ягоны каментарый да Бібліі мае пэўныя прыкметы агульнахрысціянскага катэхізісу без якіх-небудзь акцэнтаў на карысць пэўнай канфесіі[29]. Ёсць падставы меркаваць, што Ф.Скарына быў папярэднікам уніяцкага царкоўнага руху як спецыфічна беларускага рэлігійнага вопыту.

Гэтыя Скарынавыя змест і стыль беларускай багаслоўскай думкі з яе арыентаванасцю на беларускае і шырэй «рускае» (уключаючы рэгіёны Украіны і Вялікага Княства Маскоўскага — ядра будучай Расіі) асветніцтва характэрнае для паслядоўнікаў нашага першадрукара ў трох хрысціянскіх канфесіях Беларусі XVI—XVII стст. — праваслаўя, уніяцтва і пратэстантызму.

Творчасць праваслаўных хрысціянскіх асветнікаў пазначана пошукамі самабытных формаў беларускага багаслоўя, і, відавочна, з гэтай прычыны ніхто з іх не быў прызнаны артадаксальным праваслаўем прамаскоўскага кірунку. Першым паражыў аўтадафэ сваіх кніжак Ф.Скарына. Большасць даследчыкаў пагаджаецца з гіпотэзай, паводле якой беларускі асветнік каля 1525—1533 гг. наведаў Маскву з культурна-асветніцкай

місіяй і меў намер распаўсюджваць там свае выданні біблейскіх кніг. Але кнігі ягоныя былі спалены па загаду князя Васілія III[30]. У 1596 г. праваслаўны сабор у Навагрудку асудзіў як «ерэтычны» беларускі «Катэхізіс» (1595) Стэфана Зізанія, рэлігійнага пісьменніка і царкоўнага прапаведніка, а самога аўтара пазбавіў духоўнага сану і адлучыў ад царквы. Праўда, славуты уніяцкі Брэсцкі сабор (1596) апраўдаў С.Зізанія. У 1620—1623 гг. брат Стэфана, беларускі і ўкраінскі педагог і царкоўны дзеяч, аўтар першай «Грамматики словенской» (Вільня, 1595) Лаўрэнцій Зізаній працаваў над «Катэхізісам вялікім» па наказу маскоўскага «і всея Русі» патрыярха Філарэта, бацькі заснавальніка дынастыі Раманавых цара Міхаіла. Патрыярх лічыў усіх асветнікаў, якія прыязджалі ў Маскву з Вялікага Княства Літоўскага, патэнцыяльнымі ерэтыкамі і патрабаваў паўторнага іх хрышчэння[31], дарэчы, у нарушэнне праваслаўнага Сімвала веры. «Катэхізіс» Л.Зізанія пасля шматлікіх рэдактарскіх правак, скарачэнняў і дапаўненняў у Маскве быў «зарэзаны», а той, які аргументавана прыпісваецца гэтаму аўтару — «Книга по-гречески Катихизис, политовски Оглашение, русским же языком нарицается Беседословие в тетрадях дѐсть» (1627) — фактычна была новай, калектыўнай рэдакцыяй твору Л.Зізанія[32].

Нягледзячы, на першы погляд, на няўдачу хрысціянска-асветніцкай місіі беларусаў у Маскоўскім царстве, яны засведчылі свой высокі багаслоўскі ўзровень і ў рэшце рэшт паўплывалі не толькі на расійскае багаслоўе, але і на рускую культуру XVI—XVII стст. Жывым увасабленнем гэтага ўплыву стаў выдатны беларускі пісьменнік, аратар, тэолаг, грамадскі і царкоўны дзеяч Сімяон Полацкі (1629—1680).

Амаль што апакалептычны ваенны «патоп» 50—60-х гадоў XVII ст. (у выніку польска-шведскай вайны і вайны Маскоўскага царства з Вялікім Княствам Літоўскім за Беларусь і Украіну) насельніцтва Беларусі скарацілася амаль напалову. Гэтая дэмаграфічная катастрофа пахіснула веру Сімяона у Рэч Паспалітую. Ён спадзяваўся, што яго бацькаўшчыну выратуе ваенна-палітычны саюз з Расіяй. У 1664 г. ён прыняў запрашэнне пераехаць у Маскву, дзе стаў на чале лацінскай школы для падрыхтоўкі чыноўнікаў Тайнага прыказа (асабістай канцылярыі цара), дасведчаным тэарэтыкам царкоўнай рэформы, якая праводзілася ў сярэдзіне XVII ст. патрыярхам Ніканам. У багаслоўскіх трактатах («Жезл правления» і «Опровержение челобитной попа Никиты») Сімяон Полацкі тэалагічна абгрунтаваў неабходнасць рэформы. У Маскве ён быў кіраўніком дамашняй школы царскіх дзяцей, урэшце, неафіцыйным настаўнікам практычнай гамілетыкі; Сімяон пісаў казані для расійскіх праваслаўных іерархаў і падрыхтаваў для гэтай мэты фундаментальныя зборнікі аратарскай прозы.

Свае погляды ён выклаў у гэтых рукапісах пад назвай «Обед душевный» і «Вечеря душевная» (каля 1500 старонак кожная, падрыхтаваныя ў 1675 і 1676 гг., апублікаваныя ягоным вучнем Сільвестрам Мядзведзе-

вым у 1681 і 1683 гг.). Гэта — лепшыя, напісаныя ў вытанчаным стылі барока творы, прысвечаныя красамоўніцкаму абгрунтаванню хрысціянскай тэалогіі, этыкі, аксіялогіі і эстэтыкі. Па сутнасці, Сімяон Полацкі далучыў расійскую багаслоўскую думку да еўрапейскай хрысціянскай тэалогіі, захаваўшы яе самабытнасць і шматвяковыя традыцыі. Пры гэтым ён напаўсакрэтна захаваў сімпатыю да беларускага уніяцтва: сярод экслібрысаў ягонай мастацкай бібліятэкі ёсць і такі: «З кніг Сімяона Пятроўскага-Сітняновіча, полацкага іераманаха ордэна св. Базыля Вялікага. Лета Госпадня 1670, 26 жніўня ў Маскве» (пераклад з лацінскай мовы)[33].

Прынцыповае адрозненне станаўлення нацыянальнай і рэлігійнай свядомасці беларусаў ад такога ж працэсу ў Маскоўскім царстве XVI—XVII стст. абумоўленае сацыяльна-палітычным ладам кожных з такіх дзяржаваў, іх этна-дэмаграфічным складам, урэшце, традыцыйным менталітэтам. Вялікае Княства Літоўскае, якое пасля Люблінскай уніі 1569 г. разам з Польшчай уваходзіла ў канфедэратыўную дзяржаву Рэч Паспалітую, было поліэтнічнай феадальна-дэмакратычнай дзяржавай на чале з выбраным вялікім князем, які, паводле ўмоваў Крэўскай уніі 1386 г. і Люблінскай уніі, быў адначасова каралём Польскай Кароны. Грамадзянскія правы ў Беларусі гарантавала беларуска-літоўская канстытуцыя — Статут Вялікага Княства ў рэдакцыях 1529, 1566 і 1588 гг., а да прыняцця Статутаў — адпаведныя акты Сойму і вялікага князя. Усё гэта спрыяла развіццю шматканфесійнасці, рэлігійнай і, шырэй, светапогляднай талерантнасці, пра якую не магло быць і гутаркі ва ўмовах расійскага таталітарызму.

Усе гэтыя фактары, а таксама геапалітычнае становішча Беларусі на перакрыжаваннях разнастайных культур, абумовілі спецыфічна беларускі феномен — поліканфесійнасць рэлігійнай і нацыянальнай самасвядомасці. У адрозненні ад сваіх саюзнікаў па канфедэрацыі, нацыянальная самасвядомасць якіх фарміравалася пераважна ў духоўным полі адной (каталіцызм палякаў і літоўцаў) альбо дзвюх (праваслаўе і каталіцтва, пазней уніяцтва ўкраінцаў), рэлігій, Беларусь у другой палове XVI ст. на пэўны час стала арэнай рэфармацыйнага руху і калыскай узгадавання розных плыняў пратэстантызму, у тым ліку самых радыкальных (сацыянства, антытрынітарызм) аж да вальнадумства і атэізму. Тут знайшлі прыстанішча ерэтыкі-вальнадумцы з Расіі (Феадосій Касой, Ігнацій ды інш.), дзе лаяльнасць да дзяржавы і «рускасць» фактычна была тоесная з праваслаўем, а таксама з Заходней Еўропы (Фаўст Соцын з Італіі), дзе ў гэты час каталіцтва і памяркоўнае пратэстанцтва набывалі статус дзяржаўных канфесій.

Беспамылковым аб'ектыўным крытэрыем нацыянальнага самаўсведамлення асобы, пэўнай сацыяльнай групы, канфесіі, грамадства і, урэшце, дзяржавы ёсць іхняя інтэграцыя ў кантэксце роднае мовы і, шырэй, традыцыйнае культуры народа. Усе іншыя фактары, у тым ліку

этнічнае паходжанне, узровень адукаванасці, нават тыпы менталітэту, маюць істотнае, але ўсё ж толькі функцыянальнае значэнне. Паводле гэтых крытэрыяў Вялікае Княства Літоўскае, дзе старабеларуская мова была мовай дзяржавы, рэлігіі, літаратуры і адукацыі, з'яўлялася ў сэнсе этна-нацыянальнай самасвядомасці пераважна беларускай дзяржавай. Праўда, тут недапушчальная мадэрнізацыя гісторыі, экстрапаляцыя сучаснага паняцця Беларусі на мінуўшчыну. Старадаўняя Беларусь — гэта вынік аб'яднання былой, паводле вызначэнняў В.Ластоўскага, Вялікай Крывіі (Полацкага княства разам з іншымі славяна-балцкімі землямі, якія ўваходзілі ў сферу ягонага ўплыву) і летапіснай Літвы. Дзяржава, як усякі іншы этна-сацыяльны інстытут, павязана гістарычнай традыцыяй, яе свядомасць зарыентавана на сучаснасць і на мінуўшчыну і толькі часткова, у геапалітычных праектах і нацыянальных ідэях — на будучыню. Геапалітычная стратэгія Вялікага Княства Літоўскага заключалася ў тым, каб аб'яднаць былыя землі Заходняй і Паўднёвай Русі, утрымаць Вялікае Княства Маскоўскае ў ягоных межах XIII—XIV стст., падавіць агрэсію татара-турэцкую і нямецкую (Тэўтонскага і Лівонскага ордэнаў) і нейтралізаваць «мірную экспансію» саюзніка па канфедэрацыі — Польшчы.

Калі б гэткая геапалітычная стратэгія ўдалася, то ў эпоху нацыянальнага самавызначэння народаў Цэнтральна-Усходняй Еўропы (XIX — пачатак XX стст.) на тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага маглі б утварыцца жыццяздольныя нацыянальныя дзяржавы — Беларусь (альбо Літва, Літоўская Русь), Украіна, Літва, Латвія і Эстонія. У саюзе з Польшчай яны маглі б стварыць першы ў Еўропе блок дзяржаў, які забяспечыў бы палітычную стабільнасць у гэтым макрарэгіёне і, верагодна, выключыў бы саму магчымасць дзвюх сусветных войнаў у XX ст.

Да сярэдзіны XVII ст. Вялікаму Княству ў саюзе з Польшчай удалося стрымаць націск на гэтую выспу дэмакратыі і права ў Цэнтральна-Усходняй Еўропе з чатырох бакоў — усходу (Расія), захаду (Германія), поўначы (Швецыя) і поўдня (рэшткі ўсходне-азіяцкай дэспатыі ў вобліку Турэччыны і крымска-татарскага рудыменту). Нават пасля страшэннага «патопу» польска-шведскай і маскоўска-літоўскай вайны ў другой палове XVII ст. Рэчы Паспалітай удалося часткова стабілізаваць сваё міжнароднае становішча амаль на стагоддзе. Распад гэтай дзяржавы выспяваў у выніку ўнутраных сацыяльна-палітычных і канфесійных супярэчнасцяў. Апошнія ў сваю чаргу былі наступствамі імперскага сіндрому Польшчы, якая імкнулася ператварыць канфедэратыўную Рэч Паспалітую ў сваю нацыянальна-унітарную дзяржаву. Гэтыя супярэчнасці выкарыстала Расія: згаварыўшыся з дзвюма іншымі імперскімі дзяржавамі — Аўстрыяй і Прусіяй, яна сумела праглынуць Вялікае Княства Літоўскае і спрабавала «пераварыць» у чэраве расійска-імперскага Левіяфана жыццяздольныя, яшчэ не сфарміраваныя ў нацыянальныя дзяржавы народы — беларусаў, украінцаў, літоўцаў, латышоў і эс-

тонцаў. Наступствы былі драматычнымі: барацьба гэтых народаў за нацыянальна-дзяржаўнае самавызначэнне затрымалася на два стагоддзі — ад трэцяга падзелу Рэчы Паспалітай (1795) да другога распаду Расійскай імперыі ў 1991 г., калі пацярпеў катастрофу СССР.

У канцы XVI — першай палове XVIII ст. закончыўся этап этнічнай самаідэнтыфікацыі народаў канфедэратыўнай Рэчы Паспалітай і пачаўся працяглы перыяд станаўлення сучасных нацый і шматнацыянальных імперый у Цэнтральна-Усходняй Еўропе. Рэзка ўзмацніліся працэсы палярызацыі, умоўна кажучы, «заходняга» і «ўсходняга» тыпаў культуры, якія ў канфесіянальным аспекце выявіліся ў форме апазіцыі «каталіцтва— праваслаўе». Каталізатарам гэтай духоўнай раздвоенасці паслужыла Люблінская унія 1569 г., бо яна падрыхтавала прапольскую пазіцыю каталіцтва і прамаскоўскую арыентацыю праваслаўя. Але перш чым гэты працэс «нацыяналізацыі» хрысціянства закончыўся, Беларусі было наканавана паслужыць своеасаблівым «палігонам», у рамках якога на працягу паўтара стагоддзяў выпрабоўвалася магчымасць хрысціянскага адзінства ў форме царкоўнай уніі.

Драматычнай гісторыі, распачатай Брэсцкай уніяй 1596 г., папярэднічаў рэфармацка-пратэстанцкі эпізод, які паскорыў спробу злучэння беларускіх праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, бо пагражаў аўтарытэту абедзвюх канфесій.

У спецыфічных умовах этнічна і канфесіяльна неаднароднай дзяржавы сфарміраваўся тып пісьменніка, асветніка, дзяржаўнага і рэлігійнага дзеяча, які ўзгадаваўся на перакрыжаваннях дзвюх альбо некалькіх культур. У яго свядомасці лёгка праглядваецца дуалізм, раздвоенасць нацыянальнай самаідэнтыфікацыі: на ўзроўні архетыпаў (традыцыйных вобразаў успрымання быцця і генетычна запраграмаваных першаэлементаў ментальнасці) такая асоба належала адной, у нашым выпадку беларускай нацыі; а паводле адукацыі, выхавання і дзяржаўнай свядомасці — да іншай нацыянальнасці, у нашым выпадку да польскай.

Тыповымі дзеячамі на мяжы дзвюх культур — польскай і беларускай — былі ідэолагі рэфармацыйнага руху, найперш самы славуты з іх — Сымон Будны (каля 1530—1583), лідэр польска-беларускага арыянства. Жыццёвы шлях, асветніцкую дзейнасць і светапогляд гэтай загадкавай фігуры ў нашай гісторыі даследаваў І.Саверчанка[34]. Праўда, аўтар не пазбег апалогіі героя сваёй кнігі, бо перабольшыў беларускую арыентацыю, адносна якой беларускасць гэтага бунтара супраць артадаксальнага хрысціянства была скарэй функцыянальным эпізодам, а не этнанацыянальнай самаідэнтыфікацыяй. Бясспрэчна, беларускамоўныя творы С.Буднага «Катэхізіс» і «Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам» (Нясвіж, 1562, апошняя кніжка не захавалася) увайшлі ў кантэкст беларускай культуры і сведчаць пра пэўны ўзровень беларускай свядомасці аўтараў і іх заказчыкаў — кальвінісцкага мецэната Мікалая Радзівіла Чорнага і ягоных сваякоў. Прадмова да «Катэхізіса» сведчыць пра сты-

лістычнае наследаванне творам Ф.Скарыны: «Доконана ест сія книга, зовемая греческім языком Катихисіс, а по словеньски Оглашеніе, Богу ко чти и посполитым людем языка руского к наказанью и доброму наученью накладом боголюбивых мужей: пана Матфіа Кавечинского, наместьника несвижского, Сімона Будного, Лаврентіа Крышковъского. На городе Несвижским. Под леты от воплощеніа Спасова тысеча пятисот шестьдесят второго, месеца іюніа, десятого дня»[35]. У прадмове да «Катэхізіса», напісаным, на думку І.Саверчанкі, адным Будным, ёсць зварот да «их милости Миколаев Радивилов», у якім можна пачуць заклік паважаць родную «славянскую» мову: «...Абы ся ваши княжацкие милости не только в чужеземских языцех кохали, але бы ся тежь ваши княжацкие милости и того здавна славного языка словенъского размиловати и оным ся бавити рачили. Слушная бо речь ест, абы ваши милости того народу язык миловати рачили, в котором давъные предъки и их княжацкие милости панове отци ваших княжецких милости славне преднейшие предложеньства несуть»[36].

Гэты патрыятычны пасаж сведчыць, што ранні Будны знаходзіўся пад уплывам Скарынавай традыцыі. Але ягоная «славянскасць» была нядоўгай. У 1563— 1564 гг. С.Будны адмежаваўся ад памяркоўнай плыні кальвінізму, перайшоў на пазіцыі радыкальна-арыянскага антытрынітарызму, набыўшы новых апекуноў у сям’і нябожчыка Станіслава Кішкі ў Холхаве (каля Маладзечны) і Заслаўі. Усе наступныя свае кніжкі і брашуры — польскі антытрынітарны варыянт «Катэхізіса», «Аб зачацці Сына Божага» (1569), «Новы запавет» і «Апокрыфы» (Нясвіж, 1570), Біблію Новага і Старога запаветаў (Заслаўль— Узда, 1572), «Кароткі доказ таго, што Хрыстос не з’яўляецца такім Богам, як Бог Айцец» (1574), «Аб асноўных артыкулах хрысціянскай веры» (Лоск, 1576), «Пра свецкую ўладу» (Лоск, 1577) і іншыя Будны пісаў па-польску. Адным словам «коханье» самога арыянскага прапаведніка да «славного языка словенского» было кароткім.

Нават памяркоўны кальвінізм Буднага не закрануў глыбока культуру беларусаў і літоўцаў. Тым больш ягоная арыянская прапаганда, відавочна, была несумяшчальнай з хрысціянскім менталітэтам. С.Будны ў «польскі» перыяд свайго пісьменніцтва і антытрынітарнай прапаганды спрабаваў абаперціся на дэнацыяналізаваную беларуска-літоўскую шляхту і местачкоўцаў, сярод якіх было нямала іншаверцаў. У рэшце рэшт, арыянства С.Буднага, яго шматлікіх, далёкіх і блізкіх, папярэднікаў, зышло са сцэны рэлігійных ідэй, не пакінуўшы прыкметнага следу ў народнай свядомасці.

Пачынальнікам беларускага пратэстантызму паводле этнічнай самасвядомасці, моўна-культурнай і рэлігійнай арыентацыі быў не так С.Будны, як Васіль Цяпінскі (каля 1530— 1603), якога даследчыкі залічваюць да «паплечнікаў С.Буднага», але без грунтоўнага навуковага доказу[37]. Ён быў хутчэй паслядоўнікам Ф.Скарыны — такім жа самаахвяр-

ным энтузіястам, як і беларускі асветнік і першадрукар: каля 1580 г. пераклаў на беларускую мову і надрукаваў за ўласны кошт няпоўнае Чацвераевангелле з прадмовай, у якой бадай што першым у нашай інтэлектуальнай гісторыі сказаў пра небяспеку татальнай дэнацыяналізацыі беларусаў у выніку непавагі да мовы роднай і родных каранёў. Вось яговыя словы, што і сёння не страцілі сваёй актуальнасці: «Бо а хто богобойный не задержить, на такую казнь божію гледечи, хто бы не мусіл плакати, видечи так великих княжат, таких панов значных, так много деток невинных, мужов з жонами в таком зацном руском [маецца на ўвазе — беларускім. — *У.К.*], а злаща перед тым довстипном ученом народе езыка своего славного занедбане, а просто взагарду [...]. А, наостаток, што может быти жалоснейшая, што шкарадша, иж тые, што се межи ними зовут духовными и учители, смеле мовлю, намней его выразуменя не знают, а ни се в нем цвичат, але и а на школы ку науце его нигде не мают, за чим в польскіе або в иные писма за такою неволею, немало и у себе, и дети не без встыду своего, бы се одно почули, немало го заправуют»[38].

Па сутнасці, ад В.Цяпінскага пачынаецца той славуты беларускі «плач» па занядбанай роднай мове і дзяржаве, які разам з тым быў духоўным пратэстам і палітычным выклікам, асабліва ў зваротах да Маці-Царквы («Фрынас» М.Сматрыцкага), да свайго народа і свету (творы К.Каліноўскага, Ф.Багушэвіча, Янкі Купалы і ўсёй нашаніўскай літаратуры).

Але ў гісторыі беларускай культуры, веры і беларускай самасвядомасці спадчына В.Цяпінскага засталася своеасаблівай рэпрызай да набыткаў Ф.Скарыны. Працяглай у часе драмай з трагічным фіналам была ў нас гісторыя царкоўнай уніі, пачатай Брэсцкім саборам 1596 г.

Палеміка вакол Брэсцкай уніі і яе наступстваў працягваецца каля чатырох стагоддзяў. На жаль, далёка не заўсёды навуковая, часцей дагматычная, з палітычным падтэкстам. У шматслоўных спрэчках найбольш клапоцяцца пра лёс хрысціянства, праваслаўя і каталіцтва і забываюць гераіню і пакутніцу гэтай драмы — Беларусь, што мела за сабою тысячагадовую дзяржаўную і культурную традыцыю, якую палічылі за лепшае свядома «забыць» альбо, што зусім ужо «па-прасцяцку», праігнараваць Захад і Усход, Польшча і Расія, Еўропа і Азія, адным словам, паводле трагікамедыі Янкі Купалы «Тутэйшыя» — Усходні Вучоны і Заходні Вучоны. У спрэчках рэдка прымаюцца пад увагу тыя сацыяльна-палітычныя і рэлігійна-культурныя ўмовы, у якіх наспела ідэя уніі і спроба яе рэалізацыі ў беларуска-ўкраінскім рэгіёне.

Пасля падзення Візантыі (1453) праваслаўе згубіла традыцыйную іерархічнасць, а ў Расіі яно трансфармавалася ў «рускую веру». У Маскоўшчыне пад націскам цэзарызму царква страціла сваю духоўную свабоду. У другой палове XVII ст. канфлікт паміж патрыярхам Ніканам і царом Аляксеем Міхайлавічам закончыўся перамогай «царства» над свяшчэн-

ствам. Урэшце, у 1720 г. Пётр I наогул ліквідаваў інстытут патрыярхата, замяніў яго Свяшчэнным Сінодам на чале з обер-пракурорам — паслухмяным інструментам імперскай палітыкі. У канцы XVI—XVIII ст. каталіцтву Рэчы Паспалітай таксама не ўдалося пазбегнуць польскай дзяржаўнай ангажаванасці, бо ў Польшчы ўзмацніўся імперскі сіндром — тэндэнцыя да пераўтварэння саюзніка па канфедэрацыі Вялікага Княства Літоўскага ў сваю правінцыю.

Так адбываўся раскол хрысціянства ў Беларусі на «рускую» і «польскую» веру. Беларускі народ аказаўся заціснутым паміж гэтымі палітызаванымі канфесіямі. Нступіла трохсотгадовая паланізацыя і русіфікацыя беларусаў, і гэтае імкненне «задушыць у абдымках» цэлы народ з шматвяковай культурай і дзяржаўнай традыцыяй моцна запаволіла станаўленне арганізаванай у сучасную дзяржаву беларускай нацыі, раскрыццё нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, рыхтавала для іх незайздросную ролю этнаграфічнага матэрыялу для суседніх дзяржаў.

Каб пазбегнуць гэтай нацыянальнай анігіляцыі, духоўныя і палітычныя лідэры Вялікага Княства Літоўскага імкнуліся да рэлігійнай кансалідацыі. Тут знайшла спрыяльную глебу ідэя ўсяленскай уніі. У XV ст. беларуская Праваслаўная Царква фармальна прыняла Фларэнційскую унію: на Саборы ў 1438—1439 гг. мітрапаліт Сідар падпісаў яе ўмовы ад імя беларускай, украінскай і маскоўскай царквы. Аднак праз стагоддзе уніяцкі рух быў спынены пад націскам Расіі і Польшчы.

Брэсцкую царкоўную унію 1596 г. прыняла большасць беларускіх праваслаўных іерархаў і свецкіх палітыкаў (Мікалай Крыштоф Радзівіл, Леў Сапега). На першым этапе яна праводзілася ў жыццё зверху, «рэвалюцыйным», на практыцы нярэдка гвалтоўным, шляхам. Бясспрэчна і тое, што прыхільнікі паланазацыі Беларусі ўбачылі ў гэтым яднанні канфесій мост, які вядзе да суцэльнай «лацінізацыі» краю.

І ўсё ж унія — не толькі як ідэя па сваёй сутнасці агульнахрысціянская, але і як факт духоўна-нацыянальнага быцця беларускага народа — была важным этапам на шляху нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў. Уніяцкая царква, яе айцы-заснавальнікі звярталіся да народа на яго роднай мове. Большасць палемічных твораў у абарону уніі напісаны па-беларуску[39]. Уніяцкая літаратура — гэта апошні ўзлёт старабеларускай мовы ў канцы XVI—XVII ст. Зусім верагодна, адзначаў А.Станкевіч, што без уніяцкага бар'еру беларуская нацыя ўтапілася б у моры маскоўскага імперыялізму, больш грознага і больш татальнага, чым польскі нацыяналізм. «Словам, унія, як бачым, гэта такое на нашых землях духоўнае хрысціянства, якое найбліжэй сваёй натурай да натуры беларускай, якая сапраўды з'яўляецца апорай нацыянальнай культурнасці гэтага народу»[40].

За два стагоддзі свайго жыцця унія стала «трэцяй сілай» паміж польскім каталіцтвам і расійскім праваслаўем, зраслася з беларускім народам, набыла воблік сялянскай, «простай» рэлігіі. Вось чаму на яе

«ціснулі» з двух бакоў — з расійскага і польскага. Калі пасля раздзелу Рэчы Паспалітай паміж гэтымі бакамі абвастрылася барацьба не толькі за Беларусь, але і за беларускую душу, унія ўсё ж выпраменьвала хрысціянскае святло для беларусаў, падтрымлівала іх спадзяванне на адраджэнне.

Актам інтэрвенцыі расійскага псеўдамесіянскага імперыялізму на беларускую нацыю і яе культуру быў інспіраваны царызмам Полацкі сабор 1839 г., які гвалтоўна ліквідаваў уніяцтва, далучыўшы яго вернікаў да той формы казённай расійскай царквы, якая склалася ў XVIII — пачатку XIX ст. Факт афіцыйнага непрызнання этнічнай і нацыянальна-культурнай самастойнасці беларусаў зафіксаваны ў «Деяниях» Сабора, паводле якіх беларусы «всегда составляли нераздельную часть русского народа», Расія была спрадвеку «Матерью нашей». Пагэтаму прызвана за неабходнае быць «отныне, купно со вверенными нам паствами (...) в послушании Святейшего Правительствующего Всероссийского Синода». У адказ Сінод асобнай граматай дазволіў разбітай Беларускай царкве «пребывать отныне, купно со вверенными вам паствами, в единомыслии (...) и в послушании Святейшему Всероссийскому Синоду»[41].

Праведзеная «зверху» інкарпарацыя Уніяцкай Царквы ў склад нацыяналізаванай і злучанай з дзяржаўна-бюракратычным апаратам расійскай Праваслаўнай Царквы пагражала не толькі падрывам нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, іх культурнай самабытнасці. Гэта палітыка пастupова разбурала духоўна-культурныя архетыпы народа. Неабходна мець на ўвазе той факт, што ўся сістэма народнай адукацыі ў Беларусі XIX — пачатку XX ст. была расійскай, падпарадкаванай палітычнаму і рэлігійнаму кантролю свецкай і царкоўнай улады.

Ад поўнай русіфікацыі беларусаў выратавала славутая беларуская «адсталасць»: абсалютная бальшыня насельніцтва належала да сялянскага саслоўя, слаба інтэграванага ў расійскую сацыяльна-палітычную і адукацыйную сістэму. Станоўчую ролю тут адыграў і той фактар, які раней, у перыяд дзяржаўнай самастойнасці Беларусі, быў яе слабым бокам: маю на ўвазе канфесійную неаднароднасць, процістаянне праваслаўя і каталіцтва. У складзе Расійскай імперыі каталіцтва стала царквою, якая моцна адчула дыскрымінацыю. У выніку каталіцкі касцёл аказаўся ў апазіцыі да царызму. Больш таго, ён ідэйна рыхтаваў нацыянальна-вызвольныя паўстанні 1830—1860-х г.[42]. Гэты рух ініцыіраваў першае беларускае нацыянальна-культурнае адраджэнне ў XIX ст.

Католікамі (а іх продкі, верагодна, уніятамі) былі пачынальнікі новай беларускай літаратуры (Ян Чачот, Ян Баршчэўскі, Паўлюк Багрым, Кастусь Каліноўскі) і яе класікі (Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч, Янка Купала), дзеячы нацыянальнага руху браты Іван і Антон Луцкевіча, паэт Алесь Гарун, Вацлаў Ластоўскі ды іншыя, менш вядомыя беларускія адраджэнцы. Верагодна, гэтая слаўная кагорта герояў беларускага адраджэння дала падставу А.Станкевічу зра-

біць выснову, што лацінскае каталіцтва «...адыграла цалкам пазітыўную ролю ва ўтварэнні і падтрымліванні беларускай нацыянальнасці, асабліва ў часе панавання над Беларусяй расейскіх цароў»[43]. Ілюстрацыя да гэтай думкі Станкевіча — вядомая жыццёвая драма Паўлюка Багрыма — таленавітага беларускага паэта, выхаванага ксяндзом Войцехам Магнушэўскім у Крошынскай парафіяльнай школе ў 20-я гг. XIX ст. Паводле ўспамінаў, Магнушэўскі «...хацеў памагчы, колькі здолеў, простым людзям. Даходаў ён не меў ніякіх, дзеля гэтага дарма ксціў, вянчаў, а бяднейшым і грашмі памагаў. Быўшы адзінокім, зжыўся са сваімі людзьмі, звыкся з імі, *пераняў іх мову*, спрасцеў [падкрэслена мною. — *У.К.*], як аб ім казалі гарадскія і дворныя паны ды дзіваваліся, што ён гаварыў «мужыцкімі» прыказкамі і прыгаворкамі. Іншыя нават думалі, што ён не ў поўным розуме. Гэта так ім здавалася. Магнушэўскі быў чалавек разумны: зблізіўшыся з народам, ён хацеў падняць гэты народ, шырыць асвету сярод яго»[44].

А як жа праваслаўе? Няўжо ягоная роля ў станаўленні нацыянальнай самасвядомасці беларусаў XIX — пачатку XX ст. была толькі дэструктыўнай?

Аналізуючы гэтую праблему, трэба адрозніваць два «паверхі» Хрысціянскай Царквы»: першы паверх «горны», нябесны, вечны і ўсечалавечны; і другі паверх — зямны, гістарычны, па неабходнасці аб'ектызаваны ў грэшнай экзістэнцыі нацыянальнага і сацыяльна-палітычнага быцця народаў. Нябесная Царква заўсёды дабрадатная ва ўсялякай творчай дзейнасці людзей, у тым ліку і нацыянальна-культурнай. Значэнне ж зямной, гістарычнай царквы не можа быць ацэнена толькі паводле двузначнай логікі. Будучы інтэграванай у язычніцкую, паводле свайго паходжання, сацыяльна-палітычную сістэму вядучых дзяржаў, яна не заўсёды свабодная ад спакусы імперскага псеўдамесіянства. Але святло Царквы Нябеснай заўсёды прасвечвае праз сацыяльна аб'ектызаваную «абалонку» царквы зямной, палітызаванай. У выніку і гэтая апошняя, калі яна не страціла здольнасці да духоўнага росту і абнаўлення, у канчатковым выніку дабрадатная для нацыянальнага адраджэння народаў.

Гэтая духоўная роль Праваслаўнай Царквы ў гістарычным лёсе беларусаў яскрава выявілася ў XX ст. Ужо ў яго пачатку з асяроддзя праваслаўнага сялянства і былой фальварковай шляхты выйшлі класікі нацыянальнай літаратуры Якуб Колас, Максім Багдановіч, Максім Гарэцкі, а пазней — цэлая кагорта пісьменнікаў, мастакоў, артыстаў, грамадскіх і палітычных дзеячаў 1920—1930-х гг. Праваслаўная царква заўсёды была моцная сваёй хрысціянскай аўтэнтычнасцю і арыентаванасцю на духоўна-этычнае самаўдасканаленне чалавека. Вось чаму яна прабуджае ў духоўна багатых асобах глыбокае сумленне і пачуццё адказнасці за свой народ. Гэтае высокае прызванне царквы гераічна выявілася ў часы вялікіх ганенняў — спачатку на саму Царкву, а разам з ёю — на духоўную

і нацыянальную эліту беларускага народа ў канцы 20—80-х гг. нашага стагоддзя.

Ёсць падставы думаць, што ў блізкай будучыні павялічыцца роля Уніяцкай Царквы ў гістарычным лёсе Беларусі. Ужо сёння адбываецца другое адраджэнне Уніі, максімальна набліжанай да менталітэту і культурных традыцый нашага народа[45]. Як ужо адзначалася, Брэсцкая унія ёсць рэалізаваны «фрагмент» ідэі уніі сусветнай, неабходнасць якой абгрунтаваў У.Салаўёў[46].

Шлях да гарманічнага духоўнага адзінства хрысціянскага свету У.Салаўёў убачыў дакладна. Зразуме́ла, адзінства немагчыма забяспечыць фармальным дагаворам. Толькі на шляху паэтапнага збліжэння цэркваў і прызнання роўнакаштоўнасці іх частак, у тым ліку «вялікіх» і «малых» нацый, прызнання уніяцкага руху як дабрадатнага для хрысціянскага адзінства магчыма Сусветная Унія. Першымі крокамі на гэтым шляху ва Усходняй Еўропе будзе, верагодна, вызваленне праваслаўнай іерархіі ад шматвяковага «маскоўскага палону», набыццё ёю духоўнай незалежнасці ад зменлівай і далёка не хрысціянскай расійскай дзяржаўнасці; урэшце, на шляху канструктыўнага ўздзеяння Царквы на палітыку, якая ва ўмовах неразвітых дэмакратычных інстытутаў альбо іх дэградацыі стыхійна схіляецца ў бок язычніцкага цэзарызму. З другога боку, каталіцкая і пратэстанская іерархіі павінны ўсвядоміць, што толькі праз нацыянальнае адраджэнне народаў і шматгалоссе нацыянальных культур ствараецца сусветная хрысціянская цывілізацыя без войнаў і гвалтаў.

У сучаснай свядомасці постсавецкага грамадства рэлігіязнаўства звычайна асацыіруецца з багаслоўем альбо, наадварот, з яго антыподам, так званым «навуковым» атэізмам. Мы не багасловы і не прафесійныя атэісты. Мы гісторыкі культуры. Рэлігійная думка для нас ёсць арганічная частка культуры. Зразумела, усе часткі і элементы культуры як універсальнай духоўна-творчай дзейнасці развіваюцца не ізалявана, яны ўзаемадзейнічаюць паміж сабою і адна адну дапаўняюць. Але ў гэтым узаемадзеянні не губляюць свае аўтаномнасці і самабытнасці.

Такая ўзаемадапаўняльнасць усіх аспектаў царкоўнага жыцця і рэлігійнай творчасці абавязвае нас даследаваць рэлігійную думку ў кантэксце тэалогіі і гісторыі царквы. Аднак для нас гісторыка-тэалагічная праблематыка ёсць толькі фон, на якім «экспанаваліся» разнастайныя плыні рэлігійнай думкі.

Гэтая агаворка неабходна, каб пазбегнуць магчымых закідаў адносна фрагментарнасці і непаўнаты прапанаванай канцэпцыі. Яна не прэтэндуе ні на гісторыю царквы (бо гісторыя царкоўных абшчын, царкоўных іерархій ёсць праблема багаслоўя), ні на гістарычную паўнату, бо для сістэматычнай гісторыі рэлігійнай думкі ў нас яшчэ мала навукова апрацаваных крыніц. Падрыхтоўка такога роду крыніц, пераважна літаратурна-багаслоўскага зместу, якраз і ёсць задачай першай у Беларусі анталогіі па гісторыка-рэлігійнай праблематыцы.

Трэба мець на увазе, што мы тут адсталі ад сваіх суседзяў, польскіх гісторыкаў і тэолагаў. У Польшчы даўно напісаны і пішуцца цяпер не толькі сістэмныя даследаванні па гісторыі рэлігіі і царквы, але і гістарычныя нарысы асобных царкоўных прыходаў. Прымем да ўвагі і тое, што ў Польшчы псеўданавуковы атэізм фактычна не быў дзяржаўнай ідэалогіяй, як сталася ў былым СССР. Рэлігіязнаўчыя даследаванні ў Польшчы (тым больш у Заходняй Еўропе) маюць за сабой па меншай меры двухсотгадовую традыцыю. Да таго ж, Польшча пераважна аднаканфесійная, каталіцкая краіна. Гісторыя беларускай шматканфесійнай царквы даследавалася ў лепшым выпадку з канца XIX ст. і пераважна як «непадзельная частка» расійскай (праваслаўе) і польскай (каталіцтва) цэркваў, у полі зроку адпаведнай нацыянальнай дзяржаўнай канфесіі.

Культурна-гістарычнае даследаванне прынцыпова адрозніваецца, з аднаго боку, ад багаслоўя сваім навуковым аб'ектывізмам і, з другога боку, яно пазбягае атэістычнай крытыкі рэлігіі, ідэалагічных інтэрпрэтацый і светапогляднай тэндэнцыйнасці. Свабодная навука павінна быць надканфесійнай у прынцыпе. Яна не дазваляе сабе ніякай аксіялагічнай прывязкі да праваслаўя альбо каталіцтва ў яго рымска-каталіцкім альбо уніяцкім варыянтах. Багаслоўскія ж даследаванні, за рэдкім выключэннем, не свабодныя ад апалагетыкі сваёй царквы і тэндэнцыйнай крытыкі іншых канфесій.

Наша канцэпцыя грунтуецца на перакананні, што хрысціянства як культурна-гістарычная традыцыя ёсць духоўная аснова дасканалай цывілізацыі і гарманічнай сатворчасці ўсіх «вялікіх» і «малых» народаў.

*1994*

---

1 Беларуская Савецкая Энцыклапедыя: У 12 т. Мн., 1973. Т. 9. С. 257—258.

2 БСЭ. Т. 11. С. 84—89.

3 Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі: У 5 т. Мн., 1987. Т. 5. С. 258—259.

4 Мужыцкая праўда. (1863) N 6.

5 Багушэвіч Ф. Творы: Вершы, паэма, апавяданні, артыкулы, лісты. Мн., 1991. С. 36—38.

6 Гл.: Конан У. Антон Луцкевіч: Філасофія і эстэтыка нацыянальнага адраджэння // Голас Радзімы. 1994. 10 сак.— 17 крас. N 10—14.

7 Верашчака Ю. Што спрыяла разросту і ўпадку народаў і дзяржаў // Крывіч. 1926. N 1(6). С. 86—87.

8 Ластоўскі В. Унія // Крывіч. 1926. N 1(11). С. 97.

9 Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага светапогляду. Вільня 1921; Суліма. Гэтым пераможаш! // Заходняя Беларусь: Зб. грамад. мысьлі, навукі, мастацтва Зах. Беларусі. Вільня, 1924. С. 9—70.

10 Станкевіч А. Хрысціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. Вільня, 1940. С. 6, 9.

11 Конан В. Вера и нация: Христианство в судьбе белорусов // Нёман, 1994. N 5. С. 156—164.

12 Станкевіч Я.Крыўя: Беларусы ў мінуласьці. Мн., 1942. С. 70; яго ж: Этнаграфічныя й гістарычныя тэрыторыі й граніцы Беларусі. Нью-Ёрк, 1953. С. 24; Скарыніч Б. Літоўская плынь (традыцыя гаспадарствавасьці) у нацыянальным адраджэнні беларускага народу // Веда. 1952; Седов В.В. Археология и проблемы этногенеза белорусов: Тезисы докладов на конференции по проблеме «Этногенез белорусов». Мн., 1973. С. 7—10; Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 17—46.

13 Кіеўскі князь Уладзімір Святаславіч, паводле «Повести временных лет», у 980 г. «...паставіў куміры на ўзгорку за церамамі: драўлянага Перуна з серабранай галавой і залатымі вусамі, і Хорса, Даждзьбога і Стрыбога, і Сімаргла, і Макош. І прыносілі ім ахвяры, называючы іх багамі...». А ў 988 г.

князь ахрысціўся, разбурыўшы ўсё тое, чаму раней пакланяўся, прыказаўшы народу: «А не обращеться кто заутра на реце [г.зн., хто не прыйдзе на раку хрысціцца], богат ли, ли убог, или нищь, ли работник, противен мне да будет» (Повесть временных лет. М.;Л., 1950. Ч. 1. С. 14)

[14] На думку археолага Сяргея Тарасава, іншыя летапісцы (наўгародскія, суздальскія, цвярскія) таксама сведчаць, што «гвалтоўнага хрышчэння Полацкага княства не было» (Тарасаў С. Адкуль прыйшло хрысціянства ў Беларусь? // Полацак. Кліўленд. 1991. N 10. С. 13).

[15] Канкрэтны аналіз біблейскіх вобразаў, сюжэтаў і матываў у беларускім фальклоры ёсць у шэрагу маіх публікацыяў, у тым ліку: Новозаветные образы и мотивы в белорусском фольклоре // Христианизация Руси и белорусская культура. Мн., 1988. С. 281—302 (Ратапрынтнае выданне на правах рукапісу. Захоўваецца ў бібліятэцы Мінскага Епархіяльнага Упраўлення); Вобразы хрысціянскіх святых у беларускім фальклоры // Тэзісы навук. канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю Праваслаўнай Епархіі і Праваслаўнай царквы на Беларусі. Мн., 1992. С. 3—4; Архетыпы беларускага менталітэту: Спроба рэканструкцыі паводле нацыянальнай міфалогіі і казачнага эпасу // Беларусіка — Albaruthenica. Мн., 1993. Кн. 2. С. 18—28; Сусветнае Дрэва мастацтва: Эскіз да аналізу архетыпаў культуры // Культура. 1993. 20 крас. N 16. С. 5—6; Вера и нация: Христианство в судьбе белорусов // Нёман, 1994. N 5. С. 157—164.

[16] Біблія. Факсімільнае ўзнаўленне Бібліі, выдадзенай Францыскам Скарынаю ў 1517—1519 гг.: У 3 т. Мн., 1990. Т. 1. С. 48—49.

[17] Толковая Библія, или Комментарий на все книги Св. Писанія Ветхаго и Новаго Завета/ Под ред. А.П.Лопухина. СПб., 1904. С. 80—81.

[18] Тамсама. С. 81.

[19] Соловьев В.С. Соч.: В 2 т. М., 1989. С. 269—270.

[20] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. Мн., 1990. С. 82—84; яго ж: Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. Мн., 1994. С. 24—29.

[21] Творенія Святаго отца нашего Кирилла епископа Туровского. Изданіе преосвящен. Евгения, Епископа Минского и Туровского. Киев, 1880. С. 45—52.

[22] Ермаловіч М. Старажытная Беларусь: Полацкі і Новагародскі перыяды. С. 315—332; яго ж. Старажытная Беларусь: Віленскі перыяд. С. 3—81.

[23] Грицкевич А.П. Положение Православной Церкви в Белоруссии в XIV—XVI веках (до Люблинской унии 1569 г.) // Христианизация Руси и белорусская культура. Мн., 1988 (Ратапрынтнае рукапіснае выданне. Захоўваецца ў бібліятэцы Мінскага Епархіяльнага Упраўлення).

[24] Цыт. па кн.: Грицкевич А.П. Положение православной церкви в Белоруссии в XIV—XVI веках (до Люблинской унии 1569 г.) // С. 92—93.

[25] Станкевіч А. Хрысціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. С. 135.

[26] Біблія. Факсімільнае перавыданне Бібліі, выдадзенай Францішкам Скарынаю ў 1517—1519 гг. Мн., 1990—1991. Т. 1—3.

[27] Пяць стагоддзяў Скарыніяны: XVI—XX. Нью-Ёрк, 1989. С. 282.

[28] Абдзіраловіч І. Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветапогляду // Вобраз — 89: Літ. крытыч. артыкулы. Мн., 1990. С. 45, 48.

[29] Конан У. Рэлігійныя погляды Ф.Скарыны // Скарына і наш час: Тэзісы дакладаў навукова-практыч. канферэнцыі. Гомель, 1994.

[30] Брага С. Доктар Скарына ў Маскве // Запісы. Кн. 2. Нью-Ёрк; Мюнхэн, 1963. Беларускі інстытут навукі і мастацтва. С. 9—36; асобн. выд.: Брага С. Доктар Скарына ў Маскве. Мн., 1993. С. 47; Скарына Ф. Зб. дакументаў і матэрыялаў. Мн., 1988. С. 201—204.

[31] Ильинский Ф. Большой Катехизис Лаурентия Зизания. Киев, 1889. С. 25.

[32] Ботвинник М. Лаврентий Зизаний. Мн., 1973. С. 91—97.

[33] Былинин В., Звонарева Л. Поэзия Симеона Полоцкого // Симеон Полоцкий. Вирши. М., 1990. С. 7.

[34] Саверчанка І.В. Сымон Будны — гуманіст і рэфарматар. Мн., 1993. С. 223.

[35] Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны / Уклад., уступ. арт. і камент. У.Г.Кароткага. Мн., 1991. С. 35.

[36] Тамсама. С. 25.

[37] Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. С. 498; Францыск Скарына і яго час: Энцыклапед. даведнік. Мн., 1988. С. 445.

[38] Прадмовы і пасляслоўі паслядоўнікаў Францыска Скарыны. С. 34.

[39] [Пётр Скарга]. Описание и оборона събору руского берестейского в року 1596... У Вильни року Божего нароженья 1597; [Ипатий Потей]. Справедливое описание поступку и справы сынодовое и оборона згоды и единости съвершеное, которая се стала на сыноде берестейском в року 1596... Друкавано у Вильни року Божего 1597; Ипатий Потей. Антифризис. Вильно, тип. Мамоничей (пасля 1599). [Іпацій Пацей]. Гармония, альбо согласие веры сакраментов и церемоней святое восточъное церкъви с костелом рымъским. Вильно, 1608; [Іосіф Рутъскі]. Teses, сиречь изъвестны предъложения от учений, еже от Тайнах Церковных на размышленье к объщему состезанию даны

предъложения от учений, еже от Тайнах Церковных на размышленье к объщему состезанию даны честным отцем Иосифом Веляминон Рутъским, иноком закону с[вя]того Василия в монастыру Виленъском с[вя]тое Живоначалное Тройцы... 1608.

[40] Станкевіч А. Хрысціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. С. 104.

[41] Деяния Полоцкого Собора 12 февраля 1839 г. С. 43.

[42] Шыбека З. Гісторыя Беларусі ў XIX— XX стст.: Раздзелы з ненадрукаванай кніжкі // Голас Радзімы. 1994. 21 ліп.

[43] Хрысціянства і беларускі народ: Спроба сінтэзы. С. 133— 134.

[44] Янулайціс А. Аб маладым паэце з Крошына // Маладая Беларусь. Сер. 1. Сш. 3. Пб., 1913. С. 9—10.

[45] Прыкметы першага адраджэння Уніі ў Беларусі выявіліся ў нашаніўскую эпоху (1906— 1915), калі Іван Луцкевіч вёў перамовы з уніяцкім метрапалітам Галіччыны Андрэем Шаптыцкім аб неабходнасці уніяцкага руху. Пазней, ва ўмовах польскага панавання ў Заходняй Беларусі, гэты рух стаў рэальным фактарам: выходзіў часопіс «Да Злучэньня!» (1930-я гг.), рух за адраджэнне Уніяцкай Царквы аднавіўся.

[46] Соловьев В. Соч. Т. 2. С. 241— 242.

## БЕЛАРУСКАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ: ГІСТАРЫЧНЫ АСПЕКТ І СУЧАСНЫЯ ПРАБЛЕМЫ

Нацыянальная ідэя ёсць духоўна-творчы аналаг гістарычнага быцця народа ў яго трох вымярэннях — мінуўшчыне, сучаснасці і будучыні. Кожны этнас, які выявіў свае творчыя магчымасці і сфарміраваўся ў нацыю, увасабляе сваім быццём пэўную ідэю, альбо, кажучы тэалагічна, пэўную задуму Сусветнага Тварца, якая рэалізуецца ў гістарычных дзеях народа і яго самабытнай культуры.

Ёсць па меншай меры тры грані выяўлення нацыянальнай ідэі народа: яго гістарычныя дзеі і геапалітычныя праекты, нацыянальны характар ва ўсіх яго супярэчнасцях, урэшце, самабытнасць яго культуры, уключаючы ў гэтае паняцце эканоміку, сацыяльна-палітычныя структуры, літаратуру ды іншыя віды мастацтва, філасофію, рэлігію, мараль і прававыя інстытуты. На тэарэтычным (розумаспасцігальным) узроўні нацыянальная ідэя выяўляецца ў культурна-гістарычным тыпе народа, яго нацыянальнай асабістасці; на штодзённа-эмпірычным узроўні — у нацыянальным менталітэце.

Праблема нацыянальнай ідэі, такім чынам, ахоплівае ўсе тры аспекты быцця народа — яго гісторыю, геапалітыку і культуру ў самым шырокім значэнні гэтага паняцця. Нацыянальную беларускую ідэю ў яе паўнаце можна было б раскрыць толькі ў фундаментальнай манаграфіі. У гэтым кароткім рэфераце абмяжуюся лаканічнымі тэзісамі.

Геапалітычныя і агульналюдскія аспекты гэтай праблемы раскрыты ў філасофіі, этналогіі, літаратуры і публіцыстыцы XX ст. (У.Салаўёў, М.Данілеўскі, К.Ляонцьеў у Расіі, О.Шпенглер у Германіі, «Наша ніва», перыядычны друк Беларускай Народнай Рэспублікі ў Беларусі, Ігнат Канчэўскі, Уладзімір Самойла і Адам Станкевіч разам з яго сябрамі па Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў Заходняй Беларусі). Можна вывесці агульную парадыгму гэтага універсальнага ўсведамлення нацыянальнай ідэі. Вось яна ў няпоўным вызначэнні.

Кожны гістарычны народ мае сваю ўласную задачу, сваю ідэю. Кожны народ, які выявіў гэтую ідэю ў гістарычных дзеях і ў самабытнай культуры, мае права на арганізацыю ў суверэнную нацыю і незалежную дзяржаву. Задача нацыянальнай дзяржавы — стварыць аптымальныя ўмовы для самарэалізацыі народа ў самабытнай мове і культуры ў цэлым, стварыць сваю непаўторную грань рэгіянальнай і універсальнай цывілізацыі. Агульналюдская культура рэалізуецца як сугучнасць, сімфонія нацыянальных і рэгіянальных культур. Аднатыпная агульналюдская культура, калі б яна была магчымая, аказалася б ні чым іншым, як разбурэннем духоўнай самабытнасці так званых «меншых» народаў псеўдамесіянскімі імперыямі іхніх «большых» братоў.

Сёння сістэматычна пакуль што даследавана руская, дакладней, расійская ідэя ў навукова-папулярнай кніжцы М.Бярдзяева «Русская идея» (Парыж, 1946). Яе варта грунтоўна ведаць беларускім палітыкам, каб

дакладна вызначаць свае геапалітычныя і культурна-творчыя стратэгічныя інтарэсы. Прывяду тут толькі агульную характарыстыку «расійскасці» Бярдзяевым: «Рускі народ, — пісаў Бярдзяеў, — ёсць у найвышэйшай ступені палярызаваны народ, ён — сумяшчэнне супрацьлегласцяў [...]. Рускі народ не ёсць ні чыста еўрапейскі, ні чыста азіяцкі народ. Расія — цэлая частка свету, вялізны Усход— Захад, яна злучае два светы. І заўсёды ў рускай душы змагаліся два пачаткі — усходні і заходні [...]. Рускі народ не быў пераважна народам культуры ў першую чаргу, як народы Заходняй Еўропы, ён быў пераважна народам адкравенняў і натхненняў, ён не ведаў меры і лёгка ўпадаў у крайнасці [...]. Два супрацьлеглыя пачаткі леглі ў аснову фармацыі рускай душы: прыродная, язычніцкая, дыянісійская, стыхія і аскетычна-манаскае праваслаўе. Можна адкрыць дзве палярныя ўласцівасці ў рускім народзе: дэспатызм, гіпертрафія дзяржавы — і анархізм, вольнасць; жорсткасць, схільнасць да гвалту — і дабрыня, чалавечнасць і мяккасць; абрадавая вера («обрядоверье») — і пошукі праўды; індывідуалізм, вострае ўсведамленне асабістасці — і безасабовы калектывізм; эсхаталагічна-месіянская рэлігійнасць — і вонкавая набожнасць; шуканне Бога — і ваяўнічая бязбожнасць; пакорлівасць — і нахабства, рабства — і бунт».

Сёння «Русская идея» М.Бярдзяева надзвычай папулярная ў асяроддзі расійскай эміграцкай інтэлігенцыі: там па радыё «Свабода», здаецца, ужо пяты год Барыс Парамонаў вядзе аднайменную філасофска-публіцыстычную праграму. На жаль, мала хто ведае прарока беларускага нацыянальнага Адраджэння, які за трыццаць пяць гадоў да выхаду ў свет «Русской идеи» Бярдзяева апублікаваў пад псеўданімам Ігнат Абдзіраловіч філасофскае эсэ «Адвечным шляхам: Даследзіны беларускага светапогляду» (Вільня, 1921). Гэта быў малады паэт Ігнат Канчэўскі, якога напаткаў трагічны лёс Максіма Багдановіча (памёр на дваццаць сёмай вясне свайго жыцця ад сухотаў).

І.Канчэўскі на аснове філасофскага абагульнення духоўнага вопыту нашай літаратуры даволі дакладна вызначыў сутнасць беларускай ідэі. Ён пісаў: «Беларусь ад X веку да гэтай пары [маецца на ўвазе 1921 г. — *У. К.*] фактычна з'яўляецца полем змагання двух кірункаў еўрапейскай, пэўне — арыйскай культуры — заходняга і ўсходняга. Граніца абодвух уплываў, падзяляючы славянства на два станы, праходзіць праз Беларусь, Украіну і хаваецца ў балканскіх краях. Дзесяцігадовае ваганне сведчыць аб тым, што беларусы, як украінцы і балканскія славяне, не маглі шчыра прылучыцца ні да аднаго, ні да другога кірунку».

Паводле І.Канчэўскага, беларуская ментальнасць, альбо нашая нацыянальная ідэя, — гэта адмаўленне крайніх, «месіянскіх» формаў усходняга «візантызму» (унітарнасць грамадска-палітычнага жыцця, нецярпімасць да іншадумання, канцэнтрацыя ўлады ў адных руках, абшчыннасць і слабае выяўленне асабістасці, татальны экспансіянізм) і заходняга індывідуалізму (бо ў ім прыхавана тэндэнцыя да захопу ў сваю зону

ўплыву слабейшых народаў ды іх асіміляцыі), і сінтэз лепшых бакоў гэтых двух культурна-гістарычных тыпаў на аснове самабытных нацыянальных формаў грамадскага жыцця і культуры. Сутнасць яе — няспынная творчасць, непрыманне раз і назаўсёды вызначаных, аб'ектызаваных і дэгуманізаваных ідэй і прынцыпаў накшталт «сацыялізму» альбо «капіталізму».

У гістарычным плане ўвасабленнем беларускай нацыянальнай ідэі былі выдатныя дзяржаўныя нацыянальна-культурныя і рэлігійныя дзеячы Беларусі. Полацкі князь Усяслаў Чарадзей быў не толькі вялікім князем і палкаводцам, але, аб'ектыўна, і прароркам: ён, верагодна, прадбачыў гістарычны лёс Беларуска-крывіцкай дзяржавы, імкнуўся ваеннымі і дыпламатычнымі сродкамі забяспечыць яе незалежнасць і выгаднае геапалітычнае становішча — ключавыя пазіцыі на «шляху з варагаў у грэкі», што злучаў Паўночную і Цэнтральную Еўропу з Візантыяй, а праз яе — з цэнтрамі азіяцкай цывілізацыі. Яго прадаўжальнікам у гэтым плане быў канцлер Вялікага Княства Літоўскага Леў Сапега (1557—1633), які прадбачыў небяспеку станаўлення Расійскай захопніцкай імперыі і спрабаваў нейтралізаваць яе — спачатку смелым геапалітычным праектам стварэння супердзяржаўнай канфедэрацыі Масковіі-Расіі і Рэчы Паспалітай, палітычным ядром якой стала б Беларусь-Літва, а пазней — стварэннем «смуты» ў Расіі.

Яшчэ да канцлера Сапегі беларускі асветнік і славянскі першадрукар Францішак Скарына недзе ў сярэдзіне 1520-х гг., верагодна, паспрабаваў ажыццявіць сваю маскоўскую місію — пашырыць сваё вольнае кнігавыдавецтва на Маскоўскую дзяржаву і праз гэта забяспечыць прыярытэт старабеларускай мовы, а праз яе і ўсёй беларускай культуры ва ўсходнеславянскім рэгіёне. Няўдача гэтай місіі (спальванне «ерэтычных» кніг Скарыны і выгнанне першадрукара з Масквы) азначала, між іншым, нарастанне ідэалагічнай канфрантацыі паміж двума цэнтрамі аб'яднання ўсходнеславянскіх народаў — Масквой і Беларуссю-Літвой. Зусім верагодна, што калі б місія Ф.Скарыны, а пазней геапалітычны праект Льва Сапегі ўдаліся, калі б адбылася ў XVI—XVII стст. гэтая духоўная і палітычная сустрэчы Усходу і Захаду, то яна падрыхтавала б пазней павольную стыкоўку і пазітыўнае ўзаемадзеянне двух культурна-гістарычных тыпаў — расійскай Еўра-Азіі з Цэнтральнай і Усходняй Еўропай.

У духоўна-рэлігійным аспекце беларуская ідэія самабытна выявілася ў праектах сусветнай царкоўнай уніі XV—XVI стст., якія часткова рэалізаваліся ў рэгіянальнай Брэсцкай уніі 1596 г. Яна праіснавала каля двух з паловаю стагоддзяў, стаўшы, па сваёй сутнасці, беларуска-сялянскай царквою, трэцяй духоўнай сілаю паміж нацыяналізаванымі ў XVII—XVIII стст. расійскім праваслаўем і польскім каталіцтвам. Яркімі асобамі, якія ўвасаблялі гэтую рэлігійную ідэю, былі мітрапаліт Іпацій Пацей у 1599—1613 гг., Язэп Руцкі ў 1613—1637 гг. і полацкі архіепіс-

кап Іасафат Кунцэвіч, які стаў ахвярай сваёй ідэі яднання цэркваў пад час віцебскага антыуніяцкага бунту ў 1623 г.

Прадаўжальнікамі дзяржаўна-палітычнай і духоўна-культурнай беларускай ідэі ў эпоху станаўлення беларускай нацыі (XIX — пачатак XX стст.) былі Кастусь Каліноўскі (1838—1864), беларускія народнікі Ігнат Грынявіцкі і выдаўцы падпольнага часопіса «Гоман» (1884), Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ, 1903—1917), газеты «Наша ніва» (1906—1915) і «Гоман» (1916—1918), беларуская класічная літаратура (Янка Купала, Цётка, Якуб Колас, Максім Багдановіч, Алесь Гарун, Максім Гарэцкі і іх паслядоўнікі). Урэшце, дзеячы БНР паядналі духоўна-культурнае і дзяржаўна-палітычнае адраджэнне і ў 1917—1920 гг. часткова рэалізавалі беларускую нацыянальную ідэю. Яе няўдача, падзел Беларусі паводле Рыжскага міру Расіяй і Польшчай былі вынікам стратэгічнага і духоўнага праліку аб'яднанай Еўропы ў асобе Антанты: яна падтрымала менш развітыя нацыянальныя ідэі народаў Цэнтральнай Еўропы (этнічнай Літвы, Латвіі, Эстоніі і інш.), без усякага ўліку культурна-гістарычнай традыцыі і геапалітычных інтарэсаў дазволіла бальшавікам і прыхільнікам Вялікай Польшчы падзяліць Беларусь.

З гэтага часу пачаўся новы, драматычны шлях духоўнай барацьбы беларускай нацыянальнай эліты за адраджэнне Беларусі ў новых умовах — апошняга этапу распаду тэрытарыяльных імперый. Беларуская нацыянальная эліта ў БССР у гады беларусізацыі (1920-я гг.) правільна разлічыла, што аднаўленне Расійскай імперыі ў вобліку СССР — з'ява часовая, несумяшчальная з гістарычным прагрэсам, вынікам якога стаў распад імперый, гэтых «вавілонскіх вежаў» Новай гісторыі. Але яны змагаліся за Беларусь і яе культуру ў гады часовага абнаўлення гэтай імперыі, а не яе заняпаду. У выніку наша эліта была знішчана, а рэшта яе падаўлена бальшавіцкім імперыялізмам з нявіданай у гісторыі жорсткасцю і скрытасцю ад сусветнай інфарматыўнай прасторы. Аднак паўразбуранае гвалтоўнай індустрыялізацыяй і калектывізацыяй этнічнае ядро беларускай нацыі ў сярэдзіне XX ст. яшчэ захавалася: яно нараджала з сябе новую нацыянальную эліту, якая ў рэшце рэшт агульнымі намаганнямі з нацыянальнымі элітамі іншых народаў разбурыла гэтую апошнюю вавілонскую вежу.

Настаў час усеагульнага нацыянальнага адраджэння ў складаных умовах, калі аказалася разбураным ўжо самае этнічнае ядро нацыі. У такіх умовах узросшая колькасна нацыянальная эліта сама павінна хоць часткова кампенсаваць адсутнасць згуртаванага этнічнага ядра.

Сёння нацыянальнае адраджэнне ёсць гістарычнае прызначэнне ўсіх народаў, якім не наканавана знікнуць у «чорнай дзірцы» гісторыі. Для былых заваяваных альбо «добраахвотна» далучаных народаў-«саюзнікаў» (тэрмін, які прыдуманы яшчэ ў Рымскай імперыі для вызначэння мірных, часова небунтоўных калоній) нацыянальнае адраджэнне ёсць благадатная альтэрнатыва гістарычнай анігіляцыі. Але і для народаў-метра-

полій, для імперскіх нацый яно таксама ёсць пазітыўны варыянт вырашэння спрадвечанага пытання — быць альбо не быць.

Жанр кароткага рэферата не дазваляе мне аргументаваць гэтую, на мой погляд, відавочную ісціну. Напомню толькі, што стабільнасць нацыі забяспечваецца, па-першае, яе трывалым этнічным ядром і, па-другое, яе духоўна актыўнай і сацыяльна пасіянарнай элітай. У народаў, пазбаўленых паўнацэннай нацыянальнай дзяржаўнасці, духоўная эліта і этнічнае ядро (яно больш устойлівае толькі ў эпоху неглыбокай сацыяльнай мабільнасці і павярхоўнай уключанасці народа ў пануючую «дзяржаўную» культуру) разбураюцца шляхам планамернага расцярушвання на абшарах імперыі, эміграцыі і асабліва метадамі дэнацыяналізацыі. А на адваротным полюсе аналагічная дэстабілізацыя адбываецца ў асяроддзі метраполіі: актыўная частка насельніцтва і нацыянальная эліта самарассейваюцца на абшарах далучаных іншанацыянальных тэрыторый, эканамічныя і духоўныя сілы трацяцца на ўтрыманне імперыі (войска, дзяржаўны апарат, культуртрэгерства і інш.), адзіная нацыянальная мова распадаецца на каланіяльныя жаргоны, эканоміка і культура развіваюцца не інтэнсіўна і не ў глыбіню, а экстэнсіўна і павярхоўна. Іспанцы, англічане, французы своечасова пайшлі насустрач лёсу, дэманціравалі свае імперыі. Германіі і Японіі «дапамаглі» іх паразы ў Другой сусветнай вайне. Палякам наогул пашанцавала: іхняя імперыя не адбылася. Сёння — чарга за Расіяй.

Што сёння трэба рабіць і куды ісці, калі наступіў драматычны час страты нацыянальных ідэалаў дэмаралізаванай псеўданароднай масы і адхілення нацыянальнай эліты ад палітычнай стратэгіі і дзяржаўнага кіравання? Адказ на гэтае пытанне тут магчымы толькі ў форме кароткіх тэзісаў.

1. Па-першае, не страчваць перспектыву нацыянальнай ідэі. Яна рэалізуецца ў скажонай форме нават тымі, хто сёння на чале нашай дзяржавы. Бо такі час, такі гістарычны кантэкст. Эпоха тэрытарыяльных, па сутнасці, напаўфеадальных імперыяў даўно мінула. Сёння магчыма толькі фінансавая імперыя. У нашай сітуацыі гэта тады, калі расійскі рубель пераможа амерыканскі долар у сусветным масштабе. Варыянт цяжкі. Цягнік, як гаворыцца, даўно прайшоў. Варта было трансфармаваць сваю феадальную імперыю яшчэ ў 1920-я гг. — па прыкладу Англіі, Францыі ды іншых разумных дзяржаў.

2. З часоў Гегеля і самога Маркса захавалася філасофская прымаўка: разумны ідзе насустрач свайму наканаванню, а неразумнага лёс валачэ да гэтай мэты. У XXI ст. для тэрытарыяльных імперый няма перспектывы: Расія пры наяўнасці разумнага дэмакратычнага кіраўніцтва магла б захаваць свае эканамічныя ды інфармацыйныя дамінанты на прасторы былой імперыі і былога СССР. З расійскай фінансавай імперыяй амерыканскага тыпу пагадзіліся б нават лідэры Чачні. З другога боку, у Расійскай федэрацыі, куды хацелі б уцягнуць Беларусь расійскія палітыкі

ад правых да левых (усе яны адносна Беларусі і Украіны ў той ці іншай меры банальныя чарнасоценцы), беларусаў чакае этна-культурная анігіляцыя, незайздросны лёс псеўдарускіх другога ці трэцяга гатунку, лёс хімернага этнасу, які гаворыць на жаргоне вялікай рускай мовы.

3. Гэтая аб'ектыўная аптымістычная перспектыва ажыццяўлення беларускай нацыянальнай ідэі зусім не азначае, што яно прыйдзе як манна нябесная. Нават пра Царства Нябеснае сказана, што яно пасля прарокаў «сілаю здабываецца». Тым больш — царства зямное. Неабходна духоўнае і грамадска-палітычнае змаганне за яго. Яўрэі пасля свайго расцярушання Рымскай імперыяй у І ст. н.э. змагаліся за сваю нацыянальную ідэю амаль два тысячагоддзі. Беларусы ваююць за сваю пакуль што каля двух стагоддзяў. У гэтай барацьбы ёсць патрэба ў тактычных кампрамісах, асабліва ў сферах эканомікі і палітыкі. Але кампрамісы немагчымы, па крайняй меры, у сферы духоўных каштоўнасцяў — нашых трох святынях: роднай мовы і сваёй самабытнай культуры, нацыянальнай сімволікі, суверэннай дзяржавы. Страцім іх — загубім усё іншае. Барацьба за іх павінна быць няспыннай, хоць бы абазначанай сімвалічна. Тут ёсць евангельскі архетып. Калі слугі стараяўрэйскіх першасвятароў бралі Хрыста, каб забіць яго, апосталы не ведалі, што рабіць. Але «Сымон Пётр, дастаўшы меч, ударыў першасвятаровага раба і адсек яму правае вуха» (Ян 18:10).

Зразумела, гэта сімвалічнае «вуха». Маецца на ўвазе вайна духоўная і меч духоўны.

*1997*

---

[1] Бердяев Н. Русская идея: Основные проблемы русской мысли XIX и начала XX века. Париж, 1946.

[2] Конан У. [Беларуская ідэя] // Беларусістыка. Беларусь у Вялікім Княстве Літоўскім. Мн., 1992. С. 95—104.

[3] Конан У. Беларуская ідэя і місія Беларусі // Беларуская думка. Мн., 1992. N 11—12. С. 10—14.

[4] Конан В. О белорусской идее // Нёман. 1993. N 3. С. 125—131.

[5] Конан У. Антыноміі дэмакратыі і культуры, шляхі іх вырашэння // Міжнародны кангрэс у абарону дэмакратыі і культуры. «Посттаталітарнае грамадства: асоба і нацыя». Мн., 1994. С. 182—186.

[6] Конан У. Антыноміі дэмакратыі і культуры (Нацыянальныя і міжнародныя аспекты) // Беларусіка — Albaruthenica. Кн. 3. Нацыянальныя і рэгіянальныя культуры, іх узаемадзеянне. Мн., 1994. С. 98—103.

[7] Конан У. Этнічная і нацыянальная ідэнтыфікацыя: аналіз паняццяў у кантэксце гістарычнага лёсу беларусаў // Грамадзянская супольнасць і праблемы нацыянальна-культурнай ідэнтыфікацыі ў Беларусі. Матэрыялы навуковага семінара (Мінск, 30—31 мая 1996 г.). Брэст, 1996. С. 21—27.

[8] Конан В. «Не пора ли нам обратно: из варягов в греки» // Нёман. 1997. N 3. С. 240—253.

**Зянон ПАЗЬНЯК**
(1944)

Мастацтвазнаўца, археолаг, публіцыст, культуролаг, грамадскі і палітычны дзеяч. Нарадзіўся ў в. Суботнікі Іўеўскага раёна (Гродзенская вобл.). У 1967 г. скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут. З 1972 г. — навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Пазней працаваў у Інстытуце гісторыі АН Беларусі. Кандыдат мастацтвазнаўства (1981). З пачатку 70-х г. адзін з лідэраў нацыянальна-адраджэнскага руху на Беларусі. Адкрыў і прымаў непасрэдны ўдзел у даследаванні урочышча Курапаты пад Мінскам, месца масавых расстрэлаў савецкімі ўладамі мірнага насельніцтва ў 30-я і на пачатку 40-х г. Адзін з ініцыятараў стварэння таварыства памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій «Мартыралог Беларусі». З 1989 г. — старшыня сойма Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». У 1990—1995 гг. — лідэр апазіцыі БНФ у беларускім парламенце. Атрымаў палітычнае прыстанішча ў ЗША.

## О РУССКОМ ИМПЕРИАЛИЗМЕ И ЕГО ОПАСНОСТИ

Среди «демократического» обывателя в Минске чувствуется легкий переполох. В России на выборах победил Жириновский. Что будет делать БНФ? Как скорректирует свою политику? Как события в России отразятся на Беларуси? Какие шаги сделает оппозиция БНФ? И т.д. Эти вопросы наперебой задают некоторые растерянные журналисты, усердно годами поливающие грязью тот же БНФ.

Несколько странно, однако политические «болельщики», видите ли, волнуются: — почему молчит БНФ? И что, собственно, произошло? — хотелось бы спросить. Может, их испугало то, что Жириновский популярно говорит то, что делают Ельцин, Козырев, Гайдар, Черномырдин и прочие русские господа? Так надо было дрожать раньше. Неужели, когда приемлемы дела, вдруг стали так страшны слова? Или, может, искренность юродивого раскрыла наконец глаза белорусскому обывателю на то, что он в упор отказывался видеть? Тогда Жириновскому следует при жизни поставить памятник, хотя бы из гипса.

Народный фронт, конечно, сделал сообщение о результатах выборов в России и разослал во все газеты тем же, кстати, журналистам, которые, кстати, как обычно, его не напечатали и т.д. Но дело не в этом. Народному фронту нечего «корректировать». Его политика в отноше-

нии России и всего там происходящего скорректирована точно и давно, и пока что наша коррекция нас не подводила. Тем не менее, по-видимому, есть смысл повторить некоторые оценки. Заранее, однако, прошу прощения у читателей, что придется много цитировать, в том числе и себя.

11 декабря 1991 года газета «Звязда» поместила мою статью «Сьнежань. Палітычнае становішча на Беларусі». Я спешил дать оценку событиям в Вискулях, суть которых для БНФ была совершенно ясна. «Позна ноччу 8 сьнежня, — сказано в статье, — стала вядома пра палітычную згоду двух паўнамоцных прэзідэнтаў і Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі аб «садружнасьці» Украіны, Беларусі і РСФСР... Цэнтрам запланаванай садружнасьці хочуць зрабіць Менск. (Каб мацней трымаць Беларусь.) Зразумела, што такое пагадненьне выгаднае найбольш Расеі». И дальше соглашение оценивается как «манипуляция» с конечной целью «снова загнать наш народ в империю». Никаких «содружеств» с Россией не должно было быть. Это погибель белорусской экономики и белорусского независимого государства. Наш путь — это путь Балтии, путь возвращения в Европу.

Прошло два года. Теперь посмотрите на страны Балтии и на Беларусь. Может, «у матросов есть вопросы»? Нет вопросов. А были. И весьма пространные. 13 ноября 1991 года (еще перед Вискулями) «Советская Белоруссия» опубликовала мое интервью. Сотрудница редакции Ирина Михайловна Гуринович спрашивала: «Две ваши политические позиции вызывают у многих людей опасения. Прежде всего совершенно однозначное, крайне негативное отношение к России. Есть логика в ваших рассуждениях об имперской политике царизма, о жестокой русификации белорусского народа в период так называемого социалистического строительства, об опасности сегодня не соблюсти равновесие во взаимоотношениях двух суверенных республик. Но когда политик безапелляционно заявляет: «Беларусаў выратуе толькі вяртанне ў Еўропу... арыентацыя на культурны Захад, а не на разбэшчаны, разбураны, імперскі Усход» или «Справу рускіх цароў прадоўжыла руская чэрнь — ленінскія бальшавікі. Акупаваўшы Беларускую Народную Рэспубліку, яны прынесьлі з сабой не толькі забойствы і «чрэзвычайкі», не толькі антычалавечую ленінскую ідэю, але і антыкультуру, хамства, распусту і п'янства, расейскае брыдкаслоўе, ляноту, нянавісьць і хлусьню».

Неужели Россия не дала белорусскому народу ничего другого?»

З.Пазьняк: «Ваши рассуждения о России аналогичны по структуре возражений рассуждениям о защите коммунизма и КПСС, произносимым два-три года назад всеми, кто желал. Теперь они забыли свои возражения и говорят иное. Так и о политике России. Вы можете защищать эту враждебную Беларуси имперскую политику убедительно и страстно. Ничего, я повременю, пока вы станете говорить иначе. И, поверьте, ждать осталось немного. Некоторым не понравилась моя речь в Верховном Совете 25 августа (1991 г.) об империализации политики России, об авантюризме устремлений Ельцина. Ждать опять же приш-

лось совсем недолго — два дня. И прозвучало в конце августа со стороны России, вы знаете, заявление о границах. То ли еще будет» («Советская Белоруссия», 1991. 13.XI).

То ли уж произошло, уважаемые оппоненты, вплоть до стрельбы друг в друга. Но и это еще не все, чего следует ожидать. Были заявления по Севастополю, по Черноморскому флоту, было грубейшее, всполошившее всю Европу заявление о поволжских немцах, отрицающее их национальные и человеческие права, были кровавые провокации, были развязаны с участием русских войск грязные имперские войны в Молдове, Таджикистане, Осетии, Грузии, Абхазии, Чечне, подготовлен проимперский прорусский переворот в Азербайджане, растерзана, искромсана, потоплена в крови Грузия и силой загнана в СНГ. При этом новые русские руководители применяли старую имперскую политику — разделять народы и группы населения, стравливать их между собой, уничтожать одних, выезжая на спинах других (как в Абхазии), захватывать территории, управление, имущество и властвовать через независимых и подставных.

Идеология этой традиционной политики несложная, заимствованная у Гитлера: защищать в сопредельных государствах стратегические интересы России и права русских (вспомните «права немцев», гитлеровские «аншлюсы» и т.п. явления, осужденные мировым сообществом). Более того, они собираются «защищать» права даже не русских, а «русскоязычных», то есть советской популяции в других странах. Это означает, что не будут признаны никакое национально-культурное возрождение и демократия в этих странах (ибо национально-культурное возрождение, выход из империи суть процессы демократические). Это значит, что будет давление и вмешательство во внутренние дела сопредельных стран. Эту циничную грязную политику осуществляли и сторонники Хасбулатова— Руцкого, и в еще большей степени проводили и проводят люди Ельцина. Мы имеем возможность слушать и читать их высказывания. Вот, например, заместитель министра иностранных дел России А.Адамишин высказывается корреспонденту «Комсомольской правды» (12 августа 1993 г.): «В Таджикистане у нас серьезные интересы так же, как и в целом в Средней Азии... В том же Таджикистане у нас серьезнейшие экономические интересы. Мы вкладывали средства в эти края. Там редкоземельные металлы, уран, хлопок, значительный экономический потенциал, в котором мы заинтересованы. С какой стати бросаться этим?» И дальше демократически мерзко и фальшиво: «Общность наших народов, заинтересованность друг в друге — это одна из главных причин наших стратегических интересов в регионе. Кроме того, нельзя оставлять сотни тысяч русскоязычного населения».

Каково? А это, между прочим, не 1938-й, а 1993-й, не гитлеровская Германия, а «демократическая» Россия, и говорит не сотрудник рейхсканцелярии, а заместитель министра иностранных дел Российской Федерации. А что же господин министр Козырев? Может, он думает иначе?

Анализ «национально-государственных интересов России в Таджикистане» г. Козырев дал 4 августа 1993 года в газете «Известия». Он дипломатично умолчал про хлопок, уран и редкоземельные металлы. «Первое и главное в ряду этих интересов, — говорит г. Козырев, — солидарность с многонациональным народом этой страны (ай-ай-ай. — З.П.), связанной с Россией вековыми узами истории, культуры, традиций. Здесь же — обеспечение безопасности и законных прав 200-тысячной российской общины... Россию и Таджикистан связывает Договор о дружбе, сотрудничестве и взаимной помощи, подписанный 25 мая 1993 года». Вот такая, оказывается, «дружба».

«Верховный Совет (тот старый. — *З.П.*), — сетует дальше г. Козырев, — «буквально с боем» дает согласие на лежащие месяцами запросы исполнительной власти о выделении дополнительных контингентов пограничных и миротворческих сил или ратификации Договора о коллективной безопасности». Любопытно, правда? Что же предлагает ельцинский министр для реализации «интересов России в Таджикистане»? — «Первое. Мобилизуем наших партнеров по СНГ...» и т.д.

Прошло время. Российские номенклатурные «демократы» единолично у власти. 18 декабря 1993 года газета «Известия» сообщает, что г. Козырев готов «сам поставить вопрос о приостановке вывода войск из Латвии и Эстонии». «Правительства трех балтийских республик должны бы не требовать от России каких-то уступок, а вместе с Россией заняться улучшением положения русскоязычного населения и таким путем лишить Жириновского социальной базы. Если этого не произойдет, позиция Москвы ожесточится». Ну, как вам эта «политика», господа, знакома? Аналогичные взгляды и высказывания у российских официальных лиц — норма, я уже не говорю про генералов.

Теперь давайте посмотрим, как ведет себя русский «демократический» интеллект, не тот, что против Ельцина (там все ясно), а тот, который за, который с господами Козыревым, Гайдаром, Черномырдиным, Шумейко, Лобовым, Собчаком и прочими.

Остановимся на вполне демократическом и вполне профессиональном политическом журнале «Новое время». В N 47 за 1992 г., с. 22, один из авторов, излагая национальные интересы России, пишет: «Беларусь должна рассматриваться Россией как одна из основных несущих конструкций СНГ; координационный центр СНГ должен образоваться именно здесь, как это и предусматривалось изначально». В 16-м номере за 1993 год дано пространное обозрение вариантов российской политики в «ближнем зарубежье». Здесь и интересы России в Абхазии, и «русскоязычное население», и весь набор. «Можно попробовать осуществлять и политику «разделяй и властвуй», которая в состоянии обретать самые изощренные формы, — сообщается в обзоре. — Каковы ее возможные слагаемые? Показное миротворчество, сопряженное с тайной поддержкой одной из противоборствующих сил. Нагляднейший пример — Приднестровье, где Россия (будем откровенны) не вполне беспристрастна, или Абхазия. Далее — передача военной техники сопре-

дельным странам (скажем, Азербайджану и Армении), втянутым в разрушительное противоборство. Третья составляющая этого старого имперского правила — создание особых преимуществ для государств, идущих на наиболее тесные связи с Россией (скажем, для Беларуси или Казахстана), и, напротив, жесткое отношение к не вполне вписывающимся в такие рамки странам, раздувание изначально существующих противоречий между сопредельными с Россией странами (скажем, пограничных споров между Литвой и Беларусью)... Стравливание соседних государств позволило бы воспрепятствовать созданию на наших рубежах союзов стран с ясно выраженной антироссийской направленностью. Следовательно, любые политики, сидящие в Кремле, независимо от их личных взглядов, будут испытывать — пусть в разной мере — тягу к такого рода действиям».

Далее рассматриваются новые варианты политики России: «постоянная подпитка пророссийских сил в политических и военных кругах сопредельных стран..., жесткие и вызывающие действия российских вооруженных сил, все еще находящихся во многих сопредельных странах..., целенаправленное экономическое давление.

Все эти действия уже осуществляются... (!) Экономический рычаг пускается в дело в увязке с политическими требованиями... Конечная цель подобной политики — создание пояса зависимых от России государств, а при удачном стечении обстоятельств и воссоединение их с ее «материнским телом».

Комментарии, полагаю, излишни. Тем более что видно, как эта политика реализуется на деле. Но когда на экране телевизора появляется кто-либо из ельцинских «демократических» проводников этой имперской политики, скажем, господин Козырев, и, совершенно пустым, безразличным взором глядя на собеседника, начинает эдак тихо-тихо, вяло-вяло, что кажется: сейчас уснет прямо на экране, цедить в час по чайной ложке все то, что выше процитировано, да еще и пересыпая нудную речь трудными для народа словечками типа «геостратегия», «дефиниция» и т.п., — понять его сложно, но всем кажется: какой голубь, какой демократ, никакой агрессивности, хоть к ране приложи, и — ничего не понятно.

Но вот появляется г. Жириновский. Говорит то же самое, даже мягче по сути, но другим языком и в другой форме: грубо, кратко и примитивно. Вместо заумной «геостратегии» — «возвратим Финляндию и Польшу», вместо «дефиниции» — «закатаем под асфальт» и т.д. Понятно и шовинисту-академику, и последнему российскому бомжу.

Никакой принципиальной разницы между господином Жириновским и господами Козыревым, Гайдаром, Черномырдиным, Шумейко, Собчаком, Явлинским и прочими в политическом смысле, я считаю, нет. Есть различие только в темпераменте, уровне культуры и в поведении. Жириновский в юродивой форме говорит то же самое, что говорят и делают его номенклатурно-демократические оппоненты.

чыста дэдуктыўным, г. зн., тэарэтычным, метадам (калі не лічыць магчымага ўплыву на яго таксама эмпірычнай «Гісторыі мастацтва старажытнасці» Вінкельмана). Зрэшты, і чыста эмпірычныя выхады на тую праблематыку маглі мець сваёй крыніцай таго ж самага Гегеля, калі ўлічыць, што Шпенглер, напрыклад, мог быць залежным ад М.Данілеўскага з яго канцэпцыяй культурна-гістарычных тыпаў, а гэты, у сваю чаргу, праз старэйшых славянафілаў — менавіта ад Гегеля, аўтарытэт якога ў тагачаснай Расіі быў проста агромністы.

Таму і сёння, калі пасля краху ў Беларусі марксізму як цэласнай філасофскай сістэмы, што прэтэндавала на тое, каб быць пакладзенай у аснову развіцця беларускай нацыянальнай культуры, утварыўся небяспечны ў культурных і палітычных адносінах вакуум, менавіта гегелеўская філасофія і пераважна дыялектыка-катэгарыяльны яе апарат маглі б адыграць рашаючую ролю ў стварэнні максімальна, думаецца, канструктыўнай тэарэтычнай канцэпцыі адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. І тое магчыма ў двух, зрэшты, блізкіх узаемна да сябе аспектах. Па-першае, менавіта гегелеўская дыялектыка дае нам неабходны, строга лагічны апарат для распрацоўкі тэорыі культурна-гістарычнага развіцця народа, які вельмі добра пацвярджаецца дастаткова перака624ўчымі па сваёй рэпрэзентатыўнасці эмпірычнымі назіраннямі, згодна з якімі, па Сарокіну, кожная культура перажывае ў сваім развіцці дастаткова выразна акрэсленыя ў прынцыпе фазы, першая з якіх (гегелеўскае станаўленне) характарызуецца перавагай ідэальнага над рэальным, духоўнага над матэрыяльным, рацыянальнага над сенсорным; другая фаза (росквіт) — гарманічнай інтэграванасцю гэтых абодвух полюсаў, і, нарэшце, трэцяя фаза (упадак) вызначаецца ўжо, наадварот, перавагай рэальнага над ідэальным, матэрыяльнага над духоўным, сенсорнага над рацыянальным. Пры гэтым лагічная строгасць і дакладнасць гегелеўскага катэгарыяльнага апарата ў прынцыпе настолькі высокая, што ён і сёння можа быць інтэрпрэтаваны ў тэрмінах і паняццях сучаснай матэматычнай логікі і агульнай тэорыі сістэм, як у свой час было паказана польскім логікам С.Рагоўскім, а таксама аўтарам гэтага тэксту ў манаграфіі «Кібернетыка і законы прыгажосці». Праблема дакладнай фармалізацыі гегелеўскай дыялектычнай логікі захоўвае сваю вострую актуальнасць і да гэтага часу, і, напрыклад, такія сучасныя навуковыя кірункі, не кажучы ўжо аб агульнай тэорыі сістэм, як шматзначная логіка або тэорыя нячоткіх мностваў Задэ, маюць перад сабою агромністую, неўсвядомленую яшчэ, можа быць, дастаткова поўна навуковую і філасофскую перспектыву, асабліва калі ўлічыць неверагодныя поспехі сучаснай камп'ютэрнай тэхналогіі. У такім вось аспекце Гегель сёння цікавіць нас пераважна як дыялектык.

Па-другое, гегелеўская ідэалістычная філасофія, якая трактуе Сусвет як быццё Абсалютнай Ідэі, уяўляе сабой сёння для нас вялікую каштоўнасць як выдатны прыклад падыходу да рэчаіснасці з пазіцый канцэн-

траванай, так бы мовіць, духоўнасці. Такі менавіта падыход якраз і з'яўляецца найбольш характэрным, як толькі што было паказана, для культуры, якая перажывае першую з азначаных фаз свайго развіцця, сваю, згодна Шпенглеру, «вясну». А гэта і павінна больш за ўсё цікавіць кожнага, хто заклапочаны праблемай адраджэння сваёй духоўнасці і культуры ў цэлым, у нашым выпадку культуры беларускай. У гэтым выпадку Гегель блізкі нам ужо і як філосаф-ідэаліст. Бо ідэалізм, і ідэалізм не толькі ў вузка філасофскім плане, заўсёды з'яўляецца адначасова і рэлевантнай прыкметай стадыі пазітыўнага ўздыму культуры і вельмі дзейнасным інструментам такога ўздыму. Мы ўжо бачылі нават на Марксавым прыкладзе з архітэктарам і пчалой, што ўсялякае, нават самае дробнае, дзеянне пачынаецца з думкі і менавіта з думкі агульнай, у прынцыпе, тэарэтычнай. Увогуле кожнае дзеянне ўяўляе сабою своеасаблівую форму сілагізма: агульная ідэя як большая пасылка, канкрэтна-пачуццёвае ўспрыняцце — як пасылка меншая, і як вывад, нарэшце, — само тое дзеянне. Дзеянне як рэалізацыя, матэрыяльна-пачуццёвае ўвасабленне ідэі як своеасаблівы фінал дэдуктыўнага разумавання. Калі індуктыўнае мысленне, што ляжыць у аснове эмпірычнага падыходу, рухаецца звычайна ад канкрэтна-пачуццёвага сузірання рэчаіснасці да агульнай ідэі і ў выніку да фармулёўкі пэўнай заканамернасці, то дэдуктыўнае, наадварот, — ад агульнай ідэі да пачуццёвай рэчаіснасці, і ў выніку канструіруецца новы рэальны, аб'ектыўны факт. А стварэнне такіх новых аб'ектыўных рэальнасцей, што ўяўляюць сабою пэўную каштоўнасць для чалавека, якраз і з'яўляецца працэсам станаўлення культуры. Менавіта таму на фазе станаўлення культуры і ў ёй самой ідэальнае пераважае над рэальным, духоўнае над матэрыяльным.

Зразумелым становіцца тады, чаму нас не могуць задаволіць у якасці сродка ці інструмента адраджэння беларускай нацыянальнай культуры спасылкі на тыя заходнія філасофскія кірункі, якія арыентуюцца не на эсэнцыю, а на экзістэнцыю, не на ноўмены, а на феномены, не на розум, а на пачуццёвасць, як гэта бачыцца выразна на прыкладзе таго ж Хайдэгера і дэструктыўнага постмадэрнізму, што фактычна ідзе ад яго. Уласна кажучы, гэты накірунак пачаўся і не з Хайдэгера, а з самога Фрыдрыха Ніцшэ і яго славутага тэзіса Gott ist Tot (Бог памёр), з якога і пачаўся, па сутнасці, шпенглераўскі «заняпад Еўропы», г. зн., сыходная ўжо фаза гісторыі заходнееўрапейскай культуры, яе паступовы ўпадак. А калі дакладна, дык і яшчэ раней. Зрэшты, сам Маркс выразна ўкладаецца ў гэтую сінусаідальную крывую, чарговай вяршыняй якой быў Гегель, а з Феербахам пачынаецца ўжо, так бы мовіць, гульня на паніжэнне. Нямецкі філосаф-неатаміст Я.Хомес, напрыклад, зусім справядліва працягвае тую лінію далей ад Маркса праз Ніцшэ (не забудзем, што вядомы папярэднік Ніцшэ Макс Штырнер быў сучаснікам і добрым знаёмым Маркса!) аж да самога Хайдэгера. Так што Хайдэгер ні ў якім разе не з'яўляецца лагічным антыподам Маркса, як тое здаецца не-

каторым нашым маладым філосафам, што бяруць сабе Хайдэгера ў духоўныя правадыры, а, наадварот, своеасаблівым прадаўжальнікам менавіта марксавай справы! У сваёй дыскусіі з Сартрам аб прыродзе гуманізму ён, як здаецца, і сам на тое добра намякнуў. І гэтая лінія, што вядзе ўніз, даўно ўжо прасочваецца не толькі ў філасофіі, але і ў мастацкай культуры і ў культуры матэрыяльнай. У мастацтве, напрыклад, яна бачыцца ў пераходах ад класіцызму праз рэалізм да натуралізму, імпрэсіянізму і, нарэшце, праз абстракцыянізм і да сучаснага постмадэрнісцкага абсурдызму. У культуры матэрыяльнай — ад адухоўленай пратэстанцкай этыкай вытворча-індустрыяльнай яе фазы, адзначанай яшчэ Максам Вэберам, да сучаснага пачуццёва-спажывецкага перыяду з ўстаноўкай на актыўнае спажыванне і геданістычны індывідуалізм.

І таму не можа не выклікаць горкага здзіўлення той факт, што менавіта на гэты кірунак пераважна арыентуюцца некаторыя нашы беларускія філосафы, якія актыўна ўзяліся за распрацоўку культурна-філасофскай праблематыкі, аб чым сведчаць такія добрыя ў цэлым выданні, як спецыяльны некалі ўкладыш да газеты «Культура», вядомы пад назваю «ЗНО», або пэўныя старонкі часопіса «Крыніца», не кажучы ўжо пра выключную зарыентаванасць на песімізм і брыдоту з боку некаторых нашых пісьменнікаў і мастакоў. Было б несправядліва, канешне, абвінавачваць іх у нейкім свядомым злоўжыванні (у гэтым вельмі «преуспевали» ў свой час камуністычныя партідэолагі і афіцэры КДБ з іх «идеологическими диверсиями» і да т.п.), але папроку ў пэўнай абмежаванасці мыслення тое ўсё ж такі, думаецца, можа заслужыць. Або ў «чорна-белай» логіцы крайнасцей, да якой нас так доўга прывучалі бальшавікі. Паўплывала тут, магчыма, і тая школа, якую праходзілі і, здаецца, праходзяць і цяпер выпускнікі філасофскага факультэта БДУ, дзе альбо папранейшаму трымаюцца за марксісцка-ленінскі падол, альбо кідаюцца ва ўжо вядомыя нам дэструктыўна-нігілістычныя крайнасці, поўнасцю ігнаруючы філасофскія кірункі, зарыентаваныя на такія пазітыўныя культурныя каштоўнасці, як ісціна, дабро і прыгажосць. У гэтым сэнсе надзвычай цікавымі маглі б стаць, напрыклад, акрамя рускай рэлігійнай філасофіі і такія заходнія напрамкі, як пратэстанцкая філасофія і каталіцкі неатамізм, якія таксама, дарэчы, вельмі пачціва ставяцца да Гегеля і да ягонай філасофіі. Увогуле, праблема ўзаемаадносін рэлігіі і філасофіі на фазе станаўлення культуры з'яўляецца сёння вельмі актуальнай, асабліва ў кантэксце агульнай задачы адраджэння беларускай нацыянальнай культуры. Але гэта ўжо тэма іншай размовы.

Гаворачы аб адраджэнні культуры як аб першай фазе яе развіцця, для якой характэрна перавага ідэальнага яе пласта над матэрыяльным, трэба заўсёды памятаць, што гэта менавіта толькі асобная фаза, усяго толькі шпенглераўская, так бы мовіць, вясенняя пара. Гэта толькі яшчэ падыход да паўнацэннага існавання, да светлай пары квітнення, якую Шпенглер параўноўваў з летам і для якой тыповым з'яўляецца гарманічнае

ўжо адзінства ідэальнага і рэальнага, духоўнага і матэрыяльнага. І тут перад намі зноў паўстане велічная постаць нямецкага філосафа-ідэаліста. Менавіта Гегель упершыню сфармуляваў дыялектычныя законы развіцця, у тым ліку і законы развіцця культуры, як мы тое бачым у яго хоць бы «Лекцыях па эстэтыцы», даўшы ім дакладнае лагічнае абгрунтаванне. І менавіта гэтым законам развіцця свядома ці па невуцтву здрадзілі марксісцка-ленінскія філосафы, праігнараваўшы тое, што перавага ідэальнага над рэальным, агульнага над асабістым, а значыць, і грамадства над асобаю ўяўляе сабой толькі першую, пераходную па сутнасці, фазу развіцця. Яны ператварылі гэты, усяго толькі пераходны, стан у асноўную форму існавання соцыуму, што і прывяло ўсю сістэму так званага сацыялізму да хуткага яе закасцянення, ці «зацвярдзення», як некалі пісаў Рэне Генон, што ў канцы завяршылася, як вядома, ганебным крахам.

Такая ж небяспека чакае нас, дарэчы, і ў выпадку другой крайнасці, небяспека менавіта прыняцця за асноўную форму існавання, за росквіт апошняй, асенняй, па Шпенглеру, фазы развіцця з яе пералічанымі ўжо раней пачаткова-распаднымі прыкметамі. Тое і робяць якраз некаторыя нашы філосафы, невясёлыя вынікі чаго можна назіраць часам у нашай філасофскай і мастацкай літаратуры. Красамоўным сведчаннем такога распаднага, на жаль, мыслення можа быць, напрыклад, бліскуча напісанае, зрэшты, эсэ аднаго філосафа пад назвай «Мяне няма», якое вянчае сабой цэлы цыкл такіх жа бліскучых па форме літаратурна-філасофскіх накідаў, дзе ён услед за Жакам Дэрыдам знішчае не толькі аб'ект філасофскага разумавання, але і самога сябе як яго суб'екта, звёўшы, такім чынам, усю філасофію, як гавораць будаўнікі, да нулявога ўзроўню. Альбо ўрачыстая заява на старонках памянёнага ўжо «ЗНО» маладога і таксама, здаецца, таленавітага паэта, што ён мае «права рабіць з гною сваіх багоў», заява не толькі не арыгінальная, бо такое вядома ўжо нам ледзьве не з часу бадлераўскай «Падлы», але і неразумная, бо культывуе брыдоту, гэты эстэтычны сінонім смерці. Не дзіва, што пасля ўсяго гэтага другі тэарэтык «ЗНО» заклікае ўжо і да пахавання, і не каго-небудзь, а... усяго беларускага этнасу.

Адраджэнне беларускай культуры, як у свой час і вялікі італьянскі Рэнесанс, ёсць рух да квітнеючага жыцця. А жыццё ў процілегласць смерці якраз і ёсць гармонія, складаная і часам пакутліва супярэчлівая, але гармонія, да якой і заклікаў нас вялікі Гегель. Гармонія, што заўсёды звязваецца ў нашай свядомасці з такімі творцамі, як Тутмос, Фідый, невядомы нам аўтар Уты і Рэглінды, Леанарда, Рафаэль і Моцарт. А ў нас на Беларусі такім жа быў і Мікола Гусоўскі. Вось чаму дарагі нам і сёння гэты славуты немец. Вось у якім кірунку і нам трэба думаць, каб адрадзіць сваю культуру і каб з годнасцю несці імя беларуса як дастойнага прадстаўніка віда homo sapiens.

*1996*

**Аляксей РАГУЛЯ**
(1935)

Літаратуразнавец, крытык, культуролаг, педагог. Нарадзіўся ў в. Сянно Навагрудскага павету. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта (1957). Працаваў настаўнікам беларускай і рускай мовы і літаратуры ў школах Мінскай вобласці (1957—1970). Вучыўся ў аспірантуры Мінскага педагагічнага інстытута. Кандыдат філалагічных навук (1975). З 1970 г. — выкладчык гэтай вышэйшай установы. Працаваў на кафедры беларускай літаратуры. З 1992 г. — загадчык кафедры культуры Беларускага педагагічнага універсітэта, прафесар. Сябра Саюза пісьменнікаў Беларусі. Аўтар літаратурна-крытычных прац, манаграфій («Пафас станаўлення», «Імгненні...», 1990 і інш.). Даследуе гісторыю развіцця нацыянальнай культуры і літаратуры.

## КУЛЬТУРА УТАПІЧНАГА МЫСЛЕННЯ І ВЫБАР НАЦЫЯНАЛЬНАГА ШЛЯХУ

Супярэчлівы характар сучасных цывілізацыйных працэсаў прымушае чалавецтва шукаць рэсурсы для пераадолення крызісных з'яў у самім чалавеку, у грамадзянскай арганізацыі яго духоўнай, матэрыяльна-прадметнай і сацыяльна-палітычнай дзейнасці. У вырашэнні праблем глабалістыкі сёння ўсё больш акрэслена вылучаецца роля антрапалагічнага аспекту. Розум планеты шукае спосабы дзеля стварэння гарманічных адносін паміж чалавечым і прыродным універсумамі, пераадолення аднабаковасці і гіпертрафаваных крайнасцей сучаснай цывілізацыі.

Менавіта такую антрапалагічную накіраванасць узяў беларускі адраджэнцкі рух ля сваіх вытокаў, у чым можна бачыць рэакцыю на ўсеагульны крызіс культуры, які ў Расійскай імперыі стаў асабліва зацяжным і глыбокім. Паэтызацыя адзінства чалавека з прыродным космасам, культ зямлі і плоднасці, усведамленне непаўторнай каштоўнасці зямнога існавання — гэтыя асаблівасці беларускай культуры закладзены ў яе архетыпах, у рытуалізме каляндарнага абраду. Ужо ў язычніцкі перыяд складаліся ўстойлівыя гуманістычныя беларускія традыцыі. Беларуская культура змагла супрацьстаяць ідэалогіі таталітарызму, пагроза якога стала рэальнай пасля надання ў Кіеве афіцыйнага статусу візантыйскаму варыянту хрысціянства. Клімент Смаляціч не адмаўляў язычніцкай

культуры. Аўтар «Слова пра паход Ігаравы» не змог абысціся без паэтычных вобразаў язычніцкага пантэона — Стрыбога, Крны і Жлі.

Эстэтыка і этыка Кірылы Тураўскага прасякнута ідэяй удасканалення чалавека пафасам духоўнай працы ў зямным яго існаванні. Ефрасіння Полацкая, сцвярджае аўтар жыція, таксама «всех хотяше видети, яко едину душю»[1] да таго, як сучаснікі і сама яна адыдуць у лепшы свет. У полацкі перыяд беларускай гісторыі складвалася свая, арыгінальная інтэрпрэтацыя хрысціянскага вучэння як рэлігіі дзеяння ў свеце.

Пазней, у эпоху Рэнесансу, гэтыя тэндэнцыі былі замацаваны ў беларускай школе жывапісу, у літаратуры, прававой культуры. У масавую свядомасць новае рэлігійнае светаадчуванне ўкараніла уніяцкая царква. Побач з традыцыйнай фальклорнай парадыгмай культурнага героя ў прафесійным мастацтве ў гэты час узнікае яго разнавіднасць: ідэалізаваны вобраз гаспадара-апекуна падданых і дзяржавы. У рэальнай гісторыі гэтаму ўзору найбольш адпавядаў Вітаўт, вобраз якога апаэтызаваны ў летапісах і паэмах.

Ідэя гаспадара ў доме, на сваёй зямлі ўвайшла ў этыку фізіякратаў, у мастацкую, перш за ўсё тэатральную, культуру. Яна дажыла да 20-х гг. нашага веку. Спробы яе практычнага ажыццяўлення ўвасоблены ў дзейнасці наркама земляробства Прышчэпава, які рабіў стаўку на культурныя гаспадаркі, але загінуў у гады рэпрэсій.

Сфарміраваная на нацыянальнай аснове парадыгма супрацьстаяла чужому эталону-вобразу камісара ў скураной куртцы. Арыентацыя на культурнага гаспадара ў доме стымулявала творчую энергію нацыі на адраджэнне такіх формаў культуры, у якіх адчувае патрэбу не толькі беларуская нацыя: паэтычны эпас, філасофскі тэатр, ідылія, дыстопія, споведзь. Невыпадкова самыя значныя творы названых жанраў — паэма «Яна і Я» і драматургія Янкі Купалы, «Новая зямля» і «Сымон-музыка» Якуба Коласа, проза і драматургія Максіма Гарэцкага і многія іншыя — былі варожа сустрэты бальшавіцкім афіцыёзам. Сакралізацыя ўзаемадзеяння чалавека з прыродным космасам у беларускай мастацкай культуры па сваім значэнні выходзіць за межы нацыянальных культурных патрэб. Раскрыццё глыбінных духоўных сувязей асобы з творчымі сіламі прыроды ажыццяўляецца на фоне крызісу класічнага рацыяналізму. Дэкарт перадаў творчую функцыю богу-дэміургу і тым самым адасобіў чалавека ад космасу і зняў з яго адказнасць за вынікі вытворчай дзейнасці ў прыродзе. Тым самым была адчынена дарога вузкім прагматычным інтарэсам, якія спусташаюць і прыроду і душу, паралізуюць волю да жыцця, цікавасць да яго непаўторных таямніц.

Знаходжанне Беларусі ў складзе Расійскай імперыі магло паставіць яе культуру ў сферу дэкадэнцкіх уплываў з метраполіі. Гэтага, аднак, не адбылося. Наадварот. Ва ўмовах прагматычнага і адначасова ірацыянальнага XX ст. быў створаны своеасаблівы духоўны свет з пачуццём замілавання да малапрыкметных праяў жыцця. У суседніх краінах переважа-

лі ніцшэанскія матывы «волі да ўлады», а нацыянальнае адраджэнне больш цікавілася «воляй да жыцця». Так сцвярджаліся асновы універсальнай этыкі, згодна з якой прырода існуе не толькі як аб'ект карыстання і эксплуатацыі. Альберт Швейцэр у кнізе «Культура і этыка»[2] неаднаразова падкрэсліваў, што этызацыя культуры, пачуццё замілавання перад самымі кволымі праявамі жыцця — гэта і ёсць шлях духоўнага пераадолення крызісу культуры. Беларуская культура, такім чынам, знайшла свой шлях да фарміравання сучаснай канцэпцыі сярэдняга класа, стабільнага развіцця і ўсталявання экалагічнай раўнавагі.

На жаль, гэты духоўны здабытак яшчэ не спажыты як след нават у сябе дома. Толькі ў апошні час высокая ступень этызацыі беларускай культуры прыцягвае ўвагу даследчыкаў за рубяжом. Галоўнай прычынай нерэалізаванасці беларускага духоўнага скарбу з'яўляецца адсутнасць па-сапраўднаму суверэннай прававой нацыянальна-тэрытарыяльнай дзяржавы. Гэты недахоп тармозіць сёння далейшы рост нават тых відаў культуры, дзе здабыткі былі традыцыйна найбольш важкімі, — тэатра і літаратуры. Беларуская мова на сённяшні дзень па-ранейшаму застаецца дзяржаўнай толькі фармальна, і гэта стрымлівае працэс вербалізацыі на новым, больш высокім, узроўні культурных здабыткаў і рэчаіснасці. Палітыка моўнага нігілізму разбуральна ўплывае на творчы патэнцыял асобы. Катэгарыяльны апарат і знакавая сістэма мовы метраполіі сфарміраваны ў сістэме іншай аксіялогіі і непрыдатныя для самаразвіцця духоўнай культуры ў Беларусі. Руская мова тут не набыла культуратворчую функцыю.

Выйсце з тупіка ёсць адно — пераадоленне двухмоўя, а заадно і раздваення асобы.

У мове, а значыць, і ў псіхіцы асобы захавана своеасаблівая духоўная сіла. В.Гумбальт[3] называў яе тэрмінам energia, ці духоўная сіла. Буйны мовазнавец і філосаф нямецкага адраджэння ў канцы XVIII — пачатку XIX стст., ён справядліва лічыў, што мова вызначае напрамак інтэлектуальнай і ідэальнай жыццядзейнасці асобы, калі ахоплівае ўсе сферы прадметнай і ідэальнай дзейнасці асобы і нацыі.

Цяперашняе беларускае кіраўніцтва прыдае мала значэння праблемам пераадолення духоўнага крызісу, нават карыстаецца з яго ў палітычных гульнях. Зрэшты, кіраўніком называць можна не кожную асобу на пасадзе. Кіраўнік не патурае сапсаваным густам і невуцтву масы — ён дапамагае масе ўзняцца на новыя духоўныя вышыні.

Калі гэтага няма, тады існуе пагроза разбурэння нацыянальнай культурнай традыцыі на гэтым грунце рэжыму. У Беларусі за гады бальшавіцкага панавання ў масавай свядомасці знікла ўяўленне пра рэальную магчымасць і патрэбу існавання без манапольнай улады апарату і наменклатуры. Калектывізацыя ў корані перакрэсліла індывідуальную ініцыятыву і волю да паўнакроўнага жыцця. Сёння афіцыйныя газеты гавораць не пра жыццё, а пра выжыванне. Харызма вяжа знутры ініцыя-

тыву беларускага індывідуальнага і нацыянальнага Я. Гэтыя асаблівасці духоўнай сітуацыі нельга не ўлічваць, калі мы гаворым пра нацыянальны менталітэт. Праўда, яны вызначаюць яго толькі часткова, бо беларуская нацыя мае немалыя запасы energia — духоўнага скарбу, які таксама складае істотную частку менталітэту.

У апошнія гады з'явілася нямала цікавых прац па гэтай праблеме. Пераважае, аднак, эмпірычны падыход. Думаецца, што надышоў час для прац абагульняльнага характару, каб вызначыць атрыбутыўныя якасці беларускага менталітэту, а значыць, і напрамак і мэты гістарычна-культурнага развіцця.

Дзеля гэтага варта больш пільна прыгледзецца да існуючай тыпалогіі утапічнага мыслення. Карл Мангейм у кнізе «Ідэалогія і утопія», якая выйшла ў Боне ў 1929 г., вылучае чатыры тыпы (стадыі) у развіцці утапічнага мыслення: аргіястычны хіліязм, ліберальна-гуманістычную ідэю, кансерватыўную ідэю, сацыяльна-камуністычную ідэю[4]. Нас больш цікавяць першыя тры, бо чацвёрты ёсць камбінацыя з першых двух.

Хіліясцкі тып свядомасці лічыць за несапраўднае нашае знаходжанне ўнутры рэальнай прасторы і часу. Тысячагадовае царства свабоды з'яўляецца апраўданнем рэвалюцыйнага энтузіязму, барацьбы, якая расцэньваецца як адзіны жыватворны прынцып самасцвярджэння ў свеце, як летуценны прарыў у свет, ажыццёўлены экстатычна-аргіястычнай энергіяй. Томас Мюнцэр гаварыў пра «мужнасць і сілу для ажыццяўлення немагчымага». У новым часе гэты энтузіязм знайшоў сваё адлюстраванне ў рэвалюцыйнай паэзіі: «Смело мы в бой пойдём за власть Советов и как один умрём в борьбе за это», «Врага прижал бы я к ранам груди, и захлебнулся б моею он кровью... О счастье битвы!». Ідэя камуністычнага раю і ўлада саветаў адышлі ў нябыт, а шчасце бітвы засталося.

Ліберальна-гуманістычная ідэя займаецца не тым быццём, якое яно ёсць, а тым, якім яно павінна быць. У адрозненне ад прыхільнікаў хіліясцкага бунтарскага ўзбуджэння, дзеячы ліберальна-гуманістычнага кірунку абапіраюцца на навуку і культуру. Гісторыя разглядаецца як працэс набліжэння рэальнага быцця да нарматыўнай ідэі.

Прынцыпова адрозніваецца ад двух першых кансерватыўная свядомасць. Яна не спыняецца на трансцэнзусе паміж існуючай рэальнасцю і утопіяй. Дух не канструіруецца абстрактна, ён успрымаецца як гістарычна абумоўленая ўнутры самой рэальнасці сіла. Гістарычны вобраз успрымаецца не як зроблены, а як расліна, што вырастае з нейкага ўнутранага цэнтра. Кансерватыўная ідэя не ацэньвае рэальна зямныя каштоўнасці, не дапускае разбуральнага рэвалюцыянісцкага энтузіязму. Гэты тып свядомасці стаў вызначальнай рысай беларускай адраджэнцкай культуры. Яна выклікана да жыцця патрэбай захаваць ад разбурэння духоўны скарб нацыі, традыцыйную народную мараль і этыку. Імперскай палітыцы дэнацыяналізацыі і разбурэння беларуская культура супрацьпаставіла сакралізацыю рэальных першапачатковых каштоўнас-

цей — «вобразы мілыя роднага краю», «сінія касачы», свой «родны кут», «скарб», «спадчыну», што засталася «ад прадзедаў спакон вякоў». Знакавая сістэма беларускай мастацкай культуры адлюстроўвае ўстойлівасць нацыянальнага духу ў яго змаганні з індустрыяй адчужэння, ператварэння чалавека ў вінцік, народа — у «русскоязычное население»:

Не ведаю, якім вузлом
Навекі я прывязан
Да старых сосен за сялом,
Да яблынь, груш і вязаў,
Да кладак гладкіх,
Валуноў,
Да траў, жытоў на ўзлесках,
Да партызанскіх курганоў
І помнікаў гвардзейскіх...
Адно я знаю: гэткі меч
На свеце не скуецца,
Каб мог ён вузел той рассеч,
Не закрануўшы сэрца[5].
(*Аляксей Пысін. «Вузел»*)

Кансерватыўны, ахоўны тып культуры зрабіў свой уплыў на характар беларускай утопіі. Як правіла, яна не выносіцца ў светлую будучыню, звернута да таго, што было ці магло быць па верагоднасці ў мінулым. Не характэрны для яе і вынас дзеяння за межы рэальнай прасторы. Замест жорсткай рацыяналістычнай рэгламентацыі чытачу прапануецца малюнак рэальна магчымага быцця ў яго чыстым, «натуральным» выглядзе. Уласна утопія як жанр у беларускай культуры не склалася, высокай мастацкай дасканаласці дасягнула ідылія, якая перарасла ў жанр філасофска-алегарычнай «казкі жыцця». Абодва гэтыя жанры існуюць у цеснай сувязі з такой разнавіднасцю антыутопіі, як дыстопія, якая стала найбольш эфектыўнай формай гістарыясофскага спасціжэння рэчаіснасці. Густа замешаная на сацыяльна-бытавым матэрыяле, беларуская дыстопія дасягнула свайго вышэйшага пункту ў творчасці В.Быкава. Дыстопія дала адказы на «заклятыя» пытанні беларускага сацыяльнага быцця. Сутнасць іх зводзіцца да наступнага.

Галоўная прычына трагічнага лёсу народа на працягу апошніх двухсот гадоў — выбар ненатуральнага шляху, які не адпавядае ментальнасці народа, духу яго культуры і прывёў грамадства да харызматычнага стану. Гэта шлях палітычных «уній», «саюзаў», «зон», па-цяперашняму — «інтэграцый». Такія «ідэйныя катэгорыі», як «сям'я», «Бацькаўшчына» (К.Чорны), «свой чалавек» (В.Быкаў), ператварыліся ў сваю процілегласць. Людзі патураюць «найяснейшай кароне» (В.Дунін-Марцінкевіч), служаць дохламу Змею (казачнік Рэдкі). Іерархія ўлады, узятая ў сваіх крайніх праявах, нагадвае бэстыярый (творчасць казачніка Рэдкага, М.Гарэцкага), дзе ўтульна адчувае сябе скаціна сваёй гадоў-

лі — паны Свінскія, таварышы Гарлахвацкія — свінячыя маманты. Над усімі стаіць нябачны людзям Цмок, ён жа Чорны (Я.Купала), ці ваенна-прамысловы комплекс (А.Макаёнак). Яго непасрэдныя памочнікі — відмы (Я.Купала), «жываеды» (Суліма) ці духоўныя янычары (У.Конан), так званыя свае людзі. Жыццё нагадвае жудасную рок-оперу, у якой музыку заказвае Чорны гаспадар напаўразбуранага «замчышча» — імперыі. Ён падахвочвае чорныя сотні на крывавае «жніва» звонам золата. «Добраахвотна» прынесенае прыведзенымі на вяроўках «касцятрупамі», яно крывавай поліўкай сцякае з рук Чорнага ў саганок, з якога сілкуюцца сілавыя структуры («Сон на кургане» Я.Купалы). Ёсць у гэтай краіне і мудрыя Асілкі (казачнік Рэдкі) — свае пракокі, але яны прыходзяць па часе, калі народ ужо зрабіў свой біблейскі «зыход» — толькі не на Бацькаўшчыну, а ў процілеглы бок і з торбамі на плячах, з жабрацкім гімнам — песняй пра Лазара («Раскіданае гняздо» Я.Купалы). Беларуская фантасмагорыя ставіць культурнага героя — інтэлігенцыю — перад неабходнасцю выканаць місію доктара ў хворым на харызму, замбіраваным грамадстве, дзе склалася новая разнавіднасць «бедных людзей» — ваўкалакаў і даносчыкаў па няволі.

Абагульняючы вопыт філасофскага пазнання айчыннай рэчаіснасці, беларускія мысліцелі Уладзімір Самойла і Ігнат Канчэўскі вызначылі беларускі шлях як шлях творчасці новых формаў сацыяльнага быцця. Новае нацыянальнае выхаванне павінна сфарміраваць «другую прыроду» асобы і нацыі. Вяртанне народу гістарычнай памяці павінна дапамагчы ўсвядоміць комплекс непаўнацэннасці ва ўсякіх яго формах — «тутэйшасці», «паміж Усходам і Захадам» і інш. Падзеі навейшага часу паказалі, што перадавая інтэлігенцыя недаацаніла пагрозы з боку духоўнага янычарства. Сацыяльныя нізы адарваны ад свайго ўласнага духоўнага скарбу. Зрабіць яго здабыткам масавай свядомасці — першачарговая задача дзяржаўнага значэння. Цяперашняе кіраўніцтва, аднак, уласнай ідэалогіі ў прынцыпе не мае з прычыны той жа недасведчанасці ў гісторыі культуры. У якасці афіцыйнай ідэалогіі ў Беларусі выкарыстоўваецца варыянт рускай культуры, прыстасаваны для апраўдання імперскіх памкненняў. Хацелася б звярнуць на гэта ўвагу рускай інтэлігенцыі: замілаванне паказным піетэтам не на дабро ні рускай, ні беларускай культуры.

Стварэнне беларускай школы ў Беларусі сёння з'яўляецца задачай, значэнне якой выходзіць за межы нацыянальнага культурнага працэсу.

*1997*

---

[1] Арлоў У. Еўфрасіння Полацкая. Мн., 1992. С. 190.

[2] Швейцер А. Культура и этика. М., 1973. С. 305—306.

[3] Гумбольдт В. Избранные труды по языкознанию. М., 1984. С. 53.

[4] Утопия и утопическое мышление. М., 1991. С. 128.

[5] Пысін А. Пойма. Мн., 1968. С. 103.

**Леанід ЛЫЧ**
(1929)

Гісторык, культуролаг, публіцыст. Нарадзіўся ў в. Магільнае Мінскай вобласці. Завочна скончыў гістарычнае аддзяленне Башкірскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1957). Працаваў настаўнікам. З 1962 г. — у Інстытуце гісторыі АН Беларусі. Абараніў кандыдацкую (1966) і доктарскую (1988) дысертацыі. У першыя гады навуковай дзейнасці займаўся пытаннямі развіцця транспарту на Беларусі, гісторыяй рабочага класа, сацыялістычнага спаборніцтва, сацыяльна-класавага развіцця грамадства. Адначасова з навуковай дзейнасцю выкладае ў Беларускім дзяржаўным універсітэце. Аўтар некалькіх манаграфій (сярод іх — «Беларуская нацыя і мова», 1994; «Гісторыя культуры Беларусі», 1996; (у сааўтарстве) і інш.). Даследуе пытанні культуры і мовы, царкоўна-рэлігійнага жыцця на Беларусі.

## НАЦЫЯНАЛІЗМ

### 1. Тут у нас, як не ў людзей

Беларусы адносяцца да той жменькі еўрапейскіх народаў, якім па самых розных прычынах не ўдалося да канца прайсці стадыю нацыяналізму. Здавалася б, толькі радавацца трэба, што не давялося яго перажыць. Але радасць адразу знікае, як падумаеш, што мы, будучы ўжо і не такім малым па колькасці дый не абдзеленым ад прыроды розумам, працавітым народам, усё ж на працягу стагоддзяў, у адрозненне ад тых, хто да дна асушыў поўную чашу нацыяналізму, заставаліся без уласнай дзяржавы, былі пазбаўлены магчымасці выкарыстоўваць сваю родную мову ў грамадскім жыцці і вучыць дзетак на ёй, не мелі пасля гвалтоўнага скасавання ў 1839 г. духоўнымі і свецкімі ўладамі Расійскай імперыі Берасцейскай царкоўнай уніі сваёй уласнай, незалежнай ад Масквы царквы, дык усялякая радасць прападае ад таго, што нас абмінуў нацыяналізм.

А прыгледзьцеся, якая хлюпенькая ў беларусаў нацыянальная самасвядомасць! Мы перыядычна чуем не толькі ў грамадскіх месцах, але і па радыё здзеклівыя словы ў адрас нашага дзяржаўнага суверэнітэту, роднай мовы, але вельмі мала ў каго з-за страты нацыянальнага гонару гэта выклікае пратэст. Па-сур'ёзнаму ён не праявіўся, калі пасля майскага рэферэндуму 1995 г. з ініцыятывы дзяржаўных органаў народнай асветы

пачалі выкідаць, трушчыць першыя падваліны нацыянальнай адукацыі. Жыве сабе гэты рахманы беларускі народ у сярэдзіне Еўропы і нават сораму не мае, што да сённяшняга дня не стварыў у сваіх гарадах аніводнай сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай навучальнай установы на роднай мове. І ўсё гэта ад таго, што ён, не ў прыклад абсалютнай большасці еўрапейскіх народаў, не прайшоў сапраўднай школы нацыяналізму. Былі спробы выхаваць у беларусаў пачуццё нацыянальнага гонару, ды не ўдалося іх здзейсніць.

У сваім нацыянальным жыцці мы празмерна шмат зведалі такога, што не садзейнічала кансалідацыі народа. Ад часоў Рэчы Паспалітай у нас вельмі мала было палітыкаў, інтэлігентных асоб, якія вучылі б народ ні ў якіх выпадках не цурацца свайго, не ахвяроўваць ім на карысць чужога. Наадварот, варта было толькі каму-небудзь з нашага элітарнага асяроддзя разбагацець, выйсці ў людзі, здабыць адукацыю ў замежных універсітэтах, як ён тут жа выракаўся матчынага слова, роднай культуры і нават не хацеў лічыць сябе прадстаўніком свайго народа. Шматлікія прыклады такой здрады можна знайсці практычна на ўсіх стадыях нацыянальнай гісторыі. Праўда, мелі месца і выпадкі зусім адваротнага парадку, калі нашыя дзяржаўныя дзеячы, багатыя, адукаваныя людзі ўсёй душой і сэрцам служылі інтарэсам Бацькаўшчыны. Але іх было мала, каб істотным чынам паўплываць на яе лёс. Адсюль усе нашыя сённяшнія беды, адсюль наша дашчэнту дэфармаванае нацыянальна-культурнае жыццё, у якім адмысловае, адметнае часам і днём трэба шукаць з ліхтаром.

Нічуць не пабаюся памыліцца ў сцвярджэнні, што такіх здэбеларусізаваных палітыкаў усіх рангаў, такой здэбеларусізаванай інтэлігенцыі, асабліва ў яе самых верхніх зрэзах, у нашай краіне яшчэ ніколі не было. І гэта ў час, калі перад беларускай нацыяй павінна на ўвесь рост паўстаць праблема выратавання ад этнічнай смерці?

Даведзеная да крайне небяспечнай мяжы дэбеларусізацыя сённяшняга жыцця нашай краіны — гэта вынік працяглай яе паланізацыі і русіфікацыі, што стала прычынай абыякавага стаўлення многіх людзей да сваіх гістарычных традыцый, духоўнай спадчыны, прывяло ледзь не да поўнай адсутнасці разумнага нацыяналізму, які так высока цаніўся і цэніцца ў цывілізаваным свеце. Практычна ўсе на сёння магутныя, са здаровым, невядомым для нас, беларусаў, нацыянальным патэнцыялам народы спаўна зведалі нацыяналізм, ад чаго маюць вялікую выгаду. У свой час, каб не даць германскаму народу растварыцца, падпасці пад уплыў якіх-небудзь іншых этнічных супольнасцяў, была выдадзена ў некалькіх мільёнах экземпляраў брашурка з дзесяццю запаведзямі германскага нацыяналізму і патрыятызму, у якім быў і такі пункт: «Пішы заўсёды на нямецкай паперы, нямецкай ручкай, макаючы яе ў нямецкае чарніла і карыстайся нямецкай прамакальнай паперай».

## 2. Прыклад паказвалі суседзі

Багатую школу нацыяналізму прайшлі нашыя суседзі — рускія і палякі. Умовы ў першых былі значна лепшыя для матэрыялізацыі гэтай ідэі. На ўсход ад Маскоўскай (Рускай цэнтралізаванай) дзяржавы ляжалі велізарныя малазаселеныя тэрыторыі, далучыць якія не ўяўляла аніякай цяжкасці. І Масква гэта зрабіла проста «на выдатна». Некаторыя з такіх тэрыторый былі заняты шляхам звычайных ваенных экспедыцый без усялякіх людскіх страт. А калі такія і мелі месца, дык у асноўным з-за непрыстасаванасці членаў экспедыцый да жорсткіх прыродна-кліматычных умоў. Польшчы ж, каб павялічыць тэрыторыю і гэтым самым узвялічыць аўтарытэт свайго этнасу, развіць у яго пачуццё нацыянальнай вартасці, трэба было праявіць куды больш намаганняў і ў многіх выпадках зусім іншыя сродкі, пераважна мірныя. У гэтых мэтах яна ў дачыненні да свайго ўсходняга суседа — беларусаў вельмі тонка выкарыстала дыпламатыю, міжшлюбныя сувязі з багатымі і ўплывовымі родамі Вялікага Княства Літоўскага і нарэшце — наступальны каталіцызм. Усё гэта дазволіла ёй заключыць з ВКЛ шэраг вельмі выгадных для сябе палітычных уній. Зразумела, самай пажаданай і ў той жа час лёсавызначальнай для Польшчы стала апошняя — Люблінская унія 1569 г. Дзеля супакаення палітычных дзеячаў Княства яму на першым часе даваліся пэўныя правы ў розных сферах дзяржаўнага, эканамічнага і культурнага жыцця, але на практыцы — асабліва з другой паловы XVII ст. — гэтыя правы ўсёй часцей парушаліся, у выніку чаго беларусы ў складзе Рэчы Паспалітай ледзь не канчаткова пазбавіліся нацыянальнага суверэнітэту, у значнай ступені страцілі ў выніку жорсткай, а дзе-нідзе вельмі тонка прадуманай паланізацыі ўласцівыя ім этнакультурныя рысы і асаблівасці.

Будуючы жыццё на прынцыпах нацыяналізму, гэтыя дзяржавы пастараліся з дапамогай сваіх вучоных усяляк апраўдаць такую палітыку. Найбольш грунтоўна тэарэтычныя асновы рускага нацыяналізму былі выкладзены ў працах дзекабрыстаў і, бадай, лепш за ўсё ў «Русской Правде» Паўла Песцеля. Прызнаючы факт поліэтнічнасці Расіі, ён лічыў, «што права народнасці існуе праўдзіва для тых толькі народаў, якія карыстаюцца гэтым, маюць магчымасць яго захаваць... плямёны, якія падуладныя вялікай дзяржаве і не могуць па слабасці сваёй карыстацца самастойнаю палітычнаю незалежнасцю і падлеглыя такім чынам абавязкова знаходзіцца пад уладай ці заступніцтвам якой-небудзь з вялікіх суседніх дзяржаў, не могуць надзяляцца правам народнасці, бо яно ёсць для іх уяўнае і неіснуючае... А таму лепш і карысней будзе для іх саміх, калі яны злучацца духам і грамадствам з вялікай дзяржавай і зусім зліюць сваю народнасць з народнасцю пануючага народа, складаючы з ім толькі адзін народ і спыняючыся бескарысна марыць пра справу немагчымую і неажыццявімую». Выказвалася парада, каб далучаныя да рускай народнасці плямёны «складалі ў дзяржаве не толькі кепска прылеп-

леныя да яе часткі, але зліваліся б зусім у агульны склад, забываліся б на сваю колішнюю слабую народнасць і ўступалі б з задавальненнем у новую вялікасную народнасць...»[1]

Адначасова П.Песцель стаяў за тое, каб гэтая вялікая пануючая народнасць асабліва не супраціўлялася «паасобнаму існаванню народаў, якія могуць карыстацца поўнаю палітычнаю незалежнасцю». Праўда, такіх народаў у Расіі ён бачыў вельмі і вельмі мала, пакідаючы без права на ўласную дзяржаву Фінляндыю, Эстляндыю, Ліфляндыю, Курляндыю, Беларусь, Маларосію, Бесарабію, Крым, Грузію, увесь Каўказ, землі кіргізаў, народы Сібіры і г.д. Такім правам, дый то ва ўрэзаным выглядзе, надзялялася толькі Польшча, паколькі на працягу многіх стагоддзяў яна карысталася «адмысловаю палітычнаю незалежнасцю і складала вялікую самастойную дзяржаву»[2]. Насуперак гістарычным фактам Беларусь такою не бачылася, хаця на працягу доўгага часу і выступала ў асобе Вялікага Княства Літоўскага. У выпадку ўтварэння польскай незалежнай дзяржавы ёй перадаваліся цалкам Гродзенская губерня і Беластоцкая вобласць, часткай — Віленская і Мінская губерні.

Нацыяналізм — праўда, далёка не ў разумным праяўленні — у поглядах П.Песцеля з вялікай сілай прабіваўся на паверхню і тады, калі ён вёў гаворку пра форму дзяржаўнага ладу. Іншага тыпу дзяржавы, як адзінай, непадзельнай, для Расіі ён не ўяўляў, пішучы: «З першага погляду можа федэратыўная будова дзяржавы падацца зручнай і прыемнай: бо кожнай вобласці магчымасць дае дзейнічаць паводле свайго меркавання і сваёй волі; але пры самым уважлівым разглядзе лёгка пераканацца можна ў рашучай перавазе непадзельнай арганізацыі дзяржавы над федэратыўнай; асабліва дастасоўваючы гэта да Расіі пры вялізнай яе прасторы і вялікай колькасці розных плямёнаў і народаў, што яе насяляюць». А менавіта гэтыя ж фактары, наадварот, і абумоўлівалі неабходнасць для Расіі мець федэратыўны дзяржаўны лад. Развіваючы далей свае меркаванні аб перавагах непадзельнай, адзінай Расійскай дзяржавы, П.Песцель заключае: «...усялякая думка аб федэратыўным ладзе для яе пабудовы адхіляецца канчаткова як самая згубная шкода і найвялікшае зло. Пазбягаць належыць усяго таго, што апасродкавана ці неапасродкавана, прама ці ўскосна, адкрыта ці патаемна да такой пабудовы дзяржавы весці б магло.

З прычыны ўсяго тут сказанага аб'яўляецца Расійская дзяржава, у межах вышэйазначаных, адзінай і непадзельнай, якая адхіляе пры гэтым канчаткова ўсялякую федэратыўную арганізацыю, пабудову і існаванне дзяржавы»[3]. Як бачым, дзекабрыст П.Песцель быў адным з першых, хто спрычыніўся да выпрацоўкі тэарэтычнага погляду на Расію як на адзіную і непадзельную дзяржаву, дзе няма месца для нармальнага і адмысловага нацыянальна-культурнага развіцця ўсіх нярускіх народаў, а значыцца і захавання іх як самабытных этнасаў.

П.Песцель, як ніхто іншы да яго, добра разумеў, якую перашкоду для зліцця розных плямёнаў у адзін народ, асіміляцыі апошніх уяўляюць іх мовы. Таму ён рашуча выступаў за сціранне нацыянальных асаблівасцяў і найперш мовы. Для гэтага лічыў неабходным, каб, па-першае, «на цэлай прасторы Расійскай дзяржавы панавала адна толькі мова руская». Такі крок абгрунтоўваўся тым, што з пераходам на адну мову — рускую «ўсе зносіны тым самым надзвычайным чынам аблегчацца; паняцці і спосаб думак зробяцца аднароднеі; людзі, якія зносяцца на адной і той жа мове, найцяснейную сувязь паміж сабой займеюць і аднастайней складаць будуць адзін і той жа народ»[4].

Каб Расія не нагадвала сабой поліэтнічнай краіны, П.Песцель прапаноўваў знішчыць нават імёны яе народаў і плямёнаў. Ён верыў у рэальнасць ажыццяўлення такіх планаў і схіляў да гэтага сваіх аднадумцаў, пішучы: «Вопыты ўсіх стагоддзяў і ўсіх дзяржаў даказалі, што народы скрозь бываюць такімі, якімі іх робяць праўленні і законы, пад якімі яны жывуць»[5]. Праўленні і законы, што прапаноўваліся П.Песцелем, і каменя на камені не пакінулі б ад этнакультурных адметнасцяў шматлікіх плямёнаў Расіі. Няцяжка ўявіць, які прыгнечаны настрой агортвае сёння малдаван ад чытання тых радкоў з «Русской Правды» П.Песцеля, што прысвечаныя вызначэнню лёсу Бесарабіі і Малдовы ў складзе адзінай Расійскай імперыі. «Усе сродкі павінны быць прыняты, каб даць магчымасць дзвюм абласцям зусім абрусець і зрабіцца аднароднымі часткамі аднаго і таго ж цэлага, гэта значыць дзяржавы Расійскай»[6]. Цывілізаванаму чалавеку не проста зразумець такую сквапнасць на інтарэсы чужых народаў, жаданне сцерці іх з этнічнай карты зямлі, за што так выступаў П.Песцель.

Зусім не па-братэрску, не па-славянску ставіўся гэты адзін з самых папулярных прадстаўнікоў дзекабрысцкага руху да ўкраінцаў і беларусаў. Гісторыя, культурна-моўная спадчына, быт іх былі вельмі добра вядомымі П.Песцелю. Але дзеля правядзення ў жыццё сваіх шавіністычных планаў ён свядома не прызнаваў сапраўдных адметнасцяў паміж складовымі часткамі ўсходнеславянскай супольнасці народаў — велікаросамі, маларосамі і беларусамі і лічыў, што малыя адрозненні паміж імі «павінны быць зліты ў адну агульную форму. А таму і пастанаўляецца правілам, каб усіх жыхароў, якія насяляюць губерні Віцебскую, Магілёўскую [жыхароў іншых губерняў Беларусі ён адносіў да рускага народа. — *Л.Л.*], Чарнігаўскую, Палтаўскую, Курскую, Харкаўскую, Кіеўскую, Падольскую і Валынскую за сапраўдных расіян лічыць і ад гэтых апошніх ніякімі асобнымі назвамі не аддзяляць»[7], г.зн. называць тым жа найменнем, што і жыхароў вялікарускіх губерняў.

З мэтай прыцягнення на свой бок як мага большай колькасці прыхільнікаў П.Песцель усяляк імкнуўся даказаць, што абрусенне ўсіх іншародных плямёнаў будзе садзейнічаць «узвядзенню Расіі на вышэйшую ступень працвітання, велічы і магутнасці»[8].

Па-сур'ёзнаму здзіўляе, што П.Песцель выступаў за асіміляцыю нярускіх народаў Расіі, адначасова прызнаючы, як гэта скалечыць іх жыццё і балюча адаб'ецца на настроі. І тут ён ніколькі не памыляўся, бо, і сапраўды, мець уласную дзяржаву, належныя ўмовы для развіцця сваёй культуры — гэта жаданне ўсіх без выключэння народаў. З такім законным жаданнем чалавецтву давялося сутыкнуцца яшчэ на самых ранніх этапах яго гісторыі. Не маглі не ўлічваць яго і дзекабрысты, складаючы праекты дзяржаўнага механізму будучай Расіі. У «Русской правде» П.Песцеля запісана: «Народы, якія падуладныя вялікай дзяржаве і паходзяць не ад пануючага ў ёй, але ад іншых плямёнаў, жадаюць заўсёды для сябе незалежнасці і паасобнага палітычнага існавання, грунтуючыся на праве складаць паасобныя дзяржавы і называючы яго правам народнасці»[9]. Здавалася б зусім лагічным гэты разумны пастулат распаўсюдзіць і на нярускія народы царскай Расіі. Але аўтар «Русской правды» да іх лёсу ставіўся з прынцыпова іншых пазіцый.

Царызм жорстка расправіўся з дзекабрыстамі. У ліку пяці з іх, што былі павешаны, апынуўся і П.Песцель. Але дзекабрысцкія ідэі па частцы рускага нацыяналізму не толькі не былі забытымі, а, наадварот, атрымалі далейшае развіццё і распаўсюджанне, сталі магістральным напрамкам у правядзенні нацыянальнай палітыкі. Над узбагачэннем тэарэтычных палажэнняў гэтай ідэі папрацавала не адно пакаленне рускіх вучоных. Праўда, сустракаліся грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы, вучоныя, погляды якіх прынцыпова адрозніваліся ад таго, што гаварылася вышэй.

Інакш, да прыкладу, глядзеў на мінулае і сучаснае, культуру Беларусі вядомы заснавальнік і тэарэтык анархізму, рускі публіцыст Міхаіл Бакунін. У адным з лістоў у герцэнаўскую газету «Колокол» ён пісаў: «Я патрабую толькі аднаго, каб усякаму народу, Літве, Курляндыі, Ліфляндыі, Беларусі са Смаленскам, Украіне з Кіевам былі цалкам дадзены магчымасць і права дзейнічаць па волі, хоча ён зліцца з Расіяй або Польшчаю — няхай зліваецца; хоча ён быць самастойным членам польскай або рускай ці агульнаславянскай федэрацыі — няхай будзе ім».

Ад таго часу, як Расія, Прусія і Аўстрыя падзялілі Рэч Паспалітую, а яшчэ больш пасля таго, як у адпаведнасці з рашэннямі Венскага міжнароднага кангрэса 1814—1815 гг. у склад Расійскай імперыі перайшла ўсходняя частка Варшаўскага герцагства, рэзкія перамены адбыліся ў польскім нацыяналізме. У перыяд існавання Рэчы Паспалітай ён меў увесь набор рысаў наступальнага характару і ледзь не прывёў да этнічнай смерці беларускую народнасць. Цяпер яму давялося заняць абарончыя рубяжы, ратуючы свой этнас ад русіфікацыі. І трэба сказаць, што рабілася гэта на вельмі высокім узроўні, чаму можна па-здароваму пазайздросціць сучасным беларусам. Са зброяй у руках палякі паспрабавалі абараніць свае нацыянальныя інтарэсы толькі двойчы: у час паўстанняў 1830—1831 і 1863—1864 гг. Увесь жа астатні час дзевяты вал русі-

фікацыі яны стрымлівалі з дапамогай адпаведнай сістэмы царкоўна-рэлігійнай дзейнасці, арганізацыі грамадскага і сямейнага ўзгадавання маладых пакаленняў. Бачачы, з якім гераізмам вядзе змаганне з русіфікацыяй прагрэсіўная частка польскага народа, да яе часам імкнуліся далучыцца і асобы беларускага паходжання. Паказальнай тут можа падацца пазіцыя ўраджэнца Віцебшчыны, беларуска-польскага паэта і фальклрыста, аўтара выдадзенай у 1840 г. у Парыжы кнігі «Беларусь...» Аляксандра Рыпінскага. У звароце да жанчын-маці ён рэкамендаваў ім лічыць сваім найпершым абавязкам навучыць дзіця вымаўляць святое імя Польшчы, калі яно яшчэ не гаворыць «мама», не даваць дзіцяці патрэбнай ежы «да таго часу, пакуль яно не папросіць па-польску». Зразумела, польскія жанчыны-маці слова ў слова не прытрымліваліся парады А.Рыпінскага, але моўнае выхаванне дзяцей у сям'і будавалі вельмі правільна: у першую чаргу вучылі іх размаўляць, чытаць і пісаць толькі па-польску, а ўжо затым далучалі да іншых моваў.

З усіх духоўных каштоўнасцяў палякі ў час навіслай над імі пагрозы русіфікацыі нічога гэтак не сцераглі, нічога гэтак не стараліся захаваць, як родную мову. Настойліва заклікаў іх да гэтага польскі пісьменнік і гісторык Юльян Нямцэвіч (1758—1841), слушна заяўляючы: «Мова — аснова нацыі, ці больш дакладна — уяўляе сабой адрозненне нацыі ад нацыі. Калі толькі сціраецца родная мова — гіне імя Бацькаўшчыны... Ніводзін народ не мае большай патрэбы стаяць на варце супраць гэтай пагрозы, як мы, палякі». І яны стаялі, прычым так, што не ўпускалі ніводнага выпадку, каб на ўсходзе пашырыць свой культурна-моўны ўплыў усё на тых жа самых да канца незасіміляваных беларусаў.

Аднак пры ўсім старанні адвесці ад сябе магутныя хвалі русіфікацыі этнакультурныя страты зведалі і палякі. І гэта зусім натуральна, бо яшчэ аніводнаму народу не ўдалося выратавацца ад асіміляцыі тытульнай нацыі, жывучы разам з ёю ў поліэтнічнай краіне. Палякаў можна пахваліць толькі за тое, што ў іх такія страты ў перыяд знаходжання ў складзе Расіі былі непараўнальна меншыя, чым у ўкраінцаў і беларусаў, што тлумачылася шэрагам важкіх прычын і аб'ектыўнага і суб'ектыўнага характару, але толькі не слабінкай з боку царскай улады, асабліва ў канцы XIX — пачатку XX ст. Самы артадаксальны выразнік яе нацыянальнай палітыкі, прафесар П.Кавалеўскі так пісаў: «Палякі, як і ўсе іншародцы ў Расіі, тады толькі могуць разлічваць на раўнапраўнасць у Расіі, калі яны на справе дакажуць, што яны перш за ўсё рускія, а затым палякі, армяне і інш.»[10].

### 3. Падтрыманы інтэлігенцыяй

Складанасць арганізацыі жыцця народаў шматнацыянальнай Расіі прыцягвала да сябе ўвагу палітыкаў і вучоных самых розных поглядаў. І як вынік, па дадзенай праблеме з'явілася безліч публікацый. І што характэрна, чым больш рашуча нярускія народы змагаліся за свае нацыянальныя інтарэсы, тым больш напорыста аўтары гэтых публікацый аба-

ранялі і апраўдвалі шавіністычны характар царскай палітыкі. Рускі нацыяналізм узводзіўся ў самы высокі ранг дзяржаўнага жыцця, не падлягаў аніякай крытыцы ў афіцыйным друку. Сярод строга вытрыманай у такім духу дарэвалюцыйнай літаратуры заслугоўваюць быць названымі наступныя працы: Соловьев В.С. «Национальный вопрос в России»; Локоть Т. «Оправдание национализма»; яго ж — «История России с национальной точки зрения»; Ковалевский П. И. «Национализм и национальное воспитание в России в двух частях»; «Национализм и религия Достоевского (Доклад, прочитанный в заседании «Союза возрождения России»)»; «Националисты в 3-ей Государственной Думе». Да многага з таго, што сказана вышэйзгаданымі аўтарамі і іх шматлікімі аднадумцамі па дадзеным пытанні, не можам не прыслухацца, хаця з вялікім спазненнем, і мы, беларусы. Цалкам адхіляючы пашыраны сярод іншародцаў выраз: «Рускія нацыяналісты-людаеды», дарэвалюцыйны рускі прафесар П.Кавалеўскі так адказваў ім: «Рускія нацыяналісты — людзі, якія ў сапраўднасці ўсёй душой любяць сваю радзіму і сваю нацыю, паважаюць яе мінулае і жадаюць ёй славы, магутнасці і велічы ў будучым. Такімі рускія былі, ёсць і будуць на векі вякоў». Карані рускага нацыяналізму гэты вучоны шукаў у самых адметных падзеях і фактах айчыннай гісторыі, у біяграфіях яе самых слаўных сыноў і дачок. На яго думку «першая яўная і рэзкая праява нацыяналізму сустракаецца ў асобе імператара Пятра І... Другім вялікім нацыяналістам рускай зямлі з'яўляецца дастойны вучань Пятра, народны геній — Ламаносаў». Як бачым, да ліку піянераў рускага нацыяналізму П.Кавалеўскі аднёс самых паважаных у Расіі людзей.

Рускія палітыкі і вучоныя не лічылі, што пачуццё нацыяналізму ўзнікае, умацоўваецца ў народзе стыхійна, спантанна. Наадварот, нацыяналізм, на іх думку, нараджаецца, пераўтвараецца ў магутную сілу грамадства толькі шляхам правядзення адпаведнай работы, асабліва з маладымі пакаленнямі, у чым рускія навучальныя ўстановы, праваслаўная царква мелі вельмі багаты вопыт. У яго абагульненне і ўзбагачэнне ўнеслі немалы ўклад вядомыя аўтарытэты ў навуцы і педагогіцы. Сярод іх можна назваць і вучонага-хіміка, стваральніка перыядычнай сістэмы элементаў Дзмітрыя Мендзялеева (1834—1907), якому належыць такая слушная думка: «Школа ўяўляе велізарную сілу, якая вызначае быт і лёс народаў і дзяржаў». Гэтую думку сусветна вядомага вучонага-хіміка цалкам падтрымліваў прафесар П.Кавалеўскі і з мэтай надання ёй практычнага характару даводзіў усім тым, чыя дзейнасць была звязана з асветай, што «выхаванне і адукацыя дзяцей грамадзян рускай народнасці павінна праводзіцца ў духу рускай народнасці і быць чыста рускім нацыянальным». Калі б на гэтую справу зусім інакш глядзелі свецкія і духоўныя ўлады царскай Расіі, нізашто не з'явілася б у друку праца П.Кавалеўскага «Национализм и национальное воспитание в России в двух частях». Яе аўтар не збаяўся заявіць і такое: «Лепш невуцтва, сагрэтае любоўю да

радзімы, чым адукацыя, звязаная з пагардай і непавагай да нацыі». Разумеецца, да нацыі сваёй. Каб яшчэ лепш пераканаць дзяржаўных дзеячаў, педагагічную інтэлігенцыю ў неабходнасці і мэтазгоднасці строга прытрымліваціца патрабаванняў нацыянальнай сістэмы адукацыі, сваю кнігу ён заканчвае такімі словамі: «Вялікая задача нашых педагогаў настойліва культываваць у рускіх дзецях іх рускія нацыянальныя рысы і ліквідоўваць усё, што будзе іх цягнуць на глебу касмапалітызму».

На «выдатна» разумеў ролю нацыянальных пачаткаў у дзейнасці навучальных устаноў папячыцель Віленскай вучэбнай акругі І.Карнілаў. Да выканання гэтых функцый ён прыступіў у час, калі на Беларусі вялася жорстская расправа з удзельнікамі паўстання на чале з Кастусём Каліноўскім, выкаранялася з усіх сфер грамадскага жыцця польская мова і на яе месцы ўводзілася руская, польская сістэма адукацыі замянялася рускай. І.Карнілаў меў цвёрдае перакананне, што «школа павінна служыць свайму народу і дзяржаве і таму павінна быць нацыянальнаю і патрыятычнаю», што «для ўздыму ў Расіі навучальна-выхаваўчай справы неабходна, каб персанал — што выхоўвае і навучае, — складаўся з надзейных рускіх праваслаўных людзей». Няцяжка зразумець, якую каласальную працу па разбурэнню нацыянальнай самасвядомасці беларускіх дзяцей ажыццявіў І.Карнілаў, кіруючы ў нашым краі дзейнасцю навучальна-выхабаўчых устаноў. Не адбылося якіх-небудзь пазітыўных пераmен у поглядах на дадзеную праблему і ў пераемнікаў І.Карнілава. «Малодшаму брату» рускага народа — беларусам царызм дазволіў адкрываць пачатковыя школы на іх роднай мове толькі ў 1914 г., г.зн. у год, калі грымнула Першая сусветная вайна. І тут нам, як на злосць, не пашанцавала.

Зусім не шкодзіла б сучасным беларускім палітыкам і блізкім да іх ідэолагам азнаёміцца з тым, як расійскія нацыяналісты разумелі ролю самой дзяржавы ва ўсталяванні нацыяналізму ў грамадстве. Пачнем з рускага эканаміста і філосафа Пятра Струве, які ў такой гранічна сціслай форме выказаўся па дадзеным пытанні: «Дзяржаўная магутнасць немагчыма па-за ажыццяўленнем нацыянальнай ідэі... Дзяржава і нацыя павінны арганічна зліцца». Яшчэ далей у гэтым пытанні ішоў яго сучаснік прафесар Т.Локаць, аўтар кнігі «Оправдание национализма». Ён катэгарычна заяўляў, што ў Расіі «дзяржаўная ўлада павінна быць нацыянальнай рускай!..», што ўсяляк трэба ахоўваць «палітычныя інтарэсы карэннай нацыянальнасці, пакуль карэнная нацыянальнасць не згуртуецца палітычна...» Не збіраўся адставаць ад іх П.Кавалеўскі, заяўляючы: «Усялякая дзяржава, жывая і дзеючая, павінна быць поўнай нацыяналізмам. Гэта яе душа. Гэта яе сутнасць. Гэта яе жыццё. Касмапалітычная дзяржава аморфная, бясформенная маса».

Не сакрэт, што вельмі многім беларусам характэрна адсутнасць такога высакароднага пачуцця, як нацыянальна-дзяржаўная свядомасць. Прычым гэтая хвароба ўласціва нават высокім прадстаўнікам самой

дзяржаўнай улады, элітарнай інтэлігенцыі. Іх практычна зусім не хвалюе, што палітычная інтэграцыя з Расіяй у канчатковым выніку прывядзе да ўзмацнення дзяржаўнага суверэнітэту апошняй за кошт аслаблення такога суверэнітэту Рэспублікі Беларусь. Яе палітыкам варта было б пазнаёміцца з тым, як на ролю дзяржавы некалі глядзелі рускія нацыяналісты, будучы моцна занепакоенымі тым, як бы яна не аслабела ў барацьбе нярускіх народаў за сваё нацыянальна-культурнае адраджэнне. Першым аб'яднальным элементам рускага народа яны лічылі самадзяржаўе, другім — праваслаўе. Каб не аслабіць ролі дзяржаўнага фактару ў лёсе рускага народа, прафесар П.Кавалеўскі папярэджваў усіх і кожнага такімі палымянымі выказваннямі: «...з заняпадам самадзяржаўя занепадала і Расія», «Усялякае парушэнне самадзяржаўя зараз жа мае вынікам за сабой падрыў дабрабыту нацыі і моцы дзяржавы», «...рускі народ не можа дзяржаўна існаваць без самадзяржаўя». Будучы зацікаўленым у яго магутнасці, П.Кавалеўскі прапаноўвае наступнае: «...усе вышэйшыя дзяржаўныя ўстановы і ўсе месцы начальнікаў устаноў павінны быць заняты людзьмі рускімі, шчыра прасякнутымі духам нацыяналізму».

Па розных прычынах далёка не ўсім ідэолагам рускага нацыяналізму ўдалося ўтрымацца на правільных пазіцыях. З-за празмернага жадання выслужыцца перад царызмам ці паводле ўласных перакананняў некаторыя вучоныя і палітыкі ў гэтым пытанні з цягам часу адкрыта сталі на пазіцыі рускага вялікадзяржаўнага шавінізму. У іх ліку апынуўся і П.Кавалеўскі, пішучы: «Кожны, хто добраахвотна перасяліўся ў Расію з мэтай карыстання яе выгодамі, хто б ён ні быў, павінен пакінуць сваю колішнюю нацыянальнасць за мяжою Расіі, у Расіі ён павінен стаць рускім, — у працілеглым выпадку яму няма месца ў Расіі»; што да апошняй «могуць быць зроблены прырашчэнні [тэрытарыяльныя. — *Л.Л.*] — але памяншэнне недапушчальна і немажліва», што «народнасці з ніжэйшай культурай павінны зліцца з рускімі». Бясконца парадаваў П.Кавалеўскі рускіх вялікадзяржаўнікаў і такою фразаю: «...хто жадае ў Расіі стаць роўным рускаму, той павінен стаць духам — рускім».

Перад тымі, хто адкрыта называў сябе рускімі нацыяналістамі, не была зачынена нават зала пасяджэнняў Трэцяй Дзяржаўнай Думы, дзе яны мелі сваю фракцыю. Пасля таго, як апошняя ў кастрычніку 1909 г. злілася з умерана-правымі і атрымала афіцыйную назву «Рускія нацыяналісты», у ёй налічвалася каля ста чалавек. Яе галоўны лозунг — «Расія для рускіх». Думская фракцыя «Рускія нацыяналісты» актыўна супрацоўнічала з заснаваным у лютым 1910 г. Усерасійскім нацыянальным клубам. У іх планах побач з іншымі было і патрабаванне русіфікацыі нацыянальных ускраін, якія і да гэтага ўжо паспелі шмат страціць адметнага, спецыфічнага, мелі шмат праблем з захаваннем свайго карэннага насельніцтва як самабытнага этнасу.

На трывалым падмурку нацыяналізму паспяхова вырашалі свае палітычныя, сацыяльна-палітычныя і культурныя патрэбы ўсе буйныя этна-

сы Еўропы. І ў каго такі падмурак быў мацнейшым, той дасягнуў найбольшага набытку для сваёй айчыны. Паводле трапнага і справядлівага выразу цытаванага вышэй прафесара П.Кавалеўскага, «веліч Францыі ішла побач і адпаведна напружана з напружаннем нацыяналізму». Добра разумеючы ролю апошняга, улады еўрапейскіх краін усяляк садзейнічалі ўмацаванню яго пазіцый у грамадстве. Прычым найбольшую ўвагу звярталі на маладыя пакаленні. У той жа Францыі ўжо дзецям 6-7-гадовага ўзросту даводзілі, што французская нацыя — перш за ўсё. У адной з спецыяльна складзеных для настаўнікаў пачатковых школ інструкцый гаварылася, што школьніку «трэба паказаць, што толькі ў нацыі чалавек ажыццяўляе цалкам сваю прыроду, што толькі ў ёй ён робіцца сапраўдным чалавекам, г.зн. маральнай істотай»[11]. Каб узняць на належную вышыню ролю нацыянальнага фактару, урад Францыі ў 1886 г. прыняў закон, у адпаведнасці з якім загадчыкамі і настаўнікамі пачатковых школ маглі прызначацца толькі асобы французскай нацыянальнасці. Нешта падобнае назіралася і ў іншых краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы. У выніку ў іх вельмі інтэнсіўны маштабны характар набылі ўнутрыэтнічныя кансалідацыйныя працэсы, фарміраваліся народы з трывалай нацыянальнай самасвядомасцю.

## 4. Удакладняюцца фармулёўкі

Велізарную ролю і значэнне нацыяналізму ў лёсе буйных па колькасці народаў Еўропы з цягам часу заўважылі і правільна зразумелі яе значна меншыя этнасы. Цяпер па прыкладу першых і яны з большай павагай пачалі ставіцца да ўласных гістарычных традыцый, нацыянальных культурна-моўных каштоўнасцяў. Раней дык гэтаму неяк не надавалі асаблівага значэння іх носьбіты, таму мо буйныя народы так бязлітасна абыходзіліся з тым, што не належала ім. Пісаў жа вядомы рускі пісьменнік і гісторык Мікалай Карамзін: «Хто сам сябе не паважае, таго, без сумнення, і іншыя паважаць не будуць». Словам, у развіцці ідэі нацыяналізму наспявалі вельмі важныя перамены, якім станавілася амаль немагчыма супрацьстаяць. Як і меркавалася некаторымі далёкаабачлівымі вучонымі, у канцы XIX ст. і малыя па колькасці народы па прыкладу шматлікіх з усёй сур'ёзнасцю задумаліся таксама над уладкаваннем свайго нацыянальнага жыцця. Найчасцей за ўсё да гэтай разумнай, крайне патрэбнай думкі прыходзілі тыя з іх, што жылі пад уладай буйной дзяржаўнай нацыі ў поліэтнічнай краіне. Такой у поўнай ступені з'яўлялася і Расійская імперыя. Таму, калі адна частка яе вучоных усяляк распальвала сярод рускага народа нацыяналізм, другая, баючыся распаўсюджвання гэтай з'явы сярод нярускіх народаў, не толькі не ўсхваляла, а, наадварот, усяляк прыніжала яе. Так, нехта Вл.С. (хутчэй за ўсё Уладзімір Салаўёў, пяты том Збору твораў якога быў выдадзены ў Санкт-Пецярбургу ў канцы 90-х гг. і насіў назву «Национальный вопрос в России») у невялікім артыкуле «Нацыяналізм» для «Энциклопедичес-

кого словаря» Ф.Бракгаўза і І.Ефрона (Т. ХХа. СПб., 1897. С. 710) так піша: «Нацыяналізм — пераўтварэнне жывой народнай самасвядомасці ў адцягнены прынцып, які сцвярджае «нацыянальнае» — як безумоўную проціледгласць «універсальнага», і «сваё роднае» — як безумоўную проціледгласць «чужаземнага». Як бачым, нацыяналізму тут ужо не пяюцца дыфірамбы, хаця ніжэй у артыкуле заяўляецца, што калісьці ў англійскай палітычнай тэрміналогіі гэтым паняццем абазначалі імкненне ірландцаў да аўтаноміі. Зразумела, такое імкненне не толькі ірландцаў, але і кожнага іншага народа нельга не назваць прагрэсіўнай з'явай, бо без поўнай, сапраўднай дзяржаўнай аўтаноміі ніводзін з іх не ў стане здзейсніць свае нацыянальныя ідэалы. У канцы ж артыкула Вл.С. выяўляе сваё поўнае непрыняцце нацыяналізму: «Паслядоўнага тэарэтычнага апраўдання Н., як і ўсе адцягненыя пачаткі не дапускае. Практычнае значэнне ён часткова мае як адзнака дурных народных [цэлага народа!? — *Л.Л.*] схільнасцяў, асабліва ў краінах са стракатым шматнародным насельніцтвам. Асновай некаторай папулярнасці, якой яшчэ карыстаецца Н., ёсць памылковае яго змяшэнне з патрыятызмам».

З'яўленне такога зместу дэфініцыі «Нацыяналізм» у дадзеным энцыклапедычным даведніку не магло паўплываць на рост нацыяналізму як сярод пэўных колаў рускага народа, так і карэннага насельніцтва нацыянальных рэгіёнаў Расіі, бо і першыя і другія звязвалі з ім свае пэўныя надзеі, якія практычна нідзе і ні ў чым не супадалі паміж сабой.

Станоўчай адзнакі нацыяналізм не атрымаў у 13 томе «Большой Энциклопедии» (СПб., 1903. С. 713—714), якую выдавалі Бібліяграфічны інтстытут (Меер) у Лейпцыгу і Вене і Кнігавыдавецкае таварыства «Просвещение» ў Санкт-Пецярбургу. Аўтар артыкула не называецца. У ім нацыяналізм характарызуецца як «гістарычная з'ява, якая ўзнікла ў якасці значнага фактару сусветнай гісторыі не раней, як у XIX ст. Сутнасць гэтай з'явы заключаецца ў такім пераразвіцці нацыянальнага пачуцця, пры якім людзі, цэлыя групы людзей, часта вельмі шматлікія, пачынаюць пераацэньваць сваю нацыянальнасць, часам і сваю нацыю, і лічаць таму зусім справядлівым усялякія для яе перавагі ў параўнанні з іншымі нацыянальнасцямі і іншымі нацыямі, параўнальна з усім чалавецтвам. Падпарадкаванне іншых народаў ці, прынамсі, іх інтарэсаў і самастойнасці, а калі магчыма, дык і паглынанне іншых народаў, іх асіміляцыя ставіцца мэтай такіх нацыяналістычных праграм. Адны нічога не шкадуюць для германізацыі, другія ўжываюць самыя грубыя метады мадзьярызацыі, трэція вядуць тонкую самаадданую барацьбу для паланізацыі, чацвёртыя прапаведуюць абрусенне і г.д.». Мяккасць характарыстыкі апошняга віду нацыяналізму можна тлумачыць тым, што «Большая Энциклопедия» ўсё ж выдавалася ў Расіі і, відавочна, аўтар артыкула быў яе падданым. Ён не падзяляе, што народы, якім пагражае асіміляцыя, усяляк супраціўляюцца, вядуць барацьбу з апошняй, бо гэта стано-

віцца прычынай варожасці і нянавісці «там, дзе яшчэ нядаўна пра гэта нельга было і думаць».

Пэўная крытыка нацыяналізму ў друку Расіі зусім не азначала, што ад гэтага курсу збіраюцца адступіць яе палітыкі ці па-нацыяналісцку настроеныя колы інтэлігенцыі. У шэрагу выпадкаў рускі нацыяналізм набыў нават яшчэ больш агрэсіўны характар. Не сталі тут выключэннем і прэтэнзіі на Беларусь, якую ніяк не жадалі ў цэнтры прыняць за пэўны нацыянальны рэгіён Расійскай імперыі. Асабліва жорсткую лінію ў гэтым пытанні займалі рускамоўныя газеты, якіх тады нямала выходзіла ў нас. Так, «чарнасоценцы» з «Минского слова» сцвярджалі, што рускія ў Заходнім краі [яго асноўную частку складала беларуская этнічная тэрыторыя. — *Л.Л.*] павінны быць «толькі нацыяналістамі», што іншародцы, якія не хочуць знаходзіцца ў складзе самадзяржаўнай дзяржавы, павінны лічыцца «нашымі ворагамі, адкрытымі і смяротнымі»[12].

Не збіраўся ў пачатку другога дзесяцігоддзя XX ст. ставіць крыж на нацыяналізме рускі дзяржаўны дзеяч граф Сяргей Вітэ, пішучы: «Мне ўяўляецца, што ёсць нацыяналізм здаровы, перакананы, моцны, а таму не пужлівы, які імкнецца да аховы плёну гістарычнага жыцця дзяржавы, здабытага крывёю і потам народа і які дасягае гэтай мэты; і ёсць нацыяналізм хваравіты, эгаістычны, які імкнецца, відавочна, да той жа мэты, але як такі, што падпарадкоўваецца больш моцным пачуццям, чым розуму, што нярэдка прыводзіць да вынікаў супрацьлеглых. Першы нацыяналізм ёсць найвышэйшая праява любові і адданасці да дзяржавы, якая складае айчыну дадзенага народа, — другі складае таксама праяву тых жа пачуццяў, але апанаваных помстай, азартам, а таму такі нацыяналізм іншым разам выяўляецца ў формах дзікіх для XX стагоддзя.

(...) Я думаю, што першы тып [нацыяналізму. — *Л.Л.*] больш пажаданы для шчасця нашай айчыны»[13].

### 5. Прасвятленне беларусаў і яго сумныя вынікі

Нарэшце схамянулася і вельмі ўжо асцярожна, з аглядкай па баках, пацягнулася да прагрэсіўнага, разумнага ва ўсіх адносінах нацыяналізму і беларуская інтэлігенцыя. Прычын запозненага выхаду на гістарычную арэну ў яе было больш чым дастаткова. Але галоўнае, што ўсё ж яна прыйшла ў рух. У адрозненне ад рускага, у аснове сваёй наступальнага, нацыяналізму, у беларусаў ён пасля жорсткага задушэння паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага заставаўся пакорлівым, ціхмяным.

Гэткім жа архіабарончаым, скіраваным выключна ўнутр беларускі нацыяналізм заставаўся і на пачатку XX ст. У духу такога нацыяналізму пісалі і дзейнічалі многія нашыя адраджэнцы, заклікаючы людзей шанаваць свае духоўныя традыцыі і не квапіцца на чужыя. Вельмі добра прасочваецца гэта ў поглядах нашага таленавітага не па гадах крытыка і публіцыста Мечыслава Бабровіча (1891—1915; літ. псеўданім Лявон Гмырак). Не бачачы якойсьці рэальнай магчымасці для фізічнага супра-

ціўлення палітыцы асіміляцыі, ён лічыў, што з гэтай навалай можна ваяваць толькі чыста асветніцкім шляхам, праз усведамленне народам сваёй культурнай адметнасці ад іншых. Дзеля разумення такога ён даводзіў сваім людзям: «Калісь то ўсюды ў нас панавала беларуская мова, у ёй Богу маліліся, у ёй законы пісаліся, суды вяліся, найвялікшыя паны ёй гаварылі, — пасля наша гісторыя так злажылася, што ўсё гэта знікла, і цяпер наша мова не мае ніякіх правоў, цяпер саўсем хочуць нас адны абрусіць, другія — апалячыць, так, каб і са свету чыстая, родная наша мова звялася, людзі перасталі ёю гаварыць, і імя беларускае замёрла». Каб такая бяда не дайшла да свайго лагічнага канца, Лявон Гмырак маліў народ шанаваць усё дарагое і каштоўнае з духоўнай спадчыны, што засталося ад папярэдніх пакаленняў.

Заканамерная цяга этнічна-самасвядомых беларусаў да сваёй нацыянальнай культуры і мовы не выклікала аніякага спачування з боку рускіх дзяржаўных дзеячаў і значнай часткі той інтэлігенцыі, што так непахісна стаяла на пазіцыях свайго рускага нацыяналізму. Таксама і іншыя народы Еўропы, што давяршылі працэс складвання ў дзяржаўныя нацыі, не вызначаліся якой-небудзь павагай да тых, каго гісторыя пазбавіла такой магчымасці. Пасля таго як вялікія (па колькасці жыхароў) этнасы з дапамогай нацыяналізму ў асноўным, а хтосьці і поўнасцю, здзейснілі свае жыццёвыя ідэалы, яны (этнасы), нібы дамовіўшыся паміж сабой, сталі чыніць усялякія перашкоды распаўсюджванню таго ж самага нацыяналізму сярод сярэдніх і малых народаў. Бо існаваў страх, што рана ці позна яны прыйдуць да ўсведамлення прычын свайго прыгнечанага становішча, адшукаюць віноўніка і пачнуць з ім барацьбу за сваё вызваленне. Каб не здарылася такога, буйныя, дзяржаўныя нацыі зусім аб'ектыўнае імкненне народаў да нацыянальна-культурнага адраджэння незразумелым чынам назвалі нацыяналізмам, надаўшы яму зусім іншы сэнс у параўнанні з тым нацыяналізмам, які вывеў іх саміх у людзі. Узаемаадносіны народаў вельмі нагадвалі тое, пра што пісаў рускі байкапісец Іван Крылоў: «Что сходит с рук ворам, за то воришек бьют».

Паколькі ў большасці недзяржаўных, нятытульных народаў, што распачалі змаганне за сваё выжыванне, рэй у апошнім вяла буржуазія, іх нацыяналізм называлі буржуазным. Для народаў капіталістычных краін такое абвінавачванне не несла ў сабе аніякай пагрозы, а вось у Расіі, дзе адбылася «сацыялістычная» рэвалюцыя, яно кваліфікавалася як самае небяспечнае злачынства. Цалкам пацвярджаецца гэта і на прыкладзе гісторыі нашай краіны.

Абвінавачванню найлепшых сыноў і дачок беларускага народа ў нацыяналізме намнога менш гадоў, чам самому беларускаму нацыянальнаму руху. Пачаўся ён, як вядома, задоўга да Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. А бірка ж «беларускі нацыяналіст» з'явілася ўсяго толькі за некалькі гадоў да тых рэвалюцыйных падзей, і больш яна ніколі не знікала з ужытку бальшавіцкіх ідэолагаў і адданай ім інтэлігенцыі да самай леп-

шай часткі нашага грамадства. Асабліва модным было навешваць гэтую бірку на актыўных дзеячаў Беларускай Народнай Рэспублікі і яе шчырых прыхільнікаў. У такой сітуцыі ім даводзілася як толькі можна бараніцца, тлумачыць народу, што без трывалага пачуцця здаровага нацыяналізму немагчыма выжыць у той трывожны час, калі вялікія краіны Еўропы займаліся пераглядам дзяржаўных межаў, усяляк імкнуліся далучыць да сябе як мага больш тэрыторый. Бадай ні на адну з еўрапейскіх краін з такой прагай не глядзелі дзяржавы-гіганты (і не толькі), як на Беларусь. Таму не весці сярод яе народа нацыянальнай працы было б вялікім злачынствам. Пахвальна, што гэта добра ведалі многія нашыя дзяржаўныя, грамадска-палітычныя і культурныя дзеячы.

Пытанні нацыяналізму рэгулярна падымаў на сваіх старонках і нацыянальна-адраджэнскі друк Беларусі, у прыватнасці газета «Беларускі шлях». Нехта Я-р у артыкуле «Сучасная вайна і адраджэнне пад'ярэмных народаў у Расіі» прызнаваў, што ў нярускіх нацыях імперыі «нацыяналізм быў не шавіністычна-чарнасоценны, але ідэёвы, дзе выяўленне індывідуальнасьці і асобнасьці кожнай нацыі лічылася адным з найпатрэбнейшых здабыткаў агульнага чалавецтва, які не толькі не шкодзіць, але — наадварот — памагае сацыяльным ідэям усяго свету.

Гэта самая чыстая нацыянальная ідэя...»

Аднак у яе заўсёды было вельмі багата апанентаў, асабліва з боку прыхільнікаў бальшавізму, якія сталі паўнаўладнымі гаспадарамі на Беларусі пасля заканчэння Першай сусветнай і Грамадзянскай войнаў. Як і ў папярэднія гады, і з пераходам да мірнага жыцця тэрмін «беларускі нацыяналіст» найчасцей прышывалі людзям самавітым, з высокім становішчам у дзяржаўным, грамадска-палітычным жыцці. Ужо ў першы год існавання Інстытута беларускай культуры (1922), ролю якога ніяк нельга перабольшыць у справе нацыянальнага Адраджэння, адпаведныя органы і на многіх работнікаў гэтай навуковай установы не глядзелі інакш як на нацыяналістаў. Спашлюся на вытрымку з дакумента, які ўдалося адшукаць і азнаёміць з ім чытачоў гісторыку Таццяне Працька. Дакумент складзены 10 лістапада 1922 г. (г.зн. да ўтварэння СССР) у Дзяржаўным палітычным упраўленні (ДПУ) БССР і адасланы ў Маскву. Вось яго змест: «Дзейнасць контррэвалюцыйных груп канцэнтруецца вакол Інстытута беларускай культуры, дзе маюцца прадстаўнікі беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі, якія працуюць над адраджэннем беларускай культуры, сярод іх галоўную ролю адыгрываюць дзеячы беларускіх нацыянальных сацыялістычных партый, іх праца канцэнтруецца на моладзі і зводзіцца да выхавання самасвядомасці і прапаганды дзяржаўнай незалежнасці Беларусі ў яе этнаграфічных межах і палітычнай самастойнасці. Апорнымі пунктамі з'яўляюцца вышэйшыя навуковыя ўстановы, Педтэхнікум, Беларускія курсы і школы, дзе члены Інбелкульта займаюць кафедры і састаяць выкладчыкамі. Асабліва яры прапагандыст [паводле Т.Працькі — гэта Язэп Лёсік. — *Л.Л.*] намячаецца

да высылкі». Як вынік, супрацоўнікаў Інбелкульта абвінавацілі за вялікую прыхільнасць да нацыянальнай ідэі. У хуткім часе такім дзеячам дадуць палітычную клічку — беларускія «нацыянал-дэмакраты» («нацдэмы»). З працытаванага дакумента напрошваецца вывад, што Беларусь і да ўтварэння СССР не з'яўлялася тыпова суверэннай дзяржавай, бо такі яе самы сур'ёзны рэпрэсіўны орган, як ДПУ, піша даносы (іншага слова тут нельга адшукаць) на самую элітарную частку беларускай нацыі ў сталіцу суседняй дзяржавы Маскву, г.зн. займаецца звычайнай шпіёнскай дзейнасцю.

У сілу розных абставін весці сур'ёзную барацьбу з прыхільнікамі беларускай нацыянальнай ідэі асабліва не выпадала ў той час. Партыя бальшавікоў не магла адкрыта і рэзка стаць у апазіцыю да нацыянальнага руху ўсіх нярускіх народаў, спадзеючыся з дапамогай дадзенага магутнага фактару прыйсці да ўлады. Шмат прагрэсіўнага для ладавання нацыянальнага жыцця ва ўмовах функцыяніравання савецкіх рэспублік утрымлівалася ў рашэннях X (сакавік 1921) і XII (красавік 1923) з'ездаў Расійскай камуністычнай партыі (бальшавікоў). На першым з іх прынялі рэзалюцыю «Аб чарговых задачах партыі ў нацыянальным пытанні», на другім — «Па нацыянальным пытанні». Прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння нярускіх народаў не магло не радаваць, што партыя лічыла галоўнай небяспекай велікарускі шавінізм, а не мясцовы нацыяналізм, выпрацавала курс на хутчэйшае пераадоленне фактычнай няроўнасці савецкіх нацый і народнасцяў. Хаця гэтыя з'езды праводзіліся Расійскай камуністычнай партыяй (бальшавікоў), іх рашэнні былі абавязковымі і для ўсіх такіх партый савецкіх рэспублік. У пытаннях іх партыйнага жыцця зусім не дзейнічаў прынцып нацыянальнага суверэнітэту, было ўведзена жорсткае падпарадкаванне рэгіянальных камуністычных партый (бальшавікоў) партыйнаму цэнтру ў Маскве.

Бальшавіцкая партыя ніколі не звязвала сябе з прынятымі ёю рашэннямі і вельмі часта парушала іх, калі гэта выклікалася яе інтарэсамі. Невыпадкова ў тым жа 1928 г. з вуснаў І.Сталіна можна было пачуць і такое, што зусім не стасавалася з рашэннямі X і XII з'ездаў партыі бальшавікоў. Выступаючы ў 1923 г. на нарадзе нацыянальных работнікаў пры ЦК УКП(б), ён заявіў: «Трэба помніць, што нашы камуністычныя арганізацыі ў нацрэспубліках і абласцях могуць развівацца і стаць на ногі, зрабіцца сапраўднымі марксісцкімі кадрамі толькі ў тым выпадку, калі яны пераадольваюць нацыяналізм. Нацыяналізм — асноўная ідэйная перашкода на шляху вырошчвання марксісцкіх кадраў, марксісцкага авангарда».

Такая ацэнка мясцовага нацыяналізму партыйным лідэрам развязвала рукі для барацьбы з актыўнымі дзеячамі нацыянальна-культурнага адраджэння ў саюзных рэспубліках. Вось чаму яна практычна ніколі не затухала і ў паслярэвалюцыйнай Беларусі, мяняючы толькі свае накірункі, характар і жорсткасць.

Да пачатку адкрытай і масавай барацьбы з «нацдэмаўшчынай» гэты небяспечны тэрмін вельмі любілі ўжываць у самых высокіх колах партыйных органаў рэспублікі. Так, калі 3 снежня 1926 года Бюро ЦК КП(б)Б вынесла рашэнне аб зняцці з рэпертуру Беларускага тэатра вядомай п'есы Я.Купалы «Тутэйшыя», дык гэта тлумачылася наяўнасцю ў апошняй элементаў «нацыянал-дэмакратызму».

Усе, хто ўважліва сачыў за друкам, зразумела ж, бачыў, як з году ў год пашыралася ўжыванне ў ім тэрмінаў «нацдэмакратызм», «нацыянал-дэмакраты», «нацдэмы», «нацыянальныя дэмакраты». Паступова гэтыя словы ўступілі ў сур'ёзнае сапернiцтва з надзвычай папулярным тады тэрмінам «беларусізацыя». На першым часе зусім нялёгка было прадбачыць, які з іх стане больш распаўсюджаным. Для пашырэння тэрміна «нацдэмакратызм» асабліва добра пастараліся ідэалагічныя службы бальшавіцкай партыі рэспублікі. Розныя варыяцыі «нацдэмакратызму» свядома трапілі і ў выдадзеную ў 1928 г. кнігу першага сакратара ЦК КП(б)Б Вільгельма Кнорына «За культурную рэвалюцыю». У ёй шмат правільных палажэнняў, слушных думак, цікавых фактаў, і, галоўнае, — адсутнічаюць заклікі да жорсткай расправы з «нацдэмамі», як гэта стане модным пазней. Першая партыйная асоба ў рэспубліцы прапануе абмяжоўвацца пакуль што «толькі бязлітаснай крытыкай рэштак буржуазнага нацыянал-дэмакратызму». Голас партыйнага лідэра не стаў марным лямантам прапаведніка ў пустыні. Ахвотнікаў бязлітасна крытыкаваць беларускіх «нацыянал-дэмакратаў» тут жа знайшлося нямала. І хто толькі дзеля гэтага не браўся за пяро! Але ў першую чаргу рэдакцыі газет і часопісаў, выдавецтвы выкарыстоўвалі матэрыялы, атрыманыя ад высокапастаўленых партыйных і савецкіх работнікаў, спадзеючыся, што да іх публікацый будзе больш даверу ў чытача. І ўсё ж пэўная надзея, што, можа, ужо ў самым зародку ўдасца спыніць барацьбу з «нацдэмаўшчынай», існавала. Падаў яе сам першы сакратар ЦК КП(б)Б Ян Гамарнік, ураджэнец украінскага горада Жытоміра. На гэтую пасаду ён заступіў у лістападзе 1928 г. і вымушаны быў пакінуць яе ў кастрычніку 1929 г., г.зн. з'яўляўся першай партыйнай асобай Беларусі ў час, калі яшчэ толькі зараджалася тут выкрыццё «нацдэмакратаў». Выступаючы 11 верасня 1929 г. на партыйным актыве Мінска, ён накінуўся з крытыкай на карэспандэнта газеты «Комсомольская правда» па Беларусі Ярухімовіча, які памылкова пісаў, што беларускі нацыянал-дэмакратызм бярэ пачатак ад «Нашай нівы». Я.Гамарнік абвергнуў артыкулы гэтай газеты, падпісаныя крыптонімам А.І., у якіх ачарнялася ўся інтэлігенцыя Беларусі, што вярнулася з эміграцыі на радзіму, не пагадзіўся, што яна падалася дамоў «для барацьбы супраць Савецкай улады» і выказаў упэўненасць, што на яе поглядах і паводзінах станоўча адбіліся размах эканамічнага будаўніцтва і развіццё беларускай нацыянальнай культуры. Партыйны кіраўнік стаяў на пазіцыі, што значная частка такой інтэлігенцыі

сумленна «супрацоўнічае з Савецкай уладай дзеля справы сацыялістычнага будаўніцтва»[14].

Памяркоўнае стаўленне першага сакратара ЦК КП(б)Б Яна Гамарніка да беларускай адраджэнскай ідэі магло б хоць трохі суняць жаданне ваяваць з ёю. Але не ў характары гэта было многіх беларускіх архіінтэрнацыяналістаў бальшавіцкага толку. Вельмі ўжо карцела паказаць партыйнаму цэнтру ў маскоўскім Крамлі сваю адданасць ідэі пралетарскага інтэрнацыяналізму. А хтосьці разлічваў сваёй бескапраміснай барацьбой з «беларускім нацыяналізмам» працерабіць сабе шлях да высокіх пасадаў у агульнасаюзных партыйных і савецкіх органах, што месціліся ў Маскве. І такіх шчаслiўчыкаў аказалася нямала.

Часта і даволі эфектна з пункту гледжання ідэалагічнага апарату ЦК КП(б)Б выкарыстоўваў сваё высокае службовае становішча з мэтай вядзення барацьбы з «нацдэмаўшчынай» на старонках перыядычнага друку рэктар Камуністычнага універсітэта імя У.І.Леніна ў Мінску Аляксандр Сянкевіч. Нагадаю, што ў 1906 г. ён быў удзельнікам нелегальнага з'езда настаўнікаў у вёсцы Мікалаеўшчына Мінскай губерні. Гэты артадаксальны бальшавік пайшоў куды далей за нядаўняга сакратара ЦК КП(б)Б В.Кнорына (у 1928 г. пераведзены на працу ў Выканкам Камінтэрна) у выкрыцці «нацдэмаў», даючы ім, прыкладам, і такую злосную характарыстыку: «Беларускі нацыянал-дэмакратызм стварае агульны фронт з беларускім нацыянал-фашызмам Заходняй Беларусі, з'яўляючыся, такім чынам, агентурай беларускага нацыянал-фашызму — складанай часткай польскага фашызму». Няцяжка ўявіць, як мог пачуваць сябе чалавек, якога прама ці ўскосна залічвалі ў разрад «нацдэмаў», якім давалі такую жахлівую характарыстыку высокапастаўленыя дзеячы партыі.

Рана, вельмі рана пачалі ў дачыненні адзін да аднаго ўжываць тэрміны «нацыяналіст», «нацдэм» і нашы пісьменнікі, што было на вялікую радасць праціўнікам беларусізацыі. Аднымі з першых трапілі ў разрад «нацдэмаў» таленавітыя майстры мастацкага слова Адам Бабарэка, Язэп Пушча, Уладзімір Дубоўка. Ніхто іншы, як сябры па пяру ўжо не проста бязлітасна крытыкавалі іх, а патрабавалі і самай жорсткай кары.

### 6. У бальшавіцкай інтэпрэтацыі

У пэўнай ступені змаганне з праявамі «нацыяналізму» ў дачыненні да памяркоўнага, цярплівага беларускага народа ішло ў намнога больш жорсткіх формах, чым гэтага мог патрабаваць час, і яно асабліва не выклікалася тымі падзеямі, што адбываліся ў нацыянальным жыцці СССР у цэлым. Нагадаю, што нават у першым выпуску «Большой Советской Энциклопедии» адсутнічала дэфініцыя «нацыяналізм», хаця том на літару «Н» з'явіўся ў свет у вельмі трывожны для ўсіх савецкіх народаў час — у 1939 г. У друку ж Беларусі тэрмін «нацыяналізм» па папулярнасці, магчыма, уступаў толькі такім словам, як «сацыялізм», «баль-

шавік», «рэвалюцыя» і іншым савецкім наватворам. Тэрмін «нацыяналізм» у яго бальшавіцкай інтэрпрэтацыі не згубіўся на Беларусі і пасля заканчэння вайны з фашысцкай Германіяй. Гэты ярлык вельмі любілі без усякага разбору навешваць на тых, хто ў той ці іншай форме супрацоўнічаў з акупантамі ці ў мірны час выступаў за ладаванне культурнага жыцця беларускага народа на яго прыродным нацыянальным грунце.

Неўзабаве слова «нацыяналізм» стала адным з самых папулярных у агульнасаюзным друку. Цяпер-то яно ўжо трапіла ў адпаведны том «Большой Советской Энциклопедии», падпісаны да выхаду ў свет у лістападзе 1954 г. Праўда, гаворка вялася тут выключна толькі пра буржуазны нацыяналізм, г.зн. пра той нацыяналізм, які ўжо не мог існаваць у СССР, дзе перамог, як тады пісалася, сацыялістычны лад. У «БСЭ» нацыяналізм характарызаваўся як «рэакцыйная буржуазная ідэалогія і палітыка, якая адстойвае інтарэсы буржуазіі дадзенай нацыі пад прыкрыццём ілжывага сцяга «агульнанацыянальных» інтарэсаў, якая [палітыка. — *Л.Л.*] апраўдвае нацыянальны прыгнёт, прапаведуе зняважлівыя адносіны да іншых нацый, распальвае варожасць паміж нацыямі і зацямняе класавую свядомасць працоўных».

Як бачым, цяпер нацыяналізму даецца зусім не такая, як ў XIX ст. характарыстыка. У гэтым жа энцыклапедычным выданні сцвярджалася, што ў СССР адсутнічаюць усялякія ўмовы, што параджаюць буржуазны нацыяналізм, і што толькі ў некаторых людзей яшчэ захоўваюцца нацыяналістычныя перажыткі капіталізму.

Разглядаемай дэфініцыі адзведзена яшчэ большае месца ў 10-м томе «Советской исторической энциклопедии» (1967). У ім тэрміну «нацыяналізм» не папярэднічае слова «буржуазны», што можна разумець як магчымасць існавання такой з'явы і ў іншых грамадствах. Таму, зразумела, і сама дэфініцыя выкладзена тут не так, як у «БСЭ». «Нацыяналізм — ідэалогія і палітыка, якая разглядае нацыю як вышэйшую і пазагістарычную форму грамад. адзінства, у рамках якога ўсе сацыяльныя слаі звязаны нібыта гарманіч. агульнасцю інтарэсаў... Н. звычайна носіць бурж. характар і накіраваны на дасягненне мэтаў буржуазіі, выдаваемых ёю за «агульнанацыянальныя» (...) Да тае пары, пакуль буржуазія выступае ў якасці прагрэсіўнага класа, Н. як першапачат. форма сац. самасвядомасці адыгрывае ў цэлым прагрэсіўную ролю».

У разглядаемым артыкуле таксама прызнавалася, што ў сацыялістычных дзяржавах няма глебы для нацыяналізму. «Аднак паколькі нац. адрозненні захоўваюцца, а ў свядомасці некаторых людзей яшчэ не зжыты нацыяналістычныя забабоны, і тут магчыма ўзнікненне супярэчнасцяў, звязаных з рэцыдывамі Н. ...»

Цяпер ужо дэфініцыя «нацыяналізм» прысутнічае і ў рознага роду філасофскіх слоўніках, у слоўніках замежных слоў з амаль агульным для ўсіх іх значэннем: «Нацыяналізм — рэакцыйная буржуазная ідэалогія і палітыка, накіраваная на распальванне нацыянальнай варожасці і нац-

коўвання адной нацыі на другую ў інтарэсах эксплуататарскіх класаў» (Словарь иностранных слов. М., 1955. С. 472); «Нацыяналізм, буржуазная ідэалогія і палітыка ў нацыянальным пытанні, якая грунтуецца на перабольшванні нацыянальных рысаў, выпрацоўцы і культываванні пачуццяў перавагі, выключнасці адных нацый перад другімі» (БелСЭ. Мн., 1973. Т. 7. С. 452); «Нацыяналізм. 1. Рэакцыйная буржуазная ідэалогія і палітыка ў галіне нацыянальных адносін і культуры, якая грунтуецца на перабольшванні нацыянальных рысаў, культываванні перавагі, выключнасці адных нацый перад другімі і распальванні нацыянальнай варожасці. 2. Нацыянальны рух у прыгнечаных краінах за незалежнасць народа, нацыі супраць іншаземных прыгнятальнікаў» (Тлумачальны слоўнік беларускай мовы (ТСБМ). Мн., 1979. Т. 3. С. 336).

Як бачым, ва ўсіх гэтых дэфініцыях «нацыяналізму» нічога не засталося з таго, што ў іх уключалі дарэвалюцыйныя рускія і заходнееўрапейскія палітыкі і вучоныя. Нацыяналізм падаецца як вельмі шкодная буржуазная ідэалогія, здатная толькі да распальвання варожасці паміж народамі. Толькі ў трэцім томе ТСБМ, у другой частцы дэфініцыі «нацыяналізм» апошні надзяляецца станоўчымі рысамі.

Ні ў першы перыяд пасля вайны з Германіяй, ні калі-небудзь пазней, ні сёння нікога з беларусаў, што стаялі ці стаяць у апазіцыі да афіцыйных уладаў, нельга называць нацыяналістамі ў тым азначэнні, якое даецца ім у вышэй прыведзеных літаратурных крыніцах. Нягледзячы на ўсё гэта, на Беларусі прычаплялі і прычапляюць падобны ярлык пэўным асобам. Мо тут кіруюцца другім азначэннем «нацыяналізму» з трэцяга тома ТСБМ, што нацыяналізм — гэта «нацыянальны рух у прыгнечаных краінах за незалежнасць народа, нацыі супраць іншаземных прыгнятальнікаў». Калі гэта так, дык ці ж можна да падобнага роду нацыяналізму ставіцца з непавагай? Выступаць жа за незалежнасць народа, росквіт яго нацыянальнай культуры і мовы заўсёды лічылася вельмі прэстыжнай справай. На такое здольныя толькі самыя прагрэсіўныя людзі, Нацыяналісты з вялікай літары, пра якіх так шмат добрага сказана ў рускай дарэвалюцыйнай навуковай літаратуры і публіцыстыцы, пра якіх і сёння з павагай гавораць ва ўсіх краінах цывілізаванага свету.

## 7. Час мяняць акцэнты

Калі глыбока ўнікнуць у мінулае і сучаснае беларускага народа, дык пераконваешся ў тым, што ўсе яго недапрацоўкі і страты ў пытаннях дзяржаўнага суверэнітэту, нацыянальнай культуры і мовы — гэта не вынік празмернай колькасці ў яго нацыяналістаў у небальшавіцкім разуменні гэтага слова, а, наадварот, іх вострая нястача, не вынік іх актыўнай дзейнасці, а хутчэй — празмерная пасіўнасць. Асабліва гэта моцна адчуваецца зараз, калі з-за грубых парушэнняў самой дзяржавай нормаў беларускага нацыянальнага жыцця яно ледзь не апусцілася да нулявога

цыклу і нікольki не лепшае, чым у сумнавядомыя гады бязмежнага панавання савецкай таталітарнай сістэмы.

У гэты судны час нашай гісторыі, калі дзяржава амаль цалкам адышла ад нацыянальных стандартаў, належным чынам не клапоціцца пра развіццё нацыянальнай культуры, асабліва яе прафесійных пластоў, свядома не дапускае беларускую мову ў дзейнасць сваіх органаў улады і кіравання, установы адукацыі і іншыя сферы грамадскага жыцця, святы абавязак усіх шчырых Нацыяналістаў узяць справу беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння ў свае ўласныя рукі. Дзеля дасягнення поспеху маецца вострая патрэба ў аб'яднанні намаганняў усіх грамадска-палітычных і культурна-асветніцкіх рухаў, якім дарагая гэта ідэя.

Не будучы ў стане стварыць сваім грамадзянам прыстойнае жыццё, урад Рэспублікі Беларусь настойліва вядзе нас на эканамічны, палітычны і культурны саюз з Расіяй. У гэтых умовах мы павінны імкнуцца да таго, каб па ўсіх жыццёва важных паказчыках узняцца на ўзровень рускага народа. Найперш трэба, хаця і з вялікім спазненнем, выйсці на тую стадыю нацыяналізму, якую так гераічна і стойка адолеў рускі народ, асабліва яго інтэлігенцыя, у канцы XIX — пачатку XX ст. Рускі народ прыслухаўся да голасу свайго дарадцы М.Дурнаво: «Сваім, нацыянальным жыццём ён унясе ў агульную сусветную барацьбу за дабро больш, чым жыццём чужым, пазбаўленым колеру, інтэрнацыянальным». Практыка на ўсе сто працэнтаў пацвердзіла правільнасць гэтых слоў. Рускім нацыяналістам удалося не толькі захаваць, але і ўзбагаціць прыродны, нацыянальны патэнцыял сваёй культуры, асабліва яе элітарныя пласты. Будзе злачынствам, асабліва як Беларусь давядуць да сапраўднага шлюбу з Расіяй, калі наша дзяржава, грамадскасць, найперш яго інтэлектуальныя станы, не выкарыстаюць рускі вопыт нацыяналізму, рускі вопыт абароны і развіцця сваёй культуры і мовы.

Час скеміць, што ва ўсіх сферах нашага культурна-моўнага жыцця рускі, украінскі, польскі элементы — гэта не больш як дэсерт, а ежа ў ім павінна быць толькі беларуская. Такіх разумных суадносін паміж сваім і чужым у культуры і мове прытрымліваюцца ўсе цывілізаваныя народы, дзякуючы чаму яны забяспечваюць высокі ўзровень свайго духоўнага жыцця, захоўваюць яго адметнасць і арыгінальнасць, устойлівасць ад усялякіх формаў асіміляцыі. Сучасную спекуляцыю нашых дзяржаўных дзеячаў на нацыянальным нігілізме ў пытаннях культуры і мовы, на рахманасці, талерантнасці беларускага народа, як выніку яго шматгадовай паланізацыі і русіфікацыі, аніяк нельга назваць разумнай палітыкай. Гэта блюзнерства, здзек са скалечанай нацыі. Таленавіты, не кажучы ўжо пра геніяльнага, палітык глядзіць на адно-два пакаленні людзей наперад. А яны, не сумняваюся, у адрозненне ад сучасных, будуць паўнавартаснымі ў нацыянальна-культурным, моўным развіцці беларусамі, тыповымі еўрапейцамі без усялякіх дамешак нацыянальнага нігілізму. Усе яны будуць ведаць сваю гісторыю, валодаць і карыстацца роднай, а не чужой мовай, без перакладчыкаў разумець рускіх, украінцаў, палякаў, а многія — і прадстаўнікоў асноўных нацыянальнасцей Заходняй Еўро-

пы. Апошняя ж прызнае беларусаў за адметны, самабытны этнас толькі тады, калі яны займеюць уласнае нацыянальнае аблічча. На вялікі жаль, сёння яны яго не маюць. І дзіўна, што палітыкі, шырокія колы інтэлігенцыі імкнуцца весці беларускі народ у Еўропу не іх уласным, а нейкім іншым шляхам.

Калісьці ў рускіх нацыяналістаў існавала думка, што іх урад можа паддацца ўплыву перадавых краін Еўропы і адступіць ад сваіх прыродных духоўных традыцый. Смелае выйсце з такога становішча ідэолагі рускага нацыяналізму бачылі ў наступным: «Асобы з антынацыянальным накіраваннем з рускіх нецярпімы на пасадах... Асабліва такія асобы нецярпімы ў ведамстве асветы»[15]. Не сакрэт, сёння ў нас на розных дзяржаўных пасадах, у органах народнай асветы асобаў з антыбеларускім накіраваннем хоць гаць гаці. Але веру, што здаровы беларускі нацыяналізм у іх абавязкова абудзіцца, калі яны на ўласныя вочы ўбачаць, як у саюзе Расіі з Беларуссю разараюцца апошнія беларускія культурна-моўныя пачаткі, дашчэнту разлагаецца ўласны духоўны патэнцыял некалі славутага сваёй гістарычнай памяццю, багатай, арыгінальнай культурнай спадчынай славянскага народа. Прыняўшы глыбока да сэрца гэтую жорсткую трагедыю беларускай нацыі, напэўна, многія з сённяшніх дэнацыяналізаваных палітыкаў і інтэлігентаў захочуць разам з беларускім паэтам Алесем Альфяровічам паўтарыць наступныя радкі з яго нядаўняга верша «Родная мова»:

Любую мову паважаю.
Любой не грэбую нічуць.
Вясці ж размову з родным краем
На мове матчынай хачу.

Зразумела, куды больш было б карысці, каб разумным сэнсам гэтых вершаваных радкоў прасякнуліся душы тых, ад каго ў многім залежыць лёс беларускай нацыі, ужо сёння, а не тады, калі ёй давядзецца правяраць здольнасць сваёй культуры і мовы выжываць і развівацца пасля здзяйснення задуманага беларускім урадам курсу на самае рашучае паглыбленне інтэграцыйных працэсаў нашай краіны з Расіяй, у тым ліку і ў сферы духоўнага жыцця.

*1997*

---

[1] Восстание декабристов: Документы. М., 1958. Т. VIII. С. 121, 122.
[2] Тамсама. С. 123.
[3] Тамсама. С. 126, 127.
[4] Тамсама. Т. VII. С. 149.

[5] Тамсама. С. 150.
[6] Тамсама. С. 141.
[7] Тамсама. С. 139.
[8] Тамсама. С. 150.
[9] Тамсама. С. 121.
[10] Ковалевский П.И. Национализм и национальное воспитание в России. СПб. 1912. С. 154.
[11] Чистяков Ив. Образование народа во Франции. М., 1904. С. 76.
[12] Цит по кн.: Солошенко В.И. Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903 — март 1917 гг.). Мн., 1981. С. 185.
[13] Витте С.Ю. По поводу национализма: Национальная экономия и Фридрих Лист. СПб., 1912. С. 4, 5.
[14] Беларускі шлях. 1918. 10 ліп.
[15] Цыт. па кн.: Ялугін Э. Без эпітафіі. Мн., 1989. С. 211.
[16] Полымя. 1930. N 11—12. С. 165, 166.
[17] Ковалевский П.И. Национализм и национальное воспитание в России. С. 339.

## Юры ТУРОНАК
## (1929)

Эканаміст, гісторык, культуролаг, публіцыст, культурны дзеяч. Нарадзіўся ў м. Дукшты Свянцянскага павета. Вучыўся ў гімназіях Вільні, Беластока і Ольштына. Скончыў Гандлёвую акадэмію ў Шчэціне (1950) і Вышэйшую школу планавання і статыстыкі ў Варшаве (1952). Некалькі гадоў працаваў асістэнтам на кафедры эканамічнай геаграфіі гэтай установы. Пазней — у імпартна-экспартным прадпрыемстве хімічных вырабаў. З 1956 г. эканаміст-эксперт у Знешнегандлёвай палаце. Вывучаў кан'юнктуру міжнароднага рынку хімічных прадуктаў. Удзельнічаў у працы Камітэта хімічнай прамысловасці еўрапейскай Эканамічнай камісіі ў Жэневе. Выдаў кнігу «Польшча на міжнародным хімічным рынку» (1972). З 1956 г. звязаны з беларускімі культурнымі і грамадскімі арганізацыямі ў Польшчы. Адзін з ініцыятараў і стваральнікаў Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Уваходзіў у яго кіраўнічыя органы (1956—1980). У супрацоўніцтве з Інстытутамі гісторыі і славістыкі Польскай акадэміі навук распрацоўвае гісторыю беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху XX ст. Доктар гістарычных навук (1986). Аўтар дзвюх манаграфій «Białoruś pod okupacją niemiecką» (Warszawa, 1989; 1993) і «Wacław Iwanowski i odrodzenie Białorusi» (Warszawa, 1992), цэлага шэрага артыкулаў, прысвечаных праблемам беларускага адраджэнскага руху XX ст. З 90-х г. даследуе гісторыю Каталіцкай царквы на Беларусі.

## КАНФЕСІЙНАЯ ТРАНСФАРМАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ САМАСВЯДОМАСЦЬ

Стык каталіцызму і праваслаўя, а з тым адначасова лацінскай і візантыйскай культур быў спецыфічным фактарам гісторыі Беларусі, зыходным пунктам яго разнастайных інтэрпрэтацый і палітычных інспірацый. Ён меў істотны ўплыў і на працэсы фарміравання нацыянальнай самасвядомасці яе жыхароў.

Згодна з загадам Ягайлы ад 22 лютага 1387 г. усе літоўцы (балты) — жыхары Вялікага княства Літоўскага былі абавязаны прыняць каталіцкую веру[1]. У той час яны жылі як на тэрыторыі сучаснай Літвы, так і на паўночна-заходніх абшарах сучаснай Беларусі, якія прадстаўлялі шырокую зону змешанага славяна-балцкага насельніцтва. Нам вядомы спробы размежавання абодвух этнасаў у XIII—XVI стст., аднак яны па-

казвалі максімальны абсяг пасялення славян ці балтаў, а не іх размежаванне ўнутры гэтай зоны, дзе густа перапляталася насельніцтва русінскае з літоўскім, яцвяжскім, прускім і іншым.

Фармальна дэкрэт Ягайлы не адносіўся да праваслаўных русінаў, якія толькі па сваёй волі маглі прымаць каталіцкую веру. Аднак маючы на мэце ўмацаванне гэтай веры, ён агаворваў, што ў выпадку змяшаных шлюбаў праваслаўны бок абавязваўся прыняць каталіцтва. Так была прыпынена экспансія праваслаўя сярод літоўцаў, што ўсё ж не паўстрымала іх ад моўнай беларусізацыі. У выніку колішнія балты з пэўнай дамешкай русінскай крыві ставаліся каталіцкай часткай беларускага народа.

Да паловы XVI ст. пашырэнне каталіцызму на Беларусі, па сутнасці, абмяжоўвалася да яе паўночна-заходняга рэгіёна — славяна-балцкай змешанай зоны, прыкладна паміж сучаснай граніцай з Літвой і лініяй Пружаны— Клецк— Мінск— Іказнь. У 1550 г. на гэтым абшары дзейнічала 136 каталіцкіх парафій, г.зн. амаль 90% іх агульнай колькасці на Беларусі[2]. Тут праз стагоддзі каталіцкія касцёлы існавалі побач з праваслаўнымі (пазней — уніяцкімі) цэрквамі, прычым і адны і другія будаваліся фундатарамі абедзвюх канфесій у залежнасці ад веравызнання падданых.

Новая вера, якая стала афіцыйнай ідэалогіяй ВКЛ, дыскрымінавала праваслаўную эліту, якая пазбаўлялася права займаць кіраўнічыя пасады ў дзяржаве. Барацьба гэтай эліты за раўнапраўе працягвалася цэлае XV ст., а яе найбольш драматычным эпізодам было паўстанне Свідрыгайлы, грамадзянская вайна 30-х г. і часовы распад дзяржавы на Вялікае княства Літоўскае і Вялікае княства Рускае. Канец гэтай барацьбе фармальна паклаў прывілей караля Жыгімонта Аўгуста (1563), хаця фактычна спынілася яна на пачатку XVI ст. пасля дапушчэння праваслаўных вяльможаў (Астрожскага, Хадкевіча і іншых) да ўдзелу ў Радзе ВКЛ.

Выглядала на тое, што дасягненне юрыдычнага раўнапраўя павінна было паспрыяць умацаванню тых традыцыйных ідэйных вартасцяў (праваслаўе, беларушчына), за якія быццам ішло змаганне. Аднак на справе адбылося адваротнае. Раўнапраўнасць русінскай эліты адкрыла перспектыву яе ўдзелу ў дзяржаўнай сферы, што паслядоўна павялічвала яе зацікаўленасць здабываннем асветы, якой не магла запэўніць Праваслаўная царква. У пошуках адукацыі маладыя русіны едуць за граніцу, найчасцей у Кракаў, адтуль прывозяць не толькі рэфармацыйныя ідэі, але і пальшчызну.

Аксіёмай беларускай гістарыяграфіі (і палітыкі) стала тэза аб «польска-ватыканскай агрэсіі» як прычыне нацыянальных нягод, у прыватнасці, паланізацыі эліты. Паслухайма аднак вядомых ідэолагаў Рэфармацыі. Ужо ў 1562 г. Сымон Будны заклікаў Радзівілаў: «Абыся ваши княжацкие милости не только в чужоземских языцех кохали, алебы ся тежь... и того здавна славного языка словеньского розмиловати и оным ся бавити рачили». А праз некалькі год Васіль Цяпінскі недвузначна пі-

саў пра «занедбане, а просто взгарду» роднай мовы, так ацэньваючы прычыну гэтай з'явы:

«А наостаток, што может быти жалоснейша, што шкарадша, иж и тые што межи нами зовут духовными и учители, смеле мовлю, намней его [свайго языка. — *Ю.Т.*] не вмеют, намней его вырозуменя не знают, ани се в ним цвичат, але ани школы ку науце его нигоде не мают, зачим в польские або в иные писма за такою неволею ... немалого заправуют»[3].

Выказванні Буднага і Цяпінскага паказваюць, што нацыянальная трансфармацыя русінскай эліты ВКЛ была вядомым фактам ужо ў палове XVI ст., калі яшчэ не было Люблінскай уніі, не існавалі езуіцкія калегіумы і акадэмія. Па-другое, сведчаць, што распаўсюджванне ідэй Рэфармацыі і контррэфармацыі пачыналася на беларускай мове, і толькі яе незнаёмасць, ці слабая знаёмасць, прымушала іх прапаведнікаў паслугоўвацца польскай мовай, як больш зразумелай «княжацким милостям». Калі б было інакш, контррэфармацыйная прапаганда езуітаў і іх асветная дзейнасць не адбывалася б на польскай мове, але на беларускай, аб чым сведчыць выдадзены імі ў Вільні каталіцкі «катехизм» кірылічным шрыфтам[4]. Дарэчы, на такі шлях неўзабаве ступілі і ідэолагі праваслаўя (гл. польскамоўны «Фринос» Мялеція Сматрыцкага, Вільня, 1610).

Феноменам тагачасных падзей было тое, што, прыняўшы польскую культуру, а за ёй і каталіцкую веру (а не наадварот), русінская эліта ВКЛ амаль нічога не зрабіла, а можа, не паспела зрабіць для падобнай трансфармацыі народа. Наўрад ці можна сумнявацца ў тым, што, кіруючыся прынцыпам cujus regio, ejus religio, яна магла прымусіць сваіх падданых прыняць новую веру, так, як у той час гэта адбывалася ў іншых краінах Еўропы. Такі крок садзейнічаў бы ідэйнай кансалідацыі насельніцтва, у прыватнасці, прадухіліў бы адчужэнне эліты ад ніжэйшых слаёў грамадства, паслядоўнасці чаго ў сферы агульнанацыянальнай самасвядомасці адчуваюцца і па сённяшні дзень.

Нежаданую магчымасць лацінізацыі несумненна адчувала іерархія Праваслаўнай царквы, якая, страціўшы ранейшых магутных апекуноў, магла лічыць ужо толькі на ўласныя сілы, а былі яны недастатковыя для супрацьстаяння каталіцкаму духавенству. Верагодна, пад яго уплывам з часам і грамадская эліта далучылася б да прапаганды лацінізацыі. Аднак такую магчымасць своечасова прадухіліла царкоўная унія, заключаная ў Брэсце (1596) стараннямі праваслаўных іерархаў ВКЛ.

Унія сталася важным фактарам захавання царкоўнай абраднасці, што гарантавалася не толькі Брэсцкім пагадненнем, але і пазнейшымі папскімі буламі, якія забаранялі пераводзіць уніяцкіх вернікаў у лацінскі абрад без папярэдняга дазволу Апостальскага пасаду. Такая забарона часта выклікала пратэсты русінскай шляхты і ўсяляк ёю абыходзілася, аднак рыма-каталіцкае духавенства не магло не лічыцца з папскімі загадамі. Яно магло праводзіць місіянерскую дзейнасць сярод іншаверцаў,

да якіх залічалі праваслаўных, але спробы перацягвання уніятаў у лацінскі абрад часта выклікалі скаргі уніяцкіх іерархаў, эпілогам якіх бывалі судовыя расправы. Такім чынам, нягледзячы на розныя непаслядоўнасці, Уніяцкая царква была да падзелаў Рэчы Паспалітай важным бар'ерам, які стрымліваў масавую лацінізацыю сялянства і мяшчанства.

Значэнне уніяцкага бар'ера выявілася ў XVII—XVIII стст., калі пасля захаплення рэфармацыйным рухам шляхту не вабіла ні старое праваслаўе, ні унія, якая трактавалася як мужыцкая, руская вера. Яе прыцягнуў лацінскі каталіцызм як пануючае веравызнанне ў Рэчы Паспалітай. У выніку неафіцкай стараннасці гэтай шляхты на ўсходніх і паўднёвых абшарах Беларусі, якія да канца XVI ст. былі амаль выключна полем дзейнасці Праваслаўнай царквы, узніклі дзесяткі каталіцкіх кляштараў, школ, пашырылася сетка парафій, што аднак не змагло паўплываць на пашырэнне каталіцызму сярод сялянства і мяшчанства.

Такім чынам да падзелаў Рэчы Паспалітай прагрэс лацінізацыі насельніцтва быў даволі сціплы: на пачатку 80-х г. XVIII ст. агульная колькасць католікаў лацінскага абраду на Беларусі (у яе сучасных межах) складала 430—440 тысяч, г.зн. каля 15% ад колькасці ўсіх жыхароў, прычым 84% каталіцкага насельніцтва канцэнтравалася ў паўночна-заходніх раёнах і толькі 16% на астатніх абшарах Беларусі[5]. У той час каля 70% усіх жыхароў лічылася уніятамі і 6% праваслаўнымі[6].

Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі (1772—1795) адбылася чарговая трансфармацыя канфесійнай структуры яе жыхароў, у чым рашаючую ролю адыграў распад Уніяцкай царквы. З пункту гледжання фарміравання нацыянальнай самасвядомасці беларусаў распад уніі меў выключнае значэнне: па-першае, ён датычыў пераважнай часткі народа, па-другое, працягваўся некалькі дзесяцігоддзяў, і па-трэцяе, у ім удзельнічалі акрамя саміх уніятаў магутныя знешнія сілы — расійская імперская палітыка, Праваслаўная і Каталіцкая цэрквы і мясцовае памешчыцтва.

Гэтаму пытанню прысвяцілі сваю ўвагу шматлікія даследчыкі, з'явіліся сотні навуковых распрацовак, але не спыняецца дыскусія, надалей разглядаюцца разнастайныя аспекты уніяцкага пытання — гістарычныя, дагматычныя, палітычныя, культурныя і іншыя. Нас цікавіць пытанне, у якой меры распад уніі паўплываў на ўмацаванне праваслаўя і каталіцызму на Беларусі і паслядоўна — на фарміраванне ідэйных пазіцый вернікаў гэтых канфесій.

Расійская імператрыца Кацярына II не затойвала таго, што адным з найбольш надзейных сродкаў русіфікацыі далучаных да Рэчы Паспалітай беларускіх і ўкраінскіх абшараў будзе аправаслаўленне іх жыхароў. Аднак заключаны ёю падзелавы трактат 1772 г. гарантаваў недатыкальнасць Каталіцкай царквы абодвух абрадаў (лацінскага і уніяцкага), што стрымлівала прымяненне расійскай дзяржаўнай адміністрацыяй сілавых дзеянняў у адносінах да уніятаў. Гэта аднак не выключала магчымасці добраахвотных канверсій, якія дасягаліся шляхам прапаганды права-

слаўя асабліва паспяхова сярод сялян у маёнтках новых расійскіх землеўладальнікаў. Нястойкімі аказаліся і некаторыя уніяцкія святары, якія добраахвотна пераходзілі ў праваслаўе. Першы быў полацкі дэкан Пятровіч, а следам за ім пайшоў святар Віцебскай царквы святой Тройцы[7].

Усё ж першыя поспехі праваслаўя на беларускіх землях былі меншыя ад спадзяваных. Паводле П.Н.Бацюшкава на абшары першага падзелу (у Магілёўскай і Полацкай губернях) у 1780— 1784 гг. да праваслаўя далучылася 117 тысяч уніятаў і ў другой фазе навяртанняў у 1794— 1795 гг. яшчэ каля 110 тысяч. Слабейшыя вынікі аказаліся ў Мінскай губерні, у якой на працягу 1794— 1796 гг. залічылі ў праваслаўе 80 тысяч уніятаў[8]. Такім чынам, да смерці Кацярыны II (6.11.1796) Уніяцкая царква на Беларусі страціла да 300 тысяч вернікаў.

Падзеі на Беларусі і ў яшчэ большай меры на Украіне выклікалі непакой у Ватыкане. Кардынал Кастэлі, прэфект кангрэгацыі Прапаганды Веры ўжо ў 1773 г. ацэньваў перспектыву Уніяцкай царквы ў Расійскай імперыі як безнадзейную і лічыў, што ў такіх умовах можна уніятам дазволіць пераходзіць у лацінскі абрад[9]. І хаця не адбылася афіцыйная адмена папскіх загадаў па гэтым пытанні і не спыняліся пратэсты уніяцкай іерархіі, магчымасць «ратавання уніяцкіх душ ад схізмы» ўсё шырэй успрымалася рыма-каталіцкім духавенствам на Беларусі як першачарговая задача. Ідэю лацінізацыі уніятаў падтрымалі і каталіцкія памешчыкі, якіх больш, чым збаўленне душ прыгоннага сялянства, хвалявала перспектыва ўжо не толькі абрадавай, але і канфесійнай ізаляцыі, якая ва ўмовах расійскай дзяржаўнасці набывала цалкам іншае значэнне, чым да гэтай пары.

Так пачалася барацьба за душы паміж Праваслаўнай і Каталіцкай цэрквамі, якіх пацiху інспіравалі і падтрымоўвалі адпаведна расійскія ўлады і мясцовыя памешчыкі. Адначасова раслі сілы і сродкі дзеяння не толькі Праваслаўнай царквы, але і Каталіцкага касцёла. У 1772 г. была заснавана Магілёўская дыяцэзія, якая ў 1783 г. атрымала ранг архідыяцэзіі. Ёй падпарадкоўвалася Віленская і заснаваная ў 1798 г. Мінская дыяцэзіі. За параўнальна кароткі час былі пабудаваны дзесяткі новых касцёлаў, не раз з дапамогай расійскіх улад, а сетка каталіцкіх парафій на Беларусі, якіх напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай налічвалася 240, да 1830 г. павялічылася да 325-ці.

За панавання Кацярыны II працэс далучэння уніятаў да праваслаўя меў даволі выразны кампанійны характар — ён адбываўся ў два этапы: у 1780— 1784 і ў 1794— 1996 гг., і па смерці імператрыцы, за панавання Паўла (1796— 1801) і Аляксандра I (1801— 1825), раптоўна аслабеў і абмяжоўваўся да індывідуальных канверсій. У выніку, на праваслаўна-уніяцкім фронце запанавала шматгадовае перамір'е, аднак мала хто верыў у яго трываласць.

Найбольш плённа працавала каталіцкае духавенства. Нягледзячы на ўрадавыя забароны, яно надалей працягвала пераводзіць уніятаў у лацінскі абрад, з чым пацiху пагаджаліся базыльяне і некаторыя уніяцкія

іерархі, якія прадчувалі непазбежнасць новага наступлення ўрада і Праваслаўнай царквы на унію[10]. Акрамя новых здабыткаў, значная частка уніятаў, далучаных да праваслаўя за панавання Кацярыны, цяпер вярталася ў сваю веру або пераходзіла ў лацінства.

Наўрад ці можна, нават прыблізна, акрэсліць статыстычныя вынікі гэтага працэсу. Як правіла, Каталіцкая царква не хвалілася здабыткамі, а Уніяцкая — не вельмі скардзілася на страты, у сувязі з чым даследчыкі не выявілі дакументальных звестак, колькі беларускіх уніятаў перайшло ў лацінскі абрад, і прадстаўлялі адно свае больш ці менш верагодныя меркаванні[11].

На значнасць працэсу канверсій паказвае хуткі рост колькасці вернікаў Каталіцкага касцёла, які пачаўся неўзабаве пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай і працягваўся да 1842 г. Гэты рост значна перавышаў марудную тагачасную дынаміку ўсяго насельніцтва, у выніку чаго працэнтны удзел католікаў пастаянна павялічваўся. Найбольшыя змены адбыліся на абшары Мінскай губерні, у якой за гэты перыяд каталіцкае насельніцтва ўзрасло ў 2,4 раза, да 277 тысяч, і складала амаль 30% ад усіх жыхароў губерні[12]. Падобныя тэндэнцыі наглядаліся ў некаторых паветах Віцебскай губерні (Дрысенскі, Лепельскі), на Гродзеншчыне і Віленшчыне.

Дасягнутая ў першай трэці XIX ст. пазіцыя Каталіцкага касцёла на Беларусі была найзначнейшай за ўсю гісторыю. Магчыма, яна захавалася б і надалей, а лацінізацыя перайшоўшых уніятаў сталася б трывалым фактарам, калі б не паслядоўнасці польскага паўстання 1831 г. Паўстанне паўплывала на абвастрэнне расійскай палітыкі ў Паўночна-Заходнім краі, у прыватнасці, была адменена існаваўшая адукацыйная сістэма, скасавана большасць каталіцкіх кляштараў, ліквідавана Уніяцкая царква, якая на Полацкім Саборы (1839) была далучана да Праваслаўнай. Аднак Каталіцкі касцёл захаваў свае адміністрацыйныя структуры — дыяцэзіі, дэканаты і ўсе парафіі.

Неўзабаве пачаўся адобраны Мікалаем I працэс вышуквання ў каталіцкіх парафіях былых уніятаў і іх перацягванне ў праваслаўе, які ажыццяўляўся праваслаўным духавенствам з дзейснай дапамогай паліцыі. Гэты працэс, вядомы пад назвай «разбирательства», працягваўся 15 гадоў — з 1842 да 1857-мы, а яго вынікам былі тысячы канверсій, гэтым разам на карысць праваслаўя.

Вынікі канфесійнай неаднароднасці насельніцтва Беларусі выявіліся пад час чарговага паўстання 1863 г. Нягледзячы на прапаганду «Мужыцкай праўды», паўстання, як правіла, не падтрымала новаправаслаўнае сялянства, што і паўплывала на марны яго ход на Беларусі. Выглядала на тое, што канфесійная трансфармацыя не ўспрымалася ім як асаблівае насілле, з якім трэба было змагацца. А гэта была важная акалічнасць, якая дазволіла расійскім чыноўнікам трактаваць праваслаўнае сялянства як саюзніка ў змаганні з Каталіцкім касцёлам, які лічыўся адным з галоўных інспіратараў паўстання, апораю супрацьрасійскай і суп-

рацыправаслаўнай апазіцыі. Усё ж гэты саюзнік, пакуль што, мог быць толькі патэнцыяльны, паколькі звыш двухвяковы канфесійны мір не даваў уладам надзеі на раптоўную змену становішча.

Такую змену павінна была запэўніць планавая антаганізацыя грамадства, для дасягнення якой найбольш прыдатнай уяўлялася канфесійная сфера. Таму акрамя вядомых рэпрэсіўных дзеянняў як кантрыбуцыі, канфіскацыі маёнткаў, ссылкі і інш., галоўны ўдар скіроўваўся супраць каталіцызму. На працягу пяці гадоў пасля Студзеньскага паўстання расійскія ўлады закрылі на Беларусі амаль 100 парафіяльных касцёлаў і не меншую колькасць філіяльных храмаў, пераважная частка якіх была ператворана ў праваслаўныя цэрквы.

Гэтая акцыя, якой кіраваў віленскі генерал-губернатар, была добра прадумана і праводзілася там, дзе павінна была выклікаць жаданую рэакцыю насельніцтва. Яна ажыццяўлялася галоўным чынам у канфесійна змешаных раёнах Мінскай, Віленскай і Гродзенскай губерняў. Наўрад ці трэба падрабязна прадстаўляць пачуцці католікаў, якія былі выкліканы гэтымі мерапрыемствамі, яны абарочваліся не толькі супраць расійскіх улад, але і супраць адмоўнага праваслаўнага насельніцтва, якое карысталася забранымі касцёламі.

У такіх умовах, калі пачуццё крыўды змешвалася са злараднасцю і цяжка было спадзявацца на мірнае сужыццё, праваслаўнае насельніцтва Беларусі магло арыентавацца толькі на Расію і яе ўлады як духоўную і матэрыяльну апору. Гэта паясняе знешне парадаксальную з'яву, чаму асноўны цяжар антыкаталіцкіх рэпрэсіяў клаўся на Беларусь, а не на Літву, у якой паўстанне было больш пашырана. Там можна было закрыць храм, але мала было іншаверцаў, якія маглі б яго «прысабечыць». Такім чынам, паўстанне было толькі падставай для дзеянняў, сапраўднай прычынай якіх было імкненне да поўнага зліцця Беларусі з Расіяй.

Вядучая роля надалей адводзілася царкве. Зноў ажывілася спыненая ў 1857 г. акцыя вышукоўвання уніятаў, а калі іх ужо не ставала, прышла чарга на лацціннікаў. Новая акцыя працягвалася з 1864 да 1868 г. і прыдала Праваслаўнай царкве яшчэ 80 тысяч душ[13]. Аднак канверсіі не спыняліся да канца XIX ст., хаця ўжо не былі такімі гвалтоўнымі і паслядоўна ўплывалі на змену канфесійнай структуры насельніцтва Беларусі. Калі ў перыяд 1858—1897 гг. праваслаўнае насельніцтва павялічылася ў 2 разы, то каталіцкае — толькі на 28%, а яго доля ў агульнай колькасці насельніцтва зменшылася з 23 да 15%, г.зн. вярнулася да ўзроўню, які існаваў напярэдадні падзелаў Рэчы Паспалітай. Немагчыма ўстанавіць, ці гэтае вяртанне было толькі статыстычнай выпадковасцю, ці адлюстроўвала пераход у праваслаўе ўсіх былых уніятаў.

Моцна аслабленая пасля Студзеньскага паўстання пазіцыя Каталіцкага касцёла для русіфікатараў усё яшчэ была небяспечнай. Таму акрамя сілавых дзеянняў прапагандавалася і тэарэтычнае абгрунтаванне неабходнасці русіфікацыі, згодна з якім Беларусь уяўлялася часткай адзінай непадзельнай Русі, якая магла быць толькі праваслаўнай, а каталіц-

кая частка народа як «іншароднае цела» павінна была растапіцца ў праваслаўным моры або знікнуць з беларускай зямлі[14]. Пачаў ажыццяўляцца працэс «распалячвання» каталіцызму, які прадугледжваў увядзенне ў дадатковыя набажэнствы рускай мовы замест ужыванай дагэтуль польскай. Паводле задумы ініцыятараў канчатковай мэтай гэтага мерапрыемства мела быць «вяртанне» беларускіх католікаў не толькі да рускай народнасці, але і да праваслаўя[15].

Можна пагадзіцца з ацэнкамі, што стаўленне прыгоннага сялянства да канфесійных трансфармацый на Беларусі адлюстроўвала пазіцыю іх пана-ўладальніка. Іншае становішча было пасля адмены прыгоннага права (1861), калі, атрымаўшы юрыдычную свабоду, адзінка магла адобрыць або адкінуць патрабаванні ўлады ці націскі духавенства. І хаця стойкасць новаправаслаўнага грамадства выклікала розныя крытычныя заўвагі даследчыкаў, сфарміраваная на канец XIX ст. канфесійная структура насельніцтва Беларусі была несумненнай перамогай Расіі і Праваслаўнай царквы.

Праўда, усё яшчэ ішло ідэйнае змаганне, здараліся розныя хістанні і адступніцтвы ад праваслаўя, але гэта былі параўнальна дробныя праблемы, якія не ўплывалі на трываласць новай канфесійнай структуры насельніцтва. Нельга пераацэньваць і тых падзей, якія адбыліся пасля 1905 г. ва ўмовах веравызнаўчай свабоды ў Расійскай імперыі. Паводле афіцыйных звестак, у 1905—1090 гг. у «Паўночна-Заходнім краі» перайшло ў каталіцтва 56 тысяч праваслаўных[16]. Нягледзячы на эмацыянальныя рэакцыі духавенства і публіцыстаў, рэальны эфект гэтай чарговай трансфармацыі быў нязначны, а колькасць пакінуўшых праваслаўе складала менш чым 1% усяго насельніцтва Беларусі.

Больш істотны быў эфект міжканфесійнага супрацьстаяння, справакаванага расійскімі ўладамі пасля Студзеньскага паўстання. Яно паўплывала на адчужанасць праваслаўнага і каталіцкага насельніцтва, якое адпаведна веравызнанню падзялялася на «рускіх» і «польскіх». Супрацьстаянне найслабей выявілася на Магілёўшчыне і Віцебшчыне, дзе нешматлікае каталіцкае насельніцтва паддавалася асіміляцыйным працэсам[17]. На іншых абшарах Беларусі католікі здолелі абараніцца перад напорам праваслаўя і расейшчыны, што, аднак, гнала іх пад апеку пальшчызны.

Хрысціянства не сталася падставай ідэйнай кансалідацыі беларускага народа, яго сінтэзуючым фактарам. Не была ім унія, якая не аб'яднала двух абрадаў, тым больш не былі ім варагуючыя праваслаўе і каталіцызм. У такім становішчы ўзнікалі і развіваліся паралельныя арыентацыі на ўсход і на захад, што стрымлівала працэс нацыянальнага адраджэння.

Пачынаючы з другой паловы XIX ст. праваслаўную інтэлігенцыю задавальняла ідэалогія «заходне-русізму», якая не пагражала яе сацыяльным інтарэсам. Менш канфармісцкай была каталіцкая шляхта, прадстаўнікі якой паклалі пачатак беларускаму нацыянальнаму руху, апазі-

цыйнаму да праваслаўя і русіфікатарскай палітыкі ўрада. Такая ідэйная накіраванасць руху абмяжоўвала яго ўспрыманне праваслаўнай інтэлігенцыяй і закрывала яму шлях у народ. Адначасна гэта аблягчала русафільскім дзеячам весці змаганне з беларускім рухам, які ацэньваўся як польская інтрыга, накіраваная супраць адзінства праваслаўнай Русі.

На пачатку XX ст. новая генерацыя нацыянальных дзеячаў ужо не сумнявалася, што без успрыняцця адраджэнскай ідэі праваслаўнай большасцю народа яе пашырэнне на Беларусі немагчымае. Канцэпцыю адзінай нацыі так фармуляваў Вацлаў Іваноўскі ў прадмове да апрацаванага ім у 1904 г. першага буквара сучаснай беларускай мовы:

«Ці раз у нас сварка бывае; зыдуцца каталік з праваслаўным і сварацца «ах ты, кажэ, паляк, — а ты маскаль». І абодва ня ведама, што кажуць: ані той паляк, ані гэты маскаль, абоя хоць ружнай веры, а народу аднаго, бо абодва выраслі на зямельцы тутэйшай нашай, палеска-беларускай, і першае слова ў мові нашай бацькоўскай ад бацькоў пачулі, а сварацца толькі сабе на крыўду і на сорам, людзям на смех. Вось і знарок выдаем лемантар дваякімі знакамі, выбірай, што спанараўна, каб усякі пазнаў, што ці такіе, ці сякіе знакі, склады і словы тыеж, мова таяж і людзі, што мовай адной гавораць, — браты родные»[18].

Ідэя стварэння па-над канфесійнымі падзеламі агульнабеларускай нацыянальнай самасвядомасці прыцягнула як católікаў, так і праваслаўных. Яна ажыццяўлялася ў вострай ідэйнай барацьбе з прыхільнікамі заходне-русізму і паланізму — праціўнікамі самабытнасці беларускага народа. І хаця за кароткі час гэтая ідэя не змагла значна пашырыцца ў народных масах, яе поспех быў несумненны, на што паказваюць спробы будавання беларускай дзяржавы пад час Першай сусветнай вайны.

Стаўленне бальшавізму да рэлігіі — вядомае. Ён не цярпеў канкурэнцыі ў ідэалагічнай сферы, і ў выніку ў міжваенны перыяд ва ўсходняй Беларусі былі разгромлены як Праваслаўная, так і Каталіцкая царквы, ажыццяўлялася шырокая атэізацыі грамадства. Не была яна цалкам беспаспяховая, на што, магчыма, паўплывалі канфесійныя трансфармацыі ў мінулым, сумным эфектам якіх было пашырэнне ў народзе рэлігійнай абыякавасці. Іншае становішча было ў Заходняй Беларусі, у якой праваслаўе страціла ранейшую пазіцыю пануючага веравызнання, а вяртанне католікам забраных пасля Студзеньскага паўстання храмаў распальвала новыя антаганізмы. Іх драматычным эпілогам было абвастрэнне канфліктаў пад час нямецкай акупацыі (1941—1944), якія ў некаторых заходнебеларускіх раёнах нагадвалі падзеі Грамадзянскай вайны.

Спробы піянераў Адраджэння стварыць на двухканфесійнай базе адзіную нацыянальную самасвядомасць аказаліся мала паспяховымі. Гэтая ідэя ахапіла ў XX ст. тонкую праслойку інтэлігенцыі, але слаба ўспрымалася народнымі масамі. На іх стаўленне няшмат паўплываў прагрэс атэізацыі ў савецкі час, які, праўда, прытупіў рэлігійныя перакананні, але не аслабіў усведамлення этна-культурнай адметнасці.

Гэтая адметнасць, як несумяшчальная з уяўленнем Беларусі як часткі адзінай Русі, як крыніца пастаяннага супрацьстаяння, а на паваротах гісторыі і шкодных канфліктаў, абумовіла ў савецкі час дзеянні, аб якіх маглі толькі марыць найбольш ваяўнічыя прадстаўнікі «заходне-русізму». У 30-я г. пачалося масавае выгнанне беларускіх католікаў у Казахстан і Сібір, а ў 40-я і 50-я г. іх перасяленне ў Польшчу, у выніку чаго колькасць каталіцкага насельніцтва на Беларусі зменшылася прыкладна напалавіну і ў 1959 г. складала 600— 700 тысяч, г.зн. 6— 7% усіх жыхароў рэспублікі[19]. Праўда, у 90-я г., у выніку веравызнаўчай свабоды і дзейнасці Каталіцкага касцёла гэты паказчык узрос, аднак усё ж не перавышае 10% усіх жыхароў.

Такім чынам, роля русінскай стыхіі, якая заўсёды была пераважаючым кампанентам этнаструктуры беларускага народа, значна ўзрасла за пасляваеннае паўстагоддзе і сёння з'яўляецца рашаючай у фарміраванні нацыянальнага лёсу. Генетычна абумоўленую арыентацыю гэтай катэгорыі народа на ўсход пацвярджае не толькі шматвяковая гісторыя, але і падзеі апошніх гадоў — такія, як пасіўнае ўспрыняцце падараванай лёсам незалежнасці, настальгія па Савецкім Саюзе, падтрымка ідэй аб'яднання з Расіяй, адмаўленне ад беларускай мовы, нацыянальнай сімволікі і г.д.

У 1994 г. прафесар Аляксандр Рогалеў пісаў, што Беларусь непазбежна, аб'ектыўна «прарасла» адным сваім бокам у заходні свет, а другім — ва ўсходні, і дапускаў магчымасць, што хутка ўсе палітычныя партыі Беларусі падзеляцца па прынцыпу «заходнікаў» і «ўсходнікаў», бо этнічны «інстынкт» — самы моцны з усіх іншых жаданняў і інтарэсаў[20]. Аднак жа ў святле апошніх падзей можна засумнявацца ў правільнасці такога прагнозу. Сёння на беларускай палітычнай і ідэйнай сцэне ніякія празаходнія партыі ці групоўкі, нават разам узятыя, не маюць дастатковай сілы, здольнай супрацьставіцца арыентацыі «ўсходнікаў».

І калі раней, за савецкіх часоў, спасылкі на волю народа часта выклікалі падазрэнні, што была яна вынікам маніпуляцыі ўлад, то ў 90-я г. такіх падазрэнняў ужо не было і прарасійскі выбар пераважнай часткі беларускага народа не выклікаў сумненняў. Таму можна спадзявацца, што ў чарзе на Захад Беларусь не стане самастойна, толькі за «матушкай» Расіяй.

*1998*

[1] Туронак Ю. Фармаванне сеткі рыма-каталіцкіх парафіяў у Беларусі (1387— 1781) // Беларускі гістарычны агляд. Мінск. Снеж. 1995. Т. 2 Сш. 2.

[2] Тамсама.

[3] Цыт. па кн.: Ластоўскі В. Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі. Коўна, 1926. С. 384, 412.

[4] Тамсама. С. 431.

[5] Туронак Ю. Фармаванне сеткі...

[6] Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Мн., 1993. Т. 1. С. 469.

[7] Likowski E. Dzieje Kościoła Unickiego na Litwie i Rusi w XVIII i XIX wieku. Warszawa, 1906. S. 182.

[8] Батюшков П.Н. Белоруссия и Литва. СПб., 1890. С. 322, 324.

[9] Loret M. Kosciół Katolicki a Katarzyna II 1772—1784. Kraków; Warszawa, 1910. S. 98—99.

[10] Бобровский П.О. Русская греко-униатская церковь в царствование императора Александра I. СПб., 1890. С. 163—164.

[11] Паводле П.О.Баброўскага (цыт. праца), у 1813—1828 гг. колькасць уніяцкага насельніцтва ў Расіі была на 200 тысяч меншая ад яго натуральнага прыросту; на думку аўтара, яны перайшлі ў лацінства. А.Грыцкевіч лічыць колькасць перайшоўшых у лацінства на 543 тыс. Гл.: Belarus Lithuania Poland Ukraine. The foundations of historical and cultural traditions in East Central Europe. Lublin; Rome, 1994. S. 251.

[12] Biblioteka Jagiellońska w Krakowie, Dział Rękopisów, 6039 II, Tablica wykazująca kościoły parafialne składające odtąd Dyecezyą Mińską.

[13] Киприанович Г.Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западнорусских униатов с православной церковью в 1839 г. Вильна, 1893. С. 372.

[14] Владимиров А. О положении православия в Северо-Западном крае // Русское обозрение. Март 1893. С. 202.

[15] Тамсама. Красавік 1893. С. 700.

[16] Wasilewski L. Litwa i Białoruś. Kraków, 1912. S. 86—87.

[17] Nasze kościoły. Archidiecezja Mohylowska. Warszawa; Petersburg, 1913. S. 36—40, 90, 92, 120.

[18] Беларускі лемэнтар або першая навука чытання. СПб., 1906. С. 6.

[19] Туронак Ю. Каталіцызм у Беларусі — маштаб праблемы // Скарыніч. Мн., 1991. Вып. 1. С. 235.

[20] Рогалеў А. Сапраўды, Беларусь — гэта не толькі Русь... // Літ. і мастацтва. 1994. N 43. 28 кастр.

# I. ПРАРОКІ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

## Антон ЛУЦКЕВІЧ

### Краёвае становішчэ (с. 3)

Друкуецца паводле час. «Спадчына» (Мінск), 1996, N 1, с. 48—52, дзе ўпершыню апублікаваны беларускім гісторыкам А.Смаленчуком. Рукапіс выяўлены ў бібліятэцы Акадэміі навук Літвы (БАН Літвы, ф. 21, адз. зах. 334). У тэксце зроблена паметка: *Вільня, 1/IV 1914 г. Ант. Новіна.* Датуецца годам напісання.

«*За нашу і вашу волю*» («Za wolność naszą i waszą») — рэвалюцыйны лозунг польскага нацыянальна-вызваленчага руху з часоў Лістападаўскага паўстання 1830—1831 гг. (с. 4).

*Хедэр* (стараж.-яўр. *пакой*) — яўрэйская пачатковая школа для навучання хлопчыкаў асновам іудаізму (с. 4).

*Сынагога* (стараж.-грэч. *synagoge* — дом сходаў) — месца малітвы і вывучэння Торы, асяродак рэлігійнага і грамадскага жыцця яўрэяў (с. 4).

*Стараверы* — адна з назваў рэлігійных груп і цэркваў у Расіі, якія не прынялі царкоўнай рэформы XVII ст. (с. 4).

...«*аўтаномія in minus*» — аўтаномія на(з) мінус(ам), нявыгадная аўтаномія (с. 4).

### Аб дзяржаўным будоўніцтве (с. 7)

Друкуецца паводле час. «Варта» (Менск), 1918, N 1, дзе пад крыптанімам *А.Н.* упершыню апублікаваны. Датуецца годам першадруку.

*Вялікае Князьства Літоўскае* — Вялікае Княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае, феадальная дзяржава на тэрыторыі Беларусі і Літвы (1230-я гг. — канец XVIII ст.). З 1569 г. у складзе Рэчы Паспалітай (с. 7).

*Васіль Цяпінскі* (1530(40)—1603) — беларускі гуманіст і рэфармацыйны дзеяч, пісьменнік, кнігавыдавец (с. 7).

...«тоже белорусы» — маецца на ўвазе частка беларускай інтэлігенцыі, якая працэс русіфікацыі беларускага народа разглядала як з'яву пазітыўную (с. 8).

### Беларусь і Расея (с. 8)

Друкуецца паводле газ. «Гоман» (Вільня), 1918, 30 ліп., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *І.Мялешка.* Датуецца годам першадруку.

...«*славянафільская ідэя*» — славянафільства, адзін з кірункаў расійскай грамадскай думкі, які развіваўся ў 40—70-я гг. XIX ст. Ідэолагі і прыхільнікі славянафільства выступалі супраць еўрапеізацыі Расіі, праклямавалі яе месіянізм, пасланніцтва (с. 9).

*Мазепінства* — звязана з асобаю Івана Мазепы (1644—1709), гетмана Левабярэжнай Украіны, які выступаў за самастойнасць Украіны і з гэтай прычыны ў час Паўночнай вайны 1700—1721 гг. перайшоў на бок шведскага войска; у трактоўцы расійскіх гісторыкаў яго імя з'яўляецца сімвалам здрады (с. 10).

*Берасцейская ўмова* — маецца на ўвазе мірны дагавор Савецкай Расіі з Германіяй, Аўстра-Венгрыяй, Балгарыяй і Турцыяй, падпісаны ў г. Брэст-Літоўску 3.3.1918 г. (с. 10).

## Максім ГАРЭЦКІ

### Развагі і думкі (*фрагмент*) (с. 11)

Друкуецца паводле выд.: «Велікодная пісанка», Вільня, 1914, с. 31—41, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *М.Горэцкі*. Датуецца годам першадруку.

*...«трыядынай «российской» національнасьці»* — адна з ідэалагічных катэгорый расійскага славянафільства, паводле якой вялікаросы, маларосы (украінцы) і беларусы ўтвараюць нацыянальнае адзінства (с. 12).

*«Я ведаю толькі тое, што я нічога ня ведаю* — лац. Scio me nihil scire, адзін з улюбёных афарызмаў старажытнагрэчаскага філосафа Сакрата (каля 470—399 г. да н.э.) (с. 12).

*Младабеларусы* — прадстаўнікі «маладой Беларусі» часоў выдання газет «Наша доля», «Наша ніва», удзельнікі беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху пачатку XX ст. (с. 13).

*Дзядзька Янка і дзядзька Якуб* — пачынальнікі новай беларускай літаратуры Янка Купала і Якуб Колас (с. 16).

*...«парнаснікі» нашы* — дзеячы беларускай культуры і літаратуры, звязаныя з першымі легальнымі беларускімі газетамі «Наша доля» і «Наша ніва» і беларускім культурна-нацыянальным рухам 1900—1914 гг. (с. 16).

*Шаўчэнка Тарас* (1814—1861) — украінскі паэт, мастак, рэвалюцыйны дэмакрат, пачынальнік новай украінскай літаратуры і нацыянальнай літаратурнай мовы (с. 16).

*Талстой (Толстой) Леў* (1828—1910) — расійскі пісьменнік (с. 16).

## Янка КУПАЛА

### Вера і національнасьць (с. 17)

Друкуецца паводле газ. «Наша ніва» (Вільня), 1914, N 27, 10 ліпен., с. 1, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *І.Л.* Датуецца годам першадруку.

*Рубяжэвіцкі крыж* — размова ідзе пра магчымы рэлігійны канфлікт паміж беларусамі-католікамі і беларусамі праваслаўнага веравызнання, сведкам якога мог быць Я.Купала ў вёсцы Рубяжэвічы (цяпер Стаўбцоўскі раён на Міншчыне), дзе жыла яго бабуля Кацярына і нарадзілася маці паэта Бянігна (с. 18).

### Торжышчо (с. 18)

Друкуецца паводле газ. «Беларусь» (Менск), 1919, N 27, 20 лістап., с. 1, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *К-а*. Датуецца годам першадруку.

Акоў паломаных жандар... (с. 20)

Друкуецца паводле выд.: «Скарыніч», Масква—Мінск—Смаленск, 1997, вып. 3, с. 201—202. Упершыню за подпісам *Янка Купала* апублікаваны ў выд. «Надзвінне». Полацк, 1926. Датуецца годам першадруку.

## Максім БАГДАНОВІЧ

Белорусское возрождение (*фрагмент*) (с. 22)

Друкуецца паводле выд.: Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т., Мінск, 1968, т. 2, с. 254—265. Упершыню апублікаваны ў час. «Украинская жизнь», (Масква), 1915, N 1—2 пад крыптанімам *М.Б.* У тэксце першадруку зроблены прыпіс: *июль 1914.* Датуецца годам напісання.

*...«во главе с Дантом»* — маецца на ўвазе Дантэ Аліг'еры (Dante Alighieri) (1265—1321), італьянскі паэт, аўтар «Боскай камедыі» (с. 23).

*Проф. Карского* — Карскі Яўхім (1861—1931), філолаг-славіст, этнограф, заснавальнік беларускага мовазнаўства і літаратуразнаўства (с. 24).

*Статут 1588* — Трэці Статут Вялікага Княства Літоўскага, збор законаў феадальнага права. Дзейнічаў на тэрыторыі ВКЛ у 1589—1840 гг. (с. 25).

*Полоцкая академия* — каталіцкая езуіцкая вышэйшая навучальная ўстанова, існавала ў 1812—1820 гг. (с. 25).

*...прекрасная повесть о Тристане и Изольде, видение Тундала, сказание о Трое* — творы перакладной літаратуры XVI—XVII стст. (с. 26).

*Роза (Rosa) Сальватор* (1615—1673) — італьянскі жывапісец. Прадстаўнік дэмакратычнага руху ў італьянскім жывапісе XVII ст. (с. 26).

*...краснослова Мелешки* — асоба Івана Мялешкі з ананімнага твора «Прамова Мялешкі» (1-й пал. XVII ст.) (с. 27).

*Ксендз Цецерский* — Цяцерскі Фаўстын (1760—1832), польскі і беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, удзельнік паўстання 1794 г. (с. 27).

*К.Морашевский* — Марашэўскі Каятан (г.н. і см. невяд.), польскі і беларускі драматург XVIII ст. (с. 27).

*Sieńko Nalewajko* — Налівайка Севярын (?—1597), кіраўнік казацка-сялянскага паўстання на Украіне (1595) і Беларусі (1596) (с. 27).

*Котляревский* — Катлярэўскі Іван (1769—1838), украінскі пісьменнік, класік новай украінскай літаратуры (с. 27).

*Ровинский* — Равінскі Вікенцій (1786—1855), паэт, драматург, адзін з верагодных аўтараў беларускай паэмы «Энеіда навыварат» (с. 27).

*Петрук из-под Крошина* — Багрым Паўлюк (1812—1891?), беларускі паэт 1-й пал. XIX ст. (с. 27).

Белорусы (с. 28)

Друкуецца паводле выд.: Багдановіч М. Зб. тв.: У 2 т. Мінск, 1968, т. 2, с. 254—265. Упершыню апублікаваны ў час. «Национальные проблемы», (Масква), 1915, N 2. Датуецца годам першадруку.

*Мицкевич* — *Міцкевіч* (Mickiewicz) Адам (1798—1855), польскі паэт, адзін з заснавальнікаў і арганізатараў тайных Таварыстваў філаматаў і філарэтаў, прадстаўнік «беларускай школы» польскага і еўрапейскага рамантызму (с. 30).

*Я.Чечот* — Чачот Ян (1796—1847), паэт і фалькларыст, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў тайнага студэнцкага Таварыства філаматаў (с. 30).

*Сырокомля (Кондратович)* — Сыракомля Уладзіслаў (Людвік Кандратовіч) (1823—1862), польскі і беларускі паэт (с. 30).

*Даревский-Верига* — Вярыга-Дарэўскі Арцём (1816—1884), беларускі пісьменнік, адзін з арганізатараў узброенных выступленняў на Віцебшчыне ў час паўстання 1863—1864 гг. (с. 30).

*Коротынский* — Каратынскі (Korotyński) Вінцэсь (1831—1891), беларускі і польскі паэт, публіцыст і перакладчык, культурны дзеяч (с. 30).

*Я.Лучина* — Янка Лучына (Іван Неслухоўскі; 1851—1897), беларускі паэт, публіцыст і перакладчык, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры (с. 30).

*Бурачок (Ф.Богушевич)* — Багушэвіч Францішак (1840—1890), беларускі паэт, празаік і публіцыст, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры (с. 30).

*«Наша доля»* — штотыднёвая беларуская грамадска-палітычная, культурнаасветная і літаратурна-мастацкая газета на беларускай мове (друкавалася лацініцай і кірыліцай). Выходзіла ў Вільні з 10(23).11.1906 да 7(20).8.1915 (с. 30).

*«Наша нива»* — адна з першых беларускіх легальных газет. Выдавалася ў Вільні ў 1906—1915 гг. кірыліцай і лацінкай (да 1912 г.) (с. 31).

*«Саха»* — сельскагаспадарчы часопіс, выдаваўся на беларускай мове з красавіка 1912 да студзеня 1915 г. (с. 31).

*«Маладая Беларусь»* — літаратурна-мастацкі альманах кніжна-выдавецкай суполкі «Загляне сонца і ў наша аконца». Выходзіў у 1912—1913 гг. у Пецярбургу на беларускай мове (с. 31).

*«Biełarus»* — штотыднёвая грамадска-культурная і рэлігійна-асветная каталіцкая газета. Выдавалася ў Вільні ў 1913—1915 гг. (с. 31).

*«Лучынка»* — літаратурны і навукова-папулярны ілюстраваны часопіс для юнацтва і моладзі. Выдаваўся ў 1914 г. у Мінску на беларускай мове (с. 31).

*«Раніца»* — часопіс беларускіх студэнтаў у Пецярбургу. Адзіны нумар выйшаў у чэрвені 1914 г. (с. 31).

## Вацлаў ЛАСТОЎСКІ

### Шляхам творчасьці (с. 33)

Друкуецца паводле газ. «Гоман» (Вільня), 1916, 14 сак., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *В.Л.* Датуецца годам першадруку.

*Кірыла Тураўскі* (1130(?)—1182(?)) — старажытны царкоўны дзеяч і пісьменнік-прапаведнік, майстар царкоўнага красамоўства (с. 34).

*Клімент Смаляціч* (? — пасля 1164) — старажытны царкоўны дзеяч, мысліцель і асветнік (с. 34).

*Хадкевічы* — магнацкі род у Вялікім Княстве Літоўскім (с. 34).

*Сапегі* — княжацкі род герба Ліс у Вялікім Княстве Літоўскім (с. 34).

*Дастаеўскі (Достоевский) Фёдар* (1821—1881) — расійскі пісьменнік, майстар псіхалагічнай прозы; продкі пісьменніка паходзілі з Беларусі (с. 34).

*Сарбеўскі (Sarbiewski; Sarbievius) Мацей Казімір* (1595—1640) — польскі навалацінскі паэт і тэарэтык літаратуры, езуіт (с. 34).

*Ажэшкова* — Ажэшка (Orzeszko) Эліза (1841—1910), польская пісьменніца і публіцыстка, паходзіла з Беларусі (с. 34).

*Крашэўскі* (Kraszewski) Юзаф Ігнацы (1812—1887) — польскі пісьменнік, публіцыст і гісторык (с. 34).

## Нацыянальнае пытаньне (с. 35)

Друкуецца паводле час. «Kryvičanin» (Вільня), 1918, N 1, с. 5—6, дзе ўпершыню апублікаваны. Тэкст надрукаваны беларускім варыянтам лацінкі. Датуецца годам першадруку.

*Лаўроў* (Лавров) Пётр (1823—1900) — расійскі філосаф і сацыёлаг, рэвалюцыянер. Ідэолаг і тэарэтык расійскага народніцтва (с. 35).

*Шпрынгер* — Шпрангер (Spranger) Эдуард (1882—1963), нямецкі філосаф, псіхолаг і педагог. Аўтар ідэі цэласнай (структурнай) псіхалогіі (с. 36).

*Градоўскі* (Гродовский) Аляксандр (1841—1889) — расійскі юрыст, гісторык права, прафесар Пецярбургскага універсітэта (с. 36).

## Нашы цэннасьці (с. 37)

Друкуецца паводле выд.: «Biełaruski kalendar «Svajak» na 1919 hod» (Вільня), 1918, с. 4—5, дзе ўпершыню апублікаваны, без подпісу. Тэкст надрукаваны беларускім варыянтам лацінкі. Датуецца годам першадруку.

*Спенсер* (Spencer) Герберт (1820—1903) — англійскі філосаф і сацыёлаг, адзін з творцаў пазітывізму (с. 37).

*Тэйлар* — Тайлар (Tylor) Эдуард Бернет (1832—1917), англійскі этнограф, даследчык першабытнай культуры (с. 37).

*Кауцкі* (Kautsky) Карл (1854—1938) — адзін з тэарэтыкаў і лідэраў нямецкай сацыял-дэмакратыі і II Інтэрнацыянала, пісьменнік і публіцыст (с. 37).

*Бокль* (Buckle) Генры Томас (1821—1862) — англійскі гісторык і сацыёлаг-пазітывіст (с. 37).

*Зомбарт* (Sombart) Вернер (1863—1941) — нямецкі эканаміст, сацыёлаг і гісторык, філосаф культуры (с. 37).

## Што спрыяе разросту і ўпадку народаў і дзяржаў (с. 39)

Друкуецца паводле час. «Крывіч» (Коўна), 1926, N 11, с. 21—27, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Юры Верашчака*. Датуецца годам першадруку.

*Крывічы, крывічанскае племя* — аб'яднанне ўсходнеславянскіх плямён, якое паўстала ў другой палове I тысячагоддзя (с. 40).

*...Расійска-польская ўгода ў Рызе* — мірны дагавор паміж Савецкай Расіяй і Польшчай аб спыненні польска-савецкай вайны 1920 г. і нармалізацыі адносін. Падпісаны 18.3.1921 г. у Рызе (с. 42).

*...дзедзіна* (ад польск. *dziedzina*) — галіна, кірунак чаго-небудзь (с. 42).

*...ні зімны, ні гарачы* — радкі са Святога Пісання (Адкрыццё Іаана Багаслова; 3: 15—16) (с. 42).

## Мітрафан ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ

### Асновы дзяржаўнасьці Беларусі (с. 43)

Друкуецца паводле выд.: «Асновы дзяржаўнасьці Беларусі», (Гродна), 1919. У канцы тэксту подпіс *праф. М.Доўнар-Запольскі.* Датуецца годам першадруку.

*Аляксандр III* (1845—1894) — расійскі цар, праводзіў мэтанакіраваную русіфікатарскую палітыку ў адносінах да іншых народаў Расійскай імперыі (с. 44).

*Абраам Смаленскі* — Аўраамій Смаленскі (канец XII — пач. XIII ст.), старажытны царкоўны прапаведнік і кніжнік (с. 45).

*Ефрасінія Полацкая* — Ефрасіння Полацкая (1102—1173), старажытнабеларуская асветніца і культурны дзеяч (с. 45).

*Францішак Скарына* (1490 (?) — 1551 (?)), беларускі і еўрапейскі мысліцель, і гуманіст, асветнік, вучоны, пісьменнік, усходнеславянскі першадрукар, культурны дзеяч эпохі Адраджэння (с. 45).

*Пратэстанцтва* — пратэстантызм, адзін з кірункаў хрысціянства, узнік на пачатку XVI ст. ў Заходняй Еўропе (с. 46).

*Кальвінізм* — адзін з кірункаў пратэстантызму (с. 46).

*Сацыніянства* — рэлігійна-філасофскі рух XVI — першай паловы XVII ст. пераважна ў Польшчы і Вялікім Княстве Літоўскім, які прапагандаваў ідэі гуманізму, рацыяналізму і рэлігійнай талерантнасці (с. 46).

*Жыгімонт III Ваза* (1566—1632) — вялікі князь Вялікага Княства Літоўскага і кароль Польшчы (1587—1632); кароль Швецыі (1592—1604) (с. 46).

*Касцюшка* Андрэй Тадэвуш Банавентура (1746—1817) — палітычны і ваенны дзеяч Рэчы Паспалітай, кіраўнік вызваленчага паўстання 1794 г. (с. 46).

*Гогаль* (Гоголь) Мікалай (1809—1852) — расійскі і ўкраінскі пісьменнік (с. 47).

*Нарбут* (Narbutt) Тэадор (1784—1864) — польскі гісторык і археолаг; даследаваў гісторыю ВКЛ, вывучаў старажытную міфалогію, этнаграфію і фалькларыстыку. Аўтар фундаментальнага даследавання «Гісторыя літоўскага народа», т. 1—9, 1835—1841 (с. 47).

*Кіркор* (Kirkor) Адам (1818—1886) — польскі і беларускі этнограф, гісторык, археолаг, выдавец, культурны і грамадскі дзеяч (с. 47).

*Ярашэвіч* (Jaroszewicz) Іосіф (1793—1860) — польскі гісторык, этнограф, юрыст; даследаваў гісторыю ВКЛ, фальклор і этнаграфію беларусаў (с. 47).

*Даніловіч* (Daniłowicz) Ігнат (1787—1843) — польскі гісторык і юрыст, адзін з першых даследчыкаў летапісных і заканадаўчых помнікаў Літвы і Беларусі (с. 47).

*Кукальнік* (Кукольник) Нестар (1809—1868) — расійскі пісьменнік (с. 47).

*Баршчэўскі* Ян (1794(?)—1851) — беларускі і польскі пісьменнік і выдавец, фалькларыст (с. 47).

*Дунін-Марцінкевіч* Вінцэнт (1808—1884) — беларускі паэт, драматург і тэатральны дзеяч, адзін з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры (с. 47).

*Сапуноў* (Сапунов) Аляксей (1851—1924) — беларускі гісторык, краязнавец, архівіст (с. 47).

*Стукаліч* (Стукалич) Уладзімір (1856—1918) — беларускі і расійскі літаратуразнавец, гісторык і краязнавец (с. 47).

*Нікіфароўскі* Мікалай (1845—1910) — беларускі культуролаг, этнограф і фалькларыст; даследаваў беларускія абрады, прыкметы і павер'і (с. 47).

## Язэп ЛЁСІК

### «Літва—Беларусь»: *Гістарычныя выведы* (с. 50)

Друкуецца паводле час. «Школа и культура Советской Белоруссии» (Менск), 1921, N 2, с. 12—22, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *Я.Лёсік.* У канцы тэксту паметка *Заканчэнне будзе.* У друку заключная частка даследавання так і не з'явілася. Датуецца годам першадруку.

## Аляксандр ЦЬВІКЕВІЧ

### Адраджэньне Беларусі і Польшча (*фрагмент*) (с. 59)

Друкуецца паводле выд.: «Адраджэньне Беларусі і Польшча», Вільня; Берлін, 1921, с. 44—47, 139—146. Датуецца годам першадруку.

*...беларусы — гэта этнографічна teren przejsciowy, а беларусы-каталікі гэта амаль што звычайныя палякі* — такога погляду ў міжваенным дваццацігоддзі прытрымліваліся прадстаўнікі польскай эндэцыі ў адносінах да беларускага пытання (с. 62).

*Галецкі* — Халецкі (Holecki) Оскар (1891—1973), польскі гісторык, даследаваў эпоху Ягелонаў, гісторыю Літвы (с. 63).

*Недзялкоўскі* (Niedziałkowski) Мячыслаў (1893—1940) — адзін з тэарэтыкаў і практыкаў ППС (PPS), публіцыст, польскі грамадскі і палітычны дзеяч (с. 63).

### «Западно-руссизм» (*фрагмент*) (с. 65)

Друкуецца паводле выд.: «Западно-руссизм»: Нарысы па гісторыі грамадскай думкі на Беларусі ў XIX і пач. XX ст.», Менск, 1929, с. 7—16.

*Пацёмкін* (Потемкин) Грыгорый (1739—1791) — расійскі палітык, дзяржаўны дзеяч (с. 66).

*Кацярына II* (1729—1796) — расійская імператрыца, прычынілася да трох падзелаў Рэчы Паспалітай (с. 66).

*Каніскі* Георгій (1717—1795) — беларускі і расійскі праваслаўны царкоўны і грамадскі дзеяч (с. 67).

*Безбародка* (Безбородко) Аляксандр (1747—1799) — расійскі дзяржаўны дзеяч, палітык і дыпламат (с. 67).

*Уладзімір I* Святаславіч (?—1015) — вялікі князь кіеўскі (с. 67).

*Ізяслаў* Уладзіміравіч (?—1001) — князь полацкі, сын Уладзіміра Святаславіча і Рагнеды Рагвалодаўны (с. 67).

*Святаслаў* Ігаравіч (каля 942—972) — вялікі князь кіеўскі (с. 67).

*Альгерд* (1296—1377) — князь крэўскі і віцебскі; вялікі князь ВКЛ (с. 67).

*Ягельлён* — Ягайла, вялікі князь ВКЛ, кароль Польшчы, Венгрыі і Чэхіі (с. 67).

*Ядвіга* (каля 1374—1399) — польская каралева, жонка вялікага князя ВКЛ Ягайлы, заснавальніка дынастыі Ягелонаў (с. 67).

*Вяземскі* (Вяземский) Аляксандр (1727—1793) — расійскі дзяржаўны дзеяч (с. 68).

*Каяловіч* (Коялович) Міхаіл (1828—1891) — расійскі і беларускі гісторык, этнограф, публіцыст, адзін з галоўных ідэолагаў «западно-руссизма» (с. 68).

*Павел I* (1754—1801) — расійскі імператар (с. 68).

*Чартарыйскі* (Czartoryski) Адам Казімір (1734—1823) — польскі дзяржаўны дзеяч, літаратурны крытык, мецэнат (с. 69).

*Віленскі універсітэт* — адна са старэйшых навучальных устаноў у Літве і на Беларусі. Заснаваны ў 1520 г. езуітамі як калегіум (с. 69).

*Мікалай I* (1796—1855) — расійскі імператар, падавіў паўстанне дзекабрыстаў (с. 69).

*Увараў* (Уваров) Сяргей (1786—1855) — расійскі дзяржаўны дзеяч, граф, міністр асветы (1833—1849) (с. 69).

*Сямашка* (Семашко) Іосіф (1799—1868) — праваслаўны царкоўны дзеяч, падтрымліваў русіфікатарскую палітыку (с. 69).

*Мураўёў* (Муравьев) Міхаіл (1796—1866) — расійскі дзяржаўны дзеяч, генерал, кіраваў падаўленнем нацыянальна-вызваленчага руху беларускага і польскага народаў, паўстання 1863—1864 гг. (с. 70).

## Ігнат КАНЧЭЎСКІ

Адвечным шляхам: *Дасьледзіны беларускага сьветагляду* (с. 73)

Друкуецца паводле выд.: «Адвечным шляхам: Дасьледзіны беларускага сьветагляду», Вільня, 1921, дзе ўпершыню апублікавана пад псеўданімам *Ігнат Абдзіраловіч*. У канцы тэксту пазначана: *Вільня. 12.5.21.* Датуецца годам напісання.

*Пасьвячаецца У.І.* — магчыма, пад ініцыяламі У.І. крыецца прозвішча Усевалада Ігнатоўскага (с. 73).

*Гедымін* (каля 1275—1341) — вялікі князь ВКЛ (с. 75).

*Каліта* — Іван I Каліта (каля 1284—1341), князь маскоўскі з 1325 г., вялікі князь уладзімірскі з 1328 г.; заклаў падваліны палітычнай і эканамічнай магутнасці будучай Расійскай дзяржавы (с. 75).

*Вітаўт* (1350—1430) — вялікі князь ВКЛ, прыхільнік цэнтралізаванай Беларуска-літоўскай дзяржавы (с. 75).

*...вялікі Адам* — маецца на ўвазе Адам Міцкевіч (с. 77).

*Ліга Народаў* — Ліга Нацый, міжнародная арганізацыя, створаная ў 1919 г. дзеля развіцця супрацоўніцтва паміж народамі і як гарант міжнароднай бяспекі (с. 79).

*Пётр* — Пётр I Вялікі (1672—1725), расійскі цар (з 1683 г.), імператар (з 1721 г.) (с. 77).

*«Славянские ручьи сольются в русском море»...* — радкі з верша А.Пушкіна «Клеветникам России» (с. 80).

*Маскоўскі Інтэрнацыянал* — III Інтэрнацыянал, міжнародная рэвалюцыйная арганізацыя, якая аб'ядноўвала камуністычныя партыі розных краін; утворана 2—6 сакавіка 1919 г. у Маскве на ўстаноўчым Кангрэсе. Праіснавала да мая 1943 г. (с. 80).

*Dulce et docorum est pro patria mori* (лац.) — прыемна і ганарова памерці за бацькаўшчыну (с. 82).

*Бэргсон* — Бергсон (Bergson) Анры (1859—1941), французскі філосаф, аказаў значны ўплыў на развіццё філасофскай думкі XX ст. (с. 82).

*Гэракліт Цёмны* — Геракліт Эфескі (каля 540— 480 да н.э.), старажытнагрэчаскі філосаф, адзін з прадстаўнікоў антычнай дыялектыкі (с. 82).

*Арыстафан* (каля 445— каля 385 да н.э.) — афінскі камедыёграф, прадстаўнік старажытнагрэчаскай палітычнай камедыі (с. 82).

*Францішак з Асізіі* — Францыск Асізскі (сапр. Giovanni Bernardone, каля 1181— 1226), італьянскі прапаведнік, заснавальнік ордэна францысканцаў (с. 83).

*Французская рэвалюцыя* — адбылася ў 1789— 1799 гг., знішчыла ў Францыі абсалютную манархію (с. 83).

*Кальвін* (Calvin) Жан (1509— 1564) — дзеяч рэфармацыі, заснавальнік кальвінізму (с. 83).

*Смутны час* (Смутное время) — тэрмін, які абазначае падзеі канца XVI — пачатку XVII ст. у Расіі, уведзены ва ўжытак расійскімі пісьменнікамі XVII ст. (с. 83).

*Хай ня будзе «чалавекаў у футлярах»* — асноваю для перыфразы паслужыла назва аднаго з апавяданняў А.Чэхава «Человек в футляре» (с. 89).

*«гробы повапленыя»* — радкі з Святога Пісання (Евангелле ад Матфея 23:27) (с. 87)

*«Усё рушыцца, усё цячэ, нельга два разы плёхацца ў адну раку»* — думка прыпісваецца старажытнагрэчаскаму філосафу Гераклiту (с. 89).

*...бог Ксенафана* — Ксенафан Калафонскі (каля 575— 420 да н.э.), старажытнагрэчаскі філосаф і паэт, выступаў з крытыкай антрапамарфізму і політэізму (с. 89).

*Оўэн* (Owen) Роберт (1771— 1858) — англійскі сацыяліст-утапіст і філантроп, грамадскі і палітычны дзеяч, прыхільнік філасофіі Асветніцтва (с. 91).

*Фур'е* (Fourier) Шарль (1772— 1837) — французскі мысліцель, творца «фур'ерызму», аднаго з галоўных накірункаў утапічнага сацыялізму (с. 91).

*Піліп Фор* — верагодна, маецца на ўвазе Фор (Faure) Фелікс (1841— 1890), французскі палітык, у 1895— 1899 прэзідэнт Францыі (с. 91).

*Маркс* (Marx) Карл Генрых (1818— 1883) — нямецкі філосаф, эканаміст, публіцыст і палітычны дзеяч, творца камуністычнай ідэалогіі (с. 91).

*...урад А.Луцкевіча* — урад Беларускай Народнай Рэспублікі, утвораны ў 1918 г. (с. 94).

*Пілсудскі* (Piłsudski) Юзаф (1867— 1935) — польскі палітычны, вайсковы і дзяржаўны дзеяч (с. 94).

*Скульскі* (Skulski) Леапольд (1877? — да 1945) — польскі грамадскі і палітычны дзеяч, у 1919— 1922 гг. пасол сейма, у 1919— 1920 гг. прэм'ер, у 1920— 21 гг. міністр унутраных спраў (с. 94).

*«І будзе ўнукаў панаванне...»* — радкі з верша Я.Купалы «Ворагам беларушчыны» (с. 94).

*«Прыйдзе к нам воля святая, чаканая...»* — радкі з верша Алеся Гаруна «Маці-Беларусі» (с. 95).

*Гэгэль* — Гегель (Hegel) Георг Вільгельм Фрыдрых (1770— 1831), нямецкі філосаф, адзін з прадстаўнікоў нямецкай класічнай філасофіі (с. 95).

*«На маісеявым сядалішчы селі кніжнікі і фарысеі»* — радкі са Святога Пісання (Евангелле ад Маифея; 23: 2) (с. 95).

*...і «Айцом нікога не завеце, бо адзін у вас Айцец на небе, і настаўнікамі не завецеся, бо адзін настаўнік — Хрыстос»* — радкі са Святога Пісання (Евангелле ад Матфея; 23: 8-10) (с. 95).

*Бакунін* (Бакунин) Міхаіл (1814—76) — расійскі рэвалюцыянер, адзін з творцаў анархізму (с. 96).

*...«мы стары сьвет зруйнуем»* — радкі с «Інтэрнацыяналу», міжнароднага пралетарскага гімна (тэкст Э.Пацье, музыка П.Дэгейтэра); рускі тэкст напісаны ў 1902 г. паэтам А.Коцам. У 1918—1943 гг. з'яўляўся дзяржаўным гімнам Савецкага Саюза (с. 96).

*Леві* — магчыма, маецца на ўвазе Левінэ (Leviné) Эйген (1883—1919), адзін з лідэраў рабочага руху ў Германіі (с. 97).

*Цэткін* (Zetkin) Клара (1857—1933) — дзеячка нямецкага сацыялістычнага і камуністычнага руху, у 1920—1933 гг. дэпутат нямецкага рэйхстага (с. 97).

*Жыд* (Gide) Шарль (1847—1932) — французскі эканаміст і гісторык, тэарэтык каапературыўнага руху ў Францыі (с. 99).

*...«мёртвыя будуць хаваць сваіх мерцьвякоў»* — радкі са Святога Пісання (Евангелле ад Матфея; 8:22) (с. 100).

*«Прыходзьце да Мяне ўсе струджаныя і пакрыўджаныя»* — радкі са Святога Пісання (Евангелле ад Матфея; 11:28) (с. 100).

## Уладзімір САМОЙЛА

«Гэтым пераможаш!»: *Нарысы крытычнага оптымізму* (с. 101).

Друкуецца паводле выд.: «Заходняя Беларусь» (Вільня), 1924, кн. 1, с. 9—70, дзе ўпершыню апублікавана пад псеўданімам *Суліма.* Тэкст пазначаны прыпісам: *Вільня, жнівень 1923 г.*

*Лейбніц* (Leibniz) Готфрыд Вільгельм (1646—1716) — нямецкі філосаф і матэматык, мовавед, фізік (с. 103).

*Гётэ* (Goethe) Іаган Вольфганг (1749—1832) — нямецкі пісьменнік эпохі «Sturm und Drang», мысліцель, вучоны і дзяржаўны дзеяч (с. 104).

*Кант* (Kant) Імануіл (1724—1804) — нямецкі філосаф, пачынальнік нямецкай класічнай філасофіі, творца трансцэндэнтальнага ідэалізму (с. 104).

*Напалеон I* (Napoleon Buonaparte; 1769—1821) — французскі імператар у 1804—1814 гг. і ў сакавіку—чэрвені 1815 г. (с. 104).

*Ян Фіхтэ* — Фіхтэ (Fichte) Іаган Готліб (1762—1814) — нямецкі філосаф, адзін з прадстаўнікоў нямецкай класічнай філасофіі (с. 104).

*Бэкон* (Bacon) Фрэнсіс (1561—1626) — англійскі дзяржаўны дзеяч, філосаф і юрыст, адзін з галоўных прадстаўнікоў эмпірызму ў філасофіі (с. 108).

*Дэкарт* (Descartes) Рэнэ (1596—1650) — французскі філосаф і матэматык, прапагандаваў у сваіх поглядах рацыяналізм (с. 111).

*Спіноза* (Spinoza, d'Espinosa) Борух (1632—77) — нідэрландскі філосаф, пантэіст (с. 113).

*Джардано Бруно* — Бруна (Bruno) Джардана (1548—1600) — італьянскі філосаф, паэт, прадстаўнік рэнесансавай філасофіі (с. 113).

...«пшэпустэк» (польск. *przepustka*) — пропуск (с. 117).

*Натан Мудры* — старажытнаяўрэйскі дзяржаўны дзеяч, адзін з персанажаў драмы Г.Лесінга «Натан Мудры» (с. 120).

*Лесінг* (Lessing) Готхальд Эфраім (1729—81) — нямецкі драматург, пачынальнік нямецкай класічнай літаратуры, тэарэтык мастацтва і літаратурны крытык эпохі Асветніцтва (с. 120).

*...«пунктамі Вільсона»* — Вільсан (Wilson) Томас Вудра (1856—1924), амерыканскі палітык і юрыст, у 1913—1921 гг. прэзідэнт ЗША, у звароце да Кангрэса

ЗША 8 студзеня 1918 г. прадставіў праграму міру («14 пунктаў Вільсана»), у якой акрэсліў умовы заканчэння Першай сусветнай вайны (с. 121).

*De jure* (лац.) — у сілу закона, юрыдычна (с. 121).

*Рэнан* (Renan) Жазеф Эрнест (1823—92) — французскі пісьменнік, гісторык, філосаф і філолаг; займаўся семіталогіяй, гісторыяй рэлігіі і філасофіяй культуры (с. 122).

*«Vivos voco!»* (лац.) — клічу жывых! (с. 123).

*Бунін* (Бунин) Іван (1870—1953) — расійскі пісьменнік, лаўрэат Нобелеўскай прэміі 1933 г. (с. 125).

*Вільгельм II* Гогенцолерн (1859—1941) — нямецкі імператар і прускі кароль у 1888—1918 гг. (с. 126).

*Пуанкарэ* (Poincare) Раймон (1860—1934) — французскі дзяржаўны і палітычны дзеяч, у 1913—1920 гг. прэзідэнт Францыі (с. 126).

*Студніцкі*-Гізберт (Studnicki-Gizbert) Уладзіслаў (1867—1953) — польскі грамадскі і палітычны дзеяч, публіцыст, у міжваенным дваццацігоддзі быў звязаны з віленскім перыядычным выданнем «Słowo», выступаў з нападкамі на дзеячаў беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху (с. 126).

*Беларускі соймавы клюб* — Беларускі пасольскі клуб (1922—1930), нацыянальная дэпутацкая фракцыя ў сейме Польскай Рэспублікі (с. 128).

*Душэўскі* — Дуж-Душэўскі Клаўдзій (1891—1959), беларускі палітычны і грамадскі дзеяч (с. 129).

*Ксэркс I* — Ксеркс (каля 517—465 да н.э.), цар дзяржавы Ахеменідаў, падавіў паўстанне ў Вавілоне ў 482 да н.э. (с. 130).

*Шэльлінг* — Шэлінг (Schelling) Фрыдрых Вільгельм (1775—1854), нямецкі філосаф, адзін з прадстаўнікоў філасофіі нямецкага рамантызму (с. 134).

*Лясаль* — Ласаль (Lassalle) Фердынанд (1825—64), нямецкі мысліцель і сацыялістычны дзеяч, адзін з арганізатараў рабочага руху ў Германіі (с. 135).

*Токвіль* (Tocqueville) — Таквіль Алексіс (1805—59), французскі гісторык, сацыёлаг і палітычны дзеяч (с. 139).

*Гэйнэ* — Гейнэ (Heine) Генрых (1797—1856), нямецкі паэт і публіцыст (с. 141).

*Віндэльбанд* (Windelband) Вільгельм (1848—1915) — нямецкі філосаф, стваральнік бадэнскай школы неакантыянства (с. 150).

*Арыстоцель* (384—322 да н.э.) — старажытнагрэчаскі філосаф, мысліцель і вучоны, стваральнік фармальнай логікі (с. 152).

*Булгакаў* (Булгаков) Сергій (1871—1944) — расійскі эканаміст, філосаф і тэолаг (с. 153).

*Андрэеў* (Андреев) Леанід (1871—1919) — расійскі празаік і драматург, адзін з заснавальнікаў экспрэсіянізму ў расійскай літаратуры XIX — пачатку XX ст. (с. 153).

*Mutato mutando* (лац.) — зменена тое, што змяняецца (с. 156).

*Гломбіньскі* (Głąbiński) Станіслаў (1862— каля 1943) — польскі эканаміст, юрыст, палітычны дзеяч, адзін з ідэолагаў польскіх нацыянал-дэмакратаў (с. 157).

*Вітас* — (Witos) Вінцэнт (1875—1945), дзеяч польскага рабочага руху, палітык і публіцыст, прэм'ер-міністр Польшчы (1920—1921, 1923—1926) (с. 157).

*Muttersprache* (ням.) — матчына мова (с. 158).

*«Бо на гэтым камяні збудуе для цябе Бог царкву сваю...»* — радкі са Святога Пісання (Евангелле ад Матфея; 16 : 18) (с. 159).

### О «старой» и «новой» унии (с. 159)

Друкуецца паводле выд.: «Скарыніч» Смаленск, 1997, вып. 3, с. 166—181, дзе на рускай мове апублікаваны тэкст як дакумент невядомага аўтара. Першапачаткова выяўлены беларускім навукоўцам А.Каўкам у гістарычным архіве г. Львова сярод рукапісных матэрыялаў Івана Агіенкі, вядомага ўкраінскага рэлігійнага і культурнага дзеяча (ф. 254, воп. 2, спр. 14, арх. 1—8 адв.). Праблему аўтарства і час напісання дадзенага тэксту ўдалося вырашыць, дзякуючы адшуканаму намі польскаму варыянту. На польскай мове артыкул быў апублікаваны пад назваю «Unja w przeszłości i przyszłości» ў тыднёвіку «Przegląd Wileński» (Вільня), 1929, N7—8, с. 9—10; N 9, с. 5—6; N 10, с. 4—6 пад псеўданімам *Privatissimus.* Паводле сведчання сына Уладзіміра і звестак польскага гісторыка А.Бергман такім псеўданімам падпісваўся Уладзімір Самойла. Датуецца годам публікацыі.

*Я.Зенюк* — заходнебеларускі грамадскі дзеяч (с. 164).

*...par excellence* (франц.) — пераважна, з перавагаю (с. 166).

*Громада* — маецца на ўвазе Беларуская сялянска-работніцкая грамада (с. 168).

*Андрусовский мир* — Андросаўскае пераміp'е (1667), якім закончылася вайна Расіі з Рэччу Паспалітай (с. 168).

*БХД* — Беларуская хрысціянская дэмакратыя, клерыкальная беларуская нацыянальная партыя. Дзейнічала з мая 1917 да 1940 г. (с. 171).

*Ялбржиковский* — Ялбжыкоўскі (Jałbrzykowski) Рамуальд (1876—1955), польскі рэлігійны дзеяч, з 1926 г. — віленскі арцыбіскуп, выступаў супраць беларусізацыі каталіцкага касцёла ў Заходняй Беларусі, варожа ставіўся да беларускага культурна-нацыянальнага руху ў міжваенным дваццаціголдзі (с. 173).

## Якуб КОЛАС

### Ноч, калі папараць цвіце (с. 175)

Друкуецца па выд.: Колас Я. Зб. тв.: У 14 т., 1972—1978, т. 5, с. 546—547. Упершыню апублікавана ў зборніку прозы «Казкі жыцця», 1926. Датуецца паводле каментарыяў да т. 5, с. 622 (с. 175).

## II. З ПАЗІЦЫЙ КРАЁВАГА ПАТРЫЯТЫЗМУ

## Раман СКІРМУНТ

### Głos przeszłości i potrzeba chwili (*фрагмент*) (с. 179)

Друкуецца паводле выд.: «Głos przeszłości i potrzeba chwili», Львоў, 1905, с. 6—12, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Romunt.* Датуецца годам публікацыі.

*Po upustach krwi 63 roku...* — маецца на ўвазе паўстанне 1863—1864 гг. (с. 179).

*...czterdziestoletnia wedrówka w pustyni* — Р.Скірмунт праводзіць аналогію з вандроўкай яўрэйскага народа пад кіраўніцтвам прарока Майсея з егіпецкай няволі ў зямлю абяцаную (с. 180).

*Ruryk* — Рурык, паводле летапісаў нарманскі правадыр — заснавальнік старажытнарускай дзяржавы ў другой палове IX ст. і дынастыі Рурыкавічаў (с. 180).

*Piast* — Пяст, легендарны заснавальнік польскай дынастыі Пястаў; тэрмін «ziemia piastowska» ўжываецца як сінонім гістарычных польскіх земляў уключна з Шлёнскам і Памор'ем (с. 180).

*Młodo-Litwini* — прадстаўнікі нацыянальна-дэмакратычнай плыні літоўскага адраджэнскага руху канца XIX — пачатку XX ст. (с. 183).

*...bratniej z Polską unii* — Люблінская унія 1569 г., у выніку якой Польшча (Карона) і Вялікае Княства Літоўскае ўтварылі агульную дзяржаву — Рэч Паспалітую (с. 181).

## Міхал РОМЕР

### Zagadnienie narodowe białoruskie (с. 184)

Друкуецца паводле газ. «Prawda» (Варшава), 1907, N 32, 10 жн., с. 374—375; N 33: 17 жн., с. 387—388; N 34, 24 жн., с. 400—401; N 35: 31 жн., с. 413; N 36, 7 верас., с. 424—425, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *Michal Romer*. У падзагалоўку тэкста пазначана: *Szkic publicystyczno-etnograficzny*. Датуецца годам першадруку.

«Krytyka» — польскі грамадска-літаратурны штомесячнік, выдаваўся ў 1896—1914 гг. (з перапынкам у 1898 г.) у Варшаве (с. 190).

*...eo ipso* (лац.) — тым самым (с. 192).

*...tertium gaudens* (лац.) — трэці радуецца (с. 192).

*N. D-cye* — скарочаная назва партыі Narodowa Demokracja (Народная дэмакратыя) (с. 194).

*«Stronnictwo krajowe Litwy i Białej Rusi»* — адна з асноўных палітычных арганізацый прадстаўнікоў краёвай ідэі (с. 195).

*...Związek polski demokratyczny na Białej Rusi* — адна з польскіх дэмакратычных арганізацый краёвага накірунку (с. 195)

*«Biełaruskaja Sacyalistycznaja Hramada»* — Беларуская сацыялістычная грамада (БСГ) — рэвалюцыйна-дэмакратычная нацыянальная партыя, дзейнічала з пачатау 1900-х г. да 1918 г. (с. 197).

*«Gołos Biełorussii»* — радыкальна-кансерватыўная газета, выдавалася ў 1906 г. (пасля выхаду першага нумара была зачынена) (с. 197).

*...«Biełoruskij Sbornik» Romanowa* — Раманаў Еўдакім (1855—1922), беларускі мовазнавец, этнограф, фалькларыст, археолаг. Адна з яго асноўных фальклорна-этнаграфічных прац «Белорусский сборник» (вып. 1—9, 1886—1912) шырока асвятляе побыт і культуру беларусаў (с. 199).

*«Biełoruskija narodnyja piesni» Szejna* — Шэйн Павел (1826—1900), беларускі і расійскі фалькларыст і этнограф. Склаў зборнік «Беларускія народныя песні» (больш за тысячу песень), які выйшаў у 1874 г. (с. 199).

*«Białaruskije z notami pieśni z wakolicy Homiela» Pradczenko* — Радчанка Зінаіда (1839—1916), беларуская фалькларыстка і этнограф (с. 199).

*«Pieśni z nad Niemna i Dźwiny» Czeczota* — маюцца на ўвазе фальклорныя зборнікі Яна Чачота, выдадзеныя ў Вільні ў 1837—1846 гг. (с. 199).

*...«bardzo ciekawa praca M.Federowskiego pt. Lud Białoruski»* — Федароўскі Міхал (1853—1923), польскі і беларускі фалькларыст, культуролаг, этнограф, археолаг (с. 199).

## Gdzie szukać orjentacji? (с. 200)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1913, N 1—2, с. 2—6, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *M.R.* Датуецца годам першадруку.

*...status quo* — існуючы стан рэчаў (с. 200).

# Тадэвуш УРУБЛЕЎСКІ

## Народ і дзяржава (с. 206)

Друкуецца паводле выд.: «Заходняя Беларусь» (Вільня), 1924, кн. 1, с. 71—92, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Т.Вароніч.* Тэкст суправаджаецца паметкай рэдактара: *Гэтая праца была прачытана аўтарам яе як публічны рэферат у 1918 годзе і цяпер перапрацавана ім для «Зах. Бел.»* (с. 206).

*...у «Песьні аб зялёным Эрыне»* — ірландская народная песня (с. 207).

*Паводле Рэнана (Qu'est...)* — (франц.) — што такое народ? Народ — гэта душа, пэўная маральна-этычная, духоўная пастава. Чалавек не з'яўляецца нявольнікам ані сваёй расы, ані сваёй мовы, ані сваёй рэлігіі, ані вады сваіх рэк, ані ланцуга сваіх гор. Вялікая супольнасць людзей крышталёва чэсных і здаровых душою, з гарачым сэрцам, творыць маральную свядомасць, якая называецца народам (с. 208).

*Нэйман* (Neumann) Фрыдрых (1835—1910) — нямецкі гісторык і культуролаг (с. 208).

*Кірхгоф* (Kirchhoff) Альфрэд (1838—1907) — нямецкі географ, прафесар універсітэта ў г. Гале (с. 208).

*Гэрц* — Герц (Hertz) Фрыдрых (1878—1964), аўстрыйскі сацыёлаг і эканаміст (с. 208).

*...Ельлінка* — Елінек (Jellinek) Георг (1851—1911), нямецкі юрыст (с. 209).

*Кутшэба* (Kutrzeba) Станіслаў (1876—1946) — гісторык польскага права, выдавец першакрыніц старажытнага польскага права (с. 209).

*...у дзень Йом-Кіпур* — адно з найважнейшых рэлігійных свят у яўрэйскім календары, так званы судны дзень; штогод адзначаецца восенню (паміж 15 верасня і 15 кастрычніка) (с. 209).

*...«Ты, Сьвятая Тора, — адзіная арка прымірэння нашага народу»* — радкі з Пяцікніжжа Майсеева (с. 209).

*Кернэр* — Кернер (Kerner) Тэадор (1791—1813), нямецкі паэт (с. 211).

*Гэрдэр* — Гердэр (Herder) Іаган Готфрыд (1744—1803), нямецкі філосаф, крытык і эстэтык, тэарэтык літаратурнага руху ў Германіі ў 70—80-х г. XVIII ст. (с. 211).

*Шыльлер* — Шылер (Schiller) Іаган Фрыдрых (1759—1805), нямецкі паэт, драматург і тэарэтык мастацтва эпохі Асветніцтва (с. 211).

*Штэйн* (Stein) Генрых Фрыдрых Карл (1757—1831) — прускі палітык і дзяржаўны дзеяч, ініцыятар стварэння нямецкага гістарычнага таварыства (с. 211).

*Шлейермахер* (Schleiermacher) Фрыдрых (1768—1834) — нямецкі пратэстанцкі тэолаг, філосаф, перакладчык філасофскіх трактатаў Платона (с. 211).

*Гумплёвіч* (Gumplowicz) Людвік (1838—1909) — польскі сацыёлаг і юрыст, у сацыялагічных даследаваннях асаблівую ўвагу надаваў паняццям «барацьбы» і «расы» (с. 212).

*Паскаль Фіорэ* (1837—1914) — італьянскі юрыст (с. 212).

*Magna civitas* (лац.) — вялікая грамадзянскасць (с. 212).

*«droit entre les pouvoirs»* (франц.) — міжнароднае права (с. 212).

*Даляй ляма* — далай-лама, вышэйшая духоўная будысцкая асоба ў Тыбеце і тэакратычны кіраўнік дзяржавы; час зараджэння інстытута далай-ламы адносіцца да пачатку XV ст. (с. 212).

*Вэрсальская канферэнцыя* — Версальскае мірнае пагадненне, падпісанае ў Версалі 28 чэрвеня 1919 г. ЗША, Англіяй, Францыяй і інш. з аднаго боку і Германіяй з другога. Закончыла Першую сусветную вайну (с. 213).

*Ленін* — Ульянаў Уладзімір (1870—1924), арганізатар расійскай бальшавіцкай партыі, тэарэтык марксізму, ідэолаг камунізму, першы кіраўнік Савецкай дзяржавы (с. 213).

*Мэдэм* — сапраўднае Грынберг Уладзімір (1879—1923), расійскі сацыялістычны дзеяч, з 1900 г. у Бундзе, арганізаваў яўрэйскае школьніцтва (с. 213).

*Караль V* — магчыма, Карл V Мудры (1338—1380) з дынастыі Валуа, з 1384 г. французскі кароль, ці Карл V (1500—1558), імператар «Свяшчэннай Рымскай імперыі» (с. 215).

*Quo jure vivis?* (лац.) — дзе правы жыцця? (с. 215).

*«Gujus regio, ejus religio»* (лац.) — чыя ўлада, таго і рэлігія (с. 215).

*...«Gujus regio ejus lingua»* (лац.) — чыя ўлада, таго і мова (с. 215).

*«Kampf der Nationaliteten in Oesterreich»* (ням.) — нацыянальная барацьба ў Аўстрыі (с. 216).

*Вард* — магчыма, маецца на ўвазе Вард (Ward) Лестар Франк (1841—1913), амерыканскі сацыёлаг (с. 219).

## Канстанцыя СКІРМУНТ

### Podręczniki białoruskie (c. 220)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1924, N 15, 14 верас., с. 3—6, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *Konstancja Skirmuntt.* Назва артыкула мае падзагаловак *Azja czy Europa.* Артыкул суправаджаецца заўвагай рэдактара: *Z całym naciskiem podkreślamy, że artykuły, zamieszczane w rubryce «Wolna Trybuna», nie są wyrazem poglądów redakcyjnych, a nieraz nawet daleko odbiegają od zasadniczego stanowiska pisma. Czujmy się jednakże w obowiązku udzielenia gościny wszystkim tym głosom, poruszającym zagadnienia krajowe, dla których są zamknięte szpalty pism polskich, jak wiądomo, bez wyjątku niemal hołdujących w większym lub mniejszym stopniu, jasnej doktrynie nacjonalistycznej.*

*Cycianow* — Цыцыянаў (Цицианов) Аляксандр (1850—1885), расійскі рэвалюцыянер-народнік (с. 221).

*Aleksander II* — Аляксандр II (1818—1881), з 1855 г. расійскі імператар, праводзіў русіфікатарскую палітыку ў адносінах да польскага, беларускага, украінскага народаў і інш. Забіты нарадавольцам І.Грынявіцкім (с. 222).

*Kiereński* — Керанскі (Керенский) Аляксандр (1881—1970), юрыст, расійскі палітычны дзеяч, быў звязаны з сацыялістамі-рэвалюцыянерамі, з ліпеня 1917 г. — прэм'ер Часовага ўраду ў Расіі (с. 222).

*Per aspera ad astra* (лац.) — праз церні да зорак (с. 222).

Per aspera! (с. 223).

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1925, N 9, 31 мая, с. 3—4, дзе апублікаваны пад псеўданімам *Futurus*. Датуецца годам першадруку

*Sursum corda!* (лац.) — узвысімся духам! (с. 224).

*Sub specie aeternitatis* (лац.) — з пункту погляду вечнасці (с. 224).

Fascynacja nazwy i potęga litery (*фрагмент*) (с.226)

Друкуецца паводле выд.: «Fascynacja nazwy i potęga litery», Wilno, 1928, с. 4—12. На прыканцы тэксту зроблена паметка: *Styczeń 1928*. Датуецца годам напісання.

*«Semiramida północna»* — так у метафарычнай форме К.Скірмунт назвала Кацярыну II, праводзячы аналогію з царыцай Асірыі Семірамідай (с. 226).

*Michał Hruszewski* — Грушэўскі Міхайла (1866—1934), украінскі гісторык і палітык, тэарэтык нацыяльнай ідэі (с. 226).

*Nestor* — Нестар, старажытнарускі летапісец напачатку XII ст., манах Кіева-Пячэрскага манастыра (с. 226).

*Wspaniały okrzyk pieśniarza Krywiczów* — маецца на ўвазе Янка Купала (с. 227).

*Ludźmi zwacca!* — размова ідзе пра верш Янкі Купалы «А хто там ідзе?» (с. 227).

*Tredjakowski* — Традзьякоўскі (Тредьяковский) Васіль (1703—1768), расійскі паэт, філолаг, у 1745—1759 акадэмік Расійскай акадэміі навук, прадстаўнік эпохі Асветніцтва (с. 228).

*Prof. Miller* — Мілер (Miller) Герард Фрыдрых (1705—1783), расійскі гісторык і вучоны, прыхільнік нарманскай тэорыі (с. 228).

*Z pism F.Duchińskiego* — Духінські Францішак (1816—1893), польскі гісторык і этнограф (с. 228).

*Popowski* — магчыма, маецца на ўвазе Папоўскі (Поповский) Мікалай (1730—1760), расійскі асветнік, філосаф і паэт (с. 228).

*Karamzin* — Карамзін (Карамзин) Мікалай (1766—1826), расійскі пісьменнік і гісторык, атрымаў афіцыйны тытул царскага гістарыёграфа, аўтар «Истории государства Российского» (т. 1—12, 1816—1829) (с. 228).

*Książe Uchtomski* — адзін з прадстаўнікоў княжацкай дынастыі князёў Ухтомскіх (Рурыкавічаў) (с. 229).

*Cyryl i Mefody* — Кірыл (каля 827—869) і Мефодзій (каля 815—885), браты з Салуні (Салонікаў), манахі-місіянеры, адыгралі значную ролю ў развіцці мовы, пісьменства і культуры славян (с. 229).

### Zapomnienie historji (с. 230)

Друкуецца паводле выд.: «Zapomnienie historji», Wilno, 1931. Упершыню апублікаваны ў тыднёвіку «Przegląd Wileński» (Вільня), 1931, N 20, 8 лістап., с. 3—5 пад псеўданімам *Futurus*. Тэкст суправаджаецца заўвагай рэдактара: *Nie na wszystkie poszczególne poglądy Sz. Autorki możemy się zgodzić bez zastrzeżeń, zasadniczą jednakże myśl artykułu podzielamy w zupełności...*

*Tabula rasa* (лац.) — у даслоўным перакладзе — чыстая дошка, незапоўненая прастора (с. 232).

*Delirium tremens* (лац.) — белая гарачка, вострае псіхічнае расстройства пры злоўжыванні гарэлачнымі вырабамі (с. 233).

## Людвік АБРАМОВІЧ

### Z uwag redaktora (*фрагмент*) (с. 235)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1927, N 9, 18 мая, с. 3, дзе апублікаваны за подпісам *Od red.* Рэдактарскія «ўвагі» Л.Абрамовіча з'явіліся як рэакцыя і адначасова як каментарый да артыкула Dryhwicza «O krajowości», што быў надрукаваны ў тым жа нумары віленскага тыднёвіка. Датуецца годам першадруку.

### Krajowść a regjonalizm (с. 235)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1927, N 11, 26 чэрв., с. 2—4, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *L.A.* Датуецца годам першадруку.

*Władysław Warneńczyk* — Уладыслаў III Варненчык (1424—1444) з дынастыі Ягелонаў, з 1434 г. — кароль Польшчы, з 1440 г. кароль венгерскі (с. 236)

*Kazimierz Jagiellończyk* — Казімір IV Ягелончык (1427—1492) з дынастыі Ягелонаў, з 1440 г. князь ВКЛ, з 1440 г. — кароль Польшчы (с. 236)

*Świdrygiello* — Свідрыгайла Баляслаў (каля 1370—1452), у 1430—1432 г. вялікі князь літоўскі, інспіраваў напады крыжакоў на Рэч Паспалітую (с. 236)

*Aleksander I* — Аляксандр I (1777—1825), з 1801 г. расійскі імператар, быў адным з кіраўнікоў Венскага кангрэса 1814—1815 гг. і арганізатараў Свяшчэннага саюза (с. 237)

*Ogiński* — Агінскі Міхал Клеафас (1765—1833), граф, польскі кампазітар, палітычны дзеяч, удзельнік паўстання 1794 г., аўтар славутага паланеза «Развітанне з Айчынай» (с. 237)

# III. У ЛЮСТЭРКУ НАЦЫЯНАЛ-КАМУНІЗМУ

## Зміцер ЖЫЛУНОВІЧ

### Лёс Беларусі (с. 243).

Друкуецца паводле газ. «Дзянніца» (Петраград), 1918, N 1, 1 сак., дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Д.Ж.* Датуецца годам першадруку.

Аб нацыянальным руху (с. 245)

Друкуецца паводле газ. «Дзянніца» (Петраград), 1918, N 5, 23 сак., дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *Д.Жылуновіч*. Датуецца годам першадруку.

## Павел КАРАВАЙЧЫК

«Воздайте Кесарево Кесареви и Божие — Богови»
(*фрагмент*) (с. 249)

Друкуецца паводле газ. «Дзянніца» (Масква), 1918 N 31, 15 кастр., дзе ўпершыню апублікаваны пад пеўданімам *Павал Любецкі*. Датуецца годам першадруку.

*«Незалежнікі»* — дзеячы беларускага нацыянальна-адраджэнцкага руху, якія сталі на пазіцыях адбудовы Беларусі як незалежнай суверэннай дзяржавы (с. 250).

*Гешэфты* (ням. geschaft) — выгадная здзелка, паразуменне, хаўрус (с. 250).

*...«плевелы» і пшаніца перамешаны»* — перафраза са Святога Пісання (Евангелле ад Матфея, 13:29—30) (с. 250).

*«Воздайте Кесарево Кесареви, а Божие — Богови»* — цытата з Евангелля ад Матфея (23:21) (с. 250).

**З пратакола пасяджэння прадстаўнікоў І канферэнцыі беларускіх секцый РКП(б).**

О взаимосвязи национально-государственного строительства
с культурным (*фрагмент*) (с. 251)

Друкуецца паводле выд.: «Культурное строительство в СССР. 1917—1927», Москва, 1988, с. 54—62, дзе ўпершыню апублікавана. Надрукавана паводле копіі пратакола, які захоўваўся ў ЦПА ИМЛ пры ЦК КПСС (ф. 17, воп. 4, адз. зах. 95, арк. 18—24). Датуецца часам напісання.

*Нецецкий* — адзін з дзеячаў беларускага нацыянал-камунізму (с. 251).

*Польский мятеж* — размова ідзе пра паўстанне 1863—1864 гг. (с. 252).

*Дыло* — Дыла Язэп (1880—1973), беларускі пісьменнік, грамадскі і палітычны дзеяч (с. 252).

*Беганский* — адзін з прадстаўнікоў беларускага нацыянал-камунізму (с. 253).

*Драко-Дракон* — адзін з дзеячаў беларускага нацыянал-камунізму (с. 253).

*Устинович* — адзін з прадстаўнікоў беларускага нацыянал-камунізму (с. 254).

*...пресловутая «Белорусская Рада»* — маецца на ўвазе Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (с. 254).

*Протоковский, Рыбак, Дашуто, Бальбеко* — прадстаўнікі беларускага нацыянал-камунізму (с. 254—255).

## Яўсей КАНЧАР

### Белорусский вопрос (*фрагмент*) (с. 257)

Друкуецца паводле выд.: «Белорусский вопрос» Петроград, 1918, с. 104—109. Упершыню апублікаваны ў газ. «Дзянніца» (Петраград) 1918, N 39, 23 лістап. за подпісам *Ев.Канчер.* Датуецца годам першадруку (с. 257).

*Группа деятелей в Минске и Вильне* — верагодна, размова ідзе пра палітычныя групоўкі А.Луцкевіча, В.Ластоўскага, Я.Лёсіка, якія выступалі за суверэнную Беларускую дзяржаву (с. 260).

*Группа деятелей в Москве и Петрограде* — маюцца на ўвазе дзеячы беларускага нацыянал-камунізму Я.Дыла, З.Жылуновіч, П.Каравайчык, А.Чарвякоў і інш. (с. 260).

*Гюи де Мопассан* — Мапасан (Maupassant) Гі дэ (1850—1893), французскі пісьменнік, прадстаўнік французскага рэалізму XIX ст. (с. 262).

*Шекспир* — Шэкспір (Shakespeare) Уільям (1564—1616), англійскі паэт, драматург і акцёр (с. 262).

## Аляксандр БУРБІС

### Докладная записка (с. 263)

Друкуецца паводле час. «Беларускі гістарычны часопіс» (Мінск), 1993, N 4, с. 71—72. Тэкст адшукаў беларускі гісторык і літаратуразнавец А.Каўка. Дакумент падпісаны *Ал.Бурбис. 19 января 1921 г. Москва.* Датуецца годам напісання.

*Мясников* — Мяснікоў (Мяснікян) Аляксандр (1886—1925), адзін з бальшавіцкіх кіраўнікоў кастрычніцкіх падзей 1917 г. у Мінску; партыйны і дзяржаўны дзеяч (с. 264).

*Кнорин* — Кнорын (Кнорыньш) Вільгельм (1890—1938), дзеяч камуністычнай партыі (с. 264).

*Ландер* — Ландэр Карл (1883—1937), партыйны і савецкі дзяржаўны дзеяч (с. 264).

*Пикель* — Пікель, партыйны і савецкі дзеяч (с. 264).

*Рейнгольд* — магчыма, Берзін (Берзінь) Рэйнгольд (1888—1939), савецкі ваенны і палітычны дзеяч (с. 264).

*Облискомзап* — Аблвыкамзах (Абласны выканаўчы камітэт саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту), першы вышэйшы заканадаўчы орган савецкай улады ў Заходняй вобласці і на Заходнім фронце. Дзейнічаў у Мінску (9.12.1917—12.01.1919) і ў Смаленску (з 19.02.1918) (с. 264).

*Иоффе* — Іофэ Адольф (1883—1927), савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч, дыпламат. У 1918 г. увайшоў у дэлегацыю ад Савецкай Расіі на перамовах з Германіяй у Брэсце (с. 264).

*Литовско-Белорусская Республика* — Літоўска-Беларуская Рэспубліка (Літ.-Бел.). Утворана ў 1919 г. шляхам аб'яднання Беларускай ССР і Літоўскай ССР па рашэнню ЦК РКП(б) (с. 264).

## Усевалад ІГНАТОЎСКІ

### Кароткі нарыс гісторыі Беларусі (*фрагмент*) (с. 266)

Друкуецца паводле выд.: «Кароткі нарыс гісторыі Беларусі», Менск, 1926, с. 24—27. Датуецца годам першадруку.

*Выстарчыць* (польск. *wystarczy)* — дастаткова (с. 266).

*«Вісьне скарга уздоўж Нёмна»* — фрагмент верша Якуба Коласа «Родныя песні» (с. 267—268).

*...«пан сахі і касы»* — радок з верша Янкі Купалы «Я — мужык-беларус» (с. 269).

## Бранiслаў ТАРАШКЕВІЧ

### З апошняга слова ў Віленскім акруговым судзе над Грамадой (*фрагмент*) (с. 270)

Друкуецца паводле выд.: Aleksandra Bergman. «Rzecz o Bronisławie Taraszkiewiczu», Warszawa,1977, с. 157—164, дзе ўпершыню апублікаваны. Прапанаваны тэкст з'яўляецца фрагментам апошняга слова падсуднага, з якім выступіў Б.Тарашкевіч на судовым працэсе ў першай палове 1928 г. Архіўны матэрыял выяўлены польскім гісторыкам і даследчыкам А.Бергман у Цэнтральным гістарычным архіве Літоўскай Рэспублікі (ф. 129, воп. 2, адз. зах. 2357/VIII, т. IV, с. 386—389). Датуецца паводле даты ў пратаколах судовых пасяджэнняў за 1928 г.

*Gabriel Narutowicz* — Нарутовіч Габрыель (1863—1922), першы прэзідэнт Рэспублікі Польшча, інжынер-канструктар, польскі грамадскі і палітычны дзеяч, застрэлены ў Варшаве 16 снежня 1922 г. нацыяналістам Э.Невядомскім (с. 270).

*Quo vadis, Polonia?* (лац.) — куды ідзеш, Польшча? (с. 270).

*Za rządem Sikorskiego* — у 1922—1923 гг. польскі урад узначальваў Уладзіслаў Сікорскі (1881—1943), палітык і польскі вайсковы дзеяч (с. 271).

*Rahula* — Рагуля Васіль (1879—1955), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, пасол і сенатар польскага парламента ў 1920—1930-х гг. (с. 271).

*Rząd Grabskiego* — Грабскі Уладзіслаў (1874—1938), палітык, эканаміст, гісторык. Узначальваў польскі ўрад у 1920 г. і 1923—1925 гг. (с. 271).

*PPS* (Polska Partja Socjalistyczna) — партыя польскіх сацыялістаў. Паўстала ў лістападзе 1892 г. У 1918—1930 гг. ППС актыўна выступала супраць польскіх «нацыянал—дэмакратаў» і камуністаў; падтрымлівала ўрады У.Сікорскага, У.Грабскага і А.Скшынецкага (с. 271).

*BWRH* — Беларуская сялянска-работніцкая грамада (БСРГ), дзейнічала ў 1925—1927 гг. як масавая легальная нацыянал-вызваленчая і рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя працоўных Заходняй Беларусі (с. 271).

*Komintern* — Камуністычны Інтэрнацыянал (1919—1943), 3-я міжнародная камуністычная арганізацыя (с. 271).

*KPZB* — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі (КПЗБ), рэвалюцыйная марксісцкая партыя ў Заходняй частцы Беларусі, якая ўваходзіла ў склад ІІ Рэчы Паспалітай. Дзейнічала нелегальна ў 1923—1938 гг. у складзе Камуністычнай партыі Польшчы (с. 271).

*Rauze* — Раўзе, пракурор віленскага акруговага суда (с. 271)

*ND* (Narodowa Demokracja) — тайная, элітарная арганізацыя, утвораная ў красавіку 1893 г. па ініцыятыве польскага грамадскага і палітычнага дзеяча Р.Дмоўскага. Выступала з крайніх нацыяналістычных пазіцый. Трактавала беларусаў і ўкраінцаў як этнічны элемент і матэрыял для паланізацыі (с. 272).

*Doumergue* — Думерг Гастон (1863—1937), французскі палітык і публіцыст, грамадскі і палітычны дзеяч, у 1931—1932 гг. прэзідэнт Францыі (с. 273).

*Nienawiść Torquemady* — Тарквемада Томас (1420—1498), стаяў на чале іспанскай інквізіцыі, прычыніўся да масавага выгнання яўрэяў з Іспаніі (с. 274).

*Słowacki* — Славацкі Юліуш (1809—1849), паэт і драматург, адзін з творцаў польскага рамантызму (с. 274).

## IV. ВЕХІ БЕЛАРУСКАГА ФУНДАМЕНТАЛІЗМУ

### Казімір СВАЯК

Царква ці касьцёл (с. 274)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі звон» (Вільня), 1921, N 16, 14 кастр., с. 2, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Каз. Св.* Датуецца годам першадруку (с. 277).

*Шопэнгаўэр* — Шапенгаўэр (Schopenhauer) Артур (1788—1860), нямецкі філосаф (с. 277).

*...Сьвятой Праксэды Полацкай* — св. Ефрасіння Полацкая (с. 279).

*...між сьцілай і харыбдай* — метафарычны выраз, звязаны з грэчаскай міфалогіяй, азначае адначасовую пагрозу з двух бакоў (с. 279).

*Ex nihilo* (лац.) — з нічога (с. 280).

*...mane, thekel, fares* (арамейск.) — вылічана, узважана, раздзелена. Выраз ужываецца як грозны напамінак аб прадвызначанасці лёсу (с. 280).

*Культуртрэгер* (ням. *Kulturtrager*) — носьбіт культуры, ужыта ў іранічным значэнні (с. 280).

### Вячаслаў БАГДАНОВІЧ

Праваслаўная царква на Беларусі (с. 281)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі сьцяг» (Коўна), 1923, N 1, с. 2—4, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Вячаслаў Сьвятагор.* Датуецца годам першадруку.

*Астрожскі Канстанцін* (1460?—1530), князь, ваеначальнік і дзяржаўны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага, з 1497 г. гетман ВКЛ, з 1511 г. кашталян віленскі, з 1522 г. ваявода троцкі, актыўны абаронца праваслаўя (с. 282).

*Біблія Астрожскага* — Астрожская біблія, адно з першых поўных друкаваных выданняў царкоўнаславянскай Бібліі, якое падрыхтавалі сябры астрожскага культурна-асветніцкага гуртка. Выдадзена І.Фёдаравым у 1581 г. (с. 282).

*...Зізаніем Сматрыцкім* — памылка; гаворка ідзе пра Лаўрэнція Зізанія (?—1634), педагога, царкоўнага дзеяча, аўтара падручніка «Граматыка славенска...» (1596) (с. 282).

## Уладзіслаў ТАЛОЧКА

### U kolebki mesjanizmu białoruskiego (с. 287)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1922, N 24—25, 24 чэрв., с. 3, дзе апублікаваны пад псеўданімам *Ad.Sołoduch*. Датуецца годам першадруку.

*Sztomiesiacznik Biełaruskaho Studenctwa* — друкаваны орган беларускіх студэнцкіх арганізацый Віленскага універсітэта, выходзіў у 20-я г. у Вільні (с. 288).

*...S.Radzimicza* — псеўданім не расшыфраваны (с. 288).

### Ruś Podkarpacka a Białoruś (с. 289)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1922, N 28—29, 23 ліп., с. 6—7, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Ad.Sołoduch*. Датуецца годам першадруку.

### Problem Białorusi Zachodniej (с. 291)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1923, N 6, 25 сак., с. 2—5, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Wł.T.* Датуецца годам першадруку.

*...in spe* (лац.) — у надзеі, спадзяванні (с. 291).

*«Biełarus»* — каталіцкая газета, якая выходзіла ў Вільні ў 1913—1915 гг. (с. 293).

*«Krynica»* — «Крыніца», назва газеты ў 1917—1925 гг. і 1939—1940 гг. «Беларуская крыніца» («Biełaruskaja krynica»). Друкаваны партыйны орган Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (с. 293).

*«Homan»* — «Гоман» («Homan»), беларуская грамадска-палітычная і літаратурная газета нацыянальна-адраджэнскага руху. Выдавалася ў Вільні ў 1916—1918 гг. кірыліцай і лацінкай (с. 293).

*«Jednašć»* — грамадска-палітычная газета паланафільскай арыентацыі. Выходзіла ў Вільні лацінкай (с. 293).

*...P.Aleksiuka* — Аляксюк Павел (1892—?), беларускі грамадскі і палітычны дзеяч (с. 293).

### Wschód czy Zachód? (с. 294)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1923, N 7, 15 крас., с. 2—3, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Wł.T.* Датуецца годам першадруку.

*«Naszaje Zyćcio»* — «Нашае жыцьцё», друкаваны орган Беларускай рэвалюцыйнай арганізацыі, выходзіў на беларускай мове лацінкай у 20-я г. у Вільні (с. 294).

*Łaurynowicz* — псеўданім Корчыка Паўла (1891—1940), дзеяча рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі і Польшчы (с. 294).

## Янка СТАНКЕВІЧ

### Думкі і разважаньні (с. 296)

Друкуецца паводле час. «Крывіч» (Коўна), 1923, N 1, с. 39—42, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Брачыслаў Скарыніч*. Датуецца годам першадруку.

## ДРЫГВІЧ

### Nowe momenty w psychice narodu białoruskiego (с. 301)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1924, N 16, 28 верас., с. 2—3 і N 17, 12 кастр., с. 2—4, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Dryhwicz*. Датуецца годам першадруку.

*...ani jednego Pugaczowa* — Пугачоў Емяльян (1740 ці 1742—1775), данскі казак, кіраўнік паўстання сялян і казакоў у Расіі (1773—1775 гг.) (с. 302).

*...czy Stieńki Razina* — Разін Сцяпан (каля 1630—1671), данскі казак, кіраўнік сялянскага і казацкага паўстання 1670—1671 гг. у Расіі (с. 302).

*...Żelieźniaka* — Жалязняк (Залізняк) Максім (каля 1740—?), запарожскі казак, адзін з кіраўнікоў сялянскага паўстання 1768 г. на Правабярэжнай Украіне (с. 302).

*...Gonty* — Гонта Іван (?—1768), сотнік надворных казакоў польскіх магнатаў Патоцкіх, удзельнік гайдамацкага руху, узяты ў палон шляхтаю і замучаны (с. 302).

*...Chmielnickiego* — Хмяльніцкі Багдан (каля 1595—1657), казацкі гетман, у час «патопу» дзейнічаў сумесна з маскоўскімі і шведскімі войскамі супраць Рэчы Паспалітай (с. 302).

*...wypadków z r. 1848 w Galicji* — маецца на ўвазе сялянскае паўстанне 1846 г. у Галіцыі і так званая «кракаўская рэвалюцыя» (20—21 лют. 1846 г.) супраць аўстра-венгерскага панавання ў Галіцыі і Польшчы (с. 302).

### Dwie dusze (с. 306)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1924, N 19, 9 лістап., с. 3—5, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Dryhwicz*. У падзагалоўку да артыкула пазначана: *Z powodu art. Wschód czy Zachód p. Konstancji Skirmuntt*. Датуецца годам першадруку.

### Kultura i polityka (с. 310)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1925, N 19, 22 лістап., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Dryhwicz*. Датуецца годам першадруку.

*S.K-i* — крыптанім не расшыфраваны (с. 310).

O krajowości (c. 314)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1927, N 9, 18 мая, с. 2—3, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Dryhwicz*. Датуецца годам першадруку.

*Radziwiłłowa* — Радзівіл Магдалена (?—1945), княгіня, фундатарка і мецэнат Беларускага выдавецкага таварыства ў Вільні. Пры фінансавай дапамозе княгіні былі надрукаваны «Вянок» М.Багдановіча, «Родныя з'явы» Я.Коласа, «Рунь» М.Гарэцкага, «Васількі» Ядвігіна Ш., «Курганная кветка» К.Буйло (с. 315).

## Тамаш ГРЫБ

На два фронты! (с. 329)

Друкуецца паводле час. «Iskry Skaryny» (Прага), 1934, N 3, с. 5—13, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *T.Hryb*. Датуецца годам першадруку.

Адвечны шлях — гэта ёсць шлях Скарыны (с. 339)

Друкуецца паводле час. «Iskry Skaryny» (Прага), 1935, N 1, с. 1—2, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *T.Hryb*. Датуецца годам першадруку.

## Альбін СТАПОВІЧ

Czynniki procesu asymilacyjnego (c. 317)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1931, N 13, 4 ліп., с. 1—2, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Al.S.* Датуецца годам першадруку.

*...za 50 lat Białorusinów nie będzie* — выраз належыць польскаму дзяржаўнаму і палітычнаму дзеячу Л.Скульскаму (с. 319).

Plaga nacjonalizmu (c. 320)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1932, N 9, 15 мая, с. 1—3, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Al.S.* Датуецца годам першадруку.

*Dmowski* — Дмоўскі Раман (1864—1939), адзін з арганізатараў і кіраўнікоў польскай эндэцыі (с. 321).

*Balicki* — Баліцкі Зыгмунт (1858—1916), палітычны дзеяч, сацыёлаг і публіцыст, адзін з ідэолагаў польскага нацыянальна-дэмакратычнага руху (с. 321)

Blaski i cienie białoruskiej inteligencji (c. 323)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1933, N 10, 31 мая, с. 3—5, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Al.S.* Датуецца годам першадруку.

*Prof. Marjan Zdziechowski* — Здзехоўскі Мар'ян (1861—1938), польскі літаратуразнавец і публіцыст, з 1899 г. прафесар Ягелонскага універсітэта ў Кракаве,

у 1919—1932 гг. прафесар Віленскага універсітэта імя Стэфана Баторыя. Паходзіў з Беларусі (с. 323)

Bez maski i w masce (с. 326)

Друкуецца паводле тыднёвіка «Przegląd Wileński» (Вільня), 1934, N 1, 16 студз., с. 2—3, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *Al.S.* Датуецца годам першадруку.

*Adam Smith* — Сміт Адам (1723—1790), шатландскі эканаміст і філосаф, адзін з творцаў класічнай эканоміі (с. 326).

## Адам СТАНКЕВІЧ

Этычныя падставы нацыянальна-культурных правоў нацыянальных меншасьцяў (с. 351)

Друкуецца паводле час. «Калосьсе» (Вільня), 1937, кн. 3, с. 158—160, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *Ад. Станкевіч.* Публікацыя суправаджаецца заўвагай рэдактара: *Кс. Ад. Станкевіч як прадстаўнік ад Бел. Нац. к-ту ў Вільні на Кангрэс Нацыянальных меншасьцяў у Лондане 14—15 ліпеня 1937 г., дзеля незалежных з яго прычын нямогучы там быць асабіста, пад вышэй азначаным загалоўкам прызначаны яму рэферат выслаў на гэны Кангрэс поштай. Выкідаючы з гэтага рэферату тое, што для беларускага чытача няцікавае, галоўныя пункты яго падаем у цэласьці.* Датуецца годам публікацыі.

*...suum quique* (лац.) — кожнаму сваё (с. 353).

Хрысьціянства і беларускі народ (*фрагмент*) (с. 343)

Друкуецца паводле выд.: «Хрысьціянства і беларускі народ», Вільня, 1940, с. 164—181. Датуецца годам кніжнай публікацыі.

*Луцкевіч Іван* (1881—1919) — беларускі археолаг, этнограф, публіцыст, выдавец, палітычны і грамадска-культурны дзеяч; адзін з ідэолагаў беларускага культурна-адраджэнцкага і нацыянальна-вызваленчага руху (с. 345).

*Мітр. А.Шэптыцкі* — Шаптыцкі Андрэй (1865—1944), львоўскі грэка-каталіцкі святар. Украінскі рэлігійны і культурны дзеяч (с. 345).

*Зэльба Язэп* (? — не пазней 1940), беларускі каталіцкі святар (с. 345).

*Гарасімовіч Вінцэсь* (? — не пазней 1940), беларускі каталіцкі святар (с. 345).

*«Da Złučeńnia»* — беларускі рэлігійны часопіс, выдаваны езуітамі (Альберцін—Вільня, 1932—1936). Рэдактарам часопіса быў кс. А.Неманцэвіч (с. 346).

## Вінцук ГАДЛЕЎСКІ

Славянская ідэя на «ройстах» (*фрагмент*) (с. 354)

Друкуецца паволе газ. «Беларускі фронт» (Вільня), 1938, N 6, 5 чэрв., с. 3—4, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *В.Г.* Датуецца годам першадруку.

*А.Брукнэр* — Брукнер (Brűckner) Аляксандр (1856—1939), польскі гісторык, філолаг, славіст і культуролаг (с. 335).

Што такое нацыяналізм? (*фрагмент*) (с. 356)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі фронт» (Вільня), 1939, N 3, 1 лют., с. 1, дзе апублікаваны без подпісу. Аўтарства В.Гадлеўскага вызначана па публікацыі В.Пануцэвіча «Вінцэсь Гадлеўскі. Публіцыстыка» (гл.: Беларуская царква (Чыкага), 1965, N 28). Датуецца годам першадруку.

Народ-нацыя (*фрагмент*) (с. 358)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі фронт» (Вільня), 1939, N 5, 1 сак., с. 1, дзе ўпершыню апублікаваны без подпісу. Аўтарства В.Гадлеўскага вызначана па публікацыі В.Пануцэвіча (гл. вышэй). Датуецца годам першадруку.

Патрэба нацыянальнай ідэі (с. 359)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі фронт» (Вільня), 1939, N 16, 15 жн., с. 1, дзе ўпершыню апублікаваны. Датуецца годам першадруку.

## Мікалай ШКЯЛЁНАК

Аб «тутэйшых» (с. 362)

Друкуецца паводле газ. «Беларускі фронт» (Вільня), 1939, N 14, 15 ліп., с. 2—3, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *М.Ш.* Датуецца годам першадруку. Інфармацыйны матэрыял да біяграфіі М.Шкялёнка падрыхтаваны Ю.Туронкам.

*«Przegląd Wileński»* — грамадска-палітычны часопіс. Выходзіў на працягу 1912—1938 гг. у Вільні, асвятляў культурна-нацыянальнае і рэлігійнае жыццё на землях былога ВКЛ. Фактычна з'яўляўся органам прыхільнікаў краёвай ідэі. Неадменным рэдактарам часопіса быў Л.Абрамовіч, адзін з ідэолагаў краёвай ідэі (с. 363).

# V. НА РАЗЛОМАХ ВАЙНЫ

## Усевалад ВЕРАС

Як створым нашую сілу (с. 369)

Друкуецца паводле рататарнага выд.: «Як створым нашую сілу». У брашуры не пададзена месца і года выдання. Паводле сцвярджэнняў і аргументаў гісторыка Ю.Туронка, аўтарам мог быць Фабіян Акінчыц. З аналізу зместу і тэхнічнай якасці паперы вынікае, што публікацыя пабачыла свет дзесьці на памежжы 1940 г. і першай паловы 1941 г. у Берліне. Захоўваецца ў прыватным архіве д-ра Ю.Туронка. Датуецца 1940 — першай паловай 1941 г. Інфармацыйны матэрыял да артыкула падрыхтаваны Ю.Туронкам.

## Уладзіслаў КАЗЛОЎСКІ

Нацыянальнасьць і рэлігія (с. 378)

Друкуецца паводле газ. «Менская газэта» (Менск), 1941, N 3, 1 кастр., с. 3, дзе ўпершыню апублікаваны. Датуецца годам першадруку.

Старыя прывычкі (с. 379)

Друкуецца паводле газ. «Беларуская газэта», (Менск), 1942, N 60, 20 жн., с. 1, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *У.Казлоўшчык*. Датуецца годам першадруку.

*Ксёндз Абрантовіч* — Абрантовіч Фабіян (1884—1940), беларускі рэлігійны і грамадскі дзеяч, доктар філасофіі, адзін з заснавальнікаў хрысціянскай дэмакратыі. З 1928 г. — місіянер у Харбіне, аўтар мемуараў і падарожных нататак (с. 380).

## Вацлаў ІВАНОЎСКІ

Спольшчаныя і змаскоўшчаныя (с. 383)

Друкуецца паводле газ. «Менская газэта» (Менск), 1941, N 17, 11 снеж., с. 3, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *В.Тройца*. Датуецца годам першадруку.

*...польскую Картускую Бярозу* — Бяроза Картузская, мясцовасць у былым Палескім ваяводстве, дзе ў 1934—1939 гг. знаходзіўся канцэнтрацыйны лагер для палітычных вязняў (с. 384)

## Фабіян АКІНЧЫЦ

Увагі на часе (*фрагмент*) (с. 385)

Друкуецца паводле газ. «Беларуская газэта» (Менск), 1943, N 25, 1 крас., с. 3, N 28, 11 крас., с. 3—4, дзе ўпершыню апублікаваны. Датуецца годам першадруку.

*Адольф Гітлер* (Hitler) — сапраўднае прозвішча Шыкльгрубер (1889—1945), ідэолаг і тэарэтык нямецкага нацыянал-сацыялізму, дыктатар III Рэйха, з 1933 г. рэйхсканцлер, ініцыятар развязвання Другой сусветнай вайны (с. 387).

## Антон АДАМОВІЧ

Арыентацтва — хвароба беларуская (с. 388)

Друкуецца паводле газ. «Раніца» (Берлін), 1944, N 25, 18 чэрв., дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Я.Самадум* (прыналежнасць псеўданіма ўстаноўлена Лявонам Юрэвічам, даследчыкам беларускай літаратуры ў ЗША). Датуецца годам першадруку.

*Езавітаў Канстанцін* (1833—1946) — беларускі вайсковы, палітычны і грамадскі дзеяч, гісторык, публіцыст і педагог (с. 390).

*Варонка Язэп* (1891—1952) — беларускі палітычны і грамадскі дзеяч, адзін з ініцыятараў абвяшчэння БНР. З 1923 г. у ЗША (с. 391).

*Захарка Васіль* (1877—1943) — беларускі палітычны дзеяч. На палітычнай канферэнцыі беларускіх дзеячаў у Берліне (1925) выступіў супраць прызнання Мінска адзіным цэнтрам нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі (с. 391).

*Серада Іван* (1879—?) — беларускі палітычны дзеяч, старшыня Рады БНР (1918) (с. 391).

*Бялевіч Яўхім* (1888—?) — дзеяч беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху (с. 391).

*«Biełaruski Hołas»* — беларуская газета, выдавалася ў Вільні (1942—1944) беларускім варыянтам лацінкі (с. 391).

*«Беларуская газэта»* — беларуская газета, выдавалася ў Мінску (27.7.1941—28.6.1944) пад кантролем нямецкіх адміністрацыйных улад (с. 393).

## VI. БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА НА ЭМІГРАЦЫІ

### Часлаў СІПОВІЧ

Асновы беларускага патрыятызму (с. 403)

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам» (Парыж), 1947, N 3, с. 4—6, дзе апублікаваны за подпісам *а.др. Ч.Сіповіч. Датуецца годам першадруку.*

*...беларус «роднаму слову ўмеў кніжны даць ход»* — радкі з верша Янкі Купалы (с. 404)

*«О, край родны, край прыгожы...»* — радок з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка» (с. 404).

*Буйло Канстанцыя* (1893—1986) — беларуская паэтэса (с. 404).

*Зязюля Андрэй* — псеўданім А.Астрамовіча (гл. ніжэй) (с. 404).

*Танк Максім* (1912—1995) — беларускі паэт, сапраўднае прозвішча Скурко Яўген; грамадскі і культурны дзеяч, удзельнік беларускага грамадска-палітычнага руху ў Заходняй Беларусі (с. 404).

*Арсеньнява Наталля* — Арсеннева (1903—1997), беларуская паэтэса. З 1944 г. знаходзілася ў эміграцыі, брала ўдзел у беларускім культурным і літаратурным жыцці ў ЗША (с. 404).

*Тамаш Аквінскі* (Thomas Aquinas) (каля 1225—1274) — італьянскі філосаф і тэолаг, творца тамізму, кананізаваны ў 1323 г. (с. 404).

*Cultus latriae* (лац.) — культ Бога і толькі Бога; у апазіцыі да культу анёлаў (с. 405).

### Леў ГАРОШКА

Што дало Беларусі хрысьціянства? (с. 408)

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам» (Парыж), 1951, N 4, с. 3—5, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *а. Л.Гарошка.* Датуецца годам першадруку.

*...а. Магнушэўскі* — Магнушэўскі Войцех (?—1828), каталіцкі святар, з 1810 г. на душпастырстве ў Крошыне, арганізаваў парафіяльную школу, якую наведваў Паўлюк Багрым — беларускі паэт (с. 410).

*Каліноўскі* Вікенцій Канстанцін (1838—1864) — кіраўнік паўстання 1863—1864 гг. у Літве і Беларусі, публіцыст і паэт (с. 410).

*Праф. Эпімах-Шыпіла* — Эпімах-Шыпіла Браніслаў (1859—1934), дзеяч беларускага нацыянальна-адраджэнскага руху; філолаг, гісторык, мовазнавец, рэдактар першага зборніка Я.Купалы «Жалейка» (с. 410).

*Кс. Лісоўскі* — Лісоўскі Адам (1884—1929), беларускі каталіцкі святар (с. 410).

*Кс. Будзька* — беларускі каталіцкі святар (с. 411).

*Кс. Астрамовіч* — Астрамовіч Андрэй (1878—1921), беларускі каталіцкі святар, рэлігійны і культурны дзеяч, паэт, больш вядомы пад літаратурным псеўданімам Андрэй Зязюля (с. 411).

## Пад знакам «рускае і польскае веры» (*фрагмент*) (с. 412)

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам» (Парыж), 1954, N 60, с. 12—24; N 61, с. 6—10, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *а.Л.Гарошка*. Датуецца годам першадруку.

*«Скора сын бацьку, а бацька сыночка...»* — радкі з верша Янкі Купалы (с. 413).

*...маскоўскім царом Іванам III* — Іван III (1440—1505), з 1462 вялікі князь маскоўскі. Пад час праўлення Івана III сфарміравалася тэрытарыяльнае ядро Расійскай дзяржавы (с. 414).

*Сапега Леў* (1557—1633) — дзяржаўны дзеяч ВКЛ, з 1581 г. пісар вялікі, з 1585 г. падканцлер, з 1589 г. канцлер вялікі, з 1623 г. ваявода віленскі, з 1625 г. гетман вялікі. Адстойваў палітычны суверэнітэт ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай (с. 419).

*Будны Сымон* (каля 1530—1593) — рэлігійны рэфарматар, гуманіст, асветнік, філосаф і гісторык ВКЛ (с. 419).

*Андрэй Цікота* — беларускі каталіцкі святар, у 20-я гг. духоўны кіраўнік братоў-марыянаў у Друі (с. 422).

## Істотныя адзнакі беларускае культуры (с. 430)

Друкуецца паводле час. «Божым шляхам» (Парыж), 1955, N 66—67, с. 17—20, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *а. Л.Гарошка*. Датуецца годам першадруку.

*Шіякка* — Шыякa (Sciacca) Мішэль Федэрыка, італьянскі філосаф (с. 430).

*Стары Улас* (1865—1939) — псеўданім беларускага паэта і празаіка Уладзіслава Сіва-Сівіцкага, збіральніка беларускага фальклору (с. 432).

# **Станіслаў СТАНКЕВІЧ**

## Чаму нас не разумее Захад? (с. 436)

Друкуецца паводле выд.: «З гісторыяй на Вы», Мінск, 1996, вып. 3, с. 57—63. Упершыню апублікаваны ў газ. «Бацькаўшчына» (Мюнхэн), 1952. 27 студ., с. 1—3 пад псеўданімам *Язэп Каранеўскі*. Датуецца годам першадруку.

## Мікалай ЛАПІЦКІ

Беларуская аўтакефальная праваслаўная царква
(*фрагмент*) (с. 443)

Друкуецца паводле час. «Царкоўны Сьветач» (Чыкага), 1952, N 2, с. 4—7, дзе ўпершыню апублікаваны пад крыптанімам *М.Л.* Датуецца годам першадруку.

*Цамблак Грыгорый* (1365?—1419?) — царкоўны дзеяч, балгарскі і рускі пісьменнік (с. 445).

*Мітрапаліт Мелхісэдэк* — у свецкім жыцці Паеўскі Міхаіл (1878—1931), рэлігійны дзеяч, мітрапаліт Мінскі і Беларускі. Прыхільнік абвяшчэння Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы (с. 445).

## Леў АКІНШЭВІЧ

Пра «цывілізацыйныя асновы» беларускага
гістарычнага працэсу (с. 447)

Друкуецца паводле час: «Запісы» (Нью-Йорк), 1953, N 2, кн. 2, с. 70—79, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *Праф. Л.Акіншэвіч*. Датуецца годам першадруку.

*...славянафіл Н.Данілеўскі* — Данілеўскі (Данилевский) Мікалай (1822—1885), расійскі сацыёлаг і публіцыст, ідэолаг панславізму (с. 448).

*...гісторык Паўлаў-Сільванскі* (Павлов-Сильванский) Мікалай (1869—1908), расійскі гісторык (с. 448).

*В.Ліпінскі* — Ліпіньскі (Lipiński) Вацлаў (1896—1949), польскі гісторык (с. 448)

*С.Тамашэўскі* — украінскі гісторык (с. 448).

*Н.Бердяев* — Бярдзяеў (Бердяев) Мікалай (1874—1948), расійскі філосаф і рэлігійны дзеяч (с. 449).

*А.Тойнбі* — Тойнбі (Toynbee) Арнольд Джозеф (1889—1975), англійскі гісторык і сацыёлаг (с. 449).

*...часы Макіявэлі* — Макіявелі (Machiavelli) Ніколо (1469—1527), італьянскі гісторык, філосаф і дыпламат, палітык і мысліцель эпохі Адраджэння (с. 451).

## Вітаўт ТУМАШ

Важнейшыя мамэнты культурных працэсаў Беларусі (с. 456)

Друкуецца паводле час. «Запісы» (Нью-Йорк), 1954, N 2, кн. 3, с. 65—85 і час. «Конадні» (Нью-Йорк), 1955, N 3, с. 55—74, дзе ўпершыню апублікаваны пад псеўданімам *Р.Максімовіч*. Датуецца гадамі першадруку.

*Князь Усяслаў Полацкі Чарадзей* — Усяслаў Брачыславіч (?—1101), полацкі князь у 1044—1101 г., упамінаецца ў «Слове пра паход Ігаравы» (с. 457).

*...князя Курбскага* — Курбскі (Курбский) Андрэй (1528—1583), князь, пісьменнік, пачаткова дарадца Івана IV Грознага, з 60-х гг. XVI ст. яго праціўнік (с. 457).

*Вальтэр Шубарт* — нямецкі культуролаг (с. 458).

*...Баўтрамеевых ночаў* — Варфаламееўскай ноччу ў еўрапейскай гісторыі было названа масавае забойства гугенотаў каталікамі ў ноч на 24 жніўня 1572 г. (дзень св. Варфаламея) у Парыжы (с. 458).

*...яп. Язафат Кунцэвіч* — Кунцэвіч Іасафат (1580—1623) — уніяцкі царкоўны дзеяч ВКЛ (с. 458).

*Пётра Бязсонаў* — Бяссонаў (Бессонов) Пётр (1828—1898), расійскі фалькларыст, гісторык літаратуры, славіст (с. 461).

*Длугаш* (Długosz) Ян (1415—1480), польскі гісторык, царкоўны дзеяч і дыпламат, адзін з аўтараў вядомага твора «Летапісы, або Хронікі слаўнага Каралеўства Польскага» (кн. 1—12, 1455—1480) (с. 463).

*Файт Штос* — (Stoβ) Файт, Ствош (Stwosz) Віт (каля 1455—1543), нямецкі і польскі скульптар, адзін з вядомых прадстаўнікоў позняй готыкі (с. 464).

*Пэтрарка* — Петрарка (Petrarca) Франчэска (1304—1374), італьянскі паэт, пачынальнік гуманістычнай культуры эпохі Адраджэння (с. 467).

*Бокачыо* (Boccaccio) Джавані (1313—1375) — італьянскі пісьменнік, гуманіст эпохі Ранняга Адраджэння, аўтар «Дэкамерона» (с. 467).

*Чосэр* (Chaucer) Джэфры — англійскі паэт, аўтар вядомых «Кантэрберыйскіх апавяданняў» (с. 467).

*Цыцэрон* (Cicero) Марк Тулій (106—43 да н.э.) — аратар і пісьменнік, рымскі палітычны дзеяч (с. 478).

*Сматрыцкі Мялецій* (1577—1633), беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, грамадскі і царкоўны дзеяч (с. 478).

*Сімяон Полацкі* (1629—1630), беларускі і расійскі паэт, драматург, асветнік і грамадскі дзеяч (с. 478).

*Вэбэр* — магчыма, Вэбер (Weber) Альфрэд (1868—1958), нямецкі эканаміст і сацыёлаг, ці Вэбер (Weber) Макс (1864—1920), нямецкі гісторык, сацыёлаг і эканаміст (с. 482).

### Сьвятаслаў КОЎШ

Шляхам аўтакефаліі (с. 486)

Друкуецца паводле час. «Царкоўны Сьветач» (Чыкага), 1974, N 1, с. 7—13, дзе ўпершыню апублікаваны за подпісам *прат. С.Коўш*. Датуецца годам першадруку.

## VII. У ПОШУКАХ АЛЬТЭРНАТЫВЫ І ДЫЯЛОГУ

### Аляксей КАЎКА

«Письмо русскому другу» (*фрагмент*) (с. 495)

Друкуецца паводле выд.: «Скарыніч», Мінск, 1991, вып. 1, с. 153—155.

